ТАРАС ШЭЎЧЭНКА

# КАБЗАР

ПЕРАКЛАД
З УКРАІНСКАЙ МОВЫ
ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
ЯНКІ КУПАЛЫ
І ЯКУБА КОЛАСА



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА
МЕНСК 1939

# ТАРАС ШЭЎЧЭНКА

*(Біяграфічны нарыс)*

Гісторыя майго жыцця з'яўляецца
часткай гісторыі маёй радзімы.

*Т. Шэўчэнка.*

## I

Вялікі ўкраінскі народны паэт і мастак Тарас Грыгор'евіч Шэўчэнка нарадзіўся 9 сакавіка (25 лютага ст. стылю) 1814 г. у сям'і прыгоннага с. Морынцы, б. Звенігародскага павета, Кіеўскай губерні. У той-жа мясцовасці, у суседнім сяле Кірылаўцы, праходзілі дзіцячыя гады будучага паэта, авеяныя свежым дыханнем гераічнай вызваленчай барацьбы запрыгоненага народа супроць польскай шляхты і паноў. Іменна ў гарадах і сёлах паўднёвай Кіеўшчыны, на радзіме паэта, кіпеў паўстанчы сялянскі рух 1768 г., пазней геніяльна апеты Шэўчэнкам у яго гераічнай паэме «Гайдамакі».

У народных легендах, песнях і паданнях жыла слава вызваленчай барацьбы народа, пра яе спявалі сляпцы-кабзары, расказвалі вачавідцы гайдамаччыны, у прыватнасці, дзед Тараса—Іван, ад якога будучы паэт пачуў нямала цікавых хвалюючых успамінаў.

Жорсткая і беспрасветная рэчаіснасць прыгоннага самавольства, здзекаў паноў і польскіх есаулаў над бяспраўным народам будзілі ў сэрцы маладога Тараса, побач з пачуццём нянавісці да прыгнятальнікаў, рамантычную любоў да легендарных герояў Каліеўшчыны. Так нараджаліся першыя ідэі і тэмы, так намячаўся далейшы жыццёвы шлях народнага песняра.

Цяжкімі і трагічнымі былі дзіцячыя гады паэта. З жахам успамінаў ён заўсёды пра іх:

І мне аж страшна, як згадаю
Тую хаціну, край сяла...

Убогая бацькаўская хата, як і безліч такіх-жа прыгонніцкіх хатак, знала толькі людскія слёзы, гора і пакуты.

Ужо ў першыя гады свайго жыцця пазнаў Тарас «няволю, работу цяжкую» і ўвесь трагізм жыцця прыгоннай сям'і. Маці «яшчэ маладую ў магілу нужда ды праца палажыла», бацька, «не выцерпеўшы ліхой долі, памёр на паншчыне», браты «на паншчыну хадзілі, пакуль ілбы ім пагалілі», а сёстры «ў наймах выраслі чужыя», а сам ён брадзіў «адзінаднюсенькі пад тынам».

На дзевятым годзе жыцця страціў ён маці, на дванаццатым— бацьку. Сямёра дзяцей «распаўзліся, як мышаняты», а хлопчык Тарас прападаў у наймах. Абадраны і дапытлівы хлапчук—ён імкнуўся да вучэння, любіў кнігу і рысункі.

Дзесяцігадовым хлопчыкам ён пайшоў у наймы, у «навуку» да п'янага дзячка.

«Узяўшы табліцу, каламар, псалтыр, накіраваўся я к п'янаму сціхарнаму дзячку ў школу і пасяліўся ў яго шкаляром і работнікам,—апавядае пра той час Шэўчэнка.—Тут пачыналася маё практычнае жыццё. Хранічная галадоўка, чытанне псалтыра над мерцвякамі, папрашайніцтва пад вокнамі, жабрацтва».

Пра гэта заўважае паэт у сваёй аўтабіяграфіі: «Як-бы то ні было, толькі на працягу двухгадовага цяжкага жыцця ў так званай школе прайшоў я граматыку, часаслоў і нарэшце псалтыр».

Здзекі дзячка пакінулі глыбокі след у сазнанні хлопчыка. «Гэты першы дэспат, якога я напаткаў у маім жыцці,—заўважае Шэўчэнка ў аўтабіяграфіі,—пасяліў ва мне на ўсё жыццё глыбокую агіду і пагарду да ўсякага насілля аднаго чалавека над другім».

Не вытрымаўшы здзекаў, Шэўчэнка мяняе аднаго гаспадара на другога, але нідзе не знаходзіць палёгкі. Ён працуе то ваданосам у дзяка, то «папіхачом» у лісянскага маляра-дзякана, фурманам у кірылаўскага папа, пастухом грамадскага стада, пакуль не пападае ў панскі двор Энгельгардтаў, дзе робіцца пакаёвым «казачком».

«Мой памешчык...—пісаў Шэўчэнка ў аўтабіяграфіі,—усклаў на мяне абавязак толькі маўчаць і нерухома стаяць у кутку пярэдняй, пакуль не пачуецца яго голас, які загадвае падаць люльку, што стаіць тут-жа каля яго, або наліць у яго перад носам шклянку вады».

Непакорны, горды па натуры, прыгонны хлопчык не мог прымірыцца з роляй панскага раба. «Па прыроджанай смеласці характару,— расказвае далей Шэўчэнка,—я парушыў панскі загад, напяваючы ледзь чутным голасам гайдамацкія сумныя песні і зрысоўваючы цішком карціны суздальскай школы, якія ўпрыгожвалі панскія пакоі».

«У час прабывання нашага ў Вільні ў 1829 г. снежня 6,—расказвае ён у аўтабіяграфіі,—пан і пані паехалі на бал у так званыя рэсурсы (дваранскае сабранне) з выпадку тэзоіменіцтва ў бозе пачыўшага імператара Нікалая Паўлавіча. У доме ўсё супакоілася, заснула. Я запаліў свечку ў адзінокім пакоі, разгарнуў свае скарбы і, выбраўшы з іх казака Платава, узяўся з благагавеннем капіраваць. Час ляцеў для мяне непрыкметна. Ужо я дабраўся да маленькіх казачкоў, якія гарцуюць каля дужых капыт генеральскага каня, як ззаду мяне адчыніліся дзверы, і ўвайшоў мой памешчык, што вярнуўся з балу. Ён з лютасцю адцягаў мяне за вушы і надаваў аплявух. Не за маё мастацтва, не! (на мастацтва ён не звярнуў увагі), а за тое, што я мог-бы спаліць не толькі дом, але і горад. На другі дзень ён загадаў фурману Сідорку высекчы мяне добра, што і было выканана з належнай стараннасцю».

Здзекі пана над адораным юнаком-прыгонным яшчэ больш загартоўвалі нянавісць і гнеў будучага мастака слова і кісці да свету рабства і прыгнечання.

II

У пачатку 1831 г. пан Энгельгардт, а з ім і яго «казачок» Шэўчэнка, пераехалі з Вільні ў Пецербург.

У 1832 г., калі Шэўчэнку мінула 18 год, пан Энгельгардт, ведаючы аб здольнасцях свайго прыгоннага да жывапісі і маючы намер зрабіць з яго свайго дваравога партрэтыста, закантрактаваў яго на 4 гады да «розных жывапісных спраў майстра» Шыраева.

Не гледзячы на выключна цяжкія ўмовы працы ў Шыраева, пра якога Шэўчэнка не раз успамінаў, як пра дэспата, маладому мастаку ўсё-такі ўпершыню ў жыцці прадставілася магчымасць у майстэрні Шыраева пазнаёміцца з выдатнымі ўзорамі жывапіснага мастацтва.

Арцель Шыраева выконвала адказныя жывапісныя работы па мастацкаму афармленню пецербургскіх тэатраў. Тут у Шыраева Т. Г. Шэўчэнка, уласна, упершыню атрымаў магчымасць вучыцца жывапісі. Ён знаходзіў час і начамі «бегаў у Летні сад рысаваць са статуй», дзе пазнаёміўся з вядомым мастаком—земляком Іванам Сашэнкам. У Шыраева Шэўчэнка азнаёміўся з тагачаснымі ўзорамі рускай і сусветнай літаратуры. На літаратурных чытках у Шыраева Шэўчэнка ўпершыню пачуў палкія вершы А. С. Пушкіна, уплыў паэзіі якога, роўна як і паэта-дзекабрыста Рылеева, пладатворна адбіўся на творчасці украінскага песняра.

Пры дапамозе Сашэнкі Шэўчэнка хутка ўвайшоў у круг выдатных дзеячоў рускай культуры таго часу. Ён пазнаёміўся з Грыгаровічам, Жукоўскім, Венецыянавым, Брулавым, якія, бачачы перад сабой сапраўдны талент,—«алмаз у кажуху», адчулі, што іх маральным абавязкам з'яўляецца вызваленне Шэўчэнкі з прыгоннай няволі.

Брулаў вырашыў звярнуцца да Энгельгардта, каб той даў волю свайму таленавітаму прыгоннаму, але гэты намер Брулава пацярпеў няўдачу. «Это самая крупная свинья в Торжковских туфлях»,—сказаў пра Энгельгардта пасля сваіх наведванняў Брулаў.

Пад упартай настойлівасцю Брулава, Венецыянава і інш., Энгельгардт даў згоду толькі на «продаж Шэўчэнкі», устанавіўшы нечуваную цану—2500 рублёў. Сабраць такую суму было нялёгка. Тады К. Брулаў напісаў партрэт Жукоўскага, які быў разыграны ў латарэі. 22 красавіка 1838 г. Т. Г. Шэўчэнка быў выкуплены з прыгоннай няволі.

Стаўшы пенсіянерам «Таварыства заахвочвання мастацтваў», «адным з любімейшых вучняў-таварышоў Брулава», Шэўчэнка пачаў рэгулярна наведваць класы Акадэміі мастацтваў. Спачатку пад кіраўніцтвам І. Сашэнкі, а пазней—Брулава, Шэўчэнка праходзіць сістэматычны курс жывапіснага мастацтва.

З выключнай прагавітасцю пачынае працаваць Шэўчэнка адначасова над агульнай самаадукацыяй. Багацейшая бібліятэка Брулава была для Шэўчэнкі невычарпальнай скарбніцай ведаў. Ён знаёміцца з творамі Гамера, Шэкспіра, Гётэ, Шылера, Вальтэр-Скота, Пушкіна, Радзішчэва і іншых выдатных сусветных і рускіх пісьменнікаў, перачытвае гісторыю Грэцыі, з асаблівай цікавасцю вывучае гісторыю Украіны. Адрываючыся часта ад сваіх непасрэдных жывапісных заняткаў, ён слухае агульныя курсы розных навук—заалогіі, фізікі, фізіялогіі, вывучае французскую мову, наведвае тэатры. Вырваўшыся на волю, Шэўчэнка з прагавітасцю авалодвае ўсёй каштоўнай культурнай спадчынай, хутка вырастаючы да ўзроўню перадавых прадстаўнікоў рускай культуры таго часу, у кругу якіх Шэўчэнка неўзабаве заваёўвае ганаровае месца, шчырую сімпатыю і любоў.

## III

Ён быў не толькі мастаком-жывапісцам. Яшчэ будучы ў Шыраева, Шэўчэнка, як сведчыць ён у сваёй аўтабіяграфіі, пачаў свае першыя літаратурныя спробы ў Летнім садзе.

Свае вершы Шэўчэнка пачаў пісаць на украінскай, а таксама на рускай мовах.

У 1840 г. выходзіць з друку першы «Кабзар» (сюды ўвайшлі: «Думы мае, думы мае, цяжанька мне з вамі», «Перабендзя», «Кацярына», «Таполя», «Нашто чорныя мне бровы», «Да Аснаўяненкі», «Іван Падкова», «Тарасава ноч»). У канцы 1841 г. выходзіць з друку вялікая гераічная паэма «Гайдамакі»; паэт піша «Чарніцу Мар'яну», «Утопленку», «Човен». Адначасова Шэўчэнка працуе над рускай драмай «Слепая красавица». У 1842 г. у журнале «Маяк» паяўляюцца ўрыўкі з драмы «Никита Гайдай», напісанай на рускай мове. Тады-ж працуе Шэўчэнка над рускімі паэмамі «Слепая» (перапрацоўка «Слепой красавицы»), «Бесталанный» («Тризна»).

У пачатку саракавых гадоў мы сустракаем Шэўчэнку ў кругу перадавых людзей рускай культуры, сярод такіх імёнаў, як вялікі рускі крытык Белінскі, кампазітар Глінка, Карл Брулаў і іншыя.

Яшчэ з самага пачатку сваёй творчай дзейнасці Т. Г. Шэўчэнка цвёрда стаяў на пункце погляду рэалізма, як аснове мастацтва. Калі ў 1839 г. Жукоўскі, толькі што вярнуўшыся з-за граніцы, прывёз Брулаву творы Карнеліуса, Гесе і іншых мастакоў «бажэственнага мастацтва» і параіў Шэўчэнку павучыцца ў нямецкіх «сваціл», Шэўчэнка рэзка адмоўна аднёсся да захаплення Жукоўскага.

Шэўчэнку, як тварца, хвалявала тэма сучаснага яму становішча запрыгоненага украінскага сяла. Аўтару «Гайдамакаў» непераадольна хацелася ўзнавіць тое, чым хварэў, мучыўся і пакутваў яго народ. Шэўчэнка рвецца з Пецербурга на Украіну. Аднак, падарожжа на Украіну было ажыццёўлена толькі ў 1843 г.

## IV

Т. Г. Шэўчэнка спрабаваў ажыццявіць і другую сваю мару—пабываць за граніцай. У Акадэміі мастацтваў існавала традыцыя, што мастакі, якія адзначыліся асаблівымі поспехамі, разам з медаллю атрымлівалі загранічную камандыроўку для азнаямлення з выдатнымі помнікамі сусветнага жывапіснага мастацтва, але Шэўчэнку, як выхадцу з прыгонных, хоць і адзначанаму сярэбранай медаллю,—камандыроўкі не давалі. Аднак Тарас Грыгор'евіч тым не менш не пакідаў надзеі і ў пісьмах да таварышоў планіраваў сваю паездку на 1843 г. Як сведчыць пісьмо Шэўчэнкі да Каралёва, даціраванае 18 лістапада 1842 г., Шэўчэнка ў кастрычніку-лістападзе гэтага года спрабаваў было без афіцыяльнага на гэта дазволу з'ездзіць параходам у Швецыю і Данію.

> «...пазаўчора вярнуўся ў Пецербург,—мяне насіў праклятый параход у Шведчыну і Датчыну. Плыўшы ў Стакгольм, я скампанаваў «Гамалія», невялічкую паэму. Ды так занядужаў, што ледзь прывезлі мяне ў Рэвель, там крыху ачуняў».

Думка пра паездку ўсё не пакідала паэта, хоць так і асталася неажыццёўленай.

## V

Жадаючы як мага хутчэй «хоць глянуць на народ той убогі», Тарас Грыгор'евіч Шэўчэнка выязджае з Пецербурга на Украіну. У чэрвені 1843 г. ён у Кіеве, затым ён аб'язджае значную частку Кіеўшчыны, Чарнігаўшчыны, Палтаўшчыны.

Прыехаўшы на Украіну, Шэўчэнка ўласнымі вачыма, якія, як ён сам кажа, зрабіліся відушчымі, убачыў увесь чорны разгул панскага самавольства, жахлівае жыццё запрыгоненага сяла, і ніякая гасціннасць украінскіх паноў, якія спрабавалі задобрыць украінскага паэта, не магла прыкрыць усю трагічную панараму здзекаў прыгоннікаў над абяздоленым прыгонным людам.

> «Святочная абстаноўка памешчыцкіх дамоў не магла асляпіць чалавека, які з уласнага вопыту ведаў, якім павінна быць закуліснае жыццё гэтых гасцінных гаспадароў і чаго варта багатае частаванне соцень гасцей іх прыгонным людзям,—піша біёграф Шэўчэнкі Чалы.—Яго, напрыклад, абурыў збіральнік малароскіх песень Лукашэвіч. Аднойчы, суровай зімой, гэты Лукашэвіч прысылае свайго прыгоннага чалавека да Шэўчэнкі пехатой за 30 вёрст па нейкай дробязнай справе са строгім наказам абавязкова прынесці адказ у той-жа дзень. Не маючы права затрымаць пасланага да другога дня, Шэўчэнка напісаў яго пану пісьмо, поўнае гарачага абурэння, у якім заявіў, што назаўсёды спыняе з ім знаёмства».

Народны пясняр, лёсам якога быў лёс народа, не мог не загарэцца палкай нянавісцю да эксплаататараў. Наведаўшы ўпершыню за паўтара дзесятка год роднае сяло—Кірылаўку, убачыўшы сваіх братоў і сясцёр у прыгонным ярме, гледзячы, як у сёлах яго любімай Украіны «латаную світку з калекі знімаюць, з скураю знімаюць, бо нечым абуць княжат недарослых», як «распінаюць удаву за падушныя, а сына куюць, адзінага сына, адзіну надзею ў войска аддаюць», як «пад тынам дзіця галоднае мрэ, а маці пшаніцу на паншчыне жне»,—паэт загарэўся полымным рэвалюцыйным пафасам барацьбіта.

Так нараджалася тэма паэмы «Сон», так фарміраваўся і мацнеў выкрывальна-крытычны рэалізм рэвалюцыйна-дэмакратычнага паэта.

## VI

Вярнуўшыся ў Пецербург у лютым 1844 г., паэт узяўся было за выданне «Живописной Украины». Аднак, адсутнасць грошай, да таго-ж нежаданне некаторых людзей, да якіх ён звяртаўся, дапамагчы яму ў гэтай справе, так і не далі Шэўчэнку магчымасці поўнасцю ажыццявіць свае пачынанні.

У 1844 г. вышла першая і апошняя кніга «Живописной Украины», у якой былі змешчаны шэсць афортаў. У тым-жа 1844 г. у Пецербургу вышлі з друку «Чыгірынскі кабзар», «Гайдамакі», «Гамалія», «Тризна».

З выключнай страсцю ўзнаўляе Шэўчэнка свае ўражанні ад падарожжа на Украіну ў палкіх радках сваіх вершаў. У маі 1844 г. ён піша «Саву», у ліпені таго-ж года заканчвае паэму «Сон». У рэалістычных вобразах паказвае паэт панскае самавольства, выкрывае мярзотную сістэму манархічна-памешчыцкага ладу. У паэме «Сон» Т. Г. Шэўчэнка не толькі нарысаваў ярка-праўдзівыя хвалюючыя карціны жыцця запрыгоненага сялянства Украіны, але і даў глыбока-сатырычны вобраз царскай іерархіі, выкрываючы ўвесь нікчэмны, прыгнятальніцкі лад самадзяржаўя.

У 1844—45 гг. Шэўчэнка зблізіўся з левымі ўдзельнікамі гуртка Петрашэўскага. Ідэі левых петрашэўцаў, як і іх апазіцыйнасць да самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу, былі блізкімі Шэўчэнку.

## VII

У сакавіку 1845 г. Шэўчэнка, скончыўшы курс у Пецербургскай Акадэміі мастацтваў, быў удастоены саветам Акадэміі звання «някласнага мастака» і па яго просьбе 25 сакавіка камандыраваны на Украіну «для мастацкіх заняткаў». Прыехаўшы ў Кіеў толькі ў канцы красавіка, Шэўчэнка робіць адсюль рад падарожжаў па Украіне, да родных месц, у Звенігародшчыну, Палтаўшчыну.

Тут, на Украіне, у тым-жа 1845 г. ён піша свае вядомыя, поўныя высокага рэвалюцыйна-вызваленчага пафасу творы «Ерэтык» («Іван Гус»), «Сляпы», «Суботаў». Прыехаўшы ў роднае сяло Кірылаўку, як піша ў сваіх успамінах Варфаламей Шэўчэнка, паэт сам чытае ўрыўкі з сваіх твораў (у прыватнасці «Каўказ») сялянам, якія з захапленнем слухалі яго. Аб непасрэднай рэвалюцыйна-агітацыйнай рабоце Шэўчэнкі сярод сялян сведчаць і іншыя ўспаміны сучаснікаў паэта. Бр. Залескі, адзін з прыяцеляў Тараса Грыгор'евіча, апавядае пра тое, як той, «прагнучы украінскаму народу навочна давесці, што народ мацнейшы і магутнейшы за ўрад і паноў, хадзіў у світцы па сёлах, а сабраўшымся ў карчме сялянам ён клаў на стале зярно пшаніцы і пытаў, што-б яно магло значыць? Калі не ведалі, што адказаць, гаварыў сам, што гэта цар; укладаў потым да яго два іншых такіх-жа зерні і тлумачыў, што гэта генерал-губернатар, усякія чыноўнікі; другое шырэйшае кола выяўляла афіцэраў, вайсковых і далей у канцы—паноў. Калі слухачы здзіўляліся гэтым, ён дадаваў: а цяпер на нас чарга—глядзіце.—І, выняўшы з кішэні поўную жменю той-жа пшаніцы, засыпаў ёю ўсе раскладзеныя зярняты, кажучы: а гэта мы. Знайдзіце-ж мне цара, губернатара, афіцэра або хоць пана».

Услаўляючы лёс народа, яго барацьбу супроць прыгнятальнікаў, Шэўчэнка, як передавы чалавек свайго часу, далёка выходзіў за вузка нацыянальныя рамкі. У гэтыя гады на Украіне Шэўчэнка напісаў такія творы, як «Ерэтык» і «Каўказ» (лістапад 1845 г.), уславіўшы вызваленчую барацьбу чэшскага народа супроць рымска-каталіцкіх захватчыкаў («Ерэтык») і выкрыўшы драпежніцкую нацыянальна-прыгнятальніцкую палітыку царызма, які тапіў у моры слёз і крыві лёс народаў («Каўказ»). Гэтыя вершы Шэўчэнкі, роўна як і іншыя напісаныя паэтам у гэты час («Пасланне», «Халодны яр», «Давідавы псалмы», «Мінаюць дні», «Тры гады», «Запавет»), з'яўляюцца ўзорамі сапраўднай агітацыйна-рэвалюцыйнай паэзіі, у якой паэт адкрыта і прама звяртаўся да мас з палкім заклікам:

...Уставайце,
Ланцугі парвіце
І варожай злой крывёю
Волю акрапіце!

Слава і папулярнасць паэта расла ў народзе з маланкападобнай быстрынёй. Шэўчэнка стаў рэальнай небяспекай для царызма. На яго пачынае паляваць жандармерыя.

## VIII

У 1846 г. Тарас Грыгор'евіч вяртаўся некалькі разоў у Кіеў з сваіх паездак па Украіне па справах Археаграфічнай камісіі. Сустракаючыся на літаратурных вечарах з членамі Кірыла-Мефодзіеўскага



брацтва, паэт паступова збліжаецца з імі, асабліва з «левымі» яго прадстаўнікамі. Апазіцыйныя настроі «братчыкаў» у адносінах прыгонніцка-самадзяржаўнага ладу не маглі не прыцягнуць увагі Шэўчэнкі.

«Калі я паведаміў Шэўчэнку аб існаванні брацтва,—расказвае Кастамараў,—ён адразу-ж праявіў гатоўнасць далучыцца да яго, але аднёсся да яго ідэй з вялікім узбуджэннем і крайняй нецярпімасцю, што стала ўжо тады прычынай да многіх спрэчак паміж мною і Шэўчэнкам».

Іменна непрымірымая ваяўнічасць, рэвалюцыйны энтузіязм Шэўчэнкі, якія ніяк не ўкладаліся ў праграму, «Галоўныя правілы» Кірыла-Мефодзіеўскага брацтва прымусілі «братчыкаў», як сведчыць Куліш, трымаць «Шэўчэнку воддаль ад брацтва», стрымліваць яго «нястрымнае бурлацтва» (чытай «рэвалюцыйнае бунтарства»—І.С.).

Не захапляўся Шэўчэнка і панславісцкімі ідэямі брацтва.

Аўтар «Сна», «Вялікага лёху», «Каўказа», «Паслання» і «Запавету»—паэт прапагандыст рэвалюцыйна-дэмакратычных ідэй сялянскай рэвалюцыі, якая заклікала да крывавай расправы з прыгнятальнікамі, быў усёй сваёй палітычнай і творчай істотай арганічна чужды ўмераным хрысталюбівым лібералам з Кірыла-Мефодзіеўскага брацтва. Шэўчэнка не ўвайшоў у састаў брацтва, хоць і быў блізкі да яго «левага» крыла, бываў на літаратурных вечарах, прымаў удзел у гутарках і спрэчках «братчыкаў», дзе чытаў палкія радкі сваіх вершаў.

## IX

У сакавіку 1847 г. студэнт Петроў данёс аб існаванні ў Кіеве тайнага таварыства, на паседжаннях якога чыталіся «яўна процізаконныя» вершы Шэўчэнкі, дзе ён заклікае «маларасіян да паўстання» і выказвае «нянавісць да царскай фаміліі».

Тайным распараджэннем з Пецербурга было загадана затрымаць Шэўчэнку і з усімі паперамі даставіць яго неадкладна туды.

У Пецербургу быў арыштаваны М. Гулак, у Варшаве—Куліш, у Кіеве—Кастамараў, Андрузскі і іншыя «братчыкі»; Шэўчэнка ў гэты час быў у Седневе і спяшаўся ў Кіеў на вяселле Кастамарава. Тут, пад Кіевам, 5 красавіка ён і быў затрыманы паліцыяй і адпраўлены ў III-е аддзяленне ў Пецербург. У паперах «братчыкаў» былі знойдзены рукапісныя спіскі вершаў Шэўчэнкі: «Сон», «Каўказ», «Вялікі лёх» і іншыя. Усе гэтыя вершы, таксама як і раней выданыя «Кабзар» і «Гайдамакі», былі старанна вывучаны чыноўнікамі тайнай паліцыі і паслужылі асноўным аргументам абвінавачвання.

На дапросе Шэўчэнка трымаў сябе мужна, з годнасцю. На пытанне: «Якімі выпадкамі даведзены вы былі да такога зухвальства, што пісалі самыя дзёрзскія вершы супроць цара імператара...?»—Шэўчэнка адказаў:

— Будучы яшчэ ў Пецербургу, я чуў дзёрзасці і парыцанні на гасудара і ўрад. Вярнуўшыся ў Маларосію, я чуў яшчэ больш горш між маладымі і дарослымі людзьмі; убачыў галечу і жудаснае прыгнечанне сялян памешчыкамі, пасесарамі і эканомамі шляхцічамі, і ўсё гэта рабілася і робіцца імем цара і ўрада.

У сваім дакладзе Нікалаю I шэф жандармаў падкрэсліў, што «не так важны» замыслы «братчыкаў», як «абуральныя творы Шэўчэнкі», назваўшы Шэўчэнку «адным з важнейшых злачынцаў».

«... уся справа даказвае,—пісаў шэф у сваім дакладзе,—што Шэўчэнка не належаў да украіна-славянскага таварыства, а дзейнічаў асобна».

Царызм баяўся судзіць паэта, бо добра ведаў, што «Шэўчэнка набыў... славу выдатнага украінскага пісьменніка», шырокую папулярнасць у народзе,—і суд над Шэўчэнкам мог мець адваротнае дзеянне.

Паэта пакаралі без суда.

«Мастака Шэўчэнку,—значылася ў прыгаворы,—за складанне абуральных і ў вышэйшай ступені дзёрзкіх вершаў, як маючага моцны целасклад, накіраваць радавым у Орэнбургскі асобны корпус, з правам выслугі, даручыўшы начальству мець найстражэйшы нагляд, каб ад яго, ні пад якім выглядам, не магло выходзіць абуральных і пасквільных твораў».

Да гэтага Нікалай І дабавіў уласнаручна:

«Пад найстражэйшы нагляд з забаронай пісаць і рысаваць».

Для чалавека, поўнага творчых імкненняў, такі прыгавор быў самым жорсткім з усіх магчымых пакаранняў.

«Калі-б я быў звер, крывяпійца,—пісаў пазней у сваім дзённіку Шэўчэнка,—то і тады для мяне больш жорсткай кары нельга было-б прыдумаць».

Жандармы спяшаліся. Ледзь паспяваючы мяняць коней на паштовых станцыях, робячы па 300 вёрст у суткі, гналі паэта з Пецербурга ў Орэнбург.

## X

9 чэрвеня Шэўчэнка прыбыў у Орэнбург і 13 чэрвеня вымушаны быў пехатой накіравацца ў Орскую крэпасць, якая знаходзілася ў 227 вярстах ад Орэнбурга.

У Орску, пад пагрозай фізічнага пакарання, «радавы 3-яй роты 5-га батальёна» Шэўчэнка павінен быў выконваць бяздушныя загады свайго п'янага камандзіра, доўгімі гадзінамі маршыраваць па пляцу. Адзінокі, у салдацкай казарме, «без права пісаць і рысаваць», Шэўчэнка ў пісьмах просіць прыяцеляў і знаёмых прысылаць яму кнігі, бо, як пісаў ён, «адзін ратунак ад адзервянення—кнігі».

Асуджаны царызмам на жорсткія нечалавечыя пакуты, Шэўчэнка не адступае ад сваіх палітычных ідэалаў. Пад найстражэйшым наглядам, з небяспекай для свайго жыцця ён скарыстоўвае самую малую магчымасць і, у парушэнне «найвышэйшага указа», піша свае «захаляўныя» вершы, поўныя баявога рэвалюцыйнага духу, пакут за заняволены народ і палкай нянавісці да царызма.

У гэтых шматлікіх вершах Шэўчэнкі, пісаных у Орскай крэпасці, якія дайшлі да нас,—увесь магутны і нязломны дух паэта-Праметэя.

О мае думы! О слава злая!
За цябе марна у чужым краю
Нясу пакуты... але не каюсь,—

агалашае паэт. З неаслабнаю палітычнаю вастрынёю піша ён пра тое, што «голад стогне на сяле... па ўсёй Украіне», што «тысячамі гінуць галодныя людзі» пад ботам «ненасытнага панства».

З замілаваннем успамінае Тарас Шэўчэнка вызваленчую барацьбу украінскага народа супроць шляхты. Перад яго вачыма паўстае легендарны вобраз Пугачова («Пугач пугае над Уралам»). І гэтыя гераічныя вобразы мінулага, у злучэнні з рэальным уяўленнем аб

цяжкім трагічным жыцці запрыгоненага народа, давалі Шэўчэнку творчае натхненне.

Але кожны свой радок, кожны штрых свайго алоўка ён павінен быў хаваць ад пільнага позірку наглядчыкаў.

XI

У чэрвені 1848 г. Шэўчэнка ў якасці мастака пападае ў састаў экспедыцыі па апісанню Аральскага мора. Праз бясконцыя пустынныя стэпы прабіралася экспедыцыя. 702 вярсты зрабіў Шэўчэнка пехатой да ўмацавання Раім.

25 ліпеня экспедыцыя вышла ў Аральскае мора. На адной з шхун—«Константин»—знаходзіўся Шэўчэнка. Пасля двухмесячнага плавання экспедыцыя дасягнула вострава Кос-Арал, дзе вымушана была зазімаваць.

Многа твораў паэта памечана «Кос-Аралам». Але перад вачыма паэта, не знікаючы, стаялі жахлівыя карціны прыгонніцтва.

Паэт не мог забыць, як «скрозь па слаўнай Украіне людзей у ярмы запрагалі паны лукавыя». Водгукі рэвалюцыйных падзей 1848 г. у Еўропе, якія дайшлі да Шэўчэнкі ў далёкую ссылку, у яго «не замкнутую турму», абудзілі ў ім магутны рэвалюцыйны парыў. Паэт піша сваю вядомую паэму «Цары», дзе кідае рэвалюцыйна-дэмакратычны заклік да знішчэння царызма:

Бадай каты іх пасціналі
Усіх цароў, гадзюк людскіх!

6 лістапада 1849 г. Шэўчэнка вярнуўся ў Орэнбург з экспедыцыі. Паводзіны і настрой паэта ў час прабывання ў экспедыцыі яшчэ больш настроілі начальства супроць гордага заняволенага.

> «Для новага года,—пісаў Шэўчэнка ў пісьмах з Орэнбурга,—мне аб'явілі, што наступнай вясною я павінен буду зноў накіравацца на Аральскае мора. Пэўна мне адтуль не вярнуцца. За надыходзячы паход мой мне адмоўлена ў прадстаўленні на «высачайшае памілаванне» і пацверджана забарона пісаць і рысаваць...» «Як сумна я стаю між людзьмі... Рукі і галава закованы. Наўрад ці цярпеў хто-небудзь такое гора».

На працягу параўнальна кароткага часу прабывання ў гэтым горадзе (з 1 лістапада 1849 г.) Тарас Грыгор'евіч напісаў нямала новых вершаў, сярод якіх «Лічу ў няволі дні і ночы», «Мы заспявалі...», «Не малілася за мяне», «Мне здаецца...», «Як-бы вы знал, панічы» і інш.

У Орэнбургу паэт зыбліжаецца з палітычнымі ссыльнымі, якія там знаходзіліся. Рэвалюцыйна-бунтарскія настроі паэта, адлюстраваныя ў вогненных радках яго вершаў, робяцца вядомымі жандармскім наглядчыкам. 27 красавіка 1850 г. у Шэўчэнкі робяць вобыск, знаходзяць рэвалюцыйныя вершы, альбомы з рысункамі, перапіску, штацкае адзенне. «Новай» справай Шэўчэнкі зацікавіўся сам ваенны міністр, які неадкладна далажыў пра ўсё Нікалаю І.

Па асабістаму «прадпісанню» цара загадана было трымаць Шэўчэнку пад «найстражэйшым арыштам» і пачаць «следчую справу над радавым Т. Шэўчэнкам аб атрымліванні ім ад розных асоб пісьмаў, пасылцы ад сябе гэткіх і аб прычынах невыканання ім забароны пісаць і рысаваць».

Згодна царскага загаду Шэўчэнка быў арыштаваны і звыш поўгода да кастрычніка 1850 г. знаходзіўся ў Орэнбургскай, Орскай, Уральскай турмах, пасля чаго пад вартай дастаўлен у Новапетроўскае ўмацаванне.

## XII

У катаржных умовах трымалі Шэўчэнку ў Новапетроўскім умацаванні. Прыстаўлены да паэта ротны камандзір усімі сіламі сачыў за паэтам,назіраючы, каб у яго не было ні алоўка, ні чарніла, ні паперы, каб ён нічога не пісаў, не рысаваў. У казарме ён вачэй не зводзіў са свайго заняволенага; калі-ж Шэўчэнка выходзіў з казармы на вучэнне ці па другіх службовых абавязках або проста пабыць на свежым паветры, яго аглядалі—ці няма пры ім у ботах, у кішэнях і т. п. якіх-небудзь пісьмовых ці рысавальных прыладаў (успаміны Косарэва).

Паэт, што заўсёды цікавіўся і чытаў усе літаратурныя навінкі і перыядычныя выданні, не меў магчымасці сачыць за навінкамі літаратуры, мастацтва, і гэта асабліва непакоіла Шэўчэнку.

> «Аб навінах літаратуры, музыкі, тэатра я зусім не маю ніякага разумення, — скардзіўся ён у пісьме да Арцёмаўскага (ліпень 1852 г.).—Апроч «Русского инвалида» ў нас нічога няма; «Северную пчелу», газету літаратурную ўжо забыў як і завуць... Цяжка! Балюча цяжка! А рабіць няма чаго».

Пад заўсёдным суровым наглядам Шэўчэнка ўсё-ж не склаў зброі. Рыскуючы жыццём, ён і тут парушыў царскую «забарону»: ён напісаў цыкл аповесцей на рускай мове («Художник», «Княгиня», «Музыкант», «Несчастный», «Капитанша», «Прогулка с удовольствием и не без морали»), дзе ў рэалістычных вобразах адлюстраваў прыгнёт самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу.

У Новапетроўскім умацаванні працаваў Шэўчэнка і над паэмай «Маскалёва крыніца», у якой паказаў цяжкія няшчасці сельскай беднаты, вымушанай пад ярмом прыгонніцтва «галодных злыдняў гадаваць».

Тут-жа ён задумвае і ажыццяўляе серыю карцін—«Притчу о блудном сыне». Сваю «Притчу» ён называе «сатырай над звычаямі купецтва».

Поўны незгасальнага творчага агню, Шэўчэнка бярэцца за новы від мастацтва—за скульптуру (у царскай-жа забароне не сказана было «без права ляпіць!»). Але ва ўмовах жорсткага казарменнага рэжыму ён так і не змог прадаўжаць пачатую работу.

Маніфест Александра II, які даў амністыю палітычным ссыльным, абмінуў Шэўчэнку. Як піша ў сваіх успамінах Юнге:

> «Са спіска палітычных злачынцаў, якім павінна была быць аб'яўлена амністыя, імя Шэўчэнкі было выкраслена самім гасударом».

Другі маніфест «з выпадку каранацыі» таксама абмінуў Шэўчэнку. Толькі ў сярэдзіне 1857 г., пасля доўгіх хадайніцтваў рускай перадавой грамадскасці, Шэўчэнку нарэшце вызваляюць з салдатчыны.

У апошнія дні ссылкі пачаў ён свой «Журнал»—дзённік. Гэта адзін з выдатнейшых у сусветнай літаратуры публіцыстычна-мемуарны твор паэта. Дзень за днём на працягу адзінаццаці месяцаў піша ён гэты яскравы біяграфічны дакумент жыцця, думкі, мары і прагненне паэта,—усё тое, чым ныла яго сэрца і мозг. Грамадзянская мужнасць,

вострая непрымірымасць, нязломная воля рэволюцыйнага тварца,—такім выглядае маральны воблік Шэўчэнкі, хоць катаржная салдатчына зрабіла ўсё, каб знішчыць яго фізічна, да канца расхістаўшы і падарваўшы яго здароўе.

2 жніўня ўвечары Шэўчэнка пакінуў Новапетроўск, адправіўшыся лодкай у Астрахань, а адсюль 22 жніўня выехаў на параходзе «Князь Пожарский». У адну з ціхіх месяцовых ночаў Шэўчэнка пачуў на параходзе чароўныя гукі скрыпкі. Гэта іграў былы прыгонны—вольнаадпушчаны. Ігра прыгоннага, у якой гучэў увесь боль заняволенага чалавека, заняволенай чалавечай істоты, кранула Шэўчэнку.

«Дзякуй табе, прыгонны Паганіні!—піша ён.—Дзякуй табе, мой выпадковы, мой благародны! З тваёй беднай скрыпкі вылятаюць стогны зняважанай прыгоннай душы і зліваюцца ў адзін працяглы, сумны, глыбокі стогн мільёнаў прыгонных душ».

Паэт глыбокага пранікнення, ён уважліва сачыў за развіццём навукі і тэхнікі. Яго захаплялі ідэі французскай рэволюцыі, хвалявалі сялянскія бунты ў Паваложжы, радавалі навіны тэхнікі, і ва ўсім гэтым ён бачыў трыумф народных імкненняў, будучую перамогу народных мас над светам прыгнёту і рабства. Свае думкі паэт павярае дзённіку:

«... параход у начным магільным спакоі мне ўяўляецца нейкім велізарным, глухаравучым страшыдлам з раскрытай велізарнай пашчай, гатовым праглынуць памешчыкаў-інквізітараў. Вялікі Фультон, вялікі Уат! Ваша маладое дзіця, якое расце не па днях, а па гадзінах, у хуткім часе сажрэ бізуны, прастолы і кароны, а дыпламатамі і памешчыкамі толькі закусіць, пабалуецца, як школьнік ледзянцом. Тое, што пачалі ва Францыі энцыклапедысты, тое давершыць на ўсёй нашай планеце ваша велізарнае, геніяльнае дзіця. Маё прароцтва бясспрэчна!».

Насуперак сучасным яму афіцыяльным гісторыкам, Шэўчэнка з гордасцю гаворыць пра Сцяпана Разіна, як пра «слаўнага лыцара... пугала маскоўскага цара і персідскага шаха».

«Разін не быў разбойнікам,—перадае Шэўчэнка апавяданне лоцмана,—ён толькі на Волзе бранд-вахту трымаў і сабіраў пошліну з караблёў і раздаваў яе бедным людзям». Зблізіўшыся з капітанам парахода Кішкіным, які меў нямала нелегальнай літаратуры, Шэўчэнка з захапленнем перачытвае творы Рылеева, пераклады з Беранжэ і Барб'е, чытае выдатныя творы рускай рэволюцыйна-дэмакратычнай літаратуры, «Губернские очерки» Салтыкова-Шчэдрына.

Прачытаўшы «Губернские очерки», Шэўчэнка запісвае ў дзённіку:

«Як прыгожы «Губернские очерки»... Я благагавею перад Салтыковым. О Гогаль, наш неўмірушчы Гогаль! Якою радасцю ўзрадавалася-б благародная душа твая, убачыўшы вакол сябе такіх геніяльных вучняў сваіх. Прыяцелі мае! Шчырыя мае! Пішыце! Падайце голас за гэтую бедную апаскуджаную чэрнь! За гэтага зняважанага бязмоўнага смерда».

Паэт заклікае пісьменнікаў да дзейнага рэволюцыйнага і выкрывальнага слова, якое стала-б зброяй барацьбы супроць прыгнятальнікаў, за народную свабоду.

## XIII

Раніцой 20 верасня Шэўчэнка прыбыў у Ніжні Ноўгарад, дзе яго ўжо чакалі жандармы. Выявілася, што адразу-ж пасля ад'езду Шэўчэнкі з Новапетроўска, ва ўмацаванні быў атрыманы тайны загад з

Пецербурга аб забароне Шэўчэнку ўезду ў сталіцы і прадастаўленні яму права пражываць толькі ў Орэнбургу. Сустрэўшы Шэўчэнку пасля прыбыцця парахода, ніжагародская паліцыя адабрала ў паэта пашпарт і білет, маючы намер адправіць яго па этапу ў Орэнбург. Але медыцынская экспертыза пацвердзіла, што Шэўчэнка «пасля агляду аказаўся не ў стане ехаць назад аж да поўнага выздараўлення». Аб прычынах затрымкі Шэўчэнку паведамілі не адразу. У пісьме ад 6 лістапада 1857 г. паэт піша ў Астрахань сваім знаёмым:

«Паліцыя спыніла мяне ў Ніжнім і да ўчарашняга дня сама не ведала, навошта яна мяне спыніла, а ўчора фармальна аб'явіла мне, што я знаходжуся пад яе сакрэтным мацярынскім наглядам і што мне вышэйшай уладай забаронена жыць і нават праязджаць праз сталіцы...» (З неапублікаваных матэрыялаў інстытута літаратуры Акадэміі навук УССР).

Адзінай уцехай была для Тараса Грыгор'евіча, як адзначае ён у тым-жа пісьме, наяўнасць у Ніжнім кніг, журналаў, якіх так доўга чакаў паэт:

«Мне тут добра, весела, чытаю так, што нават апух чытаючы. Журналы ўсе да аднаго перада мной...» (Там-жа).

Ніжні Ноўгарад у тыя гады быў адным з асноўных ачагоў агітацыі Герцэна ў Расіі. У першы-ж дзень пасля прыезду ў Ніжні, Шэўчэнка ўзяў «для прачытання... лонданскае выданне» «Голоса из России». Імя Герцэна было, бясспрэчна, яшчэ да гэтага добра вядома Шэўчэнку з рускай прэсы 40-х гадоў. Яшчэ на параходзе ў запісах дзённіка ён упамінае Іскандэра (псеўдонім Герцэна) і яго ўдалы афарызм пра Нікалая І, якога Герцэн (а ўслед за ім і Шэўчэнка) называў «неудобозабываемым тормозом». У Ніжнім Шэўчэнка знаёміцца з новымі замежнымі выданнямі твораў Герцэна. Ён чытае другое лонданскае выданне «Крещеной собственности» і, фіксіруючы свае ўражанні, піша: «Сардэчнае, задушэўнае, чалавечае слова!» Ён з любоўю перарысоўвае ў дзённік партрэт «выгнанніка-апостала» Герцэна, упершыню з захапленнем чытае герцэнаўскі «Колокол».

Убачыўшы «Полярную звезду» Герцэна з партрэтамі пакараных смерцю дзекабрыстаў, паэт не мог не выказаць яшчэ раз сваё пракланенне перад «першымі рускімі вестунамі свабоды» і сваё абурэнне супроць царызма.

«Партрэты першых нашых апосталаў пакутнікаў,—успамінае ён у сваім дзённіку,—мяне так цяжка, сумна здзівілі, што я да гэтага часу яшчэ не магу аддыхнуць ад гэтага змрочнага ўражання. Як-бы было добра, калі-б выбіць медаль у памяць гэтай гнуснай падзеі! З аднаго боку—партрэты гэтых вялікамучанікаў з надпісам: «Первые русские благовестители свободы», а на другім баку медалі—партрэт «неудобозабываемого тормоза» з надпісам: «Не первый русский коронованный палач!».

У гэтых гарачых радках палала неўгасімая рэвалюцыйная страсць паэта.

Пад уплывам рэвалюцыйных мыслей Герцэна яшчэ больш мужае паэтычны голас Шэўчэнкі. У яго паэме «Неафіты», як і ў іншых вершах, напісаных у Ніжнім Ноўгарадзе («Юрадзівы», «Доля», «Муза», «Слава»), мацнее яго крытычны рэалізм.

10 лютага 1858 г. Шэўчэнку, у выніку клопатаў яго прыяцеляў, дазволен быў уезд у Пецербург з тым, «каб Шэўчэнка быў пад-



вергнут тут строгаму паліцэйскаму надзору і каб начальства Акадэміі мела дакладны нагляд, каб ён не «обращал во зло своего таланта».

8 сакавіка Шэўчэнка выехаў з Ніжняга ў Пецербург праз Маскву. Прыехаўшы 10 сакавіка ў Маскву, Шэўчэнка спыніўся ў свайго блізкага друга, вядомага рускага актора—таксама прыгоннага ў мінулым—М. С. Шчэпкіна, які незадоўга да гэтага наведаў паэта ў Ніжнім.

У Маскве Шэўчэнка сустрэўся з рускімі літаратарамі, С. Аксакавым, з якім дружыў, пазнаёміўся з дзекабрыстам С. Валконскім, што вярнуўся з Сібіры.

## XIV

27 сакавіка 1858 г. Шэўчэнка прыехаў у Пецербург.

Хворы, фізічна змучаны дзесяцігадовымі ссылкамі, вярнуўся Шэўчэнка на месца, адкуль выязджаў здаровым і моцным. Толькі паэтычнае слова стала цяпер больш загартаваным, вострым і зрэлым.

Тараса Грыгор'евіча з павагай і пашанай прымаюць у літаратурных кругах, ён удзельнічае ў шматлікіх літаратурных вечарах, дзе карыстаецца выключным поспехам.

У пісьме да жонкі ад 13 лістапада 1860 г. вядомы грузінскі культурны дзеяч Д. Кіпаніні, які бываў на літаратурных вечарах Пецербурга, пісаў:

> «Пазаўчора быў я на публічным чытанні літаратараў у Пасажы. Чыталі: Бенедыктаў—вельмі добра; наш Палонскі—тут цяпер выдатны паэт—добра; Майкаў—вельмі добра; Дастаеўскі, Пісемскі—так сабе; Шэўчэнка—паэт і мастак—лепш за ўсіх... Зал быў набіт біткам».

Знаходзячыся ў кругу выдатных дзеячоў рускай культуры, Шэўчэнка знайшоў,—як найбольш блізкі сваім думкам і імкненням,—круг. Гэта быў круг «Современника», дзе аб'ядноўваліся лепшыя прадстаўнікі рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі—Чэрнышэўскі, Дабралюбаў, Некрасаў, Салтыкоў, Курачкін і інш. На вечарах у Кастамаравых ён сустракаецца з Н. Г. Чэрнышэўскім, грузінскім пісьменнікам А. Цэрэтэлі. На вечарах у А. В. Нікітэнка—з Некрасавым, вельмі падружыўся ён з паэтам Курачкіным.

Уважліва сочачы за рэвалюцыйнай літаратурай, Шэўчэнка адгукнуўся сваім паэтычным словам на баявыя палітычныя лозунгі рэвалюцыйнай дэмакратыі.

Калі чорнасоценны журнал «Иллюстрация» выступіў з антысеміцкім заклікам супроць прадастаўлення яўрэям грамадзянскіх правоў, Чэрнышэўскі разам з іншымі апублікаваў пратэст супроць гэтай хуліганскай выхадкі «Иллюстрации», пакінуўшы спіс пратэстуючых адкрытым. Неўзабаве ў спісу пратэстуючых з'явіліся подпісы: Т. Шэўчэнка і Марка Ваўчок.

1 кастрычніка 1858 г. у «Колоколе» Герцэна было надрукавана ананімнае пісьмо—зварот да прыгнечаных прыгонных мас Расіі:

> «Ці чуеце вы, беднякі, недарэчны вашы надзеі на мяне,—кажа вам цар. На каго-ж спадзявацца цяпер? На памешчыкаў? Ніяк. Яны заадно з царом, і цар яўна трымае іх старану. На сябе толькі спадзявайцеся, на моцнасць рук сваіх: завастрыце тапары і за справу...»

Заклік да тапара адразу-ж знайшоў водгук у Шэўчэнкі. Як толькі

паэту стала вядома гэта пісьмо, ён у лістападзе 1858 г. піша вершы, заклікаючы народ:

Ды не чакай
Тае жаданае ты волі—
Яна заснула: цар Мікола
Яе прыспаў. Каб разбудзіць
Слабую волю, трэба разам,
Абух грамадай гартаваць,
Сякеру навастрыць адразу,
Дый брацца волю падымаць.

Вельмі паказальны той факт, што неўзабаве ў герцэнаўскім «Колоколе» было змешчана пісьмо Чэрнышэўскага, дзе абвяшчалася: «К топору зовите Русь!»

«Нет, наше положение ужасно, невыносимо,—пісаў Чэрнышэўскі Герцэну,—и только топор может нас избавить и ничто кроме топора не поможет... Перемените же тон и пусть ваш «колокол» благовестит не к молебну, а звонит набат! К топору зовите Русь!»

Гэтая агульнасць лозунгаў не выпадкова. Яна сведчыць аб блізкасці Шэўчэнкі да Чэрнышэўскага, як яго саратніка і аднадумца.

Рускія рэвалюцыйныя дэмакраты высока ацанілі Шэўчэнку.

Чэрнышэўскі лічыў Шэўчэнку найбольшым аўтарытэтам у пытаннях жыцця украінскага народа, Дабралюбаў у сваёй рэцэнзіі на «Кабзара» вызначыў Шэўчэнку як «истинно-народного поэта», Некрасаў прысвяціў Шэўчэнку шчырыя радкі верша, дзе апяваў паэта як «русской земли человека замечательного».

У канцы мая 1859 г. паэт, пасля доўгіх клопатаў, атрымлівае дазвол выехаць на Украіну.

Прыезд паэта на Украіну апярэдзіла сакрэтная пошта жандармскага ўпраўлення. Мясцовым уладам на Кіеўшчыне, Палтаўшчыне і Чарнігаўшчыне былі даны сакрэтныя інструкцыі па нагляду за паэтам.

Наведаўшы сёлы Украіны, Шэўчэнка вёў прыватныя размовы з сялянамі. Пра змест гэтых размоў у жандармскіх данясеннях значылася, што «Шэўчэнка, апрача багахульства, гаварыў яшчэ, што не трэба ні цара, ні папоў, ні паноў».

У ліпені Шэўчэнка быў арыштаваны і пад наглядам жандармаў адпраўлены ў Пецербург.

Тут ён, падтрыманы гуртком Чэрнышэўскага, з захапленнем прымаецца за творчую работу, рыхтуе да друку новае выданне «Кабзара», піша новыя рэвалюцыйныя вершы, у якіх поўным голасам лунае заклік да крывавай расправы з царызмам. Выкрываючы ў алегарычных вобразах фараонаў-цароў у паэме «Марыя», Шэўчэнка прарочыць перамогу праўды, якая «ўжо ўстае, устала на зямлі, каб фараоны сцерагліся».

Ён глыбока верыць у народную расправу над прыгнятальнікамі, якім прарочыць:

... Заб'юць,
Зарэжуць вас, душаубіўцы,
Ды з той крывавае крыніцы
Сабак напояць.

У народных масах хутка расла папулярнасць Шэўчэнкі. Яго рэвалюцыйныя вершы, якія распаўсюджваліся ў рукапісах, глыбока пранікалі ў народнае сазнанне. Іх распаўсюджвалі нелегальна, разам з літаратурай Чэрнышэўскага, Дабралюбава, Герцэна. Імя паэта робіцца

вядомым далёка за межамі Расіі. У Лейпцыгу ў 1859 г. быў выданы зборнік яго вершаў, разам з вершамі Пушкіна.

У пачатку студзеня вышаў, «нарэшце», з друку «Кабзар», папсаваны цэнзураю, якая павыкрэслівала, па ўласнаму сведчанню Шэўчэнкі, дзесяткі старонак. «Кабзар» з бліскавічнаю хуткасцю быў раскуплены.

Чэрнышэўскі і яго прыяцелі з выключнай цеплынёй дапамагаюць Шэўчэнку ва ўсіх яго пачынаннях. Камітэт літаратурнага таварыства пры ўдзеле Чэрнышэўскага пастанаўляе звярнуцца да ўладальніка сваякоў Шэўчэнкі—Фліяркоўскага з просьбай вызваліць іх з няволі «з павагі да літаратуры наогул і, у прыватнасці, да заслуг Тараса Грыгор'евіча, набыўшага віднае месца ў сучаснай літаратуры».

Але Шэўчэнку хваляваў не толькі лёс яго сваякоў—прыгонных. Усё сваё творчае натхненне, усю страсць паэта аддаў ён ідэі вызвалення народа.

Незадоўга перад смерцю, вярнуўшыся з Украіны ў Пецярбург, Шэўчэнка піша каля 35 вершаваных баявых рэвалюцыйных паэтычных твораў («Марыя», «Осіі глава IV», «Калісь то...», «Свеце ясны», «Саул», «І тут і ўсюды...», «О людзі, людзі», «Аднойчы ідучы ўначы» і інш.).

Як паэт прапагандыст сялянскай рэвалюцыі, Шэўчэнка звяртаўся да народа:

О, людзі, людзі небаракі!
Нашто здаліся вам цары?
Нашто здаліся вам псары?
Бо вы ўсё ж людзі, не сабакі!
Ці будзе суд! ці будзе кара!
Царам, царатам на зямлі?
Ці будзе праўда між людзьмі?
Павінна быць, бо сонца ўстане
Зямлю у погані спаліць.

Паэт заклікаў і верыў у народную перамогу і з гэтымі думкамі на вуснах ён загінуў, забіты царызмам.

Паэт заклікаў да барацьбы і да канца сваіх дзён верыў у перамогу народнай свабоды.

10 сакавіка (26 лютага ст. стылю) 1861 г. на 47 годзе жыцця Шэўчэнкі не стала. Царызм, які забіў раней Пушкіна і Лермантава здрадніцкай рукой Дантэса і Мартынава, выбраў для Шэўчэнкі не менш мярзотны сродак: ён замучыў паэта турмамі, салдатчынай і штодзённымі жорсткімі прыцясненнямі.

Не зламаўшы рэвалюцыйнага духу паэта, царызм забіў яго фізічна.

Смерць Шэўчэнкі, пахаванне яго ў Пецярбургу і адпраўленне яго цела на Украіну для пахавання згодна завяшчання «сярод стэпу шырокага на Украіне слаўнай, дзе бяскрайныя разлогі і Дняпро і кручы» выклікалі грозную хвалю народных дэмакратычных маніфестацый. Народ выражаў сваю любоў да паэта і нянавісць да царызма і памешчыкаў. У месцах, дзе правозілі труну паэта, памешчыкі патрабавалі ад губернатара ваенных нарадаў для аховы сваіх маёнткаў—настолькі вялікім было хваляванне сярод сялянскіх мас.

Магіла паэта на Чэрнечай гары, паблізу Канева, стала сапраўдным жахам для навакольных памешчыкаў. Хадзілі легенды, што магіла паэта з'яўляецца цэнтрам, дзе збіраюцца сялянскія бунтары, што ў магіле закапаны нажы.

Вобраз паэта рэвалюцыянера прадаўжаў жыць ва ўяўленні народным. Царская жандармерыя і цэнзура забаранялі творы Шэўчэнкі, знішчалі іх і праследавалі тых, хто чытаў іх і шанаваў памяць вялікага народнага песняра. Але «забарона ўшаноўвання Шэўчэнкі,—пісаў В. І. Ленін,—была такой дасканалай, надзвычай добрай, на рэдкасць шчаслівай і ўдалай мерай з пункту погляду агітацыі супроць урада, што лепшай агітацыі і ўявіць сабе нельга».

Славу Шэўчэнкі з гонарам пранёс працоўны народ—праз праследаванні царызма, фальсіфікатарскія зюзюканні украінскіх нацыяналістаў, як сваю свяшчэнную мастацкую і грамадзянскую спадчыну.

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя зрабіла творчасць Шэўчэнкі сапраўдным набыткам мільёнаў працоўных вялікага Совецкага Саюза.

Народныя масы, кіруемыя магутнай партыяй Леніна—Сталіна, здзейснілі тое, пра што марылі, да чаго прагнулі лепшыя людзі свету.

На адной шостай часці свету знішчана ўлада «людаедаў-цароў-паноў-прэпаганых» і пабудован новы соцыялістычны лад, дзе «цвітуць шырокія сёлы, а ў сёлах у вясёлых і люд вясёлы». Шэўчэнка пісаў:

І мяне ў сям'і вялікай,
Ў сям'і вольнай, новай
Не забудзьце памянуці
Нязлым ціхім словам.

У вялікай вольнай сям'і брацкія народы соцыялістычнай радзімы, азаронай мудрасцю сталінскага генія, не ціха, а ва ўвесь голас будуць адзначаць 125-годдзе са дня нараджэння Тараса Шэўчэнкі.

На ўсіх неабсяжных прасторах соцыялістычнай радзімы—ад Балтыкі да Владзівастока, ад паўночных зімовак да Чорнага мора—славіць Совецкая краіна імя Шэўчэнкі—вялікага народнага паэта, вернага сына украінскага народа.

*І. СТЭБУН.*



## ПРЫЧЫННА

Раве ды стогне Днепр шырокі,
Сярдзіты вецер вые, дзьме,
Гне ў дол галіны верб высокіх,
Угору хвалі ўзносіць, рве;
І месяц бледны ў тую пору
З-за хмар дзе-не-дзе выглядаў,
Бы човен хісткі ў сінім моры
То выныраў, то зноў знікаў.
Йшчэ трэці певні не спявалі,
Не гаманіў ніхто, не пеў,
Адно сычы ў гаю гукалі,
Ды ясень раз-па-раз скрыпеў.

---

У такі час пад гарою,
Каля таго гаю,
Што чарнее над вадою,
Хтось белы блукае.
Мо' русалачка там вышла
Матулі шукаці,
А мо' казака чакае,
Каб заласкатаці.
Не русалачка блукае
То дзяўчына ходзіць:
І не знае (бо вар'ятка),
Што такое робіць.
Так зрабіла варажбітка,
Каб журбы не знала,
Каб, ходзячы апаўночы,
Спала й выглядала
Казачэньку маладога,
Што летась пакінуў,
Вярнуціся абяцаўся,
Ды, мабыць, і згінуў!
Не кітайкаю пакрылі
Казацкія вочы,
Не памылі і твар белы
Слёзанькі дзявочы:
Арол выняў кары вочы
Яму ў чужым полі,
Бела цела ваўкі з'елі—
Такая ўжо доля.
Дарма штоноч дзяўчыначка
Яго выглядае...
Не вернецца чорнабрывы,
Дый не прывітае,
Не распусціць касы доўгай,
Хустку не завяжа;
Не на ложка,—ў дамавіну
Сіратою ляжа!

---

Такая ёй доля... О божа мой мілы,
За што ты караеш яе маладу?
За то, што так шчыра яна палюбіла
Казацкія вочы?.. Не крыўдзь сірату!
Каго-ж ёй любіці? Ні бацькі, ні маці:
Адна, нібы птушка ў далёкім краю!
Яна маладзенька—пашлі-ж ты ёй шчасце,—
Бо людзі чужыя яе засмяюць.
Ці-ж вінна галубка, што голуба любіць?
Ці-ж вінен той голуб, што сокал забіў?
Сумуе, варкуе, белым светам нудзіць,
Лётае, шукае, думае—зблудзіў.



Шчасліва галубка: высока лятае,
Памчыцца да бога мілога пытаць.
Каго-ж сіраціна, каго запытае?
І хто ёй раскажа, і хто тое знае,
Дзе мілы начуе: ці ў цёмным гаю?
Ці ў быстрым Дунаі ён коніка поіць?
Ці можа з другою, другую кахае,
Яе, чорнабрыву, забыўся ўжо з тою?
Як-жа-б прыдаліся арліныя крылы—
За сінім-бы морам мілога знайшла;
Жывога-б любіла, другую забіла,
А да нежывога ў яму-б лягла.
Не так сэрца любіць, каб з кім падзяліцца,
Не так яно хоча, як бог нам дае;
Яно жыць не хоча, не хоча журыцца.
А думка—«журыся!» жалю задае.
О, божа, такая, мабыць, твая воля,
Такое яе ўжо і шчасце і доля!

Яна ўсё ходзіць, з губ ні пары.
Шырокі Днепр не гаманіць;
Разбіўшы вецер чорны хмары,
Лёг каля мора адпачыць.
А з неба месяц так і ззяе;
І над вадою, і над гаем—
Кругом, бы ў вуху, ўсё маўчыць...
Аж бульк—з Дняпра павыныралі
Малыя дзетачкі вясёла.
«Хадзема грэцца!—закрычалі:
Зайшло ўжо сонца!» А ўсе голы,
З асокі косы (бо дзяўчаты).

. . . . . . . . . . .

«Ці ўсе вы тутка?» кліча маці!
«Хадзем вячэраць пашукаці.
Паскачэма, пагуляйма,
Ды песеньку заспявайма:

Ух, ух!
Саламяны дух, дух!
Мяне маці спарадзіла,
Нехрышчону палажыла.
Месячык!
Галубочак!
На вячэру хадзі ў госці;
У нас казак у чароце,
У чароце, ў асацэ,
Срэбны персцень на руцэ;
Маладзенькі, чорнабровы, —
Знайшлі ўчора ля дубровы.
Свяці доўга ў чыстым полі,
Нагулянцца каб даволі!
Пакуль ведзьмы йшчэ лятаюць,
Пакуль пеўні не спяваюць,
Пасвяці нам!.. Вунь штось ходзіць!
Вунь пад дубам штось там робіць!
Ух, ух!
Саламяны дух, дух!
Мяне маці спарадзіла,
Нехрышчону палажыла».

Зарагаталі нехрышчоныя...
Гай абазваўся; галас, крык—
Арда бы рэжа. Бы шалёныя,
Лятуць да дуба... і ні пік!..

Схамянуліся няхрысткі
Глядзяць: штось мільгае,
Штосьці лезе ўверх па дрэве
Да самага краю.
Дзяўчыначка гэта тая,
Што соннай блудзіла;
Вось такую варажбітка
Ёй крыўду ўчыніла!
На самы верх на галінцы
Стала... Ў сэрцы квола.
Паўзіралася навокал,
Дый лезе дадолу.
Русалачкі вокал дуба
Маўчалі, чакалі,
Ўзялі яе, гаротную,
Дый заласкаталі.
Доўга, доўга паглядалі
На яе уроду...
Трэці пеўні: кукарэку!—
Шаляснулі ў воду.

Зашчабятаў жаваронка,
Угару летучы;
Зязюлька закукавала,
На дубе седзячы;
Зашчабятаў салавейка—
Пайшло рэха гаем;
Чырванее за гарою;
Араты спявае.
Гай чарнее над вадою,
Дзе ляхі хадзілі;
Засінелі па-над Днепрам
Курганы-магілы.
Пайшоў шэлест па дуброве,
Зашапталі лозы;
А дзяўчына спіць пад дубам
Пры бітай дарозе,—
Добра спіць, бо кукавання
Не чуе зязюлі,
І не лічыць, ці жыць доўга...
Знаць, добра заснула.

А тым часам з-за дубровы
Казак выязджае;
Пад ім конік вараненькі
Насілу ступае.
«Замарыўся, мой таварыш!
Сягоння спачынем:
Блізка хата, дзе дзяўчына

Вароты адчыне.
А можа ўжо адчыніла
Не мне, а другому...
Хутчэй, косю, хутчэй, косю,
Пасяшай дадому!»

Утаміўся вараненькі,
Ідзе, спатыкнецца,—
Каля сэрца казацкага
Як гадзюка ўецца.
«Вось і дуб той кучаравы...
Яна! Божа мілы!
Бач, заснула выглядаўшы,
Мая сізакрыла!»
Кінуў каня, да яе ўпаў:
«Божа ты мой, божа!»
Кліча яе ды цалуе...
Не, ўжо не паможа!
«За што-ж яны разлучылі
Мяне ды з табою?»
Зарагатаў, разагнаўся—
Ды ў дуб галавою!

Ідуць дзяўчаты ў поле жаці
Ды, знай, спяваюць ідучы:
Як праважала сына маці,
Як бой татарын вёў ўначы.
Ідуць... Пад дубам зелняненькім
Конь змардаваны чуць стаіць,
А каля яго маладзенькі
Казак ды дзеўчына ляжыць.
Цікавыя (ўсур'ёз нібыта)
Падкраліся, каб напужаць;
Калі зірнулі, што забіты,—
З перапалоху ну ўцякаць!

Збіраліся таварышы,
Слёзанькі ўціраюць;
Збіраліся таварышы,
Ды ямы капаюць.
Прышлі папы з харугвямі,
Зазванілі звоны;
Пахавалі грамадою,
Як след, па закону.
Насыпалі край дарогі
Ў жыце дзве магілы.
Няма каму запытацца,
За што іх забілі?
Над казакам пасадзілі
Явар ды яліну,
А ў галовах у дзяўчыны
Чырвону каліну.
Прылятае зязюленька
Да іх кукаваці;
Прылятае салавейка
Штоноч шчабятаці;
І спявае і шчабеча,
Пакуль месяц ўзыйдзе,
Пакуль тыя русалачкі
З Дняпра грэцца выйдуць.

С.-Пецербург
(1838)



## ДУМКА

Вецер буйны, вецер буйны!
Ты з морам гаворыш,—
Збудзі яго, зайграй ты з ім,
Спытай сіне мора.
Яно знае, дзе мой мілы,
Бо яго насіла;
Яно скажа, сіне мора,
Дзе яго згубіла.
Калі мілага ўтапіла—
Разбі сіне мора!
Пайду мілага шукаці,
Ўтаплю сваё гора,
Ўтаплю сваю нядоленьку,
Русалкаю стану,
Пашукаю ў чорных [хвалях],
На дно мора кану.
Знайду яго—прытулюся,
На сэрцы замлею,
Тады, хваля, нясі з мілым,
Куды вецер вее!
Калі-ж мілы на тым боку,—
Вецер буйны, знаеш,
Дзе ён ходзіць, што ён робіць—
Ты з ім размаўляеш.
Калі плача, то й я плачу;
Калі не—спяваю;
Калі згінуў чорнабрывы,
То й я прападаю.

Тады нясі маю душу
Туды, дзе мой мілы,
Чырвонаю калінаю
Пастаў на магіле.
Лягчэй будзе ў чужым полі
Сіраце ляжаці:
Будзе над ім яго міла
Кветкаю стаяці.
Зацвіту калінай-кветкай,
Каб мілага грудзі
Не пякло чужое сонца,
Не таптаі людзі.
Вечарам я пасумую,
Раніцай паплачу;
Сонца ўзыйдзе—утру слёзы,
Ніхто й не пабача.

Вецер буйны, вецер буйны!
Ты з морам гаворыш,—
Збудзі яго, зайграй ты з ім,
Спытай сіне мора!..

[С.-Пецербург
1838]

---

## НА ВЕЧНУЮ ПАМЯЦЬ КАТЛЯРЭЎСКАМУ

Сонца грэе, вецер вее
З поля на даліну,
Над вадою гне з вярбою
Чырвону каліну;
Самотнае на каліне
Гнёздачка гайдае.
А дзе-ж дзеўся салавейка?
Не пытай, не знае.
Гора ўспомні, ды кінь думаць...
Мінула... прапала...
Добра ўспомні—сэрца вяне:
Чаму-ж ды не стала?
Вось-жа гляну, дый успомню:
Было, як змяркае,
Зашчабеча на каліне,—
Ніхто не мінае.
Ці багаты, каго доля,
Як маці дзяціну,

Прыбірае, даглядае,—
Не міне каліну.
Ці сіротка, што да свету
Ўстае працаваці,—
Апынецца, паслухае,
Як бацька ды маці.
Пытаюцца, размаўляюць,—
Сэрцу люба ў грудзях...
І свет божы, як вяліксдзень,
І людзі, як людзі!
Ці дзяўчына, што мілога
Штодзень выглядае,
Вяне, сохне сіратою,
Дзецца дзе, не знае.
На шлях пойдзе паўзірацца,
Паплакаць у лозах;
Зашчабеча салавейка,
Сохнуць дробны слёзы.
Паслухае, усміхнецца,
Пойдзе цёмным гаем...
Нібы з мілым размаўляла...
А ён, знай, спявае,

То дробна, то роўна, як бога благае.
Пакуль выйдзе злодзей на шлях пагуляць
З нажом у халяве—пойдзе рэха гаем,
Пойдзе ды замоўкне—нашто шчабятаць?
Зацятую душу злодзея не спыніць,
Толькі страціць голас, дабру не навучыць.
Няхай-жа лютуе, пакуль сам загіне,
Пакуль безгалоўе груган пракрычыць.

Засне даліна. На каліне
І салавейка дрэмле-спіць.
Павее вецер па даліне,
Дубровай рэха паляціць;
Гуляе рэха—божа мова...
Устануць людцы працаваць,
Каровы пойдуць па дуброве,
Дзяўчаты выйдуць ваду браць,
І сонца гляне—рай, ды годзе!
Вярба смяецца—свята скрозь!
Заплача злодзей, люты злодзей.
Было так перш—цяпер-жа вось.

Сонца грэе, вецер вее
З поля на даліну;
Над вадою гне з вярбою
Чырвону каліну;
Самотнае на каліне
Гнёздачка гайдае.
А дзе дзеўся салавейка?
Не пытай. не знае.

Нядаўна, нядаўна у нас на Ўкраіне
Стары Катлярэўскі вось так шчабятаў;
Замоўк небарака, сіротамі кінуў
І горы і моры, дзе ўперад лятаў;
Дзе ватагу прайдзісвета
Вадзіў за сабою,—
Засталося ўсё й сумуе,
Як руіны Троі.
Ўсё сумуе,—толькі слава
Сонцам зазіяла;
Не ўмрэ кабзар, бо навекі
Яго прывітала.
Будзеш, бацька, панаваці,
Пакуль жывуць людзі;
Пакуль сонца з неба ззяе,
Цябе не забудуць!

Прымі-ж мае слова, душа кабзарова!
Шчырае, ад сэрца—прымі, прывітай!
Не кінь сіратою, як кінуў дубровы,
Да мяне, спусціся хоць на адно слова,
Ды мне пра Ўкраіну маю заспявай.
Няхай усміхнецца сэрца на чужыне,
Хоць раз усміхнецца, гледзячы, як ты
Казацкую славу сваім словам дзіўным
Перанёс у хату беднай сіраты.
Прыляці, арол мой, бо я адзінокі
Сірата на свеце, у чужым краю.
Гляджу я на мора, на прастор шырокі,
Паплыў-бы на той бок—чаўна не даюць.
Успомню Энея, бацькаўшчыну ўспомню,
Успомню, заплачу, як дзіцё, няўтомна;
А хвалі на той бок ідуць ды равуць.
А можа я й цёмны, нічога не бачу,
Злая доля, можа, на тым баку плача,—
Сірату усюды людзі асмяюць!
Смяяліся хай-бы, ды там мора грае,
Там месяц, там сонца зіяе ясней,
Там з ветрам магіла ў стэпу размаўляе,
Там не адзінокі быў-бы ўжо я з ей.

Прымі-ж мае слова, душа кабзарова!
Шчырае, ад сэрца—прымі, прывітай!
Не кінь сіратою, як кінуў дубровы,
Да мяне спусціся хоць на адно слова,
Ды мне пра Ўкраіну маю заспявай!

С.-Пецербург
(1838)

## ДУМКА

Цячэ вада ў сіне мора,
Ды не выцякае;
Шукаў казак сваю долю,
А долі не мае.
Пайшоў казак на край свету;
Грае сіне мора,
Казацкае грае сэрца,
А думка гавора:

«Куды йдзеш ты, не спытаўшы?
На каго пакінуў
Бацьку, маці старэнькую,
Маладу дзяўчыну?
Не тыя ў чужыне людзі,
Цяжка з імі жыці;
Паплакаці не з кім будзе,
Ні пагаварыці».
Сядзіць казак на баку тым,—
Грае сіне мора,
Думаў, долю ён сустрэне.—
Спаткалася гора.
А журавы лятуць сабе
Дадому ключамі.
Плача казак—шляхі біты
Зараслі цярнямі.

[С.-Пецербург
1838]

---

* * *

Ой, вы, думы, мае думы,
Цяжанька мне з вамі!
Нашто сталі на паперы
Сумнымі радкамі?..
Што вас вецер не развеяў
Ў стэпу да астатку?
Што вас гора не прыспала,
Як сваё дзіцятка?..

Бо на свет вас беды на смех спарадзілі,
Палівалі слёзы... Што-ж не затапілі,
Не вынеслі ў мора, не размылі ў полі?..
Не пыталі-б людзі, што ў мяне баліць?
Не пыталі-б, за што праклінаю долю,
Чаму мне маркотна? «Нечага рабіць!»—
На смех не сказалі-б...

Кветкі мае, дзеці!
Нашто-ж я кахаў вас, нашто даглядаў?
Ці заплача сэрца адно на ўсім свеце,
Як я з вамі плакаў?.. Можа і ўгадаў...
Можа знойдзецца дзявоча
Сэрца, кары вочы,
Што над думамі заплачуць—
Большага не хочу...
Адну слёзку з вачэй карых—
І... пан над панамі!..

Ой, вы, думы, мае думы,
Цяжанька мне з вамі!..

---

За карыя вачаняты,
За чорныя бровы
Сэрца млела, смяялася,
Вылівала мову;
Вылівала, як умела,
За цёмныя ночы,
За вішнёвы сад зялёны,
За ласкі дзявочы...
За стэп буйны, за магілы,
Што на Украіне,
Сэрца млела, не хацела
Спяваць на чужыне...

Не хацела ў снезе, ў лесе
Казакоў грамаду
З булавамі, з бунчукамі
Збіраць на параду...
Няхай душы казацкія
На Ўкрайне лунаюць—
Там шырока, там вясёла
Ад краю да краю...
Нібы воля, што мінула,
Днепр шырокі—мора,
Стэп і стэп, равуць парогі,
І магілы—горы.
Там радзілася, гуляла
Казацкая воля;
Там татарамі ды шляхтай
Засявала поле,
Засявала поле трупам,
Пакуль не астыла...
Спачыць легла... А тым часам
Вырасла магіла,
А над ёю арол чорны
Сторажам лятае,
І аб ёй-жа людзям добрым
Кабзары спяваюць.
Што тварылася спяваюць
Сляпцы-небаракі,—
Бо кемлівы... А я... а я
Толькі ўмею плакаць,
Толькі слёзы за Ўкраіну...
А слова—няма ўжо...
А за гора... Ды цур яму!
Хто яго не знаў-жа!..
А надта той, што глядзіцца
На людзей душою—
Пекла яму ў гэтым свеце,
А на тым...

Журбою
Не наклічу сабе долі,
Калі так не маю.
Няхай злыдні жывуць тры дні—
Я іх захаваю,
Захаваю змяю люту
Каля свайго сэрца,
Каб і вораг не пабачыў
Як гора смяецца...
Няхай думка, як груган той,
Лётае ды крача,
А сэрцайка салавейкам
Шчабеча ды плача
Цішком—людзі не пабачаць,
То й не засмяюцца...
Не ўцірайце-ж мае слёзы—
Няхай сабе льюцца,
Хай чужое палiваюць
Поле днём і ночай,
Пакуль поп той не засыпле
Чужым пяском вочы...
Вось яно як... А рабіць што!
Журба не паможа.
Хто-ж зайздросціць сіраціне,
Карай таго, божа!

---

Ой, вы, думы, мае думы,
Кветкі мае, дзеці!
Вырашчаў вас, даглядаў вас,
Дзе-ж мне вас падзеці?
На Ўкраіну йдзеце, думы!
На нашу Ўкраіну,
Пад платамі, сіратамі,
А я—тут загіну.
З сэрцам стрэнецеся шчырым
І з словам ласкавым,
Там вы знойдзеце і праўду,
А йшчэ, можа, й славу...

Прывітай-жа, мая маці!
Мая Украіна!
Маіх дзетак неразумных,
Як роднага сына!

[С.-Пецербург
1839]

## ПЕРАБЕНДЗЯ

Перабендзя сляпы, стары—
Хто яго не знае!
Ён усюды блукаецца
Ды на кобзе йграе.
А хто йграе, таго знаюць
Ї дзякуюць людзі.
Ён тугу ім разганяе,
Хоць сам светам нудзіць.
Пад тынамі бедачына
Днюе і начуе,
Няма яму ў свеце хаты;
Нядоля жартуе
Са старога, як з малога,
А ён хоць-бы слова—
Сядзе сабе, заспявае:
«Н е ш у м і, д у б р о в а!»
Заспявае, дый успомніць,
Што ён сіраціна,
Пажурбуе, пасумуе,
Седзячы пад тынам.

Вось такі ён, Перабендзя,
Стары ды хімерны!
Заспявае пра Ч а л о г а,
На Г а р л і ц у зверне;
З дзяўчатамі на выгане—
Г р ы ц а ды в я с н я н к у,
А калі ў шынку з хлапцамі—
С э р б і н а, Ш ы н к а р к у;
З жанатымі на банкеце
(Дзе свякруха злая)—
Пра таполю—ліху долю,
А потым—У г а ю;
Пра Л а з а р а—на кірмашы,
Ці, каб тое знала,
Цяжка-важка заспявае,
Як Сеч руйнавалі.
Вось такі ён, Перабендзя,
Стары ды хімерны!
Заспявае, засмяецца,
А на слёзы зверне.

Вецер вее, павявае,
Па полі гуляе.
Кабзар сядзіць на магіле
Ды на кобзе йграе.
Вакол яго стэп, як мора,
Кавылём хістае;
За магілаю—магіла,
А там—чуць мільгае.
Вус яго сівы, чупрыну
Вецер развявае,
То паслухае, прылёгшы,
Як кабзар спявае;
Як сэрца смяецца, як вочанькі плачуць...
Паслухаў... павеяў...
Стары знайшоў схоў
На магіле ў стэпу, каб ніхто не бачыў,
Каб вецер па полі словы паразмёў,
Каб людзі не чулі—гэта-ж божжа слова,
Гэта сэрца з богам зважна гутарыць,
Гэта сэрца славу шчабеча багову,
А думка край свету на хмары ляціць.
Арлом сізакрылым лятае, лунае,
Аж сіняе неба крыллем дастае;
Спачыне на сонцы, яго запытае,
Дзе яно начуе? Як яно ўстае?
Паслухае мора, што яно гавора?
Гару запытае: «Чаго ты нямая?»
Ды ізноў на неба, бо на зямлі гора,
Бо на ёй, шырокай, куточка не мае
Той вось, хто ўсё знае, той вось, хто ўсё чуе:
Што мора гавора, дзе сонца начуе—
Яго ў гэтым свеце ніхто не прымае.
Адзін ён між імі, як месяц высокі.
Яго знаюць людзі, бо носіць зямля...
А як-бы пачулі, што ён, адзінокі,
Пяе на магіле, з морам размаўляе,—
Дык божае слова яны-б асмяялі,
Дурнем-бы назвалі, ад сябе прагналі:
«Няхай па-над морам,—сказалі-б,—гуляе!»

Добра гэтак, мой кабзару!
Добра, бацька, робіш,
Што спяваці, размаўляці
На магілу ходзіш!
Хадзі сабе, мой галубе,
Пакуль не заснулі
Думкі, сэрца, ды спявай так,
Каб людзі не чулі.
А каб цябе не міналі—
Патурай-жа, брат, ім!
Скачы, ўража, як пан кажа:
На то ён багаты.

Вось такі ён, Перабендзя,
Стары ды хімерны!
Вясельнае заспявае,
А на слёзы зверне.

С.-Пецербург
(1839)



## КАЦЯРЫНА

*В. А. Жукоўскаму*
*на памяць 22 Красавіка 1838 года.*

I

Кахайцеся, чорнабрыўкі,
Ды не з маскалямі,
Маскалі—чужыя людзі,
Чыняць ліха з вамі.
Жартуючы маскаль любіць,
Жартуючы кіне,
Ў Маскоўшчыну сваю пойдзе,
А дзяўчына гіне...
Каб сама, то йшчэ-б нічога,
А то й стара маці,
Што на свет зрадзіла божы,
Мусіць прападаці.
Спяваючы сэрца вяне,
Калі за што знае;
Людзі сэрца не пабачаць,
«Блудніцай» аблаюць.
Кахайцеся-ж, чорнабрыўкі,
Ды не з маскалямі,
Маскалі—чужыя людзі,
Здзекваюцца вамі.

Бацькі, маці Кацярына
Слухаці не стала,
Маскаліка палюбіла,
Як сэрцайка знала.
Палюбіла маладога,
Ў садочак хадзіла,
Пакуль сябе, сваю долю
Там не загубіла.
Вячэраці кліча маці,
А дачка не чуе;
Дзе з маскалікам жартуе,
Там і заначуе.
Не дзве ночы кары вочы
Люба цалавала,
Пакуль слава на сяло ўсё
Нядобрая стала.
Няхай сабе тыя людзі,
Што хочуць гаворадь:
Яна любіць, то й не чуе,
Што ўкралася гора.

Надыйшлі благія весткі—
Ў паход затрубілі,
Маскалі пайшлі на турка,
Катрусю забылі.
Не адчула, ды і што там,
Што дзявоча згуба,
За мілога, як спяваці,
Й патужыці люба.
Абяцаўся чорнабрывы,
Калі не загіне,
Абяцаўся ён вярнуцца,—
Тады Кацярына
Будзе сабе маскоўкаю,
Забудзецца гора;
А пакуль што, няхай людзі
Што хочуць гавораць.

Не журыцца Кацярына—
Слёзачкі ўцірае,
Бо на вуліцы дзяўчаты
Без яе спяваюць.
Не журыцца Кацярына—
Памыецца слёзкай,
Возьме ў поўнач вёдры, пойдзе
Па ваду за вёску,
Каб ворагі не бачылі;
Прыдзе да крыніцы,
Стане сабе пад каліну,
Заспявае Грыца.
Так спявае, вымаўляе,
Аж каліна плача.
Вярнулася—і радзенька,
Што ніхто не бачыў..
Не журыцца Кацярына
І ў думках не мае—
У новенькай хусціначчы
Ў акно пазірае.
Выглядае Кацярына...
Поўгода мінула;
Занудзіла каля сэрца,
У баку кальнула.
Занялала Кацярына,
Ледзьве-ледзьве дыша...
Ачуняла ды ў запечку
Дзіцянё калыша.
А замужкі бубняць бубнам,
Матулю бічуюць,
Што маскалі вяртаюцца
Ды ў яе начуюць:
«Дочка ў цябе чорнабрыва,
Ды йшчэ не ядына,
А муштруе у запечку
Маскоўскага сына.
Чорнабрывага прыдбала...
Знаць, сама вучыла...»
Бадай-жа вас, сакатухі,
Маланка пабіла,
Як і матку, што на смех вам
Сына спарадзіла.

Кацярына, маё сэрца!
Горанька з табою!
Дзе ты дзенешся на свеце
З малым сіратою?
Хто без мілага спаткае,
Як сваіх, хто прыме?
Бацькі ўжо—чужыя людзі,
Цяжка жыці з імі!

Ачуняла Кацярына;
Калыша дзіцятка,
І на вуліцу ў аконца
Паглядае ўкрадкам;
Паглядае—а няма ўсё!..
Няўжо-ж і не будзе?
У садок пайшла-б паплакаць,
Дык пабачаць людзі.
Зайдзе сонца—Кацярына
Па садочку ходзіць,
На ручаньках носіць сына,
Вочкамі паводзіць:
«Вось тут з муштру выглядала,
Вось тут размаўляла,
А там... а там... ах, сыночак!»—
Дый не дасказала...

Зеленеюць у садочку
Чарэшні ды вішні;
Як выходзіла й калісьці,
Кацярына вышла.
Вышла ды ўжо не спявае,
Як раней спявала,
Як маскаля маладога
Ў вішняку чакала.
Не спявае чорнабрыва,
Кляне сваю долю.
А тым часам варажбіткі
Чыняць сваю волю—
Паганую твораць справу.
Што-ж мае рабіці?
Каб быў мілы-чорнабрывы,—
Умеў-бы спыніці...
Так далёка чорнабрывы,
Не чуе, не бача,
Як з яе смяюцца злыдні,
Як Катруся плача.
Мо' забіты чорнабрывы
За ціхім Дунаем;
Ці ў Маскоўшчыне ўжо можа—
Другую кахае!
Не, чарнявы не забіты,
Ён жывы-здаровы...
А дзе-ж знойдзе ён такія
І вочы і бровы?
Ў Маскоўшчыне, на край свету,
Па тым баку мора,
Няма нідзе Кацярыны;
Ды здалась на гора!..
Бровы, кары вачаняты
Даці ўмела маці,
Ды не ўмела ў гэтым свеце
Шчасця, долі даці.
А без долі твар бяленькі—
Як кветка на полі:
Пячэ сонца, трэпле вецер,
Рве ўсякі паволі.
Умывай-жа тварык белы
Дробнымі слязамі,—
Маскалікі вярнуліся
Іншымі шляхамі.

II

Ў канцы стала сядзіць бацька,
На рукі схіліўся;
Не глядзіць ён на свет божы:
Цяжка зажурыўся.
Ля яго старая маці
Сядзіць на услоне,
Са слязамі адно толькі
На дачку гамоне:
«Што, вяселле, мая дочка?
А дзе-ж твая пара?
Дзе сваточкі з ручнікамі,
Прыданкі, баяры?
Ў Маскоўшчыне, мая дочка!
Ідзі-ж іх шукаці,
Ды не кажы добрым людзям,
Што ў цябе ёсць маці.
Ох, праклятаю часінай
Цябе спарадзіла!
Каб ды знала, да ўсход сонца
Была-б утапіла...
Гадзюкавай была-б стравай,
Цяпер—маскалёвай...
Ой, дачушка, ой, дачушка,
Цвеце мой ружовы!
Як ягадку ды як птушку,
Кахала, расціла
На нядолю... Эх, дачушка,
Што ты нарабіла?..
Адплаціла!.. Йдзі, шукай-жа
У Маскве свякрухі.
Не слухала маіх радаў,
Дык яе паслухай!
Ідзі, знайдзі яе, дочка,
Знайдзі, прывітайся,
Будзь шчаслівa ў чужых людзях,
Да нас не вяртайся!
Не вяртайся, мая дзетка,
З далёкага краю...
А хто-ж костачкі мае тут
Без цябе схавае?
Хто заплача нада мною,
Як родная дзетка?
Хто пасадзіць на магіле
Каліну ды кветкі?
Хто без цябе грэшну душу
Будзе памінаці?
Ой, дачушка, ой, дачушка,
Што болей казаці?
Ідзі ад нас!..»

Ледзьве, ледзьве
Паблагаславіла:
«Бог з табою!»—ды, як мёртва,
Галаву скланіла.
Абазваўся стары бацька:
«Чаго жджэш, нябога?»
Заплакала Кацярына,
Ды бух яму ў ногі:
«Даруй ты мне, мой татулька,
Што я нарабіла!
Даруй ты мне, мой галубе,
Мой саколе мілы!»
«Няхай бог табе даруе
Ды добрыя людзі;
Памаліся ды йдзі з богам—
Мо' лягчэй мне будзе».

Пакланілася устаўшы,
Вышла моўчкі з хаткі;
Засталіся сіратамі
Стары бацька й матка.
У садок пайшла вішнёвы,
Малілася богу,
Узяла зямлі з-пад вішні
Сабе на дарогу;
Прашаптала: «Не вярнуся!
У далёкім краі,
У чужой зямлі чужыя
Мяне пахаваюць;
А сваёй гэты драбочак
Нада мною ляжа,
Ды пра долю, маё гора
Чужым людзям скажа...
Не расказывай, галубка!
Дзе-б ні пахавалі,
Каб на гэтым свеце грэшнай
Людзі не чапалі!
Ты не скажаш... Вось хто скажа,
Што яго я маці!
Мой ты божа! Маё гора!
Дзе-ж мне захавацца?
Схаваюся, мая дзетка,
Сама пад вадою,
А за грэх мой адцярпіш ты
Ў людзях сіратою,
Бязбацькаўцам!..»

Пайшла вёскай
З плачам Кацярына,
Завязаўшыся хусцінай,
Галубячы сына.
Азірнулася, як вышла,
Сэрцайка заныла,
Паківала галавою
Дый загаласіла.
Як таполя, стала ў полі
Пры бітай дарозе;
Як раса да ўсходу сонца,
Пакапалі слёзы.
За горкімі за слязамі

І свету не бача,
Толькі сына прыгартае,
Цалуе ды плача.
А яно, як ангелятка,
Нічога не знае,
Ручаняткамі малымі
Пазухі шукае.

Села сонца, чуць дзе-не-дзе
Зоркі зазіялі,
Слёзы ўцерла, папялася...
Нікне... знікла ў далі.
Доўга ў сяле гаманілі
Дасужыя свацці,
Ды не чулі тых гамонак
Ні бацька, ні маці...

Вось-жа як на гэтым свеце
Робяць людзям людзі!
Таго вяжуць, таго рэжуць
Той сам сябе губіць...
А за што? Святы іх знае.
Свет, як глянь, шырокі,
Ды няма дзе прыхіліцца
Ў свеце адзінокім.
Таму доля дала месца
Ад краю да краю,
А другому тры аршыны,
Дзе і пахаваюць.
Дзе-ж добрыя тыя людзі,
Што сэрца жадала
З імі жыці, іх любіці?
Прапалі, не стала!

Ёсць на свеце доля,
А хто яе знае?
Ёсць на свеце воля,
А хто яе мае?
Ёсць людзі на свеце—
Золатам зіяюць;
Здаецца, пануюць;
А долі не знаюць,—
Ні долі, ні волі!
З нудою ды з горам
Жупан надзяваюць,
А плакаці—сорам...
Забярыце скарбы,
Жывіце ў багацці,
А я вазьму слёзы—
Гора заліваці.
Затаплю нядолю
Дробнымі слязамі,
Затапчу няволю
Босымі нагамі!
Тады я вясёлы,
Тады ўсё—багаццем,
Як сэрцайка будзе
На волі гуляці.

III

Крычаць совы, спіць дуброва,
Зорачкі зіяюць;
Па-над шляхам чарадою
Начніцы гуляюць.
Людзі добрыя паснулі;
Што каго ўтаміла:
Каго—шчасце, каго слёзы,—
Ночка ўсіх пакрыла,
Ўсіх цямненькая пакрыла,
Як дзетачак маці;
Дзе-ж Катрусю прыгарнула:
Ці ў лесе, ці ў хаце?
Ці на полі пад капою
Сына забаўляе,
Ці ў дуброве з-пад калоды
Ваўка выглядае?
Бадай-жа вас, чорны бровы,
Нікому не меці,
Чым за вас бяду такую
Самахоць цярпеці!
А што йшчэ далей сустрэне?
Будзе ліха, будзе!
Сустрэнецца пясок жоўты
І чужыя людзі;
Сустрэнецца зіма, сцюжа...
А той—ці спаткае,
Ці пазнае Кацярыну,
Сына прывітае?
З ім забыла-б чорнабрыва
Шляхі, пяскі, гора:
Ён, як маці, прывітае,
Як брат, загавора...

Будзем бачыць, а пакуль што—
Адпачыну троху,
Ды тым часам распытаю
На Маскву дарогу.
Ой, далёкі шлях, браточкі!
Знаю яго, знаю!
Ажно сэрца ледзянее,
Як успамінаю.
І я калісь папамераў—
Каб яго не мерацць!..
Расказаў-бы я пра гэта,
Але ці-ж павераць?
«Хлусіць,—скажуць,—такі-гэткі!
(Ведама, не ў вочы),
А так толькі псуе мову
Ды людзей мароча».
Праўда ваша, праўда, людзі!
Нашто-ж тое знаці,
Што слязамі перад вамі
Буду выліваці?
Нашто яно? У кожнага
Ці-ж свайго не хваце?..

А ну яго!.. А тым часам
Крэсіва лепш дайце
Ды табакі, каб, як кажуць,
З гора не журыцца.
А то гаварыць аб ліху—
Бяда йшчэ прысніцца!
Няхай яе ліха возьме!
Лепей памяркую,
Дзе мая ўжо Кацярына
З Іванкам вандруе.

За Кіевам ды за Днепрам,
Па-пад цёмным гаем,
Чумачэнькі ідуць шляхам,
П у г а ч а спяваюць.
Ідзе шляхам маладзіца,
Неіначай з прошчы.
Чаго-ж смутная такая,
Заплаканы вочы?
На плячах звісае клумак,
Латана апратка,
У руцэ кій. на другой-жа—
Заснула дзіцятка.
Сустрэлася з чумакамі,
Дзіцё закрывае.
«Ці ў Маскоўшчыну шлях гэты?»
Чумакоў пытае.
«Ў Маскоўшчыну? Гэты самы.
Далёка, нябога?»
«У Маскву аж! Майце літасць,
Дайце на дарогу!»
Бярэ грош і аж трасецца:
Цяжка яго браці!..
Дый нашто ёй?.. А дзіцятка?
Яна-ж яго маці!..
Заплакала, пайшла шляхам,
Ў Броварах спачыла,
Ды сыночку за мядзяк той
Перніка купіла.
Доўга, доўга сіраціна
Ўсё йшла ды пытала;
Было й гэтак, што пад тынам
З сынам начавала...

Бач, нашто здаліся кары вачаняты:
Каб пад чужым тынам слёзы выліваць!
Вось-жа пазважайце й кайцеся, дзяўчаты,
Каб не давялося маскаля шукаць,
Каб не давялося, як Кася шукае...
Тады не пытайце, за што людзі лаюць,
За што не пускаюць ў хату начаваць.

Не пытайце, чорнабрыўкі,
Бо людзі не знаюць;
Каго бог караць захоча,
То й яны караюць...
Людзі гнуцца, нібы лозы,
Куды вецер вее;
Сіраціне сонца свеціць—
(Свеціць, ды не грэе.)—
Людзі-б сонца заступілі,
Калі-б мелі сілу,
Сіраце каб не свяціла
І слёз не сушыла.
А завошта, божа мілы?
За што светам нудзіць?
Што яна людзям зрабіла,
Чаго хочуць людзі?
Каб плакала!.. Маё сэрца!
Не плач, Кацярына,
Не паказвай людзям слёзы,
Цярпі да загіну!
А каб твар не марнаваўся
З чорнымі брывамі,—
Да ўсход сонца ў цёмным лесе
Умыйся слязамі.
Умыешся—не пабачаць
І не засмяюцца;
А сэрцайка адпачыне,
Пакуль слёзы льюцца.

Вось-жа як пагана, бачыце, дзяўчаты!
Жартуючы кінуў Катрусю маскаль.
Нядоля не бачыць, з кім ёй строіць жарты,
А людзі хоць бачаць, ды людзям не жаль.
«Няхай,—кажуць,—гіне лядача дзяўчына,
Калі ўжо не ўмела сябе шанаваць!»
Шануйцеся-ж, любкі! Ў благую часіну
Каб не давялося маскаля шукаць!

Дзе-ж Катруся блудзіць?
Пад тынамі начавала,
Раненька ўставала,
Ў Маскоўшчыну паспяшала;
Аж бух—зіма стала.
Свішча полем завіруха;
Ідзе Кацярына
У лапцях—цяжкое гора!—
Вецер рве хусціну.
Кацярына йдзе, дыбае;
Глядзіць—штось віднее...
Маскалікі йдуць, здаецца...
Ой-жа!.. Сэрца млее...
Паглядзела, іх сустрэла:
«Ці няма,—пытае,—
Чарнявага майго Йвана?»
Тыя-ж: «Мы не знаем».
І, як маскалі звычайна,
Смяюцца, жартуюць:
«Ай да баба! Ай да наши!
Кого не надуют!»
Паглядзела Кацярына:
«І вы, бачу, людзі!
Не плач, сынку, маё гора!
Што будзе, то й будзе.
Пайду далей—больш хадзіла...

А можа й спаткаю;
Аддам цябе, мой галубе,
А згіну сама я».

Раве, стогне завіруха,
Коціць, верне полем;
Стаіць Кася сярод поля,
Дала слёзам волю.
Утамілася завея,
Там-сям пазяхае;
Яшчэ-б плакала Катруся,
Ды слёз больш не мае.
Паўзіралася на дзіця:
Ўмытае слязою,
Чырванее, нібы кветка
Ўранку пад расою.
Ўсміхнулася Кацярына,
Ўсміхнулася жудка:
Каля сэрца скрабянула
Чорная гадзюка.
Вокал моўчкі паглядзела;
Бачыць—лес чарнее,
А пад лесам, край дарогі,
Як-бы дом віднее.
«Хадзем, сыне! Змяркаецца...
Ў хату пусцяць, можа,
А не пусцяць, то і ў полі
Начаваці зможам.
Пад хатаю заначуем,
Сыне мой Іване!
Дзе-ж ты будзеш начаваці,
Як мяне не стане?
З сабакамі, мой сыночку,
Дзялі сваё гора!
Сабакі хоць пакусаюць,
Ды не загавораць,
Не раскажуць смеючыся...
З сабакамі жыці...
Бедна-ж мая галовачка!
Ой, што мне рабіці?»

Сірата, сабака мае сваю долю
І добрае слова ў свеце сірата;
Яго б'юць і лаюць, куюць у няволю,
І ніхто пра матку не стане пытаць.
А Янку спытаюць, зарання пацешаць,
Не дадуць да мовы дзіцяці дажыць.
На каго сабакі на вуліцы брэшуць?
Хто голы, галодны пад тынам сядзіць?
Абібок, гультай хто, як не байстручаты?!
Адна яго доля—чорны вачаняты,
З зайздрасці й тых людзі не даюць насіць.

IV.

Каля гары над ярам-долам,
Як старцы, ўзняўшы сваю голаў,
Дубы з гетманшчыны стаяць.
Грабелька ў яры, вербы ў рад,
Ставок пад крыгаю ў няволі,
У ім палонка—ваду браць.
Як круг чырвоны чырванее,—
З-за хмары сонца усплыло;
Надзьмуўся вецер,—як павее!
Няма нічога, скрозь бялее...
Ды толькі ў лесе загуло.

Раве, свішча завіруха.
Па лесе завыла;
Як-бы мора, бела поле
Снегам закаціла.
Вышаў з хаты карбаўнічы
Лесу аглядаці,
Ды куды там! Гэткі розрух!
Свету не відаці.
«Эге, бачу, што за немач!
Ліха-ж яго з лесам!
Пайсці ў хату... Але што там?
Ну іх да-ста-бесаў!
Ліхаццё іх разнасіла,
Як-бы й справу мелі.
Глянь, Нічыпар, прыглядзіся!
Як-жа пабялелі!»
«Што, маскалі?.. Дзе маскалі?»
«Што ты? Схамяніся!..»
«Дзе маскалі, галубочкі?»
«Ды вунь, падзівіся!»
Паляцела Кацярына,
Не ўспела адзецца.
«Мабыць, добра Маскоўшчына
Ў знакі ёй даецца!
Бо ўначы толькі і знае,
Што маскаля кліча».
Цераз пні, цераз сувеі
Ляціць, ледзьве дыша.
Босай стала сярод шляху,
Махае рукамі.
А маскалі ёй насустрач,
Як адзін, вярхамі.
«Доля-ж мая! бяда-гора!»
Да іх... Калі гляне—
Наперадзе старшы едзе.
«Любы мой Іване!
Каханае маё сэрца!
Дзе-ж ты быў падзеўся?»
Ды да яго... за страмёны...
А ён прыглядзеўся,
Ды шпорамі каня ў бокі.
«Чаго-ж ты ўцякаеш?
Забыў хіба Кацярыну?
Хіба не пазнаеш?
Прыглядзіся, мой галубе,
На мяне глянь, скемі:
Я—Катруся твая люба,

Нашто рвеш ты стрэмя?»
А ён каня паганяе,
Нібы і не бача.
«Пачакай-жа, мой галубе!
Зірні—я не плачу.
Не пазнаў мяне, Іване?
Сэрца, прыглядзіся,
Ей-жа богу, я—Катруся!»
«Дура, отвяжися!
Возьмите прочь безумную!»
«Божа мой! Івасю!
І ты мяне пакідаеш?
А ты-ж прысягаўся!»
«Возьмите прочь! Что ж вы стали?»
«Каго? Мяне ўзяці?
За што-ж скажы, мой галубе?
Каму хочаш даці
Сваю Касю, да цябе што
Ў садочак хадзіла,
Сваю Касю, для цябе што
Сына спарадзіла?
Мой бацечка, мой браточак!
Хоць ты не цурайся!
Найміткаю табе стану...
З другою кахайся...
З цэлым светам... Я забуду,
Што калісь кахала,
Што ад цябе сына мела,
Пакрыткаю стала...
Пакрыткаю... Які сорам!
І за што я гіну?
Кінь мяне, забудзь мяне ты,
Ды не кідай сына.
Не пакінеш?.. Маё сэрца,
Пастой! Прашу вельмі!..
Я вынесу табе сына».
Выпусціла стрэмя,
Ды ў хаціну. Бяжыць з хаты,
Нясе яму сына.
Заплаканы, неспавіты
Бедны сіраціна.
«Во яно дзе, на, прыгледзься!
Дзе-ж ты? захаваўся?
Ўцёк!.. няма ўжо!.. Сына, сына
Бацька адцураўся!
Божа ты мой!.. Мая дзетка!
Дзе-ж дзецца з табою?
Маскалікі! галубочкі!
Вазьміце з сабою;
Не цурайцеся, браточкі:
Яно сіраціна;
Забярыце і аддайце
Старшаму за сына.
Забярыце!.. Бо пакіну,
Як бацька пакінуў,—
Бадай яго не кідала
Горкая часіна!..
Грэхам цябе на свет божы
Маці спарадзіла;
Вырастай-жа на смех людзям!»
На шлях палажыла.
«Заставайся шукаць бацькі,
А я ўжо шукала...»
Ды ў лес з шляху, як вар'ятка!
І следу не стала.
Дзіцё плача... Маскалям што?
Балазе; мінулі.
Яно й добра; ды на ліха
Леснікі пачулі.

Кася бегае па лесе,
Бегае, галосіць,
То кляне свайго Івана,
То плача, то просіць.
Выбягае на узлессе;
Зірнула навокал,
Ды ў яр... бяжыць... сярод ставу
Стала адзінока.
«Прымі, божа, маю душу,
А ты—маё цела!»
Бух старчма ў ваду!.. Пад лёдам
Глуха забурлела.

Чорнабрыва Кацярына
Знайшла, што шукала.
Дзьмухнуў вецер па-над ставам—
І следу не стала.

То не вецер, то не буйны,
Што дубы ламае;
То не гора, не ліхое,
Што маці ўмірае;
Не сіроткі тыя дзеці,
Што мамка ў зямельцы,
Слава добрая й магіла
Для іх застанецца.
Як дакучаць злыя людзі
Малой сіраціне,—
Выпье слёзы на магілу—
Сэрцайка спачыне.
А таму якая доля,
Доля засталася,
Каго бацька і не бачыў,
Маці адраклася?
Байструку што засталося?
Хто з ім загавора?
Ні радні той, ні хаціны;
Шляхі, пяскі, гора...
Панскі тварык, чорны бровы...
Нашто? Каб пазналі!
Выпесціла, не схавала...
Бадай паліналі!

## V

Ішоў кабзар да Кіева,
Сеў спачыць з дарогі.
З ім, абчэплены вузламі,
Павадыр убогі.
Ля яго дзіця малое
Дрэмле, як нядбае,
А стары кабзар тым часам
І с у с а спявае.
Хто йдзе, едзе—не мінае:
Хто—праснак, хто—грошы;
Хто старому, а дзяўчаты—
Шэлег механошы.
Падзівяцца чорнабрыўкі—
І босы і голы.
«Дала,—кажуць,—вочкі, броўкі,
Ды не дала долі!»

Едзе шляхам да Кіева
Шасцярнёй карэта,
А ў карэце пан і пані,
Шыкарна адзеты.
Апынуліся ля старцаў—
Пыл густы злягае.
Пабег Янка, бо з аконца
Рукою махае.
Дае пані Янку грошы,
Дзівуецца пані,
А пан глянуў... адвярнуўся...
Распазнаў паганы,
Пазнаў чорныя ён бровы
І карыя вочы...
Пазнаў бацька свайго сына,
Але ўзяць не хоча.
«Як завуць?» пытае пані.
«Янка».—«Какой милый!»
Коні рушылі, а Янку
Абсыпала пылам...
Палічылі небаракі,
Што дасталі, ўсталі,
Памаліліся на сонца,
Пайшлі шляхам далей.

С.-Пецербург
(1838)



# ТАПОЛЯ

Па дуброве вецер вее,
Гуляе па полі;
Ля дарогі аж да долу
Згінае таполю.
Стан высокі, ліст шырокі
Марна зелянее;
Кругом поле, нібы мора
Шырака, сінее.
Чумак ідзе, азірнецца,
Дый галаву схіліць;
Чабан раніцай з жалейкай
Сядзе на магіле,
Азірнецца—сэрца ные:
Вокал ні быліны!
Адна, адна, як сіротка
На чужыне, гіне!

Хто-ж узросціў, каб у стэпу
Ёй марнець здарма так?
Пачакайце, раскажу ўсё.
Слухайце-ж, дзяўчаты!

Палюбіла чорнабрыва
Казака дзяўчына,
Палюбіла—не спыніла:
Пайшоў, дый загінуў...
Каб-жа знала, што пакіне,—
Была-б не любіла;
Каб-жа знала, што загіне,—
Была-б не пусціла.
Каб-жа знала—не хадзіла-б
Позна за вадою,
Не стаяла-б да поўночы
З мілым пад вярбою;
Каб-жа знала!..
Таго ліха—
Як знаці пачатак,
Што нам стрэнецца на свеце...
Не знайце, дзяўчаты!
Не пытайце сваёй долі!..
Само сэрца знае,
Каго любіць. Няхай вяне,
Пакуль закапаюць,
Бо не доўга, чорнабрыўкі,
Кары вачаняты,
Твар бялявы чырванее—
Не доўга, дзяўчаты!
Да палудня, дый завяне,
Бровы паліняюць...
Кахайцеся-ж, любіцеся
Як сэрцайка знае.

Зашчабеча салавейка
Ў лузе на каліне,
Заспявае казачэнька,
Йдучы па даліне.
Заспявае, пакуль з хаты
Дачакае мілай,
А ён яе запытае:
«Ці маці не біла?»
Стануць сабе, абыймуцца;
Пяе салавейка;
Паслухаюць, разыйдуцца—
Абое радзенькі...
Ніхто таго не пабачыць,
Ніхто не спытае:
«Дзе была ты, што рабіла?»
Сама сабе знае...
Любілася, кахалася,
А сэрцайка млела:
Нядолечку сэрца чула,
А сказаць не ўмела.
Не сказала—засталася,
Дзень і ноч варкуе,
Як без голуба галубка,
А ніхто не чуе...

Не шчабеча салавейка
Ў лузе над вадою,
Не спявае чорнабрыва,
Стаўшы пад вярбою;
Не спявае,—як сіротка
Белым светам нудзіць,
Без мілога бацька, маці—
Як чужыя людзі;
Без мілога сонца свеціць—
Як вораг смяецца;
Без мілога скрозь магіла...
А сэрцайка б'ецца.

Год мінуў, другі мінуў год,—
Казак не вяртае;
Яна сохне, нібы кветка;
Маці не пытае:
«Чаго вянеш, мая дзетка?»—
Яна не спытала,
За багатага старога
Выйсці намаўляла.
«Ідзі, дочка!—кажа маці
Не век дзеўкай быці!
Ён багаты, адзінокі—
Будзеш паняй жыці!»
«Не хачу я панаваці,
Не пайду я, мама!
Ручнікамі, што прыдбала,
Спусці мяне ў яму.
Хай папы мне заспяваюць,
А дружкі заплачуць:

Лягчэй мне ў труне ляжаці,
Чымся яго бачыць».

Не слухала стара маці,
Рабіла, што знала,—
Усё бачыла дзяўчына,
Сохла ды маўчала.
Пайшла ўночы к варажбітцы,
Каб паваражыці—
Ці ёй доўга йшчэ на свеце
Адзінокай жыці?..
«Бабуленька, маё сэрца,
Малю з усёй сілы,
Скажы шчырую мне праўду:
Дзе сэрцайка-мілы?
Ці здароў-жыў? Ці ён любіць?
Ці забыў-пакінуў?
Скажы-ж ты мне, дзе мой мілы?
На край свет палыну!
Бабуленька, маё сэрца,
Скажы, калі знаеш...
Бо выдае мяне маці
За старога замуж.
Любіць яго, бабуленька,
Сэрца не наўчыці.
Пайшла-ж бы я утапіцца—
Жаль душу згубіці...
Калі не жыве мой любы,—
Зрабі, калі ласка,
Каб дамоў не вярнулася...
Цяжанька мне, цяжка!
Там стары жджэ са сватамі...
Скажы-ж маю долю!»
«Добра, дзетка! Спачынь трошкі...
Чыні-ж маю волю.
Я сама была дзяўчынай—
Гэта ліха знаю;
Мінулася,—наўчылася:
Людзям памагаю.
Тваю долю, мая дзетка,
Я залетась знала,
І залетась траўкі-зелля
Для таго прыдбала».

Пайшла баба і дастала
Пляшачку з паліцы.
«Вось на табе гэта дзіва!
Пайдзі да крыніцы;
Пакуль пеўні не спявалі,
Умыйся вадою,
Выпі трошкі гэтых зёлак—
Гора ўсё загояць.
Бяжы, выпіўшы, як змога;
Што-б там ні крычала,
Не агляньсь, пакуль станеш
Там, дзе развіталась.
Адпачынеш; а як стане
Месяц сярод неба,
Выпі йшчэ раз, а не прыдзе—
Ў трэць раз выпіць трэба.
За раз першы, як і летась,
Будзеш ты такою;
За другі раз—сярод стэпу
Тупне конь нагою.
Калі жыў твой казачэнька,
То зараз прыбудзе...
А за трэці, мая дзетка!
Не пытай, што будзе...
Ды йшчэ, чуеш, не хрысціся,
Бо ўсё пойдзе ў воду...
Цяпер-жа йдзі, палюбуйся
На леташню ўроду».

Ўзяла зелле, пакланілась:
«Дзякую, бабуся!»
Вышла з хаты: «Ці йсці, ці не?..
Не, ўжо не вярнуся!»
Прышла... Ўмылася, выпіла,
Ціха мірганула,
Двойчы, тройчы напілася,
Назад не зірнула.
Паляцела, як на крыллях,
Сярод стэпу пала...
Пала, стала, заплакала
І... і заспявала.

«Плавай, плавай, лебядзінка,
Па сіняму мору!
Расці, расці, тапалінка,
Усё ўгору, угору!
Расці гнуткай ды высокай
Да самае хмары,—
Спытай бога, ці дажду я,
Ці не дажду пары?
Расці, расці, прыглядзіся
За сіняе мора:
Па тым боку—мая доля,
А па гэтым—гора.
Там дзесь мілы, чорнабрывы
Спявае, гуляе,
А я плачу, леты трачу,
Яго выглядаю.
Скажы яму, маё сэрца,
Што смяюцца людзі;
Скажы яму, што загіну,
Як яго не будзе!
Сама хоча мяне маці
Ў зямлю пахаваці...
А хто-ж яе галовачку
Будзе даглядаці?
Хто дагледзіць, запытае,
На старасць паможа?
Мая-ж мама!.. мая-ж доля!..
Божа мілы, божа!..

Зірні-гляні, тапалінка!
Як няма—заплачаш
Да ўсход сонца, ранюсенька,
Каб ніхто не бачыў...
Расці-ж, сэрца-тапалінка,
Усё ўгору ўгору!
Плавай, плавай, лебядзінка,
Па сіняму мору!»
Гэтак тая чорнабрыўка
Плакала, спявала...
І на дзіва сярод поля
Таполяю стала.
Па дуброве вецер вее,
Гуляе па полі,
Край дарогі гне таполю
Да самага долу.

С.-Пецербург
(1839)

## ДУМКА

Нашто чорныя мне бровы,
Нашто кары вочы,
Нашто леты маладыя,
Думачкі дзявочы?
Леты мае маладыя
Марна прападаюць,
Вочы плачуць, чорны бровы
Ад ветру ліняюць.
Сэрца вяне, нудзіць светам,
Як птушка без волі...
Нашто-ж мне, краса мая ты,
Калі няма долі?
Цяжка-цяжка сіратою
Мне на свеце жыці;
Свае людзі—як чужыя,
Не з кім гаварыці;
Няма каму распытаці,
Чаго плачуць вочы;
Няма каму расказаці,
Чаго сэрца хоча,
Чаго сэрца, як галубка,
Дзень і ноч варкуе;
Ніхто яго не пытае,
Не знае, не чуе.
Чужы людзі не спытаюць—
Дый нашто пытаці?
Няхай плача сірацiна,
Няхай леты траціць...
Плач-жа, сэрца, плачце вочы,
Пакуль не заснулі,
Галаслівей, жаласлівей,
Каб ветры пачулі.
І каб буйныя панеслі
За сіняе мора
Чарняваму здрадліваму
На лютае гора!

С.-Пецербург
(1839)

# ДА АСНАВЯНЕНКІ

Б'юць парогі; ўсходзіць месяц,
Як і перш усходзіў...
Няма Сечы, прапаў і той,
Хто ўсім верхаводзіў.
Няма Сечы! Ачароты
У Дняпра пытаюць:
«Дзе дзеліся нашы дзеці?
Дзе яны гуляюць?»
Лятаючы скігліць чайка,
Бы па дзецях плача;
Сонца грэе, вецер вее
На стэпу казачым.
На тым стэпу скрозь магілы
Стаяць ды сумуюць;
Ветра буйнага спытаюць:
«Дзе нашы пануюць?
Дзе пануюць, банкятуюць?
Дзе вы загасцілі?..
Вярнецеся! Во, пшаніцы
Колас пахілілі,
Дзе пасліся вашы коні,
Дзе трава шумела,
Дзе кроў ляхаў і татараў
Морам чырванела.
Вярнецеся!..»
«Не вернуцца!—
Загулі, сказалі
Хвалі мора.—Не вернуцца,
Навекі прапалі!»
Праўда, праўда, сіне мора:
Такая іх доля!
Не вернуцца чаканыя,
Не вернецца воля,
Не вернуцца запарожцы,
Не ўстануць гетманы,
Не пакрыюць Украіну
Чырвоны жупаны.
Абадрана сіратою
Па-над Днепрам плача;
Цяжка-цяжка сіраціне,
А ніхто не бача,
Толькі вораг, што смяецца...
Смейся, люты ўража!
Дый не дужа, бо ўсё гіне,—
Слава не паляжа;
Не паляжа, а раскажа,
Што было на свеце,
Чыя праўда, чыя крыўда,
І чые мы дзеці.
Наша дума, наша песня
Не ўмрэ, не загіне...
Вось дзе, людзі, наша слава,
Слава Украіны!
Без золата, без камення,
Без хітрае мовы,
Галасіста ды праўдзіва,
Як божае слова...
Ці так, бацька-атамане?
Ці праўду спяваю?
Эх, каб тое!.. Ды казаць што!—
Таленту не маю.
Маскоўшчына йшчэ пры гэтым,
Скрозь чужыя людзі.
«Не патурай!»—можа скажаш:
Ды што з таго будзе?
Насмяюцца з таго псалму,
Што вылью слязамі;
Насмяюцца!.. Цяжка, бацька,
Жыці з варагамі!
Пабароўся-б і я можа,
Каб сілы прыклікаў;
Заспяваў-бы,—галасок быў,
Ды з'елі пазыкі.
Вось яна бяда якая,
Бацька мой, ліхая!
Блуджу ў снезе ды сабе сам:
«Ой не шумі, гаю!»
Не зайграю больш. Ты-ж, бацька,
Як сам здароў знаеш,
Цябе людзі паважаюць,
Добры голас маеш.
Спявай-жа ім, мой галубе!
Пра Сеч, пра магілы,
Дзе насыпалі якую,
Каго палажылі;
Пра былое й тыя дзівы,
Што былі, мінулі...
Зайграй, бацька! Каб нехаця
На ўвесь свет пачулі,
Што тварылася на Ўкрайне,
За што памірала,
За што слава казацкая
На ўсім свеце стала!

. . . . . . . .

. . . . . . . .

Зайграй, бацька, арол сізы!
Няхай я заплачу,
Няхай сваю Украіну
Я йшчэ раз пабачу;
Хай паслухаю яшчэ раз,
Як мора іграе,

Як дзяўчына пад вярбою
Грыца заспявае;
Хай яшчэ раз усміхнецца
Сэрца на чужыне,
Пакуль ляжа ў чужу землю,
Ў чужой дамавіне!

С.-Пецербург
(1839)

---

## ІВАН ПАДКОВА

*В. І. Штэрнбергу*

I

Было калісь на Ўкраіне—
Гарматы равелі;
Было калісь—запарожцы
Панаваць умелі!
Панавалі, здабывалі
І славу і волю,—
Мінулася: засталіся
Магілы на полі.
Ой, высокія магілы
Ля долаў-байракаў,
Дзе казацкае спіць цела,
Спавіта кітайкай.
Ой, высокія магілы
Чарнеюць, як горы,
Ды пра волю сціха ў полі
З ветрамі гавораць.
Сведка прадзедавай славы
З ветрам размаўляе,
А касу ў расу нясе ўнук,
За імі спявае.

Было калісь на Ўкраіне—
Гора танцавала,
Журба ў шынку мёд-гарэлку,
Як ваду, смактала.
Было калісь добра жыці
На той Украіне...
Дык успомнім, можа сэрца
Хоць трохі спачыне.

II

Чорна хмара з-за Ліману
Неба, сонца крые;
Сіне мора дзікім зверам
То стогне, то вые.
Дняпра вусце затапіла...
«Нуце, хлопцы-брацці,
На байдакі! Мора грае—
Хадзем пагуляці!»

Высыпалі запарожцы—
Ліман чоўны ўслалі.
«Грай-жа, мора!»—заспявалі,
Пайшлі пенай хвалі;
Кругом хвалі, нібы горы—
Ні зямлі, ні неба.
Сэрца млее, казакам-жа
Таго толькі й трэба—
Плывуць сабе ды спяваюць;
Рыбалка лятае;
Атаман стаў на сам-перад,
Вядзе, куды знае.
Пахаджае ўздоўж байдака,
Гасне люлька ў роце;
Пазірае сюды-туды—
Дзе-та быць рабоце?
Закруціўшы чорны вусы,
За вуха чупрыну,
Падняў шапку—чоўны сталі.
«Няхай вораг гіне!
Не ў Сынопу, атаманы,
Панове-малойцы!

А ў Цараград да султана
Паедзем у госці!»
«Добра, бацька-атамане!»—
Кругом заравела.
«Дзякуй-жа вам!» Надзеў шапку.

Ізноў закіпела
Сіне мора. Ўздоўж байдака
Ізноў пахаджае
Пан атаман ды на хвалю
Моўчкі паглядае.

С.-Пецербург
(1839)

---

## ТАРАСАВА НОЧ

Сядзіць кабзар на распуцці
Ды на кобзе йграе;
Кругом хлопцы ды дзяўчаты—
Як мак зацвітае.
Кабзар грае, падпявае,
Гамоніць славамі,
Як маскалі, орда, ляхі
Біліcь з казакамі;
Як збіралася грамада
У нядзелю зранку;
Як хавалі казачэньку
Ў зялёным байраку.
Кабзар грае, падпявае,
Аж бяда хіхоча:

«Была калісь Гетманшчына,
Больш не ўбачаць вочы;
Было калісь—панавалі,
Ды болей не будзем...
Той казацкай волі, славы
Павек не забудзем!
Украіна, Украіна!
Сэрца маё, маці!
Як успомню тваю долю,
Сэрцайка заплача!
Дзе падзелася казацтва,
Чырвоны жупаны?
Дзе падзелась доля-воля,
Бунчугі, гетманы?
Дзе падзелася? Згарэла?
Ці мо затапіла
Сіне мора твае горы,
Курганы-магілы?

Маўчаць горы, грае мора,
Магілы сумуюць,
А над дзецьмі казацкімі
Паганцы пануюць!
Грай-жа, мора! Спіце, горы!
Гуляй, вецер, полем!
Плачце, дзеці казацкія,—
Такая вам доля!

Ўстае хмара з-за Ліману,
А другая з поля;
Зажурылася Ўкраіна,—
Бо такая доля!
Зажурылася жалобна,
Як маці па сыне,
Ніхто яе не ратуе...
А казацтва гіне;
Гіне бацькаўшчына, слава;
Няма дзе ёй дзецца;
Вырастаюць нехрышчоны
Казацкія дзеці;
Кахаюцца невянчаны;
Без папа хаваюць;
Запрадана жыдам вера,
Ў цэркву не пускаюць!..
Нібы галкі поле крыюць,
Ляхі, уніяты
Налятаюць,—няма каму
Рады даць праклятым.
Абазваўся Налівайка—
Не стала краўчыны!..
Выступаў казак Паўлюга —
За ёю палынуў.

Выступаў Тарас Трасіла
З горкімі слязамі:
«Бедная мая Украіна,
Стоптана ляхамі!»

. . . . . . . . . .

. . . . . . . . . .

. . . . . . . . . .

. . . . . . . . . .

Выступаў Тарас Трасіла
Веру ратаваці,
Выступаў ён, арол сізы,
Дый даў ляхам знаці!
Выступаў-жа пан Трасіла:
«А годзе журыцца!
А хадзем лепш, паны-брацці,
З палякамі біцца!»

Не тры дні ўжо, не тры ночы
Б'ецца пан Трасіла,
Ад Ліману да Трубайла
Трупам поле ўкрыла.
Казачэнька ўвесь знямогся,
Цяжка зажурыўся,
А паганы Канецпольскі
Дужа ўзвесяліўся;
Сабраў шляхту ўсю да гурту,
Дый ну частаваці.
Сабраў Тарас казачэнькаў—
Парады пытаці:
«Таварышы, атаманы,
Браты мае, дзеці!
Дайце мне якую раду,
Што рабіць намецім?..
Банкятуюць злыдні-ляхі
Наша безгалоўе».
«Няхай сабе банкятуюць,
Няхай, на здароўе!
Хай, праклятыя, балююць,
Пакуль сонца зайдзе,
А ноч-маці дасць параду,—
Казак ляха знайдзе».

Лягло сонца за гарою,
Зоркі зазіялі,
А казакі чорнай хмарай
Ляхаў абступалі.
Як стаў месяц сярод неба,
Раўнула гармата;
Прачнуліся панкі-ляхі,
Спужаліся надта.
Прачнуліся панкі-ляхі
Дый не паўставалі:
Ўзыйшло сонца—панкі-ляхі
Покатам ляжалі.

Чырвонаю гадзюкаю
Нясе Альта весці,
Каб ляцелі груганы ўжо
Панкоў-ляхаў есці.
Груганы ўжо наляцелі
Зваць паноў збудзіцца;
Сабіралася казацтва
Богу памаліцца.
Закрумкалі груганы там,
Вымаючы вочы;
Заспявалі казачэнькі
Песню таей ночы, —
Той крывавай грознай ночы,
Што славаю стала
Тарасу, ўсяму казацтву,
Ляхаў што прыспала.

«Над ракою ў чыстым полі
Магіла чарнее;
Дзе казацкая цякла кроў—
Трава зелянее.
Сядзіць груган на магіле
Ды з голаду крача...
Ўспомніць казак Гетманшчыну,
Ўспомніць ды заплача».

Сумуючы, кабзар змоўкнуў:
Штось рукі не граюць.
Кругом хлопцы ды дзяўчаты
Слёзанькі ўціраюць.

Пайшоў кабзар па вуліцы,
З нуды як зайграе!
Кругом хлопцы у прыскокі,
А ён прыпявае:
«Няхай будзе з груцы грэчка!
Сядзьце, дзеці, у запечку,
А з нуды я ды ў карчомку,
А там знайду сваю жонку,
Знайду жонку, пачастую,
З варажбітак пажартую».

С.-Пецербург
(1839)

## Н. МАРКЕВІЧУ

Бандурыста, арол сізы!
Добра табе, браце:
Маеш крылле, маеш сілу,
Ёсць калі лятаці.
Цяпер ляціш на Ўкраіну—
Цябе выглядаюць.
Паляцеў-бы я з табою,
Ды хто прывітае?
Я чужы тут, адзінокі,
І на Украіне
Сірата я, мой галубе,
Як і на чужыне.
Чаго-ж сэрца б'ецца, рвецца?
Я там—адзінокі!..
Адзінокі... А Ўкраіна!
А той стэп шырокі!
Там павее вецер буйны,
Як брат загавора;
Там у полі доля, воля,
Там сіняе мора
Выйгрывае, хваліць бога,
Тугу разганяе;
З буйным ветрам там магілы
Ў стэпе размаўляюць.
Размаўляюць такім ладам,
Сумуючы ў полі:
«Было калісь, ды мінула,
Не вернецца болей!»
Паляцеў-бы я, паслухаў,
Заплакаў-бы з імі...
Ды бач! Доля прыкавала
Між людзьмі чужымі.

С.-Пецербург
9 Мая 1840 года

---

## ДУМКА

Цяжка-цяжка жыць на свеце
Сіраце без роду:
Няма куды прыхіліцца,—
Хоць з гары ды ў воду!
Утапіўся-б маладзенькі
З нудой ў быстрай рэчцы;
Утапіўся-б—цяжка жыці,
І няма дзе дзецца.
Ходзіць доля ў каго полем,
Каласкі збірае,
А мая дзесь, нягодніца,
За морам блукае.
Добра таму багатаму:
Яго людзі знаюць;
А са мною сустрэнуцца—
Вокам абмінаюць.
Багатага, губатага
Дзяўчына шануе;
З мяне, сіраты гаротнай,
Смяецца, жартуе.
«Ці я-ж табе не прыгожы,
Ці не ў цябе ўдаўся,
Ці не люблю цябе шчыра,
Ці з цябе смяяўся?
Любі-ж сабе, маё сэрца,
Любі, каго знаеш,
Але з мяне ты не смейся,
Калі ўспамінаеш.
А я пайду на край свету...
На чужой старонцы
Знайду лепшую, ці згіну,
Як той ліст на сонцы».
Пайшоў казак сумуючы—
Нікога не кінуў;
Шукаў долі ў чужым полі
Ды там і загінуў.
Уміраючы, ўглядаўся,
Дзе сонейка ззяе...
Цяжка-цяжка уміраці,
Цяжка ў чужым краі!

С.-Пецербург
(1840)

---

## НА НЕЗАБУДЗЬ

*В. І. Штэрнбергу*

Паедзеш далёка,
Свету ўбачыш дужа;
Заглядзішся, зажурышся,—
Ўспомні мяне, дружа!

С.-Пецербург
(1840)



## ГАЙДАМАКІ

***Васілію Іванавічу Грыгаровічу***
***на памяць 22 Красавіка 1838 года.***

Ідзе ўсё, мінае—і краю не мае...
Дзе-ж яно прапала? Скуль яно прышло?
І дурань, і мудры нічога не знае.
Жыве... умірае... Адно зацвіло,
Другое завяла, навекі завяла...
Пажоўклае лісце вятры разняслі
А сонейка ўстане, як перш уставала;
Чырвоныя зоры, як і перш плылі,
Паплывуць і потым... І ты, белаліцы,
Па сіняму небу выйдзеш пагуляць;
Выйдзеш паўзірацца ў жалабок, крыніцу,
Ў бяскрайняе мора, і будзеш зіяць,
Як над Вавілонам, над яго садамі,
І над тым, што будзе з нашымі сынамі.
Ты вечны без краю!.. Люблю размаўляць,
Як з братам, з сястрою, размаўляць з табою,
Спяваць табе думу, што ты-ж нашаптаў.
Парай мне яшчэ раз, дзе дзецца з журбою?
Я не адзінокі і не сірата я:
Ёсць у мяне дзеці, ды дзе іх падзеці?
Пахаваць з сабою?—Грэх: душа жывая!
А можа лягчэй ёй будзе на тым свеце,
Як хто слёзы-словы тыя прачытае,
Што яна так шчыра калісь вылівала,
Што яна цішком так над імі рыдала.
Не, не пахаваю, бо душа жывая!
Як сіняе неба—няма яму краю,
Так душа пачатку і краю не мае.
А дзе яна будзе?—Пашто разважаць!!
Успомні-ж хто-небудзь, успомні хоць зрэдка,—
Без славы свет гэты цяжка пакідаць.
Ўспомніце, дзяўчаты, вам трэ' ўспамінаць!
Яна вас любіла, ружовыя кветкі,
І пра вашу долю любіла спяваць.
Пакуль сонца ўстане—спачывайце, дзеткі,
А я памяркую важака дзе ўзяць.

Сыны мае, гайдамакі!
Свет шырокі, воля!
Дык ідзеце, пагуляйце,
Пашукайце долі!

Сыны мае маладыя,
Няхітрыя дзеці!
Хто вас шчыра без матулі
Прывітае ў свеце?
Сыны мае! арлы мае!
Мкніце на Ўкраіну,—
Хоць і ліха напаткае,
Але не ў чужыне.
Душа шчырая там стрэне,
Служыць долю змусіць;
А тут... а тут... цяжка, дзеці!
Калі ў хату пусцяць,
То, сустрэўшы, пасмяюцца,
Такія, бач, людзі:
Ўсе з асветай, пішуць кнігі,
Сонца на'т асудзяць.
«Не адтуль,—кажа,—усходзіць,
Ды не так і свеціць;
Вось так,—кажа,—было-б трэба...»
Што-ж рабіці, дзеці?
Трэба слухаць, мо' й сапраўды
Не так сонца ўсходзіць,
Як пісьменныя гавораць.
Разумнікі й годзе!
А што-ж на вас яны скажуць?
Знаю вашу славу!
Пасмяюцца, пажартуюць,
Дый кінуць пад лаву.
«Няхай,—скажуць,—спачываюць,
Пакуль бацька ўстане,
Ды па-нашаму раскажа
Пра сваіх гетманаў;
А то баіць байкі дурань
Мёртвымі славамі,
Ды якогась там Ярэму
Вядзе перад намі
У пастолах. Дурань! дурань!
Білі, а не ўчылі.
Ад казацтва, ад гетманства
Курганы-магілы—
Больш нічога не пабачыш,
І іх разрываюць;
А ён хоча, каб слухалі,
Як старцы спяваюць.
Дарма праца, пане-браце:
Калі хочаш грошай,
Ды йшчэ славы, таго дзіва,
Спявай пра «Матрёшу»,
Пра «Парашу, радость нашу»,
Султан, паркет, шпоры.
Во дзе слава! А то пяе:
«Грае сіне мора»,
А сам плача; за табою
І твая грамада
У сярмягах!..» Праўда, мудры!
Дзякую за раду!
Кажух цёплы, толькі шкода—
Не на мяне шыты,
Разумнае-ж ваша слова
Брахнёю падбіта.

Выбачайце!.. Хоць крычыце,
Не пайду за вамі.
Дый да сябе не паклічу:
Вы людзі з мазгамі,
А я дурань; сам сабе я,
З сваёю журбою,
Заспяваю і паплачу,
Як дзіця малое.
Заспяваю—мора грае,
Вецер павявае,
Стэп чарнее, і магіла
З ветрам размаўляе.
Заспяваю—раскрылася,
Бы гара, магіла;
Аж да мора запарожцаў
Безліч стэп укрыла;
На вараных атаманы
Перад бунчукамі
Зіхацяцца... А парогі
Паміж чаратамі
Равуць, стогнуць, зазлавалі,
Страшнае спяваюць.
Паслухаю, пажуруся
І старых спытаю:
«Што сумуеце, бацькі, так?»
«Нявесела, сыне!
Дняпро на нас раззлаваўся,
Плача Украіна...»
І я плачу. А тым часам
Пышнымі радамі
Выступаюць атаманы,
Сотнікі з панамі,
І ўсе ў золаце гетманы.
У маю хаціну
Прышлі, каля мяне селі
І пра Украіну
Гутараць, апавядаюць,
Як Сеч будавалі,
Як казакі на байдаках
Парогі міналі;
Як гулялі ў сінім моры,
Грэліся ў Скутары,
Ды як, люлькі закурыўшы
Ў Польшчы на пажары,
Вярталіся на Ўкраіну;
Як банкетавалі:
«Грай, кабзару! Лі, шынкару!»—
Казакі гукалі.
Шынкар знае, налівае
І не азірнецца;
Кабзар выцяў, а казакі—
Аж Хорціца гнецца—

Мяцеліцу ды гапак той
Гуртам адбіваюць;
Куфаль ходзіць, пераходзіць,
Так і высыхае.
«Гуляй, пане, без жупана!
Гуляй, вецер, полем!
Грай, кабзару, лі, шынкару,
Пакуль ўстане доля!»
Падбачыўшыся, ўпрысядкі
Дзецюкі з дзядамі:
«Во так, дзеці! Добра, дзеці!
Будзеце панамі!»
Атаманы на банкеце,
Бы прышлі на раду,
Пахаджаюць, размаўляюць...
Важная грамада
Ударыла, не ўцярпела
Старымі нагамі.
Я дзіўлюся, паглядаю,
Смяюся слязамі,

Дзіўлюся, смяюся, слёзы ўжо ўціраю...
Я не адзінокі, маю з кім я жыць!
У маёй хаціне, бы ў стэпу без краю,
Казацтва гуляе, байрак гаманіць;
У маёй хаціне сіне мора грае,
Магіла сумуе, таполя шуміць,
Ціхусенька Грыца дзяўчына спявае—
Я не адзінокі, ёсць з кім век дажыць!

Во маё дзе дабро, грошы,
Слава і парада!
А за вашу раду—дзякуй,
За здрадніцкую раду!
Пакуль жыў я, з мяне хопіць
І мёртвага слова,
Выліваць каб журбу, слёзы.
Бывайце здаровы!
Пайду сыноў праважаці
Ў дальнюю дарогу.
Хай сабе йдуць! Можа знойдуць
Казака старога,
Што прыгорне маіх дзетак
Старымі слязамі.
Хопіць з мяне. Скажу йшчэ раз:
Пан я над панамі!

—

Вось так, седзячы на лаве,
Ў думках разважаю:
Каго прасіць? Павядзе хто?
На дварэ світае,
Пагас месяц, гарыць сонца,
Гайдамакі ўсталі,
Памаліліся, паелі,
Вокал мяне сталі.
Сумна гэтая грамада
Голавы схіліла:
«Багаславі,—кажуць,—бацька,
Пакуль маем сілу!
Багаславі шукаць долю
На шырокім свеце».
«Пачакайце!.. Свет—не хата,
Вы-ж малыя дзеці,
Куды йсці вам? Хто важатым
Пойдзе перад вамі?
Павядзе хто? Гора, дзеці,
Горанька мне з вамі!
Выпесціў вас, выгадаваў,
Выраслі нямала,
Ў людзі йдзеце, бо цяпер там
Ўсё пісьменным стала.
Выбачайце, што не выўчыў,
Бо й мяне хоць білі,
Добра білі, а багата
Дзе-чаму навучылі!
Тма, мна знаю, а оксію
Не ўцямлю і досюль.
Што-ж вам скажуць? Хадзем, сыны,
Хадзема папросім!
Ёсць у мяне шчыры бацька
(Роднага не маю)—
Ён-жа дасць мне раду з вамі,
Бо сам, здароў, знае,
Як цяжка блукаць па свеце
Сіраце без роду;
Душа шчырая на тое,
Казацкага роду!..
Не адрокся таго слова,
Што маці спявала,
Як малога спавівала,
З малым размаўляла;
Не адрокся таго слова,
Што пра Украіну,
Сумуючы, сляпы старац
Спявае пад тынам.
Любіць яе, думу праўды,
Казацкую славу,
Любіць яе! Хадзем, сыны,
За радай ласкавай!
Каб не ён спаткаў мяне так
Пры ліхой часіне,
Даўно-б дасюль пахавалі
Ў снезе на чужыне;
Пахавалі-б дый сказалі:
Так... нешта пустое!
Цяжка тужыць, як не знаеш
За што, за якое.
Мінулася, хай не сніцца!..
Пойдзема гуляці!
Калі мне ён на чужыне
Не даў прападаці,
То й вас прыме, прывітае,

Як роднага сына.
Ад яго-жа, памаліўшыся,
Гайда на Ўкраіну!

Добры дзень-жа, тата, ў хату!
Ля свайго парогу
Багаславі маіх дзетак
У свет, у дарогу!

С.-Пецербург
1841 Красавіка 7



## ІНТРАДУКЦЫЯ

Была калісь шляхетчына,
Вяльможная пані;
Мералася з маскалямі,
З ордай, з султанамі,
З немчурою. Было колісь...
Ды што не мінае?
Было, шляхта ганарыцца,
Дзень і ноч гуляе
Ды муштруе каралямі...
Не кажу Сцяпанам,
Ці або Янам Сабескім:
Яны з незвычайных,—
А іншымі... Небаракі
Моўчкі панавалі.
Соймы, соймікі равелі,
Суседзі маўчалі,
Дзівіліся, як там з Польшчы
Каралі ўцякаюць,
Ды слухалі, як шляхецтва
Збэшчана гукае:
«Nie pozwalam! Nie pozwalam»!
І шляхта гвалтуе,
А магнаты паляць хаты,
Шабелькі гартуюць...
Доўга гэтак тварылася,
Пакуль у Варшаве
Панаваць стаў над ляхамі
Панятоўскі жвавы.

Запанаваў дый думаў шляхту
Прыцішыць трошкі... І не змог!
Дабра хацеў, як дзецям матка,
А можа йшчэ хацеў чаго.
Адно ён слова «nie pozwalam»
У шляхты думаў адабраць,
А потым... Польшча запалала,
Панкі сказіліся крычаць:
«Гонору слова, дарма праца!
Паганец, найміт маскаля!»
На гвалт Пулаўскага і Паца
Ўстае шляхецкая зямля,
І—разам сто канфедэрацый.

Разбрылі канфедэраты
Па Польшчы, Валыні,
Па Літве, па Малдаванах
І па Украіне,
Распаўзліся дый забылі
Волю ратаваці,
Зсябраваліся з жыдамі,
Дый ну руйнаваці.
Руйнавалі, мардавалі,
Цэрквамі тапілі...
А тым часам гайдамакі
Нажы асвянцілі.

---

## ЯРЭМА

«Ярэма! Гер-шту, хамскі сыне!
Пайдзі кабылу прывядзі,
Падай пантофлі гаспадыні,
Мне прынясі вады, ідзі.
Падмяці хату, нясі дровы,
Пасып індыкам, гусям дай,
Пайдзі ў абору, дай карове,
Ды хутка, хаме!.. Пачакай!
Зрабіўшы ўсё, бяжы ў Вільшану:
Яймосці трэба. Не марудзь!»
Пайшоў Ярэма, йдзе чуць-чуць.

Вось так ад рання жыд паганы
Казаку жаху задаваў.
Ярэма гнуўся, бо не знаў,
Не ведаў, гаротны, што выраслі крылы
Што неба дастане, калі паляціць,
Не знаў, нагінаўся...
О божа мой мілы!
Цяжка жыць на свеце, а хочацца жыць:
Хочацца глядзеці, як сонейка ззяе,
Хочацца паслухаць, як мора зайграе,
Як птушка шчабеча, байрак гаманіць,

Або чорнабрыўка ў гаю заспявае...
О божа мой мілы, як весела жыць!

Сірата Ярэма, сіраціна ўбогі:
Ні сястры, ні брата, нікога няма!
Папіхач жыдоўскі, вырас ля парогу,
Людзей не чапае, долі ён не знаў.
Дый за што іх лаяць? Хіба яны знаюць,
Каго трэба гладзіць, каго катаваць?
Няхай банкятуюць... Аб іх доля дбае,
А сіраце трэба самому прыдбаць.
Трапляецца часам, ціханька заплача,
Дый не з таго болю, што сэрца баліць:
Што-небудзь успомніць, або што пабача...
Ды ізноў за працу. Так во трэба жыць!
Нашто бацька, маці, палацы, дукаты,
Калі няма сэрца з сэрцам размаўляць?
Сірата Ярэма—сірата багаты...
Бо ёсць з кім заплакаць, ёсць з кім заспяваць;
Ёсць карыя вочы—як зораньці ззяюць,
Белыя ручаткі—млеюць, абымаюць.
Сэрцайка адно ёсць, сэрцайка дзявоча,
Што плача, смяецца, мрэ і ажывае,
Святым духам сярод ночы
Па-над ім вітае.

Вось такі ён, мой Ярэма,
Сірата багаты!
Калісь быў і я такім-жа...
Мінула, дзяўчаты!
Мінулася, разышлося,
І следу не стала.
Сэрца млее, як прыпомню...
Чаму запрапала?

Чаму запрапала? Чаму не вітала?
Лягчэй было-б слёзы, журбу выліваць.
Людзі адабралі, бо ім было мала:
«Нашто яму доля? Трэба закапаць:
Ён і так багаты!»
Багаты на латы
Й на дробныя слёзы—бадай не ўціраць!..
Доля мая! доля! Дзе цябе шукаць?
Да мяне вярніся, да роднае хаты,
Або хоць прысніся... не хочацца спаць.

Выбачайце, мае людзі!
Можа не да ладу,
Праз праклятых злыдняў, ліха
Не даб'ёмся складу.
Можа стрэнемся яшчэ раз,
Пакуль я дыбаю
За Ярэмаю па свеце,
А можа... й не знаю.
Гора, людзі,—ўсюды гора,
Недзе прыгарнуцца:
Куды, кажа, хіліць доля,
Туды й трэба гнуцца.
Гнуцца моўчкі, усміхацца,
Каб людзі не зналі,
Што захована на сэрцы
Каб не прывіталі.
Бо іх ласка... няхай сніцца
Таму, ў каго доля,
А сіротцы не снілася,
Не снілася ніколі!
Цяжка, нудна разважаці,
А маўчаць не ўмею...
Вылівайся-ж, слова-слёзы:
Сонейка не грэе,
Не высушыць. Падзялюся
Маімі слязамі...
Ды не з братам, не з сястрою—
З нямымі сцянамі
На чужыне... А пакуль што—
Да карчмы вярнуся:
Што там робіцца?
Жыдзюга
Трасецца, сагнуўся
Над каганцам, лічыць грошы
Ля ложка, праклятых.
А на ложку... Ох, аж душна!
Белы ручаняты
Раскідала, раскрылася...
Як кветачка ў гаю
Чырванее, а пазуха...
Пазухі не мае—
Разарвана... Мабыць, душна
У пярыне спаці
Адзінокай, маладзенькай;
Не з кім размаўляці—
Адна шэпча... Нехрышчонка—
Адно лятуценне!
Гэта дочка, а во бацька—
Чортава кішэня.
Хайка песціцца старая
Ў пярынах паганых.
Дзе-ж Ярэма? Ўзяўшы торбу,
Паплёўся ў Вільшану.

# КАНФЕДЭРАТЫ

«Адчыняй, пракляты жыдзе!
Бо будзеш біты... Адчыняй!
Ламеце дзверы, пакуль выйдзе
Стары паскуда!»
«Пачакай!
Чакайце, зараз!»
«Нагаямі
Свінячча вуха! Жартаваць,
Ці што, ты хочаш?»
«Я? З панамі?
Крый божа! Зараз, дайце ўстаць,
Яснепанове!» (цішком—«свінні»).
«Пане палкоўніку, ламай!»
Упалі дзверы... а нагай
Ўздоўж ездзе па жыдоўскай спіне
«Здароў, свіння! Здароў, жыдзе!
Здароў, чортаў сыне!»
Ды нагаем, ды нагаем.
А жыд сагнуў спіну:
«Не жартуйце, ясне-пане!
«Вечар добры ў хату!»
Йшчэ раз шэльму! Йшчэ раз!.. годзе!
Выбачай, пракляты!
Добры вечар! А дзе дочка?»
«Умярла, панове!»
«Лжэш ты, Юда! Нагаямі!»
Сыпяцца нанова...
«Ой, паночкі, ей-жа богу!
Ўжо дачкі не маю!»
«Брэшаш, шэльма!»
«Калі лгу я,
Няхай бог карае!»
«Не бог, а мы. Прызнавайся!»
«На што-б меў хаваці
Я жывую? Няхай, божа,
На мяне пракляцце!»
«Ха, ха, ха, ха!.. Чорт, панове,
Літанне спявае.
Хрысціся!»
«А як-жа гэта?
Далібог, не знаю».
«Во, глядзі як!»
Лях хрысціцца,
А за ім і Юда.
«Брава! Брава! Ахрысцілі!
За такое-ж цуда
Барыша нам, ягамосцю!
Чуеш, ахрышчоны?
Барыша стаў!»
«Зараз, зараз!»
Зараўлі шалёна,
Равуць ляхі, куфлі, чаркі
Па стале гуляюць.
«Яшчэ Польшча не згінэла!»—
Хто куды гукаюць.
«Давай, жыдзе!»
Ахрышчоны
Са склепу ды ў хату,
Знай, шмыгае, налівае;
А канфедэраты,
Знай, гукаюць: «Жыдзе! мёду!»
І жыд мігам мкнецца.
«Дзе цымбалы? Грай, псявера!»
Аж карчма трасецца—
Кракавяка адбіваюць,
Вальца ды мазура.
А жыд гляне ды ціхенька:
«Шляхоча натура!»
«Добра, годзе! Спявай зараз!»
«Не ўмею, яй-богу!»
«Не бажыся, пся ты скура!»
«Якую-ж? Н я б о г у?»

«Была сабе Гандзя,
Калека нябога,
Бажылася,
Малілася,
Што балелі ногі:
На паншчыну не хадзіла,
А за дзецюкамі...
Ціхусенька,
Прыгожанька
Паміж бур'янамі».

«Годзе, годзе! Гэту к чорту:
Схізматы спяваюць».
«Якой-жа вам? Хіба тую?
Чакайце, ўжо знаю...

«Перад панам Хведаром
Ходзіць жыд хадыром,
І задком,
І перадком
Перад панам Хведарком»

«Добра, годзе! Цяпер плаці!»
«Жартуеце, пане:
За што плаціць?»
«Што слухалі.
Не віляй, паганец!
Не жартуем. Давай грошы!»
«Дзе мне іх узяці?
Ні шэлега; з ласкі панскай
Мае ўсё багацце».
«Лжэш, сабака! Прызнавайся!
А нуце, панове,
Батагамі!»

Засвісцелі,
Хрысцяць Лейбу знова.
Бічавалі, бічавалі,
Аж пер'е ляцела.
«Ні шэлега, ей-жа богу!
Ешчэ маё цела!
Ні шэлега! Гвалт! Ратуйце!»
«Вось мы паратуем!»
«Пачакайце! Я скажу штось...»
«Што-ж, мо' й што пачуем,
Ды не брашы! Бо хоць здохні,
Брахня не паможа».
«Не... ў Вільшане...»
«Твае грошы?»
«Мае?.. Хавай божа!
Не, кажу я... што ў Вільшане...
Ў вільшанскіх схізматаў...»
«Па тры сем'і, па чатыры
Збіты ў адну хату.
Гэта знаем, бо мы самі
Іх паабскубалі».
«Ды не тое... выбачайце...
Каб ліха не зналі,
Каб прысніліся вам грошы!..
Бачыце, ў Вільшане...
У касцёле... у ктытара...
А дачка Аксана!
Як паненка! І не бачыў
Я такой харошай!
А чырвонцаў! Не яго хоць,
Дык што? Абы грошы!»
«Абы грошы, аднолькова!
Праўду Лейба кажа;
А каб пэўнай была праўда,
Няхай шлях пакажа.
Адзявайся!»
Паехалі
Ляхі у Вільшану.
Адзін толькі пад лаваю
Канфедэрат п'яны
Ўстаць нядужы, а мурлыча
Ў нос асалавела:
«My żyjemy, my żyjemy,
Polska nie zginęła».

---

## КТЫТАР

«У гаю, гаю
Вецер не йграе;
Месяц высока,
Зоркі зіяюць.
Сэрцайка, выйдзі,
Я выглядаю;
Хоць на гадзінку,
Мая рыбінка!
Выглянь, галубка,
Ды паваркуем,
Ды пасумуем:
Бо я далёка
Сёння вандрую.
Выглянь-жа, пташка,
Сэрцайка, выглянь,
Пакуль блізенька,
Ды паваркуем...
Ох, цяжка, цяжка!»

Гэтак, ходзячы пад гаем,
Ярэма спявае,
А Аксаны ані знаку,
Як ні выглядае.
Зоры ззяюць; сярод неба
Месяц зіхаціцца;
Верба слухае салоўку,
Глядзіцца ў крыніцу;
На каліне, над вадою,
Так і выліваe,
Як-бы знае, што дзяўчыну
Казак выглядае.
А Ярэма па даліне
Кволым ходзіць ходам,
Не слухае салавейкі...

«Ой, нашто мне ўрода,
Калі няма долі, калі крыўды гнуць.
Леты маладыя марна прападуць.
Адзін я на свеце без роду і долі—
Сцябліна-быліна ды на чужым полі,
Сцяблінy-былінy вятры разнясуць;
Так і мяне людзі не знаюць, дзе дзеці.
За што-ж адракліся? Што я сірата.
Адно было сэрца, адно на ўсім свеце,
І душа, як сонца, адна яснатa,
Дый тая зраклася!»



«ГАЙДАМАКІ»

І хлынулі слёзы.
Паплакаў гаротны, уцёр рукавом.
«Бывай-жа здарова. Ў далёкай дарозе
Найду або долю, або за Дняпром
Галавою лягу... А ты не заплачаш,
А ты не пабачыш, як груган клюе
Тыя кары вочы, ой, вочы, казачы,
Што ты цалавала, сэрцайка мае!
Забудзь мае слёзы, забудзь сірацiну,
Забудзь, што клялася,—другога шукай!
Я табе не пара; я ў шэрай свіціне,
Ты-ж дачка ктытара... Лепшага вітай!
Вітай, каго знаеш... Такая мне доля.
Забудзь мяне, пташка, забудзь, не журыся!
А калі пачуеш, што на чужым полі
Палёг галавою,—цішком памаліся,
Адна, сэрца, на ўсім свеце
Хоць ты памаліся!»
Дый заплакаў гарапашны,
На кій пахіліўся.
Плача сабе ціхусенька.
Шалесць!.. Калі глянуў:
Каля гаю, як ласачка,
Крадзецца Аксана.
Забыў, пабег, абняліся...
«Сэрца!»—дый самлелі.
Доўга, доўга толькі—«сэрца!»
Дый ізноў нямелі.
«Годзе, пташка!» «Яшчэ трошкі,
Яшчэ... сізакрылы!
Душу вымі!.. Йшчэ раз.. йшчэ раз...
Як мяне ўтаміла!»
«Адпачынь, мая ты зорка!
Ты з неба зляцела!»
Паслаў світку. Як ясачка,
Ўсміхнулася, села.
«Сядай-жа й ты каля мяне!»
Сеў, дый абняліся.
«Сэрца маё, мая зорка,
Як я занудзіўся!»
«Замарудзіла я сёння:
Бацьку штосьць змарыла,—
Яго ўвесь час даглядала...»
«А мяне й забыла?»
«Ах, які ты, ей-жа богу!»
І слёзка бліснула.
«Не плач, сэрца, я жартую».
«Жарты!»
Усміхнулась.
Прыхілілася галоўкай,
Дый нібы заснула.
«Бач, Аксана, я жартую,
А ты ўпраўду плачаш.
Ну, не плач-жа, на мяне глянь:
Заўтра не пабачыш.
Заўтра буду я далёка,
Далёка, Аксана...
Заўтра ўночы ў Чыгірыне
Свянцоны дастану;
Срэбра-золата ён дасць мне,
Дасць мне ён і славу;
Адзену цябе, абую,
Пасаджу, як паву,—
На пасадзе, як гетманку,
Буду любавацца...
Пакуль не ўмру—любавацца».
«А можа й так стацца:
Разбагацееш, у Кіеў
Паедзеш з панамі,
Шляхцяначку сабе знойдзеш,
Забудзеш Аксану!»
«Няўжо ёсць дзе прыгажэйша?»
«Стрэнешся мо' й з лепшай».
«Гневіш бога, маё сэрца:
Няма прыгажэйшай!
Ні на небе, ні за небам,
Ні за сінім морам—
Няма больш, як ты, прыгожай!»
«Што гэта гаворыш?
Апомніся!»
«Праўду, рыбка!»
Дый знову, дый знову.
Як бачыце, яны доўга
Паміж чулых славаў
Цалаваліся ўсім сэрцам,
Колькі сілы мелі;
Плакалі ды бажыліся,
Туліліся, млелі.
Ёй расказываў Ярэма,
Як ім жыцца будзе
Удваёчку, як золата
І долю здабудзе,
Як выражуць гайдамакі
Ляхаў на Ўкраіне,
Як ён будзе панаваці,
Калі не загіне.
Аж абрыдала ўсё слухаць,
Далібог, дзяўчаткі!
«Вось які! Як-бы й сапраўды
Абрыдла!..»
А матка,
Або бацька як пабачаць,
Што вы, мае любы,
Чытаеце гэта дзіва,—
Грэху на ўсю губу!
Тады, тады... Ды ну яго,
А яно цікава!
А каб-жа вам расказаць-бы,
Як казак чарнявы
Пад вярбою, над вадою,
Абняўшысь сумуе;
А Аксана, як галубка,
Варкуе, цалуе.
То заплача, то замлее,
То галоўку склоне:
«Маё сэрца, мая доля!

Мілы мой саколе!
Мой!..» Аж вербы нагнуліся
Слухаць тую мову.
Вось так мова! Не скажу вам,
Мае чорнабровы,
Не раскажу проці ночы,
Прысніцца наліха.
Хай разыйдуцца ціхенька,
Як зышліся ціха—
Ціхусенька, мілюсенька,
Каб ніхто не бачыў
Ні дзявочых дробных слёзак,
Ні шчырых казачых.
Няхай сабе... Можа йшчэ раз
На гэтым на свеце
Яны стрэнуцца... пабачым...

А тым часам свеціць
З усіх акон у ктытара.
Што магло там стацца?
Трэба глянуць, расказаці...
Бадай не ўглядацца!

Бадай не ўглядацца, бо якое-ж свята!
Бо за людзей сорам, бо сэрца баліць.
Гляньце, паглядзеце: то канфедэраты,
Людзі, што меліся волю бараніць.
Бараніць, загубцы!.. Будзь праклята маці,
І дзень, і гадзіна, калі панясла,
Калі спарадзіла, на свет прывяла!
Глядзеце, што робяць у ктытара ў хаце
Пякельныя дзеці!
У печы запалаў
Агонь, і свеціць на ўсю хату.
Сабакай у кутку дрыжыць
Прокляты жыд. Канфедэраты
Крычаць ктытару: «Хочаш жыць?
Скажы, дзе грошы?»
Той маўчыць.
Пастронкамі скруцілі рукі,
Аб землю ўдарылі... Няма,
Няма ні слова. «Мала мукі!
Давайце прыску! Дзе смала?
Крапі яго! Так! Халадзее?
Хутчэй-жа прыскам пасыпай!
Што? Скажаш шэльма?.. І не стогне!
Заўзяты, бестыя! Чакай!..»
Насыпалі ў халяву жару...
«Цвічок у цемя забівай!»
Не выцерпеў святое кары,
Упаў няшчасны,—прападай
Душа без споведзі святое!
«Аксана... дочка!»—дый сканаў.
Зірнулі ляхі з неспакоем,
Хоць запяклі. «Якую-ж нам
Цяпер даць раду? Памяркуем.
Цяпер з ім нечага рабіць.
Запалім цэркву!»
«Гвалт! Ратуйце!
Хто ў бога веруе!»—крычыць
На дварэ голас у бяссіллі.
Ўздрыгнулі ляхі. «Хто такі?»
Аксана ў дзверы: «Ах, забілі!»
Дый пала крыжам. Старшы з іх
Махнуў рукою на грамаду.
Панура шляхта, бы харты,
За дзверы вышла. Сам-жа ззаду
Бярэ самлелую...
Дзе-ж ты
Ярэма? Дзе ты? Падзівіся:
А ён, вандруючы, спявае,
Як Налівайка з ляхам біўся.

Прапалі ляхі, нежывая
Прапала з імі і Аксана.
Сабакі там-сям ля Вільшаны
Загаўкаюць, дый замаўчаць.
Бялее месяц; людзі спяць,
І ктытар спіць... Не рана ўстане:
Навекі, праведны, заснуў.
Святло гарэла, пагасала,
Пагасла... Мёртвы бы ўздрыгнуў,
І сумна, сумна ў хаце стала.

---

## СВЯТА Ў ЧЫГІРЫНЕ

Гетманы, гетманы, ой, каб-жа вы ўсталі,
Ўсталі, паглядзелі на той Чыгірын,
Што вы будавалі, дзе вы панавалі!
Заплакалі-б цяжка, бо вы-б не пазналі
Казацкае славы убогіх руін.
Базары, дзе войска, як морам чырвоным,
Перад бунчукамі, бывала, гарыць,
А яснавяльможны на кані шыкоўным
Блісне булавою—мора закіпіць...
Закіпіць—і разлілося

Стэпамі, ярамі;
Ліха млее перад імі...
А за казакамі...
Дый казаць што?.. Мінулася;
А дні, што мінулі,
Ўспамінаць, браты, не варта,
Бо каб не пачулі...
Дый што з таго, хоць і ўспомніш?
Успомніш—заплачаш.
Ну, хоць глянем на Чыгірын,
Калісьці казачы.

Зпа-за лесу, з-за туману,
Месяц выплывае;
Чырванее кругладіцы,
Гарыць, а не ззяе;
Відаць знае, што ўжо лішні
Блеск яго на свеце,
Што пажары Украіну
Нагрэюць, асвецяць.
І змерклася, а ў Чыгрыне,
Як у дамавіне,
Сумна, сумна... (Было гэта
Па ўсёй Украіне
Проці ночы Макавея,
Як нажы свянцілі)
Людзей не чуць, цераз рынак
Кажан кастакрыллем
Пераляціць; на прыселлі
Сава завывае.
А дзе-ж людзі?.. Над Цясмінам,
У цёмным у гаю,
Сабраліся; стары, малы,
Бедны і багаты
Паядналіся,—чакаюць
Вялікага свята.

Там у цёмным гаю, ў зялёнай дуброве,
На папасе коні атаву скубуць;
Асядланы коні стаяць нагатове.
А куды-ж паедуць? Каго павязуць?
Вунь каго, глядзеце! Ляглі па даліне,
Як-бы нежывыя, ні слова не чуць.
Гэта гайдамакі... На гвалт Украіны
Арлы наляцелі; яны разнясуць
Ляхам, жыдам кару;
За кроў і пажары
Пеклам гайдамакі ляхам аддадуць.

Каля дубровы ў рад стаяць
Вазы жалезнае тарані:
Гасцінец гэта шчодрай пані,—
Умела што каму даваць,
Няўрокам ёй, няхай пануе,
Няхай не шкодзіць, як не чуе!
Паміж вазамі недзе стаць;
Як-бы у вырай наляцела
З Смаляншчыны, з Чыгірына
Казацтва тое, старшына,—
На пэўнае зляцелі дзела.
Казацкае панства па блонні
Ў кірэях чорных, як адзін,
Паціху ходзячы гамоніць
І пaглядае на Чыгрын.

---

Старшына першы

Стары Галаваты штось вельмі хітруе.

Старшына другі

Мудрая галава. Сядзіць сабе на хутары, нібы не знае нічога, а глядзіш,—усюды Галаваты. «Калі сам,—кажа,—не давяршу, то сыну перадам».

Старшына трэці

Дый сын-жа штука! Я ўчора сустрэўся з Залезняком; такое расказвае пра яго, што цур яму! «Кашовым,—кажа,—будзе, дый годзе; а можа яшчэ і гетманам, калі тое...»

Старшына другі

А Гонта нашто? А Залязняк? Да Гонты сама... сама пісала: «Калі»,—кажа...

Старшына першы

Ціха! замаўчэце! Здаецца, звоняць!

Старшына другі

Ды не, гэта людзі гамоняць.



Старшына першы

Гамоняць, пакуль ляхі пачуюць. Ох, старыя галовы ды разумныя! Мудруюць, мудруюць, дый зробяць з лемяша швайку! Дзе можна лантух, там торбы не трэба. Купілі хрэну—трэба з'есці; плачце, вочы, хоць павылазьце: бачылі, што куплялі; грошам не прападаць! А то думаюць, думаюць, ні ўголас, ні моўчкі, а ляхі здагадаюцца—вось табе і пшык! Што там за рада? Чаму яны не звоняць? Чым спыніш народ, каб негаманіў? Не дзесяць душ, а, дзякуй богу, уся Смаляншчына, калі не ўся Ўкраіна. Во, чуеце, спяваюць.

Старшына трэці

Сапраўды, спявае штось; пайду спыню.

Старшына першы

Не спыняй! Няхай сабе спявае, абы не голасна!

Старшына другі

Гэта мабыць Волах! Такі не выцерпеў стары дурань; трэба дый годзе!

Старшына трэці

А мудра спявае! Калі не паслухаеш, усё іншую. Падкрадземся, браткі, ды паслухаем; а тым часам зазвоняць.

Старшына першы і другі

А што-ж? То й хадзема!

Старшына трэці

Добра, пойдзем!

(Старшыны цішком сталі за дубам, а пад дубам сядзіць сляпы кабзар; кругом яго запарожцы і гайдамакі. Кабзар спявае з павагай і няголасна).

«Ой, волахі, волахі!
Вас засталося трохі;
І вы, малдаваны,
Цяпер вы не паны:
Вашы гаспадары—
Найміты ў татараў,
Ў турэцкіх султанаў.
Ў кайданах, ў кайданах!
Годзе-ж, не журыцца!
Шчыра памаліцца,
Братайцеся з намі,
З намі, казакамі;
Ўспомніце Багдана,
Старога гетмана;
Будзеце панамі,
Ды, як мы, з нажамі.
З нажамі святымі,
Ды з бацькам Максімам
Ночку пагуляем,
Ляхаў пагайдаем,
Ды так пагуляем,
Што аж пекла засмяецца,
Зямля затрасецца,
Неба запалае...
Добра пагуляем!»

Запарожац

Добра пагуляем! Праўду стары спявае, калі не брэша. А што з яго за кабзар быў-бы, каб ды не волах!

Кабзар

Ды я й не волах—так толькі: быў калісь на Валошчыне, а людзі і завуць Волахам—сам не знаю, за што.

Запарожац

Ну і надарэмна: іграні яшчэ якую-небудзь! А ну пра бацьку Максіма зажар.

Гайдамака

Ды не голасна, каб не пачула старшына.

Запарожац

А што нам ваша старшына? Пачуе, дык паслухае, калі мае чым слухаць, дый годзе! У нас адзін старшы—бацька Максім; а ён як пачуе, то йшчэ карбаванца дасць. Спявай, старча божы, не слухай яго.

Гайдамака

Ды яно так, чалавеча. Я гэта й сам знаю, ды вось што: не так паны, як падпанкі, або—пакуль сонца ўзыйдзе, раса вочы выесць.

Запарожац

Брахня! Спявай, старча божы, якую знаеш, а то й звона не дачакаемся—паснем.

Разам

Па праўдзе, паснем. Спявай якую-небудзь!

Кабзар (*спявае*)

«Ой лётае арол сізы
Аж пад аблакамі;
Ой гуляе Максім-бацька
Стэпамі, лясамі.
Арол сізы, з ім арляты
Высака лятаюць;
Ой гуляе Максім-бацька,
З ім хлопцы гуляюць.
Запарожцы тыя хлопцы,
Сыны яго, дзеці.
Памяркуе, загадае,
Біць ці піць і пеці,
Ці скакаці, ды і ўжараць,
Аж зямля трасецца.
Заспявае—заспяваюць,
Аж ліха смяецца;
Мёд, гарэліцу не чаркай—
А збанком сцябае,
А ворага, заплюшчыўшысь,
Лупіць, не мінае.
Вось які той атаман наш,
Арол сізакрылы!
І ваюе, і гарцуе
З усёй сваёй сілы—
Няма ў яго ні хаціны,
Ні саду, ні ставу...
Стэп і мора—скрозь шлях біты,
Скрозь золата, слава.
Шануйцеся-ж, ўражы ляхі,
Лютыя сабакі:
Йдзе Залязняк Чорным шляхам,
За ім гайдамакі».

Запарожац

Вось гэта так! Шмаргануў, нечага сказаць: і да ладу, і праўда. Добра, далібо добра! Што хоча, то так і ўтне. Дзякуй, дзякуй!

Гайдамака

Я штось не ўцяміў, што ён спяваў пра гайдамакаў.

Запарожац

Які-ж ты бязглузнік, сапраўды! Бачыш, вось што ён спяваў: каб ляхі паганыя, шалёныя сабакі, каяліся, бо йдзе Залязняк Чорным шляхам, з гайдамакамі, каб ляхаў, бачыш, рэзаць...

Гайдамака

І вешаць і катаваць! Добра, яй-богу, добра! Ну, гэта так! Далібо, даў-бы карбаванца, каб быў не прапіў учора! Шкода! Ну, няхай старая вязне, больш мяса будзе. Пачакай, будзь ласкаў, заўтра аддам. Утні яшчэ што-небудзь пра гайдамакаў.

Кабзар

На грошы я не вельмі ласы. Абы была ласка слухаць,— пакуль не ахрып, спяваць буду; а ахрыпну—чарачку-другую таей лядашніцы-жывіцы, як кажуць, дый зноў. Слухайце-ж, панове, грамада!

«Начавалі гайдамакі
Ў зялёнай дуброве,
На прывязі паслі коні,
Ў сёдлах, нагатове.

Начавалі ляшкі-панкі
У хатах з жыдамі;
Напіліся, разлягліся,
Дый...»

Грамада

Сцішцеся! Здаецца, звоняць. Чуеш? Яшчэ раз... о!..

«Зазванілі, зазванілі!»—
Пайшло рэха гаем.

«Ідзеце вы маліцеся,
А я даспяваю».

---

Павалілі гайдамакі,
Аж стогне дуброва;
Не павезлі, а на плечах
Вазы чумаковы
Нясуць яны. А за імі
Сляпы Волах знову:
«Начавалі гайдамакі
Ў зялёнай дуброве...»
Ўслед пляцецца, ў нос мармоча,
І ўсё не да рэчы.
«Дай там іншай, старча божы!»—
З вазамі на плечах
Крычаць яму гайдамакі.
«Добра, наце, хлопцы!
Вось так! Вось так! Добра, добра!
А ну-це, малойцы,
Заіграем!»
Зямля гнецца,
А яны з вазамі
Так і рэжуць. Кабзар грае,
Дадае славамі:

«Ой, гоп такі так!
Кліча Гандзю казак:
«Хадзі, Гандзя, пажартую!
Хадзі, Гандзя, пацалую!
Хадзем, Гандзя, да папа
Богу памаліцца,
Няма жыта ні снапа—
Вары вараніцы!»
Ажаніўся, зажурыўся:
Нічога не мае;
У зрабніне растуць дзеці,
А казак спявае:
«І па хаце дзы-ны-ны,
І па сенцах дзы-ны-ны,
Вары, жонка, ліны!
Дзы-ны-ны, дзы-ны-ны!»

«Добра! Добра! 'Шчэ раз! 'Шчэ раз!»—
Крычаць гайдамакі.

«Ой гоп таго дзіва!
Наварылі ляхі піва,
А мы будзем шынкаваць,
Панкоў-ляшкаў частаваць;
Панкоў-ляшкаў пачастуем,
З паненкамі пажартуем.
Ой гоп такі так!
Кліча панну казак:
«Панна, пташка мая!
Панна, доля мая!
Не саромся, дай ручаньку,
Хадзем пагуляйма;
Няхай людзям ліха сніцца,
А мы заспявайма!
А мы заспявайма,
А мы пасядайма,
Панна, пташка мая!
Панна, доля мая!»

«'Шчэ раз, 'шчэ раз!»

«Як-бы такі або так, або сяк;
Як-бы такі запарожскі казак!

Як-бы такі малады, малады,
Павадзіў-бы хоць туды, то сюды!
Страх, як мне не хочацца
З старым дзедам марочыцца!
Як-бы такі...»

«Гэй-гэй, буяны! замаўчыце!
Бач, расходзіліся! А ты
Стары сабака, каб маліцца,
Вярзеш тут погань! Вот чарты!»—
Ім атаман крычыць што сілы;
Аж глянь—і цэркаў. Дзяк спявае,
Папы з кадзіламі, з крапілам,
А грамада—што нежывая,
А ні дзілінь... Паміж вазамі
Папы з крапіламі пайшлі,
За імі хоругві няслі,
Як-бы на той вялікдзень самы.

«Маліцесь, брацця, ў дзень гэты!---
Так благачынны пачынаў:
Кругом святога Чыгрына
Пастане варта з таго свету,
Не дасць святога распінаць.
А вы Украіну трымайце:
Не дайце мацеры, не дайце
Ў руках у ката прападаць!
Ад Канашэвіча і досюль
Пажар не гасне, людзі мруць,
Гніюць у турмах, ласкі просяць...
Дзеці няхрышчаны растуць,
Казаччы дзеці; а дзяўчаты!..
Зямлі казацкае краса
У ляха вяне, як перш маці,
І непакрытая каса
Сячэцца стыдам... Кары вочы
Ў няволі гаснуць; раскаваць
Казак сястру сваю не хоча;
Сам не сароміцца канаць
У ляха ў путах... Гора, гора!
Маліцесь, дзеці! Страшны суд
Ляхі на Ўкраіну нясуць—
І чорныя заплачуць горы.

Успомніце сваіх гетманаў:
Дзе іх магілы? Дзе ляжыць
Астанак слаўнага Багдана?
Дзе Остраніцына стаіць
Хоць-бы убогая магіла?
Дзе Налівайкава? Няма!
Жывога й мёртвага спалілі.
Дзе той Багун, дзе та зіма?
Інгул штозіму замярзае—
Багун не ўстане загаціць
Шляхоцкім трупам. Лях гуляе!
Няма Багдана чырваніць
І Жоўты Воды й Рось зялёну.
Сумуе Корсунь старадзённы:
Няма журбу з кім падзяліць.
І Альта плача: «Цяжка ў свеце!
Я сохну, сохну... Дзе Тарас?
Няма, не чуць... Не ў бацьку дзеці!
Не плачце, брацця: за нас
І душы праведных, і сіла
Архістратыга Міхаіла.
Не за гарамі кары час.
Маліцесь, брацця!»

Спяшылі
Маліцца шчыра буяны,
Як дзеці, госпада малілі,
Гадалі тое... а здабылі—
Над казакамі курганы!
Адно дабро, адна слава—
На крыжы хусціна,
Дый ту знімуць...

А дыякан:
«Няхай вораг гіне!
Во нажы вам! Пасвянцілі».
Званы загудзелі;
Раве гаем: «Пасвянцілі!»
Ажно сэрца млее.
Пасвянцілі! пасвянцілі!
Гіне шляхта! гіне!
Разабралі, заблішчалі
Па ўсёй Украіне.

---

## ТРЭЦІЯ ПЕЎНІ

Штодзень Украйну катавалі
Крывава ляхі; йшчэ адзін,
Адзін астатні сумавалі
І Украіна і Чыгрын.
І той мінуў, дзень Макавея,
Украйны свята і надзея.

Мінуў... І лях, і жыдавін
З крывёй гарэлку выпівалі,
Клялі схізмата, распіналі,
Клялі, што нечага ўжо ўзяць.
А гайдамакі моўчкі ждалі,
Пакуль паганцы лягуць спаць.



Ляглі, і ў голавы не клалі,
Што ўжо ім заўтра не ўставаць.
Заснулі ляхі ўжо, а Юды
Йшчэ лічаць грошы уначы,
Ўпацёмку лічаць барышы,
Каб не пабачылі, бач, людзі.
На золата й яны ляглі,
І сном нячыстым задрамалі.
Дрэмлюць... Каб навекі яны задрамалі!
А тым часам месяц плыве аглядаць
І неба, і зоры, і зямлю, і мора,
Ды на людзей глянуць, на іх долю, гора,
Каб раніцай богу гэта расказаць.
Свеціць белаліцы на ўсю Украіну,
Свеціць, а ці бачыць маю сіраціну,
Аксану з Вільшаны, сірату маю?
Дзе яе катуюць, дзе яна варкуе?
Ці знае Ярэма? Ці знае, ці чуе?
Пабачыма потым... А цяпер спяю,
Не тую—другую, іншую зайграю;
Ліха—не дзяўчаты—будзе танцаваць.
Нядолю спяваю казацкага краю!
Слухайце-ж, каб дзецям потым расказаць,
Каб і дзеці зналі,—ўнукам расказалі,
Як казакі шляхту цяжка пакаралі
За то, што не ўмела ў дабры панаваць.

Гаманіла Украіна,
Доўга гаманіла,
Доўга кроў цякла стэпамі,
Поле чырваніла.
Цякла, цякла, дый высахла.
Стэпы зелянеюць;
Дзяды ляжаць, а над імі
Магілы сінеюць.
Што з таго, што высокія?
Ніхто іх не знае,
Ніхто шчыра не заплача
І не ўспамінае.
Толькі вецер ціхусенька
Павее часамі,
Толькі росы ранюсенька
Дробнымі слязамі
Іх умыюць. Сонца ўзыйдзе,
Асушыць, прыгрэе...
А унукі? Ім хоць-бы што,—
Жыта сабе сеюць!
Багата іх, а хто скажа,
Дзе Гонты магіла?
Дзе мучаніка схавала
Варожая сіла?
Залязняк дзе з душой шчырай,
Дзе адпачывае?
Цяжка-цяжка! Кат пануе,
Іх-жа як не знаюць.
Гаманіла Украіна,
Доўга гаманіла,
Доўга кроў цякла стэпамі,
Поле чырваніла.
Дзень і ноч гвалт і гарматы;
Зямля стогне, гнецца;
Сумна, страшна, а успомніш—
Сэрца усміхнецца.

Месячык мой ясны! З высокага неба
За гару схавайся, бо святла не трэба;
Страшна табе будзе, хоць гуляў на Росе,
На Альце, на Сене; і там разлілося
Крыві не знай за што шырокае мора.
А цяпер што будзе? Схавайся-ж за горы;
Схавайся, мой дружа, каб не давялося
На старасць заплакаць...

Сумна, сумна сярод неба
Зззяе белаліцы.
Паўздоўж Дняпра ідзе казак,
Можа з вечарніцы.
Ідзе смутны, невясёлы,
Ледзьве цягне ногі.
Мо' за тое ўжо не любіць
Дзяўчына, што ўбогі?
І дзяўчына яго любіць,
Хоць лата ля латы.
Чорнабрывы, ён не згіне,
Будзе і багаты.
Чаго-ж смутны, невясёлы
Ідзе, чуць не плача?
Якусь цяжкую нядолю
Сэрцайка казача
Хоць варожыць, ды не скажа,
Што за ліха будзе.
Міне ліха... Вокал яго—
Бы вымерлі людзі.
А ні пеўня, ні сабакі,
І толькі з-за гаю
Дзесь далёка небаракі
Ваўкі завываюць.
Хай выюць! Ідзе Ярэма,
Ды не да Аксаны,
Не ў Вільшану на досвіткі,—
Да ляхаў паганых
У Чаркасы. А там трэці
Певень заспявае.
А там... там... Ідзе Ярэма,
Дняпро аглядае.

«Ой Дняпро, Дняпро мой, шырокі ды дужы!
Багата ты, бацька, у мора насіў
Той крыві казацкай,—йшчэ панясеш, дружа!
Чырваніў ты мора, ды не напаіў,—
А ў ноч гэту ўп'ешся. Пякельнае свята
Па ўсёй Украіне сёння зараве;
Пацячэ багата, багата, багата
Шляхоцкае крыві. Казак ажыве;
Ажывуць гетманы ў залатых жупанах,

Прабудзіцца доля; казак запяе:
«Ні жыда, ні ляха!» А ў стэпах Украйны—
О божа мой мілы—булава бліснe!»

Так думаў, ідучы ў латанай свіціне,
З свянцоным гаротны Ярэма ў руках.
Дняпро-ж-бы падслухаў: шырокі ды сіні
Падняў горы-хвалі; грозна ў чаратах—
Раве, стогне, завывае,
Лозы нагінае;
Гром грахоча... А маланка
Хмару раздзірае.
Ідзе сабе наш Ярэма,
Нічога не бача;
Адна думка усміхнецца,
Другая заплача.
«Там Аксана, там вясёла
І ў шэрай свіціне;
А тут... а тут... што йшчэ будзе?
Можа йшчэ загіну!»
А тым часам з-пад байраку
Певень—кукарэку!
«А, Чаркасы!.. божа мілы,
Не ўкараці веку!»

## ЧЫРВОНЫ БАНКЕТ

Зазванілі ва ўсе звоны
Па ўсёй Украіне;
Закрычалі гайдамакі:
«Гіне шляхта, гіне!
Гіне шляхта! Пагуляем
Ды хмару нагрэем!»
Занялася Смаляншчына,—
Хмара чырванее,
А найперша Медзвядзёўка
Неба награвае.
Гарыць Сміла; Смаляншчына
Крывёй падплывае.
Гарыць Корсунь, гарыць Канеў,
Чыгірын, Чаркасы;
Чорным шляхам запалала,
І кроў палілася
У Валынь аж. Па Палессі
Гонта банкятуе,
А Залязняк ў Смаляншчыне
Дамаску гартуе
У Чаркасах, дзе й Ярэма
Пробуе свянцоны.
«Вось так, вось так! Добра, дзеці,
Рэжце іх шалёных!
Добра, хлопцы!»—так на рынку
Залязняк гукае.
Вокал пекла; гайдамакі
Па пекле гуляюць.
А Ярэма—страшна глянуць—
Па тры, па чатыры
Так і ложыць. «Добра, сыне!
Мацяру іх к віру!
Рэж, дарэзвай! Ў раю будзеш,
Або есаулам.
Гуляй, сыне! Нуце дзеці!»
І дзеці шугнулі
Па гарах і па каморах,
У склепе, ў гародзе
Ўсіх уклалі, ўсё забралі.
«Цяпер, хлопцы, годзе!
Утаміліся, спачыньце!»
Вуліцы, базары
Крывёй зліты, ўсланы трупам.
«Мала злыдням кары!
Трэба йшчэ раз перамучыць,
Каб не паўставалі
Нехрышчоныя іх душы!»
На рынак шыбалі
Гайдамакі. Ярэма йдзе,
Залязняк гукае:
«Чуеш, хлопча? Хадзі сюды!
Хадзі, не спужаю!»
«Не баюся!» Зняўшы шапку,
Стаў, як перад панам.
«Скуль ты будзеш? Хто такі ты?»
«Я, пане, з Вільшаны».
«З той Вільшаны, дзе ктытара
Псы замардавалі?»
«Дзе? якога?»
«У Вільшане...
І кажуць, што ўкралі
Яго дочку, калі знаеш».

«Дочку... у Вільшане?»
«У ктытара, калі ведаў.»
«Аксана! Аксана!»—
Ледзьве вымавіў Ярэма,
Дый бухнуўся долу.
«Эге! Вось што!.. Шкода хлопца!
Праветры, Мікола!»
Праветрыўся. «Бацька! браце!
Ах, каб быў старукі!..
Дайце нож мне! дайце сілу!
Мукі ляхам! мукі!
Мукі страшнай, каб аж пекла
Траслося ды млела!»
«Добра, сыне! Нажы будуць
На святое дзела.
Хадзем з намі у Лісянку
Нажы гартаваці!»
«Хадзем, хадзем, атамане,
Бацька ты мой, браце
Мой ядыны! На край свету
Паляту, дастану,
З пекла вырву, атамане!..
На край свету, пане...
На край свету, ды не ўбачу,
Не знайду Аксаны!»
«Можа й знойдзеш. А цябе як
Завуць?—я не знаю».
«Ярэмаю.»
«А прозвішча?»
«Прозвішча не маю!»
«Байструк хіба? Без прозвішча...
Запішы, Мікола,
У рэестар! Няхай будзе...
Няхай будзе Голы!
Так і пішы!»
«Не, пагана!»
«Ну, хіба Бядою?»
«І не тое.»
«Пачакай во:
Пішы Галайдою!»
Запісалі.
«Ну, Галайда,
Паедзем гуляці!
Знойдзеш долю... А не знойдзеш...
Ну, хлопцы, сядлайце!»
І Ярэме каня далі
Лішняга з абозу.
Усміхнуўся на гнядошы,
Ды ізноў у слёзы.
Выехалі за вароты,—
Палаюць Чаркасы...
«Ці ўсе, дзеці?»
«Усе, бацька!»
«Гайда!»
Паняслася
Па дуброве, па-над Днепрам
Казачча ватага.
А за імі кабзар Волах
З кобзаю з павагай
На коніку кавыляе,
Казакам спявае:
«Гайдамакі, гайдамакі!
Залязняк гуляе».

Паехалі... а Чаркасы
Палаюць, палаюць.
Палайце! Ніхто й не гляне.
Смяюцца ды лаюць
Панкоў-шляхту, і гамоняць,
Кабзара марочаць.
Залязняк-жа на-сам-перад
Пільна вухам сочыць;
Едзе сабе, люльку курыць,
Нікому ні слова.
А за ім нямы Ярэма...
Зялёна дуброва
І гай цёмны, і Днепр дужы,
Й высокія горы,
Неба, зоры, дабро, людзі
І лютае гора—
Ўсё прапала, ўсё! Нічога
Не знае, не бача,—
Як забіты. Яму цяжка,
Цяжка, а не плача.
Крыважадная гадзюка
Смагла выпівае
Яго слёзы, душу давіць,
Сэрца раздзірае.
«Ой вы слёзы! дробны слёзы!
Вы змыеце гора;
Змыйце яго... Цяжка! нудна!
І сіняга мора,
І Дняпра, каб гора выліць,—
І Дняпра не стане!
Загубіці хіба душу?
Аксана! Аксана!
Дзе ты? дзе ты? Адгукніся,
Мая ты ядына!
Паглядзі ты на Ярэму!
Дзе ты? Можа гіне;
Можа цяжка кляне долю,
Кляне, уміpae,
Або ў пана у кайданах
У склепе канае!
Ўспамінае мо' Ярэму,
Родную Вільшану,
Кліча яго: «Маё сэрца,
Абымі Аксану!
Абымемся, мой саколе!
Навекі замлеем.
Няхай здзекуюцца ляхі,—
Не пачуем!..» Вее,
Вее вецер з-за Ліману,

Гне таполю ў полі,—
І дзяўчына пахінецца,
Куды гне нядоля;
Пасумуе, пажурыцца,
Забудзе... і можа...
У жупане—сама пані:
А лях... божа! божа!
Карай пеклам маю душу,
Вылі мукі мора,
Разбі кару нада мною,
Ды не такім горам
Карай сэрца! Разарвецца,
Хоць было-б як камень!

Доля мая! маё сэрца!
Аксана! Аксана!
Дзе ты дзелася, прапала?»
І хлынулі слёзы,—
Драбнюткія паліліся.
Скуль яны ўзяліся?
А Залязняк гайдамакам
Кажа запыніцца:
«У лес, хлопцы! Ўжо світае
І коні прысталі:
Папасём іх!» і ціхенька
На папаску сталі.

---

## ГУПАЛАЎШЧЫНА

Зайшло сонца; Украіна—
Дзе палала, тлела,
А дзе шляхта, запёршыся,
У будынках млела.
Скрозь па сёлах шыбельніцы;
Навешана трупаў—
Толькі старшых, а так шляхта—
Валяецца гуртам.
На вуліцах, на расстанях
Сабакі, вароны
Грызуць шляхту, клююць вочы,—
Ніхто не бароніць...
Дый некаму: засталіся
Дзеці ды сабакі,—
Жанкі нават з качаргамі
Пайшлі ў гайдамакі.

Вось было якое ліха
Па ўсёй Украіне!
Горш ад пекла... А завошта,
Зашто людзі гінуць?
Таго-ж бацькі, тыя-ж дзеці,—
Жыць-бы ды братацца.
Не, не ўмелі, не хацелі,—
Трэба раз'яднацца!
Крыві трэба, крыві братняй,
Бо зайздрасць, што ў брата
Ё ў каморы і на полі,
І поўная хата.
«Заб'ем брата! Спалім хату!»—
Сказалі, зрабілі.

Усё-б здаецца!.. Не, на кару
Сіротаў пусцілі.
Раслі ў слёзах, дый выраслі;
Замучаны рукі
Развязаліся—й кроў за кроў,
І мукі за мукі!
Баліць сэрца, як успомніш:
У крыві заліты
Славян дзеці. А хто вінен?
Ксяндзы, езуіты!..

Вандравалі гайдамакі
Ярамі, лясамі,
А за імі і Галайда
З дробнымі слязамі.
Ўжо мінулі Вараноўку,
Вярбоўку, ў Вільшану
Прыехалі. «Спытаць хіба,
Спытаць пра Аксану?
Не спытаю, каб не зналі,
За што прападаю...»
А тым часам гайдамакі
Й Вільшану мінаюць.
Пытаецца у хлопчыка:
«Ктытара забілі?»
«Ды не, дзядзька; казаў бацька,
Што яго спалілі
Тыя ляхі, што ляжаць там,
І Аксану ўкралі.
А ктытара на свінтары
Ўчора пахавалі».

Не даслухаў.. «Нясі, косю!»
І паводдзе кінуў.
Чаму ўчора, як не ведаў,
Ўчора не загінуў!
А калі і ўмру сягоння,
З дамавіны ўстану
Ляхаў мучыць. Сэрца маё!
Аксана! Аксана!
Дзе ты?»
Змоўкнуў, зажурыўся,
Паехаў ступою.
Цяжка-цяжка бедачыне
Змагацца з тугою.
Дагнаў сваіх. Баравіцкім
Полем ужо едуць.
Са стадолай карчма тлее.
А Лейбы ні следу.
Усміхнуўся мой Ярэма,
Цяжка усміхнуўся:
«Вось тут, вось тут пазаўчора
Перад жыдам гнуўся,
А сягоння!..» Дый жаль стала,
Што беды мінулі.
Гайдамакі каля яру
З шляху павярнулі.
Наганяюць парабчонка.
Хлопец у зрабнінах
Палатняных, у пастолах;
На плячах тарбіна.
«Гэй, старчэня! Пачакай, брат!»
«Я не старац, пане!
Я, як бачыш, гайдамака».
«Які-ж абарванец!
Адкуль-жа ты?»
«З Каралёўкі».
«А Будзішча знаеш?
І возера каля Будзішч?»
«І возера знаю—
Вось яно там, гэтым ярам
Да яго даедзеш».
«Што, сягоння ляхаў бачыў?»
«Прапалі ўсе недзе!
А ўчора было багата,
Вянкоў не свянцілі:
Не далі паганцы-ляхі.
За то-ж іх і білі!
І я нажом святым бацька;
А маці нядужа,
А то й яна-б...»
«Добра, хлопча!
Вось на табе, дружа,
Дукат гэты, не згубі, бач!»
Узяў залатога,
Паўзіраўся: «Шчыра дзякуй!»
«Ну, хлопцы, ў дарогу!
Ды чуеце? Без гамонкі.
Галайда, за мною!
Возера ё ў гэтым яру
І лес пад гарою,
А ў лесе скарб. Як прыедзем,
Дык каб вокал сталі,
Скажы хлопцам. Можа ў лёхах
Варту пастаўлялі
Там паганцы».
Прыехалі,
Сталі кругом лесу;
Паглядаюць—анікога..
«Цю іх да ста бесаў!
Што за грушы урадзілі!
Збівайце, хлапчаты!
Жыва! жыва! Гэтак! гэтак!»
І канфедэраты
Пасыпаліся дадолу,
Грушы гнілабокі.
Пазбівалі, падабралі;
Не маргнуўшы вокам:
Знайшлі лёхі, скарб забралі,
У ляхаў кішэні
Ператрэслі, дый рушылі
Чыніць кару дрэні
У Лісянку.

---

## БАНКЕТ У ЛІСЯНЦЫ

Змяркалася. А з Лісянкі
Агні засвяцілі:
Гэта Гонта з Залязнякам
Люлькі закурылі.
Страшна, страшна закурылі!
І ў пекле не ўмеюць
Курыць гэтак. Гнілы Цікіч
Крывёй чырванее
І шляхоцкай, і жыдоўскай,
А над ім палаюць
І хаціна, і будынак;
Бы доля карае

Ì вяльможных, і убогіх.
А сярод базару
Залязняк стаіць і Гонта,
Крычыць: «Ляхам кары!
Кары ляхам, хай каюцца!»
Ì дзеці караюць.
Стогнуць, плачуць; адзін просіць,
Другі праклінае;
Той моліцца, спавядае
Грахі перад братам,
Ўжо забітым. Не мілуюць,
Караюць заўзята.
Як смерць тая, не ўважаюць
На годы, на ўроду
Шляхцяначкі, жыдовачкі.
Цячэ кроў у воду.
Ні калекі, ні старога,
Ні дзіцё малое
Не мінулі,—не ўпрасілі
Часіны ліхое.
Паляглі ўсе, ўсе пакотам;
Ні душы жывое
Не засталася ў Лісянцы.
А пажар удвое
Разгарэўся, распаліўся
Да самае хмары.
А Галайда, знай, гукае:
«Кары ляхам, кары!»
Як шалёны, мёртвых рэжа,
Вешае з запалам.
«Дайце ляха, дайце жыда!
Мала іх мне, мала!
Дайце ляха, крыві дайце
Натачыць з паганых!
Крыві мора... Мала мора!..
Аксана! Аксана!
Дзе ты?»—крыкне і знікае
Ў полымі, ў пажары.
А тым часам гайдамакі
Сталы ўздоўж базару
Паставілі; нясуць страву,
Ды што дзе папалі,
Засвятла каб павячэраць.
«Гуляй!»—загукалі.
Вячэраюць, а кругом іх
Пекла чырванее.
Павешаныя ў пажары
На кроквах чарнеюць
Паноў трупы. Гараць кроквы
Ì падаюць з імі.
«Піце, дзеці! Піце, ліце!
З панамі такімі
Можа йшчэ раз сустрэнемся,
Йшчэ раз пагуляем!»
Ì з поўгарца адным духам
Залязняк куляе.
«За праклятых вашых трупаў
Ì за душ праклятых
Шчэ раз вып'ю! Піце, дзеці!
Вып'ем, Гонта, браце!»
«Вып'ем, дружа, пагуляем
Удваёчку, ў пары.
А дзе-ж Волах? Заспявай-жа
Нам, стары кабзару!
Не пра дзедаў, бо не горай
Мы ляхаў караем;
Не пра ліха,—бо яго мы
Не зналі й не знаем.
Вясёлую ўтні нам, старча,
Каб зямля трашчэла,—
Пра ўдавіцу-маладзіцу,
Як яна цярпела».

К а б з а р (*грае і прыпявае*)

«Ад сяла да сяла
Танцы ды музыкі:
Курку, яйкі прадала,
Маю чаравікі!
Ад сяла да сяла
Буду танцаваці:
Ні каровы, ні вала,—
Сама адна ў хаце.
Я аддам, я прадам
Ды куплю хаціну,
Я куплю, я зраблю
Крамачку пад тынам;
Таргаваць, шынкаваць
Чарачкамі буду,
Танцаваць ды гуляць
З парабчанскім людам!
Ох вы, дзеткі мае,
Мае галубяткі!
Не журыцеся, глядзіце,
Як танцуе матка!
Сама ў наймы пайду,
Ў школу дзетак аддам,
А чырвоным чаравічкам
Такі дам, такі дам!»

«Добра! добра! Ну, да танцаў,
Да танцаў, кабзару!»
Сляпы ўрэзаў. У прысядкі
Пайшлі па базару.
Зямля гнецца... «А ну, Гонта!»
«Ну, браце Максіме!
Жарнем дружна, мой галубе,
Покуль не загінем!»

«Не ўзірайцеся, дзяўчаты,
Што я абадраўся;
Бо мой бацька рабіў гладка,
Ì я ў яго ўдаўся».

«Добра, браце! Ей-жа богу!»
«А ну, ты, Максіме!»
«Пачакай, брат!»

«Вось рабі так, як раблю я:
Любі дочку хоць якую,—
Хоць папову, хоць дзякову,
Хоць харошу мужыкову!»

Ўсе танцуюць, а Галайда
Не чуе, не бача,
Сядзіць сабе ў канцы стала
Цяжка-важка плача,
Як дзіцё. Чаго-б, здаецца?
Ў чырвоным жупане,
І золата ёсць, і слава,
Ды няма Аксаны!
Не з кім долю падзяліці,
Не з кім заспяваці!
Адзін, адзін сіратою
Мусіць прападаці!
А таго, таго й не знае,
Што яго Аксана
Па тым боку за Цікічам
Ў пакоях з панамі,
З тымі самымі ляхамі,
Што закатавалі
Яе бацьку. Недалюдкі!
А цяпер прапалі
За мурамі, ды глядзеце,
Як жыды канаюць,
Браты вашы! А Аксана
Ў акно выглядае
На асвечану Лісянку.
«Дзе-та мой Ярэма?»—
Сама думае, не знае,
Што ён тут не дрэмле,
У Лісянцы. Ды не ў світцы—
Ў чырвоным жупане,
Сядзіць адзін ды думае:
«Дзе мая Аксана?
Дзе яна, мая галубка
Бяскрылая, плача?»
Цяжка яму!
А з-пад яру
Ў кірэі казачай
Хтось крадзецца.
«Хто такі ты?»—
Галайда пытае.
«Пасланец я пана Гонты.
Няхай пагуляе—
Я пажду».
«Не, не дажджэшся,
Жыдоўскі сабака!»
«Хавай божа, які я жыд?
Бачыш? Гайдамака!
Вось капейка... Прыглядзіся...
Хіба ты не знаеш?»
«Знаю, знаю!»—і свянцоны
З халявы вымае.
«Прызнавайся, жыд лукавы,
Ты прывёў у Млееў
Да ктытара ляхаў п'яных.
Я, Лейба, не ўмею
Жартаваці. Я—Ярэма,
Твой найміт паганы.
Ці-ж не пазнаў? Прызнавайся...
Дзе мая Аксана?»
Дый замахнуўся.
«Крый божа!..
Ў палацы... з панамі...
У золаце ўся...»
«Выручай-жа!
Выручай, пракляты!»
«Добра, добра... Які-ж бо вы,
Ярэма, заўзяты!
Іду зараз і выручу:
Грошы мур ламаюць.
Скажу ляхам: заместа Паца...»
«Добра, добра! Знаю,
Хутчэй ідзі!»
«Зараз, зараз!
Гонту забаўляйце,
З поўчасіны, а няхай там!
Ідзіце-ж, гуляйце!..
Куды везці?»
«У Лябедзін!
У Лябедзін,—чуеш?»
«Чую, чую».
І Галайда
З Гонтаю танцуе.
А Залязняк бярэ кобзу:
«Патанцуй, кабзару!
Я зайграю».
Наўпрысядкі
Сляпы па базару
Адбівае пасталамі,
Дадае славамі:

«На гародзе пастарнак, пастарнак;
Ці-ж табе я не казак, не казак?
Ці-ж цябе я не люблю, не люблю?
Ці-ж табе я чаравічкаў не куплю?
Куплю, куплю, чорнабрыва,
Куплю, куплю таго дзіва.
Буду, сэрца, хадзіць,
Буду, сэрца, любіць».

«Ой гоп-гапака!
Палюбіла казака,
Ды рудога,
Ды старога,—
Ліха доля така́!
Ідзі-ж, доля, за журбою,



А ты, стары, за вадою!
А я—дык у шынок.
Вып'ю чарку і другую,
Выпіць трэцюю хачу я,
Пятай, шостай закушу я.
Пайшла баба у танок,
А за ёю галубок,
Выкрутасам,
Выхілясам,
Маладзец галубок!
Стары руды бабу кліча,
Тая-ж яму дулю тыча:
«Ажаніўся, сатана,
Даставай-жа мне пшана!
Трэба дзетак гадаваць,
Трэба дзетак адзяваць,
А я буду дабываць;
А ты, стары, не грашы,
Ды ў запечку калышы,
Ды маўчы, не дышы!»

«Як была я маладою прыпадобніцаю,
Павесіла хвартушыну над аконніцаю;
Хто йдзе—не міне,
То кіўне, то міргне.
А я шоўкам вышываю,
У шыбінку выглядаю.
Сыманы,
Іваны!
Надзявайце жупаны,
Ды мы пойдзем пагуляем,
Ды мы сядзем заспяваем!»
«Заганяйце квочку ў бочку,
А курчат у сетку!..
. . . . . . . . .
. . . . . . . . .
І... гу!
Загнуў бацька дугу,
Цягне маці супоню,
А ты, дочка, ссупоні!»

«Ці йшчэ? Ці годзе?»
«Яшчэ!
Хоць брыдкую! Самі ногі носяць».
«Ой сып вядром квас
Ды крышы апенькі!
Дзед ды баба,
Той да ладу,—
Абое радзенькі.

«Ой сып вядром квас
Ды крышы пятрушку!
. . . . . . . .
. . . . . . . .
Ой сып вядром квас
Ды накрышы хрэну!
. . . . . . . . .
. . . . . . . . .
Ой сып воду, воду
Ды ідзі шукаці броду!..»

«Годзе! годзе!—крычыць Гонта:
Годзе, пагасае.
Светла, дзеці!.. А дзе Лейба?
Дзе ён прападае?
Знайсці яго ды павесіць.
Пяцелька свіняча!
Гайда, дзеці! Пагасае
Кагачец казачы!»
А Галайда: «Атамане!
Пагуляйма, татка!
Глядзі—гарыць: на базары
І відна, і гладка.
Патанцуем. Грай, кабзару!»
«Не хачу гуляці!
Агню, дзеці! Дзёгцю, клочча!
Гарматы давайце;
Даць агонь у склепы, сховы!
Думаюць—жартую!»

Заравелі гайдамакі:
«Добра, бацька, чуем!»
Цераз грэблю паваліліі,
Гукаюць, спяваюць.
А Галайда крычыць: «Бацька!
Стойце!.. Прападаю!
Пачакайце, не страляйце:
Там мая Аксана!
Часіначку, бацькі мае!
Я яе дастану!»
«Добра, добра! Залязняча,
Давай знак страляці!
Годзе цацкацца з ляхамі...
А ты, мілы браце,
Знойдзеш іншую!»
Тут глянуў—
Галайды ні духу

Равуць горы—дом з ляхамі
Пажарам забухаў
Каля хмар. Што засталося—
Пеклам запалала...
«Дзе Галайда?»—Максім кліча.
І следу не стала.
Пакуль малойцы танцавалі,
Ярэма з Лейбай не драмалі.
Пралезлі ў дом, у самы лёх.
Схапіў Аксану у хвіліну
Ярэма з лёху і сам рынуў
У Лебядзін...

---

## ЛЕБЯДЗІН

«Ой сіротка я з Вільшаны,
Сірата, бабуся!
Бацьку ляхі замучылі,
А мяне... Баюся,
Баюся, галубка, ўспомніць!..
Узялі з сабою.
Не распытывай, бабулька,
Што было са мною.
Плакала ды наракала,
Гора сэрца рвала,
Слёзы сохлі, душа мёрла...
Ох, каб гэта знала,
Што яго йшчэ раз пабачу
Жывым і здаровым,—
Выцерпела-б яшчэ болей
За адно хоць слова!
Выбачай, мая галубка!
Можа, я грашыла;
Можа, бог за то й карае,
Што я палюбіла,—
Палюбіла стан высокі
І карыя вочы,
Палюбіла, як умела,
Як сэрцайка хоча.
Не за бацьку малілася
Й за сябе ў няволі,—
За яго, мая бабуся,
За мілага долю.
Карай божа! Тваю праўду
Я выцерпець мушу.
Сказаць страшна: думала-ж я
Загубіці душу.
Каб не ён-жа,—можа-б... можа,
Так і загубіла.
Цяжка было! Думала я:
«О божа мой мілы!
Сірата ён,—без мяне хто
Яго прывітае?
Хто пра долю, пра нядолю,
Як я, распытае?
Хто абыме, як яго я?
Хто душу пакажа?
І хто ўбогаму сіроце
Слова ласкі скажа?»
Я так думала, бабуся
Смяялася сэрца:
«Без бацькоў я засталася
Сіратой на свеце;
І адзін ён на ўсім свеце,
Мяне верна любіць,
А пачуе, што не жыва
Сам сябе загубіць».
Так я думала ў малітвах,
Ждала ў кожным часе:
І няма яго, не будзе!—
Адна засталася...»

Дый заплакала. Чарніца
Горка, без надзеі
Зажурылася.
«Бабулька!
Ты скажы мне: дзе я?»
«Ў Лебядзіне, мая птушка!
Не ўставай: ты хвора».
«Ў Лебядзіне? Ці даўно я?»
«Ды не, пазаўчора».
«Пазаўчора?.. Пачакайце!..
Пажар над вадою...
Жыд, Майданаўка, будынак...
Завуць Галайдою...»
«Так, Ярэмай Галайдою
Сябе называе
Той, прывёз што...»
«Дзе ён? дзе ён?
Цяпер-жа я знаю!..»
«Цераз тыдзень абяцаўся
Прыйсці за табою».
«Цераз тыдзень! Цераз тыдзень!
Сэрцайка загоіць!
Бабусенька, мінулася
Ліхая часіна!
Той Галайда—мой Ярэма!..
Па ўсёй Украіне
Яго знаюць. Я глядзела,
Як сёлы гарэлі,
Бачыла я—ка́ты ляхі
Трэсліся і млелі,
Як хто скажа пра Галайду.
Знаюць яны, знаюць,
Хто такі ён і адкуль ён,
І каго шукае!..
Ён шукаў мяне й нарэшце
Адшукаў, саколік!
Прылятай-жа, мой галубе,
Маё шчасце, доля!
Ох, як весела на свеце,
Хоць ідзі скакаці!
Цераз тыдзень, бабусенька...
Яшчэ тры дні ждаці.
Ох, як доўга!..
«Заграбай, мама, жар, жар,—
Будзе табе дочкі жаль, жаль...»
Ох, як весела на свеце!
А табе, бабуся,
Ці весела?» «Я табою,
Пташка, весялюся».
«А чаму-ж ты не спяваеш?»
«Я ўжо адспявала...»

Зазванілі на вячэрню.
Аксана ўздыхала,
А чарніца памаліцца
У храм падыбала.

Праз тыдзень ў Лебядзіне
У царкве спявалі:
«Ісаія, лікуй!» Ранкам
Ярэму вянчалі;
А вечарам мой Ярэма
(От хлопец звычайны!),
Не злаваць каб атамана,
Пакінуў Аксану:

Ляхаў кончыць; з Залязнякам
Вяселле спраўляе
На Уманшчыне, ў пажарах.
Яна выглядае,—
Выглядае, ці не едзе
З баярамі ў госці—
Перавезці яе з келлі
Ў хату на памосце.

Не журыся, спадзявайся
Ды маліся богу.
А цяпер-жа мне на Умань
Сцелецца дарога.

---

## ГОНТА Ў УМАНІ

Хваліліся гайдамакі,
На Умань ідучы:
„Будзем драці. панебраце,
З кітайкі анучы!"

Мінаюць дні, мінае лета,
А Украіна, знай, гарыць;
Галосяць дзеці неадзеты:
Бацькоў няма ўжо. Шалясціць
Лісцё пажоўклае ў дуброве;
Гуляюць хмары, сонца спіць;
Нідзе не чуць людскoе мовы;
Звер толькі вые за сялом,
Трупы грызучы. Не хавалі,—
Ваўкоў ляхамі гадавалі,
Аж пакуль снегам занясло
Агрызкі воўчыя.

Не спыніла завіруха
Пякельнае кары:
Ляхі мерзлі, а казакі
Грэліся ў пажары.
Вясна ўстала і зямельку
Сонную збудзіла,
Уквяціла ў зелень, кветкі,
Барвінкам пакрыла;
І на полі жаваронак,
Салавейка ў гаі
Зямлю ўбраную вясною,
Ўранні сустракаюць...
Рай, ды годзе! Для каго-ж ён?
Для людзей... А людзі?
На яго й зірнуць не хочуць,
А зірнуць—асудзяць.
Крывёй трэба змаляваці,
Асвяціць пажарам;
Сонца мала, кветак мала,
І багата хмараў.
Пекла мала!.. Людзі, людзі!
Калі ўжо з вас будзе
Дабра таго, што маеце?
Дзіўныя вы людзі!

І вясна кроў не спыніла,
Ні злосці людское.
Цяжка глянуць; а прыпомніш—
Так было і ў Троі.
Так і будзе.
Гайдамакі
Гуляюць, караюць;
Дзе праедуць—зямля ў прыску,
Крывёю сплывае.
Максім прыдбаў сабе сына
На ўсю Украіну;
Хоць не родны сын Ярэма,
А шчыры хлапчына.
Максім рэжа, а Ярэма
Не рэжа—лютуе:
З нажом вострым на пажарах
Днюе і начуе.
Не мілуе, не мінае
Нідзе анікога;
За ктытара ляхам плаціць,
За бацьку святога,
За Аксану... Дый замлее,

Ўспомніўшы Аксану.
А Залязняк: «Гуляй, сыну,
Покуль доля ўстане!
Пагуляем!» Пагулялі:
Купаю на купе
Ад Кіева да Умані
Леглі ляхі трупам.

Нібы хмара, гайдамакі
Умань абступілі
Апоўначы; да ўсход сонца
Умань затапілі.
Затапілі, закрычалі:
«Бі ляха, панове!»
Пакацілася па рынку
Jarda narodowa;
Пакаціліся і дзеці
І калека хворы.
Гвалт і галас... На базары,
Як пасярод мора
Крывавага, стаіць Гонта
З Максімам заўзятым.
Крычаць удвух: «Добра, дзеці!
Вось так іх праклятых!»
Аж вядуць во гайдамакі
Ксяндза езуіта
І двух хлопцаў: «Гонта! Гэта
Твае дзеці ўмыты!
Ты нас рэжаш—рэж і іх ты:
Яны каталікі.
Чаго-ж стаў? Чаму не рэжаш?
Покуль невялікі.
Зарэж і іх; бо вырастуць,
Дык цябе зарэжуць!..»
«Забіце пса! А псянятаў
Сваёю зарэжу.
Кліч грамаду. Прызнавайцесь,
Што каталікі вы!»
«Католікі... бо нас маці...»
«Божа міласцівы!
Маўчаць! маўчаць! Знаю, знаю!»
Збеглася грамада.
Католікі—мае дзеці...
Каб не было здрады,
Каб не было перасудаў,
Панове грамада!
Прысягаў, як браў свянцоны,
Католіка рэзаць.
Ой сыны! сыны мае вы!
Малыя гарэзы!
Што не рэжаце вы ляха?»
«Будзем рэзаць, татка!»
«О, не будзеце вы рэзаць!
Будзь праклятай матка,
Праклятая каталічка,
Што вас спарадзіла!
Чаму вас да ўсходу сонца
Была не ўтапіла?
Менш-бы грэху: вы памерлі-б
Не каталікамі!
А сягоння, сыны мае
Горачка мне з вамі!
Пацалуйце мяне, дзеці,
Не я забіваю,
А прысяга!..» Махнуў нажам—
І дзяцей не мае!
Парэзаныя палеглі.
«Тата...—булькаталі:
Тата, тата!.. Мы не ляхі!
Мы...»—дый замаўчалі.
«Пахаваць можа?» «Не трэба
Дзяцей каталічкі.
Ой сыны, сыны мае вы!
Чаму невялічкі?
Чаму ворага і матку
Не гналі ў магілу?
Тую матку каталічку,
Што вас спарадзіла?..
Хадзем, браце!»
Узяў Максіма;
Пайшлі ўздоўж базару,
І абодва закрычалі:
«Кары ляхам, кары!»
І каралі... Страшна, страшна
Умань запалала.
Ні ў харомах, ні ў касцёле
Нікога не стала,—
Пляглі ўсе. Разні гэткай
Не было паганай,
Што ў Умані бушавала.
Школу базыльянаў,
Дзе вучылі дзяцей Гонты,
Сам Гонта руйнуе:
«Ты паіла маіх дзетак!—
Гукае, лютуе:
Тут паілі невялікіх,
Дабру не навучылі...
Бурыць сцены!»
Гайдамакі
Сцены развалілі,
Развалілі, аб каменне
Ксяндзоў разбівалі,
А школьнікаў у крыніцы
Жыўцом пахавалі.

Да самае ночы ляхаў выразалі;
І душы не знойдзеш. А Гонта крычыць:
«Дзе вы, людаеды? Дзе вас пахавалі?
З'елі маіх дзетак,—цяжанька мне жыць!
Цяжанька мне плакаць! з некім гаварыць!
Ой сыны, сыночкі, дзе мне вас шукаці?
Дзе вы запрапалі? Крыві, крыві дайце!
А крыві шляхоцкай! бо хочацца піць!
Хочацца ўзірацца, як яна чарнее,
Хочацца напіцца!.. Што вецер не вее,
Ляхаў не навее?.. Цяжанька мне жыць!



А мне так весело в неволе
Девичью молодость терять
Я разве грешница какая?
Отраву, что ли, я варю?
Нет, я не грешница; ты узнаешь,
Всему я верила, всему!
Но кто поверил моей вере?
Теперь не то. Летит, летит!
Нет, ты не вылетишь, проклятый,
Я задушу тебя! Держите—
Красный змей! Красный змей!
Он рассыпется... Потом..
Га! га! га!..»

И, будто мщение живое,
Она с распущенной косой,
С ножом в руках, крича летела
И с визгом скрылася в огне.
Вдруг крик пронзительный. Вздрогнула
Слепая молча, и крестясь
«Аминь, аминь, аминь!» шептала.
И крик сменил протяжный гул,
Стена упала, гул ревел,
И смолк в долине безучастной,
Как в глубине души бесстрастной.
Пожар лютея пламенел;
Слепая, бедная, стояла
В дыму и пыли снеговой,
Она Оксаны дожидала
И «со святыми упокой»
Невольно с трепетом шептала.
И не дождалася слепая
Своей Оксаночки; ушла
Из погорелого села,
Псалом любимый напевая:
«Кого, рыдая, призову я
Делить тоску, печаль мою?
В чужом краю кому, тоскуя,
Родную песню пропою?»

С.-Пецербург
(1842)

---




## ГАМАЛІЯ

«Ой няма, няма ні ветру, ні хвалі
  Ды з той нашай Украіны!
Ці там раду радзяць, як на турка ўстаці,
  Не чуема на чужыне.

Ой павей, павей, ветру, цераз мора
  Ды з вялікага Лугу,
Сушы нашы слёзы, заглушы кайданы,
  Развей нашу тугу.

Ой ўзыйграй, ўзыйграй, сінюткае мора,
  Ды пад тымі байдакамі,
Што плывуць казакі, чуць відненькі шапкі,
  На гэты бок за намі.

Ой божа наш, божа, хоць і не за намі,
  Нясі ты іх з Украіны;
Пачуема славу, казацкую славу,
  Пачуема дый загінем».

---

  Вось так у Скутары казакі спявалі;
Бедакі спявалі, а слёзы ліліс;
Ліліся іх слёзы, тугу дамаўлялі.
Басфор аж затросся, бо зроду не чуў
Казацкага плачу; застагнаў шырокі,
І скураю, шэры бугай, страпянуў,
І, равучы, хвалю далёка, далёка
У сіняе мора на рэбрах паслаў.
І мора раўнула Басфораву мову,
У Ліман пагнала, а Ліман дняпровай
Хвалі журбу-мову пакорна падаў.
Разрагатаўся дзед наш дужы,
Аж пена з вуса пацякла.
«Ці спіш, ці чуеш! браце Лужа!
Сястра Харціцы!..»
                    Загула
Харціца з Лугам: «Чую! чую!»
      І Днепр укрылі байдакі,
      І заспявалі казакі:
      «У туркені на тым боку
      Хата на памосце.
        Гай! гай! Мора, грай,
        Раві, скалы змятай!
      Паедзем у госці.

      У туркені у кішэні
      Талеры, дукаты.
        Не кішэні трэсці—
        Едзем рэзаць, паліць,
      Вызваляці брата.



У туркені янычары
Ї баша на лаве.
Гой гі! ворагі!
Мы не маем ваті!
Наша воля й слава!»

Плывуць сабе спяваючы;
Мора ветра чуе.
Паперадзе Гамалія
Байдаком кіруе.
Гамалію, сэрца млее:
Звар'яцела мора.
Не слухае!—схаваліся
За хвалі, за горы.

———

Дрэмле у гарэме—ў раю Візантыя,
Ї Скутар той дрэмле, а Басфор бурліць,
Нібы звар'яцелы; то стогне, то вые:
Яму Візантыю хочацца збудзіць.
«Не будзі, Басфора: будзе табе гора;
Твае хвалі-рэбры пяском занясу,
У мул пахаваю!..»—раве грозна мора:
«Хіба ты не знаеш, якіх я нясу
Гасцей да султана?..»

Так мора спыняла
(Любіла заўзятых чубатых славян).
Басфор схамянуўся. Туркеня драмала,
Драмаў у гарэме лядачы султан.
Толькі ў тым Скутары, ў склепе, сну не маюць
Казакі ў няволі. Чаго яны ждуць?
По-свойму ў кайданах бога умаляюць,
А хвалі па той бок ідуць і равуць.

«О мілы божа Украіны,
Не дай прапасці на чужыне,
Ў няволі вольным казакам!
Ї сорам тут, і сорам там—
Ўставаць з чужое дамавіны;
На суд твой праведны прыйсці,
Рукі ў жалезе прынясці,
Ї прад усімі у кайданах
Казаку стаці...»

«Рэж! і бі!
Знішчай няверу—бусурмана!»—
Крычаць за мурам. Хто такі?
Гамалію, сэрца млее:
Скутар звар'яцее!
«Рэжце! біце!»—на фартэцы
Крычыць Гамалія.

Грыміць гарматамі Скутара—
Равуць, лютуюць ворагі;
Казацтва прэцца без вагі—
Ї ломяць сілу янычараў.

Гамалія па Скутары—
Па пеклу гуляе,
Сам астрогі разбівае,
Кайданы знімае.
«Вылятай на волю, птахі,
Шукай свайго паю!»
Узняліся сакаляты,
Бо даўно не чулі
Хрышчонае тае мовы.
Ночку ўскалыхнулі:
Не гадала, стара маці,
Аб казацкай плаце.
Ды не бойся, паглядзі ты
На банкет казачы.
Цёмна ўсюды, як у будзень,
А свята настала.
Не зладзеі з Гамаліем
Ядуць моўчкі сала
Без шашлыка. «Дык засвецім!»
Да самае хмары
Грозна разам з караблямі
Палае Скутары.
Візантыя збудзілася,
Вырочвае вочы,
Ідзе ўплаў на дапамогу,
Зубамі скрыгоча.

Раве, лютуе Візантыя,
Рукамі бераг дастае;
Дастала, зыкнула, ўстае—
Ї на нажах у крыві стыне.
Скутар, як пекла, ўвесь палае;
А на базарах кроў цячэ,
Басфор шырокі далівае.
Як птахі чорныя ў гаі,
Казацтва смелае лятае:
Ніхто на свеце не ўцячэ!
Агонь пякучых не пячэ.
Руйнуюць муры. Срэбра, злота
Нясуць у шапках казакі
Ї насыпаюць байдакі.
Гарыць Скутар, ціхне работа,
Ї хлопцы сходзяцца: прышлі,
З пажарышч люлькі прысмакталі,
На байдакі—ды пацяглі,
Рвучы валы чырвоных хваляў.

Плывуць сабе, нібы з дому—
Быццам так гуляюць,
Як звычайна, запарожцы,
Плывучы спяваюць:

«Атаман наш Гамалія,
Атаман заўзяты,
Сабраў хлопцаў ды паехаў
Па моры гуляці;
Па моры гуляці,
Славы здабываці,

Ды з турэцкае няволі
Братоў вызваляці.
Ой прыехаў Гамалія
Да тае Скутары.
Сядзяць браты-запарожцы
Ды чакаюць кары.
Ой як крыкнуў Гамалія:
«Браты! будзем жыці,
Будзем жыці, віно піці,
Янычара біці,
А курэні кілімамі,
Аксамітам крыці!»
Вылятаді запарожцы
Ў поле жыта жаці;
Жыта жалі, ў копы клалі,
Гуртам заспявалі:
«Слава табе, Гамалію,
На ўвесь свет вялікі,
На ўвесь свет вялікі,
На ўсю Украіну,
Што не даў ты запарожцам
Згінуць на чужыне!»

Плывуць спяваючы; плыве
Узбоч заўзяты Гамалія:
Арол арлёнкаў сцеражэ.
А з Дарданелаў вецер вее.
Няма пагоні з Візантыі:
Яна баіцца,каб Чарнец
Не засвяціў ізноў Галату,
Каб з войскам не прышоў у сваты
К ёй сам Падкова-удалец.
Плывуць сабе, а па-за хваляў
Сонца хвалю чырваніць;
Перад імі мора далі,
І мора міла гаманіць.

Гамалію вецер вее...
Вось... вось... наша мора!..
І схаваліся за хвалі—
Ружовыя горы

С.-Пецербург
(1842)

# ТРИЗНА

***На память 9-го Ноября 1843 года, Княжне Варваре Николаевне Репниной***

*ПОСВЯЩЕНИЕ*

*Душе с прекрасным назначеньем*
*Должно любить, терпеть, страдать,*
*И дар господний, вдохновенье,*
*Должно слезами поливать.*
*Для вас понятно это слово!..*
*Для вас я радостно сложил*
*Свои житейские оковы,*
*Священнодействовал я снова,*
*И слезы в звуки перелил.*

*Ваш добрый ангел осенил*
*Меня бессмертными крылами,*
*И тихостройными речами*
*Мечты о рае пробудил.*

Яготин
11 Ноября 1843

---

Души ваши очистившие в послушании истины духом, в братолюбии нелицемерно, от чиста сердца друг друга любите прилежно: порождени не от семени истленна, но не истленна, словом живого бога и пребывающего во веки. Зане всяка плоть, яко трава, и всяка слава человеча, яко цвет травный: изсше трава и цвет ея отпаде. Глагол же господень пребывает во веки. Се же есть глагол благовествованный в вас.

Соборное послание первое
святого апостола Петра. 1, 22, 25

---

Двенадцать приборов на круглом столе,
Двенадцать бокалов высоких стоят;
И час уж проходит,
Никто не приходит;
Должно быть, друзьями
Забыты они.

Они не забыты,—в урочную пору,
Обет исполняя, друзья собрались,
И вечную память пропели собором,
Отправили тризну—и все разошлись.
Двенадцать их было; все молоды были,
Прекрасны и сильны; в прошедшем году
Найлучшего друга они схоронили,
И другу поминки в тот день учредили,
Пока на свиданье к нему не сойдут.
«Счастливое братство! Единство любови
Почтили вы свято на грешной земле;
Сходитеся, други, как ныне сошлись,
Сходитеся долго, и песнею новой
Воспойте свободу на рабской земле!»

Благословен твой малый путь,
Пришлец убогий, неизвестный!

Ты силой господа чудесной
Возмог в сердца людей вдохнуть
Огонь любви, огонь небесный.
Благословен! Ты божью волю
Короткой жизнью освятил;
В юдоли рабства, радость воли
Безмолвно ты провозгласил.
Когда брат брата алчет крови,
Ты сочетал любовь в чужих;
Свободу людям—в братстве их
Ты проявил, великим словом

Ты миру мир благовестил;
И, отходя, благословил
Свободу мысли, дух любови!
Душа избранная, зачем
Ты мало так у нас гостила?
Тебе здесь тесно, трудно было!
Но ты любила здешний плен,
Ты, непорочная, взирала,
Скорбя, на суетных людей.
Но ангела не доставало
У вечного царя царей;
И ты на небе в вечной славе
У трона божия стоишь,
На мир наш темный и лукавый
С тоской невинною глядишь.
Благоговею пред тобою,
В безмолвном трепете дивлюсь;
Молюсь тоскующей душою,
Как перед ангелом молюсь!
Сниди, пошли мне исцеленье!
Внуши, навей на хладный ум
Хоть мало светлых, чистых дум;
Хоть на единое мгновенье
Темницу сердца озари,
И мрак строптивых помышлений
И разгони и усмири!
Правдиво, тихими речами,
Ты раскажи мне все свое
Земное благо-житие,
И научи владеть сердцами
Людей кичливых и своим,
Уже растленным, уже злым...
Скажи мне тайное ученье
Любить гордящихся людей,
И речью кроткой и смиреньем
Смягчать народных палачей.
Да провещаю гимн пророчий,
И долу правду низведу,
И погасающие очи
Без страха к небу возведу.
И в этот час последней муки
Пошли мне истинных друзей,
Сложить хладеющие руки,
И бескорыстия елей
Пролить из дружеских очей.
Благословлю мои страданья,
Отрадно смерти улыбнусь,
И к вечной жизни с упованьем
К тебе на небо вознесусь.

Благословен твой малый путь,
Пришлец неславленный, чудесный!

В семье убогой, неизвестной
Он выростал; и жизни труд,
Как сирота, он встретил рано;
Упреки злые встретил он
За хлеб насущный... В сердце рану
Змея прогрызла... Детский сон
Исчез, как голубь боязливый;
Тоска, как вор, нетерпеливо
В разбитом сердце притаясь,
Губами жадными впилась,
И кровь невинную сосала...
Душа рвалась, душа рыдала,
Просила воли... Ум горел,
В крови гордыня клокотала...
Он трепетал... он цепенел...
Рука, сжимаяся, дрожала...
О, если б мог он шар земной
Схватить озлобленной рукой
Со всеми гадами земными,
Схватить, измять и бросить в ад!..
Он был бы счастлив, был бы рад.
Он хохотал, как демон лютый,
И длилась страшная минута,
И мир пылал со всех сторон;
Рыдал, немел он в исступленьи,
Душа терзалась страшным сном;
Душа мертвела,—а кругом
Земля, господнее творенье,
В зеленой ризе и цветах,
Весну встречая, ликовала.
Душа отрадно пробуждалась,—
И пробудилась... Он в слезах
Упал, и землю лобызает,
Как перси матери родной!..
Он снова чистый ангел рая,
И на земле он всем чужой.
Взглянул на небо: «О, как ясно,
Как упоительно прекрасно!
О, как там вольно будет мне!..»
И очи в чудном полусне
На свод небесный устремляет,
И в беспредельной глубине
Душой невинной утопает.

Но высоте святой, широкой,
Платочком белым, одинока,
Прозрачна тучка вдаль плывет.
«Ах, тучка, тучка, кто несет
Тебя так плавно, так высоко?
Ты что такое? И зачем
Так пышно, мило нарядилась?
Куда ты послана, и кем?..»
И тучка тихо растопилась
На небе светлом. Взор унылый
Он опустил на темный лес...
«А где край света, край небес,
Концы земли?..» И вздох глубокий,
Не детский вздох, он испустил;
Как будто в сердце одиноком
Надежду он похоронил.

В ком веры нет—надежды нет!
Надежда—бог, а вера—свет.

«Не погасай, мое светило!
Туман душевный разгоняй,
Живи меня твоею силой,
И путь тернистый, путь унылый
Небесным светом озаряй.
Пошли на ум твою святыню,
Святым наитием напой,
Да провещаю благостыню,
Что заповедана тобой!..»

Надежды он не схоронил,
Воспрянул дух, как голубь горний,
И мрак сердечный, мрак юдольный
Небесным светом озарил;
Пошел искать он жизни, доли,
Уже прошел родное поле,
Уже скрывалося село...
Чего-то жаль внезапно стало,
Слеза ресницы пробивала,
Сжималось сердце и рвалось.
Чего-то жаль нам в прошлом нашем,
И что-то есть в земле родной...
Но он, бедняк, он всем не свой,
И тут и там. Планета наша,
Прекрасный мир наш, рай земной,
Во всех концах ему чужой.
Припал он молча к персти милой,
И как родную лобызал,
Рыдая, тихо и уныло
На путь молитву прочитал...
И твердой, вольною стопою
Пошел... и скрылся за горою.
За рубежом родной земли
Скитаясь нищим, сиротою,
Какие слезы не лились!
Какой ужасною ценою
Уму познания купил,
И девство сердца сохранил!

Без малодушной укоризнь
Пройти мытарства трудной жизни,
Измерить пропасти страстей,
Понять на деле жизнь людей,
Прочесть все черные страницы,
Все беззаконные дела,
И сохранить полет орла,
И сердце чистой голубицы—
Се человек!.. Без крова жить—
(Сирот и солнышко не греет)
Людей изведать—и любить!
Незлобным сердцем сожалея
О недостойных их делах,
И не кощунствуя в потьмах,
*Как царь ума*. Убогим, нищим,
Из-за куска насущной пищи
Глупцу могучему годить,
И мыслить, чувствовать и жить!..
Вот драма страшная, святая!.
И он прошел ее, рыдая.
Ее он строго разыграл
Без слова; он не толковал
Своих вседневных приключений,
Как назидательный роман;
Не раскрывал сердечных ран,
И тьму различных сновидений,
И байронический туман
Он не пускал; толпой ничтожной
Своих друзей не поносил;
Чинов и власти не казнил,
Как N.., глашатай осторожный,
И тот, кто мыслит без конца
О мыслях Канта, Галилея,
Космополита-мудреца,
И судит люди, не жалея
Родного брата и отца,—
Тот лжепророк! Его сужденья—
Полу-идеи, полу-вздор!..

Провидя жизни назначенье,
Великий божий приговор,
В самопытливом размышленьи
Он подымал слезящий взор
На красоты святой природы.
«Как все согласно!»—он шептал,—
И край родной воспоминал;
У бога правды и свободы
Всему живущему молил,
И кроткой мыслию следил
Дела минувшие народов,
Дела страны своей родной,
И горько плакал... «О святая!
Святая родина моя!
Чем помогу тебе, рыдая?
И ты закована, и я.
Великим словом божью волю
Сказать тиранам—не поймут!
И на родном прекрасном поле
Пророка каменьем побьют!
Сотрут высокие могилы
И понесут их словом зла?!
Тебя убили, раздавили;
И славословить запретили
Твои великие дела!
О боже! сильный и правдивый,
Тебе возможны чудеса,
Исполни славой небеса
И сотвори святое диво;
Воспрянуть мертвым повели,
Благослови всесильным словом
На подвиг новый и суровый,
На искупление земли.
Земли поруганной, забытой,
Чистейшей кровию политой,
Когда-то счастливой земли».
Как тучи, мысли расходились,
И слёзы капали, как дождь!..

Блажен тот на свете, кто малую долю,
Кроху от трапезы волен уделить
Голодному брату, и злобного волю
Хоть властью суровой возмог укротить!—
Блажен и свободен!.. Но тот, кто не оком
А смотрит душою на козни людей,
И может лишь плакать в тоске одинокой—
О боже правдивый, лиши ты очей!..
Твои горы, твое море,
Все красы природы,
Не искупят его горя,
Не дадут свободы.
И он, страдалец жизни краткой
Все видел, чувствовал и жил,
Людей изведавши любил,
И тосковал о них украдкой.
Его и люди полюбили(*)
И он их братиями звал;
Нашел друзей, и тайной силой
К себе друзей причаровал.
Между друзьями молодыми
Порой задумчивый... порой
Как волхв, вещатель молодой,
Речами звучными, живыми
Друзей внезапно изумлял;
И силу дружбы между ними,
Благословляя, укреплял.
Он говорил, что обще благо
Должно любовию купить;
И с благородною отвагой
Стать за народ и зло казнить.
Он говорил, что праздник жизни
Великий праздник, божий дар,
Должно пожертвовать отчизне,
Должно поставить под удар.
Он говорил о страсти нежной,
Он тихо, грустно говорил,
И умолкал!.. В тоске мятежной
Из-за стола он выходил
И горько плакал. Грусти тайной,
Тоски глубокой, не случайной
Ни с кем страдалец не делил.
Друзья любили всей душою
Его как кровного; но он
Непостижимою тоскою
Был постоянно удручен.
И между ними вольной речью
Он пламенел. Но меж гостей,
Когда при тысяче огней
Мелькали мраморные плечи,
О чем-то тяжко он вздыхал,
И думой мрачною летал
В стране родной, в стране прекрасной,
Там, где никто его не ждал,
Никто об нем не вспоминал,
Ни о судьбе его неясной.

(*) Как цветок, процвевший н[illegible] их болоте
(прим. Шевченка).

И думал он: «Зачем я тут?
И что мне делать между ними?
Они все пляшут и поют,
Они родня между родными,
Они все равны меж собой,—
А я!..» И тихо он выходит,
Идет задумавшись домой;
Никто из дому не выходит
Его встречать; никто не ждет,
Везде один... тоска, томленье!..
И светлый праздник воскресенья
Тоску сторичную несет.

И вянет он, вянет, как в поле былина,
Тоскою томимый в чужой стороне;
И вянет он молча... Какая кручина
Запала в сердечной его глубине?
«О горе мне, горе! Зачем я покинул
Невинности счастие, родную страну?
Зачем я скитался, чего я достигнул?
Утехи познаний?.. Кляну их, кляну!
Они то мне, черви, мой ум источили,
С моим тихим счастьем они разлучили!
Кому я тоску и любовь раскажу?
Кому сердца раны в слезах покажу?
Здесь нету мне пары, я нищий меж ними,
Я бедный поденщик, работник простой;
Что дам я подруге моими мечтами?
Любовь... Ах, любови, любови одной!
С нее на три века, на вечность бы стало!
В своих бы объятиях ее растопил!
О как бы я нежно, как нежно любил!»
И крупные слезы, как искры низались,
И бледные щеки и слабую грудь
Росили, и сохли. «О дайте вздохнуть,
Разбейте мне череп и грудь разорвите!
Там черви, там змеи,—на волю пустите!
О дайте мне тихо, навеки заснуть!»

Страдал несчастный сирота
Вдали от родины счастливой,
И ждал конца нетерпеливо.
Его любимая мечта—
Полезным быть родному краю,—
Как цвет, с ним вместе увядает!
Страдал он. Жизни пустота
Пред ним могилой раскрывалась.
Приязни братской было мало,
Не грела теплота друзей:
Небесных солнечных лучей
Душа парящая алкала.
Огня любви, что бог зажег
В стыдливом сердце голубином
Невинной женщины, где б мог
Полет превыспренный, орлиный
Остановить и съединить
Пожар любви, любви невинной;
Кого бы мог он приютить

В светлице сердца и рассудка,
Как беззащитную голубку
От жизни горестей укрыть;
И к персям юным, изнывая,
Главой усталою прильнуть;
И цепенея и рыдая
На лоне жизни, лоне рая,
Хотя минуту отдохнуть.
В ее очах, в ее томленьи
И ум и душу утопить,
И сердце в сердце растопить,
И утонуть в самозабвеньи.

Но было некого любить,
Сочетоваться не с кем было;
А сердце плакало и ныло,
И замирало в пустоте.
Его тоскующей мечте
В грядущем что-то открывалось,
И в беспредельной высоте
Святое небо улыбалось.
Как воску ярого свеча,
Он таял тихо, молчаливо,
И на задумчивых очах
Туман ложился. Взор стыдливый
На нем красавица порой
Покоя, тайно волновалась;
И симпатической красой
Украдкой долго любовалась.
И может многие грустили
Сердца девичие о нем,
Но тайной волей, высшей силой
Путь одинокий до могилы
На камнях острых проведен.
Изнемогал он, грудь болела,
Темнели очи, за крестом
Граница вечности чернела
В пространстве мрачном и пустом.
Уже в постеле предмогильной
Лежит он тих, и—гаснет свет.
Друзей тоскующий совет
Тревожит дух его бессильный.
Поочередно ночевали
У друга верные друзья;
И всякий вечер собиралась
Его прекрасная семья.
В последний вечер собрался
Вокруг предсмертного одра,
И просидели до утра.
Уже рассвет смыкал ресницы,
Друзей унылых сон клонил,
И он внезапно оживил
Их грустный сон огнем бывалым
Последних, пламенных речей.
И други друга утешали,
Что через семь иль восемь дней
Он будет петь между друзей.
«Не пропою вам песни новой
О славе родины моей!
Сложите вы псалом суровый
Про сонм народных палачей;
И вольным гимном помяните
Предтечу, друга своего.
И за грехи... грехи его
Усердно богу помолитесь...
И со святыми упокой
Пропойте, други, надо мной!»

Друзья вокруг его стояли,
Он отходил, они рыдали,
Как дети... Тихо он вздыхал,
Вздохнул, вздохнул... Его не стало!
И мир пророка потерял,
И слава сына потеряла.
Печально други понесли
На утро в церковь гроб дубовый,
Рыдая предали земле
Остатки друга; и лавровый
Венок зеленый, молодой
Слезами дружбы оросили
И на могиле положили;
И со святыми упокой
Запели тихо и уныло.

В трактире за круглым, за братским столом
Уж под вечер други сидели кругом;
Печально и тихо двенадцать сидело:
Их сердце одною тоскою болело.
Печальная тризна, печальны друзья!.
Ах, тризну такую отправил и я .

Согласьем общим положили,
Чтоб каждый год был стол накрыт
В день смерти друга; чтоб забыт
Не мог быть друг их за могилой;
И всякий год они сходились
В день смерти друга поминать.

Уж многих стало не видать:
Приборы каждый год пустели,
Друзья все больше сиротели—
И вот, один уж, сколько лет
К пустым приборам на обед
Старик печальный приезжает;
Печаль и радость юных лет
Один, грустя, воспоминает.
Сидит он долго, мрачен, тих,
И поджидает: «Нет ли брата
Хоть одного еще в живых?»
И одинокий в путь обратный
Идет он молча... И теперь,
Где круглый стол стоит накрытый,
Тихонько отворилась дверь,
И брат, что временем забытый,
Вошел согбенный!.. Грустно он
Окинул стол потухшим взором,

И молвил с дружеским укором:
«Лентяи! видишь, как закон
Священный, братский исполняют!
Вот и сегодня не пришли,
Как будто за-море ушли!»
И слёзы молча утирает,
Садясь за братский круглый стол.
«Хоть бы один тебе пришел!»
Старик сидит и поджидает...

Проходит час, прошел другой,
Уж старику пора домой.
Старик встает: «Да, изменили!
Послушай, выпей, брат, вино!—
Сказал слуге он,—все равно,
Я не могу... Прошло, что было!
Да поминай за упокой;
А мне пора уже—домой!»
И слезы снова покатились.
Слуга вино, дивяся, выпил.
«Дай шляпу мне... какая лень
Итти домой!..»—и тихо вышел.

И через год, в урочный день
Двенадцать приборов на круглом столе,
Двенадцать бокалов высоких стоят,
И день уж проходит,
Никто не приходит,—
Навеки, навеки забыты они.

---

## РАСКОПАНАЯ МАГІЛА

Свеце ціхі, краю мілы,
Мая Украіна!
За што табе пакаранне,
За што, маці, гінеш?
Ці ты ўранне на світанні
Бога не маліла?
Ці ты дзетак непаслушных
Праўдзе не вучыла?
Малілася, старалася,
Дзень і ноч не спала,
Малых дзетак даглядала,
Праўдзе навучала.
Выраслалі мае кветы,
Мае краскі-дзеці,
Панавала і я колісь
На шырокім свеце,—
Панавала... О Багдане!
Неразумны сыну!
Паглядзі цяпер на маці,
На сваю Ўкраіну,
Што калышучы спявала
Пра сваю нядолю,
Што спяваючы рыдала,
Выглядала волю.
Ой, Багдане, Багданочку!
Каб наўперад знала—
У калысцы-б задушыла,
Пад сэрцам прыспала.
Стэпы мае запраданы
Гандлярам, нямчурам,
Сыны мае на рабоце
За чужацкім мурам.
Дняпро, брат мой, высыхае,
Мяне пакідае,
Мае мілыя магілы
Маскаль разрывае...
Хай раскопвае, хай рые,
Не сваё шукае...
А тым часам пярэкіды
Няхай падрастаюць,
Хай маскалю дапамогуць
Гаспадараваці,
Ды латаную сарочку
З мацеры знімаці.
Памагайце, недалюдкі,
Матку катаваці.

Начэцвера раскапана,
Разрыта магіла...
Чаго яны там шукалі?
Што там палажылі
Бацькі нашы? Эх, каб тое...
Каб-жа знайшлі тое, што там пахавалі,
Не плакалі-б дзеці і маці ад жалю.

9 Кастрычніка 1843
Берэзань



* * *

Чыгрыне, Чыгрыне,
На свеце ўсё гіне!
І святая твая слава,
Як пылінка ў плыні,
За ветрамі халоднымі
Ў хмары прападае...
Над зямлёю лятуць леты,
Дняпро высыхае,
Рассыпаюцца магілы,
Курганы магілы—
Твая слава... Пра цябе ўжо,
Старча маласілы,
Ніхто й слова не прамовіць,
Ніхто й не пакажа,
Дзе ты стаяў? чаго стаяў?
І на смех не скажа!!

За што мы біліся з ляхамі?
За што мы рэзаліс з панамі?
За што скародзілі кап'ямі
Татарам рэбры?.. Засявалі,
І крывёю палівалі...
І шаблямі скарадзілі.
Што-ж на ніве урадзіла?!
Урадзіла рута... рута...
Волі нашае атрута.

---

А я, неразумны, на тваіх руінах
Марна слёзы трачу; заснула Украіна,
Бур'яном укрыта, цвіллю зацвіла,
У балоце, лужы сэрца прагнаіла,
І ў дупло гнілое гадзін напусціла,
А дзецям надзею ў стэпу аддала.
А надзею...
Вецер па полю развеяў,
Хваля морам разнясла.

Няхай-жа вецер ўсё разносіць
На неакраеным крыллі!
Няхай-жа сэрца плача, просіць
Святое праўды на зямлі.

---

Чыгрыне, Чыгрыне,
Дружа мой адзіны!
Ты праспаў лясы і стэпы
І ўсю Украіну.
Спі-ж, павіты гандлярамі,
Покі сонца ўстане,
Покі тыя недалеткі
Падрастуць гетманы.
Памаліўся-б, і я-б заснуў..
Дык думкі-закляцці
Рвуцца душу запаліць мне,
Сэрца разарваці.
Ды не рвіце, не паліце.
Мо' вярну нанова
Маю праўду гаротную
І ціхае слова.
Можа выкую з яго я
Да старога плуга
Новы лемеш і нож вострый,—
І ў ярме упруга...
Можа ўзару пералог той,
А на пералозе...
Я пасею мае слёзы,
Ды шчырыя слёзы.
Можа ўзыйдуць і вырастуць
Нажы на два бокі,
Расчвартуюць гніласць сэрца,
Боль яго глыбокі.
І выцадзяць сукравіцу,
І нальюць жывое
Казацкае крыві свежай,
Чыстае, святое!

Можа... можа... А між тымі,
Між нажоў, нанова
Рута, мята разаўецца—
Забытае слова,
Маё слова смутку, суму,
Пакорнае богу,
Успомніцца—і дзявоча
Сэрцайка з трывогай
Страпянецца, як рыбанька,
І мяне згадае...
Слова маё, слёзы мае,
Раю ты мой, раю!

Спі, Чыгрыне! Няхай гінуць
У ворага дзеці!
Спі, гетмане, покі ўстане
Праўда тут на свеце!

19 Лютага 1844
Масква

# САВА

Спарадзіла маці сына
У цяні дубровы;
Дала яму вочы-зоры
І чорныя бровы.
Кітайкаю спавівала,
Святых упрашала,
Каб святыя ўсе сыночку
Шчасце-долю слалі.
«Маці божая, пашлі ты
Тае благадаці—
І ўсяго, чаго матуля
Не здолее даці».
Да ўсход сонца воду брала,
Ў барвінку купала,
Да поўначы калыхала,
Досвіткам спявала.

«А-а... лю-лі...
Пытала зязюлі,—
Зязюля вяшчала,
Праўданьку казала.
Буду сто год жыці.
Цябе гадаваці,
Ў жупане хадзіці,
Буду панаваці.
Ой вырасцеш, сынку,
За поўчварта годы,
Як ясень высокі,
Як княжога роду,
Гнуткі і дзябёлы,
Шчаслівы, вясёлы
І не адзінокі.
Найду табе роўню,
Хоць за морам сінім,
Або крамароўну,
Або сотнікоўну—
Такі панну, сыну!
У чырвоных чаравіках,
Ў зялёным жупане,
Па святліцы пахаджае,
Як пава, як пані,
Ды з табою размаўляе;
У хаце, бы ў раю!
А я сяджу на пакуці,
Толькі паглядаю.

Ой маё дзіцятка!
Ой сыне мой, сыне!
Ці ёсць лепшы на ўсім свеце,
На ўсёй Украіне?
Няма лепшага й не будзе—
Дзівуйцеся, людзі!
Няма лепшага!.. А долю...
долю раздабудзем».

---

Ой зязюля, зязюленька,
Нашто кукавала?
Нашто ты ёй доўгіх гадоў,
Сто лет абяцала?
Хіба-ж ёсць на гэтым свеце
Слухмяная доля?
Ох, каб была!.. Змагла-б маці
З нямецкага поля
Сваім дзетачкам заклікаць
І долю, і волю,
Дык-жа не... А зло нядолі
Сустрэнецца ўсюды—
І на шляху і без шляху—
Ўсюды, дзе ёсць людзі.

Цешылася маці сынам,
Як кветкаю ў гаю,
Цешылася... А тым часам
Бацька паміраe.
Засталася удавою,
Хоць і маладою,
І не адна... ды ўсё-ж цяжка...
З горам ды з нудою
Пайшла яна да суседзяў
Парады прасіці...
Прысудзілі суседанькі
У наймах служыці.
Агалела і змарнела,
Кінула гасподу,—
Пайшла ў наймы... Не мінула
Ліхое прыгоды.
І дзень і ноч працавала,
Падаткі плаціла,
За тры копы сваяму сыну
Жупанок купіла,—
Каб і яно, удовіна,
Да школы хадзіла.

---

Ой талане, талане,
Удовіны пагань!
Ці ты ў полі, ці ты ў гаю,
Абадраны цыгане,
З бурлакамі гуляеш?
Багатаму сама льецца
Вада ў яго хаце,
А беднаму ў яры трэба
Крыніцу капаці.
У багатых растуць дзеці—
Вербы пры даліне,
А ўдовіна адным-адно
Ды і тое гіне.

Прычакала ўдава долі,
Дарасласці сына,

І пісьменны і ўрадлівы—
Кветачка хлапчына!
Як у бога за дзвярыма
Ўдава панавала;
Зазіраліся дзяўчаты
І ручнікі дбалі.
Палюбіла багатая—
Не пацалавала;
Вышывала шоўкам хустку—
Не падаравала.
Злыдні-ж краліся з-за мора
Ка ўдовінай хаце.
Падкраліся... Сталі хлопцаў
Ў кайданы каваці,
Ды павезлі да прыёму
Бітымі шляхамі.
Пайшла з маткамі і ўдоўка
З дробнымі слязамі.
Дзе ноч начавалі,
Вартавым давалі,
Але ўдаву да абозу
І не дапускалі.
Ой прывезлі да прыёму
Чупрыны галіці;
Усе дробны, недаросткі—
То багатых дзеці.
Той калека недарэка,
Той не ўмее стаці,
Той гарбаты, той багаты,
Тых чатыры ў хаце.
Усе не ў лад, усіх назад—
Ва ўсіх доля маці.
А ва ўдовы адзін сын,
Дый той якраз пад аршын.

---

Пакінула ізноў хату,
Сынаву гасподу;
Пайшла ў наймы, за хлеб чорствы
Чужым насіць воду,
Бо свае і не прымаюць:
«Нядошлая стала,
Не здужае...» І агрызак
Праз акно давалі,
Як убогай... Не дай, божа
Такога дажыці!
Не дай, божа, ў багатага
І піць папрасіці!
Па капейцы зарабляла,
Копу назбірала,
Ды да сына ліст пісала,
У войска паслала—
Палягчэла. Год праходзіць,
І другі мінае,
І чацверты, і дзесяты,
А чуткі не мае.
Няма чуткі; што тут рабіць?
Торбу браць у латах
Ды йсці... Ісці сабак дражніць
Ад хаты да хаты.
Ўзяла торбу, пайшла сялом,
На выгане села,
І ў сяло ўжо назад не йшла—
Дзень і ноч сядзела
Каля веснічак. А лета
За летам мінае.
Змізарнела, у крук звяло—
Ніхто й не пазнае.
Дый каму там цікавіцца
Калекай убогай!
Сядзіць сабе, пазірае
Ў поле на дарогу
Рассвітае, і цямнее,
Ды ізноў світае...
А маскалік, сынок яе,
Не йдзе, не дыбае.

---

Па-над ставам увечары
Шуміць чарот шэры.
Маці сына ўсё чакае
Досвіта вячэраць.
Па-над ставам увечары
Шэпча штось вярбіна.
Выглядае ў цёмным гаю
Казака дзяўчына.
Па-над ставам вецер вее,
Лозы нагінае;
Плача маці адна ў хаце,
А дзяўчына ў гаю.
Паплакала чорнаброўка,
Ды стала спяваці;
Паплакала стара маці,
Ды стала рыдаці.
Малілася, і рыдала,
Кляла ўсё на свеце...
Ох, як цяжкі вы, без долі,
У мацеры дзеці!

---

Кастлявыя свае рукі
Да бога ўзнімала,
Сваю долю праклінала,
Ды сыночка звала.
То ад жалю адходзіла
І ў журбе нямела,
То на шлях той, на далёкі,
Скрозь слёзы глядзела.
І дзень і ноч пазірала
Дый стала пытаці:
«Ці не чуў хто, ці не бачыў
Маскаля-дзіцяці,
Майго сына?..» Ніхто не чуў
І ніхто не бачыў.

Сядзіць яна, не йдзе ў сяло,
Маўчыць і не плача.
Звар'яцела!.. І цагліну
Муштруе, то лае,
То калыша, як дзіцятка,
Сынам называе...
Ды украдкам-ціхусенька
Скрозь слёзы спявае:

«Змяя хату запаліла,
Дзецям кашы наварыла,
Паморшчыла пасталы,
Паляцелі маскалі.
Гусі шэрыя у вырай
Па чатыры, па чатыры
Паляцелі—гол-гол!—
На магіле арол.
На магіле сярод ночы
У казака выйме вочы,
А дзяўчына ў цёмным гаю
Яго з войска выглядае...»

Днём лазіла па сметніках,
Чарапкі збірала,
Гаварыла, што сыночку
Гасцінца хавала.
А срэдзь ночы расхрыстана
І праставалося
Сялом ходзіць—то спявае,
То страшна галосіць.
Людзі лаялі... Бо, бачце,
Спаць ім не давала,
Ды крапіву пад іх тынам
І бур'ян таптала.
Дзеці бегалі з драколлем
Удзень за ўдавою
Па вуліцы, ды са смехам
Клікалі С а в о ю.

6 Мая 1844
С. П. Б.

---

## ДЗЯВОЧЫЯ НОЧЫ

Высушылі кары вочы
Дзявочыя ночы.

Чарніца Мар'яна

Расплялася пышна каса
Аж да пояса;
Раскрыліся персі-горы—
Хвалі сярод мора;
Засвяцілі кары вочы—
Зоры сярод ночы;
Працягліся белы рукі—
Так-бы й абвіліся
Вакол стану... І з падушкай
Горка абняліся,
Дый замлелі, дый замерлі,
З плачам разняліся.

«Ды нашто мне каса-краса
І карыя вочкі,
Стан мой гнуткі... Калі няма
Мілага дружочка?
Няма з кім мне палюбіцца,
Сэрцам падзяліцца...
Сэрца маё! сэрца маё!
Цяжка табе біцца
Адзінокаму. З кім жыці,
З кім, свеце лукавы,
Скажы ты мне?.. І нашто мне
Слава... тая слава?
Я любіць і жыці хочу
Сэрцам—не красою!
А мне яшчэ і зайздросцяць,
Гордаю і злою
Злыя людзі называюць.
А таго не знаюць,
Што я ў сэрцы захавала..
Няхай называюць—
Грэх ім будзе... божа мілы!
Чаму ты не хочаш
Укароціць свае цемры,
Цяжкае мне ночы!..
Бо я ўдзень не адзінока—
З полем размаўляю,
Размаўляю, і нядолю
Ў полі забываю.
А ўначы...» Дый анямела,
Слёзы паліліся...
Рукі самі з падушкаю
Горка зноў звіліся.

18 Мая 1844
С. П. Б.



# СОН

КАМЕДЫЯ

Дух истины, его же мир не может прияти, яко не видит его, ниже знает его.

Іоанна, гл. 14, стих 17

У кожнага свая доля
Ї свой шлях шырокі:
Той муруе, той руйнуе,
Той нясытым вокам
За край свету зазірае,
Ці няма краіны,
Каб заграбаць ды з сабою
Ўзяць у дамавіну.
Той тузамі абірае
Ў сватняй хаце свата,
А той спадцішка ў куточку
Точыць нож на брата.
А той ціхі ды цвярозы,
Богабаязлівы,
Нібы кот той падкрадзецца,
Выжджа нешчаслівы
У цябе час, дый запусціць
Пазуры ў пячонку,—
Ї не прасі: не вымаляць
Ні дзеці, ні жонка.
А той, шчодры ды багаты,
Цэрквы ўсё муруе;
Ды так бацькаўшчыну любіць,
Так па ёй гаруе,
Ажно з яе, небарачкі,
Як ваду, кроў точыць!..
А ўся брацця маўчыць сабе,
Вытрашчыўшы вочы!
Як ягняты: «Няхай,—кажа,—
Можа, так і трэба».
Так і трэба! Няма бога
На зямлі, на небе!
А вы ў ярме падаеце
Ды нейкага раю
На тым свеце шукаеце?
Няма раю—знаю!
Шкода й працы! Падумайце:
Ўсе на гэтым свеце—
Жабраняты, цараняты—
Адамавы дзеці.
Ї той... і той... Ну, а я што?
Вось што, мае людзі:
Я гуляю, банкятую
Ў нядзелю і ў будзень.
А вам нудна! А вам шкода!
Яй-богу, не чую.
Не крычыце! Я сваю п'ю,
А не кроў людскую!

———

Вось ідучы так каля тыну
З банкету п'яны уначы,
Я меркаваў сабе йдучы,
Пакуль даплёўся да хаціны.
А ў мяне дзеці не крычаць
І жонка не лае,—
Ціха, як у раі.
Усюды божжа благадаць:
І ў сэрцы, і ў хаце.
Вось-жа лёг я спаці.
А падпілы ўжо як засне,
Дык хоць з гармат страляці—
І вусам не маргне.

Дый сон-жа, сон, надзіва дзіўны,
Сон мне прысніўся:
Найцвяразейшы-бы упіўся,
Скупы скарэда даў-бы грыўню,
Каб паглядзець на тое дзіва.
Ды чорта з два!
Гляджу: так быццам-бы сава
Ляціць лугамі, берагамі, ды нятрамі,
Ды глыбокімі ярамі,
Ды шырокімі стэпамі,
Ды байракамі.
А я за ёю, ды за ёю,
Ляту й пpaшчаюся з зямлёю.

«Бывай, свет! Бывай, зямліца,
Непрыязны краю!
Мае жудасныя мукі
Ў хмарах пахаваю.
А ты, мая Украіна,
Гаротная ўдоўка!
Я ляцець да цябе буду
З хмары на гамонку.
На гамонку ціхасумку,
На раду з табою;
Апоўначы падаць буду
Густою расою.
Параімся, пасумуем,
Пакуль сонца ўстане,
Пакуль твае краскі-дзеці
На ворага стануць.
Бывай, родная мая ты,
Удава-нябога!
Гадуй дзетак; жыве праўда
У госпада бога!»

Ляцім... гляну—ўжо світае,
Край неба палае;
Салавейка ў цёмным гаі
Сонца сустракае,
Ціхусенька вецер вее,
Стэпы, нівы дрэмлюць;
Між ярамі над стэпамі
Вербы зеляненюць.

Пахіліліся сады ўдол;
Таполі паволі
Стаяць сабе, нібы варта,
Ды гамоняць з полем.
І ўсё гэта, ўся краіна,
Спавіта красою,
Зелянее, ўмываецца
Дробнаю расою.
Спаконвеку ўмываецца,
Сонца сустракае..
І няма таму пачатку,
Няма яму краю!
Ніхто яго не дагледзіць
І не разруйнуе...
І ўсё так... Душа мая ты!
Чаго ты сумуеш?
Душа мая убогая!
Чаго марна плачаш?

Чаго табе шкода? Хіба ты не бачыш,
Як людзей катуюць, крыўдзяць сірату?
Дык глянь, падзівіся! А я паляту
Высока, высока за сінія хмары;
Няма там улады, няма там і ка́ры,
Там смеху людскога і плачу не чуць.
Вунь глянь,—у тым раі, што ты пакідаеш,
Латаную світку з калекі знімаюць,
Са скурай знімаюць,—бо нечым абуць
Княжат недарослых. А вунь распінаюць
За падаткі ўдоўку; а сына куюць,
Удоўкі няшчаснай ядынага сына,—
Ядыну надзею!—ў войска аддаюць!
Бо войска, бач, мала! А вунь дзе пад тынэм
Апухлае дзіце галоднае мрэ,
А маці пшаніцу на паншчыне жне.
А вунь—бачыш? Вочы! вочы!
На што вы здаліся?
Чаму змалку не высахлі,
Слязмі не зліліся?
Гэта ля тыноў пакрытка
З байструком вандруе,—
Бацька й маці адракліся,
Чужыя ганьбуюць!..
Старцы нават цураюцца!..
А паніч не знае:
З дваццатаю, недалетак,
Душы прапівае!

Ці бог бачыць з па-за хмараў
Нашы слёзы, гора?
Можа й бачыць, ды падмогі—
Як і з гэтых гораў
Векавечных, што паліты
Крывёю людскою!..
Душа мая убогая,
Горанька з табою!
Уп'ямося атрутаю,



Ў лёдзе ляжам спаці,
Пашлём думу аж да бога,
Яго распытаці:
Доўга йшчэ на гэтым свеце
Ка́там панаваці??
Ляці-ж, мая дума, крывавая мука!
Забяры з сабою ліхі ўсе да тла—
Сваё таварыства! Ты з імі расла,
Кахалася з імі; іх цяжкія рукі
Цябе спавівалі. Бяры-ж іх, ляці,
Ды па ўсім па небе орду распусці!
Хай чарнее, чырванее,
Полымем павее,
Няхай рыгаюць зноў змеі,
Трупам зямлю грэе,
А без цябе я дзе-небудзь
Сэрца пахаваю,
Ды тым часам пашукаю
На край-свету раю.

Ізноў ляту па-над зямлёю,
Ізноў прашчаюся я з ёю.
Цяжка маці пакідаці
Ў непакрытай хаце,
А йшчэ горш на слёзы, латы
Яе зазіраці.

Ляту, ляту, а вецер вее;
Перада мною снег бялее;
Бары, балоты, дзе ні глянь,
І ўсюды пустата, туман.
Людзей не чуць,—не знаць і следу
Людское страшнае нагі.
І вораг мой, і друг блізкі,
Бывайце! Ў госці не прыеду!
Упівайцеся, балюйце!
Я ўжо не пачую,—
Адзін сабе навек-векі
Ў снезе заначую.
І пакуль вы дазнаецце,
Што йшчэ ёсць краіна
Крывёй, слязмі не паліта,
То я адпачыну...
Адпачыну...
Ажно чую—
Загулі кайданы
Пад зямлёю... Пагляджу я...
О народ паганы!
Скуль ты ўзяўся? Што ты робіш?
Чаго ты шукаеш?
Пад зямлёю? Не! Ўжо, мабыць,
Сябе не схаваю
І на небе!.. «За што-ж кара?
І за што мне мукі?
Каму што зрабіў калі я?
Чые злыя рукі
Душу ў целе закавалі
Сэрца запалілі
І сілаю груганавай
Думы распусцілі??
За што пакутую— не знаю,
Сябе сам караю!
Калі кончыцца пакута?
Канца дачакаю?—
Не бачу й не знаю!!

Заварушылася пустыня...
Як-бы там з цеснай дамавіны
На той астатні страшны суд
За праўдай мерцвякі ўстаюць.
То не трупы, то не суду
Прасіць ад пакуты!
Не, жывыя гэта людзі,
Ў кайданы закуты,
З нораў золата выносяць,
Каб горла, як скрутам,
Ненасытнаму заткнуці!..
Катаржане гэта!..
А завошта? Хіба знае
Ўсемагутны... Дзе там!

Вунь дзе злодзей штампаваны
Кайданы валоча;
Ён разбойнік катаваны
Зубамі скрыгоча,—
Таварыша, недабітку
Зарэзаці хоча!
Паміж імі, зацятымі,
Ў кайданы убраны,
Цар сусветны. Цар волі, цар
Штампам увянчаны!
Ў муцы, ў катарзе— не просіць.
Не стогне, не плача!
Раз дабром нагрэта сэрца—
Будзе век гарачым!

А дзе-ж твае думы, ружовыя кветкі?
Гэтак дагляданы, выкаханы дзеткі?
Каму ты іх, дружа, каму перадаў?
Ці можа навекі ў сэрцы пахаваў?
О, не хавай, браце! Рассып іх, раскідай!
Ўзыйдуць, расці будуць, і у людзі выйдуць!

Ці йшчэ пакута, ці ўжо будзе?
Будзе, будзе, бо холадна,—
Мароз розум будзіць.

Ізноў ляту. Зямля чарнее.
І дрэмле розум, сэрца млее.
Гляджу я: хаты над шляхамі,—
То гарады са ста царквамі;
А ў гарадах, бы жураўлі,
Замуштравалі маскалі:
І адзеты, і абуты
І кайданамі акуты

Муштруюцца... Далей гляну,—
У даліне, як-бы ў яме,
На багне горад віднее;
Над ім хмараю чарнее
Туман цяжкі... Далятаю—
То горад без краю.
Ці то турэцкі,
Ці то нямецкі?
А можа гэта і маскоўскі!
Цэрквы ды палаты,
Ды паны пузаты.
І не аднюсенькае хаты!
Змяркалася... Агонь—агні
Кругом запалалі,—
Аж спужаўся... «Ура! Ура!
Ура!»—закрычалі.
«Цю-цю, дурні! Агледзьцеся!
Чаго вы так рады?
Што, гарыце?»—«Экой хохол!
Не знает параду!
У нас парад! Сам изволит
Сегодни гуляти!»
«Ды дзе-ж яна, тая цаца?»
«Вон видишь—палаты».
Пхнуся я; аж землячок, бач,
Дзякую, прызнаўся,
З бляшанымі гузікамі:
«Дзе ты здзесь узялся?»
«З Украіны». «Так як-жа ты
И говорить не ўмееш
По-здешнему?»—«Ну не, кажу,
Гаварыць умею,
Ды не хочу». «Экой чудак!
Я все входы знаю;
Я служу тут; калі хочаш,
В дворец попытаюсь
Цябе ўвесці. Только знаешь
Мы, брат, просвешчэнны,—
Не поскупись полтинкою...»
«Цур табе, нікчэмны
Каламару!..» Невідомым
Стаў ізноў, як быў я,
Дый прапхнуўся у палацы.
Божа мой! Святыя!!
Дык во рай дзе! А як густа
Золатам абліты
Блюдалізы! Аж і сам вось:
Высокі, сярдзіты,
Выступае. А з ім побач
Царыца нябога,
Бы засушаны апенек,
Тонка, доўганога,
Ды на ліха йшчэківае
Тупа галавою.
Дык вось-жа тая багіня?!
Ліханька з табою!
А я, дурны, не бачыўшы
Цябе, ляля, й разу,
Ды паверыў т у п а р ы л ы м
Тваім вершамазам.
Вось-жа дурны! А йшчэ й біты!
На квіток паверыў
Маскалю. Ну, і чытай тут,
І дай ты ім веры!

За багамі—панства ў срэбры,
Ў золаце без меры!
Як раскормленыя свінні—
Мардатыя, пузатыя!..
Аж пацеюць, а тоўпяцца,
Каб то бліжай стаці
Каля с а м ы х: можа ўдарaць,
Або хвігу даці
Благаволяць; хоць маленьку,
Хоць поўхвігі, абы толькі
Пад самыя пыскі.
І у рад усе пасталі,
Нібы без'языкі—
Ані бзынкнуць!.. Цар балбоча;
А дзіва-царыца,
Бы та чапля паміж птушак,
Скача, бадзярыцца.
Доўга ўдваіх пахаджалі,
Як сычы надуты,
Ды цішком штось размаўлялі—
Здалёку нячутна—
Аб ацечастве, здаецца,
Ды новых п я т л і ц а х,
Ды аб муштрах 'шчэ навейшых!..
А потым царыца
Села моўчачы на зэдлік.
Бачу: цар падходзіць
Да найстаршага... ды ў морду
Яму як закоціць!..
Аблізаўся небарака,
Ды меншага ў пуза—
Загуло аж!.. А той сабе
Йшчэ меншага туза—
Паміж плечаў; той—меншага,
А меншы—малога,
А той—дробных, а драбнота
Ужо за парогам
Як кінецца па вуліцах,
Дый давай мясіці
Недабіткаў праваслаўных
Тыя-ж—галасіці
Ды прагчыся... Ды як раўнуць:
«Цар наш бацюшка гуляе.
Ура!.. Ура!.. У-р-а-а-а!»

Зарагатаўся я, дый годзе;
А й мяне даўнулі
Такі добра. Перад ранкам
Сцішыліся гулі;

Толькі там-сям хрысціяны
Па вуглах стагналі,
Ды стогнучы за бацюшку
Госпада благалі.
Смех і слёзы! Вось пайшоў я
Горад азіраці.
Ноч як дзень там. Паглядаю:
Палацы, палацы
Па-над ціхаю ракою;
А бераг абшыты
Ўвесь каменнем. Дзівуюся,
Быццам з тропу збіты!
Як зрабілася яно во
З лужыны такое
Гэта дзіва!.. Бо крыві тут
Выліта людскское—
Без нажа на'т. А па той бок
Цвярдыня й званіца,
Як завостраная швайка,—
Аж не надзівіцца.
І дзілінгае гадзіннік.
Далей пазіраю—
Аж ляціць конь, капытамі
Скалу разбівае!
На кані сядзіць ахлапам
Ў свіце—ці без світы,
І без шапкі. Нейкім лістам
Галава павіта.
Конь на дыбах,—вось-вось рэчку,
Вось-вось пераскоча.
А ён руку прасцірае,
Бы свет увесь хоча
Заграбсці. Хто-ж такі гэта?
Вось сабе й чытаю,
Што на скале накавана:
«П е р в о м у в т о р а я»
Гэта выставіла дзіва.
Цяпер-жа я знаю:
Во той п е р в ы й, распінаў што
Нашу Украіну.
А в т о р а я даканала
Ўдаву-сіраціну.
Каты! каты! людаеды!
Наеліся абое,
Накраліся. А што ўзялі
На той свет з сабою?
Цяжка, цяжанька мне стала.
Так, нібы чытаю
Гісторыю Украіны!
Стаю, заміраю...
А тым часам—ціха, ціха
Ды сумна спявае
Штось нябачана такое:
«А з горада, а з Глухова
Палкі выступалі
З рыдлёўкамі на лінію.
А мяне паслалі
На сталіцу з казакамі
Наказным гетманам!
О божа наш міласэрны!
О цару паганы!
Цар пракляты, подла-хітры,
Аспід прагавіты!
Што зрабіў ты з казакамі?
Балота засыпаў
Благароднымі касцямі;
Паставіў сталіцу
На іх трупах катаваных!
І ў цёмнай цямніцы
Мяне, вольнага гетмана,
Голадам замучыў
У кайданах... Цару! цару!
І бог не разлуча
Нас з табою. Кайданамі
Скованы са мною
На век-векі. Не лёгка мне
Лунаць над Нявою!
Можа Ўкраіны далёкай
Ўжо няма—не знаю...
Паляцеў-бы, паглядзеў-бы,
Дык бог не пускае.
Масква выпаліла можа
І Дняпро спусціла
Ў сіне мора? Раскапала
Курганы-магілы—
Нашу славу. Божа мілы!
Зжалься, божа мілы!»

Дый замоўкла; пазіраю:
Бела хмара крые
Неба шэрае, а ў хмары—
Бы ў гаі звер вые.
То не хмара—бела птушка
Хмараю зляцела
Над царом тым масянжовым,
Галасіла, пела:
«І мы скованы з табою,
Людаед з бярлогаў!
На судзілішчы, на страшным
Мы закрыем бога
Ад вачэй тваіх пражорных.
Ты нас з Украіны
Загнаў голых і галодных
У снег на чужыну,
Дый парэзаў, а з скур нашых
Сабе баграніцу
Пашыў жыламі тугімі,
І заклаў сталіцу
Ў новай рызе. Падзівіся:
Цэрквы ды палацы!
Весяліся, кат пракляты,
З крывавае працы!»

---

Разляцеліся і зніклі.
Сонейка ўставала;
А я стаяў, дзіваваўся
Ды аж страшна стала.
Бедакі ўжо паўставалі,
На працу спяшылі,
Маскалі ўжо на распуццях
Муштроўку рабілі.
Краем вуліц паспяшалі
Сонныя дзяўчаты,
Ды не з дому, а дадому!..
Пасылала маці
На ўсю ночку працаваці,
На хлеб зарабляці.
А я стаю, пахіліўся,
Ў думках разважаю:
Як то цяжка хлеб штодзённы
Людзі зарабляюць!

Вот і брація сыпнула
У сенат пісаці
Ды падпісываць, ды з родных
З бацькі, з брата драці.
А між імі й зямлячкі тут
Сям-там праглядаюць;
Па-маскоўску так і рэжуць,
Смяюцца ды лаюць
Бацькоў сваіх, што іх змалку
Дзэкаць не навучылі
Па-нямецку—а цяпер тут
Кісні во ў чарніле!
П'яўкі, п'яўкі! Можа бацька
Астатню карову
Прадаў жыдам, пакуль выўчыў
Маскоўскае мовы.
Украіна! Украіна!
Вось-жа твае дзеткі.
Твае злітыя чарнілам
Маладыя кветкі.
Маскоўскаю балбатнёю
Ў нямецкіх цяпліцах
Заглушаны!.. Плач, Украйна,
Бяздзетна ўдавіца!

Пайсці хіба, паглядзеці
Да цара ў палацы,
Што там робіцца? Прыходжу—
Дворня (стаў ўзірацца)
Стаіць радам, сапе, храпе,
Насы панадзьмала,
Як індыкі, і на дзверы
Коса паглядала.
Адчыніліся во й дзверы—
І як-бы з бярлогі
Мядзведзь вылез. Ледзьве-ледзьве
Пераносіць ногі;
Ды адуты, пасінеў аж:
Пахмелле праклята
Яго мучыла. Як крыкне
На самых пузатых,—
І пузатая ўся хэўра
Ў зямлю паляцела!
З ілба вылупіў ён банькі,—
І ўсё задрыжэла,
Што было там. Як шалёны,
На меншых гукае—
Ў зямлю й тыя. Ён да дробных—
Тыя прападаюць!
Ён да чэлядзі—і чэлядзь,
І чэлядзь прапала.
Да маскаляў,—маскалікі,
Толькі застагнала,
Пайшлі ў зямлю. А на свеце
Ўсё, бы ў нейкім цудзе!
Я гляджу, што будзе далей,
Што рабіці будзе
Мой мядзведзік! Стаіць сабе,
Галаву панурыў
Небарака. Дзе-ж прапала
Мядзвежжа натура?
Як той коцік—такі смешны!..
Я аж засмяяўся!
Аж пачуў ён, ды як зыкне,—
Я перапужаўся
І збудзіўся...

Вось якое
Ў сне пабачыў я там
Дзіва дзіваў! Гэта-ж толькі
Сніцца дурнаватым
Ды п'яніцам. Не крыўдуйце,
Браткі дарагія,
Што не сваё расказаў вам,
А то, што сасніў я.

8 Ліпеня 1844
С.-Пецербург



У нядзелю не гуляла
Ды на шоўкі зарабляла,
Ды хусціну вышывала,
Вышываючы спявала:

«Хусціначка мярэжаная,
Вышываная!
Выгаптую, падарую,
А ён мяне пацалуе...
Хусціна мая
Маляваная!
Задзівяцца ўранку людзі,
Што ў сіроткі хустка будзе
Мярэжаная,
Маляваная!
А я касу расплятаю,
З сваім мілым пахаджаю...
Долечка мая,
Матанька мая!»

Вось так яна вышывала,
У акенца паглядала:
Ці не згледзіць крутарогіх?
Ці не йдзе чумак з дарогі?

Ідзе чумак з-за Ліману
З чужым дабром, бесталанны,
Чужых валоў паганяе,
Паганяючы спявае:

«Доля мая, доля!
Што ты не такая,
Як доля чужая?
Ці я п'ю, гуляю?
Ці сілы не маю?
Ці да цябе дарожанькі
У стэпу не знаю?
Ці да цябе сваіх дароў
Я не пасылаю?
Ёсць у мяне дары—
Вочы мае кары.
Маладую маю сілу
Багачы купілі.
Мо' без мяне і дзяўчыну
З другім заручылі...
Навучы-ж ты мяне, доля,
Гуляць навучы!»

Дый заплакаў бедачына,
Стэпам ідучы.
Ой застагнаў сівы пугач
Ў стэпу на магіле;
А ў дарозе чумачэнькаў
Журба атуліла.
«Дазволь ты, наш атамане,
Каля сяла стаці,
Панясём мы таварыша
Ў сяло прычашчаці».

Спавядалі, прычашчалі,
Знахароў пыталі,—
Не паможа!.. З незлячымым
Паехалі далей.
Ці то праца загубіла
Маладую сілу?
Ці ў разлуцы нуда-гора
Яго з ног зваліла?
Ці наслалі людзі ліха
Яму, маладому,
Што прывезлі яго з Дону
На возе дадому?
Прасіў бога, каб дзяўчыну...
Хоць сяло пабачыць,
Ды не ўпрасіў... Пахавалі,
Ніхто й не заплача!

Паставілі грамадою
Крыж над сіратою
Й разышліся... Як былінка,
Як ліст над вадою,
Свет пакінуў казачэнька,
Ўсё забраў з сабою.
А дзе-ж мая расшытая
Шоўкамі хусціна?
А дзе-ж мая вясёлая,
Любая дзяўчына?!

Унь на новым крыжы хустку
Вецер развявае,
А дзяўчына у манашках
Касу расплятае.

18 Кастрычніка 1844
С.-Пецербург



* * *

Чаго мне так цяжка, чаго мне так нудна,
Чаго сэрца плача, рыдае, крычыць,
Як дзіця галоднае? Чаго-ж табе трудна?
Чаго ты жадаеш? Што ў цябе баліць?
Ці піці, ці есці, ці спатанькі хочаш?
Засні, маё сэрца, засні ты навек!
Разбітае сэрца... Няхай чыніць здзек
Звар'яцелы люд... Закрый, сэрца, вочы...

13 Лістапада 1844
С. П. Б.

---

* * *

Заваражы мяне, волхве,
Дружа сівавусы!
Ты ўжо сэрца запячатаў,
Я-ж яшчэ баюся.
Баюся я гарэлую
Пустку руйнаваці;
Яшчэ страшна, мой голубе,
Сэрца пахаваці...
Можа вернецца надзея,
Прыдзе з той вадою
Гаючаю, жывучаю—
Дробнаю слязою.
Можа вернецца з-за свету
Ў пустку зімаваці;
Хоць пабеліць з сярэдзіны
У гарэлай хаце.
І напаліць, і нагрэе,
І святло засвеціць...
Мо' яшчэ раз абудзяцца
Мае думы-дзеці.
Мо' яшчэ раз памалюся,
З дзеткамі заплачу;
Мо' яшчэ раз сонца праўды
Хоць скрозь сон пабачу.
Стань-жа братам, хоць абмані!
Скажы, што рабіці:
Ці маліцца, ці журыцца,
Ці голаў разбіці?!

13 Снежня 1844
С.-Пецербург

---

## ГОГАЛЮ

За думаю дума роем вылятае:
Адна ціснe сэрца, тая раздзірае,
А трэцяя ціха, ціхусенька плача
У саменькім сэрцы—можа й бог не бачыць.

Каму-ж яе пакажу я,
І хто тую мову
Прывітае, угадае
Вялікае слова?
Усе глухі. У кайданы
Закованы ў сцюжу!..
Ты смяешся, а я плачу,
Вялікі мой дружа.
А што ўродзіць з таго плачу?
Дурнап'ян пракляты...
Не заравуць на Ўкраіне
Вольныя гарматы.
Не зарэжа бацька сына,
Роднае дзяціны,
За чэсць, славу, за братэрства,
За волю Ўкраіны.
Не зарэжа: выкахае
Дый прадасць з кахання
Маскалю ў раздроб. То, бачыш,
Ўдовіна даянне
Цару-бацьку, і айчыне,
І нямчуры плата.
Няхай, браце! А мы будзем
Смяяцца ды плакаць.

30 Снежня 1844
С.-Пецербург



* * *

Не завідуй багатаму.
Багаты не знае
Ні прыязні, ні любові—
Бо ён іх наймае.
Не завідуй магутнаму,
Бо той прымушае.
Не завідуй і слаўнаму:
Слаўны добра знае,
Што не яго людзі любяць—
Любяць тую славу,
Што ён цяжкімі слязамі
Выліў на забаву.

Маладыя-ж як сыйдуцца—
Дык люба ды ціха,
Як у раю. А паглядзіш—
Варушыцца ліха.

Не завідуй-жа нікому,
А зірні наўкола:
Няма раю на ўсёй зямлі,
Як і ў небе гола.

4 Кастрычніка 1845
Міргарад

* * *

Не жаніся ты з багатай,
Бо выжане з хаты;
Не жаніся і з убогай,
Бо не будзеш рады.
Ажаніся з вольнай воляй,
З казацкаю доляй:
Якой будзе, такой будзе—
Як гола, то гола!
Ды ніхто не дакучае
І не разважае.

Чаго баліць і што баліць,
Ніхто не спытае.
Удваіх і плакаць, кажуць,
Лягчэй, неіначай.
Дык не слухай: лягчэй плакаць,
Як ніхто не бачыць.

4 Кастрычніка 1845
Міргарад




## ЕРЭТЫК

***Шафарыку***

Падпалілі у суседа
Новую хаціну
Злыя людзі; нагрэліся,
Пайшлі на спачынак,
Ды забылі шэры попел
Па ветру развеяць.
Ляжыць попел наростані,
А ў попеле тлее
Іскра агню вялікага.
Тлее, не згасае,
Жджэ падпалу, як той помснік.
Часу дажыдае,
Злога часу. Тлела іскра,
Тлела, ўсё чакала
На ростані, на шырокай
Ды ўжо гаснуць стала.

Вось так нямчура запаліла
Вялікі дом наш, і сям'ю,
Сям'ю славянаў падзяліла,
І ціха, ціхенька ўпусціла
Нязгоды лютую змяю.

Паліліся крыві рэкі,
Пожар загасілі.
А нямчуры пажарышча
Й сірат падзялілі.
Выраслі ды ў кайданах
Славянскія дзеці,
І забыліся ў няволі,
Што яны на свеце!
А на даўнім пажарышчы
Іскра брацтва тлела,—
Датлявала і чакала
Цвёрдых рук ды смелых.
І прыждала... Стала бачыць
У тым тле глыбока
Агонь добры смелым сэрцам,
Смелым орлім вокам!
І засвяціў любамудры,
Светач праўды, волі...
І славянскія народы
У цьме і няволі
Паралічыў да аднаго,
Паралічыў трупы,

А не славян. І ты стаўся
На вялікіх купах,—
На ростані усясветнай
Іезекіілем.
І—о! дзіва! Трупы ўсталі
І вочы раскрылі;
І брат з братам абняліся,
І прагаварылі
Слова ціхае любові
Навекі і векі!
І паплылі ў адно мора
Славянскія рэкі!

Слава табе, любамудры,
Чэху-славяніне,
Што не даў ты патануці
У нямецкай плыні
Нашай праўдзе! Тваё мора
Стане морам новым!
Будзе скора яно поўным,
І паплыве човен
За шырокімі ветразямі,
Са стырном удалым,
Паплыве па вольным моры,
На шырокіх хвалях.

Слава табе, Шафарыку,
Вавекі і векі!
Што сабраў ты ў адно мора
Славянскія рэкі!

---

Прывітай-жа ў сваёй славе
І маю нябогу,
Лепту-думку нямудрую
Пра чэха святога,
Вялікага мучальніка,
Пра слаўнага Гуса!
Прымі, ойча. А я ціха
Богу памалюся,
Каб усе славяне сталі
Добрымі братамі
І сынамі сонца праўды
І ерэтыкамі,
Вось такімі, як Кастанскі
Ерэтык вялікі!
І мір свету падаруюць
І славу вавекі!

22 Лістапада 1845
ў Пераяславе

---

Камень, егоже небрегоша зиждущии, сей бысть в главу угла: от господа бысть сей, и есть дивен во очесех наших.

псалом 117, стих 22

Кругом няпраўда і няволя,
Народ замучаны маўчыць.
І на апостальскім прастоле
Чарнец адкормлены сядзіць.
Крывёй гандлюе пад'ярэмных
І рай у наймы аддае!
Цару нябесны! Надарэмны
Твой суд і царствіе твае.

Разбойнікі, людаеды
Праўду пабаролі,
Асмяялі тваю славу
І сілу і волю.
У кайданах зямля плача,
Як па дзецях маці.
Няма каму раскаваці,
Аднадушна стаці
За евангелле той праўды,
Якой прагнуць людзі!
Няма каму! божа! божа!
Ці-ж то так і будзе?
Не! Настане час вялікі
Нябеснае кары!
Ці разломім тры кароны
На гордай ціары!
Так, разломім! Благаславі
На помсту, на мукі,
Благаславі мае, божа,
Няцвёрдыя рукі!

Вось так у келлейцы праўдзіва
Іоан Гус думаў разарваць
Аковы пеклавы!.. І дзіва,
Святое дзіва паказаць
Вачам нязрачым.

«Пабарусь!..
За мяне бог!.. Хай споўніцца!»
І ў віфліемскую капліцу
Пайшоў маліцца добры Гус.

---

У імя госпада Хрыстя,
За нас распятага на дрэве,
І ўсіх апосталаў святых
Пятра і Паўла асабліва,
Мы адпускаема грахі
Вось гэтай булаю святою
Рабыні божай...
«Вось той самай,
Што вадзілі па вуліцах

Пазаўчора ў Празе.
Вось той самай, што сланялась
Па шынках, па стайнях,
Па пярэсмыках манашых
І па келлях п'янай!
Вось яна і зарабіла
Ды булу купіла:
Святой стала!.. Божа! божа!
Вялікая сіла!
Вялікае слава! Зірні на людзей!
Адпачынь ад кары у прасветлым раю!
За што прападаюць? За што ты караеш
Сваіх і пакорных, і добрых дзяцей?

За што закрыў іх, божа, вочы,
І вольны розум акаваў
Кайданамі ліхое ночы?
Празрыце, людзі—дзень настаў!
Распраўце рукі, мрок аблуды.
Развейце, чэхі, будзьце людзі,
А не пасмешышча папам!
Ка́ты, разбойнікі ў ціарах
Ўсё патапілі, ўсё ўзялі,
Як у Маскоўшчыне татары,
І нам, сляпым, перадалі
Свае дагматы!.. Кроў, пажары,
Ўсё зло на свеце, як біч кары,
Пякельных мук бясконцы рад...
І поўны Рым байстрат!
Вось дагматы іх і іх слава!
То слава ў яве!.. А цяпер
Вось тым паложана канклавам:
Хто без святой буды памер,—
У пекла пойдзе! Будзе-ж плата
За булу ўдвойчы—рэж хоць брата,
Апроч пап і чарняца,
І ў рай ідзі! Канец канцам!
І злодзея-ж зладзей акрадзе,
Ды яшчэ ў цэркві. Гады! гады!
Ці напіліся вы, ці не
Людской крыві?.. І хіба мне,
Вялікі госпадзі, малому,
Судзіці дзеянні твае
Волі святой? Кары свае
Ты без віны не шлеш нікому.

Малюся, госпадзі, памілуй,
Выбаў ты нас, святая сіла.
Парань язык мой за хулы,
Ды ранай выбаў з боляў злых.
Не дай змушчаціся лукавым
І над тваёю вечнай славай
Й над намі, простымі людзьмі!..»

І плакаў Гус у тым маленні,
І цяжка плакаў... Люд маўчаў
І моўчкі думаў у здзіўленні:
Супроць каго руку падняў?

«Глядзіце, людзі! Вось дзе була,
Што я чытаў!»—і паказаў
Народу. Боязнь агарнула:
Іоан Гус булу разарваў!!
І з віфліемскае капліцы
Аж да сусветнае сталіцы
Пагудка шумная пайшла.
Манахі ў страху... Нібы ка́ра,
Канклаў пагудка затрасла,—
І пахілілася ціара!

Зашыпела, як гадзюка,
Погань з Ватыкана.
Шапочыцца Авіньёна
З рымскімі папамі;
Шапочуцца анты-папы,
Аж сцены трасуцца
Ад шопату. Кардыналы,
Як гадзюкі, ўюцца
Ля ціары. Ды ціхачом,
Як каты, дзяруцца
За мышанё... Ды як зноў-жа?
Аднае той скуры
Гэтка сіла!.. А мясішча!!!
Аж дрогнулі муры,
Як успомнілі, што ў Празе
Гегекнулі гусі
Ды з арламі ляцяць біцца...
Канклаў схамянуўся,
Сабраў раду. Ухвалілі:
Усім разам стаці
Супроць Гуса і ў Канстанцы
Вараннё склікаці
І сцерагчы, колькі сілы,
І згары і здолу,
Каб не села тая птаха
На славянскім полі.

І вараннё поле ўкрыла—
Папы павалілі
Да Канстанцы; шляхі, стэпы
Саранчой забілі
Бароны, герцагі, і д'юкі,
Псары, геральды шынкары
І трубадуры (кабзары),
І шляхам войска, як гадзюкі.
І герцагіні з немчурою;
Хто з сакаламі на руках,
Хто пешкі, верхам на аслах—
Бы на аблаву ўсе гурмою,
Як гады, ў вырай, аж кішаць!

О чэху! Дзе твая душа??
Глядзі, што сілы паваліла,
Як сарацына ваяваць
Або вялікага Атылу!

У Празе глуха гаманяць,
І цэсара, і Вечаслава,
І той сабор тысячаглавы
Уголас лаюць і пускаць
На сход не хочуць яны Гуса...
«Жыў бог! Жыва душа мая!
Браты, я смерці не баюся!
Я даваду ўсім тым вужам!
І ненасытнае іх вырву джала!..»
І чэхі Гуса праважалі,
Як дзеці бацьку.

---

Зазванілі у Канстанцы
Рана ва ўсе звоны.
Тлум сабраўся кардыналаў
Гладкіх і чырвоных,
Як бугаёў на выпасе,
І натоўп прэлатаў,
І тры папы, і баронства,
І князёў багата.
Сабраліся, як Іуды
На суд няпраўдзівы
Супроць Хрыста. Сваркі, гоман—
То раве, то вые,
Нібы нейкі дзікі табар,
Ці кагал у школе...
І—ўсім разам як зарвала!..

Як кедр сярод поля
Ліванскага,—у кайданах
Стаў Гус перад імі.
І акінуў нечасцівых
Орлімі вачымі.
Затрасліся, пабялелі,
Моўчкі азіралі
Мучальніка. «Што-ж вы мяне,—
На дыспут пазвалі?
Ці каб глядзець на кайданы??»
«Маўчы, чэх бязверы...»—
Гадзюкаю зашыпелі,
Зараўлі, як зверы.
«Ты ерэтык! Ты ерэтык!
Ты сееш расколы!
І нязгоды развіваеш,
Свяцейшае волі
Не прымаеш!.. Адно слова!—
Ты богам пракляты!
Ты ерэтык! Ты ерэтык!..»—
Раўлі ўсе прэлаты.
«Ты усобнік!.. Адно слова—
Ты ўсімі пракляты!..»
Паглядзеў Гус на прэлатаў,
Дый пайшоў з палаца.
«Пабаролі! Пабаролі!..»
Нібы звар'яцелі.
«Аўтадафе! Аўтадафе!..»—
Гуртам заравелі.

І ўсю ноч банкетавалі
Папы, бароны... Ўсе пілі
І сп'яна Гуса праклінали
Аж покі звоны загулі.
І дзень настаў... Ідуць маліцца
Ксяндзы за Гуса. З-за гары
Выходзіць сонца, аж гарыць.
І сонца хоча падзівіцца,
Што будуць з праведным тварыць?!

Зазванілі ва ўсе звоны,
І павялі Гуса
На Галгофу у кайданах...
І не пахіснуўся
Перад агнём. На агні стаў
І моліцца богу.
«О госпадзі міласэрны!
Што зрабіў я злога
Гэтым людзям, тваім людзям?
За што мяне судзяць?
За што мяне распінаюць?
О людзі вы, людзі!
Маліцеся! Вы—нявінны!
І з вамі так будзе!
Маліцеся! Злыя зверы
Прышлі ў воўчых скурах
І пазуры распусцілі...
Ні горы, ні муры
Не схаваюць. Разальецца
Чырвонае мора
Крыві. Крыві з дзяцей вашых...
О гора! о гора!
Унь яны! Ў адзежах ясных
Іх лютыя вочы...
Ужо крыві...
«Палі Палі!»
Крыві! Крыві хочуць!
Крыві вашае!.» І дымам
Праведнага ўкрыла.
«Маліцеся! маліцеся!
Госпадзі, памілуй,
Даруй ты ім—не ведаюць!..»
Ды не чутна стала!
Вакол агню, як сабакі,
Ўкруг манахі сталі.
Баяліся, каб не вылез
Гадзюкаю з жару
Ды не павіс на кароне
Або на ціары.

Пагас агонь; дзьмухнуў вецер
І попел развеяў.
І бачылі на ціары
Чырвонага змея
Людзі простыя. Манахі
Te deum спявалі.
Разыйшліся па хаўтурах
І хаўтуравалі



«ЕРЭТЫК»



І дзень і ноч, аж папухлі.
Малою сям'ёю
Прышлі чэхі, зямлі ўзялі
З таго кастра, з ёю
Пайшлі ў Прагу. Гэтак Гуса
Ксяндзы асудзілі,
Запалілі... Ды божага
Слова не спалілі,
Не згадалі, што вылеціць
Арол з па-над хмары—
Замест гуся—і расклюе
Папскую ціару.
Дык няхай ім! Разбрыліся,
Як тыя вароны,
З крывавага таго свята
Манахі, бароны,
Парасселіся ў будынках,
Клопату не маюць;
Банкятуюць, час-ад-часу
Te deum спяваюць.
Ўсё зрабілі... Ды чакайце!
Унь над галавою
Стары Жыжка з Табарова
Махнуў булавою.

10 Кастрычніка 1845
с. Мар'інскае



# СЛЯПЫ

(НЯВОЛЬНІК)

ПАЭМА

Думы мае маладыя,
Памершыя дзеці,
Не лятаюць з таго свету
Пустку абагрэці.
Пакінулі сіратою
З табою адною,
Маё сэрца, мая зорка,
Раю мой, спакою!
Ды хто знае рай мой светлы?
Ты сама не знаеш,
Што вітаеш нада мною,
Як зара над гаем...
І гляджу я, пазіраю,
А ты, мая зорка,
Спускаешся нізюсенька
З ціхаю гаворкай.
Усміхнешся ды паглядзіш.
Я гляджу, не бачу.
Прахаплюся—плача сэрца,
І вочы заплачуць.

Дзякуй, зоранька! Мінае
Няясны дзень мой, умірае.
Над галавой ужо трасе
Касою смерць. І пахаваюць...
А там—і след мой занясе
Халодным ветрам. Ўсё мінае!..
І ты выпадкам прачытаеш
Злітую слязамі
Маю думу, і ціхімі,
Ціхімі славамі
Прагаворыш: «Я любіла,
Я яго любіла,
І ён не знаў...» Зорка мая!
На маю магілу
Свяці, зорка! А я буду
З-за свету лятаці
І пра цябе, маё сэрца,
На небе спяваці.

---

Той блукае за марамі,
Свет пераплывае,
Ходзіць следам за той доляй,
А долі не мае!—
Нібы ўмерла. Іншы рвецца
На ўсю змогу сілы
За доляю... Вось-вось дагнаў...
І—бах у магілу!
А ў трэцяга, як у старца,
Ні хаты, ні поля,
Толькі торба, а з той торбы
Выглядае доля—
Як дзіцёнак, а ён яе
Лае, праклінае
І за чвэртку закладае.

Не, не пакідае!
Як калючка, учэпіцца
Ў латаныя полы,
Дый збірае каласочкі
На чужэнькім полі.
А там снапы... а там скірты,
А там... у харомах
Сядзіць сабе наш сіротка,
Як у сваім доме.
Вось такая тая доля—
З вамі свет пяройдзе.
Каго любіць—сама прыдзе,
У калысцы знойдзе.

---

Вясёлым часам, у нядзелю,
Якраз у дзень зялёных свят,
З бандураю, ў кашулі белай
Сядзеў у ценю каля хат
Стары казак.
«І так і сяк...
Яно і трэба-б, але шкода...
Не, не трэба! Хоць два годы
Няхай па свеце паблукае
Ды сваёй сам пашукае,
Як я шукаў калісь... Ярына!
А дзе Сцяпан?» «А ён пад тынам,
Як той укопаны стаіць!»
«А я й не бачу! Эй!»—крычыць:
«Хадзі сюды; сюды абое!..
А нуце, дзеці, вось такое!»—
І ўдарыў па струнах.
Стары грае, а Ярына
Са Сцёпкам гуляе.
Стары грае прымаўляе,
Тахты адбівае.

---

«Эх, калі-б мне ліха ды ліха,
Калі-б жыці з свякрованькай ціха,
Эх, калі-б мне ды мужык малады,
Ды з другою не хадзіў нікуды!
Ой гоп, чыкі-чыкі!
Чырвоныя чаравікі
Ды яшчэ і тры музыкі,—
Была-б рада дужа,
Ды любіла-б мужа!»
«Ой гоп, захадзіўся,
Зрабіў хату, ажаніўся,
І печ напаліў,
І вячэраць наварыў».

«А ну, дзеці, вось так, дзеці!»—
І стары падняўся.
Як ударыць, як урэпіць—
Аж у бокі ўзяўся.

«Ці так, ці не так,
Урадзіўся пастарнак,
А пятрушку
Крышы ў юшку—
Будзе смак, будзе смак!
Ой, так—такі так,
Ажаніўся казак,
Хату кінуў,
Хату рынуў,
Ды падаўся ў байрак».

---

«Не, не той час—стапталася,
Канец ідзе сіле—
Утаміўся. А ўсё гэта
Вы разварушылі.
А, бадай вас! Што то леты:
Не, ўжо не да ладу...
Мінулася! Ідзі, дочка,
Полуднем парадуй;
Гуляючы, як той казаў,
Шматак хлеба з'есці.
Ідзі-ж, рыбка! А ты, сынку,
Паслухаеш весці.
Дык сядай-жа!.. Як забілі
Твайго бацьку Яна
Ў шляхетчыне, дык ты яшчэ
Быў малы, Сцяпане;
І не поўзаў...» «Дык я не сын,
Я не сын ваш, татка?..»
«Ды не, не сын; але слухай!
Памерла і матка,
Ты й застаўся; а я й кажу
Пакойнай Марыне,
Сваёй жонцы: «А ведаеш?
Дай возьмем за сына.
Цябе, хлопча». «Добра»,—кажа.
Так мы і зрабілі:
Вось як брата з сястрой роднай
У сям'і злучылі.
А цяпер... Ну, ты на часе,
І Ярына спее...
Трэба будзе людзей спытаць
Ды што-небудзь дзеяць!
Як ты скажаш?» «Я не знаю...
Бо я думаў тое...»
«Што Ярына сястра табе?
А яна не тое...
Яно проста : злюбіліся,
Дык жонкаю будзе.
Ды перш вось што, сынку, трэба
Выйсці і на людзі
Ды пабачыць, як жывуць:
Ціаруць
Ды на нявораным ці сеюць,
І проста жнуць
Ды немалочанае веюць,

Ды як і мелюць і ядуць,—
Ведаць трэба, як жывуць.
Дык вось як, браце: трэба ў людзі
На дзве якіх зімы
Пайсці ў наймы;
Тады пабачыма, што будзе.
Бо хто не ўмее зарабіць,
Дык той не ўмее і пажыць.
А ты як думаеш, нябожа?..
А калі хочаш, сынку, знаць,
Дзе лепей ліхам таргаваць,
Ідзі ты ў Сеч. Як бог паможа,
Там запрабуеш розных страў;
А я іх знаў.
І досыць нудна, як згадаю!..
Калі заробіш—прынясеш.
А не заробіш—спажывеш
Маё дабро. Зато звычаю
Казацкага набярэшся,
Пажывеш на свеце,—
Не на такім, як у Брацтве,
А «жыві мыслеце»
Па сіняму прачытаеш;
Ды па-маладзецку
Будзеш богу маліціся,
А не па-чарнецку
Мармытаці. Вось так, сынку!
Памолімся богу,
Ды сівога асядлаем—
І гайда ў дарогу!
Ну, дык пойдзем палуднаваць.
Што ты там, Ярына,
Змайстравала?» «Ужо, татка!»
«Дык вось так-то, сыне!»

———

Не есца, не п'ецца, і сэрца не б'ецца,
І вочы не бачаць, не чуць галавы.
Сядзіць, не гаворыць, нібы нежывы.
Замест шматка хлеба за кубак бярэцца.
Дзівіцца Ярына ды цішком смяецца:
«Што-ж гэта з ім стала? Ні есці, ні піць
Нічога не хоча! Ці не занядужаў?
Брацiку Сцяпане! Што ў цябе баліць?»—
Вачыма спытала. Старому-ж нічога,
Нібыта й не бачыць . «Ці жаць, ці не жаць,
А сеяці трэба,—стары размаўляе
Нібыта з сабою:—Будзем уставаць!
Можа да вячэрні яшчэ падыбаю.
А ты, Сцяпане, ляжаш спаць,
Бо заўтра рана трэба ўстаць
Ды каня сядлаць».

———

«Сцяпаначка, галубочак!
А чаго ты плачаш?
Усміхніся, скажы слоўка.
Хіба ты не бачыш,
Што й я плачу!.. Узлаваўся
Бог знае на кога,
Дый са мною не гаворыць.
Заплачу, яй-богу,
Дый уцяку... Вось пабачыш.
Дык скажы, Сцяпане!
Можа праўда занядужаў?
Я зелля дастану
Ды збегаю да знахаркі...
Можа то з намовы?»
«Не, Ярына, маё сэрца,
Квеце мой ружовы!
Я не брат табе, Ярына!
Я заўтра пакіну...
Цябе з бацькам сіротамі...
Дзе-небудзь загіну;
А ты мяне і не ўспомніш,
Забудзеш, Ярына,
Свайго брата...» «Што чаўпе ён?
Яй-богу, з урокаў...
Я не сястра! Хто-ж я тады?
Божа мой высокі,
Што тут рабіць... Бацькі няма,
А ён хвор, нябога.
Яшчэ памрэ!.. О божа мой!
А яму нічога—
Жарты строіць нада мною!
Хіба ты не знаеш?
Як ты памрэш, мяне з бацькам
Разам пахаваюць!..»
«Не, Ярына, не памру я,
А толькі паеду
Ад вас заўтра... А прыеду...
На той год прыеду—
Ды не братам з Запарожжа—
Сустрэнь з рушнікамі...
Ды ці прымеш?..» «А бадай ты
З сваімі сватамі!
І жартуе!..» «Не жартую,
Яй-богу, Ярына!
Не жартую...» «Дык і праўда
Ты заўтра пакінеш
Мяне з бацькам? Не, жартуеш!..
Ну, скажы, Сцяпане!
Хіба-ж праўда не сястра я?..»
«Не, маё каханне!
Маё сэрца!» «Божа ты мой,
Чаму-ж я не знала?
Я-ж бы цябе не любіла
І не цалавала...
Ой-ой, сорам! Прэч ад мяне!
Пусці мае рукі!
Ты не брат мой! ты не брат мой!
Мука мая! мука!»

І заплакала Ярына,
Бедная дзяўчына,

І скрозь слёзы прамаўляла:
«Пакіне!.. пакіне!..»
Як той явар над вадою,
Сцяпан пахіліўся.
Казацкія яго слёзы
Ў сэрцы запякліся,
Як у пекле... А Ярына
То кляне, то просіць,
То замоўкне, пацалуе,
То зноў загалосіць.
Не згледзелі, як сцямнела.
Брата і сястрыцу
У абнімку застаў бацька
У ціхай святліцы.

Развіднела, а Ярына
Рыдае, рыдае.
Ужо Сцяпан ля крыніцы
Каня аглядае.
Ўзяла вёдры і пабегла
Да тае крыніцы...
А тым часам стары бацька
Адзін у святліцы
Разглядае, прымярае
Казацкую зброю
Застаўшыся з ёю.
І нібы зноў маладзее
Дый заплакаў... «Зброя мая,
Зброя залатая!
Леты мае маладыя.
Сіла малацая!
Паслужы-ж ты, мая зброя,
І маладой сіле!
Паслужы ёй гэтак шчыра,
Як і мне служыла!..»

І Ярына дае зброю,
А Сцяпан сядлае
Каня, свайго таварыша,
Жупан надзявае.
І шаблюка, як гадзюка,
І дзіда-дручына,
І самапал сяміпядны
Павіс за плячыма.
Як зірнула, аж замлела;
І стары заплакаў,
Як пабачыў на коніку...
Такога в а я к у.

Вядзе каня за паводдзе
Ды плача Ярына.
Стары бацька ідзе побач,
Навучае сына,
Як у войску бытаваці,
Старшых шанаваці,
Таварыства паважаці,
Ў табар не хавацца.

«Няхай цябе бог заступіць!»—
Як за сялом сталі,
Сказаў стары,—ды ўсе трое
Разам зарыдалі.
Сцяпан свіснуў—і клуб пылу
На шляху падняўся.
«Не забаўся, мой сыночку,
Каб хутчэй вяртаўся!..»—
Стары сказаў ды заплакаў...
Як тая яліна
Ускрай лесу—невясёла
Замоўкла Ярына;
Толькі слёзы выцірае,
На шлях пaглядае;
З клубу пылу штось прагляне
Ды зноў прападае.
Нібы шапка цераз поле
Коціцца, знікае...
Хаваецца... Дробнай мошкай
Толькі чуць мільгае,—
І прапала. Доўга, доўга
Стаяла Ярына
Ды глядзела, мо' вынырне
Постаць казачыны.
Не ўгледзела; гаротная,
Стаіць нерухома,
Заплакала разам з бацькам
Дый пайшлі дадому.

---

Мінаюць дні, мінае лета;
Настала восень. Шалясціць
Пажоўклы ліст. У сум адзеты,
Стары казак адзін сядзіць.
Хварэе штосьці яго Ярына,
Яго адзіная дзяціна
Пакінуць хоча; з кім дажыць?
Дабыці веку векавога?
Згадаў Сцяпана маладога
І час былы свой—марката!
Згадаў, дый заплакаў
Багаты сівы сірата.
Як лату на лаце,
На сэрца сумоту нашыла нуда.
«Ў тваіх руках усё на свеце.
Твая святая воля!
Няхай будзе так, як будзе—
Такая ўжо доля».

---

І барвінкам, і рутаю,
Кветкам уквятняе
Вясна зямлю, як дзяўчыну
У зялёным гаю.
І сонейка сярод неба
Спынілася—стала,
Як жаніх той маладую,
Зямлю аглядала.

І Ярына вышла з хаты
На свет божы глянуць,—
Ледзьве вышла... Усміхнецца,
То пойдзе, то стане,
Разглядае, любуецца,
Так лагодна, ціха—
Нібы ўчора радзілася...
А лютае ліха
Хіснулася ў самым сэрцы
І свет засланіла.
Як падкошаная краска,
Стан свой пахіліла;
Як з кветачкі раса ўранку,
Слёзы паліліся.
Стары бацька каля яе,
Як дуб, пахіліўся.

---

У Кіеве у вялікім
Святых упрашала;
У мяжыгарскага спаса
Прычасць тройчы брала.
У Пачаеве святому
Малітвы насіла,
Каб Сцяпана, тую долю,
Хоць у сне прысніла!..
Ды не сніўся... Вярнулася.
Ізноў забялела
Зіма-сцюжа. Ізноў вясна
Кветам чырванела;
Зноў Ярына вышла з дому
Глянуць на прасторы.
Не к святому, к варажбітцы
Несла сваё гора.

Варажыла варажбітка,
Ліха замаўляла,
Талан-долю за тры грошы
З воску вылівала.
«Унь бач конік асядланы
Водзіць галавою,
А вунь ідзе, унь дзе ідзе
Дзядок з барадою.
А вось грошы. Бач, саплівы,
Як-бы дагадаўся
Ды ўцёр яму; вось-жа і ўцёр.
Глядзі—унь схаваўся
За магілай; лічыць грошы,
Ізноў ідзе шляхам,
Заплюшчыўся, з тарбінамі.
То, бач, дзеля страху,
Каб татары або ляхі
Часам не спаткалі...»
І радзюсенькая ў хату
Ярына вяртала.

Ужо трэці і чацверты
І пяты мінае—
Не малы год. А Сцяпан-жа
Дамоў не вяртае.
І сцежачкі, дарожанькі
Ярам ды гарою,
Што вялі да варажбіткі,
Зараслі травою.
А Ярына ды ў чарніцы
Расплятае косы;
Стары бацька каля яе
Падае і просіць:
Хоць гадочак, хоць лецейка,
Хоць зялёных святаў,
Пачакаці... Дачакалі,
Уквятнялі хату
Любісцікам і аерам;
У белых сарочках
У нядзелю, як сіроты,
Селі ў халадочку.
Сядзяць сабе ды сумуюць;
Слухаюць: хтось грае
Ля варотаў, бы на кобзе,
І ціха спявае.

---

«У нядзелю ранкам-рана
Мора гаманіла;
Таварыства атамана
На сходзе прасіла:
«Дазволь, дазволь, атамане,
Спусціць чайкі ў ваду,
Ды за Тэндар грамадою,
На турка паходам».
Чайкі і байдакі спускалі
Ды гарматы рыхтавалі,
З шырокага горла Дняпровага выплывалі.
Сярод ночы цёмнае,
На моры, на сінім,
За востравам Тэндрам тапіліся,
Прападалі...
Адзін утапае,
Другі вынырае,
Казацтву-таварыству з той сіняе хвалі
Рукою махае, гукае:
«Няхай вам, таварыства, бог дапамагае!»
І ў сіняй хвалі знікае і прападае.

Толькі тры чайкі, хвала богу,
Атамана кураннога,
Сіраты Сцяпана маладога,
Мора тое не ўтапіла,
А ў турэцкую чужую зямлю
Без вёсел і стырна прыбіла.
Тады сірату Сцяпана,
Казака рэестравога,
Атамана маладога,
Туркі-янычары лавілі,

З гарматы грымалі,
Ў кайданы кавалі,
У Цараградскую вежу саджалі,
Ў цяжкую работу аддавалі.
Ой спасе наш цудатворны,
Межыгорскі спасе!
І лютаму ворагу ты
Не дапусці ўпасці
Ў турэцкую зямлю, ў цяжкую няволю!
Там кайданы па тры пуды,
Атаманам па чатыры.
І света божага не бачаць, не знаюць,
Пад зямлёю камень выдзіраюць,
Без споведзі святое паміраюць,
Прападаюць.
І згадаў Сцяпан сірата ў няволі
Сваю матку-Украіну,
Няроднага бацьку старога,
І коніка варанога,
І сястру Ярыну.
Плача, рыдае,
Да бога рукі ўзнімае,
Кайданы збівае,
Уцякае на вольную волю...
Ужо аж на трэцім полі
Туркі-янычары лавілі,
Да слупа ўвязалі,
Вочы выймалі,
Гарачым жалезам выпякалі,
Ў кайданы забілі,
Ў астрог пасадзілі
І замуравалі»

---

Вось так на вуліцы, пад тынам,
Сам малады кабзар стаяў
І пра нявольніка спяваў.
За тынам слухала Ярына,
І не даслухала—упала.
«Сцяпаначка! Сцяпаначка,—
Рыдала, крычала:
Сцяпаначка, маё сэрца!
Дзе ты быў загінуў?
Тата! тата! то-ж Сцяпан наш!
Ідзі глянь на сына!»
Прышоў бацька, разглядае...
Насілу Сцяпана
Распазнае; вось так яго
Змянілі кайданы!
«Сыне ты мой нешчаслівы!
Дзе, з якой прычыны
Ты блукаў так доўга ў свеце,
Сыне мой адзіны?»
Плача стары, абнімае,
І сляпы мой плача
Невідушчымі вачымі,—
Нібы сонца ўбачыў.

І бяруць яго пад рукі,
І вядуць у хату,
І вітае Ярыначка,
Як роднага брата.
І галаву яму ўмыла,
І ногі памыла,
Ды ў сарочцы тонкай, белай
За стол пасадзіла.
Накарміла, напаіла,
Палажыла спаці,
Ды ціхенька вышла з хаты,
Каб не замінаці

---

«Не, не трэба, мой татачка,
Не трэба, Ярына!
Паглядзіце: я загінуў,
Навекі загінуў.
За што-ж свае маладыя
Ты загубіш леты
З калекаю... Нават людзі
Асмяюць за гэта,
І бог святы пакарае
І прагоніць долю
З гэтай хаты вясёлае
На чужое поле.
Не, Ярына! Бог не кіне,
Ты знойдзеш другога,
А я пайду ў Запарожжа—
Там мая дарога.
Мяне любяць...» «Не, Сцяпане,
Ты мая дзяціна!
І бог цябе пакарае,
Калі мяне кінеш».
«Аставайся, Сцяпаначка!
Не хочаш пабрацца,
Дык так будзем: я—сястрою,
А ты—родным братцам,
І дзяцьмі яму абое,
Нашаму старому.
Не йдзі, сэрца, Сцяпаначка,
Не кідай нас дома!
Не пакінеш?..» «Не, Ярына!..»
І Сцяпан астаўся.
Стары бацька ад радасці
Аж за кобзу ўзяўся,
Хацеў рушыць у прысядкі
З радасці такое,
І на прызбе каля хаты
Селі разам трое.
«Раскажы-ж цяпер, Сцяпане,
Пра сваю нядолю;
Бо-ж і я гуляў калісьці
Ў турэцкай няволі».

«Вось-жа мяне, ўжо сляпога,
На свет выпускалі

З казакамі... Таварыства
На Сеч шлях трымала.
І мяне ўзялі з сабою,
І цераз Балканы
Паспяшалі на Ўкраіну
Вольнымі нагамі.
І на ціхім на Дунаю
Нас пeранімаюць
Таварышы-запарожцы
І ў Сеч зварачаюць.
І расказваюць ды плачуць,
Як Сеч руйнавалі,
Як маскалі скарбы нашы
І свечкі забралі
У пакровы. Як казакі
Ноччу уцякалі
І на ціхім на Дунаю
Новым кошам сталі.
Як царыца па Кіеву
З Нечасам хадзіла
І межыгарскага спаса
Ноччу запаліла.
І на Дняпры на залатой
Галеры гуляла.
На пажар той паглядала,
Рукі пацірала.
І як стэпы Запарожжа
Тады падзялілі,
А паны на Украіне
Люд запаланілі.
Як Кірыла з старшынямі
Пудру ужывалі
Ды ў царыцы, як сабакі,
Туфелькі лізалі.
Вось так, татка! Я шчаслівы
Што вачэй не маю,
Што нічога таго ў свеце
Не бачу, не знаю.
Ляхі былі,—ўсё пабралі,
Кроў павыпівалі,
А маскалі і свет божы
Ў путы закавалі.
Вось так яно. Цяжка, тата
З сваёй роднай хаты
Прасіць ласкі, пасуседзіць
З чужынцам зацятым.
Цяпер, кажуць, Галаваты
Рэшткі падбірае
Ды на Кубань падбівае,
Чаркеса пужае.
Няхай яму бог паможа!
А што з таго будзе—
Дык хто знае? Мо' пачуем,
Што раскажуць людзі!..»
Вось так яны размаўлялі
Што ні дзень бывала,
А Ярына гаспадарку,
Хату даглядала.

Успаміналі Запарожжа,
Казацкую славу,
І спявалі ўдваіх сабе
Пра чалога Саву,
Пра Багдана недарэку,
Нядобрага сына,
І пра Гонту мучаніка,
Слаўнага Максіма.
А Ярына іх слухала...
І святым аддана
Малілася... На ўсяедная
Вышла за Сцяпана.

---

Вось і ўся мая дума...
Выбачце мне, людзі!
Тое, што было,—мінула,
Зноў яго не будзе.
Мінуліся мае слёзы;
Не рвецца, не плача
Разбітае маё сэрца;
І вочы не бачаць—
Ні ціхае хацінaчкі
У забытым краю,
Ні ціхае далінaчкі,
Ні цёмнага гаю,
Ні дзяўчыны маладое
І малой дзяціны
Я не бачу шчаслівае:
Ўсё плача, ўсё гіне!
І рад-бы я дзе схавацца,
Але дзе?—Не знаю.
Скрозь няпраўда, дзе ні гляну,
Скрозь госпада лаюць.
Сэрца вяне, засыхае,
Замярзаюць слёзы...
Я ўтаміўся адзінокі
На самай дарозе.
Вось так яно! Выбачайце,
Што крумкачом крачу:
Хмара сонца засланіла,—
Я свету не бачу.
Ледзьве, ледзьве апаўночы
Сэрцам празіраю,
І кволую маю думу
У свет пасылаю—
Гаючае, жывучае
Вады пашукаці.
Як калісьці, дый прынясе
Пакрапіць у хаце,
І засвеціць агонь чысты,
І сумна, і ціха
Загаворыць аб вясёлым,
А зверне на ліха.
І мне цяпер пра сляпога
Сірату канчае,
Але як давесці краю,



І сама не знае.
Бо не было таго дзіва
Можа і спрадвеку,
Каб шчаслівай была жонка
З сляпым чалавекам.
Вось-жа стала гэта дзіва!
Год, другі мінае,
Як пабраліся; а глянуць—
Удваіх гуляюць
Па садочку. Стары бацька,
Дзед задавалёны,
Вучыць ўнука маленькага
Аддаваць паклоны.

16 Кастрычніка 1845
с. Мар'інскае

# ВЯЛІКІ ЛЁХ

МІСТЭРЫЯ

Положил еси нас соседом нашим, подражание и поругание сущим окрест нас. Положил еси нас в притчу во язицех, покиванию главы в людех.

псалом 43, ст. 14 и 15.

## ТРЫ ДУШЫ

Як снег, тры пташачкі ляцелі
Цераз Суботава і селі
На крыж царквы старой утрох,
Прамовілі: «Даруе бог:
Цяпер мы душы, а не людзі!
Нам лепш відаць адгэтуль будзе,
Калі раскопваць будуць лёх.
Хутчэй няхай-бы раскапалі,
У рай тады-б нас паўпускалі,
Бо так Пятру сказаў сам бог:
«Тады у рай іх паўпускаеш,
Калі маскаль пазабірае
Усё і раскапае лёх».

I

Як была я чалавекам,—
Маці Прысяй звала.
Я вось тут-жа радзілася,
Тут я і ўзрастала.
На цвінтары вось на гэтым
Я гуляла ў жмуркі,
Вочы плюшчыла, лавіла
Гетманёнка Юрку.
Тут і гетманіха выйдзе
Ды клікне ў будынак.
Вунь дзе пуня: там было мне
І фіг, і разынак—
Надае ўсяго, бывала,
І на руках носіць.
А як з гетманам з Чыгрына
Прыязджаюць госці,
Па мяне прышлюць, бывала,
Адзенуць, абуюць,
Гетман возьме сам на рукі,
Носіць і цалуе.
Вось гэтак я ў Суботаве
Расла-падрастала,
Як кветачка, і ўсе мяне
Любілі й кахалі.
Анікому я благога
Не сказала слова,
Расла дзеўчынай удалай,
Гожай, чорнабровай.
На мяне і жаніхі ўжо
Паглядалі ласа,
А ў мяне і ручнікі ўжо
Ткаліся тым часам,—
Для заручын рыхтавала,
Ды ліха сустрэла!
Раным-рана ў пиліпаўку,
Якраз у нядзелю,
Па ваду я йшла ў крыніцу.
Ужо крыніца тая
Даўно высахла дарэшты,
А я ўсё лятаю.
Бачу—гетман з старшыною...
Я вады набрала,
З поўным перайшла дарогу;
А таго не знала,
Што ён ехаў у Пераяслаў
Маскве прысягаці!..
І ўжо ледзьве ваду тую
Я данесла к хаце.
А чаму-ж тады я з ёю
Вёдзер не пабіла!
Бацьку, маці, сябе, брата,
Сабак атруціла
Той праклятаю вадою!
Вось за што караюць,
Вось за што мяне, сястрычкі,
У рай не пускаюць.

II

А мяне, мае сястрычкі,
Таму не пусцілі,
Што я цару маскоўскаму
Каня напаіла—
Ў Батурыне, як ён ехаў
У Маскву з Палтавы.
Я была яшчэ падлеткам,
Як Батурын слаўны—
Масква ўночы запаліла,
Чэчэля забіла,
І старога, і малога
Ў Сейме утапіла.
Я валялася між трупаў
У самым палацы
Мазепавым. Тут-жа побач
І сястра, і маці,
Абняўшыся, нежывыя,
Са мною ляжалі.
Памятаю я—насілу
Мяне адарвалі
Ад мацеры нежывое.



Колькі я прасіла
Маскоўскага капітана,
Каб мяне забілі.
Не забілі, а пусцілі
Маскалям на йгрышча!
Насілу я схавалася
На тым пажарышчы.
Адна хата засталася,—
Вось у гэтай хаце
Паставілі ў Батурыне
Цара начаваці,
Калі ехаў з-пад Палтавы.
Я ішла з вадою
Да хаціны... а ён-жа мне
Махае рукою,
Каб каня я напаіла.
Я і напаіла!..
А не ведала, што цяжка,
Цяжка саграшыла!
Ледзь дайшла з вадой дахаты,
На парозе ўпала.
А назаўтра, як цар вышаў
Мяне пахавала
Бабка, што яшчэ ўцалела
На той пажарыне
І мяне што прытуліла
Ў бязверхай хаціне.
Праз дзень і яна памерла
І сатлела ў хаце,
Бо некаму ў Батурыне
Было пахаваці.
Ужо й хату разбурылі,
І бэлькі, і траму
На вугалле папалілі,
А я над ярамі
І стэпамі казацкімі
Дагэтуль лятаю,
А за што мяне караюць,
І сама не знаю.
Мо' за тое, што кожнаму
Служыла, гадзіла...
Што цару я маскоўскаму
Каня напаіла!..

III

Радзілася я ў Каневе;
'Шчэ й не гаварыла,
Мяне маці спавітую
На руках насіла.
Як ехала Кацярына
Па водах Дняпровых
Да Канева, а мы з маткай
Сядзелі ў дуброве.
Я плакала, не ведаю,
Ці есці хацела,
Ці, можа, што ў маленькае
У мяне балела.
Мяне маці забаўляла,
На Днепр паглядала,
Мне галеру залатую
Яна паказала,
Як будынак. А ў галеры
Той князёў нямала,
І сама царыца з імі
Паміж генералаў.
Я глянула, ўсміхнулася,—
Нежывыя ўпалі
Мы з маткаю. Нас у яме
Разам пахавалі.
Вось за што, мае сястрыцы,
Так мяне караюць,
Вось за што цярплю я муку,
А ў рай не пускаюць.
Ці-ж я ведала ў пялёнках.
Што тая царыца—
Люты вораг Украіны—
Прагная ваўчыца!.

---

Змяркаецца. Паляцім-жа
Начаваць у Чуту.
Як што будзе тут рабіцца,
Адтуль будзе чутна.

Узняліся бялюткія
І ў лес паляцелі,
На галінцы на дубовай
Начаваць паселі.

---

## ТРЫ ВАРОНЫ

I

Краў! Краў! Краў!
Краў Багдан крам,
Ды у Кіеў вёз, вёз
Крадзенага воз, воз,
Злодзеям прадаў.

2

Я ў Парыжы была
Ды тры злоты з Радзівілам
Ды з Патоцкім прапіла.

3

Через мост идет чорт,
А коза по воде:
Быть беде! Быть беде!

---

Вось так крычалі і ляцелі
Вароны з трох бакоў і селі
На маяку, што на гары
Пасярод лесу, усе тры.
Надзьмуўшы пер'е, пазіралі,
Як быццам холад пракалі,
Нібы старыя тры сястры,
Што ў дзеўках век свой каратаі,
Пакуль аж мохам парасьлі.

---

1

Вось на табе, а вось табе!
Гэта я лятала
Аж у Сібір, ды ў аднаго
Дзекабрыста ўкрала
Крыху жоўці. Вось, бачыце,
Ёсць чым разгавецца!
Ну, а ў тваёй Маскоўшчыне
Ці ёсць чым пагрэцца?
Ці няма й цяпер нічога?

3

Э... сестрица, много!
Три указа накаркала
На одну дорогу...

1

На якую? На кутую?
Ну, ўжо нарабіла...

3

Да шесть тысяч в одной версте
Душ передушила...

1

Ды не брашы, бо толькі пяць,
І то з фонам-Корфам!
Няма чаго выхваляцца
Чужою работай!
Капусніца куравая!
А вы, мосці-пані,
Банкятуеце ў Парыжы?
Паганыя здані!
Што крыві пусцілі рэчку
Ды ў Сібір загналі
Сваю шляхту, дык і годзе?
Ганарыцца сталі!
Вось, вяльможная ты пава!

2 і 3

А ты што зрабіла??

1

Паганая ваша маці
Вас не нарадзіла,
Як я ўжо тут шынкавала
Ды кроў разлівала.
Бач якія! Карамзіна
Яны прачыталі
Дый думаюць—ого, што мы
Прэч вы, недарэкі!
Яшчэ ў пер'е не ўбраліся,
Голыя калекі!

2

Вось якая недатыка!
Не той ранні ўдаўся,
Хто на досвітку напіўся,
А той, хто й праспаўся!

1

Упілася-б без мяне ты
З сваімі ксяндзамі?
Дзе табе ўжо! Я спаліла
Польшчу з каралямі;
Па табе-ж бы, шчабятуха,
Дагэтуль стаяла!..
А з вольнымі казакамі
Што я вырабляла?
Каму я іх не наймала,
Не запрадавала?
Ды жывучыя-ж, на ліха!
Думала з Багданам
Вось ужо іх пахавала...
Не, ўсталі паганцы
З Мазепаю прыблудаю...
Я-ж там натварыла!
Аж расту, як прыгадаю...
Батурын спаліла,
Сулу ў Ромні загаціла
Толькі старшынамі
Казацкімі, а такімі
Проста казакамі
Фінляндыю засявала,
Акопы капала
На Орэлі, на Ладагу
Я іх выганяла.
Гурт за гуртам, ды царавы
Балоты гаціла,
І слаўнага Палуботка
Ў турме задушыла.
Вось тады дык было свята!
Страшна ў пекле стала.
Матка боская ў Ржавіцы
Ноччу зарыдала!

3

И я таки пожила,
С татарами помутила,
С Мучителем покутила,
С Петрухою попила
Да немцáм запродалá.

1

Натварыла ты нямала:
Так казакаў закавала
Ў нямецкія кайданы,
Што й не рушацца яны.
А ў мяне дык чорт іх знае,
Каго кожны з іх чакае!
І ў прыгон-жа аддала,
І дваран якую сілу
У мундзірах распладзіла,
Як тых вошай развяла!
Байструкі ўсё саноўныя!
Сеч былая свавольная
Немчурою парасла.
І маскаль-жа робіць штукі:
Добра ўмее трэць ён рукі!
Я лютая, але гэткай
Здольнасці не маю
Рабіць тое з казакамі,
Што ён вырабляе!
Вось-вось указ надрукуюць:
Па міласці божай
І вы—нашы, і ўсё—наша,
Гожа ці нягожа!»
«Древности» цяпер шукаюць
У магільным склепе,
Бо ўжо хату спаражнілі,
Што не трэба лепей,
Усё чысценька забралі!
Ды чэрці іх знаюць,
Чаго яны з тым паганым
Лёхам пасяшаюць?
Яшчэ-б трошкі пачакалі,
І царква-б упала...
Тады-б разам дзве руіны
«Пчала» апісала.

2 і 3

Чаго-ж ты нас заклікала?
Любавацца лёхам?

1

Будуць цуды два тварыцца,
Пачакайце троха:
Гэтай ноччу на Ўкраіне
Родзяцца блізняты;
Адзін будзе, як той Гонта,
Катаваці катаў,
Другі будзе (гэта ўжо наш!)
Катам памагатым,—
Ужо ў чэраве кусае...
А я начытала,
Што як вырасце той Гонта,
Наша ўсё прапала!
Ён усё панішчыць, нават
Брата не пакіне,
І распусціць праўду й волю
Па ўсёй Украіне.
Дык вось, бачыце, сястрыцы,
Што тут кампануюць!
На ўсё добрае, на катаў
Кайданы рыхтуюць!

3

Я золотом растопленным
Залью ему очи!..

1

Не, ён, вырадак праклятьі,
Золата не схоча.

3

Я царевными чинами
Скручу ему руки!..

2

Я збяру, што ёсць на свеце,
Ліха ўсё і мукі!..

1

Не, не так, сястрыцы: покуль
Тут сляпыя людзі,
Трэба яго пахаваці,
А то ліха будзе!
Вунь бачыце: над Кіевам
Камета заззяла,
Над Дняпром і над Цясмінам
Зямля задрыжала.
Ці чуеце? Застагнала
Гара над Чыгрынам.
Во, смяецца і рыдае
Уся Украіна!
Нарадзіліся блізняты,
А вар'ятка-маці
Аж рагоча, што абодвух
Іванамі зваці.
Паляцім-жа!..»
Паляцелі,
Летучы спявалі.

1

Паплыве наш Іван
Па Дняпру ды ў Ліман
З кумою!

2

Пабяжыць наш ярчук
Паляваць на гадзюк
За мною.

3

Как хвачу, да помчу,—
В самый ад полечу
Стрелою.

———

## ТРЫ ЛІРНІКІ

Адзін сляпы, другі крывы
І гарбаты трэці
У Суботаў пра Багдана
Грамадзе йшлі пеці.

1

Не было-б такі вароны:
Ужо намасцілі,
Быццам гэта ім седала
Маскалі зрабілі.

2

А каму-ж бы? Чалавека
Пэўна-ж не пасадзяць
Лічыць зоры...

1

Вось гаворыць!
А можа й пасадзяць
Маскаліка альбо немца,
А маскаль ды немец
І там знойдуць хлебец.

3

Што такое верзяце вы?
Якія вароны,
Ды маскалі, ды седала?
Няхай бог бароніць!
Мо' выседжваць маскалёў нам
Загадаюць хутка?
Увесь свет забраць цар хоча—
Ёсць такая чутка.

2

Можа й так! Але-ж на чорта
Іх на горах ставіць?
Ды такія высозныя,
Што хмары дастанеш,
Калі ўзлезці...

3

Гэта вось што!
Патоп хутка будзе,
Дык паны туды паўзлазяць;
Ім там зручна будзе
Наглядаць, мужык як гіне.

1

Разумныя людзі,
А не знаеце нічога!
Тут панаставілі
Для таго прыладаў гэтых,
Каб людзі не кралі
Вады з рэчкі, ды цішком каб
Пяску не аралі,
Што скрозь вунь там за Цясмінам.

2

Глупства ўсё вярзеш ты!
Як не цяміш, то не брашы!
Ды прысядзем зрэшты
Вось тут хіба пад берастам
Ды трохі спачынем.
У мяне кавалкі два ёсць
І хлеба ў тарбіне,
Дык паснедаем давайце,
Покуль сонца ўстане...—
Селі. Хто-ж спяваць умее,
Браткі, аб Багдане?

3

Я спяваю і пра Ясы,
Жоўтыя Воды,
Пра мястэчка Берастэчка...

2

Вось і да прыгоды
Нам сягоння гэта будзе,
Бо людзей навала
Назбіралася ля лёху,
Дый паноў нямала.
Вось дзе будзе нам пажыва!
Можа-б заспявалі
Дзеля спробы...

1

Ды ну яго!
Можа-б мы паспалі?
Давай ляжам. Дзень вялікі,
'Шчэ будзем спяваці.

3

І я кажу. Памолімся
Дый зноў будзем спаці.

Старцы пад берастам заснулі.
Яшчэ і птушак не чуваць,
А каля лёху паўставалі
Ды завінуліся капаць

І дзень, і два, і тры працуюць
Ля таго ўсё лёха,
Дакапаліся да муру,
Адпачылі троха,
Выставіўшы каравулы.
Спраўнік іх аж просіць,
Каб нікога не пускалі,
І ў Чыгрын даносіць.
Вось прыехаў пан мардаты
Даць распараджэнне,
Паглядзеў і кажа: «Трэба
Разламаць скляпенне!»
Разламалі, паглядзелі—
Жахнуліся самі:
Усміхаюцца шкілеты
Белымі зубамі,
Што сонейка пабачылі.
Вось дабро Багдана!
Чарапок з гнілым карытам,
Касцякі ў кайданах!
Каб-жа ў спраўных, дык бы добра:
Можна-б карыстацца!
Засмяяліся... А спраўнік
Стаў аж вар'явацца,
Што няма чым пажывіцца,
Што прапала праца,
Што дзень і ноч завіхаўся,
Ды дурнем астаўся.
Каб яму цяпер Багдан той
Ды ў рукі папаўся!
У салдаты-б здаў,—хай знае,
Як дурыць уладу!
І крычыць ён, як шалёны,
Бегае без ладу.
Ярэменку ў кнігу піша,
Па-маскоўску лае
Увесь народ, і на старцаў
Голасна гукае:
«Вы что делаете, плуты?»
Ды мы, бачыш, пане,
Тут спяваем пра Багдана!
«Я вам дам Богдана!
Мошенники, дармоеды!
И песню сложили
Про такого-ж мошенника!»
«Нас, пане, наўчылі...»
«Я вас навчу! Завалить им!»
Ну і завалілі!
Выпарылі у маскоўскай
Лазні-прахалодзе.
Так той лёх і сам Багдан той
Стаў ім у прыгодзе!
У Суботаве малы лёх
Масква раскапала,
Вялікага-ж яшчэ яна
І не адшукала

[Міргарад. 1845]

---

* * *

На гары стаіць Суботаў,
На гары высокай,
З дамавінай Украіны
Шырокай, глыбокай,—
Гэта царква Багданава:
Ён у ёй маліўся,
Каб маскаль дабром і ліхам
З казаком дзяліўся.
Памяць вечная, Багдане!
Не так яно стала:
Маскалікі ўсё загрэблі,
Што ў рукі папала.
Магілы ўжо раскопваюць
Ды грошай шукаюць,
Твае лёхі развярнулі
Ды цябе-ж і лаюць,
Што й за працу не знаходзяць..
Так яно, Багдане!
Занапасціў ты ўбогую
Сірату Ўкраіну!
Дык вось маеш-жа падзяку...
Царквы-дамавіны

Тут няма каму паправіць
На той Украіне,
На той самай, што паляка
Знішчыла з табою,—
Байструкі Екацярыны
Селі саранчою.

Дык вось так яно, Зіновій,
Аляксееў дружа!
Ім ты ўсё аддаў, яны-ж вось
Дзякуюць не дужа.
Кажуць, бачыш, усё гэта
Было такі наша,
А яны наймалі толькі
Татарам на пашу
Ды палякам... Можа й праўда!
Няхай і так будзе!
Так смяюцца з Украіны
Староннія людзі!
Дык не смейцеся-ж, вы, людзі!
Царква-дамавіна
Разваліцца, а з руіны
Ўстане Украіна,
І развее змрок няволі,
Праўда скрозь засвеціць,
І памоляцца на волі
Нявольнікаў дзеці!..

21 кастрычніка 1845
Мар'інскае

---

## НАЙМІЧКА

ПАЭМА

У нядзелю раным рана
Поле крылася туманам,
На кургане сярод поля,
Як пахілая тапроля,
Маладзіца маладая
Нешта к сэрцу прытуляе
Ды з туманам размаўляе:

Ой тумане, тумане,
Мой ты лёс-гараванне!
Чаму мяне не схаваеш
У гэтым кургане?
Чаму ты мяне не ўгоніш
У гэту зямельку,
Маёй долі не засыплеш,
Не ўбавіш мне веку?
Не душы мяне, тумане,
Схавай толькі ў полі,
Каб ніхто не знаў, не бачыў
Маёй цяжкай долі...
Я не адна: у мяне ёсць
І бацька і маці...
У мяне ёсць... Туманочку!!.
Тумане, мой браце!..
Нехрышчоны мой сыночак,
Мой любы саколе!
Ні я цябе хрысціць буду
На марную долю;
Перахрысцяць цябе людзі,
Я-ж не буду знаці,
Як завешся... Дзіця маё!
Жыла я ў багацці...
Не лай мяне! Я выпрашу
І вымалю ў бога
Долю, выплачу слязамі
Для сына малога!

Пайшла полем праз туманы,
Ішла і рыдала,
Ды праз слёзы ціха-ціха
Пра ўдаву спявала,
Як яна ў рацэ Дунаі
Сыноў пахавала.

Ой у полі магіла;
Удава там хадзіла,
Ой хадзіла, гуляла,
Зводу-зелля шукала.
Зводу-зелля не знайшла,
Ды сыноў двух прывяла,
У кітайку спавіла
І Дунаю аддала:



«СЛЯПЫ»

Ціхі, ціхі Дунай!
Маіх дзетак забаўляй,
А ты, жоўценькі пясок,
Даглядай сыноў, браток,—
Іх купай, спавівай
І сабой накрывай!

———

Быў сабе дзед ды баба.
Ля сажалкі ў гаі з даўных-даўна
Вось так сабе жылі,
Як дзетачак двое,—
Усюды абое.
Пасвілі ягнят, як малыя былі,
А потым пабраліся,
Набытку даждаліся,
Прыдбалі хутар і млынок,
Развялі сабе садок
І пчальнік да яго,—
Надбалі ўсяго.
Ды вось няма дзяцей у бабы з дзедам,
А смерць з касою ходзіць следам.

Хто-ж іх старасць прывітае,
Дзіцем родным стане?
Хто заплача, пахавае,
Зробіць памінанне?
Хто, дабро спажыўшы, чэсна
Пражыве на свеце?
Хто з падзякай іх успомніць,
Як родныя дзеці?
Цяжка дзетак гадаваці
У бязверхай хаце,
А яшчэ цяжэй старэцца
У белым палацы
І па смерці ўсё пакінуць—
І дабро і хату—
Чужым людзям, чужым дзецям
На здзек, на растрату.

———

На прызбе неяк у нядзелю
Дзед з бабаю сабе сядзелі
Так хараша ў кашулях белых,
Старыя косці сонца грэла,—
Ні хмаркі ў небе—ціха, ціха
Ды люба, быццам гэта рай,
Ды ў сэрцы ім залезла ліха,
Як дзікі звер у цёмны гай.

У такім раю чаго-ж бы
Старым сумаваці?
Ці не ліха даўнейшае
Прачнулася ў хаце?
Ці прыдушанаму ўчора
Вярнулася сіла?
Ці мо' сёння завялося
Ды рай запаліла?

Аб чым сумуюць, я нічога
Пра гэта не магу сказаць.
Мо' ўжо збіраюцца да бога?
Дык хто ў вялікую дарогу
Ім будзе коні запрагаць?
«А хто нас, Насця, пахавае,
Калі памром?» «Хіба я знаю?
Я сама ўсё меркавала—
Думкі спанавалі:
Адзінокія, старыя...
Каму мы надбалі
Дабра таго?» «Чакай крыху!
Чуеш? Нехта плача
Ля варот... Нібы дзіцятка!
Пабяжым-жа!.. Бачыш?
Казаў-жа я, нешта будзе!»
Ускочылі разам,
Падбягаюць, спыніліся!
Перад пералазам,
Ля варот ля самых бачаць—
Дзіцянё спавіта
Дый не туга, новенькаю
Світкаю накрыта.
Гэта маці спавівала,
Накрыла і летам
Дзіцянё апошняй світкай!..
Здзіўленыя гэтым
Старэнькія маліліся,
А яно, як знае:
Напружыла ручаняткі
Ды ім выстаўляе
Маленькія... І замоўкла,
Нават і не плача,
Толькі ўсхліпвае. «Ну, Насця?
Я-ж казаў! Вось бачыш?
Вось і шчасце, вось і доля
Старым, адзінокім!
Бяры-ж хутчэй ды спавівай!..
Вунь які, няўрокам!..
Нясі ў хату, а я зараз
Прыбягу з кумамі
З Гарадзішча...»

Дзіўна неяк
Робіцца між намі!
Адзін сына праклінае,
З хаты выганяе,
Другі свечку, небарака,
Потам зарабляе,
Рыдаючы ставіць яе
Перад абразамі—
Няма дзяцей!.. Дзіўна неяк
Робіцца між намі!

Аж тры пары на радасці
Кумоў назбіралі,

Ды вечарам ахрысцілі
І Маркам назвалі.
Расце Марка. Старэнькія
З радасці часамі,
Дзе пасадзіць, дзе палажыць,
Не ведаюць самі.
Мінае год. Расце Марка,—
Для яго карова
У раскошы купаецца,
Каб ён быў здаровы.
Чорнабровая аднойчы
Прышла, маладзіца
На той хутар да старэнькіх
У наймы прасіцца.

«А што-ж?—кажа:—возьмем, Насця!»
«Ды возьмем, Трахіме,
Не дагледзім мы, старыя,
Вачыма сваімі.
Падрасло дзіця ўжо праўда,
А ўсё-ж такі трэба
Каля яго пільнавацца».
«Ды яно то трэба,
Бо я сваю ўжо частачку
Пражыў, дзякуй богу.
Падтаптаўся. Дык што-ж цяпер,
Што возьмеш, нябога,
За год ці як?» «А што дасце...»
«Каб не мець утраты,
Загадзя лічы, дачушка,
Колькі будзе платы,
Бо сказана: хто не лічыць,
Дык той і не мае.
Хіба так вось, маладзіца:
Ні ты нас не знаеш
Ні мы цябе; пажывеш тут,
Разгледзішся ў хаце,
Вось тады нам лёгка будзе
Гаварыць пра плату.
Ці так дачка?»
«Добра, дзядзька!»
«Дык заходзь у хату!»

Абжылася маладзіца,—
Твар яе вясёлы,
Нібы стала жонкай пана—
Закупіла сёлы!
Увіхаецца старанна
У двары і ў хаце,
І вечарам і досвіткам,
А каля дзіцяці
І ў нядзелю, і ў будны дзень—
Як тая матуля:
Галовачку яму мые,
Белую кашулю
Штодзень божы надзявае,
Пяе, забаўляе,
Робіць возікі, а ў свята
І з рук не спускае.
Аж дзівяцца старэнькія—
Богу шлюць падзяку,
А наймічка няўтомная
Штоноч, небарака,
Сваю долю праклінае,
Горка-горка плача,
І ніхто таго не чуе,
І ніхто не бачыць,
Апрача малога Маркі,
Дык ён-жа не знае,
Чаго наймічка слязамі
Яго абмывае,
Чаму так яго цалуе,
Быццам ён ёй родны,
Не даесць сама, каб толькі
Ён не быў галодны.
А калі ён у калысцы
Часам сярод ночы,
Прачнуўшыся, зварухнецца,
Дык яна і ўскочыць,
Перахрысціць і накрые,
Ціха закалыша,
Чуе Ганна цераз хату,
Як малое дыша.
Раніцою ручаняты
Марка выстаўляе
І мамаю няўтомную
Ганну велічае.
Ён не знае, расце сабе,
Расце, падрастае.

---

Гадоў нямала прамінула,
Вады нямала працякло;
На хутар ліха заглянула,
І слёз нямала там было.
Бабусю Насцю пахавалі
І дзеда ледзь адратавалі,
Па свеце ліха прагуло,
Пасля заснула. Стаў нанова
Патроху хутар ажываць,
І шчасце зноў прышло з дубровы
Да дзеда ў хату спачываць.

---

Ужо Марка чумакуе
І восенню не начуе
Ні у хаце, ні пад хатай,—
Каго-небудзь яму сватай!
Стары думае: «Каго-ж бы?»
І просіць парады
У наймічкі. А наймічка
Да царэўны-б рада
Сватоў паслаць: «Трэба ў Маркі
Запытаць самога».
«Добра, дачка! Запытаем,

Ды за справу з богам!»
Сталі радзіцца, пытацца,
А пасля з сватамі
Пайшоў Марка. Вярнуліся
Людзі з ручнікамі,
З святым хлебам абмененым.
Высваталі панну—
Хоць-бы гетману самому,
Дык было-б да стану.
І дзе яны гэтакае
Дзіва напаткалі?!
«Дзякуй-жа вам!—стары кажа,—
Цяпер, каб вы зналі,
Да канца давесці трэба—
Дзе, калі вянчаці,
Дый вяселле! Вось яшчэ што:
Хто ў нас будзе маці?
Не прыждала мая Насця!!.»
Заліўся слязамі,
А наймічка ўхапілася
За вушак рукамі,
У парозе абамлела.
Ціха стала ў хаце,
Толькі наймічка шаптала:
«Маці... маці... маці!»

---

Цераз тыдзень маладзіцы
Каравай мясілі
На хутары. Стары бацька,
Колькі мае сілы,
З маладзіцамі танцуе
Ды двор вымятае,
Каго ўбачыць на дарозе—
У двор запрашае,
Ды гарэлкаю частуе,
На вяселле просіць,—
Забегаўся, аж самога
Ледзьве ногі носяць.
Чуцен рогат і гармідар
Аж на ўсім падвор'і.
Павыносілі начоўкі
З новае каморы.
Кожны ўходжваецца: варыць,
Падмятае, мые—
Чужыя ўсё. Дзе-ж наймічка?
Пайшла яна ў Кіеў
Памаліцца. Прасіў стары,
А Марка аж плакаў,
Каб яна была за матку.
«Не, Марачка, дзякуй!
Быць мне маткай не да твару—
Багатыя-ж людзі,
А я наймічка... Смяяцца
Кожны з цябе будзе.
Няхай бог вам памагае!
Пайду памалюся
Усім святым у Кіеве
Дый да вас вярнуся.
Як прымеце мяне ў хату,
Пакуль маю сілы,
Папрацую...»
Шчырым сэрцам
Паблагаславіла
Свайго Марку... Заплакала,
Пайшла за вароты.

---

Разгарнулася вяселле—
Музыкам работа
І падковам. Гарэлкаю
Сталы, лавы мыюць,
А наймічка кандыбае,
Спяшаецца ў Кіеў.
Прышла ў Кіеў—не спачыла,
У мяшчанкі стала,
Нанялася ваду насіць,
Бо грошай не стала
На імшу святой Варвары.
Насіла, насіла,
Копаў з восем зарабіла,
Шапачку купіла
Потым Марку у пячэрах
Івана святога,
Каб галоўка не балела
Ў Марка маладога.
І пярсцёнак у Варвары
Нявесце дастала,
І, адбіўшы ўсе паклоны,
Дамоў пакульгала.

Вярнулася. Маладыя
Ля варот сустрэлі,
Запрасілі яе ў хату,
За стол з ёю селі,
І паілі, і кармілі,
Пра Кіеў пыталі,
А пасля ёй у пакоі
Адпачыць паслалі.
«За што яны мяне любяць?
За што паважаюць?
О мой божа міласэрны!
Можа яны знаюць...
Дагадаліся ўжо, можа...
Хаця не,—сказала.—
Яны добрыя...» І Ганна
Цяжка зарыдала.

---

Тройчы крыга замярзала,
Тройчы раставала,
Тройчы ў Кіеў Кацярына
Ганну выпраўляла
Быццам маці. І чацвёрты
Правяла ў дарогу

Пад курган той, што на полі,
Ды прасіла бога,
Каб хуценька вярнулася:
Без яе-ж у хаце
Неяк сумна, быццам хату
Пакінула маці.

Раз ў нядзелю на прачыстай
На прызбе на сваёй Трахім
Сядзеў сабе ў кашулі чыстай,
Капелюшы. А побач з ім
Унук з сабакам забаўляўся.
А ўнучка, ў матчынай спадніцы,
Прышла, як ходзяць маладзіцы,
Да дзеда ў госці. Засмяяўся
Стары і ўнучку прывітаў,
Нібы сапраўдную кабету.
«А булкі дзе-ж табой падзеты?
Ці мо' хто ў лесе адабраў?
Ці мо' забылася ты ў хаце?
А мо' зусім не напякла?
Э, сорам! Вылітая маці!»
Аж зірк!—і наймічка ўвайшла
У двор. Пабег дзед сустракаці
З унукамі сваю Ганну.
«А Марка ў дарозе?»
Ганна ў дзеда спыталася.
«Яшчэ ўсё ў абозе».
«А я ледзьве дадыбала
Да вашай хаціны.
Не хацела паміраці
Адна на чужыне.
Каб хоць Маркі дачакацца!..
Нешта цяжка стала...»
І з клуначка яна ўнукам
Гасцінцы вымала:
Медалікі і крыжычкі,
Пацерак шнурочак
Ярыначцы і чырвоны
З фольгі абразочак;
А для Карпа салавейку
Ды конікаў пару,
І чацвёрты аж пярсцёнак
Ад святой Варвары
Кацярыне; а старому
З восачку святога
Тры свечачкі. Толькі Марку
І сабе нічога
Не прынесла: не купіла,—
Грошай нехапіла,
Зарабіць-жа не прышлося.
«Яшчэ асталося
Бараначка палавінка».
Дзецям раздзяліла.
Зайшла ў хату. Кацярына
Памыла ёй ногі,
Палуднаваць пасадзіла.
Не ела нічога
Ганна, толькі запытала:
«Калі ў нас нядзеля?»
«Паслязаўтра». «Трэба будзе
Акафіст наняці
Ды святому Мікалаю
На часціну даці,—
Бо вось Марка забавіўся...
Можа, дзе ў дарозе
Занядужаў, не дай божа!»
Закапалі слёзы
З старых вачэй памутнелых;
Ледзьве Ганна ўстала,
Прамовіла:
«Кацярына!
Я не тая стала,
Знядужала, не магу ўжо
І на ногі ўстаці.
Цяжка, Катра, паміраці
Ў чужой, цёплай хаце!»

Захварэла, небарака.
І прычасць прымала,
Мазалі святым алеем—
Не дапамагала.
Стары Трахім па надворку
Як прыбіты ходзіць,
Кацярына-ж з хворай Ганны
І вачэй не зводзіць,—
Ад пасцелі не адходзіць
Ні ўдзень, ні ўночы,
А тым часам на каморы
Сыч бяду прарочыць.
Непакоіцца ўсё Ганна.
Штодзень, штогадзінна
Ледзьве чутна пытаецца:
«Скажы, Кацярына,
Яшчэ Марка не прыехаў?
Ох, каб-жа я знала,
Што даждуся, што пабачу,—
Яшчэ-б пачакала!»

Ідзе Марка з чумакамі,
Ідучы спявае,
Спыняецца на папаску,—
Дамоў не спяшае.
Вязе Марка Кацярыне
Сукна дарагога,
Чырвонага шоўку пояс
Вязе для старога.
І каптур вязе для Ганны
З парчы залатое,
І чырвоную ёй хустку
З белаю каймою.

А дзетачкам чаравічкі,
Фіг ды вінаграду,
А ўсім разам чырвонага
Віна з Царграду
Вёдзер мо' са тры ў бачурцы,
Ікры рознай з Дона, —
Вязе ўсяго, не ведае,
Што робіцца дома.

Ідзе Марка, не журыцца.
Прышоў, дзякуй богу!
І вароты адчыняе
І моліцца богу.
«Вось, ці чуеш, Кацярына?
Бяжы, сустракай ты!
Прышоў ужо! Бяжы хутчэй
Ды вядзі дахаты!
Дзякуй табе, хрысце-божа!
Ледзь я прычакала!»
І ойча наш ціха-ціха
Як праз сон шаптала.

Стары валы выпрагае,
Ярмо прыбірае,
Кацярына гэтым часам
Марку аглядае.
«А дзе-ж Ганна, Кацярына?
Я сабе й не дбаю!
Мо' памерла?» «Не памерла,
А вельмі слабая.
Пойдзем у малую хату,
Покуль выпрагае
Валы бацька; яна цябе
Вельмі ўжо чакае».
Увайшоў у хату Марка
І стаў ля парога...
Аж спужаўся. Ганна шэпча:
«Дзякуй... Дзякуй богу!
Хадзі сюды, не пужайся!
Выйдзі з хаты, Каця:
Нешта маю запытаць я,
Нешта расказаці».
Вышла з хаты Кацярына,
А Марка схіліўся
Да наймічкі. Прашаптала:
«Марка! Прыглядзіся,
Прыглядзіся да мяне ты!
Бач, як я змарнела.
Я не Ганна, не наймічка,
Я...»—і занямела.

Марка плакаў і дзівіўся.
Зноў вочы адкрыла,
Пільна глянула, ды зрок ёй
Сляза засланіла.
«Даруй ты мне! Мучылася
Век я ў чужой хаце!..
Даруй-жа мне, мой сыночак!
Я... Я твая маці!»
І замоўкла...
Самлеў Марка,—
Зямля задрыжала.
Прахапіўся—да мацеры,
А маці ўжо спала.

13 Лістапада 1845
у Пераяславе



# КАЎКАЗ

*Шчыраму майму Якаву дэ Бальмену*

Кто даст главе моей воду
и очесем моим источник слез,
и плачуся и день и нощь о побиенных...

Иеремий. Глава 9,стих

За гарамі горы хмараю спавіты,
Засеяны горам, крывёю паліты!
Спаконвеку Праметэя
Там арол карае,
Штодзень божы яму робры
Й сэрца разбівае;
Разбівае, ды не вып'е
Крыві жывой з сэрца,—
Ізноў яно ажывае,
Ды ізноў смяецца.
Не ўмірае душа наша,
Не ўмірае воля;
І пражора не выара
На дне мора поле,
Не скуе душы жывое
І слова жывога,
Не паганьбіць славы бога,
Вялікага бога.

Не нам у спрэчку з табой стаці!
Не справы нам твае судзіць!
Нам толькі плакаць, плакаць, плакаць,
І хлеб штодзённы замясіць
Крывавым потам і слязамі.
І каты бэсцяцца над намі,
А праўда наша п'яна спіць.
Калі яна пратрэ вочы?
Калі адпачыці
Ляжаш, стомлены ты, божа,
І нам дасі жыці?
А мы верым тваёй сіле
І духу жывому;
Праўда ўстане! Воля ўстане!
І табе аднаму
Памоляцца ўсе языкі
Вавекі і векі.
А пакуль што цякуць рэкі,
Крывавыя рэкі!..

---

За гарамі горы хмарамі спавіты,
Засеяны горам, крывёю паліты!
Вось тамка міласцівы мы,

Бы тую лань у чыстым полі,
Злавілі залатую волю
Дый цкуямо... Лягло касцьмі
Людзей муштраваных нямала.
А слёз? Крыві? Ўсіх напаіць
Тут імператараў-бы стала,
З дзяцьмі і ўнукамі ўтапіць
У ўдовіх слёзах... А дзявочых,
Пралітых скрытна сярод ночы?
А матчыных гарачых слёз,
А бацькавых, старых крывавых?
Не рэкі—мора... Льецца скрозь
Крывёю мора! Слава! Слава!
Хартам, і гончым, і псарам,
І нашым бацюшкам—царам!
Слава!

І вам слава, скалы, горы
Снягамі спавітым,
І вам, рыцарам вялікім,
Богам незабытым!
Змагайцеся, а зможаце:
Вам бог памагае!
За вас праўда, за вас слава
І воля святая!

Чурэк і сакля—усё тваё:
Яно не прошана, не дана,
Ніхто й не возьме за сваё,
Не павядзе цябе ў кайданах.
А ў нас!.. На то-ж пісьменны мы,
Чытаем божыя глаголы!
І ад глыбокае турмы
Ды да высокага прастола—
Усе мы ў золаце і голы.
Да нас вучыцца! Наўчым мы,
Пачым і хлеб, і соль пачым!..
Мы хрысціяны: цэркваў ў волю,
Усё дабро, сам бог у нас!
Нам толькі сакля вочы коле:
Чаго яна стаіць у вас,
Не намі дана? Чаму вам
Чурэк-жа ваш, ды вам не кінем,
Як таму псу! Чаму вы нам
Плаціць за сонца не павінны,—
Ці-ж гэта ўсё!.. Мы не пагане,
Сапраўдныя мы хрысціяне—
Крыхой мы сыты! А зато,
Як-бы вы з намі падружылі,
Мы шмат чаго-б вас навучылі!
У нас-жа й свету... Як на то—
Адна Сібір неісхадзіма!
А турм? А люду? Што й лічыць!
Ад малдаваніна да фіна
Ўсё на ўсіх языках маўчыць..
Бо благадзенствуе... У нас
Святую біблію чытае
Святы чарнец, і навучае,
Што цар якісь та свінні пас
Ды ўзяўшы сабе жонку ў друга,
Забіў ён друга й валацуга
На небе сеў, так як і ў нас
Сядзяць на небе! Вы йшчэ цёмны,
Святым крыжом не прасвяшчоны.
Навучым мы! У нас дзяры,
Дзяры ды дай,
І проста ў рай,
Хоць і радню ўсю забяры!
У нас! Чаго толькі не ўмеем?
І зоры лічым, грэчку сеем,
Французаў лаем. Прадаем
Або і ў карты прайграем
Людзей... не неграў... а такіх,
Хрышчоных-жа... але прастых,
Мы не гішпаны! Крый нас, божа,
Крадзенае перакупляць,
Як гандляры: мы па закону!..

Па закону апостала
Вы любіце брата?
Суесловы, ліцамеры,
Госпадам пракляты!
Вы бо любіце на браце
Не душу, а скуру,
Дый лупіце па закону:
Дочцы на мундурык,
На пасаг байстручаняці,
Жонцы на гарсэцік,
Для сябе-ж—аб чым не знаюць
Ні жонка, ні дзеці!

За каго-ж ты распінаўся,
Хрысце, сыне божы?
За нас добрых, ці за слова
Ісціны? Ці можа,
Каб мы цябе асмяялі?
Яно-ж так і стала!

Капліцы, храмы і іконы,
І свечкі, і кадзіла дым,
І перад вобразам тваім
Бесперапынныя паклоны—
За крадзеж, за вайну, за кроў,—
Каб братнюю праліць кроў, просяць,
І после ў дар табе прыносяць,
З пажару ўкрадзены пакроў!!

Прасвяціліся!.. Ды хочам
Для другіх прасветы,
Сонца праўды паказаці
Сляпым, бачыш, дзеткам...
Ўсё пакажам! Толькі дайце
Сябе ў рукі ўзяці.
Як і турмы мураваці,
Кайданы каваці
І насіць як... І як плесці

Кнуты з вузлавацццем,—
Ўсяго навучым! Толькі дайце
Свае скалы, горы
Астатнія... бо ўжо ўзялі
І поле і мора!

---

І цябе загналі, мой дружа ядыны,
Якаве мой добры! Не за Украіну,
А за яе ката прышлося праліць
Светлую сваю кроў,—атрутай запіць—
З маскоўскае чашы атрутны напітак!
О мой дружа добры! дружа незабыты!
Жывою душою на Ўкрайне вітай;
Лётай з казакамі па-над берагамі,
Разрыты магілы ў стэпе назірай,
Заплач з казакамі дробнымі слязамі,
І мяне з няволі ў стэпе выглядай!

А пакуль што—мае думы,
Маё злое гора,
Зіяць будуць і растуць хай
Ды з ветрам гавораць...
Вецер ціхі з Украіны
Панясе з расою
Мае думы да цябе аж!..
Братняю слязою
Ты іх, дружа, прывітаеш,
Веру, не прагоніш...
І магілы, стэпы, мора,
І мяне ты ўспомніш.

18 Лістапада 1845
у Пераяславе



# І МЁРТВЫМ І ЖЫВЫМ І НЕНАРОДЖАНЫМ

**землякам маім на Украіне і не на Украіне маё сяброўскае**

## ПАСЛАННЕ

Аще кто речет, яко люблю бога, а брата своего ненавидит, ложь есть.

Соборн послание Иоанна. Глава 4 с. 20.

І змяркае, і світае,
Дзень божы мінае,
Зноў і стомленыя людзі,
І ўсё спачывае.
Толькі я, нібы пракляты,
І дзень, і ноч плачу
На шмадлюдных раздарожжах,
І ніхто не бачыць.
І не бачыць, і не знае—
Аглухлі, не чуюць,
Кайданамі мяняюцца,
Праўдаю гандлююць,
І господа зневажаюць,—
Людзей запрагаюць
У ярмо; аруць-жа ліха,
Ліхам засяваюць,
А што ўродзіць? Пабачыце,
Што за жніва будзе.
Схамяніцеся-ж, нарэшце,
Вырадкі—не людзі!
Паглядзіце на рай ціхі,
На сваю краіну,
Палюбіце вялікую
Гэтую руіну!
Раскуйцеся, на чужыне
Братацца пачнеце,
І таго вы не шукайце,
Чаго няма ў свеце,—
Не знайсці таго ніколі
На чужыне ў полі.
Свая-ж хата—свая праўда,
Свая сіла й воля.

Няма на свеце Украіны,
Другога не знайсці Дняпра,
А вы працеся на чужыну
Шукаць там добрага дабра,
Дабра святога. Волі! волі!
Братэрства братняга. Знайшлі,
Прынеслі к нам з чужога поля:
На Ўкраіну з чужой зямлі
Вялікіх слоў прынеслі многа,
Нічога больш. А крычыце,
Што не затым вы жывяце,
Каб кланяцца няпраўдзе ў ногі,
І хіліцеся горш былога
І зноў вы шкуры дзераце

З братоў няшчасных грэчкасеяў,
І сонца праўды сузіраць
Туды, да немцаў дабрадзеяў,
Працеся зноў вы. Каб забраць
Маглі нікчэмнае з сабою
І крадзенае ўсё дабро,
Тады-б астаўся сіратою
З святымі горамі Дняпро!

Каб вам не вярнуцца, каб так яно стала!
Каб там і здыхалі, дзе вы парасці;
Не плакалі-б дзеці, маці не рыдала,
І словы-б зняваргі не чутны былі.
І сонца-б не грэла смярдзючага гною
На чыстай, шырокай, на вольнай зямлі.
Не ведалі-б людзі, што вы за арлы,
І не паківалі-б на вас галавою.

Майце розум, будзьце людзі,
Бо ліха вам будзе!
Раскуюцца неўзабаве
Скованыя людзі.
Суд настане, загавораць
І Дняпро, і горы,
Кроў пацячэ дзяцей вашых
У сіняе мора
Сторэкамі... І не будзе
Каму памагаці,
Адцураецца брат брата
І дзіцяці маці;
І дым хмараю заслоніць
Сонца перад вамі,
Будзеце навек пракляты
Сваімі сынамі!
Умыйцеся! Вобраз божы
Не паганьце самі!
Не дурыце дзяцей вашых,
Што яны панамі
Быць над іншымі павінны,
Бо простае вока
Гляне ў самую душу ім
Глыбока! глыбока!
Дазнаюцца, небаракі,
Чыя на вас скура,
І асудзяць... І прамудрых
Простыя абдураць.

---

Каб вы вучыліся, як трэба,
То й мудрасць-бы была свая,
А то залезеце на неба:
І мы—не мы, і я—не я!
І я ўсё бачыў, і ўсё знаю:
Няма ні пекла, ані раю,
Няма і бога, толькі я!
Яшчэ куртаты, хітры немец,
А больш нікога!
Як-жа скеміць,
Што ты такое?
Я не знаю—
Няхай скажа немец!
Так праходзіце навуку
У чужым вы краю!
Немец скажа: вы манголы.
«Манголы! манголы!»
Залатога Тамерлана
Я патомак голы!
Немец скажа: вы славяне.
«Славяне! славяне!»
Слаўных прадзедаў вялікіх
Праўнук я паганы!
І Колара чытаеце
Вы з усяе сілы,
І Шафарыка, і Ганка,
І ў славянафілы
Вы працеся, і ўсе мовы
Славянскіх народаў
Вы знаеце, а сваю як?
Дасць бог, год ад году,
І па-свойму загаворым,
Як немец пакажа—
І тым часам гісторыю
Нашу нам раскажа.
Вось тады мы завінемся!
Завіхацца сталі:
Па нямецкаму загаду
Так забалбаталі,
Што аж сам не ўцяміць немец—
Вучыцель вялікі,
А ўжо дзе там простым людзям!
А гвалту, а крыку!
«І гармонія, і сіла,
Музыка дый годзе!
А гісторыя?—Паэма
Аб вольным народзе!
Што рымляне побач з намі!
Бруты-недарэкі!
У нас Бруты і Коклесы
Слаўныя навекі!
Воля ў нас расла і твар свой
Дняпром умывала,
Пад галовы горы слала,
Стэп—ёй пакрывала.»
Кроўю твар яна ўмывала,
А спала на купах,
На казацкіх вольных трупах,
Абкрадзеных трупах!
Прачытайце толькі добра,
Разбярыце зноў вы
Тую славу, ды чытайце
Ад слова да слова
Ані цітла, ані коскі
Нідзе не мінайце,
А тады—хто мы такія—
Пра сябе спытайце.

Чые сыны? Якіх бацькоў?
Кім, за што закуты?
Дык пабачыце, што вось хто
Вашы тыя Бруты.

Рабы, падлізы, гразь Масквы;
І гетман ваш яснавяльможны—
Варшавы панскай бруд падножны.
Чаго-ж вы хваліцеся—вы,
Сыны Украіны гаротнай?
Што добра ходзіце ў ярме,
Лепш нават, як бацькі хадзілі?
Дарэмна: з вас дзяруць рамень,
А з іх, бывала, лой тапілі.

Можа гонар ваш, што брацтва
Веру бараніла,
Што Сінопам, Трапезонтам
Галушкі варыла?
Праўда, праўда, яны елі,
А вам цяпер шкодзіць,
І на Сечы мудры немец
Бульбу ўжо разводзіць,
А вы яе купляеце,
Ясцё на здароўе
Ды славіце Запарожжа.
А чыёю-ж кроўю
Зямля гэта напоена,
Што так бульбу родзіць?
Усёроўна вам, каб толькі
Радзіла ў гародзе.
Хваліцеся, што мы Польшчу
Некалі звалілі!..
Польшча ўпала, ды абломкі
Вас-жа раздушылі!

Дык вось як кроў бацькі лілі
І за Маскву і за Варшаву!
І вам, сынам, перадалі
І кайданы свае, і славу!

---

Дазмагалася Ўкраіна
Да самага краю.
Горш за ляха свае дзеці
Яе распінаюць.
Замест піва кроў з рабрынаў
Праліваць ахвочы,
І сучаснымі агнямі
Мацерыны вочы
Прасвятляюць: хай за векам
Крочыць недарэка,
Хай за немцам патрапляе
Сляпая калека!
Што-ж, вядзіце, паказвайце!
Хай старая маці
Навучаецца дзяцей тых
Новых даглядаці.
Паказвайце! За навуку
Маці добра вельмі
Вам заплаціць калі-небудзь:
Распадуцца бельмы
На вачах паганых вашых,
І жывую славу
Дзядоў сваіх пабачыце,
Бацькоў хітрых справу.
Не дурыце самі сябе!
Думайце, чытайце,
Пераймаючы чужое,
Свайго не кідайце.
Бо хто маці забывае,
Таго бог карае,
Таго дзеці цураюцца,
Ў хату не пускаюць.
Чужаніцы праганяюць,
І няма ліхому
На зямлі на ўсёй бяскрайняй
Вясёлага дому.
Я рыдаю, як згадаю
Ці як мне прысніцца
Мінулае Украіны.
Каб яго забыцца,
Я аддаў-бы вясёлага
Веку палавіну.
Вось якая наша слава,
Слава Украіны!..
Вось так і вы прачытайце,
Каб на яве снілі
Усе крыўды. Каб усталі
Тыя, што ў магіле,
Перад вашымі вачамі,
Каб вы распыталі
Пакутнікаў: каго, калі,
За што распіналі!
Абніміце-ж, браты мае,
Найменшага брата,—
Няхай маці слёзы вытра,
Бо ліла багата.
Хай сыноў благаслаўляе
Цвёрдымі рукамі,
І дзетачак пацалуе
Вольнымі губамі.
І забудземся пра сорам
Даўняе гадзіны,
І паўстане наша слава,
Слава Украіны.
Промень ясны, невячэрні
Ціха нам засвеціць.
Абніміцеся-ж, малю вас,
Адной маткі дзеці!

14 Снежня 1845
Уюнышча

## ХАЛОДНЫ ЯР

У кожнага сваё ліха,
І ў мяне не ціха;
Хоць не сваё—пазычана,
А ўсё-такі ліха.
Ды ці варта ўспамінаці,
Што даўно мінула,
Бо нашто будзіць старое?
Добра, што заснула!..
Хоць-бы Яр той! Да яго ўжо
Сцежачкі малое
Не асталася, здаецца,
Што ніхто нагою
Не ступіў там. А прыпомніш,
Дык была дарога
З манастыра Мотрынага
Да Яру страшнога.
Там калісьці гайдамакі
Табарам стаялі,
Рыхтавалі самапалы,
Пікі майстравалі.
У Яр тады схадзіліся,
Бы з крыжоў іх знялі,
Бацька з сынам і брат з братам,
Разам яны сталі
На ворага, на хітрага,
На лютага ляха.

Дзе-ж ты дзеўся, ў Яр глыбокі
Пратаптаны шляху?
Ці сам зарос цёмным лесам,
Ці то засадзілі
Ка́ты новыя? Каб людзі
К табе не хадзілі
На параду: што рабіць ім
З добрымі панамі,
Людаедамі ліхімі,
З новымі ляхамі?
Не схаваеце! Над Ярам
Залязняк вітае,
І на Умань пазірае,
Гонту выглядае.
Не хавайце, не тапчыце
Святога закона!
Не завіце прападобным
Лютага Нерона!
Не бахвальцеся вы царскай
Вайною святою!
Хто з вас знае, што царыкі
Гандлююць крывёю,
А крычыце, што нясеце
І душу і скуру
За ацечаства!.. Ёй-богу,
Авечча натура;
Дурны шыю падстаўляе
І за што не знае!
Дый 'шчэ Гонту зневажае,
Лядашчая зграя!
«Гайдамаки не воины,—
Разбойники, воры,—
Пятно в нашей истории...»
Брэшаш, людамора!
За ацечаства!.. Яй-богу,
Разбойнік не стане,
Не раскуе закаваны
Ў вашыя кайданы
Народ цёмны. Не зарэжа
Лукавага сына,
На агонь не кіне сэрца
За сваю краіну.
Вы—драпежныя злачынцы,
Прагныя вароны!
Па якому праўдзіваму
Святому закону—
І зямлёй усенароднай
І сардэчным людам
Гандлюеце?! Асцярожна,
Ліха-ж вам, прыблудам,
Будзе!.. Дурыце вы дзяцей
І брата сляпога,
Дурыце вы сябе, чужых,
Не дурыце-ж бога.
Бо ў дзень радасці час прыдзе,
Падзе на вас кара,
І павее агонь новы
З Халоднага Яру.

Уюнышча
17 Снежня 1845

## ДАВІДАВЫ ПСАЛМЫ

1

Блажэнны муж на лукавай
Не бывае радзе,
І не стане на шлях злога,
І з лютым не сядзе.
А ў гасподнім у законе
Яго сэрца й воля
Навучаецца. Ён стане,
Як на добрым полі,
Над вадою пасаджана,
Дрэва зелянее,
Плодам поўна. Так і муж той
Спее ў добрых дзеях.
А лукавых, несумленных
І след прападае,—
Як той попел над зямлёю
Вецер размахае.
І не ўстануць з праведнымі
Злыя з дамавіны;
Справы добрых абновяцца,
Справы злых загінуць.

12

Ці ты мяне, божа мілы,
Навек забываеш?
Адвяртаеш ясны твар свой,
Мяне пакідаеш?
Дакуль буду душу мучыць,
І сэрцам балеці?
Дакуль будзе вораг люты
На мяне глядзеці
І смяяцца!.. Ратуй мяне,
Ратуй маю душу,
Хай не скажа хітры вораг:
Я яго падужаў.
І ўсе злыя пасмяюцца,
Як упаду ў рукі
Ворагам. Ратуй мяне
Ад лютае мукі!
Ратуй мяне, памалюся,
Апяю нанова
Тваю добрасць чыстым сэрцам,
Псалмам ціхім, новым.

43

Божа, нашымі вушамі
Чулі тваю славу.
Нам дзяды апавядаюць
Аб старых крывавых
Ліхалеццях; як рукою
Цвёрдаю сваёю
Развязаў ты нашы рукі
І пакрыў зямлёю
Трупы ворагаў. І сілу
Тваю усхвалілі
Твае людзі. І ў спакоі,
У дабры спачылі,
Бога славячы... Цяпер-жа!..
Пакрыў-жа ты знова
Людзей сваіх сраматою,—
Шмат ворагаў новых
Раскрадаюць, як авец, нас
І жаруць!.. Без платы
І без цаны аддаў ты нас
Ворагам праклятым.
Пакінуў нас на смех людзям,
Суседзям на кпіны,—
Як-бы ў прытчу, неразумным
Людзям нас пакінуў.
І ківаюць, смеючыся,
На нас галавамі;
І дзень кожны перад намі—
Стыд наш перад намі.
Абкрадзены, замучаны,
У путах канаем.
Не молімся чужым багам,
А цябе благаем:
Памажы нам, выратуй нас
Ад кпінаў варожых!
Змог-жа першую ты сілу
І другую зможаш—
Больш лютую!.. Устань, божа,
Дакуль будзеш спаці,
Ад слёз нашых адвяртацца,
Жальбы забываці!
Змірылася душа наша,
Жыць цяжка ў аковах!
Устань, божа, памажы нам
Стаць на ката знова.

52

Ашалелы ў сэрцы скажа,
Што бога не знае,
Ў беззаконнасці гібее,
Не чыніць дабра ён.
А глядзіць бог, ці ёсць яшчэ
Хто шукаў-бы бога.
Няма, няма тут дабратворных,
Няма анікога!
Калі яны, нясытыя
Грахамі, дазнаюць?
Ядуць людзей замест хлеба,

Бога не згадаюць.
Там баяцца, пужаюцца,
Дзе й страху не будзе.
Так саміх сябе баяцца
Лукавыя людзі.
Хто-ж пашле нам паратунак,
Верне шчасце-долю?
Адзін бог нам верне волю,
Разаб'е няволю.
Усхвалім-жа цябе, божа,
Хваленнем усякім;
Узрадуецца Ізраіль
І святы Іакаў.

53

Ратуй, божа, судзі мяне.
Сам мне будзь аховай,
Малю, божа, унушы ім
Вуснаў маіх словы.
На душу-ж маю чужыя
Ўсталі сільнай зграяй,
Над сабой не бачаць бога,
Што дзеюць не знаюць.
А гасподзь мяне бароніць,
Ён мне памагае,
І ім праўдаю сваёю
Іх злое вяртае.
Памалюся шчыра богу,
Сэрцам адзінокім,
І на злых маіх я гляну
Нязлым маім вокам...

81

Між царамі-судзіямі
На радзе пачэснай
Уладараў земных судзіць
Уладар нябесны.

Дакуль-жа будзеце вы хцівы
І кроў нявінных разліваць,
Людзей убогіх? А фальшывым
Судом—багатым памагаць?
Лепш удаве дапамажыце,
Не асудзіце сіраты,
І выведзіце з цеснаты
На волю ціхіх, бараніце
Ад прагных рук іх! Бо пазнаць,
Разбіць не хочуць цьму-аковы,—
І марны господавы словы,
І марна плачашча зямля.
Цары, рабы—аднолькова
Сыны перад богам;
Памрыцё вы, як і князь ваш
І ваш раб убогі.

Паўстань, божа, судзі землю
І суддзяў лукавых!
На ўсім свеце твая праўда
І воля і слава.

93

Госпад бог ліхіх карае—
Душа мая знае;
Устань, божа,—тваю славу
Горды зневажае.
Узнясіся над зямлёю
Высока, высока,
Закрый славаю сляпое
І гордае вока.
Дакуль, госпадзі, лукавым
Хваліцца, дакуды—
Няпраўдаю? Людзей тваіх
Закавалі ўсюды
У цьме й няволі... Дабро тваё
Крывёй патапілі,
Зарэзалі прахожага,
Удаву забілі,
І сказалі: бог не бачыць
І ані не знае.
Мудрыцеся, нямудрыя:
Хто свет аглядае,
Той і сэрца добра знае,
І думы лукавых.
Дзівіцеся яго справам,
Вечнай божай славе.
Добра таму, каго гасподзь
Карае між намі,—
Не дапусціць, пакуль злому
Вырыецца яма.
Людзей любіць усявышні,
Любіць, не пакіне,
Ён чакае, пакуль праўда
Стане перад імі.
Хто-б ад хітрых мяне збавіў,
Што злое ўчыняюць?
Калі-б не бог дапамог мне,
Дык душа-б жывая
У цьме пекла патанула,
У страшным праклящці.
Ты, госпадзі, памагаеш
Па зямлі ступаці,
Ты радуеш маю душу
І гоіш мне сэрца;
І не марна твая праца,
Воля твая ў свеце.
Душу праведную зловяць,
Добру кроў асудзяць.
Гасподзь маё прыстанішча,
Заступнікам будзе,
І адплаціць ім за злыя

Крывавыя справы,
Ён іх згубіць, і іх слава
Ім стане ў няславу.

---

132

Ці ёсць што лепшае на свеце,
Як укупе жыці,
Братам добрым дабро зручна
Спажыць, не дзяліці.
Як пахучая аліва
З галавы сівое
На бараду Аарону
Спадае расою,
І на крайкі-аблямоўкі
Рызы дарагое.
Або росы эрмонскія
На святыя горы
Высокія сіёнскія
Спадаюць і твораць
Дабро жывым земнародным
І зямлі, і людзям,—
Так братоў сваіх ніколі
Гасподзь не забудзе,
У сям'і вялікай, ціхай
Навядзе лагоду,
І пашле ім шчасце-долю
На вечныя годы.

---

136

Каля рэк ля Вавілона,
Пад вербамі ў полі,
Сядзелі мы і плакалі
Ў далёкай няволі;
І павесілі на вербах
Арганы глухія,
І смяяцца з нас пачалі
Эдамляне злыя:
«Раскажыце песню вашу,
Можа й мы заплачам,
Або нашу заспявайце,
Нявольнікі нашы».
«Якую-ж мы заспяваем?..
На чужацкім полі
Не спяваюць вясёлае
Ў далёкай няволі.
І калі цябе забуду,
Іерусаліме,
Забыт буду, пакінуты,
Рабом на чужыне,
І язык мой анямее,
Высахне лукавы,
Як забуду спамянуці
Цябе, наша слава.
І гасподзь наш вас спамяне,
Эдамскія дзеці,
Як крычалі вы: «Руйнуйце,
Руйнуйце, спалеце
Сіён святы!» Вавілоне—
Дочка акаянна!
Усцешыцца, хто заплаціць
За твае кайданы.
Усцешыцца! Цябе, злая,
Ў радасці застане,
І разаб'е дзяцей тваіх
Аб халодны камень.

---

149

Псалом новы ўсявышняму
І новую славу
Прапяем саборам чэсным,
Сэрцам нелукавым.
У псалтыры і тымпаны
Хвалу заспяваем.
Як карае бог няправых,
Правым памагае.
Прападобныя ў пашане
І на ціхіх ложах
Радуюцца, славасловяць,
Хваляць імя божжа;
І мячы—абапал вострыя—
Бяруць яны ў рукі,
На адпомсту ўсім языкам
І люду ў навуку.
Закуюць цароў драпежных
У путы-кайданы,
І абкруцяць аковамі
Імі ўшанаваных.
І асудзяць грабежнікаў
Судом сваім правым
І навекі стане слава
Прападобным слава.

19 Снежня 1845
Уюнышча

## МАЛЕНЬКАЙ МАР'ЯНЕ

Расці, расці, мая птушка,
Макавы мой цвеце,
Развівайся, пакуль тваё
Не разбіта сэрца.
Пакуль людзі не дазналі
Ціхае даліны.
А дазнаюць—пагуляюць,
Засушаць, ды кінуць
Ані годы маладыя,
Спавіты красою,
Ні карыя ачаняты,
Ўмытыя слязою,
Тваё сэрца залатое,
Добрае дзявоча—
Не заступіць, не закрые
Прагныя іх вочы.
Знойдуць злыя дый абкрадуць...
І табе убогай
Створаць пекла... Замучышся
І праклянеш бога.
Не красуй-жа, цвеце новы,
Неразвіты цвеце!
Завянь ціха, пакуль тваё
Не разбіта сэрца.

20 Снежня 1845
Уюнышча

---

* * *

Мінаюць дні, мінаюць ночы,
Мінае лета; шапаціць
Ліст пажаўцелы; гаснуць вочы,
Заснулі думы, сэрца спіць.
І ўсё заснула... І не знаю,
Ці я жыву, ці дажываю,
Ці так бадзяюся за грэх,
Бо ўжо заціх мой плач, мой смех.

Доля, дзе ты? Доля, дзе ты?
Мне хоць-бы якую!
Калі добрай, бог, шкадуеш,
Дай хоць злую, злую!

Спаць не дай ты хадзячаму,
Астудзіцца сэрцам,
І гнілою калодаю
Валяцца па свеце.
А дай жыці, сэрцам жыці,
І людзей любіці.
А калі не... то праклінаць,
І свет запаліці!

Страшна ў ланцугі упасці,
Канаць у няволі,
А 'шчэ горай—спаці, спаці,
І спаці на волі.
І заснуць, заснуць навекі,
І следа не кінуць
Ніякага: аднalькова—
Ці жывы, ці згінуў!..

Доля, дзе ты? Доля, дзе ты?
Мне хоць-бы якую!
Калі добрай, бог, шкадуеш,
Дай хоць злую, злую!

21 Снежня 1845
Уюнышча

## ТРЫ ГАДЫ

І дзень не дзень, і йдзе не йдзе,
А годы стралою
Пралятаюць, забіраюць
Добрае з сабою.
Абкрадаюць мары-думы,
Аб халодны камень
Разбіваюць сэрца наша
І спяваюць аман.
Аман шчыраму вяселлю
З гэтых дзён навекі.
І кідаюць на растані
Сляпога калеку.
Невялікія тры годы
Праляцелі скора...
А багата ў маёй хаце
Нарабілі гора.
Апустошылі мне сэрца,
Што жыло пацiху,
Пагасілі добрае ўсё,
Запалілі ліха.
Высушылі чадам-дымам
Добрыя слязіны,
Што на тракце на маскоўскім
Ліў я з Кацярынай;
Што ліліся з казакамі
Ў турэцкай няволі,
І Аксану, маю зорку,
Маё шчасце-долю,
Штодзень божы умывалі...
Пакуль злыя леты
Не падкраліся, пакралі
Адразу ўсё гэта.
Шкода бацькі, шкода маткі,
Шкода жонкі мілай,
Вясёлую, маладую,
Класці у магілу,—
Браты мае, жаль вялікі!
Цяжка гадаваці
Малых дзетак непамытых
У сцюдзёнай хаце!
Ліха злое, не такое,
Як таму дурному,
Што палюбіць, пабярэцца,
А яна другому
За тры грошы прадаецца
Ды з яго смяецца.
Вось дзе ліха! Вось дзе сэрца
Разам разарвецца!

Вось такое злое ліха
І мяне спаткала:
Людзей сэрца палюбіла,
Людзей мілавала.
І яны яго віталі,
Бавілі, хвалілі...
Годы краліся пацiху
І слёзы сушылі—
Слёзы шчырага кахання...
І вось маё вока
Праяснела... Назіраю,—
А казаць нялоўка!
Дзе ні гляну, там не людзі,
А гадзюкі злыя...
І засохлі мае слёзы—
Слёзы маладыя.
Цяпер сэрца разбітае
Атрутай ратую—
І не плачу, не спяваю,
А савой крычу я.
Вось як справа! Што хочаце,
Тое і рабіце:
Ці голасна зневажайце,
Ці шэптам хваліце
Мае думы,—усёроўна
Не вернуцца знова
Леты мае маладыя,
Вясёлае слова.
Не вернецца... І я сэрцам
Да вас не вярнуся.
Дзе падзенуся, не знаю,
Дзе я прытулюся,
З кім размову завяду я
У сардэчным суму,
Да каго пайду на споведзь
Са сваёю думай?
Мае годы! Мае думы,
Тры гады цяжкія!
Да каго вам прытуліцца,
Дзеці мае злыя?
Вам туліцца і не трэба,
Лепш паспіце ў хаце...
А я пайду чацверты год
Новы сустракаці.
Добры дзень-жа, новы годзе,
Ў світцы старагодняй!
Што ў дзіравай нясеш торбе
Украіне роднай?
«Благоденствие, указам
Новым абгарнута.»
Будзь здаровы, пакланіцца
Злыдням не забудзь ты.

22 Снежня 1845
Уюнышча

## ЗАПАВЕТ

Як памру, дык пахавайце
Мяне на кургане,
Сярод стэпу шырокага
На Украіне слаўнай,
Каб бяскрайнія разлогі,
І Дняпро, і кручы
Было відна, было чутна,
Як грыміць грымучы.

Як ён змые з Украіны
У сіняе мора
Кроў ворагаў... Вось тады я
І поле і горы—
Усё пакіну, паляту я
Да самога бога

Памаліцца... Да таго-ж я—
Не ведаю бога.

Пахавайце, ды ўставайце,
Ланцугі парвіце,
І варожай злой крывёю
Волю акрапіце.
І мяне ў сям'і вялікай,
Сям'і вольнай, новай
Памянуць вы не забудзьце
Нязлым ціхім словам.

25 Снежня 1845
у Пераяславе

---

## ЛІЛЕЯ

«За што мяне, як расла я,
Людзі не любілі?
За што мяне, як вырасла,
Змоладу забілі?
За што яны цяпер мяне
Ў палацах вітаюць,
Царэўнаю называюць,
Вачэй не спускаюць
З майго цвета? і не знаюць
Дзе мяне падзеці!
Скажы ты мне, мой брацiку,
Каралёвы цвеце!»
«Сястра мая, я не знаю»,
І цвет каралёвы
Прыхіліўся галоўкаю
Чырвона-ружовай
Да белага паніклага
Тварыка лілеі.
І заплакала лілея
Расою-слязою...
Заплакала і сказала:

«Браце мой! З табою
Мы даўно ўжо кахаемся,
А я й не сказала,
Як была я чалавекам,
Як я гаравала...

Мая маці... Чаго яна,
Яна сумавала,
На мяне ўсё, на малую,
Пільна паглядала
І плакала. Я не знаю,
Браце даражэнькі!
Хто ўчыніў ёй ліха злое?
Я была маленькай,
Я ў гулячачкі гуляла,
А яна ўсё вяла,
Ды нашага злога пана
Кляла-праклінала,
Дый памерла. А пан мяне
Ўзяў дагадаваці.
Вырасла я пешчаная
У белым палацы.
Я не знала, што байстручка,
Што яго дзяціна.
Пан паехаў дзесь далёка,
А мяне пакінуў.
І праклялі яго людзі,
І палац спалілі...
А мяне, за што не знаю,
Забіць—не забілі,
Толькі доўгія мне косы
Астрыглі; накрылі
Галаву мне анучаю,

Дый 'шчэ рагаталі.
І нехрысці нячыстыя
На мяне плявалі.
Дык вось столькі, мой брацiку,
Я цярпела здзекаў!
Маладога, кароткага
Людзі дажыць веку
Не далі мне. Я памёрла
Зімою пад тынам,
А вясною зацвіла я
Краскай пры даліне,—
Краскай белай, як снег белай!
Аж гай весяліла.
Зімой людзі не пусцілі
Ў хату... божа мілы!
А вясною светлым дзівам
Я усіх дзівіла.
Уквятчаліся дзяўчаты,
І пачалі зваці
Лілеяю—снегацветам;
І я красаваці
Стала ў гаі і ў цяпліцы,
І ў белых палацах.
Ты скажы мне, братку мілы.
Каралёвы цвеце:
Мне навошта бог прызначыў
Краскай быць на свеце?
Каб людзей я весяліла,
Тых-жа, што забілі
Мяне й матку? Міласердны,
Святы божа, мілы!..»

І заплакала лілея.
А цвет каралёвы
Прыхіліўся галоўкаю
Чырвона-ружовай
Да белага паніклага
Тварыка лілеі.

Кіеў
1846 Ліпеня 25—[1858] 6.III

---

## РУСАЛКА

«Спарадзіла мяне маці
Ў палацах высокіх,
Ды купаць панесла ўночы
У Дняпры глыбокім.
Купаючы размаўляла
Са мною, малою:
«Плыві, плыві, мая дзетка,
Дняпром за вадою.
Ды выплыві русалкаю
Заўтра сярод ночы,
Я выйду з ім гуляці,
А ты заласкочаш.
Заласкачы, маё сэрца:
Няхай не смяецца
Нада мною, маладою,
Няхай п'е-уп'ецца,
Не маімі кроў-слязамі—
Сіняю вадою
Днеправою... Няхай сабе
Гуляе з дачкою.
Плыві-ж, мая дарагая!
Хвалі, мае хвалі!
Вы русалачку вітайце!..»
Ды і зарыдала,
Дый пабегла. А я сабе
Плыла за вадою,
Пакуль сёстры не сустрэлі,
Не ўзялі з сабою.
Ужо з тыдзень, як расту я,
З сёстрамі гуляю
Апаўночы, ды з пакояў
Бацьку выглядаю.
Можа маці зноў зышлася
З панам, вядзе гулі?
Мо' смяецца і балюе
Грэшная матуля?»
Ды замоўкла русалачка,
У Дняпро нырнула,
Як плотачка. А лазіна
Веццем скалыхнула.

Вышла маці прагуляцца—
Ў палацах не спіцца;
Пана Яна няма дома,
Не з кім весяліцца.
А як прышла да берага,
Дачку прыгадала,
Прыгадала, як купала,
І як прымаўляла.
Дый хоць-бы што. Пайшла сабе
У палацы спаці.
Ды не дайшла,—давялося
Ў Дняпры начаваці.
Не пачула, як дзяўчаты
Вышлі сустракаці
З хваль Дняпра. Ухапілі
Дый ну з ёй гуляці.
Рады-рады, што злавілі...
Доўга ласкаталі,
Покі ў невад не запхалі...
Ды зарагаталі.
Адна толькі русалачка
Не зарагатала.

Кіеў
1846 9 Жніўня



# ВЕДЗЬМА

**ПАЭМА**

Малюся, зноў надзею маю,
Нанова слёзы праліваю,
І думу цяжкую маю
Нямым сцянам перадаю.
Адгукнецеся-ж, заплачце,
Нямыя са мною...
Над няпраўдаю людскою,
Над доляю злою.
Адгукнецеся! За вамі
Можа адгукнецца
Несупыннае няшчасце,
І нам усміхнецца,
Памірыць нас з нядоляю
І з людзьмі, і скажа
Нам дзякуй; і памоліцца
І ціха спаць ляжа.
І прымірэннаму прысняцца
І людзі добрыя й любоў,
Адно дабро. І ўстане ўранку
Вясёлы, і забудзе зноў
Сваю нядолю. І ў няволі
Пазнае рай, пазнае волю
І добратворную любоў.

---

Каля асенняга Міколы,
Абдзёртыя бадай дагола,
Бендэрскім шляхам уначы
Ішлі цыгане. А йдучы
Звычайна вольныя спявалі.
Ішлі, ішлі, а потым сталі.
Шацёр край шляху нацяглі,
Агонь не малы развялі
І навакола пасядалі.
Хто з шашлыком, а хто і так—
Затое вольны, як казак
Калісьці быў. Сядзяць і дрэмлюць,
А ў стэпу воддаль хтось спявае,
Мабыць з прыданак маладзіца
Дадому п'яная ідзе.
«Ой у новай хаце
Пакладіся спаці;
Дочка сніла, смела:
Маці звар'яцела,
Свёкар ажаніўся,
Бацька утапіўся,
І... гу...

Цыгане слухаюць, смяюцца:
«Дзе-ж тыя людзі тут бяруцца?
То з-за Днястра, мабыць, яно,
Бо ўсё тут стэп... Зданнё! Зданнё!»
Цыгане крыкнулі ўсе разам.
Тут апынулася адразу
Спявачка тая. Жаль і страх!
У світцы латанай дрыжала
Адна жанчына. На нагах
І на руках павыступала
Ад сцюжы кроў; аж струпам стала;
І косы ў дзікіх рэп'яхах.

На полы лезлі ў каўтунах.
Пастаяла, а потым села
Каля агню й рукі грэла
На самым полымі. «Ну такі
Ажаніўся небарак!»—
Сама сабе яна шаптала,
З усмешкай страшнай пазірала.
О, хто-ж яна? Не здань, не страх.
То-ж мая маці і сястра,
То-ж мая ведзьма, каб вы зналі.

Цыгане

Адкуль ты будзеш, маладзіца?

Ведзьма

Хто, я? *(спявае)*
Як была я маладою,
Цалавалі хлопцы роем,
А як стала старой бабай,
Цалавалі-б, была-б рада!

Цыган

Спявачка, нечага казаць!
Каб гэткую сабе дастаць,
Ды йшчэ і з мядзведзем...

Ведзьма

Я спяваю.
Ці то сяджу, ці то гуляю,
Я спяваю ды спяваю,
Ужо забыла гаварыць...
А перш я добра гаварыла.

Цыган

Дзе-ж ты была, што заблудзіла?

Ведзьма

Хто, я? ці ты?
Цыц, крыху, цыц.
Вунь, бач, са мною пан ляжыць.
Агонь пагас, усходзіць месяц,
Ў яру пасецца ваўкалак... *(усміхнуўшыся)*
Я ў прыданках была, упілася,
І молада не прадалася...
А ўсё праклятыя паны
З дзяўчатамі такое дзеюць...
Трэба другую ажаніць.
Пайду, без мяне не здолеюць
І ў дамавіну палажыць...

Цыган

Не йдзі, нябога, будзь тут з намі!
У нас, яй-богу, добра жыць!

Ведзьма

А дзеці ёсць у вас?

Цыгане

Не маем.

Ведзьма

Каго-ж вам песціць, гадаваць?
Каго-ж вам нанач класці спаць?
Каго калышаце ўначы?
Кладучыся і ўстаючы
За каго моліцеся? Дзеці!
І ўсё дзеці! І ўсё дзеці!
Не знаю, дзе ад іх падзецца.
Дзе не пайду, яны за мною,
З'ядуць мяне калі-нібудзь...

Цыгане

Не плач, нябога, сум забудзь.
У нас дзяцей няма й заводу.

Ведзьма

Хоць з гары ды ў воду.

І ведзьма цяжка зарыдала.
Цыгане моўчкі паглядалі,
Пакуль заснулі, дзе хто ўпаў.
Яна-ж не спала, не тужыла,
Сядзела, ногі палажыла
Ў гарачы попел. Выступаў
Шчарбаты месяц з-за магілы
І на шацёр ён паглядаў,
Аж покуль хмара засланіла.

Што не спіцца багатаму,
Гладкаму, сівому?
Што не спіцца убогаму
Сіраце старому?
Адзін думае, як гэта
Дом дабудаваці,
Другі думае, як гэта
На званы прыдбаці.
Адзін стары адпачыне
Ў пышнай дамавіне.
Другі стары і так сабе
Дзе-небудзь пад тынам.
І абодва спачываюць—
Ні аб чым не дбаюць.
Убогага забываюць,
А таго 'шчэ й лаюць.

Каля агню стары цыган
З люлькі дым пускае,
Пазірае на прыблуду
Й пра званы не дбае.

Цыган

Чаму не ляжаш, не спачынеш?
Зарніца ўсходзіць--паглядзі.

Ведзьма

Глядзела я—ўжо ты глядзі!

Цыган

Мы рана рушыма, пакінем,
Як не прачнешся.

Ведзьма

Не прачнуся,
Я ўжо ніколі не прачнуся.
Вось так дзе-небудзь і загіну
У бур'яне...

(*спявае ціха*)

Гаю, гаю, цёмны гаю,
Ціханькі Дунаю!
Ой у гаі пагуляю,
Паплыву Дунаем.
У зялёным багавінні
Трохі адпачыну...
Дый спараджу хоць калеку—
Дачку або сына...

Дарма! абы сабе хадзіла,
Ды ўмела матку праклінаць.
А вунь, ці бачыш, на магіле
Вачыма свеціць кацянё?
Ты да мяне йдзі.
Кіця, кіця...
Не йдзе, благое чарцяне!
А то дала-б табе напіцца!
З маёй чысцюткае крыніцы...

(*спявае*)

Стаіць куцця на покуце
А ў запечку дзеці;
Нарадзіла, напладзіла,
Няма дзе падзеці.
Ці то патапіць?
Ці то падушыці?
Ці запрадацца карчмару,
А грошы прапіці?

Што, можам дыхту задаваць?
Сядай во блізенька, тут сядзь.
Ото-ж-бы то! А ты не знаеш...
Што я ў Валошчыне была.
Я раскажу, як прыгадаю.
Двайню ў Бендэрах прывяла,
У белых Ясах калыхала,
У Дунаі пакупала,
У Турэччыне спавіла,
І дадому аднясла—
Аж у Кіеў. Ды ўжо дома
Без кадзіла, без крапіла
За тры грошы ахрысціла,
А тры грошы прапіла.
Напілася, упілася!
І дагэтуль п'яная!..
І ўжо ніколі не прасплюся,
Бо я ўжо й бога не баюся
І не саромлюся людзей...
Калі-бы мне вось тых дзяцей
Знайсці дзе-небудзь! Ты не знаеш,
Ці ё ў Турэччыне вайна?

Цыган

Была даўней, цяпер няма.
Памёр найстаршы старшына.

Ведзьма

А я думала дагэтуль...
Аж няма ў тым краі.
Вось слухай-жа! Скажу табе,
Каго я шукаю.
Я шукаю Наталачку,
Ды сына Івана...
Дачку сваю Ната探ньку...
Ды шукаю пана,
Таго Ірада, што знаеш?..
Чакай, прыгадала.
Як была я маладою
І ў думках не мела,
Па садочку пахаджала,
Квітнела, пышнела.
А ён мяне і нагледзіў.
Ірад!.. І не сніла,
Што я была прыгоннаю,
А то-б у магілу,—
Лягчэй было-б тапіцца мне.
Вось бярэ ў пакоі
І стрыжэ як быццам хлопца,
І ў паход з сабою
Бярэ мяне. У Бендэры
Прышлі мы, стаялі
З маскалямі на кватэрах,
А маскалі за Дунаем
Турка ваявалі.
Тут-жа даў бог мне блізнятак
Якраз перад спаса.
А ён мяне і пакінуў.
Не ўступіў у хату,
На дзяцей сваіх не глянуў,
Люцыпер пракляты!
Пайшоў сабе з маскалямі,
А я з байструкамі
Павяртала ў Украіну
Стэпамі, цярнямі,

Стрыжаная. Хоць-бы што мне.
У сёлах пытала
Шлях у Кіеў. І што з мяне
Людзі накпівалі...
Я хацела ўжо тапіцца,
Шкада было кінуць
Блізнятачак. То сяк, то так
На сваю краіну
Прыдыбала. Адпачыла,
Вечара даждала,
Дый у сяло. Хацелася,
Каб людзі не зналі.
Вось крадуся каля тына
Ў хату асцярожна.
Цёмна ў хаце, няма дома,
Ці лёг спаці можа
Мой бацечка адзінокі.
Я ледзьве ступаю;
Уваходжу. Хтосьці стогне,
Нібы памірае,
То бацька мой. Перахрысціць
Некаму пры смерці,
Ці скласці рук. О хітрыя,
Праклятыя дзеці,
Што вы робіце на свеце!..
Страхаццё напала,
Хата пусткаю смярдзела...
Вось я захавала
Блізнят сваіх у каморы,
Убягаю ў хату,
А ён ужо ледзьве дыша.
Я да яго: «Тата!
Мой татачка! То я прышла».
За рукі бяру я.
«То я»—кажу. А тата мне
Шэпча: «Я дарую.
Я дарую». Толькі й чула.
Здаецца, я ўпала.
І заснула. Каб-жа гэтак
Да веку праспала!
Апоўначы прачнулася:
Нібы яма—хата.
А за руку бацька душыць.
«Тата! крычу. Тата!»
А ён ужо так, як крыга...
Я насілу руку
Вызваліла. Што, цыгане,
Каб такую суку
Дачку табе. Што-б зрабіў?

Цыган

Яй-богу не знаю.

Ведзьма

Ды маўчы ўжо, бо забуду...
Потым не згадаю.
Дзяцей, бачыш, гадавала
Ды ў засек хавала.
Ды каптур свой, ужо ўранку,
Клоччам набівала,
Каб не ведалі, што стрыжка.
Па хаце хадзіла,
Пакуль людзі дамавіну
На дварэ рабілі.
Дарабілі, палажылі,
Паняслі, схавалі...
Як быліна ў чыстым полі,
Адзінокай стала
Я на свеце... Былі дзеці
І ўжо й тых не стала

Цераз яр хадзіла,
Ды ваду насіла,
Каравай сама пякла—
Дочку замуж аддала,
Сына ажаніла...
І.. гу!..

Цыган

Не скаголь, бо ты ўсіх пабудзіш!

Ведзьма

Хіба скаголю. Ашалеў!?

Цыган

Ну добра, так! Далей што будзе?
Ты раскажы.

Ведзьма

А што дасі?
Наварыш заўтра мамалыгі?
Я кукурузу прынясу.

Прыгадала! Прыгадала!
Спаць ён лёг з дачкою,
Аддаў сына у лакеі...
З хаты грамадою...
Выганялі... Прыгадала.
Я сабак дражніла
Па-пад вокнамі з старцамі.
Байструкоў насіла
За плячамі. Каб прывыклі...
Аж і сам вярнуўся.
Зло забыла, кінулася
Да яго, хілюся.
Прывітаў мяне люцыпер,
Благаславіў ён дзетак,
Дый забраў іх у пакоі...
Растуць мае кветы!
Дый выраслі. Сына Йвана
У лакеі. А Наталлю...
Ці твае цыгане
Ўсе паснулі?

Цыган

Усе паснулі.

Бо каб не пачулі
Майго слова. Страшна будзе.
І ты, як пачуеш,
Сам спужаешся, мой дружа...
Ці-ж не пашкадуеш?
Наталачку! Дзіця сваё!
Ірад злы які ён!..
Апаганіў... А раней-жа
Пасылае ў Кіеў
Мяне, бачыш, памаліцца.
Малілася многа,
Але марна я, цыгане,
Малілася богу.
У вас ёсць бог які-небудзь?
Мы яго не маем...
Паны ўкралі, ды ў шкатуле
У сябе хаваюць.
. . . . . . . . . . . . . . .

Вяртаюся я з Кіева,
Замкнёны пакоі.
Ён узяў яе з сабою,
Дый паехаў з ёю,
З Наталляю... Ці чуеш ты?
І астрыг, паганы,
Дзіця сваё. Паляцела
Я шукаці пана
Ў Валошчыну. Дый шукаю,
Савою лятаю
Над байракамі. Ды дзетак,
Дзетачак шукаю,
Наталачку! Не, не, не, не!
Я шукаю пана.
Разарву!.. Вазьмі-ж ты мяне
Да сябе, цыгане.
Я мядзведзя вадзіць буду,
А як знайду ката,
То й спушчу яго на яго.
Вось тады пракляты!..
Не, не спушчу. Сама яго
Загрызу... Чуў гэта?
Пабярэмся, маё сэрца,
Дзеўка я й дагэтуль.
А сына ўжо ажаніла,
А дачка й так будзе.
Будзем лазіць пад платамі,
Пакуль знойдуць людзі
Нежывою. Ці ты бачыў?
Ён такі харошы—
Мой сын Іван... Ух, холадна!
Пазыч ты мне грошай,
Маністу добрую куплю
Дый табе павешу,
А сама пайду дадому...
Мыш, вунь мыш, пацешна,
У Кіеў нясе мышанят.
Не данясеш, дзесьці утопіш
Альбо пан адніме.
Ці я знайду маіх дзетак,
Ці так і загіну?—

Дый замоўкла, бы заснула.
Цыгане ўставалі.
Разбіралі шатры свае,
На шлях пасպяшалі.
Дый рушылі. Пайшлі стэпам.
А яна, нябога
Бяздольная, моўчкі ўстала,
І нібыта богу
Памалілася нячутна
Дый пашкандыбала
За цыганамі. І ціха,
Ціханька спявала.

Кажуць людзі, што суд будзе,
А суду й не будзе.
Бо мяне-ж на гэтым свеце
Асудзілі людзі.

———

Вось з-за Днястра пайшлі цыгане
І на Валынь і на Ўкраіну.
За сялом сяло міналі,
Ў гарады хадзілі,
І страхотай за сабою
Прыблуду вадзілі.
І спявала, і скакала,
Не ела й не піла,—
Як быццам смерць, з цыганамі
Па сёлах хадзіла.
Схамянулася раптоўна,
Стала есці, піці,
І хавацца за шатрамі,
І богу маліцца.
Штосьці з ёю учыніла
Стара Марыула,—
Нейкім зеллем напаіла,
Дык яно й мінула.
Потым яе навучыла
Лякаркаю стаці:
Ад чаго якія зёлкі,
І дзе іх шукаці.
Як сушыці, як варыці...
Марыула ўчыла многа.
Тая ўчылася і часта
Малілася богу.
Мінула лета і другое,
Трэцяе настала.
Прышлі ужо ў Украіну...
Шкода чагось стала?
Пакланілася цыганцы
За навуку ў ногі,
Пакланілася цыганам,
Памаліла бога;

Дый пайшла сабе нябога
На сваю Ўкраіну.
Пайду, кажа, хоць зірну я
На дачку, на сына.
Не прышлося. Пан вярнуўся,
Пакінуў Наталлю
Ў Маскоўшчыне. А ты-ж яе
За Днястром шукала.
У салдаты маладога
Ўзялі сына ў маці.
Таму, што ты не наўчыла
Паноў шанаваці.
Да каго-ж ты прыхілішся?
Нікога не маеш!..
Да людзей хіліся, дружа,
Людзі прывітаюць.

Пан вярнуўся, занядужыў,
Стогне, прападае.
А яна набрала зелля
Ды пайшла ў палацы
Лячыць яго, памагаці,
А не праклінаці.
Не вылечыла хворага,
Бо не дапусцілі...
А як памёр, дык за яго
Госпада маліла.
Святой жыла сабе, дзяўчат
Стала навучаці,
Каб з панамі не кахацца,
Людзей не цурацца.
«А то бог вас пакарае,
Ды 'шчэ горш, чым людзі;
Людзі гордыя, й благія,
Сваім судом судзяць».
Вось так яна навучала,
Нядужых лячыла,
А з убогім астатнюю
Скарынку дзяліла.
Разумныя і добрыя
Людзі яе зналі,
А ўсё такі пакрыткаю
І Ведзьмаю звалі.

[Седнеў 1847. Сакавіка 7]—[Ніжні Ноўгарад]
1858 Сакавіка 6

# У КАЗЕМАЦЕ

МАІМ САЮЗНІКАМ ПРЫСВЯЧАЮ

* * *

Ты прыгадай, сяброў сям'я...
Каб тое ліха мы не знаді
Ніколі больш, як вы і я
З-за крат на волю выглядалі.
І пэўна думалі: калі,
Калі на раду, на размову
Ўсе разам сойдземся ізноў мы
Тут на зубожанай зямлі?
Ніколі, як відаць, ніколі
З Дняпра мы разам не пап'ем!
Разойдземся і разнясем
У лес, у стэп сваю нядолю,
Яшчэ паверым трохі ў волю,
А потым жыць сабе пачнем
Між людзьмі, як людзі.
Покуль тое-ж будзе,
Любіцеся, браты мае,
Украйну любіце,
За гаротную старонку
Госпада маліце.
І яго забудзьце, другі,
І не праклінайце.
І мяне ў няволі лютай
Часам прыгадайце.

[Орская крэпасць
1847]

---

## I

Ой, адна я, адна,
Як быліначка ў полі,
Ды не даў-жа мне бог
А ні шчасця, ні долі.
Толькі даў-жа мне бог
Красу—карыя вочы,
Выплакала й тыя
Ў адзіноце дзявочай.
А ні браціка я,
Ні сястрычкі не знала,
Між чужымі ўзрасла,
І ўзрасла—не кахала!
Дзе-ж ты, мілы дружок,
Дзе вы, добрыя людзі?
Іх няма... Я адна,
А дружка і не будзе!

У казэмаце
(1847)

---

## II

За байракам байрак,
А там стэп ды магіла.
А з магілы казак
Ўстае сівы, пахілы.
Устае уначы,
Ідзе ў стэп, а йдучы
Песню сумна спявае:
«Нанасілі зямлі,
Дый дадому пайшлі
І ніхто не згадае.
Нас тут трыста, як шкло,
Таварыства лягло!
І зямля не прымае.
Як запродаў гетман
У ярмо хрысціян,
Зрабіў з нас прыганятых.
Па сваёй па зямлі
Сваю кроў разлілі
І зарэзалі брата.
Кроў братоў мы пілі,
І вось тут палеглі
Мы ў магіле заклятай».
Сціх казак, сумаваў
І да пікі прыпаў,
Стаў на самай магіле.
На Дняпро пазіраў,
Цяжка плакаў, рыдаў,
Сіні хвалі галасілі.
З-за Дняпра, за сялом
Рэха гаем гуло,
Трэці пеўні спявалі.
Праваліўся казак,
Страпянуўся байрак,
А магіла застагнала.

У казэмаце
(1847)

---

## III

Мне адзінакава, ці буду
На Украіне жыць ці не.
Ці хто успомніць, ці забудуць
Ў чужой халоднай старане—
Мне ўсёадно—ўсёроўна мне.

Ў няволі вырас між чужымі,
І неаплаканы сваімі
Ў няволі плачачы памру,
І ўсё з сабою забяру—
Малога следу не пакіну
На нашай слаўнай Украіне,
На нашай—не сваёй зямлі.
І не спамяне бацька з сынам,
Не скажа сыну ён: «Малі,
Малі ты бога: за Ўкраіну
Яго замучылі калісь».

Мне адзінакава, ці будзе
Той сын маліціся, ці не...
Ды не ўсёроўна для мяне,
Як Украіну злыя людзі
Прысьпяць, зладзеі, і яе
Ў агні, абкрадзеную, збудзяць...
Ох, не ўсёроўна для мяне.

У каземаце
(1847)

## IV

«Не кідай мацеры!»—казалі,
А ты пакінула, ўцякла,
Шукала маці—не знайшла,
Ды ўжо шукаці перастала...
Памёрла плачачы. Даўно
Пануе ціш, дзе ты гуляла;
Уцёк сабака згаладалы,
І ў хаце выбіта акно.
У цёмненькім садку ягняты
Удзень пасуцца, а ўначы
Вяшчуюць совы ды сычы,
Няма ані суседзям сну там.
І твой барвінак крыжаваты
Аж быльнікам зарос, ждучы
Цябе няўкветчанай. Ў гаі
Ставочак чысты высыхае,
Дзе ты купалася калісь,
Сумуе гай, схіліўся ўніз...
У гаі птушка не спявае—
Яе з сабою панясла.
Ў яру завалена крыніца,
Вярба пасохла, пала ніцма.
І сцежачка, дзе ты хадзіла,
Калючым цернем парасла.
Куды пайшла ты, дзе асела?
І да каго пераляцела?
Ў чужой зямлі, ў чужой сям'і
Каго ты радуеш? Да кога
Да кога рукі прыраслі?
Вяшчуе сэрца, што ў багатых
Жывеш палацах—не шкада
Табе пакінутае хаты...
Благаю бога, каб бяда
Цябе да веку не збудзіла,
Каб у палацах не знайшла...
Каб бога ты не асудзіла,
І мацеры не пракляла.

У каземаце
(1847)

## V

«Чаго ты ходзіш на магілу?»
Са скаргай маці гаварыла.
«Чаго ты плачаш, ідучы,
Чаму не спіш ты уначы,
Мая галубка сізакрыла?»
«Так, мама, так!..» І зноў хадзіла,
А маці плакала, ждучы.

Не сон-трава на магіле
Ўначы расцвітае,—
Заручоная дзяўчына
Каліну саджае,
І слязамі палівае,
І госпада просіць,
Каб дажджы паслаў уночы
І дробныя росы.
Каб каліна прынялася,
Вецце распусціла.
Можа птушкай залунае
З таго свету мілы.
Саўю яму я гняздзечка,
Сяду на галіне,
Шчабятаць мы будзем разам
З мілым на каліне.
Шчабятаці будзем, плакаць,
Ціха размаўляці,
Будзем разам раніцою
На той свет лятаці.

І каліна прынялася,
Вецце распусціла,
І тры годы на магілу
Дзеўчына хадзіла.
На чацверты... Не сон-трава
Ўначы расцвітае,—
То дзяўчына з калінаю
Плача, размаўляе:
«Шырокая, высокая
Каліна мая,
Не вадою да ўсход сонца
Паліваная!

Шырокія рэкі-слёзы
Цябе палілі;
Іх славаю лукаваю
Людзі паняслі.
Зневажаюць падружанькі
Падружку сваю,
Зневажаюць чырвоную
Каліну маю.
Спаві маю галованьку,
Расою памый,
Галінамі шырокімі
Ад сонца закрый!
Ўранку знойдуць мяне людзі
Мяне асмяюць;
Шырокае тваё веццe
Дзеці абарвуць».
Рана ўранку на каліне
Птушка шчабятала;
Пад калінаю дзяўчына
Спала—не ўставала:
Стамілася маладое,
Навекі спачыла...

Ўставала сонца з-за магілы,
І люд быў рады па начы;
А маці і не задрамала,
Дачку вячэраці чакала,
І цяжка плакала ждучы.

У каземаце
(1847)

---

## VI

Ой тры шляхі шырокія
Ды разам зышліся;
На чужыну з Украіны
Браты разышліся.
Пакінулі сваю маці,
Той жонку пакінуў,
А той—сястру, а найменшы—
Мілую дзяўчыну.
Пасадзіла тады маці
Тры ясені ў полі,
А нявестка пасадзіла
Стромкую таполю.
Тры яворы пасадзіла
Сястра пры даліне...
А дзяўчына маладая—
Чырвань-цвет каліну.
Не прыжылі тры ясені,
Таполя ўсыхала;
Паўсыхалі тры явары,
Каліна завяла.
Тры браты не вяртаюцца—
Плача горка маці,
Плача жонка з дзетачкамі
У сцюдзёнай хаце.
Сястра плача, йдзе шукаці
Братоў на чужыне...
Для заручанай дзяўчыны
Робяць дамавіну.
Тры браты не вяртаюцца,
Па свеце блукаюць,
А тры шляхі шырокія
Церням зарастаюць.

У каземаце
(1847)

---

## VII

*Н. Кастамараву*

Вясёла сонейка гуляла
Ў вясёлых хмарах веснавых,
Гасцей закованых сваіх
Сардэчным чаем частавалі
І вартавых перамянялі,
Сінямундзірых вартавых.
І да дзвярэй, на ключ замкнутых,
І да тых кратаў на акне
Прывык я трохі...І ўжо мне
Не жаль было даўно адбытых,
Даўно пахованых, забытых
Крывавых цяжкіх слёз маіх.
Ці мала разлілося іх
На сухаполле... Хоць-бы рута,
А то нічога не ўзышло!
І ўспомніў я сваё сяло...
Каго я там калі пакінуў?
Бацькі ляжаць у дамавіне...
І жалем сэрца запякло,
Што некаму мяне згадаці!
Гляджу: твая праходзіць маці
Чарней ад чорнае зямлі,
Як з крыжа знятая, мой браце...
Малюся! Госпада хвалю!
Хваліць яго не перастану!
Што я ні з кім не падзялю
Маю турму, мае кайданы!

У каземаце
(1847)

## VIII

Садок вішнёвы каля хаты,
Хрушчы над вішнямі гудуць,
Аратыя з плугамі йдуць,
Спяваюць ідучы дзяўчаты,
А мацеры вячэраць ждуць.

Сям'я вячэрае ля хаты,
Зара вячэрняя ўстае.
Дачка вячэраць падае,
А маці-ж ёй дае парады,
Салоўка слухаць не дае.

Паклала маці каля хаты
Маленькіх дзетачак сваіх,
Сама заснула каля іх.
Заціхла ўсё... Адно—дзяўчаты
Ды салавейка не заціх.

У казэмаце
(1847)

---

## IX

Рана ўранку навабранцы
Выходзілі за сяло,
А за імі маладымі
І дзяўчо адно пайшло.
Падыбала стара маці
Дочку ў полі даганяці...
І дагнала, прывяла;
Наракала, гаварыла,
Покі ў землю палажыла,
А сама ў старцы пайшла.

Мінулі годы, а сяло
Выгляд не змяніла.
Толькі пустку ў канцы сяла
Годы пахілілі.
А ля пусткі на мыліцы
Маскаль кандыбае,
На садочак пазірае,
Пустку аглядае...
Марна, браце! Чорнабровай
Не відаць у хаце,
Не пакліча на вячэру
Ў хату яе маці.
А даўным-даўно... Калісьці!
Ручнікі ўжо ткалі,
Ды мярэжылі хусціну,
Шоўкам вышывалі.
Думаў жыць і мілавацца,
Ды бога хваліці!
А прышлося... Ні да каго
Ў свеце прытуліцца.
Сядзіць сабе каля пусткі,
На дварэ змяркае,
А з акна, як тая баба,
Сава выглядае.

У казэмаце
(1847)

---

## X

Ў няволі цяжка... Хоць і волі,
Сказаць па праўдзе, не было.
Ды ўсё сяк-так жыццё плыло,
Хоць на чужым, але на полі...
Цяпер-жа злой ранейшай долі
Чакаць, як бога, прыпякло.
Яе чакаю, выглядаю,
Дурны свой розум праклінаю,
Што даўся дурням абдурыць,
У лужы волю утапіць.
Аж стыне сэрца, як згадаю,
Што не ў Украйне пахаваюць,
Што не ў Украйне буду жыць,
Людзей і госпада любіць.

У казэмаце
(1847)

---

## XI

Па-над полем ідзе,
Не пракосы кладзе,
Не пракосы кладзе—горы.
Стогне зямля, стогне мора,
Стогне ды гудзе

І касца уначы
Сустракаюць сычы.
Косіць ён, не спачывае,
Ні на кога не зважае,
Нават не прасі.

Не крычы, не прасі,
Не кляпае касы;
Ці то прыгарад, ці горад,—
Нібы брытвай стары голіць
Усё, што дасі.

Мужыка й шынкара,
Сірату кабзара;
Прыпявае стары, косіць,
Кладзе горамі пракосы,
Не міне й цара.

І мяне не міне,
На чужыне сатне,
Ды за кратамі задавіць,
Ніхто крыжа не паставіць,
І не спамяне.

30 Мая 1847
у казэмаце

## XII

Ці сойдземся яшчэ мы знова,
Ці разышліся назусім?
І слова праўды і любові
Панеслі нетрам вы глухім?
Няхай і так!.. Не наша маці,
А давялося паважаці,
То воля госпэда. Гадзіць,
Змірыцца трэ', маліці бога
І ўспамінаць адзін другога,
Сваю Украіну любіць,
Любіць яе... Часінай лютай,
Ў апошнюю сваю мінуту
За Ўкраіну госпада маліць.

У казэмаце
(1847)

* * *

Не спалася, а ноч, як мора...
(Хоць дзеялася ў час вясны,
Але ў няволі). Да сцяны
Не загаворыш ні пра гора,
Ні пра младзенческие сны
Вярчуся, раніцы чакаю...
А за дзвярыма пра сваё
Салдацкае нежыццё
Два вартавыя размаўляюць.

1

Така ухабиста собой,
И меньше белой не дарила.
А барин ведненькой такой!
Меня то, слышь, и подсмотрили;
Свезли в Калугу и забрили.
Так вот-те случай то какой!

2

А я... аж страшна, як згадаю!
У маскалі я сам пайшоў.
І ў нашым-жа сяле знайшоў
Сабе дзяўчыну... Учашчаю
І маці удаву яднаю.
Дык пан не хоча—люты звер!—
Малая, кажа, хай дождуся.
І я ўчашчаю да Ганусі.
Праз год я зноў за свой намер;
Прышоў я з маткаю прасіці
«Шкада,—кажа,—і не прасі!
Пяцьсот,—кажа,—калі дасі,
Бяры хоць зараз!..» Што рабіці?
Бяда галоўцы! Пазычаць?
Дый хто пазычыць гэтак многа?
Пайшоў я, браце, зарабляць;
І дзе ўжо не насілі ногі!..
Пакуль я столькі зарабіў,
Гады са два брадзіў-хадзіў
Па Чарнамор'і і па Дону...
І падарункаў накуп'ў
Найдаражэйшых... Вось, вяртаю
Уночы к любай,—аж адна
На печы маці, дый яна
Гаротная вось умірае,
А хата пусткаю гніе.
Я выкрасаў агонь, да маці...
Не можа ўжо мяне пазнаці,
Зямлёю пахне ад яе!
Я да папа і да суседа...
Прывёў папа, ды не застаў,—
Ужо сканала. Няма й следа
Маёй Ганусі. Я спытаў
Таго суседа... пра Ганусю.
«Хіба й дагэтуль ты не знаеш?
Гануся на Сібір пайшла.
Да паніча, бачыш, хадзіла,



Пакуль дзіцёнка прывяла,
Дый у крыніцы затапіла».
Як быццам смага запякла...
Я ледзьве, ледзьве, вышаў з хаты..
На досвітку ў палац багаты
Пайшоў з нажом, не чуў зямлі...
Аж паніча ўжо адвязлі
У школу ў Кіеў. Вось як, браце!
Засталіся бацька й маці,
А я пайшоў у маскалі.
Дагэтуль страшна, як згадаю!..
Хацеў палац той запаліць,
Сябе самога загубіць,
Ды бог памілаваў... А знаеш,
Яго да нас перавялі
Здаецца з арміі...

1

Так что же
Ну, вот теперь и приколи!

2

Няхай сабе! А бог паможа,
І так забудзецца калі...

---

'Шчэ гаварылі яны доўга.
Я стаў пад раніцу драмаць,
Ва сне шмат бачыў панічоў я,
І не далі, зладзеі, спаць.

**У каземаце**
**(1847)**

---

* * *

Думы мае, думы мае,
Вы адны са мною,
Не кідайце хоць вы мяне
Лютаю парою.
Прылятайце, галубочкі
Сізыя, уранне
З-за Дняпра, з-за шырокага
У стэп на гулянне
З кіргізамі убогімі.
Там кожны з іх убогі,
Ужо голы... Хоць на волі
Моляцца 'шчэ богу
Прылятайце, мае птушкі,
Ціхім словам-сказам
Прывітаю вас, як дзетак,
І заплачам разам.

**[Орская крэпасць**
**1847]**

---



# КНЯЗЁЎНА

ПАЭМА

Зара мая вячэрняя,
Ўзыйдзі над гарою,
Пагаворым мы ціхутка
Ў няволі з табою.
Раскажы, як сонца гасне
За далёкім гаем,
Як Дняпро вясёлцы яснай
Ваду пазычае,
Як высокая таполя
Голле распусціла,
Як вярба над соннай рэчкай
Вецце нахіліла;
Нахіліла, разаслала
Над вадою вецце
І калыша ў сонным змроку
Русалчыны дзеці.
Як у полі на магіле
Ваўкалак начуе,
І як сыч у цёмным лесе
Нядолю вяшчуе.
Як сон-трава пры даліне
Ноччу расцвітае...
Пра людзей-жа... Хай ім ліха!
Я іх добрых знаю,—
Добра знаю. Мая зорка!
Дружа мой адзіны!
Бог не знае, што дзеецца
У нас на Ўкраіне!
А я знаю. Не засну я,
Хоць і ночка ляжа.
Раскажу табе, ты-ж богу
Ўранні перакажаш.

---

Сяло! і сэрца адпачыне.
Сяло на нашай Украіне—
Як намалёвана. Сяло
Зялёным гаем парасло.
Цвітуць сады, бялеюць хаты,
А на гары палац багаты,
Як тое дзіва. А кругом
Шыракалістыя таполі.
А там і лес, і лес, і поле,
Сінеюць горы за Дняпром.
Сам бог вітае над сялом.

Сяло! Вясёлыя хаціны!
Палац вясёлы ў зяляніне
Бадай ты крушняй шэрай стаў!
Каб след к табе навек запаў
І церням параслі руіны.
У тым сяле паны жылі.
Адкуль на нашу Украіну
Яны, прыблуды, прыбылі—
Не знаю. Князь з сваёй княгіняй—
Абодва молады былі,
Жылі без клопату і працы
Ў высокім панскім тым палацы.

А за палацам быў ставок,
А на гары кругом садок
І вербы, і таполі,
І ветракі у полі.
А там за рэчкаю лягло
Гарбамі хат сваіх сяло.

Там колісь весела было.
Бывала летам і зімою
Музыка рэжа, і ракою
Віно цячэ для ўсіх падрад...
Сам князь нясмелым падлівае,
Частуе, просіць, прымушае
Яшчэ й пакрыквае: віват!
Гуляе князь, гуляюць госці,
Пакуль не злягуць на памосце.
А заўтра зноў на той-жа лад,
І зноў ён п'е і зноў гуляе;
І так за днямі дзень мінае.
А мужыкі ў сяле пішчаць,
Суды за пана моляць бога...
П'янчужкі-ж, знай, сваё крычаць:
— І патрыёт! і брат убогіх!
Наш слаўны князь! Віват! Віват—
А патрыёт, убогіх брат...
Дачку й цялушку адбірае
У мужыка... І бог не знае,
А можа й знае, ды маўчыць.

Княгіня-ж пад замком сядзіць.
Яе і ў сенцы не пускае
Убогіх брат. А што рабіць?
Бацькі за князя не пускалі,
Сама пайшла. Бацькі казалі:
«У гору, донька, не залазь!»
Дык не, за князя. Вось і князь!
Вось раскашуй, цяпер, княгіня!

Загінеш, золатца, загінеш,
Як цвет вясною уначы,
Памрэш, не зведаўшы нічога,
Не зведаўшы, як хваляць бога,
Як людзі любяць жывучы.
А жыць княгіня так хацела!
Кахаць так хацела,
Хоць гадзінку, хоць часінку
На свет глянуць смела.
Не прышлося... А было ўсё,
Усяго надбала
Табе маці. І самую
Як намалявала,
Хоць схіліся і маліся,
Як перад святою...
Краса мая маладая,
Горачка з табою!
Жыць-бы, жыць ды славіць бога
І дабро тварыці,
Богам даннаю красою
Людцаў весяліці.
Дык-жа не. Хай маладыя
Ды карыя вочы
У самоце чэзнуць, гінуць...
Можа бог так хоча?
Божа! божа! Даеш розум,
І красу, і волю,
Сэрца чыстае, ды толькі
Не даеш ты долі,
Не даеш на свет вялікі,
На палі, на рэкі
Надзівіцца, намаліцца
І заснуць навекі.

Нявесела на свеце жыць,
Калі няма каго любіць.
Вось так і ёй, адной-адзінай
Красуні маладой, княгіні,
Красу і сэрца засушыць
І ў самоце марна згінуць—
Аж страшна!.. І яна маліла,
Жыццяу господа прасіла,
Бо будзе ёй каго любіць.
Яна цяжарнаю хадзіла,
І ганарылася й любіла
Сваё дзіця. І даў дажыць
Гасподзь ёй радасці на свеце.
Пабачыць і пацалаваць
Сваё адзінае дзіця
І першы крык яго пачуць...
Ох дзеці! Дзеці! Дзеці!
Вы самі—божжа благадаць!
Слёзы высахлі, прапалі,
Сонейка заззяла,
І княгіня, як не тая,
З дзіцянёткам стала.
Забаўлялася з дачушкай,
Збоку глянуць міла,
І малой сваёй князёўне
Сарочачкі шыла
Ды рукаўчыкі малыя
Шоўкам вышывала,
І купала, й калыхала,
Сама й гадавала.
Бо княгіні-ж толькі ўмеюць
Прывесці малое,
А даглядаць ды гадаваць—
Слугі ёсць на тое,
А потым слёзы. Забывае
Мяне мой Поль, або Філат!
За што-ж дабра ёй пажадае?
Хіба на свет што прывяла?
А мая сваю дзяўчынку
Сама даглядала,
А п'янога бацьку-князя

Блізка не пускала.
Як яблачка у садочку,
Ў доглядзе дзяўчына
Вырастала. Навучыла
Гаварыць княгіня
Яе «мама», слова-ж «тата»
І не навучыла...
Кніг з малюнкамі у Ромнах
Яна накупіла,
Навучыла ўсе малітвы,
Вечна забаўляла,
Нават буквы на малюнках
Доньцы паказала.
І што божы дзень купала,
Рана спаткі клала,
І пылінцы на дзяўчынку
Ўпасці не давала.
Усе ночкі над пасцелькай
Сядзела, не спала,
Любавалася князёўнай,
Маленькай сваёю...
Жаніха ёй падбірала,
Смяялася з ёю
І плакала. Русы-косы
Яе расплятала
І на ліха свайго князя
П'янага згадала—
У мундзіры. Мімаволі
Заплакалі вочы.
А дзяўчынцы нібы сніцца,
Як вымавіць хоча:
Не плач, мама, і не кратай
Мае русы косы—
Пасякуцца... Што дзень божы
Шчасцейка прыносіць
Сваёй мацеры князёўна
І расце шчаслівa,
Нібы стройная таполя
На ўцеху, на дзіва.
Ды не доўга цешыць будзе
Красуня малая
Сваю маці; бог княгіні
Кару пасылае.
А за што? Аж дзіўна людзям,
Бо яны не знаюць,
Чаму добрае ўмірае,
Злое ажывае?
Занядужыла княгіня,
І князь схамянуўся,
Бабак-знахарак паклікаў,
Дзе якой дачуўся.
Панаехалі са свету,
Лячылі, лячылі,
Покуль бедную жанчыну
Ў труну палажылі.

Не стала на сяле княгіні,
Ў палацы-ж пір ізноў штодня.
Князёўна-ж наша сіраціна,
Як ліст адорваны з галіны,
Зусім закінута, адна,
Зазнала голад, ходзіць босай,
Сарочачкі да зносу носіць,
Пячэцца днямі на жары,
Цыбулю есць, ставочкі гаціць
З дзяцьмі сялянскімі ў яры.
Памыйся, сэрцайка! Бо маці
Глядзіць вунь і не пазнае
Паміж дзяцей дачкі свае
І думае: цябе не стала...
Памыйся, сэрца, каб пазнала
Цябе, адзіную сваю,
І госпада благаслаўляла
За долю добрую тваю.
Памылася. Чужыя людзі
Завезлі ў Кіеў, завялі
У інстытут. А там што будзе,
Пабачым. Гуслі загулі...
Гуляе князь, гуляюць госці,
Аж дошкі стогнуць у памосце,
А голад стогне на зямлі.
І стогне ён, стогне па ўсёй Украіне.
То божая кара. Тысячамі гінуць
Галодныя людзі. А скірты гніюць,
Мякіну ў дварах на яду прадаюць,
Ды голаду рады паны, бога моляць,
Каб ён яшчэ год хоць няўроду паслаў,
Тады-б у Парыжы сябе, як ніколі,
Наш брат-хутаранін людзям паказаў.
А бог, відаць, спіць... Бо было-б гэта дзівам,
Каб бачыў і чуў і не стаў ён караць,
Ці можа занадта ён доўгацярплівы!
Веруйце і гіньце!—пракорокі гласяць.
Ды як таму верыць? Заплюшчыўшы вочы?
Ах, рад-бы я верыць, ды сэрца не хоча.

Гады мінаюць; людзі гінуць,
Лютуе голад на Ўкраіне,
Лютуе ў княжаскім сяле,
Скірты згнілі ў яго гумне.
А князю што? ён п'е гуляе,
Ды гандляра з грашмі чакае.
Не йдзе гандляр... Жыты ўзышлі,
Як рады людцы, бога просяць...
Аж вось і з Кіева прывозяць
Князёўну. Сонца узышло
Над абакрадзеным сялом.
Чорнаброва, каравока,
Вылітая маці,
Толькі смутна, невясёла...
Чаго-б сумаваці?
Ці такою нелюдзімкай

Маці нарадзіла?
Ці то, можа, маладая,
Каго палюбіла?
Не, нікога. Між сябровак
Весела гуляла,
Як ласачка з сваёй норкі
На свет выглядала
З таго Кіева, аж покуль
У сяло папала,
Паглядзела, з таго часу
Невясёлай стала.

Як сізая галубачка
Сяло абляцела;
Ў кожнай хаце пабывала
Ў кожнай пасядзела.
Каго словам прывітала,
Каго накарміла.
Абыходзіла штодзённа
Бедных з ласкай мілай,—
Памагала, а сіроты
Да яе ў пакоі
Прыходзілі. Яе маткай
Сваёю святою
Называлі. Ўсе сяляне
За яе малілі
Бога шчыра. А тым часам
Гандляры ўвалілі
У сяло, і князь прадаў ім
З мякінаю жыта,
Малаціць з сяла ён выгнаў
Людцаў недабітых.
Змалацілі, не ўрачы-б іх,
За адну гадзіну,
Перавеялі за клуняй...
Князь без адпачыну
На магарыч запрашае,
Ладзіць баль у гаі,
Бо ў пакоях спачывае
Дачка маладая.

Гармідар, галас, гам у гаі,
Брыдкія спевы. Аж дрыжыць
Жаночы рогат. Князь гукае:
— Гуляйце, госці, будзем піць,
Пакуль дачушка дома спіць.—

Дачка-ж запёртая сядзіць,
Як колісь маці у пакоі,
І дзівіцца, як над гарою
Чырвоны месяц аж гарыць,
З-за хмары ціха выступае,
І нібы горы ажываюць.
Дубы, як здані, ад дуброў
У поле ціха адплываюць,
Пугач крычыць, і плоймы соў
З-пад стрэх на поле вылятаюць,
А жабы крэкчуць і гудуць.
Глядзіце, вочы маладыя,
Як зоркі божыя ўстаюць,
Як месяц ў небе чырванее,
Любіцеся, пакуль вас грэе,
А зоркі спаць вам не даюць.

Нахіліўшыся галоўкай
На руку, сядзела
І да поўначы на зоркі
Смутная глядзела
Так князёўна, ўсё глядзела...
Потым плакаць стала,
Можа ёй якое ліха
Сэрца прашаптала?
Ды нічога. Паплакала
Сабе трошкі, потым
Усміхнулася й заснула
Ціха, без клапотаў.

Ў гаю ўсё покатам ляжала—
Бутылкі й госці. Дзе што пала,
Там засталося. Сам не ўпаў,
І ўсё да кроплі дапіваў.
Устаў, не падаў,
Ідзе ў пакоі. Брудны гаду!
Куды ты прэшся? Схамяніся!
Не схамянуўся, ключ вымае,
Прышоў, і дзверы адмыкае,
Ідзе к дачцы ён. Прахапіся!
Князёўна, чыстая, прачніся!
Забі гадзюку—пакусае!
Забі, і бог не пакарае!
Як тая Чэнчыо калісьці
Забіла бацьку-кардынала,
Не баючыся анімала
І бога. Не, князёўна спіць,
А бог хоць бачыць, ды маўчыць,
Грахам вялікім патурае.
Не чуць нічога. Час мінае,
А потым крык, а потым гвалт,
І плач прыдушаны з палат
Пачулі спужаныя совы...
І зноў ўсё ціха. Ў скорым часе
Скірты і клуня занялася,
І зоры зніклі. Хоць-бы слова,
Хоць-бы дзе голас абазваўся.
Паны ўсе покатам ляжалі,
А людзі беглі, пазіралі,
Як дым да неба паднімаўся...

Прачнуліся рана госці,
Аж бачаць, што ліха;
Пакінулі свайго князя,
Паехалі ціха...
Так і мы яго пакінем,
Так і бог пакіне.

Цябе толькі не пакіне
Ліхая гадзіна.—
Ты-ж, гаротная князёўна,
Знявечаны цвеце,
Адпакутуеш уволю
Жывучы на свеце
За грэх бацькі. Доля, доля!
Лукавая доля!
Ты пакінь яе на старасць
Хоць на чужым полі,
На бязлюддзі. Не пакінеш,
Павядзеш да краю,
Да самае дамавіны,
Сама й пахаваеш.

Дзе падзелася князёўна
Не знаді нічога.
Ў сяле думалі: у пажары
Згарэла нябога.

---

Стаіць сяло. Нявесела
На гары палацы
Пачарнелі. Князь хварэе,
Не здолее ўстаці.
Падняць яго няма каму,
Ніхто й не загляне
Да грэшнага, да хворага
Ў будынак паганы.
Людзі трохі ачунялі
Бога моляць людзі,
Каб вярнулася князёўна.
А яе не будзе
Ўжо ніколі, так, ніколі...
Дзе-ж яна прапала?
У Кіеве, у вялікім
Манашкаю стала.

Яна-ж радзілася любіць,
І ззяць гасподняю красою,
Вітаць над грэшнымі святою
І ўсякаму дабро тварыць.
Іначай вышла, у манашках
Змарнела, згінула дабро...

Блукаючы па Украіне,
Забрыў я неяк ў Чыгірын,
У манастыр забрыў дзявочы,
Што за пяскамі, на балоце,
Стаіць паводдаль ад усіх.
Манашка мне там расказала
Ў час адпачынку навіну,
Што пазалетась к ім зайшла,
Здалёк аднекуль з-за Дняпра,
Князёўна, тут адпачывала
Дый богу душу аддала...
Яна была йшчэ маладою,
Вельмі прыгожая сабою.
На сонцы доўга пабыла,
Дый занядужыла. Ляжала
Нядоўга, так сядміцы тры,
Мне перад смерцю расказала
Свае прыгоды, як сястры...
Відаць, нямала пахадзіла,
А вось дзе бог прывёў ляжаць.
У нас, гаротная, спачыла,
Вось тут яе, святой, магіла..
Яшчэ не ставілі крыжа...

[Орская крэпасць 1847]
[Ніжні Ноўгарад]
1858 Люты 24

## N. N.

Сонца заходзіць, горы чарнеюць,
Птушкі паціхлі, поле нямее;
Цешацца людзі, што адпачынуць.
А я дзіўлюся... і штохвіліны
Ў цёмны садочак на Украіну
Думкай імчуся. Думку гадаю
І нібы сэрцам адпачываю.
Чарнее поле, гай і прыгоркі,
Ўзышла на неба красуня-зорка.
О зорка! зорка! і слёзы хлынуць.
Ці ты ўзышла там над Украінай
Ці ў небе сінім цябе шукаюць
Карыя вочы, ці забываюць?
Калі забылі, бадай заснулі,
Пра маю долю каб і не чулі.

[Орская крэпасць
1847]

---

## N. N.

Трынаццаць мне тады мінала.
Я пас ягнаты за сялом.
Ці гэта сонейка так ззяла,
Ці так мне весела было?
Што раптам добра, добра, стала,
Як-бы ў бога . . . . . . .
Ужо гукалі нас абедаць,
А я сабе ў бур'яне
Малюся богу. І не зведаць
Чаго малілася так мне
Тады малому, ў светлых далях
Чаму так весела было?
Тады і неба і сяло,
Ягня здаецца весялілась,
І сонца грэла, не пякло!
Ды не доўга сонца грэла,
Мяне весяліла...
Запякло, зачырванела
І рай запаліла.
Я ачнуўся—дзіву даўся,
Сяло пачарнела,
Неба сіняе і тое
Раптам памарнела.
Паглядзеў я на ягняты—
Не мае ягняты!
Азірнуўся я на хаты—
Няма ў мяне хаты!
Не дае мне бог нічога!..
І хлынулі слёзы,
Слёзы горкія!.. Дзяўчына
Пры самай дарозе
Ад мяне непадалёку
Пласконь выбірала,
Дый пачула, што я плачу,
Прышла, прывітала,
Сама выцерла мне слёзы
І пацалавала...
Нібыта сонейка заззяла,
Нібыта ўсё на свеце стала
Маё... Палі, гаі, сады!..
І мы, жартуючы, пагналі
Чужых ягнятак да вады.

Бязглуздзіца!.. А прыгадаю,—
І сэрца плача і баліць.
Чаму гасподзь не даў пражыць
Мне цэлы век у гэтым раю.
Памёр-бы аручы на ніве,
І меней зла ў жыцці пазнаў,
Не быў-бы ў свеце юрадзівым,
Людзей і бога не пракляў!..

[Орская крэпасць
1847]

---

Не грэе сонца на чужыне,
А дома цераз край пякло;
Не надта весела было
Мне і на роднай Украіне.
Ніхто мяне там не вітаў,
Ды не любіў і я нікога,
Блукаў сабе, маліўся богу
І панства злое праклінаў,
Ды ўспамінаў гады ліхія,
Далёкай даўнасці гады,
Хрыста павесілі тады,
Не ўцёк-бы й зараз сын Марыі!
Нідзе нявесела ўсё мне,
Ды мо' быць весела й не будзе,
І на Украіне, мае людзі;
Вось гэтак-жа і на чужыне.
Хацелася-б... Дый то для тога
Каб не збівалі мне труны
Чужыя з дзерава чужога,
Або хоць прыгаршчы зямлі
Мне з-за Дняпра майго святога
Святыя ветры прынязлі,
Дый больш нічога. Так то, людзі.
Хацелася-б... Дый то для тога.
Не варта й бога турбаваць,
Калі па-нашаму не будзе.

[Орская крэпасць
1847]

---

# СОН

Горы мае высокія!
Не так і высокі,
Як прыгожы, харошыя,
Блакітны здалёку.
З Пераяслава старога,
З Воблае магілы,
Старадаўняй, як за Днепрам
Хмары ў небасхіле.
Іду я ціхаю хадою,
Гляджу, аж вунь перада мною
Нібыта здані выплываюць,
Нібыта з хмары выступаюць—
Абрыў высокі, гай, байрак;
Рад белых хатак выглядаюць,
Як дзеці ў белым па кустах,
Калі у схованкі гуляюць,
А далей наш сівы казак
Дняпро ў лугах цячэ і зззяе.
А вунь, чуць відна за Дняпром,
На ўзгорку дальнім, як капліčка,
Казацкай цэркві невялічкай
Пахілы крыжык над сялом.

Стаіць даўно, запарожца
З Лугу выглядае...
І з Дняпром сівым размовай
Тугу развяжае.
Глядзіць шыбамі старымі,
Як мяртвец вачыма
Зялёнымі, пазірае
На свет з дамавіны.
Мо чакаеш абнаўлення?
Не чакай той славы!
Твае людзі абкрадзены,
Ды панам лукавым...
На што яна, казацкая,
Вялікая слава?!.

І Трахцеміраў пад гарою
Раскідаў хаткі абы як,
Раскідаў з доляю благою,
Як торбы п'яны той жабрак.
Старое вунь Манастырышча—
Калісь казацкае сяло,
А ці такім яно было?..
Ды ўсё пайшло царам на йгрышча—
І Запарожжа, і сяло...
І манастыр той, і скарбніцу
Ўсё ненажэрныя звялі!..
А вы? вы, горы, аддалі!!.
Бадай ніколі не дзівіцца
На вас, праклятыя!! Не, не...

Не вас я, горы, праклінаю,
А гетманаў і ляхаў зграю.
Даруйце, горы мае, мне
Высокія і галубыя,
Найпрыгажэйшыя, святыя!
Даруйце, богам я малю!
Я так яе, я так люблю
Маю Украйну, люд убогі,
Што пракляну самога бога,
Душу—і тую загублю.

Над Трахцеміравым высока
На кручы, нібы сірата
Ў Дняпры шырокім і глыбокім
Прышла тапіцца з гора, так
Стаіць адным-адна хаціна...
З хаціны відна Украіна
І ўся гетманшчына кругом.
Сядзіць сівы дзед каля хаты,
А сонейка перад закатам
Павісла нізка над Дняпром.
Сядзіць і глядзіць, а думы тыя
Ідуць нязваныя... «Ай! ай!»
Стары прамовіў: «О, дурныя!
Так занядбалі божы рай!..
Гетманшчына!!.» У старога
Спахмурнелі вочы...
Дум цяжкіх-цяжкіх так многа
Выказаць ён хоча,
Ды не выказаў . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .

«Блукаў па свеце я нямала,
Насіў і світку, і жупан...
На што ўжо цяжка за Уралам
Вось тым кіргізам, але там,
Далібог, ім лепш жывецца,
Як нам на Ўкраіне.
Мо' таму, што не хрысцілі
Іх хрыстовым імем?
Нарабіў ты, Хрысце, ліха!
А пераіначыў?!
Людзей божжых?! Каціліся
Неразумныя казачы
Буйны галавы за праўду,
За веру хрыстову,
Упіваліся чужою
І сваёю кроўю!..
А палепшылі?.. Ды дзе там!
Больш лютымі сталі,
Без нажа і аўтадафе
Людзей закавалі
Дый мардуюць... Ой, ой, паны,
Паны-хрысціяны!..»
Замоўк сівы дзед, замоўк з тугою,
Панік старэнькі буй-галавою,
Пад вечар сонца гай залаціла,
Дняпро і поле золатам крыла,
Бялее, взяе сабор Мазепы,
Бацькі Багдана курган у стэпу,
Кіеўскім шляхам відаць магілы
Часоў даўнейшых, іх вербы ўкрылі
З Трубайлам Альта між асакою
Сышліся разам, як брат с сястрою.
І ўсё навокал радуе вочы,
А сэрца плача, глянуць не хоча!
Развіталася да заўтра
Сонейка з зямлёю,
Выступае круглы месяц
З сястрою-зарою.
Выступаюць яны з хмары
І хмары заззялі...
А стары навокал глянуў,
Слёзы з вочай палі...
«Я малюся табе, божа,
Госпадзі вялікі,
Што не даў ты мне загінуць,
Нябесны ўладыка!
Што ты даў мне, божа, сілу
Перасіліць гора
І прывёў мяне, старога,
На святыя горы,
Адзінокі век дажыці,
Цябе услаўляці,
І тваёй святой красою
Сэрца ўзвесяляці...
І пахаваць пабітае
Грахамі людскімі
На горах высокіх гэтых
І лунаць над імі...»
Выцер слёзы гарачыя,
Хоць немаладыя...
Ўспамінае свае леты
Даўныя, благія...
Дзе, як, калі, што адбылося?
Што праўда, а што ў сне здалося?
І моры як пераплываў!..
І цёмны гай, зялёны гаю,
І чорнаброўка маладая,
І месяц з зорачкамі ззяў,
І салавейка на каліне
То заціхаў, то шчабятаў,
Святога бога услаўляў;
Было ўсё гэта на Ўкраіне!..
І усміхнуўся сівы дзед...
Бо можа, праўды недзе-ж дзець—
Любіў дзяўчыну ён калісьці,
Ды разышліся, не сышліся.
Пакінула аднаго жыць,
Ў хаціне веку дажываці!..
Стары мой знову зажурыўся;
Хадзіў ён доўга каля хаты.
А потым богу памаліўся,
Пайшоў у хату начаваці.
А месяц хмараю спавіўся.



Вось які мне на чужыне
Сон аднойчы сніўся!
Зноў нібыта я на волю,
На свет нарадзіўся.
Дай-жа, божа, калі-небудзь
Хоць на старасць стаці
На тых гарах абкрадзеных
У маленькай хаце.
Хоць замучанае сэрца,
Прыбітае горам,
Сюды несці і пакласці
На Дняпроўскіх горах.

[Орская крэпасць
1847]

---

## ІРЖАВЕЦ

Нарабілі калісь шведы
Вялікае славы:
Уцякалі з Мазепаю
Ў Бендэры з Палтавы.
А за імі й Гардзіенка...
Парадзіла маці,
Як пшаніцу жаць, так лёгка
Палтаву дастаці.
Ой пажалі-б, як-бы дружна
За адно ўсе сталі,
Ды з Хвастоўскім палкоўнікам
Гетмана ядналі.
Не хавалі-б пік у стрэсе
У Пятра у свата
І з Хорціцы-б не ўцякалі
У свет небажаты.
Не спыняў-бы іх Прылуцкі
Палкоўнік паганы...
Не плакала-б божжа маці
Ў Крыму за Украйну.

Як пакідалі маці-Сеч
І Луг вялікі запарожцы
І з родных земляў ішлі прэч,
З сабою ўзялі маці божжу,
А больш нічога не ўзялі,
І ў Крым да хана паняслі
На ліха-гора Запарожжа.
Хмару белую закрыла
Ды чорная хмара.
Панам стаў над запарожцам
Паганы татарын.
Хоць дазволіў на пясках хан
Новым кошам стаці,
Ды не даў ён запарожцам
Цэркаў збудаваці.
У шатры тайком змясцілі
Образ прасвятое
І маліліся украдкам...

Божа мой з табою!
Мой краю, прыгожы, раскошны, багаты,
Хто цябе не мучыў? Як-бы расказаць
Пра якога-небудзь аднаго магната
Гісторыю-праўду, то перапужаць
Само-б пекла можна. А Данта старога
Здзекам мог поўпанак, хоць які, здзівіць,
І ўсё тое ліха, ўсё кажуць ад бога!
Няўжо яму люба людзям зло тварыць?
Няўжо яму люба мучыць Украіну?
Што яна зрабіла? Зашто яна гіне?
За што люд Украйны ў кайданах маўчыць?

Расказалі кабзары нам
Пра вайну, пажары,
Пра цяжкое ліхалецце,
Пра лютыя кары,
Што пракляты лях прыносіў,
Пра ўсё расказалі.
Што-ж рабілі пасля шведаў!
Тое й іх спужала,
Анямелі з таго страху
Кабзары сляпыя.
Гэтак яе ваяводы
Пятровы ліхія
Рвалі, грызлі... І здалёку
Запарожцы чулі,
Як у Глухаве званілі,
З гарматы раўнулі.
Як пагналі на балота
Горад будаваці.
Як па дзецях галасіла

Старэнькая маці.
Як дзетачкі на Орэлі
Лінію капалі
І ў далёкай Фінляндыі
Ў снягах прападалі.
Чулі, чулі запарожцы
З далёкага Крыма,
Як канае гетманшчына,
Нявінная гіне.
Чулі, чулі небажаты
Чулі, ды маўчалі,
Бо над імі на чужыне
Мурзы лютавалі.
Мардаваліся казакі,
Плакалі, а з імі
Заплакала божжа маці
Слёзкамі святымі.
Заплакала яна горка,
Быццам-бы па сыне.
І дайшлі да бога слёзы,
Прачыстыя слёзы!
Пабіў Пётру, пабіў ката
На гладкай дарозе.
Вярнуліся запарожцы,
Прынеслі з сабою
Ў гетманшчыну той цудоўны
Образ прасвятое.
Паставілі ў тым Іржаўцы
Ў мураваным храме.
Там яна й дагэтуль плача
Разам з казакамі.

[Орская крэпасць 1847]—
[Масква] 14 Сакавіка [1858]

---

## N. N.

О мае думы! О слава злая!
За цябе марна у чужым краю
Нясу пакуты, але не каюсь,
Люблю, як жонку, як бацька сына,
Як бесталанную сваю Ўкраіну!
Рабі, што хочаш з цёмным, са мною,
Толькі не кідай. У пекла з табою
Пакандыбаю . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ты прывітала
Нерона лютага, Сарданапала,
Ірада, Каіна, Хрыста, Сакрата.
О непатрэбная! Кесара-ката
І грэка добрага ты палюбіла,
Ўсіх аднолькава!.. бо заплацілі.
А я, убогі, што прынясу я?
За што-ж ты, слава, мяне цалуеш?
За песню-думу?.. Ой гаю, гаю,
І не такія дарма спяваюць.
І дзіўна і нудна, як памяркую,
Што часта голаў люд не шкадуе
За тое дзіва! Як псы, грызуцца
Браты з братамі. Што-б схамянуцца.
Бо тое дзіва—у шынку паганым
Проста пакрытка між людам п'яным.

[Орская крэпасць
1847]

* * *

Як мы былі йшчэ казакамі,
А уніі не чуць было,
Жыццё так весела плыло!
Браталісь з вольнымі ляхамі
І ганарыліся стэпамі,
Сваімі вольнымі. Цвілі
Як мак, прыгожыя дзяўчаты.
Сыны шчаслівых нашых матак,
Сынамі вольнымі раслі.
Раслі сыны і весялілі
Старых у скорбных іх гадах,
Аж покуль іменем Хрыста
Прышлі ксяндзы і запалілі
Наш ціхі рай і разлілі
Шырока морам слёзы з кроўю...
А сірат іменем хрыстовым
На крыж, на мукі павялі...

Паніклі голавы казаччы,
Як патаптаная трава.
Украйна плача, стогне-плача,
За галавою галава
Дадолу падае. Лютуе
Кат, ксёндз прадажным языком
Крычыць: «Te deum алілуя!..»

Так, ляша-друг, ты быў-бы братам,
Ды прагныя ксяндзы й магнаты
Нас пасварылі, развялі,
А мы-б дагэтуль так жылі.
Падай-жа руку казачыне
І сэрца чыстае падай!
І мы адновім божжым імем
Наш рай былы, наш ціхі рай.

[Орская крэпасць 1847]
[Масква]
14 Сакавіка [1858]



## ЧАРНЕЦ

У Кіеве на Падоле
Было колісь... І ніколі
Не вернецца, той часіне
Не вярнуцца на Ўкраіну,
Не вярнуцца... А я, браце,
Усё-ж буду спадзявацца,
Спадзявацца і чакаці,
Песняй жалю паддаваці.

У Кіеве на Падоле
Была калісь наша воля,
Без халопа і без пана,
Сама сабе у жупане
Гэтак весела, удала
Аксамітам шлях свой слала.
Па шаўках, бывала, крочыць
І нікому ўбок не збочыць.

У Кіеве на Падоле
Казакі гуляюць.
Як вадзіцу вядром-цэбрам
Віно разліваюць.
Закупілі ўсе падвалы,
Шынкі з шынкарамі,
Мёд, віно п'юць запарожцы
Поўнымі карцамі.
А музыка раве, йграе,
Людзей пацяшае.
А з Брацтва голае бурсацтва
Моўчкі пазірае.
Няма голай школе волі,
А то-б ухапілі...

А каго-ж то там з музыкай
Людзі абступілі?

У штанах чырвоных аксамітных
Мяце пыл вуліцы матнёй,
Ідзе казак.—Ой час пражыты!
Што робіш ты? Але пастой!—
Стары ударыў крэпкім ботам,
Аж закурыўся пыл! Вось так!
Яшчэ падняў сябе казак:

— Па дарозе рак, рак,
Няхай будзе так, так!
Як-бы гэта, маладзіцы,
Пасеяці мак, мак!
Дам ліха я запяткам,
Абцасам ліха дам,
Дастанецца й перадам!
Ой запяткам ліха скора—
Набраліся мукі й гора!
Дам ліха я запяткам,
Абцасам ліха дам,
Дастанецца й перадам!

Аж да Межыгорскага Спаса
Пратанцаваў сівы.
А за ім і таварыства
І ўвесь святы Кіеў
Датанцаваў аж да брамы.
Крыкнуў: «Пугу! пугу!
Прынімайце, чарняцы, вы
Таварыша з Лугу!»

Тыя браму адчынілі
Казака ўпусцілі;
І зноў браму зачынілі,
Навек зачынілі.
Хто-ж то з светам развітаўся?
Хто ён быў, сівы той?
Сямён Палій, запарожац,
Ліхам недабіты.

Ой высока сонца ўсходзіць,
Ды нізка заходзіць.
Ў доўгай расе ў сваёй келлі
Стары чарнец ходзіць.
Ідзе чарнец у Вышгорад,
На Кіеў дзівіцца,
Пасядзець на ўзгорку ціха,
Ціха пажурыцца.
Ідзе чарнец Дзванковую
У яр ваду піці,
Ўспамінае, як то цяжка
Было ў свеце жыці.
Ідзе чарнец зноў у келлю,
У сцены нямыя,
Ўспамінае свае леты,
Леты маладыя.
Бярэ кнігу ён святую
Голасна чытае...
Але думкаю далёка,
Далёка вітае.

Сціхае голас, галава
На кнігу нікне... Як жывое
Братэрства Сечы баявое
Паўстала ў келлі... Як сава.
У вочы гетман зазірае.
Бердзічэў... бой... музыка грае...
Кайданы бразгаюць... Масква,
Бары, снягі і Енісей...
І пакаціліся з вачэй
На расу слёзы... Бі паклоны!
І плоць старэчую ўсмірай,
Святую біблію чытай
І слухай, як званы трызвоняць
А сэрцу, дзед, не патурай.
Яно цябе ў Сібір вадзіла,
Яно цябе ўвесь век дурыла,
Прыспі яго і занядбай
Сваю Барзну і Хвастаўшчыну.
Загіне ўсё, ты сам загінеш.
Не ўспомняць нават, каб ты знаў...
І цяжка інак зарыдаў,
Чытаць пісанне ён пакінуў.
Хадзіў па келлі ўсё, хадзіў,
А потым сеў і зажурыўся:
—Навошта я на свет радзіўся,
Сваю Украіну любіў?—

Завыў на вутрань са званіцы
Вялікі звон. Чарнец устаў,
Надзеў клабук, узяў з паліцы
Старыя чоткі, кій узяў
І за Украіну маліцца
Стары чарнец пакандыбаў.

[Орская крэпасць 1847]—
[Масква, 1858]

---



* * *

Адзін другога мы пытаем,
Нашто нас маці прывяла?
Ці для дабра, ці то для зла?
Нашто жывём? Чаго жадаем?
І не дазнаўшыся ўміраем,
Якая-б справа ні была...

Што я пакіну, божа мілы,
На суд патомкаў на зямлі?
Хай тыя-б дзеці не раслі,
Цябе, святога, не гнявілі,
Якіх ў няволі нарадзілі
Бацькі, і ў стыд цябе ўвялі...

[Орская крэпасць
1847]

* * *

Самому дзіўна. А дзе-ж дзецца?
Што тут рабіць, з чаго пачаць?
Людзей і долю праклінаць
Не варта. Жыць так, як жывецца,
Сярод чужых чужому жыць?
А што закутаму рабіць?
Каб мог кайданы перагрызці,
Я-б грыз. Ды не, няма карысці,
Не тыя кавалі кавáлі,
Не так жалеза гартавалі,
Каб перагрызці. Гора нам
Нявольнікам і сіратам
Ў стэпу бяскрайным за Уралам.

[Орская крэпасць
1847]

* * *

Ой строчачку за строчачкай
Мярэжкаю тры ночачкі
Шыю, шыю, вышываю,
У нядзелю пагуляю.

Ой плахтачка-чэрвчатачка,
На дзіва ўсім дзяўчатачкам,
Ой на дзіва яна й вам,
Запарожцам-казакам.

Глядзіце, заляцайцеся,
А з іншымі вянчайцеся
Адданы ўжо ручнікі...
Дык вось яно, казакі!

[Орская крэпасць
1847]



## ХУСЦІНА

Ці на тое божжа воля?
Ці такая яе доля?
Расла ў наймічках дзяўчына,
Пакахала сіраціну.
Небарак, як голуб, з ёю
З безталаннаю сваёю
Ад зорачкі да зорачкі
Сядзяць сабе у ўдовачкі.
Сядзяць сабе, размаўляюць,
Ды прачыстае чакаюць.
Дачакалі... З Чыгірыну
Па ўсёй слаўнай Украіне
Звон вялікі раве-звоніць,
Каб сядлалі хлопцы коней,
Каб вастрылі шаблі, пікі,
Каб ішлі на пір вялікі,
На вяселле, на ігранне,
На крывавае гулянне.

У нядзелечку ды ранюсенька
Сурмы-трубы заігралі.
Ў паход, у дарогу хлопцы-кампанійцы
З ранняй зоркай выязджалі.
Ды выпраўляла ўдава свайго сына,
З горкім плачам бедачына.
Ды выпраўляла сястра свайго брата,
А сірата сіраціну.

Як выпраўляла—каня напаіла
Да зарніцы у крыніцы,
Выносіла збрую, шаблю залатую,
Яго стрэльбу-гакаўніцу.
І праважала тры полі, тры мілі,
Развіталася ў даліне.
Падарыла шоўкам шытую хусціну,
Каб успомніў на чужыне.

Ой хусціна, хусціначка!
Мярэжана-шыта.
Толькі й славы той казацкай—
Сядзельца пакрыта.

Вярнулася, сумавала
На шлях біты паглядала,
Ўбіралася, чакаючы,
Надзеі не губляючы.
А ў нядзелечку хадзіла
Выглядаці на магілу.

Прайшло лета і другое,
Чакае дзяўчына,
На трэцяе кампанійцы
Ідуць на Ўкраіну.
Ідзе войска, і другое,
А за трэцім ціха...



Не глядзі ты, сіраціна,
Вязуць табе ліха,
Вязуць труну з тваім мілым,
Кітайкай пакрытым.
А за ёю з старшынамі
Ідзе ў чорнай свіце
Сам палкоўнік кампанійскі,
Сечавік заўзяты.
За ім ідуць есаулы,
Плачуць небажаты.
Нясуць паны есаулы
Казацкую зброю:
Парубаны панцыр літы
З шабляй залатою
І тры стрэльбы-гакаўніцы
І тры самапалы...
А на зброі... казацкая
Кроў пазасыхала,
Вядуць каня воранога,
Капыты разбіты...
А на ім тваёй хусцінкай
Сядзельца пакрыта.

[Орская крэпасць 1847]—
Ніжні Ноўгарад 1858. Сакавіка 8

## А. О. КАЗАЧКОЎСКАМУ

Даўно было. Яшчэ у школе
Такі ў настаўніка-дзяка
Паціху ўкраду пятака,
Бо быў я трохі што не голы,
Убогі быў, сцягну, куплю
Паперы аркуш і зраблю
Маленькі сшытачак. Крыжамі,
Узорам кветачак з лісткамі
Вакол старонак абвяду,
Дый спісваю Скавараду,
Ці «Тры цары і іх дары».
Схаваюся у гушчары,
Каб не пачуў хто, не пабачыў,
Пяю сабе і слёзна плачу.
На старасць зноў прышлося мне
Хавацца з вершамі сваімі,
Мярэжыць кніжачкі, над імі
Спяваць і плакаць ў бур'яне.
І горка плакаць. І не знаю,
За што мяне гасподзь карае?
У школе мучыўся і рос,
Так да сівых дажыў валос,
У школе дурня й пахаваюць.
А ўсё за тога пятака,
Што ўкраў маленькім у дзяка,
Вось так, гасподзь мяне карае.

Вось-жа слухай ты, мой голуб,
Мой орле-казача!
Як канаю я ў няволі,
Як нужуся светам.
Слухай, браце, й навучы ты
Сваіх малых дзетак,
Навучы іх, каб не зналі
Змалку вершаваці,
А паквапіцца каторы,
То ціханька, браце,
Няхай сабе у куточку
Вершы піша й плача,
Ды так ціха, каб бог не чуў,
Каб і ты не бачыў.
Каб і іх не пакаралі
Такой карай лютай,
Як мяне, ў няволі, браце,
Цяжкою пакутай.

Як злодзей той па-за валамі
Ў нядзелю крадуся я ў поле.
Тыламі выйду па-над Уралам
У стэп шырокі, бы на волю.
І параненае сэрца
Тады ўстрапянецца,
Як рыбачка над вадою,
Ціха засмяецца.
Паляціць нібы галубка
Па-над чужым полем,
І я нібы ажываю
На полі, на волі...
І на гору высокую
Выхаджу, дзіўлюся,
Ўспамінаю Украіну
І ўспомніць баюся.
І там стэпы, і тут стэпы,
Ды тут не такія,
Тут чырвоныя, рудыя,
А там галубыя,
Ператканыя прыгожа
Нівамі, палямі,
Высокімі магіламі,
Цёмнымі лугамі.
А тут бур'ян, пяскі, талы...
І хоць-бы дзе на смех магіла,
Якая-б сэрцу гаварыла,
Што людзі тут раней жылі.
Ляжала пусткаю спрадвеку
Вакол зямля без чалавека
І дажыла такой да нас.
Мы, праўда, што-нішто змянілі:
Расце дзе крэпасць, дзе магілы,
Ўсяго наробім, будзе час!
О доля мая! Мая краіна!
Калі я вырвуся з пустыні?
Ці, можа, крый божа,
Тут і загіну.
І пачарнее чырвонае поле...
—Айда ў казармы, айда ў няволю!—
Нібыта крыкне хто нада мною.
І я ачнуся. Па-за гарою
Назад я крадуся па-над Уралам,
Як злодзей той па-за валамі.

Вось так я, дружа мой, святкую
Нядзельку кожную святую.

А ў панядзелак?.. Дружа-браце!
Надыйдзе ноч ў смярдзючай хаце,
Надыйдуць думы. Разаб'юць
На сто крат сэрца і надзею,
І ўсё, што выказаць не ўмею...
Прагоняць прэч і разнясуць.
І спыняць ноч. Цячэ вякамі
Гадзіна кожная ў той час.
І я крывавымі слязамі
Пасцелю вымачу не раз.

Перабяру усё паволі,
Каго, калі і дзе любіў,
Каму, калі дабро зрабіў?

Нідзе, нікому і ніколі...
Пражыў, што ў лесе прахадзіў.
А волі, сілы быў вялікай,
Ды сіла вышла на пазыкі,
А воля ў госцях упілася,
Яна к Міколу заблудзіла
І піць навекі зараклася.
Не паможа, мілы божа
Як то кажуць людзі,
Будзе каянне на свеце,
Звароту не будзе.

Малюся богу, каб заднела,
Як волі, сонца я малю.
Цвіркун замоўкнуў; «зоры» б'юць.
Тады малюся, каб сцямнела,
Бо на пазорышча вядуць
Старога дурня муштраваці,
Каб знаў як волю шанаваці,
Каб знаў, што дурня ўсюды б'юць.

Гады мінаюць маладыя
Мінула доля, дні благія
Прышлі, надзея-ж зноў сваё,
Ў няволі думкі-мары сее
І сэрцу жалю задае.
А можа гора пераплачу?
А мо' яшчэ дабро пабачу?
Вады Дняпроўскае нап'юся,
З табой спаткаюся, мой браце.
І можа, ў ціхай тваёй хаце
З табою буду размаўляці,
З табою, дружа мой. Баюся.
Баюся сам сабе спытаці.
А ці споўніцца ўсё гэта,
Ці то вокам кіну
Толькі з неба на цябе я
І на Украіну.
А часамі так бывае,
Што і слёз не стане;
І прасіў-бы сабе смерці,
Дык ты і Украйна,
І Дняпро крутабярэжны
І надзея, браце,
Не даеце мне у бога
Смерці пажадаці.

[Орская крэпасць 1847]—
[Масква, 1858] 16 Сакавіка

---

## МАСКАЛЁВА КРЫНІЦА

*Я. Кухарэнку*

— Дальбог, не варта жыць на свеце!..—
— Тапіся йдзі!—А жонка! дзеці?—
— Дык вось-жа, бачыш, не брашы!
А сядзь вазьмі ды напішы
Вось гэту быль жыцця... Дык можа
Іначай скажаце, нябожа.

— Пішы вось так: было
Сяло,
Ды каб не лезці на чужыну,
Пішы—у нас на Украіне.
А ў тым сяле ўдава жыла,
А у яе дачка была
І сын сямілетак.
Добра, меўшы дзетак,
У раскошы,—хваліш бога...
А ўдаве убогай
Бог, відаць,—нічога,
Бо залілі за скуру сала,
Траха не прапала;
Думала тапіцца
Ці йсці век маліцца,
Але шкада маленькіх стала!
Вядома, маці, што й казаць!
Ды, можа, сніўся нават заяц,
Бо ўжо Катруся падрастала...
Ці-ж ёй у дзеўках звекаваць!
Загінуць марна чорнабрывай?
Не, не з таго яна куста!
Такі-ж у тым сяле руплівы
(Бо ўсюды сіраты лянівы)
У наймах вырас сірата,
Увесь у бацьку быў хлапчына!
То сяк, то так
Прыдбаў гаротнік грашанят,

Адзежу справіў, жупаніну,
Ды нечакана, для патрэб,
На тыя грошы сіраціны
Купіў садочак і хаціну,
Падзякаваў за соль, за хлеб
І за навуку добрым людзям,
Ды да дачкі ўдавы хлапец
І рушыў з ручнікамі.
Не таргаваліся з сватамі
(Як водзіцца паміж панамі),
Не таргаваўся й пан-айцец
Усім на дзіва і на цуда!
За тры капы звянчаў у будзень...

Прасохлі вочы ўдавы.
Вось гэтак, дружа мой, жыві,
Дык весела й на свеце будзе.
І будзе варта ў свеце жыць,
Як будзеш мець каго любіць.
Хоць кажуць так яшчэ, нябожа.
Сябе любі, і бог паможа.
А давядзецца паміраць?
Млець над грашыма? Не, нябожа!
Любоў—ад бога благадаць!
Любі-ж, мой дружа, дзетак, жонку,
Дзялі з убогімі скарбонку,
Больш лёгка будзе й зарабляць.

---

1. Спачынем трохі, пагаворым.
Што, ярына йшчэ не ўзышла?
2. Ды дзе там ярына была,
Ў мяне на жыта не так скора
Яшчэ ўзаруць. Вы-ж жывеце
Даўно ўжо, дзядзька, а не чулі,
А можа чулі, й прамінулі—
Журнал друкуюць...
1. Це! це! це!
2. Ды што вы думаеце, польскі,
Ці гаспадар ўжо той маскоўскі,
Ды дзе, лаві! журнал Рэву!
Ці то... Ламод, купіў для Пашы
У Ромні я...
*1. (цішком)*
Дык вось як нашы!
Не чуў, на свеце як жыву.
2. У самым вось, у тым журнале
Мая Пашэта прачытала,
Як немцы сеялі траву,
А потым выжалі сярпамі!..
Ўсё вершаванымі радкамі
Напісана, не так як ў нас...
1. Як-бы ты, браце, свінні пас...
За слова выбачай.
*(нібы не чуе)* Гэй, хлопча! *(ходзіць пасвіствае, апотым спявае)*

Хлопча-малойча
З карымі вачамі,
Нашто табе жонка—
Камень за плячамі.
Ды годзе ўжо табе спяваць.
Што, можа хочаце канчаць?
А я, прызнацца, думаў тое...
А я дык думаю другое,
Што вып'ем мы ды і заснем,
А то да ладу не дайдзем;
Сядай лепш ды пішы, нябожа,
Ды кончым мы, як бог паможа.

---

Пажаніліся нябогі.
Дзівіліся людзі:
Як-жа гэтыя сіроты
Жыць на свеце будуць?
Мінае год, мінуў другі,
Дзіву зноў даюцца,
Дзе ў тых сірат у бяздольных
Спажыткі бяруцца?
І ў каморы, і ў аборы,
На таку й на ніве,
І дзетачкі, як кветачкі
Самі чорнабрывы
У жупанах пахаджаюць,
Старцоў заклікаюць
На абеды, багацеі-ж—
Самі не мінаюць.
Не міналі сябелюбы,
Ды ўсё шкадавалі,
Што такім дабром сіроты
Старцоў частавалі!
«Калі плеснее—прадалі-б:
Гэта-ж у іх дзеці!..»
Вось паслухай-жа, што робяць
Зайздрасці на свеце,
І галодная пражэрнасць.
Хадзілі, хадзілі
Покуль ноччу, шкадуючы,
Хаты не спалілі...
Няхай-бы быў неспадзяваны
Які магнат адукаваны,
Было-б не шкода,—ці-ж не так?
А то апошні той бядняк
Лютуе гэтак. Цяжка, браце,
Людзей на старасць распазнаці.
А яшчэ горш ззамаладу
Гадзіну кахаці.
Зачаруе змяінымі
Карымі вачыма...
Хай яго! Забыўся, дурань,
Што смерць за плячыма.

---

Да сцябла ўсё пагарэла,
І дзеці згарэлі.

А суседзі ўсе навокал
З радасці шалелі.
Багацеі радасць мелі,
Што дабра прыдбалі,
А бедныя цешыліся,
Што роўнымі сталі!
Узяліся спагадаці,
Жалю задаваці:
«Шкода, шкода! Каб-жа знаці—
Грош-бы трэба дбаці,
Усё-б такі не так яно...
Зрэшты, брат Максіме!
(Бо яго Максімам звалі)
Распрадай скаціну,
Ды хадзі ка мне ў найміты,
Што будзе, дык будзе.
Будзем зноў чумакаваці,
Покуль выйдзем ў людзі,
А там зноўку...» Падзякаваў
Максім за параду.
«'Шчэ пабачу, як там будзе;
Калі не дам ладу,
Дык тады ўжо, пэўна-ж, трэба
Ў наймы йсці нанова...
Дзе вось толькі Кацярына,
Чарнявыя бровы!..
Яна мне давала раду
І цяпер парадзіць!..»
Ды апошняя парада
Навекі завадзіць.
Валы твае і каровы
Разам паздыхалі,
А Катруся з маскалямі
Дзесь павандравала!

---

Цяпер вось так пішы, нябожа.
Максім падумаў, пажурыўся,
А потым богу памаліўся,
Прамовіў двойчы:—Божа! божа!—
Дый больш нічога.
Ад царыцы
Прышоў указ—ілбы галіць.
«Не даў удоўцы утапіцца,
Не дам-жа й з торбаю хадзіць»,
Сказаў Максім, і дом пакінуў,
Удовінага, бачыш, сына
Народ у рэкруты здаваў.
Такіх нямала цёмных спраў
Цішком умее свет чыніці!
А вас, пісьменных трэба-б біці,
Каб не крычалі:—Ах! алах!
Не варт, не варт на свеце жыці!—
Што цёмныя так не крычаць?

2

Хіба-ж жывуць яны? і знаюць,
Як вы сказалі, благадаць,
Любоў...

1

... Што? што? Недачуваю...

2

Яны гібеюць і не дбаюць,
Або, па-вашаму, растуць,
Нібы капуста на гародзе.

1

Вось так па-вашаму! Ну, годзе-ж!
Няхай сабе і не жывуць..
А ўсё-ж скажу такі: як хочаш,
А вы ім жыць не даеце,
Бо для сябе вы жывяце,
Пісьменныя закрыўшы вочы.

2

Як гэтак будзем мы пісаць,
Дык і да вечара не скончым.
Ну, дзе той занядбаны зяць?

---

Удовін сын прышоў дадому,
А зяць пайшоў у маскалі.
І не шкада было нікому,
Яшчэ й смяяліся былі!

Вось не ведаю, дальбог-жа,
Ці яна бывала,
Кацярына, у мацеры.
Ці так і прапала?
Была чутка, па Умані
Стрыжаную гналі
За крадзеж... Пасля навекі
Пахавалі хвалі.
Ды ўсё гэта,—знаеш, людзі
Ўтопяць і задушаць!
А ці можа гэта праўда
Як на вярбе грушы.
Пра яе я знаю толькі,
Нават песню склалі.
Я чуў тады—на досвітках
Дзяўчаты спявалі:
Шэлест, шэлест па дубіне,
Хлопцы шапкі пагубілі;
Толькі найміт не згубіў,
Дачку ўдоўкі палюбіў...
Саромная, няхай ёй ліха!
Гады міналі ціха-ціха,
Вось так пішы!—і за грахі
Бог ляхаў пакараў ліхіх,

Пужаў Пугач па-над Уралам
Пііты ў одах выхвалялі
Вайну й царыцу.—Толькі мы
Цішком сядзелі, дзякуй богу.

Пасля вялікае зімы
Вярнуўся і Максім бязногі:
У бітве, кажа, загубіў.
Ды срэбны крыжык зарабіў!

Чаго ён прыплёўся? Ні хаты, ні ў хаце
Няма ні сястры, ані брата ў яго.
Чаго-ж ён прыбіўся? Хто-ж знае чаго!
Ці чуў ты, што кажуць: лягчэй паміраці
Хоць на пажарышчы ў сваёй старане,
Ніж дзесьці ў палацах! Ці чуў ты? Ды не...
Эй, дзядзечка, будзем хутчэй-жа пісаці,
Бо хочацца спаці як вам, так і мне.—

---

Затужыў маскаль-калека:
Дзе ён голаў схіліць?
Сын удовін у салдатах,
Удава ў магіле!
Да каго-ж ён прытуліцца?
Дзе перазімуе?
Ужо восень, неўзабаве
Зіма залютуе.
Няма яму ў свеце долі:
Паляцела ў поле!..
Папрасіўся зімаваці
Да дзяка у школу,
Бо і пісьменнасці, дзякуй,
Маскалі навучылі.
І касу меў, бо й маскалі
Як адзін насілі
Косы сівыя тым часам
З вітымі кудрамі
І мукою пасыпалі,
А нашто—не ўцяміць.
Максім часам, як пісьменны,
Дзяку памагае
І на кліpace, бывала.
І псалтыр чытае,
І папу дары людскія
З шкалярамі носіць,
А ў піліпаўку, гаротны,
З торбай хлеба просіць!

Дармо, ты знай сваё пішы,
Ды толькі людзям не брашы!

Ад яго ніхто і слова
Не пачуў благога!
Наша доля і нядоля,—
Кажа ён,—ад бога!
Ані вохне, ні заплача,
Як малы хлапчына;
І сабакі не кусалі
Маскаля Максіма.
А ў нядзелю, або ў свята,
Нібы прыадзецца,
На удовіну пустэчу
Глянуць валачэцца.
Сядзе сабе у садочку..
Удаву згадае
І за грэшную нябогу
Псалтыр прачытае,
Кацярыну за здароўе
Памяне маўкліва,
Вытра слёзы—ўсё ад бога—
Ды ізноў шчаслівы.
А ў пятроўку і спасаўку
Не спачыне ў школе,
А з рыдлёўкай і лапатай
Кандыбае ў поле.
Каля шляху, пры даліне—
От-жа не ўгадаеш,
Што калека вырабляе?—
Крыніцу капае!
Дый выкапаў. А налета
Крыніцу свянцілі
На самага Макавея,
І дуб пасадзілі
На прыкмету падарожным;
А па тым па леце
Маскаля ўжо нежывога
Знайшлі ў яры дзеці
Каля самае крыніцы.
Вышаў падзівіцца
Перад смерцю, небарака,
На сваю крыніцу.
Грамадою пры даліне
Яго пахавалі,
І даліну, і крыніцу
На ўспамін назвалі
Маскалёваю. На Спаса,
Або Макавея
І дасюль ваду там свенцяць,
І дуб зелянее.
Хто йдзе, едзе—не мінаюць
Зялёнага дуба,
У цянёк усе сядаюць,
Ды ціха, ды люба,
П'ючы ваду сцюдзёную,
Згадваюць Максіма...

Так жывіце, недавукі,
Жыць не апастыне.

[Орская крэпасць
1847]

---

* * *

Прывыкне, кажуць, сабака за возам бегчы, дык бяжыць і за саньмі.

Вось так і я цяпер пішу:
Паперу толькі марна трачу...
Было-ж! Далібог-жа, не брашу!
Успомню што, ці што пабачу,
Дык так утну, ажно заплачу...
І нібы сам пералячу
Хоць на гадзіну на Ўкраіну;
На родную ўзгляну зямлю,
І як дабро каму зраблю,
Так люба сэрца адпачыне.
Калі-б сказаць, што не люблю,
Што я Ўкраіну забываю,
Або здрадлівых праклінаю
За тое, што цяпер цярплю,—
Дальбог, браточкі, прабачаю
І літасцівага малю,
Каб чым не ўспомнілі нягожым;
Хоць я вам крыўды не рабіў,
Ды ўсё-ж такі між вамі жыў,
Дык штось і засталося, можа.

[Орская крэпасць
1847]

* * *

А ну ізноўку codeршаваць!
Цішком, вядома. Ну, нанова,
Пакуль навінка на аснове,
Старызну божжу ліцаваць,
А гэта... Як-бы вам сказаць,
Каб не збрахаўшы. Ну нанова
Людзей і долю праклінаць!
Люд за тое, каб нас знали
Ды нас шанавалі,
Долю нашу, каб не спала,
Ды нас даглядала.
А то, бач, што нарабіла:
Кінула малога
Ў раздарожжы, і не дбае...
А яно, нябога,
Сівавусае, малое—
Дзіцянё, вядома!—
І падыбала паціху
Сцежкай незнаёмай
Аж за Урал. У пустыні
Прыстала ў няволі...
Як-жа цябе не праклясці,
Здрадлівая доля?
Не выкляну-ж цябе, доля,
А буду хавацца
За валамі, і паціху
Вершамі займацца,
Сумаваць і спадзявацца,
Што ў госці ў няволю
З-за Дняпра ты шырокага
Прыдзеш, мая доля!

[Орская крэпасць
1848]

* * *

У бога пад лавай ляжала сякера:
(Па свеце бог тады хадзіў
З Пятром, і цуды ён тварыў)
Тут, як на той верад,
Дый цяжкое ліха,
Любенька ды ціха
Скраў кайзак сякеру,
Дый пайшоў па дровы
Ў шумную дуброву;
Аблюбаваўшы дрэва—цюк!
Як вырвецца сякера з рук—
Пайшла па лесе касавіца,

Аж страх было глядзець-дзівіцца.
Дубы, таўшчэзныя на здзіў,
Нібы траву, віхор касіў,
Пракосы сцелячы; а з яру
Устаў пажар, і дымнай хмарай
Святое сонца засланіў.
І стала цемра, ад Урала
Аж да Тангіза, да Арала
Кіпелі возеры тады.
Палаюць сёлы, гарады,
Рыдае люд, звяры скаголяць,
І у Сібіры за Таболам
Хаваюцца ў снягах. З тых пор
Сем год сякера лес сцінала,
І пажарышча не згасала,
І божы свет за дымам мёр.
. . . . . . . . . . . . . . .
На лета восьмае ў нядзелю,
Як быццам ляля ў лёлі белай,
Святое сонейка ўзышло.
Пустыня цыганом чарнела:
Дзе горад быў, або сяло—
І галавешка ўжо не тлела,
І попел ветрам размяло,
Былінкі нават не ўцалела;
Адным-адно ўсяго шумела
У стэпу дзерава адно.

Чырванеюць па пустыні
Пяскі чырвоныя ды гліна,
Бур'ян калючы ды будзяк,
Ды часам тырса з асакою
Чарнее ў яры пад гарою,
Ды дзікі іншы раз кайзак
Паціху выедзе на гору
На хілым вярблюдзе сваім.
Бывае дзіўна часам тым:
Стэп быццам з богам загаворыць,
Вярблюд заплача, і кайзак
Панурыць галаву і гляне
На стэп і на Карабутак.
Сынгіч-агач прыгадваць стане,
Паволі спусціцца з гары
І згіне ў глінянай пустыні..

---

Адным-адзіным пры даліне
Ў стэпу ля дарогі
Высокае стаіць дрэва,
Кінутае богам.
Кінутае сякераю
І агнём пустыні.
Шапочацца з далінаю
Аб даўняй часіне.
І кайзакі не мінаюць
Дзерава святога,
На даліну заязджаюць
Адпачыці троха,
І моляцца, і афярай
Дзерава благаюць,
Каб галіны распусціла
У іх бедным краі.

[Орская крэпасць
1848]



## ВАРНАК

Блукаючы ў чужым краі,
Над Елекам, сустрэў я дзеда
Старога вельмі. Наш зямляк
І недамучаны варнак
Стары той быў. Нейк мы ў нядзелю
Адзін другога ў полі стрэлі
І сталі гутарыць. Стары
Згадаў сваю Валынь святую
І волю-долю маладую,
Сваю бывальшчыну. І мы
За валам у траве прыселі
І гаварылі, што хацелі,
Адзін другому.—Доўгі век!—
Стары сказаў.—Усё ад бога!
Ад бога ўсё! А сам нічога
Дурны не зробіць чалавек!
Я марна сам, як ты пачуеш,
Я сам свой пакалечыў век.
І ні на кога не сярдую,
І ні ў каго вось не прашу я,
Нічога не прашу. Вось так,
Мой сыне, дружа мой адзіны,
Так і загіну на чужыне
Ў няволі. І стары варнак
Заплакаў ціха. Сівы браце!
Пакуль жыве надзея ў хаце,—
Няхай жыве, не выганяй!
Няхай зрэдку хоць сагрэе
Пустку жар у печы,
І пальюцца маладыя
Слёзы з воч старэчых;
І, умытае слязамі,
Сэрца адпачыне,
Паляціць яно з чужыны
У сваю краіну!

— Багата шмат чаго не стала,—
Сказаў стары:—Вады нямала
У мора з Іквы уцякло...
Над Іквою было сяло;
У тым сяле на гараванне
Ды на пагібель вырас я.
Ліхая долечка мая!..
У нашае старое пані
Малыя панічы былі;
Якраз аднагадкі са мною.
Яна й бярэ мяне ў пакоі
Сынкам на забаўку. Раслі,
Раслі паняты, вырасталі,
Нібы шчаняты. Пакусалі
Не аднаго мяне былі.
Вось і вучыць іх пачалі
Чытаць, пісаць. На безгалоўе,
Вучуся й я. Слязамі! Кроўю!
Пісьмо лілося тое... Нас,
За панскіх тых сабак таннейшых,
Вучыць чытаць?!
Маліцца богу,
За сахою спатыкацца,
А болей нічога

Не павінен знаць нявольнік—
Гэта яго доля!
Вось і выўчыўся я, вырас,
Прашу сабе волі;
Не дае, і ў маскалі
Клятая не голіць.
Што на свеце тут рабіці?
Зноў пайшоў да нівы...
А панічоў у гвардыю
Аддала шчаслівых...

Часіна цяжкая настала,
Насталі цяжкія гады!
Я за сахой працую дбала;
Я сірата быў малады,
А у суседа падрастала
У наймах дзеўчына. І я...
О доля! долечка мая!
О божа мой! О мой адзіны!
Тады малой была дзяўчына,
Амаль зусім дзіцём была...
Не нам цябе судзіць, магутны:
Дык вось яна мне на пакуты
Ды на пагібель падрасла.
Не давялося й наўглядацца...
А я ўжо думаў з ёй пабрацца,
У весялосці й згодзе жыць,
Людзей і госпада хваліць...
А давялося...
Накупілі
Крамніны, піва наварылі,
Не давялося толькі піць.
Бахур старое пані сівы
Украў крамніну, выліў піва,
Пусціў пакрыткаю... Дарма.
Мінула... непатрэбна!.. Годзе
Цяпер і ўспамінаць. Няма,
Няма, мінулася жахліва...
Пакінуў я саху і ніву,
Пакінуў хату і гарод,
Усё пакінуў. Чортназводзіў
Стаць мне за пісара ў народзе
То сяк, то так мінае год.
Пішу сабе, з людзьмі бываю,
Ды хлопцаў добрых падбіраю.
Мінуў другі... І па вясне
Паны дамоў папрыязджалі,
Ужо засватаныя. Шмат
Пілі яны ў двары, гулялі,
Свайго вяселлейка чакалі,
Ды нашых маладых дзяўчат,
Як бугаі, перабіралі,—
Вядома, панічы. І вось,
І мы чакаем іх вяселля...
І нейк на сёмуху ў нядзелю
Іх і звянчалі разам двох,
У іх дваровым-жа касцёле.
Яны, бач,—ляхі. І ніколі
Нічога лепшага сам бог
Не бачыў на зямлі вялікай,
Як маладыя іх былі...
Зайгралі весела музыкі,—
Іх ад касцёла павялі
Ў нанова ўбраныя пакоі..
А мы і стрэлі іх, і ўсіх—
Княжат, панят і маладых—
Усіх парэзалі. Крывёю
Вяселле ўмылася! Не ўнік
Нажа ніводзін каталік:
Усе зляглі, як парасяты
Ў смуродным багнішчы. А мы,
Управіўшыся, новай хаты
Пайшлі шукаці; і знайшлі
Сабе зялёны дах багаты
У цёмным лесе. У лугах,
У вольных стэпах, у ярах
Крутых, глыбокіх—скрозь нам хата!
Было дзе пагуляць заўзята
І адпачыці дзе было.
Мяне гаспадаром абралі;
Сям'я мая штодзень расла
І ўжо да сотні дарастала.
Як з парасятаў кроў цякла,
Я ўсё знішчаў, што панам звалі,
Без літасцівасці і зла,—
А нішчыў так. І сам не знаю,
Чаго хацеў у тыя дні?
Я тры гады хадзіў з нажамі,
Нібыта п'яны той разнік.
Да слёз, да смерці, да пажару—
Я да ўсяго тады прывык.
Было як жабу на жыгале
Дзіцёнка спражыш на агні,
Ці возьмеш голую паненку,
Распяўшы, пусціш на кані
Ў шырокі стэп.
Усё, усё тады бывала—
І ўсё не цешыла ані..
Адурэў я, цяжка стала
Ў нетрах жыць, бадзяцца;
Думаў сам сябе зарэзаць,
З светам развязацца.
І зарэзаў-бы... Ды дзіва,
Цуд нябачны стаўся
Нада мною, недалюдкам...
Досвітак займаўся,
Вышаў я з нажом аднойчы
З Броварскага лесу,
Каб зарэзацца. Гляджу я,
Як хто з неба звесіў
Святы Кіеў наш вялікі!
Святым цудам ззяюць
Храмы божыя, нібыта
З богам размаўляюць.



Пазіраю, а сам млею.
Ціха зазванілі
У Кіеве, як на небе.
О божа мой мілы!
Які дзіўны ты!.. Я плакаў,
Да полудню плакаў...
І мне гэтак добра стала:
Навата а ні знаку
Той нуды не засталося,—
Як перарадзіўся...

Паглядзеў на свет навокал
І перахрысціўся,
Ды пайшоў паволі ў Кіеў
Госпада маліці,
Ды суда-суда людскога
У людзей прасіці.

[Орская крэпасць
1848]

* * *

Ой гляну я, падзіўлюся
На той стэп, на поле;
Ці не дасць бог літасцівы
Хоць на старасць волі?
Пайшоў-бы я на Ўкраіну,
Пайшоў-бы дадому,
Там-бы мяне прывіталі
Радыя старому;
Там-бы я спачыў хоць трохі,
Молячыся богу;
Там-бы я... Ды шкода й думкі—
Не будзе нічога.
Як-жа-ж гэта у няволі
Жыці без надзеі?
Людзі добрыя, навучыце,
А то адурэю!

[Орская крэпасць
1848]

---

* * *

Ды не дай ты, бог, нікому
Так, як мне цяпер старому,
У няволі прападаці,
Марна леты каратаці.

Ой пайду я ў стэп-прасторы
Ды развею сваё гора...
«Не йдзі! З гэтай хаты,—баюць,—
Пагуляць не выпускаюць!»

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

Сястра старая Апалона!
Калі-б вы часам, хоць на час,
Прыдыбалі-б такі да нас,
Ды, як бывала у дні оны,
Узвысілі-б свой божы глас
Да оды пышна-баявое,
Дый захадзіліся-б абое
Цароў, напрыклад, апяваць!
Бо як па праўдзе вам сказаць,
Дык вельмі ўжо і мне самому
Абрыдлі тыя мужыкі,
Пакрыткі, панічы, панкі;
Хацелася-б сагнаць аскому
На каранованых главах,
На тых памазанніках божых..
Дык што-ж? Не ўтну! А як паможаш
Пакажаш птахаў тых упрах
Скубсці і патрашыць, дык можа
Й мы патрымаем у руках
Памазаннікаву чупрыну.
Пакіньце-ж свой святы Парнас,
Прыдыбайце хоць на гадзіну

Ды хоць старэнькі божы глас
Узвысьце, дзядзіна! Ды ладам,
Ды добрым складам, хоць на час,
Хоць на гадзіначку у нас
Мы венценосную грамаду
Пакажам спераду і ззаду
Сляпым людзям. У добры час
Давай пачнем, мая парада!

---

I

У Ерусаліме не бачна нікога!
Вароты замкнёны, як быццам чума
Ў Давідавым месце, захованым богам,
Сядзіць на пляцы. Не, чумы—дык няма!
А горшае ліха, благая часіна
Пакрыла Ізраіль: царова вайна!

Князі царовы, і ўсе сілы,
І юнакі, і ўвесь народ,
Замкнуўшы ў горадзе ківот,
Гурмой у поле павалілі
І там у бітвах сіроцілі
Маленькіх дзетачак сваіх.
А ў месце маладыя ўдовы,
Ў сваіх святліцах адмысловых
Замкнуўшыся, дзяцей малых
Калышуць, плачачы. Прарока,
Давіда, прагнага цара,
Клянуць свайго гаспадара.
А ён, узяўшыся у бокі,
Па даху кедравых палат
У срэбнай рызе пахаджае
І, нібы кот той, пазірае
На сала, на зялёны сад
Суседа Гурыя. А ў садзе,
У тым зялёным вертаградзе,
Вірсавія купалася,
Як у райскай плыні,
Таго Гурыя сябрыня,
Царова рабыня;
Купалася сабе з богам,
Грудзі свае мыла,
І цара свайго святога
У дурні пашыла.

Сцямнела і цемрай кругом ахінёны,
Сумуе ў дрымотнасці Ерусалім.
У пышных палацах, нібыта шалёны,
Давід пахаджае—о цар неўпынёны!
І сам сабе кажа.—Я... Мы павялім!
Я цар над божым над народам!
І сам я—бог маёй зямлі!
Я—ўсё!.. А трохі потым
Рабы вячэру падалі
І кубак добрага сікеру..,
І цар сказаў, каб на вячэру
Рабы рабыню прывялі,
Такі-ж Вірсавію. Ніўрокам—
Да божага цара-прарока
Сама Вірсавія прышла...
І павячэрала, сікеру
З прарокам выпіла й пайшла
Крыху спачыць пасля вячэры
З сваім царом. І Гурый спаў;
Яму й не снілася, вядома,
Што ціха дзеялася дома,
Што з дому цар яго украў
Не золата, не серабро,
А лепшае яго дабро,
Яго Вірсавію украў.
А каб не ведаў ён аб шкодзе,
Дык цар забіў яго, і годзе!
А после цар пры ўсім народзе
Заплакаў трохі, абдурыў
Псалмом старога Анафана...
І зноў вясёлы, ізноў п'яны
Каля рабыні заходзіў.

Святыя так цары жывуць.
А як-жа простыя? Не знаю,
І раю вам таго не знаць
Ды ні ў каго і не пытаць,
Каб не зашкодзіла, бывае... *

---

II

Давід, святы прарок і цар,
Не вельмі быў благачасцівы.
Была дачка ў яго Фамар
І сын Амон. І нам не дзіва:
Бываюць дзеці і ў святых,
Ды не такія, як другіх,
А іншыя... Амон шчаслівы,
Прыгожы першы сын яго,
Ляжыць, хварэючы чагось.
Давід і стогне, і рыдае,
Рве рызу, попел пасыпае
З бяды сабе на галаву:
«Я без цябе не пажыву
І дня адзінага, мой сыне,
Мой лепшы, дарагі хлапчына!
Не ўбачу сонца і зару,
Я без цябе памру, памру!»
І, плачачы, ідзе да сына,
Ажно трушком нібы бяжыць.
А той, бугай сабе здаровы,
Ў харомах сваіх кедровых
Ляжыць,—аж стогне, а ляжыць.
Смяецца з дурня; аж галосіць,
Аж плача, бедны, бацьку просіць,
Каб да яго Фамар прышла.
— Мой добры бацька і мой цару!

*) Радкі 21—26 узяты з рукапісу 1848 г.

Скажы сястры маёй Фамары,
Каб коржыкаў мне напякла,
Ды каб сама і падала;
Пакаштаваўшы іх, устану
І ачуняю я... Назаўтра рана
Фамар спякла і падала
Для брата коржыкі. За рукі
Амон бярэ яе, вядзе
Ў пакоі цёмныя, кладзе
Сястру на ложак. Ломіць рукі,
Сястра рыдае і, рвучыся,
Крычыць да брата: «Схамяніся!
Амоне, браце мой здрадлівы!
Адзіны браце мой! Я... Я...
Сястра адзіная твая!
Дзе дзецца мне? Дзе грэх жахлівы
І сорам дзець? Цябе самога
І бог, і людзі праклянуць!..»
Не памагло такі нічога!..
Вось так царэвічы жывуць,
Дурэючы на свеце.
Любуйцеся, людскія дзеці.

---

III

І вось пражыў Давід на свеце
Ужо нямала год,
Абнядужаў, пакрывалі
Старога рызамі яго.
А ўсё-ж такі не награвалі
Ката блудлівага свайго.
Вось хлопцы і прымеркавалі
(Натуру воўка добра зналі!),
І, каб нагрэць яго, ўзялі
Найлепшых за царыц красою
Дзяўчат старому навялі—
Хай грэюць кроўю маладою
Свайго цара. І прэч пайшлі,
Замкнуўшы дзверы за сабою.

Аблізаўся кот нядошлы
І распусціў сліны.
Кіпцюры распасцірае
Да Саманцыяніны,
Бо была сабе на ліха
Лепшая між імі,
Між дзяўчат,—нібы лілея
Пышная ў даліне
Паміж кветак. Ды яна вось
І грэла сабою
Цара свайго, а дзяўчаты
Між сабой гулялі
Голенькія. Як яна там
Грэла, я не знаю;
Знаю толькі, што цар грэўся
І... і не позна ю.

---

IV

Па двару ціха пахаджае
Стары вясёлы Рагвалод;
Дружына, юнакі, народ
У золаце навокал зззяюць.
У князя свята: выглядае
З Літвы ён князя-жаніха
У сваты да дачкі Рагнеды.

Перад багамі Лель і Лада
Агонь Рагнеда развяла,
Алеем пахкім паліла
І сыпала на вугаль ладан;
Нібы валькірыі, навокал
Танцуюць, цешацца дзяўчаты
І прыпяваюць:

— Гой, гоя, гоя!
Новыя пакоі
Кветкамі ўбіраці
Ды гасцей чакаці!—

За Полацкам, як тая хмара,
Чарнее пыл. Бягом ляцяць
Хлапцы і сівыя баяры
З Літвы вясельных сустракаць.
Сама Рагнеда з Рагвалодам
Пайшла з дзяўчатамі, з народам.

Не з Літвы йдзе князь спадзяваны,
Шчэ незнаёмы, ды чаканы;
А там з Кіева турам-буйвалам
Па Рагнеду йдзе, ідзе вепрышчам
Владзімір князь з кіеўлянамі.

Прышлі і горад абступілі
Кругом, і горад запалілі.
Владзімір князь перад народам
Забіў старога Рагвалода,
«Пацця» народ, княжну «пая».
«Адыдзе ў воласці свая!»—
«Адыдзе» з шумам. І растлі ю,
Рагнеду тую маладую,
І пражане ю, і княжна
Па свеце блукае адна,
Не зробіць з ворагам нічога.
Дык вось наколькі ў іх святога
У тых царах!

---

V

Бадай іх каты пасцінали
Усіх цароў, гадзюк людскіх!
Дакука з імі, каб вы зналі!
Як дурань ходзіш каля іх,
Не знаеш, як і дзе ступіці!

Дык што-ж, парайце, мне рабіці
Цяпер з паганымі? Скажы,
Сястра старая Апалона!
Научы, галубка! Памажы
Палазіць трохі каля трона!
Каралечкі, як зараблю,
Табе к вялікадню куплю.
Дык пададзімся-ж у лакеі
І дбайна ў новенькай ліўрэі
Пачнем цароў сваіх любіць.
Шкада і алавок тупіць,
Бо дзе няма святое волі,
Не будзе там дабра ніколі.
Навошта-ж нам сябе дурыць?
Хадзем у селішчы, там людзі,
А там, дзе людзі,—добра будзе;
Там будзем жыць, людзей любіць,
Святога госпада хваліць!

[Кос-Арал 1848]—
[1858]

---

* * *

Дабро, хто мае сам хаціну,
А ў той хаціне ёсць сястра
Ці маці добрая.—Дабра,
Дабра такога і ў паміне
Ў мяне ад роду не было,
А так сабе жыццё ішло...
. . . . . . . . . . . .
І давялося неяк мне
Ў чужой далёкай старане
Заплакаць, што няма радзіны,
Няма прыстанішча, хаціны!
. . . . . . . . . . . . . .
Мы доўга ў моры прападалі;
Прышлі ў Дар'ю, на якар сталі;
З Ватагі пісьмы падалі.
І ўсе паціху зачыталі.
А мы з калегам прыляглі,
Ды штось такое размаўлялі.
Я думаў: дзе-б таго дабра,
Пісьмо ці маці ўзяць на свеце?
А ты, брат, маеш?—Жонка й дзеці,
І дом, і маці, і сястра,—
А пісьма няма...
. . . . . . . . . . . . . . .

[Кос-Арал
1848]

---



## КТЫТАРОЎНА

Даўно ўжо гэтае было,
Яшчэ калі барцы хадзілі
Па сёлах, ды дзяўчат дурылі,
З народу кпілі, хлопцаў білі
Ды верхаводзілі сялом,
Нібы гусары на пастої;
'Шчэ ў час гетманшчыны святое—
Даўно ўжо гэтае было

———

У нядзелю на сяле,
У карчомцы на стале
Сядзелі лірнікі, ды гралі,
За танец шэляг бралі.
Кругом аж хмара пылу ўстала.
Дзяўчаты танцавалі
І дзецюкі...—«Ну, адскакалі!
Давай другі!»—«І гэты добра!»
І зноўку ліры зараўлі,
І зноў дзяўчаты, як сарокі,
А дзецюкі, падпёршы бокі,
Упрысядкі пайшлі.
. . . . . . . . . . . . .
Найлепшы з іх дзяцюк Мікіта
Стаіць на лаве ў шэрай світе.
Найлепшы хлопец, ды байструк,
Байструк сабе, яшчэ і ўбогі,
Дык і нікому да нябогі!
Стаіць сабе, як той . . . .
Плячыма столь ён падпірае,
Ды ўсё глядзіць, і заміраe,
На ктытароўну. Тая ў кветках
Як намалёвана стаіць,
І на Мікіту непрыкметна
Нібыта глянула. Гарыць!
Гарыць Мікіта ў шэрай світе!
Шэляг ён вымае
І за той апошні грошык
Музыку наймае,
І няроўню-ктытароўну
Ў танец запрашае!!
— Адчапіся, прайдзісвеце!—
І зарагатала
Ктытароўна,—хіба табе
Наймічак не стала?—
Насмяялася дзяўчына
З беднага Мікіты,
Насмяялася пры людзях,
Што ён у шэрай світе.
Будзе табе, ктытароўна!
Заплачаш, нябога,
За той смех свой . . .
Дзе-ж Мікіта?
Далёка ў дарогу
Пайшоў сабе... З таго часу
Не чуць яго стала...
З таго часу ктытароўна
Штосьці занепала...

Дадому плачучы прыйшла,
І з плачам спаць яна лягла.
І не вячэрала! Не спала,
Якой лягла, такой і ўстала.
Як адурэла! Што рабіць?

Сама не знае! А Мікіта,
Нібыта сыч, у шэрай свіце
Перад вачыма ўсё стаіць!
Напасць дый годзе! Ктытароўна!
У час благі з таго няроўні
Ты насмяялася!.. Шкада
Табе яго... Туга, нуда
І сум душу апанавалі,
І ты заплакала! Чаго?
Таго, што цяжка пакахала
Мікіту беднага таго!

Дзіва дзіўнае на свеце
З тым сэрцам бывае!
Увечары цураецца,
Ранкам зажадае!
Ды так цяжка зажадае,
Хоць шукаць ідзі ты
На край свету... Вось так цяпер
Не знаходзіць быту
Ктытароўна... Хоць у воду,
Абы да Мікіты . . . . .
. . . . . . . . . . . . .
Сцеражыцеся, дзяўчаткі,
Смяяцца з няроўні,
Каб не было і вам таго,
Што той ктытароўне!

Нібы быліна засыхала,
А бацька-маці сумавалі,
На прошчу ў Кіеў павялі.
Святымі зёлкамі паілі,
І ўсё-такі не памаглі!
Праклала сцежку да магілак,
Усё глядзець яго хадзіла.
І сцежка стала зарастаць,
Бо ўжо не здолее і ўстаць,—
Дык вось што смехі нарабілі!
А ён кануў, праваліўся;
Быццам і не чулі,
Ці быў калі? Год за годам
Тры гады мінулі.

---

На чацверты—у нядзелю
У карчомцы на сяле,
На шырокім на стале
Ціха лірнікі сядзелі;
Па шэлягу бралі,
Ізноў тое йгралі,
Што й залетась. А дзяўчаты
Таксама дробна танцавалі,
Як і залетась...
Тут заўзяты,
У сіняй шапцы, ў жупаніне,
Ў штанах чырвоных, што каліна,
Упрысядкі ляціць казак,
Яшчэ і прыпявае так:

Дзякуй, дзякуй, бацюхну,
Дзякуй, дзякуй, матухне,
Што нас здабылі!—
Як нас здабывалі,
Жыта рассыпалі
Ўночы на печы

Гарэлкі! Мёду! Атамана!
Дзе соцкі ваш? А ну! Паганы,
Агідны зброд, а не грамадства!
Хадзіце біцца! Ці змагацца!
Бо я—барэц! . . . . . .
Не нядзелю,
Не дзве, не тры—нядзялек колькі,
Як той хваробы, як той болькі
Ўсёй грамадой глядзелі
Таго барца... Перабірае,
Як той паніч... І скуль прышло
Такое гора? Ўсё сяло
Здаволіць гада сіл не мае;
А ён сабе гуляе, п'е,
Ды хлопцам жалю заўдае
Тымі дзяўчатамі. Дзяўчаты
Аж панядужалі па ім:
Такі прыгожы ды багаты!
Ужо й не борыцца ні з кім,
А так сабе гуляе,
Ды вечарамі у садочак
Да ктытара ўчашчае.
А ктытароўна сустракае,
Прыпявае, прымаўляе:
— Ці не той ты Мікіта,
Што з тасёмкамі світа?—
Той, ён той, што ў даўні час
Ты насмяялася не раз;
А цяпер сама да хлопца
У садочак ходзіш,
Сама яму, байстручыне,
Быццам пану годзіш!
Не дзень, не два ктытароўна
Ў садочак хадзіла;
Не дзень, не два, быццам пану,
Мікіту гадзіла.
Дагадзілася дзяўчына
Да самага краю
І не ўчула!
Дні мінулі,
Месяцы мінаюць;
Прайшло лета, прайшла восень;
Прайшоў сёмы месяц, восьмы,
Ужо й дзевяты настае,—
Настануць беданькі твае!
. . . . . . . . . . . . . .
У ктытара у садочку,
У яры, крыніца
Пад вярбою... Да крыніцы
Не вады напіцца,

Ледзьве ходзіць ктытароўна—
Трохі пажурыцца,
Паплакаці, пагадаці,
Як ёй звекаваці,
Дзе ёй дзецца ад сораму,
Дзе яго схаваці?
. . . . . . . . . . .

Раз увечары зімою,
У адненькай свіце,
Ідзе босая па снезе
Ктытароўна з дзіцем.
То падыйдзе да крыніцы,
То зноў адступае,
А з каліны, як гадзюка
Байструк выглядае!
Палажыла ды на зрубе
Ктытароўна сына
І пабегла... А Мікіта
Вылез з-пад каліны,
Дый укінуў у крыніцу,
Як топяць шчаняты.
А сам пайшоў, спяваючы
Соцкаму сказаці,
Каб ішоў ён з грамадою
Дзіцянё шукаці.

---

У нядзелечку раненька
Збіралася грамаданька,
Ды крыніцу вылівалі,
Ды дзіцё тое шукалі.
І дасталі твайго сына,
Ктытароўна, з багавіння!
Ой няшчасную забралі.
У кайданы закавалі,
Спавядалі, прычашчалі
Бацьку-матку дакаралі
Грамадою асудзілі
І жывую палажылі
У труну!.. і сына з ёю!
Дый засыпалі зямлёю!
Слуп высокі муравалі,
Каб пра дзеўку людзі знаді,
Сваіх дзетак навучалі,
Каб вучыліся дзяўчаткі,
Раз не вучаць бацька-матка

---

Барца таго ў сяле не стала;
А людзі ў Польшчы сустракалі
Якогась паніча. Пытаў:
— Ці жыва, кажа, ктытароўна?
Ці насміхаецца з няроўні?—
Дык гэта сам ён! Пакараў
Яго гасподзь за грэх і здзекі
Не смерцю, не,—ён будзе жыць,
І сатаною-чалавекам
Па свеце будзе ён хадзіць,
І вас, дзяўчатачкі, дурыць
Ва векі.

[Кос-Арал
1848]

* * *

Павей, ветру, па-над ярам,*)
Ды нагані чорную хмару,
А каб дождждык пакрапіў,
Сцежкі-дарожкі заліў,
Ды каб людзі не хадзілі,
Майго сына не збудзілі,

У нядзелечку рана ды раненька
Збіралася грамаданька:
І старая і маладая,
Вялікая і малая—
Ды крыніцу вылівала,
Спавітага сына даставала.
Неслі сына перад паны,
Павялі маці ў кайданах.

Што хацелі, то й рабілі,
У труну з сынам палажылі,
Жывой з сынам пахавалі.

[Кос-Арал
1848]

*) Чарнавы накідак карандашом да паэмы Ктытароўна ў альбоме Шэўчэнка.

* * *

Ну што-б, здаецца, словы-сказ?!
Размова, голас—больш нічога!
А сэрца ажывае ўраз,
Як іх пачуе!.. Знаць, ад бога
І голас той, і словы-сказ
Ідуць у людзі!.....
Я схіліўся,
Не то каб вельмі зажурыўся,
А так на палубе стаяў
І сторч на мора паглядаў,
Нібы на Юду... А з тумана,
Як кажуць, стала выглядаць
Чырвоналіцая Дыяна...
А я ўжо думаў легчы спаць,
Дый стаў, каб глянуць-падзівіцца
На круглы воблік маладзіцы,
Ці праўда—дзеўчыны!.. Матрос,
Такі зямляк наш, з Остраўное,
Ад вахты тое,
Ці так сабе, нудзіўся штось,
Дый заспяваў,—вядома, ціха,
Каб капітан не чуў, бо, ліха,
Якісь благі, хоць і зямляк.
Пяе матрос, як той казак,
Што ў наймах вырас сіратою,
Ідзе служыць у маскалі...
Даўно, даўно калісь
Я чуў, як, стаўшы пад вярбою,
Паціху дзеўчына спявала,
І шкода мне малому стала
Таго нябогі-сіраты,
Што ён утаміўся,
На тын пахіліўся,
Людзі кажуць і гавораць:
Мабыць, ён упіўся.
І я заплакаў: так малому
Было мне шкода сіраты.
. . . . . . . . . . . . .
Чаго-ж цяпер заплакаў ты?
Чаго цяпер табе, старому,
Душу ў няволі цісне жаль?—
Што свет завязаны, закрыты,
Што сам ты ёсць цяпер маскаль,
Што сэрца зранена, пабіта,
І што харошае няўзнак
З яго прапала, разлілося?
Што вось як жыці давялося?
Ці так, саколіку?!—Ды так!

[Кос-Арал
1848]



* * *

Як за падатак, абступілі
Мяне ў чужацкай старане
Туга і восень. Божа мілы!
Куды-ж ад іх схавацца мне?
Што мне рабіць? Ужо й гуляю
Па тым Арале, і пішу,
Складаю вершыкі, грашу,
Выпадкі даўнія без краю
Ў душы сваёй перабіраю
Ды спісваю,—каб сум і жаль
Не перліся, як той маскаль,
Ў душу самоты. Люты злодзей
Упарта прэцца ўсё-ж, і годзе.

[Кос-Арал
1848]

---

## П. С.

Не жаль на злога, ля благога
І слава вартаю стаіць;
А жаль на добрага такога,
Што й славу ўмее абдурыць.

І зараз нудна, як згадаю
З гадзіннікам гатычны дом
Сяло абдзёртае кругом;
І шапачку мужык здымае,
Як сцяг пабачыць. Значыць, пан
Са світаю ў сябе гуляе.
О гэты кормлены кабан!
О гэты лодар! Шчыры пан,
Патомак гетмана дурнога,
І самы люты патрыёт,
І хрысціянін 'шчэ да тога!
У Кіеў ездзіць кожны год,
У світцы ходзіць між панамі,
І п'е гарэлку з мужыкамі,
І вольнадумствуе ў шынку—
Ён тут увесь, хоць надрукуй!
Яшчэ ў сяле сваім дзяўчатак
Перабірае; падзяржыць
Ў год байструкоў сваіх з дзесятак,
Калі іх вынесуць хрысціць,—
І гэта ўсё... Кругом паскуда!
Чаму-ж яго не так завуць?
Чаму ў аблічча не плююць?
Чаму не топчуць?! Людзі, людзі!
За шмат гнілое каўбасы
У вас хоць матку папрасі,
Дык аддасцё... Не жаль на злога,
На п'янага Пятра крывога,
А жаль вялікі на людзей,
На тых юродзівых дзяцей!

[Кос-Арал
1848]

---

## Г. З.

Няма больш горш, як у няволі
Пра волю ўспамінаць. А я
Ізноўку, волечка мая,
Цябе прыгадваю. Ніколі
Больш не здавалася ты мне
Такой прыгожа-маладою
І чараўнічаю такою,
Як тут, у дальняй старане,
Дый 'шчэ ў няволі. Доля! Доля!
Мая праспеваная воля!
Хоць глянь на момант з-за Дняпра,
Хоць усміхніся з-за.......

І ты, мая адзіная,
Устаеш з-за мора,
З-за туману, слухмяная,
Ружовая зора!
І ты, мая адзіная,
Вядзеш за сабою
Леты мае маладыя,

Ї перада мною,
Нібы мора, выступаюць
Шырокія сёлы
З вішнёвымі садочкамі
І народ вясёлы.
Тыя людзі, сяло тое,
Дзе мяне вітаці,
Быццам брата, ішлі. Маці!
Старэнькая маці!
Ці збіраюцца й дагэтуль
Вясёлыя госці
Пагуляці у старое,
Пагуляці проста,
Па-даўняму, па-старому,
З вечара да ранку?
А вы, мае маладыя
Чорныя смуглянкі,
Вясёлыя дзяўчатачкі,
І дасюль ў старое
Танцуеце? А ты, доля?
А ты, мой спакою?
Маё свята-чорнаброўка,
І дасюль між імі
Ціха, пышна пахаджаеш?
І тымі вачыма,
Аж чорнымі—блакітнымі,
І дасюль кранаеш
Душы хлопцаў? Ці й дагэтуль
Марна паглядаюць
На стан гнуткі? Свята маё!
Адзінае свята!
Як абступяць, цябе доля,
Дзетачкі-дзяўчаты,
Зашчабечуць па своему
Добраму звычаю,—
І мяне мо' ненарокам
Дзетачкі згадаюць;
І пра мяне мо' якая
Скажа хоць-бы ліха.
Усміхніся, маё сэрца,
Ціхенечка-ціха,
Каб ніхто і не пабачыў...
І болей нічога.
А я, долечка, ў няволі
Памалюся богу.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

Калі-б мы стрэліся нанова,
Ці ты спужалася-б, ці не?
Якое ціхае ты слова
Тады-б сказала да мяне?
Ніякага! І не пазнала-б!
А можа-б после прыгадала,
Сказаўшы: бачылася ў сне.
А я абрадаваўся-б, дзіва!
Мая ты доля чорнабрыва!
Калі-б пабачыў, прыгадаў
Вясёлае ды маладое,
Былое ліханька ліхое,
І зарыдаў-бы, зарыдаў!
І памаліўся-б, што здрадлівым,
А не праўдзівым сном сышло,
Слязмі-вадою адплыло
Калішняе святое дзіва!

[Кос-Арал
1848]

---



## МАРЫНА*

Нібы цвічок у сэрца ўбіты,
Марыну гэту я нашу.
Час апісаць-бы працавіта,
Дык што-ж, сказалі-б, што брашу.
Што на паноў, бачыш, сярдзіты.
Ды вось такое і пішу
Пра іх сабачыя звычаі...
Сказалі-б проста: дурань лае,
Што ён прыгонны сам,
Неадукованы і хам.
Няпраўда! Бачыць бог, не лаю!
Не шкода мне, што я не пан,
А горка мне і жаль вялікі
На ўсіх вучоных хрысціян.
. . . . . . . . . . . .
І звер таго не зробіць дзікі,
Што вы, б'ючы паклоны,
З братамі чыніце... Законы
Складаны ка́тамі за вас—
І вам дармо! У добры час
У Кіеў ездзіце здалёку
Штогод да споведзі, няўрокам,
Да схімніка!
І то сказаць:

* У рукапісе Ш. загалоўка няма.

Чаго я гарую?
Ані злога, ні добрага
Я ўжо не пачую.
А як, кажуць, хто не чуе,
Дык таму ўсёроўна.
Прылятай-жа з Украіны,
Дружа мой чароўны,
Мая дума прачыстая,
Верная сябрына,
Ды раскажы, мая зорка,
Пра тую Марыну:
Як яна у пана злога
Й за што гаравала!—
Ды ціхенька, каб не чулі,
Або не дазналі;
А то скажуць, на дарогах
Чынім мы разбоі,
І далей яшчэ загоняць,
Прападзем абое...
. . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . .
. . . . . Нядаўна гэтае было.
Цераз сяло вяселле йшло,
А пан з касцёла ехаў,
Ці управіцель, а не пан.

Пад шум вясельных паязджан,
За крыкам ды за смехам
Ніхто й не бачыў, як праехаў
Той управіцель, лях сабачы,
    А ён дык добра бачыў,
    А надта маладую!..
За што бо мілуе гасподзь
    Ліхую дрэнь такую,
Як управіцель? Другі год,
Як ён з нямецкімі плугамі
Забраўся голы ў той куток,
А колькі бедных тых дзявок
Пусціў па свеце з байструкамі!
І вось нічога! А жанаты
    І мае двое дзетачак,
    Як гожых кветачак.
Глядзіце, вышла з панскай хаты,
Як краля, пані маладая
Гуляць з маленькімі. Мой пан
Вылазіць з брычкі й пасылае
Па маладога на сяло;
А после дзетачак вітае
І жонку, кралю маладую,
Аж тройчы бедную цалуе,
І размаўляючы пайшлі
Сабе ў пакоі... Неўзабаве
І маладога прывялі
(З вяселля ды ў гусары).
На заўтра ў горад адвязлі
Дый загалілі ў маскалі!
Вось так па нашаму звычаю
    Не думаўшы канчаюць!—
А маладая? Ёй без пары
Судзіў напэўна зносіць бог
Красу і маладосць... Як чары
Распалалася яе любоў...
І давялося ў людзі зноў
Прасіцца ў наймы? Не, не зноўку,
Яна ўжо панна пакаёўка,
Ужо Марысяю завуць,
А не Марынаю! Бядачай,
Гаротнай плакаць не даюць;
Яна-ж схаваецца і плача.
Дурная! шкода мужыка,
Таго святога бедака.
А глянь кругом сябе без краю
І лепшага не трэба раю!
Чаго ты хочаш пажадай,
Усё дадуць, яшчэ й багата!
Не трэба, кажаш, дайце хату!
Пра гэта лепш і не пытай,
Бо ты... сама здарова знаеш...
Глядзі, жарэбчыкам якім
Сам пан навокал пахаджае,
Ужо ці добрым, ці ліхім,
А будзеш панскаю радзінай,—
Хіба загінеш!.. Па Марыну
    Прыходзіла маці
    У пана прасіці;
    Сказаў не пускаці,
    А як прыдзе—біці.
    Што тут ёй рабіці?
Пайшла рыдаючы ў сяло:
Адным-адно дзіця было,
І тое згібла . . . .
. . . . . . . . . . . .

Нібы груган той пра няўдачы
Ці непагоду людзям крача,
Так я пра слёзы, ды пра тых
Байстручанят людскіх бядачых,
Хоць не шкада нікому іх,
    Расказваю, ды плачу.
Мне шкода іх... Мой божа мілы!
Дай словам ты святую сілу—
Людское сэрца прабіваць,
Людскія слёзы праліваць,
Каб літасць душы асвяціла,
Каб смутак ім на вочы паў,
Каб кожны сэрцам шкадаваў
Маіх дзяўчатак, каб любілі
Шляхамі добрымі хадзіць,
Святога госпада хваліць,
І брата мілаваць...
                Насілу
Ў хату дзверы адчыніла.
Зірнула—кветкі у цямне,
За абразом і на акне;
Крыжы прыгожа на сцяне,
Нібыта добрая карціна,
Панамалёваны... Марына!
І ўсё Марына, ўсё сама!
Адно Марыначкі няма.
І ледзьве-ледзьве вышла з хаты,
Пайшла на ўзгорак, на пракляты
Палац той глянуць, і пайшла
Аж пад палац. Пад тынам села
І ночку цэлую сядзела
Ды плакала. Ужо з сяла
Авечак пастухі прагналі,
А маці плакала, рыдала.
Ужо і сонейка ўзышло,
Ужо й зайшло, змяркацца стала,
Не йдзе, нябога, у сяло,
Сядзіць пад тынам. Праганялі,
Ужо й сабакамі цкавалі—
Не йдзе, дый годзе!..
А Марына ў сукні белай,
Нібыта бяліца,
Богу моліцца, ды плача
Ў замкнёнай святліцы.
Апроч пана у святліцу
Ніхто не ступае,
Сам ён есці ёй прыносіць,

Моліць, упрашае,
Каб на яго паглядзела,
Каб уцёрла вочы...
І глядзець яна не хоча,
І есці не хоча.
Што рабіці? лях паганы
Не можа дазнацца;
А Марына вяне, сохне
У белых палацах.
Ужо й лета прамінула,
І зіма ўжо скора,
А Марына сядзіць сабе,
Ужо й не гаворыць
І не плача... Гэтак яе
Даканаў, нябогу,
Управіцель... а ўсё-такі
Не зробіць нічога,
Хоць рэж яе! Радзілася
Яна ўжо такою!
Раз увечары Марына
Глядзела зімою
На лес чорны, а з-за лесу
Усходзіў дзяжкою
Месяц жоўты.—І я калісь
Была маладою...—
Прашаптала, спахмурнела,
После заспявала:

Хата на памосце,
Наехалі госці;
Расплятал́і косы,
Каснікі здымалі,
А пан просіць сала,
А чорт есці просіць.
Гусі, гусі белы
Ў вырай паляцелі,
Шэрыя-ж—на мора!..

. . . . . . .

Завылі псы на двары,
Зайшліся з рогату псары,
А пан—чырвоны—аж гарыць,
Ідзе ў святліцу да Марыны,
Як Кірык п'яны...
Нібы ў хаце,
На холадзе нябога-маці
Пад тынам тым усё сядзіць.
Старая быццам адурэла.
Мароз лютуе, аж рыпіць,
Чырвоны месяц стаў аж белы,
І варта боязна крычыць,
Каб злога пана не ўзбудзіць.
Аж зірк, палацы заняліся.
Пажар! Пажар! І дзе ўзяліся
У бога людзі? Як з зямлі
Радзіліся і тут раслі,
Нібыта хвалі наплывалі
Ды на пажар той пагладалі.
Было й чаго дзівіцца ім!
Марына голая зусім
Перад будынкам танцавала
У пары з маткаю!—і страх,
З нажом крывавым у руках,
І прыпявала . . . . . .

Ці не гэта кумка тая,
Што падолік падтыкае?..
Як была я пані
Ў новенькім жупане—
Панічы віталі,
Рукі цалавалі!..

*(Да маткі)*

А вы ка мне ды на вяселле
З таго свету прышлі?
Мне ўжо і косы расплялі,
Ды пан прыехаў... Гіля! Гіля!
Ці то не гусі,—то паны,
Глядзі, у вырай паляцелі,
Агу! гіля! да сатаны,
Да чорта ў госці! Чуеш? Чуеш?
У Кіеве званы ўсе звоняць.
Ці бачыш? Вунь агонь гарыць,
А пан ляжыць сабе, чытае
І просіць піць... А тое знаеш,
Што я зарэзала яго?..
Глядзі! Вунь галавешкай чорнай
Стаіць на коміне... Чаго,
Чаго глядзіш туды нацерна?
То-ж маці! маці! Не глядзі!
А то з'ясі. Вось на - глядзі!

*(Дае фігі і спявае)*

Пакахала маскаля,
Ды 'шчэ й зубы выскаляць!
Маскалі, маскалі!
Андарак набылі;
Панічы—
Дукачы,
А паповічы дáлі
Срэбныя каралі!.
Бі, звоне, бі!
Хмару разбі!
Няхай хмара
На татараў,
А сонейка на хрышчоных;
Бі, звоне, бі!

Маці

Марыначка! Хадзем-жа спаць!

Марына

Хадзем-жа спаць, бо заўтра рана
Мы пойдзем да царквы. Паганы,

Глядзі ты, лезе цалаваць.
Вось на табе!..

Мацi

Хадзем-жа спаць!

*(Да людзей)*

Хрышчоны люд, дапамажыце!

Марына

Узяць мяне! Узяць! Вяжыце!
Вядзіце к пану у святліцу!
А ты ці пойдзеш падзівіцца,
Якою паннаю Марына
У пана пад замком сядзіць?
І вяне, сохне, гіне, гіне
Дзіцёнак любы твой адзіны,
Твая Марыначка.

*(Спявае)*

Ой гіля, гіля, шэрыя гусі!
Гіля на Дунай!
Завязала галовачку,
Цяпер сядзі ды гадай!

І птушкам воля ў чыстым полі,
І птушкам весела лятаць,
А я завяла у няволі.

*(Плача)*

Хоць трэ' было-б каралі ўзяць:
На іх павесілася-б... бачыш,
Шкада!.. Хоць ты тапіцца йдзі!
Чаго-ж ты, мама мая, плачаш?
Не плач, галубачка! Глядзі:
То-ж я, Марыначка твая!
Глядзі: вунь чорная змяя
Па снезе лезе... Уцяку!
Ізноў у вырай паляту!
Бо я зязюлею ўжо стала...
Ці ён у госці не прыходзіў?
Забілі, мабыць, на вайне...
А знаеш, я прысніла ў сне:
Нібыта месяц днём усходзіў,
А мы гуляем па-над морам
Сабе ўдваіх. Гляджу я—зоры
Пападалі нібыта ў воду,
І засталася там нібы
Адна адзіная на небе
А я, шалёная як-бы,
Шукаю на Дунаі броду,
З байстручанём сваім брыду.
З мяне смяецца люд гурбою,
Завуць пакрыткаю, дурною;
І ты смяешся, а я плачу.
Ды не, не плачу—рагачу...
Ну, глянь-жа, як я палячу,
Бо я—сава...—І замахала,
Нібыта крыллямі, рукамі
І паскакала цераз двор,
Як звер завыўшы, у прастор.
Падыбала старая маці
Сваю Марыну даганяці.
Паны да аднаго былі
Папечаны, як парасяты;
Згарэлі белыя палаты,
А людзі ціханька пайшлі.
Марыны й мацеры не стала...
Ужо вясною, як аралі,
На полі трупы два знайшлі
І на магілках пахавалі.

[Кос-Арал
1848]

## ПРАРОК

Нібыта праведных дзяцей,
Бог, любячы сваіх людзей,
Паслаў ім на зямлю прарока,
Каб любасць ім апавясціць,
Святому розуму вучыць.
Нібыта наш Дняпро шырокі,
Святыя словы пацяклі,
І ў сэрца падалі глыбока,
І там, нібы агнём, пяклі
Благія душы. Палюбілі
Прарока людзі, скрозь хадзілі
За ім, і слёзы ўсё лілі.
А после?.. Людзі, род лукавы
Гасподнюю святую славу
Растлілі, і чужым багам
Афяры, блуднікі, палілі,
Свайго святога... Гора вам!
На плошчы каменем пабілі,
І захадзіліся гуляць,
Святою кроўю шынкаваць.
І праведна гасподзь вялікі,
На вас на лютых, на вас дзікіх
Кайданы загадаў каваць,
З камення турмы муравацъ,
Замест—о люты род, хлуслівы!
Прарока з сэрцам літасцівым,
Цара вам загадаў абраць.

[Кос-Арал 1848]—
1859 года, снежня 18

---

* * *

На ніву ў жыта уначы,
На полі, на раздоллі
Зляталіся па волі
Сычы—
Пажартаваць,
Памеркаваць,
Каб бедных птушак заступіць
Арлова царства затапіць
І ўшчэнт спаліць.
Арла-ж павесіць на тычыне
І, пры такой часіне,
Рэспубліку зрабіць!
І ўсё-б, здавалася?—Ды не!
Каб не таўкліся ў збажыне...
(Яно было-б не дзіва,
Калі-б хто іншы) на той ніве
Сілцо паставіў. А то зірк—
Такі галюсенькі мужык
Паставіў ціха і пайшоў
У копы спаць сабе, а рана,
Не ўмыўшыся, зайшоў
Гасцей адведаць... І—пагана!—
Усе да аднаго сычы,
Вось тут табе вары й пячы!
Каб не цягнуць дадому
Таго дабра—пазабіваў,
А некалькіх без крыл аддаў
На забаўку воранам,
І не сказаў нікому.

[Кос-Арал
1848]



Між скаламі, нібыта злодзей,
Па-над Днястром ідзе ўначы
Казак; глядзіць ён, ідучы,
На цёмныя мутныя воды,
Нібыта ворагам у вочы,
Нібыта вымавіць ён хоча:
—О Днястро мой каламутны,
Вынесі на волю,
Ці ўтапі хоць, ракá, мяне,
Раз такая доля.
Ды раздзеўся на камені,
Ў рэчку кінуўся, плыве,
Аж хваля сіняя раве,
І равучы на той бераг
Казака выносіць.
Страпянуўся небарака:
І голы, і босы,
Ды на волі; больш нічога
У бога й не просіць.
Пачакай вось, можа, браце,
На чужынскім полі
Таго шчасця ты папросіш,
Ды ранейшай долі.
Пайшоў сабе цёмным ярам,
Ды пяе шчасліва.
Ой з-пад узгорка, ды з-пад абрыва
Ішлі вазы рыпліва,
А за імі ідзе чарнявая
Ды плача тужліва.

Ужо як хочаце, хоць лайце,
Хоць і не лайце, не чытайце
Вы пра мяне. Я й не прашу,
Бо для сябе, браткі, пішу,
Яшчэ раз алавок патрачу;
А можа, дасць бог, і заплачу—
З мяне і досыць . . . . .
Ну ізноў!
Пакінуў двор свой і хаціну,
І жонку з маткаю пакінуў,
У Бесарабію пайшоў
Вось той казак. Пагнала гора
Да мора піць. Хаця гавораць:
— Абы файда ў руках была,
А хлопа лёгка, як вала,
У плуг галоднага запрэгчы.
. . . . . . . . . . . .
Наўрад ці гэта так!
Шчэ змалку з маткаю старою
Хадзіў той з торбамі казак.
Вось так і вырас сіратою
У наймах. Сказана—бядак,
Дык ён і ажаніўся так:
З прыгожаю, але з убогай,—
Вядома, з наймічкай. А пан...
(Нядоля наша і талан,—
Як кажуць людзі,—ўсё ад бога)
Убачыў, гад! Пановы вочы!
Ды стаў гасцінцы пасылаць.
Дык і гасцінцаў браць не хоча,
Не хоча й пана пакахаць.
Што тут рабіць? За мужа ўзяцца
Ды добра ў знакі яму дацца...
А жонку можна прывітаць.
Траха й не сталася вось так.
Да ніткі звёўся мой казак,
Усё на паншчыне праклятай,
А быў-жа гаспадар.
. . . . . . . . . . .
А жоначку сваю любіў,
І—божа!—Як панёнка,
Як маленькага дзіцёнка,
Убраную вадзіў!
Ды знямогся небарака,
Хоць прадавай хату
Ды йдзі ў наймы! Вось так яго
Гэты пан праклятьі
Дапёк добра! А жоначка,
Быццам і не знае,—
У добранькім уборыку
У садку гуляе—
Нібы краля!—Што рабіць тут?
Мяркуе гаротны:
—Уцяку, а іх пакіну...
Хто-ж тады галодных
Іх накорміць тут? Старая
Не здолее ўстаці;
А другая—маладая
Хоча пагуляці!
Як-жа гэта? Што рабіці?
Гора маё! Гора!
І пайшоў, узяўшы торбу,
За сіняе мора
Шукаць долі! Думаў прыйсці
Ды хоць жонку ўзяці,
А старая і тут будзе
Век свой дажываці
На сядзібе!..
Дык вось гэтак
Трапляецца жыці!
А ён думаў пажываці
Ды бога хваліці—
Давядзецца-ж на чужыне
Толькі слёзы ліці!—
Больш нічога... Нудна яму
На чужынскім полі!
Усяго надбаў, старанны
Ды не прыдбаў долі,

Таго шчасцейка святога...
Свет божы не мілы—
Нудна яму на чужыне,
Дабро апастыла!
Захацелася хоць глянуць
На свой край, на мілы,
На высокія магілы,
Шырокія далі,
На садочак, на жоначку,
Маладую кралю!
І паплыў Днястром назад ён,
Пакінуўшы волю,
Брадзягаю... О божа мой!
Якое ты, поле,—
Сваё поле!—Якое ты
Шырокае! Нібы
Тая воля . . . . .

. . . . . . . . . .

Прышоў дадому уначы.
Стагнала маці, не сплючы,
А жонка у каморы спала
(Пан нездаровы). Жонка ўстала,
Як тая п'яўка упілася
І, як вадою, залілася
Драбнюткімі, як мак, слязамі.
І так трапляецца між намі,
Што нож на сэрца настаўляе,
А сам цалуе... Маладая
Адразу ажыла нябога!
І дзе ўзяліся толькі ў бога
Прысмакі тыя і пітво?
Сама-ж, ну, проста, нежывой,
На плечы вісне. Напаіла,
Добра накарміла
І ў каморы, вясёлага,
Спаці палажыла!..
Ляжыць сабе небарака,
Думае-гадае,
Як мы будзем вандраваці...
І ледзь засынае.
А жоначка маладая
Пабегла да пана,
Расказала—вось так і так.
. . . . . . . . . . . . .

Люба ды кахана
Прышлі, ўзялі гаротнага,
Дый павезлі з хаты
Прайдзісвета, валацугу...
Проста у салдаты.

І там доля не кінула,
Дaслужыў да чыну,
Дый вярнуўся ў сяло сваё,
І служыць пакінуў.
Ужо матку пахавалі
Людзі грамадою,
І пан памёр. А жоначка...
Маскоўкаю ўсюды
Валочыцца... сярод панства.
Гандляроў тых, босай...
Знайшоў яе, наглядзеўся...
І сівавалосы
Пакалечаныя рукі
Узняў ён да бога,
Зарыдаў, нібы малое...
Дараваў, нябога!

Вось так, людзі, вучыцеся
Крыўды дараваці,
Як той невук! . . . . .
Дзе нам грэшным
Дабра таго ўзяці?
. . . . . . . . .
. . . . . . . . .

[Кос-Арал
1848]

* * *

І неба не ўмыта, і хвалі заспаны,
І над берагамі ракі
Як п'яныя скрозь траснікі
Без ветру гнуцца... Бог каханы!
Ці доўга давядзецца мне
У незамкнёнай тут турме,
Над гэтым вось нікчэмным морам
Нудзіцца светам? Не гаворыць,
Маўчыць і гнецца як жывая,
У стэпу жоўтая трава,
Не хоча праўдачкі сказаць...
А больш няма ў каго спытаць

[Кос-Арал
1848]

* * *

Ӏ на чужыне я узрос,
і на чужыне я сівею,—
Ӏ даў мне ў адзіноце лёс,
Здаецца, лепшую надзею—
Дняпро, што лашчыць сэрца нам,
Ды нашу слаўную краіну.
Аж бачу—добра толькі там,
Дзе нас няма. Ліхой гадзінай
Мяне дадому пацягло,
Ӏ я наведаў Украіну,
Ӏ тое светлае сяло,
Дзе колісь маці спавівала
Мяне малога, і ўначы
На свечку богу зарабляла;
Паклоны цяжкія б'ючы,
Прачыстай ставіла, маліла,
Каб доля добрая любіла
Яе дзіця... О маці, маці,
Чаму ты рана спаць лягла!
А то-б ты бога пракляла
За сынаў лёс.
Адны няшчасці
У тым сяле, што я люблю:
Чарней за чорную зямлю
Блукаюць людзі; паўсыхалі
Сады, і хаткі пагнілі,
Старыя да зямлі прыпалі;
Ставы бур'янам параслі.
Сяло, нібыта, пагарэла,
Нібыта людзі падурэлі,
На паншчыну нямыя йдуць
Ӏ дзетачак сваіх вядуць.
. . . . . . . . . . . .
Ӏ я, заплакаўшы, назад
Зноў паехаў на чужыну.

Ӏ не ў адным сяле такім,
А скрозь па слаўнай Украіне
Паны ярмо надзелі ўсім
Працоўным людзям. Гінуць, гінуць
Ў ярме тым рыцараў сыны,
А чорным гандлярам паны,
Братам сваім, прадаць спяшаюць
Ужо апошнія штаны...
. . . . . . . . . . . .
Нядобра дужа, страх нядобра
Тут у пустыні прападаць.
А горш яшчэ на Украіне
Глядзець і плакаць, і маўчаць.

А як не бачыш тога ліха,
То скрозь, здаецца, люба, ціха;
Ӏ на Ўкраіне дабро скрозь;
Між белых гор стары Дняпро,
Нібыта ў малацы хлапчына,
Красуецца, любуецца
На ўсю Украіну,
А па-над ім зелянеюць
Шырокія сёлы;
А ў тых сёлах у вясёлых
Ӏ народ вясёлы.
Яно-б, можа, так збылося,
Каб не засталося
Слядоў панскіх на Ўкраіне!..
. . . . . . . . . . . .

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

Не для людзей і тае славы
Мярэжаныя кучарава
Выводжу я радкі свае—
А для сябе, браты мае!

Мне лягчэй тады ў няволі,
Як я іх складаю:
З-за Дняпра, нібы здалёку,
Словы прылятаюць
Ӏ сцелюцца на паперы,
Плачуць, смехам душаць,
Нібы дзеці, і радуюць
Самотную душу,
Убогую. Як люба мне,
Як люба мне з імі,
Нібы бацьку багатаму
З дзеткамі малымі.
Ӏ рады я, і вясёлы,
Ӏ бога ўпрашаю,
Каб не прыспаў маіх дзетак

У далёкім краю.
Хай ляцяць сабе дадому
Лёгенькія дзеці
Ды раскажуць там, як цяжка
Было ім на свеце!
І ў сям'і вясёлай ціха
Дзяцей прывітаюць,
І сівою галавою

Бацька паківае,
Маці скажа:—Дарэмна іх
Зямелька ўскарміла!—
А дзяўчына падумае:
Я іх палюбіла.—

[Кос-Арал
1848]—[1858]

* * *

Каля гаю ў чыстым полі,
На самай магіле,
Дзве высокія таполі
Адна адну хіляць,
І без ветру гайдаюцца—
Нібы б'юцца ў полі.
Дзве сястрыцы-чараўніцы—
Гэтыя таполі.

Закахаліся абедзве
Ў аднаго Івана;
А Іван, казак звычайны,
Абаіх не ганіў,
А гуляў сабе то з тою,
То з гэтаю люба,—
Покуль у яры увечар
Стрэліся пад дубам
Усе трое.—Кат паганы!—
Дзяўчаты сказалі.
Труцця-зелля на Івана
Дзве сястры шукалі.
Труцця-зелля, каб Івана
Заўтра атруціці.
Знайшлі зелля, накапалі,
Пачалі варыці.

Заплакалі, зарыдалі,—
Ды трэба рабіці:
Варыць трэба! Наварылі,
Хлапца атруцілі,
Пахавалі каля гаю
Ў полі на магіле.
І ўсяго там? Але потым
Дзве сястры хадзілі
Штодзень божы раным-рана
Плакаць над Іванам,
Покуль сябе атруцілі
Тым зеллем паганым.
Бог іх людзям на навуку
Паставіў у полі
На магіле таполямі.
І тыя таполі
Над Іванам, на магіле,
Каля тога гаю,
І без ветру гайдаюцца,
І вецер гайдае.

[Кос-Арал
1848]—[1858]



* * *

А як-бы мне чаравікі,
То пайшла-б я на музыкі,
Горачка маё!
Чаравічкаў не маю,
А музыка грае, грае,
Жалю задае!
Ой пайду я босай полем,
Пашукаю сваю долю,
Долечка мая!
Я вырасла чорнабровай,
Толькі з долечкай суровай,
Гаротная я!
Дзяўчатачкі на музыках
У чырвоных чаравіках,
Я-ж светам нуджу.
Без раскошы, без любові
Я чорныя знашу бровы,
У наймах знашу!

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

І багата я,
І прыгожа я,
Ды не маю сабе пары,
Без долечкі я!
Цяжка, цяжка ў свеце жыць
І нікога не любіць,
Аксамітныя жупаны
Адзінокай насіць!
Палюбілася-б я,
Павянчалася-б я
З чорнабровым сіратою,
Ды не воля мая!
Бацька-маці не спяць
І на варце стаяць,
Не пускаюць маладую
У садочак гуляць!
Калі-ж пусцяць, дык з ім,
З тым багатым старым,
З маім нелюбым паганым,
З лютым ворагам маім.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

Палюбілася я,
Павянчалася я
З нешчаслівым сіратою—
Бо то доля мая!

Злыя людзі ўзялі
Яго з роднай зямлі
І павезлі да прыёму—
У салдаты здалі!

І салдаткаю я,
Адзінокаю я
Старэюся ў чужой хаце—
Бо то доля мая!

[Кос-Арал
1848]

---



Парадзіла мяне маці
У высокіх у палацах,
Шоўкам спавіла.

У золата, аксаміты
Нібы кветка апавіта,
Расла я, расла.

І вырасла я высокай
Чорнабровай, каравокай—
Белаліцая.

Убогага палюбіла,
Маці замуж не пусціла,—
Засталася я

У высокіх у палацах
Дзеўкай век свой векаваці,
Нядоля мая!

Адзінокая дзяўчынка,
Адзінока, як былінка,
Старэюся я.

Не спяваю, не смяюся,
Ні да кога не хінуся
З вясны да вясны...

А цябе, даруй мне маці,
Буду цябе праклінаці
Да самай труны.

[Кос-Арал
1848]

---



Ой я свайго чалавека
Ў дарогу паслала,
Ад карчомкі да карчомкі
Сцежачку таптала.
Да кумы я забягала
Пшана пазычаці,
Мае дзеткі есці просяць
У халоднай хаце.
Есці гатавала,
І спаць укладала,
Сама пайшла да дзяка
Здабываці пятака,
Дый заначавала.
Ледзьве з Крыма мой дружок
Свае ногі давалок;
Валы паздыхалі,
Вазы паламалі,
З бізунамі чумачэнькі
Дадому дыбалі.
Увайшоў у хату,
Упаў на палаткі:
Лазяць дзеці галодныя
Ў запечку без маткі.
— А дзе ваша, дзеці, маці?—
Няшчасны пытае.
— Тата, тата! Наша маці
У карчме гуляе.—

[Кос-Арал
1848]

---



* * *

Ой навастру таварыша,
Засуну ў халяву,
Пайду шукаць тую праўду
І громкую славу.
Ой пайду я не лугамі
І не берагамі,
А пайду я не шляхамі,
А па-над шляхамі;
Ды спытаю ў гандляра я,
Ў багатага пана,
У шляхціча паганага
Ў паганым жупане,
І ў манаха, як трапіцца—
Няхай не гуляе,—
Слова божае чытае,
Людзей навучае:
Каб брат брата не рэзалі
Ды не абкрадалі,
Ды ў салдаты сына ўдоўкі
Каб не аддавалі.

[Кос-Арал
1848]

* * *

Па вуліцы вецер вее
Ды снег замятае;
Па вуліцы пападтыннню
Удава дыбае
Пад царкву, прасцерла рукі,
Просячы спагады
У тых самых, у багатых,
Што сына ў салдаты
Пазалетась пагалілі.
А жыць меркавала...
Хоць на старасць у нявесткі
Адпачыць жадала.
Але марна!.. Вымаліла
Капейку жанчына,—
Ды прачыстай паставіла
Свечачку за сына.

[Кос-Арал
1848]—[1858]

* * *

Ой сяду я пад хатаю,
На вуліцу гляну,
Як там тыя дзяўчатачкі
Без падружкі Ганны,
Без маёй Ганусі любай
Скачуць і гуляюць.
І гуляецца ім сумна,
І не так спяваюць...
Не відаць маёй галубкі,
І свята няма ёй:
У свякрові дзесь варкуе,
Мяне выглядае.

[Кос-Арал
1848]

* * *

Кукавала зязюлечка
У зялёным гаі;
Заплакала дзяўчыначка,
Што мужа не мае.
Дзявочыя маладыя
Вясёлыя леты,
Нібы кветкі за вадою,
Сплываюць са свету.
Як-бы былі бацька-маці,
Ды жылі ў багацці,
Было-б каму палюбіці,
Было-б каму ўзяці.
А то няма, сіратою
Вось так і загіну
Век дзяўчынай у самоце
Дзе-небудзь пад тынам.

[Кос-Арал
1848]

## ШВАЧКА

Ой не п'ецца гарэлачка
І мёд на піры;
Не будзеце балявапь вы,
Злыдні-гандляры!
Ой не п'ецца тое піва,
А я буду піць;
Не дам-жа я лютым ляхам
На Ўкраіне жыць.
Хадзем, браты, у нядзелю
У Хвастоў гуляці,
    Ляхаў мардаваці,
    На смерць забіваці,
Свайго бацьку казацкага
Будзем памінаці.
Ў Пярэпяці начавалі,
Раненька ўставалі,
На досвітку у Хвастове
Казакі гулялі.
Прыдзі, бацька, з Межыгор'я,
Наш слаўны Палею,
Ды зірні, а што той Швачка
Што ён ляхам дзее!
У тваім, у тым Хвастове,
У славутым месцы,
Палягло праклятых ляхаў
Не сто і не дзвесце,
А з тысячы шляхецкае
Кроў зямлю паіла,
І карчомкі, і касцёлы,
І ўсё затапіла.
Толькі там не затапіла—
Цэркаўку святую,—
У ёй Швачка з казакамі
Пяе «алілуя»,
Хваліць госпада, вясёлы,
Загадаў сядлаці
Каня свайго варанога—
Мае пагуляці
У Быхаве ў слаўным месце,
З Леўчанкам у згодзе,
Павытаптваць гандлярскае,
Панскае смуроддзе.

[Кос-Арал
1848]



* * *

Ой не п'ецца мёд і піва,
Не п'ецца вада;
З чумаком у чыстым полі
Сталася бяда.
Баліць яму галовачка,
І жывот баліць,
Упаў чумак каля воза,
Упаў і ляжыць.
З праславутае Одэсы
Завезлі чуму,
Пакінулі таварыша,—
Горачка яму!
Валы яго каля воза
Панура стаяць,
Крумкачы са стэпу з крыкам
Да яго ляцяць.

Не махайце, крумкачы вы,
Шызымі крыламі,
Ды не клюйце труп чумацкі—
Падохнеце самі.
Ой ляціце, крумкачыкі,
Развінайце крыллі,
Да татачкі, ды скажыце,
Каб службу служылі,
Ды псалтыр у час абедні
Хай па мне чытаюць,
А дзяўчыне так скажыце—
Няхай не чакае.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

На вуліцы нявесела,
Бацька ў хаце лае,
А да ўдоўкі на вячоркі
Маці не пускае.
Скажы, маё сэрца,
Куды мне падзецца?
Ці з другім мне палюбіцца,
А ці мне ўтапіцца?
Адзенуся я ў нядзелю
Прыгожа, багата,

Пайду ў горад на кірмаш
Як на тое свята;
Скажу яму: сватай мяне,
Альбо адчапіся!..
Бо як жыць мне так у маткі...
То лепей тапіцца.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

У дзяўчыны-Кацярыны
Хата на памосце;
З славутага Запарожжа
Наехалі госці;
Адзін Сямён Босы,
Другі Іван Голы,
Трэці, слаўны ўдавічэнка,

Іван Ярашэнка.
— З'ездзілі мы Польшчу
І ўсю Украіну,
А такой, як Кацярына,
Не знайшлі дзяўчыны,
Адзін кажа:—Браце,
Каб меў я багацце,

Аддаў-бы я ўсё золата
Гэтай Кацярыне
За адну гадзіну.—
Другі кажа:—Дружа!
Як быў-бы я дужы,
Дык аддаў-бы усю сілу
За адну гадзіну
Гэтай Кацярыне.—
Трэці кажа:—Дзеці!
Няма таго ў свеце,
Чаго я зрабіць не змог-бы
Для красуні-Кацярыны
За адну гадзіну.—

Падумала і трэцяму
Кажа Кацярына:
—Ёсць у мяне брат адзіны,
Што ў няволі гіне,
Недзе ў Крыме прападае.
Хто яго дастане,
Той з вас мужам, запарожцы,
Маім мужам стане.—
Разам паўставалі,
Коні пасядлалі,
Паскакалі ў стэп заўзята
Вызваляці брата.
У Дняпровым горле
Аднаго згубілі;
Другога ў Казлове
На кол пасадзілі!
Трэці Іван Ярашэнка,
Слаўны ўдавічэнка,
З лютай няволі,
Ды з Бахчысарая,
Брата вызваляе.

Заскрыпелі рана дзверы
У вялікай хаце.
— Падымайся, Кацярына,
Брата сустракаці!—
Як зірнула Кацярына,
Як загаласіла:
— То не брат мой, а мой мілы!
Я табе зманіла.—
—Ты зманіла!—І дзяўчыну
Спаткала магіла
На парозе...—З гэтай хаты
Пойдзем, родны браце!—
Паехалі запарожцы
Вецер даганяці.
Кацярыну ў чыстым полі
Людзі пахавалі,
А слаўныя запарожцы
Там братамі сталі.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

А з-за гаю сонца ўсходзіць,
За гай і заходзіць;
Па даліне адвячоркам
Казак сумны ходзіць.
Ходзіць ён гадзіну,
Ходзіць ён другую,—
З лугу цёмнага чакае
Сваю дарагую.
Не выходзіць здрадлівая,
Забылася недзе...
Цёмным ярам з сабакамі
Пан-гуляка едзе.
Цкуюць яго сабакамі,
Круцяць назад рукі,
Зазнаў казак ад паганых
Смяротнае мукі.
У склеп яго, маладога,
Той пан замыкае,
А дзяўчыну пакрыткаю
Па свету пускае.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

Ой пайшла я у яр за вадою
Аж там мілы гуляе з другою
А другая тая,
Разлучніца злая,—
Суседачка багатая,
Ўдава маладая.
А я ўчора з ёю,
З гэтаю змяёю,
У полі плоскань выбірала,
Ды ўсё расказала,—
Што як мяне любіць,
І жаніцца будзе,
Да сябе гадзюку тую
Прасіла ў прыданкі.
Іване, Іване,
Дружа мой каханы!
Пабі цябе громам божым
Раптам на дарозе!

[Кос-Арал
1848]

* * *

Не так тыя ворагі,
Як добрыя людзі—
І абкрадуць шкадуючы
Плачачы асудзяць,
І запросяць цябе ў хату,
І будуць вітацца,
І распытваць цябе будуць,
Каб потым смяяцца,
Каб з цябе смяяцца,
Каб цябе дабіці...
Без ворагаў можна ў свеце
Як-небудзь пражыці,
А добрыя людзі
Знойдуць цябе ўсюды.
На тым свеце, дабрадзеі,
Цябе не забудуць.

[Кос-Арал
1848]

* * *

Ой люлі, люлі, мой родны сыне,
Ўдзень і ўначы.
Пойдзеш, сыночак, па Украіне,
Нас клянучы.
Сыне мой, сыне! Не кляні татку,
Не памяні!
Кляні, мой родны, родную матку,—
Мяне кляні!..
Мяне не стане,—не йдзі ты ў людзі,—
Ідзі ты ў гай:
Гай не спытае, бачыць не будзе,—
Там і гуляй!
Там да каліны сябе, дзіцятка,
Ты прыхіні!..
Яе любіла, я—твая матка,
Ў былыя дні.
У сёлы пойдзеш, у тыя хаты,
Дык—не нудзі;
А як пабачыш з дзеткамі маці,
Дык—не глядзі!..

[Кос-Арал
1848]



* * *

Ой чаго ты пачарнела,
Зялёнае поле?
Пачарнела ад крыві я
За вольную волю.
За мястэчкам Берастэчкам,
На чатыры мілі,
Мяне хлопцы-запарожцы
Трупамі укрылі.
Яшчэ мяне груганяты
Укрылі з поўночы—
І клююць не труп казацкі—
Казачыя вочы...

Пачарнела, зялёнае,
Ды за вашу волю:
Я ізноў зялёным буду,
А вам-жа ніколі
Не вярнуцца ўжо на волю,
Будзеце араці,
За сахою у кайданах
Долю праклінаці...

[Кос-Арал
1848]

* * *

Туман, туман далінаю—
Добра жыць мне з радзінаю;
Яшчэ лепей за гарою
Ды з жонкаю маладою.
Ой пайду я цёмным гаем,
Сабе жонкі пашукаю.
Дзе ты? дзе ты? адгукніся!
Прыдзі, сэрца, прыгарніся!
Скончым, сэрцайка, ляцацца
Ды паедзем павянчацца,

Каб не зналі бацька, маці,
Дзе мы будзем начаваці.
Вышла замуж, як прапала...
Бадай была не кахала!
Лепей было не любіцца,
Як з табою ў свеце біцца.

[Кос-Арал
1848]

* * *

У нядзельку, у святую,
У світальную гадзіну,
У славутым-найславутым
Месце Чыгірыне,
Ва ўсе званы зазванілі,
З гарматы стралялі,
Праваслебную грамаду
Да сходу склікалі.
З святымі харугвамі,
Ды з прачыстымі абразамі,
Народ з папамі
З усіх цэркваў на гару йдзе,
Як божая пчала гудзе.
З манастыра святога
У золаце, аж ззяе,
Сам архімандрыт выхаджае,
Акафіст чытае,
Паклоны адбівае.
Паважна ды ціха,
У раннюю пору,
На высокую гору
Збіраліся палкоўнікі.
І войска, як мора,
Са сцягамі, з бунчукамі

З лугу выступала,
Ды на трубах грала, грала,
І на гары разам стала.
Замоўклі гарматы,
Анямелі звоны.
І кладзе грамада нізка
Земныя паклоны.
Архімандрыт набажэнства
Сам на гары правіць,
Святога бога просіць, хваліць,
Каб даў ім мудрасці дазнаці,
У згодзе гетмана абраці.
І гетманам перад народам
Абралі ўсім вялікім сходам
Славутага Івана Лабоду,
Рыцара старога,
Брата вайскавога.
У трубы затрубілі,
Ў званы зазванілі,
З гарматы стралялі
І сцягамі, бунчугамі
Гетмана ўкрывалі.
Гетман стары рыдае,
Да неба рукі ўздымае,
Тры паклоны адбівае
Грамадзе вялікай,
І, як звонам звоніць,
Гаворыць:
— Дзякуй вам, панове-малойцы,
Славутыя запарожцы,
За чэсць, за славу, за павагу,
Што вы зараз мне ўчынілі.
Яшчэ-б лепей вы зрабілі,
Як-бы замест старога
Ды абралі маладога
Заўзята малойца,
Славутага запарожца,
Паўла Краўчэнка-Налівайка.
Я стар чалавек, не здужаю ўстаці,
Буду яму параду даваці,
Па-бацькоўску навучаці,
Як на ляха стаці.
Цяпер найлютая гадзіна
На нашай слаўнай Украіне:
І не мне вас, братцы,
На ляха вадзіці,
І не мне цяпер старому
Булаву насіці.
Няхай носіць Налівайка.
У казацкай славе,
Каб дрыжэлі паны-ляхі
У сваёй Варшаве.—
Грамада чмелем загула;
У званы зазванілі;
Гармата зараўла,
І бунчугамі ўкрылі
Славутага запарожца
Паўла Краўчэнка-Налівайка.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

У лясок адна хадзіла
Па арэхі,
Млынара я палюбіла
Для пацехі.
Млынар меле і шатруе,
Абернецца, пацалуе
Для пацехі.

---

У лясок адна хадзіла
Па апенькі я,
Рымара я палюбіла
Маладзенькая.
Рымар лямец зашывае,
Мяне горне, абдымае,
Маладзенькую.

---

У лясок адна хадзіла
Ды па дровы я,
Ды бондара палюбіла
Чорнабровая.
Бондар вёдры набівае,
Мяне горне, прыгартае,
Чорнабровую.

---

Калі хочаш добра знаці,
Мая маці,
Каго будзеш першым разам
Зяцем зваці—
Усіх, усіх, мая мама,
У нядзелечку зяцямі
Будзеш зваці.

[Кос-Арал
1848]

* * *

У нядзелю раненька-раненька,
Яшчэ сонца не ўзыходзіла,
А я маладзенька
На шлях, на дарогу
Невясёлая выходзіла.
Я выходзіла за гай на даліну,
Каб не бачыла маці,
Майго маладога
Чумака з дарогі
Сустракаці.
Ой сустрэлася
За тымі лозамі
З чумацкімі абозамі:
Ідуць яго валы,
Валы палавыя,
Ідуць, жуюць жвачку;
А я чумака свайго маладога
Каля волікаў не бачу.
Ой капалі яму ў стэпу пры дарозе
Ды прытыкамі яму;
Загарнулі яго ў тую рагожу,
Дый спусцілі Івана
У яму глыбокую
На высокай магіле.
Божа-ж мой мілы! мілы, літасцівы,
А я так яго любіла.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

Не таполю высокую
Вецер нагінае—
Адзінокая дзяўчына
Долю зневажае.
Бадай табе, доля,
У моры ўтапіцца,
Што дагэтуль не даеш мне
Ні з кім палюбіцца!
Як дзяўчаты цалуюцца,
Як іх абдымаюць,
Што тады бывае з імі—
Дагэтуль не знаю.
Знаць не буду! Страшна, маці,
Па свеце сланяцца
Увесь век свой у дзяўчатах,
Ні з кім не кахацца.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

Утаптала сцежачку
Цераз яр,
Цераз горы, сэрцайка,
На базар;
Прадавала бублікі
Казакам,
Ўтаргавала, сэрцайка,
Пятака.
Я чатыры капейкі
Прапіла,
За пятую дударыка
Наняла.
Дык зайграй-жа, мой дударык,
На дуду,
Няхай сваё горачка
Забуду!
Вось што за дзяўчына я,
Што за я!
Сватай мяне, сэрцайка,
Выйду я!

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

І шырокую даліну,
І высокую магілу,
І вячэрнюю гадзіну,
І што снілі, гаварылі—
Не забуду я.

Ды што з таго? Не вянчалі,
Разышліся, як не знalі,
А тым часам дарагія
Гады тыя маладыя
Марна адплылі.

Памарнелі мы абое:
Я ў няволі, ты ўдавою;
Не жывем, адно блукаем,
Гады тыя ўспамінаем,
Як раней жылі.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

На гародзе, каля броду,
Барвінак не ўсходзіць.
Чагось дзеўчына да броду
Па ваду не ходзіць.
На гародзе каля тыну
Сохне на тычыне
Хмель зялёны; не выходзіць
Дзеўчына з хаціны.
На гародзе каля броду
Стан вярба схіліла.

Зажурылася дзяўчына,
Цяжка затужыла.
Плача, плача ды рыдае,
Як рыбінка б'ецца...
А з дзяўчыны з маладое
Паганец смяецца.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

А як-бы мне, мама, ды ўборы,
То пайшла-б я заўтра у горад;
А ў горадзе, мамачка, свята—
Там музыка грае заўзята;
А дзяўчаты з дзецюкамі
Там гуляюць... Мама! мама!
Гаротная я!

Ой пайду я богу памалюся,
Ды пайду я ў наймы наймуся,
Ды куплю я, маці, чаравікі,
Ды найму я, найму я музыкі,—
Няхай людзі бачаць, чуюць,
Як я, мама, патанцую...
Долечка мая!

Не дай-жа мне век змарнаваці,
Косы мае плясці-заплятаці,
Бравяняты дома знасіці,
І дзяўчынай век свой дажыці!
А пакуль я зарабляю,
Бровы чорныя зліняюць...
Гаротная я!

[Кос-Арал
1848]

---



* * *

Мне не хочацца жаніцца,
Жонку сабе браці,
Мне не хочацца ў запечку
Дзяцей гадаваці;
Не хачу я, мая маці,
За плугам хадзіці,
Аксамітныя жупаны
На раллі насіці.
А пайду я пабяруся
З маім верным другам,
З слаўным бацькам запарожскім,
Ды з Вялікім Лугам;
На Хорціцы ў роднай маткі
Буду добра жыці,
Хадзіць сабе ў аксаміце
Мёд і віны піці!
Пайшоў казак неразумны
Славу здабываці.
Засталася сіратою
Старэнькая маці.
Ой згадала ў нядзелечку
Сядаючы есці:
—Няма майго сына Йвана,
І не чутна весці.—

І не два, не тры мінула,
Не чатыры леты,
Вярнуўся наш запарожац
Разуты, раздзеты,
Калекаю пахаджае
Па старэнькай хаце.
Вось табе і Запарожжа
І шчырая маці!
Няма з кім і павітацца,
Не з кім і журыцца!
Трэба было-б маладому,
Трэба-б ажаніцца!
Мінуліся маладыя
Вясёлыя леты,
Ные сэрца астылае,
Нікім не сагрэта;
Няма каму сустракаці,
Выпаліць у хаце;
Няма каму вады тае
Калеку падаці.

[Кос-Арал
1848]



## ЧУМА

Чума з лапатаю хадзіла
Ды могільнікі рыла, рыла,
У іх гарою трупы клала,
І «са святымі» не спявала,
  Ці горадам, ці то сялом
  Мяце сабе, як памялом.
Вясна. Садочкі зацвілі,
Нібыта палатном укрыты,
Расою божаю умыты,
Бялеюць. Радасна зямлі:
Цвіце, красуецца лугамі,
Садамі, цёмнымі лясамі;
А людзі па сялу—не йшлі,
Нібы зляканыя ягняты,
Пазамыкаліся у хаты
І мруць. Па вуліцах валы
Равуць галодныя; ў гародзе
Пасуцца коні—не выходзіць
Ніхто загнаць і есці даць,
Як быццам людзі тыя спяць.
І добра-ж, знаць, пазасыналі!
І дзён святых не святкавалі,
Бо звону ўжо даўно не чуць;
Сумуюць коміны без дыму;
А за гародамі, за тынам
Магілы чорныя растуць.
Пад хатамі, паміж садамі,
Зашыты ў шкуры і ў смале—
Блукаюць трунары ў сяле,
Валочаць трупы ланцугамі
Прэч ад сяла. І засыпаюць
Без дамавіны. Дні мінаюць.
Мінаюць месяцы. Сяло
На век замоўкла, анямеўшы,
І крапівою парасло.
І трунары сяла, счарнеўшы,
Пад тымі хатамі ляглі.
Ніхто не вышаў рана з хаты,
Каб так, як трэба, пахаваць іх,
Пад хатамі і пагнілі.
Як аазіс ў чыстым полі,
Сяло зелянее.
Ніхто ў яго не заходзіць,
Толькі вецер вее,
Ды разносіць жоўталісце
Па жоўтаму полю.
Доўга яно зелянела,
Покуль людзі з поля
Падпалілі яго ўмела.
І ўраз задымела
Сяло тое зялёнае.
Згарэла, сатлела,
Попел ветрам размахала,
І следу не стала.
Вось якое з людзьмі гора
Чума вырабляла.

[Кос-Арал
1848]

* * *

Зноў з Украіны не чуваць
Мне з новай поштаю нічога!
За справы грэшныя, відаць,
Караюся сярдзітым богам
Тут у пустыні. Не, не мне
Разгадваць божыя парадкі,
І знаць не хочацца іх мне!..
А сэрцам плачу я ад згадкі
Пра невясёлыя выпадкі
З дзён невясёлых па вясне,
Што прыняслiся нада мною
Там на Украіне маёй.
Бажыліся вы быць са мной,
Браталіся не раз са мною,
І зніклі хмар тых чарадой
Без слёз, што я заву расою
Святой. І давялося мне
Людзей на старасці... Не, не!
Яны з халеры паўміралі,
А то-б шматок хоць пераслалі
Тае паперы. . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . .
Ой з журбы тае, ды з жалю,
Каб не бачыць, як чытаюць
Лісты тыя, пагуляю,
Пагуляю каля мора,
Паразвею сваё гора,
Украіну прыгадаю,
Ды песеньку заспяваю.
Людзі скажуць, людзі здрадзяць,
А яна, яна парадзіць,—
І парадзіць, і развважа,
І ўсю праўданьку мне скажа.

[Кос-Арал
1848]

* * *

Тут у няволі я не маю
З кім сэрца ў згодзе паяднаць;
Кагосьці сам сабе шукаю,
Каб з ім паціху размаўляць.
Шукаю часта светлай хвілі,
Знаходжу-ж—лепш і не казаць!
Вось што гады з мяне зрабілі
Ды горкі лёс! Ды яшчэ тое,
Што лецечка маё святое
Мінула хмарна, што не знаю,
Які выпадак з дзён тых маю,
Што-б мог часамі прыгадаць,
Душу-ж патрэбна разважаць,
Бо ёй так хочацца, так просіць
Хоць слова ціхага... Не чуць!
І нібы ў полі снег заносіць
Яшчэ не адрантвеўшы труп.

[Кос-Арал
1848]

* * *

Ой памёр стары бацька
І старэнькая маці,
І няма каму шчырае
Тае радачкі даці.
Ой што мне на свеце
Сіраце рабіці?
Ці йсці ў людзі жыці,
Ці дома нудзіці?
Ой пайду я ў гай зялёны,
Пасаджу я руту;
Як узыйдзе мая рута—
Застануся тута.
Прыдзе любы ў маю хату,
Гаспадарыць будзе;
А не прыдзе, дык пайду я
Шукаць долі ў людзі.
Узыходзіць тая рута,
І гай зелянее,—
А дзяўчына-сіраціна
У наймах марнее.

[Кос-Арал
1848]

* * *

Не вярнуўся ды з паходу
Гусарык-маскаль.
А чаму-ж яго мне шкода?
Чаму яго жаль?
Што насіў жупан ён куцы,
Што гусарык чорнавусы,
Што Машаю зваў?
Не, шкада ды мне, дзяўчыне,
Што краса на марна гіне,
Людзі не бяруць;
А на вуліцы ля хаты
Насміхаюцца дзяўчаты,
Гусаркай завуць!..

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

У Вільні, горадзе найслаўным,
Такое сталася нядаўна,
'Шчэ быў тады... Ды я, як след,
У верш не ўцісну таго слова.
Тады вялікі-адмысловы
З яго зрабілі лазарэт,
А тых студэнтаў разагналі,
Бо яны шапак не здымалі
У Вострай браме. Дурня знаць
І па хадзе! А як назваць
Таго студэнта?—я не знаю,
Ну што-ж цяпер рабіць я маю?
Быў ён сынам літоўскае
Гордае графіні.
Рос прыгожым і багатым,
Дзіцянём адзіным,
Што вучылася не панам,
І шапку здымала
У той браме. Добра было,
Ды ліха спаткала!
Закахалася нябога,
Было маладое,
У яўрэйку маладую,
Дый думала з ёю,
Каб таго не знала маці,
Пабрацца навечна,—
Бо не можа рады даці—
Кахае сардэчна!
А яна—краса сядзела
Да самае ночы,
З акна свайго выглядала,
Заплакаўшы вочы,—
І яна яго любіла,
І страх як любіла!
Ды гуляць у сад хадзіла,
І ў школу хадзіла
Усё з бацькам, і няма ім
Ніякае рады;
І банкір багаты з Любска
Слаў да яе сватаў.
Што на свеце тут рабіці?
Ці сябе ўтапіці
У Закрэце: сіл не мае
Без дзяўчыны жыці
Наш студэнт. А бацька хітры
Нібы тое знае,
Дачку сваю ў адзіноце
Дома замыкае,
Як ідзе да крам уранку,
Пакідае дома
Вартаваць старую Рухлю—
Дарэмна, вядома!
Дзе ўжо, дзе яна на свеце
Раман той чытала
З доўгай лесвічкай шаўковай?
І Рухля не знала;
Мо' сама сабе такое
Надумала ліха?
Спляла лесвічку. І ноччу
Спусцілася ціха
Да студэнта на вуліцу.
Дзе-б ім уцякаці?
А яны, звычайна—дзеці!
Давай цалаваці
Ля варот адно другога.
А бацька з каморы,
Як вар'ят ляціць з сякерай
На вуліцу. Гора!
Гора табе, гора, маці!
Глядзець не хадзі ты:
На вуліцы валяецца
Сякерай забіты
Сын любімы, сын адзіны.
Гора табе, маці!
А дзяўчына... дзе ўзялася
І сіла ў дзіцяці?!
Вырвала сякеру тую
І бацьку ўсадзіла
Па абух, па самы ў грудзі!

Вось якое дзіва
У тым горадзе славутым,
У той Вільні стала.
Доўга людзі знаць хацелі,
Дзе яна прапала,
Тая дзеўчына-гадзюка,
Што бацьку забіла?
А яна ўначы ў Вілеі
Сябе затапіла,
Бо знайшлі яе ў Закрэце.
Там і пахавалі.
А графіня без сыночка
Засталася ў жалі;
Паехала ў Рым, гавораць,
Жыве сабе люба,
Бо з якімсь маркізам голым
Пабралася шлюбам.
Можа й брэшуць, як звычайна,
На то яны людзі:
І ўдавы забыць не могуць,
І тую асудзяць.

[Кос-Арал
1848]

---

* * *

Хмара чорная заслала
Ды белую хмару;
З-за ліману выступалі
З туркамі татары;
А з Палесся шляхта лезе,
А гетман паповіч
З-за Дняпра ідзе паходам;
Дурны Самайловіч
З Рамаданам. Нібы галкі,
Ўкрылі Украіну
Ды клююць, як толькі могуць.
А ты, Чыгірыне!
А ты, стары Дарашэнка,
Запарожскі браце!
Не здужаеш, ці баішся
На ворага стаці?
— Не баюся, атаманы,
Шкода-ж Украіны!—
І заплакаў Дарашэнка,
Як малы хлапчына!
— Не рассыплем сіл варожых—
Не йсці мне ў паходы!
Вы бярыце, атаманы,
Гетмана клейноды,
Аднясіце маскалю іх,
Ды Маскве скажэце:
Што гетмана Дарашэнка
Няма ўжо на свеце.
А я, браты-запарожцы,
Вазьму сабе расу,
Ды пайду паклоны біці
Ў Міжгор'е да спаса.
Ва ўсе званы зазванілі,
Гарматы стралялі;
У два рады задняпроўцы
З маскалямі сталі
Аж на мілю—між радамі
Панеслі клейноды.
Годзе табе, Пятро, піці
Ды з Цясміна воды!
Клалі гэтыя клейноды
Паповічу ў ногі,
Ідзі, Пятро, у Міжгор'е
Памаліся богу!
Не пусцілі Дарашэнку—
У расе пазналі,
У кайданы закавалі,
Ў Сасніцу пагналі;
А адтуль у Ярапалча
Век свой дажываці.
Вось так табе давялося,
Запарожскі браце!

Выглянула над Чыгрынам
Сонейка з-за хмары,
І пайшлі ў свае улусы
З туркамі татары.
А паны з сваім Чарнецкім,
З паганым Сцяпанам,
Царкву божую спалілі
І косці Багдана
Й Тімошавы ў Суботаве
Начыста спалілі,
Пайшлі ў Польшчу,—нібы яны

Добрае зрабілі.
А маскалі з Рамаданам
У нядзельку рана
Пайшлі сабе з паповічам
Шляхам Рамаданам.

Нібы той арол палонны
Без крылляў, без волі,
Знямог слаўны Дарашэнка,
Седзячы ў няволі,
І памёр з нуды. Абрыдлі
Кайданы нябогу!
І забылі на Украіне
Гетмана былога.
Толькі ты, святы Растоўскі,
Згадаў у цямніцы
Свайго друга вялікага,
Загадаў капліцу
Над гетманам змураваці
І бога маліці —
За гетмана, паніхіду
За Пятра служыці.
І над гетманам год кожны,
Як дзень той настане,
Ідуць правіць паніхіду
У яснае ранне
Ў Яраполчы.

[Кос-Арал
1848]

* * *

Не ўначы, адгасцяваўшы
У кумчынай хаце,
Не спаць позна кладучыся,
Згадай мяне, браце!
А як прыдзе нуда ў госці
Ды на ноч засядзе,
Вось тады і на параду
Пакліч мяне, браце.
Вось тады згадай ў пустыні
Далёка над морам
Свайго друга вясёлага,
Што ваюе з горам,
Як ён думы свае тыя,
І сэрца трывогу,
Захаваўшы, ходзіць ціха
Ды моліцца богу,
Украіну ўспамінае
І цябе, мой дружа,
А часамі пасумуе...
Вядома, не дужа,
А так толькі... Вось і свята—
На дварэ і ў хаце,—
Цяжка яго, дружа-браце,
Аднаму спаткаці
У пустыні... Заўтра рана
Загудуць званіцы
На Украіне, заўтра рана
Да царквы маліцца
Пойдуць людзі, заўтра-ж рана
Завые галодны
Звер у полі, і павее
Ураган халодны,
І пяском засыпле, снегам
Курэнь—маю хату.
Вось мне гэтак даводзіцца
Сустракаці свята!
Што-ж рабіць? На тое й ліха,
Каб з тым ліхам біцца;
А ты, дружа мой адзіны,
Як маеш нудзіцца,—
Прачытай пасланне гэта
І знай, што на свеце
Толькі й цяжка, што ў пустыні,
Ў няволі марнеці...
Дый там жывуць, хоць пагана...
Што-ж рабіць я маю?
Час памерці-б,—дык надзея,
Браце, не ўмірае!

1848. Снежня 24.
Кос-Арал

* * *

Нібыта стэпам чумакі
Увосень доўгі шлях мінаюць,
Так і мае гады знікаюць;
А мне ўсёроўна: я такі
Мярэжу кніжкі, начыняю
Іх вершамі; ды разважаю
Дурную галаву сваю.
Ды кайданы сабе кую
(Як людзі добрыя дазнаюць).
Ды ўжо няхай хоць разапнуць,
А я без вершаў тых не ўлежу:
Я два гады ўжо так мярэжу
І трэці ў добры час пачну.

[Кос-Арал
1849]

---

## СОТНІК*

У Оглаве... Ці мае быць
Вядомым Оглаў белахаты?
Хоць троху! Расказаць я рады,
Каб з жалю смеху не зрабіць.
Ад Барысполя недалёка—
У ціхім гомане прысад—
Да нашых дзён стаіць высока
На выгане таполяў рад;
Нібыта з Оглава дзяўчаты
Чакаці з поля вышлі статак,
Дый сталі. А было даўно—
Вось тут бывала, з па-за тыну
Фасоль вілася па тычыне,
І з аканіцамі акно
Рука чыясьці адчыняла
У сад зялёны. Тут была
За тынам сотнікава хата.
А сотнік жыў сабе багата,
Ды, знаеце, ў яго расла
У божым доглядзе дзяўчына—
Чужы байструк. Ці можа так
Узяў сабе стары казак
Чыю сіротку. Сіраціна
Жыла ў куточку зацішным
Вось гэтак з сотнікам старым.
  А сына (сотнік быў жанаты—
Памерла жонка) ён паслаў
Вучыцца ў бурсу з роднай хаты
У Кіеў. Сам-жа ўсё чакаў,
Каб з выхаванкаю сваёю,
З Настусяй, стаць яму раднёю:
Не сына з ёю паяднаць,
А зажадалася старому
Самому ў дурнях пабываць.
А каб няўзнак было нікому,
То ён не раіўся ні з кім,
А толькі сам сабе гадае;
Але жанкі, пярун іх знае,
Ужо смяяліся над ім:
Яны такое нюхам чуюць...
. . . . . . . . . . .
Сядзіць сотнік каля хаты
Ды думку гадае;
А Настуся па садочку
Птушкаю лятае;
Каля сотніка прысядзе,
Руку пацалуе,
То з вусамі страшэннымі
Сівымі жартуе,—
Ну, звычайна, як малое
Пястуе старога.
А старому не да тога,
Іншага якога
Непрыстойнага жадання
Цела яго просіць.
І пальцамі стары сотнік
Настусіны косы,
Як гадзюкі дзве даўгія,
У адну сплятае;
Распляце, навокал шыі
Тройчы абматае!
А яна, мая галубка,

* У рукапісе Шэўчэнкі паэма гэта не мае назвы.

Нічога не знае,
Як з старым катом малое
Кацянё гуляе.

Сотнік

Адчапіся-ж ты, вар'ятка!
Паглядзі вунь: косы,
Як русалка, растрапала,
А чаму не носіш,
Не ўплятаеш тае жычкі,
Што цётка некалі дала.

Насця

Калі-б пусцілі на музыкі,
У косы-б жычкі запляла,
Свае надзела-б чаравікі,
Якой красуняю была,
Барвінкам косы-б апляла я...

Сотнік

Чакай, чакай, мая дурная!
Чакай,—а толькі-б дзе ўзяла
Сабе прыгожы той барвінак?

Насця

А каля тыну... там такі
Парос зялёны з кветкай сіняй,
Як васілёкі-васількі
Зацвіў...

Сотнік

Не будзеш век дзяўчынай!

Насця

А што памру хіба?

Сотнік

Ды не!
А снілася увосень мне,—
Як прышчаплялі дзічкі разам,—
Як прымуцца... вясёлым часам...
Увосень-жа... здалося ў сне:
Ты выйдзеш замуж.

Насця

Не, і не!
Прышчэпы вашы паламаю!

Сотнік

І як барвінак зацвіце...

Насця

Я і барвінак пазрываю!

Сотнік

А ад вяселля не ўцячэш!

Насця

Ўцяку, ўцяку, яшчэ й заплачу.

*(Плача)*

Сотнік

Дурная, Насця ты, як бачу:
І пасмяяцца не дасі!
Хіба не бачыш,—я жартую.
Ну скоч-жа, скрыпку прынясі,
Ды з гора добра патанцуеш,
А я зайграю.

Насця

Добра, тата!
(І радасная—шасць у хату).

Сотнік

Не, трохі трэба пачакаць!
Яно-б і так, ды вось што, браце:
Гады плывуць, гады ляцяць,
А думка мараю-змяёю
Да сэрца так і прырасла.
— А ты ўжо й скрыпку прынясла?!
Якую-ж нам зайграць з табою?—

Насця

Э, не, чакайце! Цур не граць!
А то не буду й танцаваць.
Пакуль барвінку не нарву,
Ды не ўпрыгожуся. Я зараз.

*(Ідзе недалёка, рве барвінак, упрыгожваецца і спявае. Сотнік наладжвае скрыпку)*

Сотнік

Ну вось— адну ўжо адарвала;
Чакай, другую адарву!

*(вяртаецца ўпрыгожаная, спяваючы)*

А як-бы мне крылы, крылы
Сакаліныя,
Паляцела-б я за мілым,
Лёгкакрылая;
Паляцела-б у дуброву я,
У зялёны гай,
Паляцела-б, чорнабровая,
За ціхі Дунай!

*(Тым часам, як яна спявае, у садочак уваходзіць малады хлапец у саламяным брылі, у кароткім сінім жупане, у зялёных шараварах, з торбачкаю за плячыма і з бізуном.)*

Пятро

З тым днём, што сёння! Божа памагай!

Насця

Тата! Тата! Пятро з Кіева прышоў!

Сотнік

А, відам-відаці, слыхам-слыхаці! Ці па волі, ці па няволі?

Пятро

Па волі, тата, ды яшчэ і багасловам.

Сотнік

Ого!

Насця

Багасловам! Аж страшна!

Сотнік

Дурная, чаго ты баішся...

(*Падыходзіць да сына, хрысціць яго і цалуе*)

Божа цябе благаславі, маё дзіцятка! Настуся! Вядзі яго ў пакоі, ды пакармі, бо ён можа яшчэ і не палуднаваў.

Пятро

Яно такі і так.

(*Ідзе ў святліцу з Настусяю.*)

Сотнік (*сам з сабою*)

І дараваў-жа бацьку бог,
Мне грэшнаму, такога сына!
І багаслоў ужо... прычына,
Прычына мудрая. *(Думае.)* Чаго,
Чаго задумаўся я? Хопіць!
Пашлю ў папы, ці, зрэшты, ў Сеч—
Не згіне й там варожы хлопец.
Не, вось яшчэ якая рэч:
Прымусіць трэба багаслова,
Каб дома бібікаў не біў
Каб запаведзям тут наўчыў
Настусю ён абавязкова,
Каб зноў дзяка мне не наймаць,
Як для нябожчыцы. А знаю,—
Без гэтага не павянчае
Айцец Хама... Пайсці сказаць,
А то забуду.

(*Ідзе ў хату*)

———

Жыць-бы, жыць, хваліці бога,
З дзяцей любавацца,—
Дык-жа не: самому трэба
У дурнях застацца,
Ажаніцца яму трэба
З такою дзяўчынай!
Схамяніся, не жаніся:
І яна загіне,
І сам сівым пасмешышчам
Будзеш ў сваёй хаце!
Будзеш сам вяселле гэта
Павек праклінаці!
Будзеш плакаць, і некаму
Слёз тваіх старэчых
Будзе ўцёрці. Не жаніся,—
Гэта не да рэчы.
Ты зірні: жывеш у шчасці,
І дзеці, што краскі.
Навошта ім згуба тая
З бацькоўскае ласкі?
Чапурыцца стары, круціць
І сам сябе чмуціць,
А Настуся з багасловам
Запаведзі вучыць.
Ён глядзіць: яны ў садочак
Ціха вышлі з хаты,—
Удваіх там пахаджаюць,
Нібы галубяты.
А старога няма дома,
Дык ім свая воля
Нагуляцца. Паглядзіце:
Там каля таполі
Сталі сабе, пазіраюць
Адно на другога.
Так, відаць, глядзяць святыя
Ангелы на бога,
Як яны глядзяць з пяшчотай.
І Пятрусь пытае:

Пятро

Чаму-ж ты, мая Настуся,
Цяпер не чытаеш?

Насця

Хіба вучань я, ці што? Не хачу дый годзе!

Пятро

Хоць адну невялічкую запаведзь сёння выўчы, хоць пятую!

Насця

І пятае, і шостае,—ніякай не хачу!

Пятро

Дык поп і не павянчае ніколі, як не будзеш умець!

Насця

Падумаеш, хай сабе не вянчае.

Пятро

А са мною?

Насця

і з табою няхай сабе... Э, не! Няхай павянчае!

Пятро

Дык чытай-жа, а то...



Насця

А то што ты зробіш?

Пятро

Пацалую, вось пабачыш!

Насця

Хоць як хочаш цалуй сабе, а я такі не буду чытаць!

Пятро

(*цалуе і прымаўляе*)

Гэта табе раз, гэта табе два...

(*А сотнік выглядае з-за тыну і ўваходзіць у хату, не падаўшы знаку*)

Насця

(*вырываецца*)

Годзе ўжо, годзе! Неўзабаве бацька прыдзе,—трэба сапраўды чытаць.

Пятро

А цяпер і чытаць!

Сотнік

(*выходзіць з хаты*)

Дзеці! Годзе ўжо вам вучыцца! Ці не час абедаць?

(*Пятро і Насця моўчкі ідуць у хату.*)

Сотнік (*сам з сабою*)

Наўчылася, нішто сказаць!
Вось дык дзяўчынка! Не, Настуся,
Каля цябе я захаджуся
Цяпер, лябёданька, не так!
Пакуль сто раз не пацалуе,
Чытаць не хоча. А бурсак!..
Сабачы сын, ты знаеш смак!
Вось я цябе папамуштрую—
Горш чым у бурсе! Памялом!
Каб духу ў хаце не было.
Вялікі свет наш—не загінеш.
Што ўздумаў толькі—чортаў сыне—
Вось багаслоў, дык багаслоў!..
У бацькі крадзе! Добра, сваце!
Тут, нават, камень зазлуе!
А што там дзеецца у хаце?
Там зноў маленькія мае
Чытаюць... Трэба разагнаці.

---

Гэткія бацькі на свеце,—
Нашто яны дзецям?
На наругу перад богам.
Паважаць-жа ўмейце,
Шанаваць такога, дзеці!
Бо то бацька сівы,
Бацька мудры. Добра тым вось
Сіратам шчаслівым,
Што такіх бацькоў не маюць,
Дый не саграшаюць.

Насця

(*выбягае заплаканая з хаты*)

Не дае і паабедаць,
Ў Кіеў праганяе.
А божа мой літасцівы!
Куды мне падзецца?
Пабандрую. (*Глядзіць у хату*). Замахнуўся!
Ах, як ён злуецца!
Ды не ўдарыць. А я такі
У Кіеў з Пятрусем
Павандрую, хоць што хочаш!
Я не пабаюся,—
Сярод ночы павандрую!..
А ведзьма спужае?..
Не спужае. (*Зноў глядзіць.*)
Гаротненькі,
Кніжачкі складае
У торбачку і брыль бярэ.
Бывай-жа, мой любы,
Маё сэрца!.. Увечары?
За вёскаю? Буду,
Раней буду! Вось на, лаві!

(*Кідае цераз тын кветку*)

Чуеш? Дажыдайся-ж!

(*Выходзіць сотнік*)

Насця (*спявае*)

Не хадзі, не нудзі, не заляцайся,
Не сватай, не пайду, не спадзявайся!

Сотнік

А ёй не шкода, толькі скача!
Сакоча, скача, як сарока.
Настуся! Ты чаму-ж не плачаш?
Пятрусь ад нас пайшоў далёка.

Насця

Падумаеш, што за бяда!
Дык плачце, як шкада!

Сотнік

А мне ўсёроўна.

Насця

Ну, а мне
Зусім яго не шкода—не,
А я ўжо запаведзі знаю
Да аднае!



Сотнік

Да аднае?

Насця

Няхай хоць зараз спавядае
Айцец Хама ў царкве мяне.

Сотнік

Мы павянчаемся ў нядзелю?

Насця

А ўжо-ж! Вось толькі не гавелі;
Як адгавеемся—тады.

Сотнік (*цалуе яе*)

Мая ты ягадка паспела,
Мая галубачка!

(*Скача і прымаўляе*)

У гарох
Ўчатырох
Уначы хадзіла;
Уначы,
Ідучы,
Маністы згубіла.

Насця

Ды годзе вам ужо з тымі маністамі! Ішлі-б хутчэй да айца Хамы, ды параіліся! Вось што!

Сотнік

Праўда, праўда, мая кветачка! Пабягу-ж я хуценька, а ты, мая любая, пагуляй сабе ціхенька! Ды кветкамі ўпрыгожвайся! Ды не чакай мяне, бо можа быць, што я застануся і на вячэрню. (*Цалуе яе і ідзе.*)

Насця

Добра! Добра! Не чакаю.

Не чакаю, не чакаю,
І світачку апранаю,
У маністы убяруся,
Даганяць буду Пятруся!

Абнімемся, пацалуемся, пабярэмся за рукі і пойдзем удваіх сабе аж у Кіеў. Трэба кветкамі ўпрыгожыцца,—можа ў апошні раз! Бо ён казаў, што ў Броварах і павянчаемся.

(*Упрыгожваецца і спявае*):

Ой пайду я не берагам-лугам,
Сустрэнуся з нясуджаным другам.
Здароў, здароў, нясуджаны дружа,
Любіліся мы з табою дужа;
Любіліся, ды не пабраліся,
Толькі жалю сэрцу набраліся.

Вось нагадала якую! Ліха ёй, якая паганая! Пабягу хутчэй. Бывайце здаровы, мае высокія таполі і сіні мой барвінак!

(*Выходзіць*).

---

Ідзе дадому уначы
П'яненькі сотнік, ідучы
Сабе вясёлы размаўляе:
— Няхай-жа свет і нашых знае!
Няхай і сівы, і гарбаты,
Але... хе! хе! Але жанаты!
Але...—І ледзьве ўлез у хату,
Ды лёг паціху на палатах,
Каб Насцю, бачыш, не ўзбудзіць,
Ды сораму не нарабіць.
Ужо «Достойно» адзванілі,
Ужо дадому людзі йдуць,—
А Насці ўсё няма, не чуць.
Суседзі сотніка ўзбудзілі,
Ды расказалі: так і так!
Перахрысціўся небарак;
Каня найлепшага сядлае
І скача ў Кіеў. Ў Браварах,
Ужо вянчаная, гуляе
Яго Настуся—марны шлях.
Вярнуўся сотнік мой дадому,
Тры дні, тры ночы не ўставаў,
Нікому слова не сказаў
І не паскардзіўся нікому.

---

. . . . . . . .
. . . . . . . .
Турбуецца, зарабляе,
А таго не знае,
Што на старасць адурэе
І ўсё занядбае.
Вось цяпер такое гора
З сотнікам збылося:
Разагнаў дзяцей па свеце,
Дабро засталося,—
Няма з кім яго дзяліці.
Выпала самому
Прагуляць, і марна збыці,
І дабра нікому
Не зрабіць і на капейку,
Пасмешышчам стаці
Між людзей, і толькі охаць
У халоднай хаце
Пад світкаю; і некаму
Ў хаце прапаліці
І вымесці; па сметніку

Хадзіці, нудзіці,
Покуль сыч па-над страхою
Ў акно не завые,
Труп халодны парабчанка
Покуль не пакрые
Кажушынаю старою,
А ключ ад каморы
З-за пояса сцягне, скрадзе...

У такім вось горы
Сотнік той жыве нядбала.
Году не праходзіць,
Як Настусенькі не стала,
А ўжо на гародзе
Не засталася нічога,—
Свінні ды цяляты
Ужо ходзяць. А барвінак,
Што цвіў каля хаты,
Прытаптаны, каля тыну
Засыхае, вяне!
А кажух напяўшы, сотнік
Адрузлы, паганы
Каля пуні пахаджае.
І стагі не ўкрыты,
І пакоі не мазаны,
І бэлькі не мыты,
І чэлядзі няма дома,
Скаціны не мае...
А наймічка-задрыпанка
І то памыкае
Старым панам. Так і трэба:
Не разганяй дзетак,
Сівы дурань. Ды не доўга
Жыў, нудзіўся гэтак
П'яны сотнік. Яшчэ лета
Мінула, забыта,
А ўвосені на вуліцы
Сотнік быў забіты!
Ці так памёр небарака,
З карчмы позна йдучы?—
Хто аб гэтым клопат мае?
Забралі й анучы
Людзі добрыя; самога-ж
Слаўна пахавалі,
На поплаве, і крыжыка
Над ім не ўкапалі.
Шкада яго: ёсць і дзеці,
І радня ў старога,
А як крыж яму паставіць,
Дык няма нікога!
Памёр сотнік, і ў пакоях
Усё згнілося;
Ўсё пагінула, прапала,
Толькі й засталося,
Што таполі на выгане:
Стаяць, як дзяўчаты,
Што за Оглаў вышлі ў поле
Выглядаці статак.

[Кос-Арал
1849]

---

* * *

За сонцам хмарачка плыве,
Поўнеба чырванню займае,
І сонца спаць яна заве
У мора сіняе; ўкрывае
Ружоваю пеляною,
Як маці дзяціну...
Глянуць люба... Хвіліначку,
Малую хвіліну
Быццам сэрца адпачыне,
З богам загаворыць...
А туман, нібы той вораг,
Закрывае мора
І хмарачку ружовую,
І змрок за сабою
Расцілае туман сівы,
І цемрай нямою
Душу тваю спавівае—
Дзе тугу падзеці?
І чакаеш таго свету,
Як мацеры дзеці.

[Кос-Арал
1849]



* * *

Як на свеце мне журыцца,
Дакучаці людзям,
Пайду, куды глядзяць вочы:
Што будзе, дык будзе!
Знайду долю—ажанюся,
Не знайду—ўтаплюся,
Ды нікому не прадамся,
Ў наймы не наймуся.
Пайшоў, куды глядзяць вочы...
Долю пахавалі,
А волечкі людзі тыя
І не таргавалі,
А без торгу закінулі
Далёка ў няволю...
Каб такое не ўзрастала
Зелле ў нашым полі.

[Кос-Арал
1849]

* * *

А навошта мне жаніцца?
Ды навек звязацца?
Будуць з мяне маладога
Казакі смяяцца.
Ажаніўся, яны скажуць,
Галодны і голы;
Занапасціў неразумны
Маладую волю.
Яно й праўда. Што-ж рабіць мне?
Скажыце мне, людзі!
Хіба йсці да вас у наймы?
Ці да ладу будзе?
Я чужых валоў не буду
Пасвіць, заганяці;
Не буду я ў чужой хаце
Цёшчу паважаці,
А буду я красавацца,
Ў блакітным жупане
На коніку вараненькім
Перад казакамі.
Знайду сабе чарнаброўку
Ў стэпу пры даліне—
Высокую магілачку
На той Украіне.
На вяселле таварыства
Прыдзе ўсёй грамадай,
Ды вынесе самапалы,
Выкаціць гармату.
Будуць несці таварыша
Ў новыя пакоі,—
Загамоняць самапалы,
Загудуць набоі.
Як паложаць атамана
У новую хату,—
Загалосіць, нібы маці,
Голасна гармата.
Гукаць будзе, крычаць будзе
Не адну гадзіну,
Паразносіць тую славу
На ўсю Украіну.

[Кос-Арал
1849]

* * *

Ой крыкнулі шэры гусі
Ў яру на ставу;
На ўсё сяло пайшла слава
Пра тую ўдаву.
Не так слава, не так слава,
Як той пагавор,
Што заехаў казак з Сечы
Да ўдавы на двор;
Вячэралі ў светлай хаце,
Мёд-віно пілі,
І ў пакоі на пасцелі
Адпачыць ляглі.
Не мінула тая слава
Не марна пайшла:
Ўдава тая маладая
Сына прывяла.
Маленькага гадавала,
Да школы вяла,
А як скончыў сын вучыцца,
Каня набыла;
А каня яму купіўшы,
Вышыла сядло—
Яно ў золаце зіхцела
І ў шаўку было;
У чырвоным, у жупане
Сын ішоў на шлях—
На каня яго саджала:
Ворагам на страх!
— Паглядзіце!—Маці з сынам
Ішла ўздоўж сяла,
І, прывёўшы да абозу,
У войска здала,
А сама яна ў манашкі
У Кіеў пайшла...

[Кос-Арал
1849]

---

* * *

Як-бы табе давялося
Ў нас папанаваці,
Дык ведаў-бы, пане-браце,
Як іх называці,
Гэтых тваіх нешчаслівых
Дзяўчатак-пакрытак;
А то меле несусвецце,
Ды думае: мы-то!
Мы пакажам людзям, свету
Нашых зганьбаваных,
Ды навучым шанавацца
Панічоў паганых.
Шкода й працы! Покуль сёлы,
Покуль паны ў сёлах,
Штодзень, браце, бачыць будзем
Пакрытак вясёлых
Па шыночках з салдатамі,—
Не турбуйся, браце!
Добра, кажу. А ўсё-такі
Маю расказаць я
Вось гэтую, апошнюю...
Панічы, зважайце!

Дзяўчаты сена днём граблі,
А дзецюкі капіцы клалі,
Ды, знай, на сонца пазіралі,
Ды несусветчыну вярзлі,—
Вядома, хлопцы! А смуглянкі,
Нібы сарокі, сакаталі,
Ды да крыніцы учашчалі—
У яр на гулянкі.
Красуня-ж усяго сяла
Даўно з глячком у яр пайшла,
Назад вярнуцца не спяшае;
А прыганяты й не шукае,
Нібы не бачыць, ці забыў.
А ён аднак-жа хітры быў:
Сабака і стары, і біты.
У балцы пачалі крычаць;
Пабеглі хлопцы ратаваць.
Аж там паніч несамавіты,
Блазнюк, такое стаў чыніць,
Дзяўчыну бедную мардуе,
Дзяўчына бедная крычыць.
Прыбеглі хлопцы; не ратуюць:

Баяцца пана. А адзін,
Наймаладзейшы, азірнуўся
Ды віламі пана
Прасадзіў, як тую жабу.
Застагнаў паганец
Дый сканаў. Якая-ж рада?
Якая парада?
Суд наехаў; паглядзелі,
Папілі заўзята
Тыя суддзі. Закавалі
Хлапца маладога,
Ды ў турму яго пагналі,
І болей нічога.

---

На шырокім тракце ў полі
Карчма пад вярбою
Стаіць сабе ў халадочку;
А пад той карчмою
Загадана ланцужнікам
На троху спыніцца—
Дазволена гарацешным
Там вады напіцца.
Сядзяць разам арыштанты,
Ціха размаўляюць.
А з-за ўзгорку паязжане
На шлях выязджаюць,
Аж тры тройкі,—як звычайна
Коней прыпынялі
Ля карчмы на адпачынак;
Дый дружкі прысталі,
Спяваючы. Коні сталі;
Маладая ўстала,
Ўзяла кварту з пачастункам,
Дый пачаставала
Гаротнага нявольніка,
Яго канваіра...
Як-жа гляне, як пагляне,
Божачка мой шчыры!
Між нявольнікамі ў путах
Той самы, адзіны
Яе помснік нешчаслівы,
Нясе з Украіны
У Сібір ланцуг пакуты...
А ты будзеш тута
У раскошы, і не будзеш
Не знаць і не чуць ты
Яго плачу штодзённага?
Не пачаставала
Свайго помсніка святога
І не прывітала,—
Толькі глянула з трывогай
І болей нічога.

Паперадзе паязжане
Рушылі ў дарогу,
А за імі нявольнікі
Бразгалі пакутна
Ланцугамі,—больш нікога
Не відна, не чутна
Ля карчмы... І на хвілінку
Яна засталася
З шынкаркаю. Вакол яе
Пылам узнялася
Шлях-дарога...
І сцямнела.
І век не вялікі,
Не толькі дзень. На хутары
Танцы ды музыкі.
Да поўночы. І прыданкі
Пасцель пайшлі слаці
У камору; маладая-ж
Вышла пагуляці
І прапала. Скрозь шукалі,
Да свету шукалі,
Але марна... Дзе-ж дзяўчына?
Дзе? Павандравала
За нявольнікам гаротным
У Сібір... дый годзе!

[Кос-Арал
1849]

---

* * *

Зараслі шляхі шыпамі
Да тае краіны,
Мабыць я яе навекі,
Навекі пакінуў.
Мабыць мне ўжо не вярнуцца
Ніколі дадому?
Мабыць мне і давядзецца
Чытаці самому
Думы гэты? Божа мілы!
Як цяжка мне жыці!
Маю сэрца шырокае—
Не з кім падзяліці!
А не даў-жа мне ты долі,
Маладое долі!



А не даў яе ніколі,
Ніколі! ніколі!
Не даў сэрца маладога
З тым сэрцам дзявочым
Паяднаці!—Мінуліся
Мае дні і ночы
Без радасці маладыя!
Так сабе мінулі
На чужыне. Не знайшлося
З кім сэрца дзяліці,
А цяпер не маю нават
З кім пагаварыці!
Цяжка мне, о божа мілы,
Насіці самому
Гэты думы не дзяліўшы
Ні з кім,—і нікому
Не сказаць святога слова,
І душы убогай
Не пацешыць, не паганьбіць
Чалавека злога.
І памерці!.. О госпадзі!
Дай ты мне хоць глянуць
На народ вось той забіты,
На тую Украйну!

[Кос-Арал
1849]

* * *

Зацвіла у даліне
Чырвона каліна,
Быццам расквітнела
Дзеўчына-дзяціна.
Люба, люба стала,
Пташачка у шчасці
Там зашчабятала.
Пачула дзяўчына,
І ў белай свіціне
Вышла пагуляці
У гай на даліну.
Не сядзіцца ў хаце.
Да дзяўчыны вышаў
З зялёнага гаю
Казак маладзенькі;
Цалуе, вітае,
І йдуць па даліне
І йдучы спяваюць
Як дзетачак двое,
Пад тую каліну
Прышлі, селі дружна,
Моцна абняліся.

Якога-ж мы раю
У бога жадаем?
Рай у сэрца лезе,
А мы ў царкву лезем,
Заплюшчыўшы вочы.—
Такога не хочам.
Сказаў-бы я праўду,
Ды што з яе будзе?
Самому заводзіць,
А папам ды людзям
Аднолькава будзе.

[Кос-Арал
1849]

* * *

У нашым раі на зямлі
Мы прыгажэйшага не маем,
Чым тая маці маладая
З дзіцяткам родным і малым.
Бывае часам нагляджуся
На гэта дзіва, і нуда
Душу ахопіць; так шкада
Мне бедную, і зажуруся,
І перад ёю памалюся,
Як быццам на абраз святы
Той маці чыстае, святое,
Што ў свет наш бога прынясла...

Шчаслівая, яна смяецца,
Яна сярод начы ўстае,
Дзіця пільнуе і пяе,
І просіць ранне развіднецца,
Каб зноўку добра наглядзецца,
Папесціць.—Вочкі вы мае!
Дзіця маё!—Цалуе многа,
І моліцца аддана богу,
І йдзе на вуліцу гуляць,
Там ганарыцца больш царыцы,
Каб людзям, бачыш, паказаць
Сваё дабро.—А падзівіцца!
Хто з ім зраўняецца красой!—
Хоць незнарок другі, а гляне
Вясёла, рада, божа мой!
Нясе дамоў свайго Івана.
І ёй здаецца, ўсё сяло
Не знае лепшага, другога,
Што толькі й дзіва там было,
А болей не было нічога.
Шчаслівая!..
Гады мінаюць.
Патроху дзеці вырастаюць,
І выраслі, і ўсе пайшлі
На заработкі, ў маскалі.
І засталася ты, нябога,
І ўжо няма ў цябе нікога
У сумнай хаце. Цяжка жыць,
І цела нечым ёй прыкрыць,
І выпаліць зімою ў хаце.
А ты не здужаеш і ўстаці,
Каб хоць агонь той распаліць.
І мерзнеш, молішся аб долі
Любімых дзетачак.

А ты
Вялікамучаніца! Сёлы
Мінаеш плачачы ўначы.
І полем, стэпам ідучы,
Свайго ты сына закрываеш.
Бо й пташка возьме ды пазнае
І зашчабеча:—Байструка
Нясе пакрытка на базар.—

Бесталанная! Скажы ты
Прыгожасць дзе тая,
Што ўсе людзі аглядалі?
Згінула, не знаеш!
Ўсё забрала дзяцінячка
І выгнала з хаты,
І пайшла ты ў свет за выган,
Быццам з крыжа знята.
Старцы цябе чураюцца,
Быццам ад праказы.
А яно зусім малое
Покуль і не лазіць.
І калі-ж яно ўжо будзе
Большым і прамовіць
Слова «м а м а». Вялікае,
Найлепшае слова!
Ты ўсміхнешся і раскажаш
Дзіцятку праўдзіва,
Як зманіў паніч лукавы,
І будзеш шчаслівa.
Ды нядоўга. Бо не дойдзе
Поўных год дзяціна,
Як сляпца вадзіць ён пойдзе,
А цябе пакіне
Калекаю ў бездарожжы,
Каб сабак дражніла,
Ды і вылае. За тое,
Што на свет радзіла.
І за тое, што так цяжка
Дзяціну любіла.
І любіць будзеш, нябога,
Покуль не загінеш
Між сабак ды на марозе
Дзе-небудзь пад тынам.
Вось таму мне шкода стане *)
Маці той дзяціны,
Што яна яго так любіць,
За яго і гіне,
За дзіцятка паганае,
Згубіць між нягоды,
Найлепшае дабро сваё—
Маладыя годы.
А яно, з яго бывае
Не выйдзе нічога,
Або выйдзе недалюдак,
Сатана бязрогі!
І ніколі ўжо з байстраці
Не будзе мець маці
Сабе добрае дзяціны,
Хоць яно ў багацці!

Добра вось тым панам жыці:
Нічога не знаюць
І не ведаюць, як дзеці
У іх вырастаюць,
Бо матулі там не маюць,
А мамку наймаюць.

[Кос-Арал
1849]—[1858]

*) Скончэнне верша ад радка 25 да канца ёсць толькі ў рукапісе 1849 г.



* * *

На вялікдзень, на саломе
Дзеці ўсё гулялі
Ў пафарбованыя яйкі,
Дый хваліцца сталі
Абноўкамі. Таму к святу
З вышыўкай пашылі
Сарочачку. А той стужку,
Той каснік купілі.
Каму шапку, каму боты,
Аж гарацъ падкоўкі,
Каму світку. Адна толькі
Сядзіць без абноўкі
Сіроцінка, свае ручкі
Схаваўшы ў рукавы.
—А мне маці ўсё купляла,
—А мне тата справіў,
А хрышчоная мне маці
Ліштву вышывала.—
—А я ў папа абедала,—
Сіротка сказала.

[Кос-Арал
1849]

---

* * *

Было, раблю што, ці гуляю,
Ці богу малюся,
Думаю ўсё пра яго я
І чагось баюся.
Маладой была дурная—
Я ўсё выглядала,
Ці не едзе ка мне ў сваты...
І не распазнала,
Што мяне дурную дурыць,
А сэрца балела,
Нібы знала, што так будзе,
Ды сказаць не ўмела.
А калі-б яно сказала,
Дык я-б не любіла,
Можа быць і да крыніцы
У гай не хадзіла.
А то ранкам і ўвечары
Хадзіла, гуляла...
Дахадзілася, а потым
І навечна стала
Дзеўкаваць. Як цяжка-цяжка
У мацеры ў хаце
Састарэцца. А сваю ўжо
Больш хату не знаці!
Ды цяпер я, ці раблю што,
Ці то так гуляю,
З думак ён і не выходзіць,
І сама не знаю,
Чаго думаю! Чаго я
У той гай хадзіла?
І за што яго так доўга,
Цяжка так любіла!

[Кос-Арал
1849]

---



* * *

Бывае, часам і стары
Само сабой павесялее,
Як быццам стане малады,
І заспявае, як умее...
І стане ясна перад ім
Надзея ангелам святым,
І маладосць, зара яго,
Лунае весела над ім.
Што-ж гэта вышла са старым,
Чаго ён рады? А таго,
Што, бачыце, стары падумаў
Дабро каб некаму зрабіць.
А што-ж як зробіць? Добра жыць!
Таму чыя душа і дума
Дабро навучылася любіць!
Не раз такому люба стане,
Не раз барвінкам зацвіце.
Вось часам так глыбока ў яму
Святое сонейка загляне,
І ў цёмнай яме, у куце
Трава зялёная ўзрасце.

[Кос-Арал
1849]

---

* * *

Хіба самому напісаць
Сабе пасланне і прывет,
Ды ўсё дачыста расказаць,
Усё, што след, што і не след
Не дачакаць бо мне такога
Пісьма праўдзівага, святога,
Няма ў мяне цяпер нікога,
Дарма чакаць я буду доўга.
Бо ўжо, здавалася-б, пара,
Амаль ужо і год дзесяты,
Як даў людзям я Кабзара,
А ім як быццам рот зацяты,
Ніхто й не гаўкне, не брахне,
Як быццам не было мяне.
Я не пахвал сабе, грамада!
Мо' абыйдуся і без іх,
А я сабе чакаю рады!
Ды мабыць ў яму перайду
Я з маскалёў, а не прыжду!
А мне было, аж сэрцам млеў,
Мой божа любы! Як хацеў,
Каб мне хто-небудзь ды сказаў
Хоць слова мудрае, каб знаў,
Каму пішу я шчыра, многа,
За што Украйну я люблю?
Ці варт яна агню святога?
Старэю хоць з жыцця такога,
Яшчэ не знаю, што раблю.
Пішу я думкамі узняты,
Каб час не траціць абыяк.
Ды момантам стары казак
Прысніцца грэшнаму, вусаты,
Ды з воляй яснаю у сне,
З канём імклівым, здасца мне.
А больш нічога я не знаю,
Хоць я за тое й прападаю
Цяпер ў далёкай старане.
Ці гэта доля так зрабіла?
Ці маці бога не маліла,
Як панясла мяне. Што я,
Як быццам лютая змяя
У стэпу струшчанай здыхае.
І сонца захаду чакае.
Вось так і я цяпер цярплю,
Ды смерць са стэпу выглядаю.
За што яй-богу я не знаю!
А ўсё-ж я так яе люблю,
Маю Ўкраіну, стэп шырокі.
Хоць я па ёй і адзінокі
(Бо бачце пары не знайшоў),
Аж да пагібелі дайшоў.

Нічога, дружа, не журыся!
Вазьмі у сталь сябе закуй,
Уважна богу памаліся,
На грамаду-ж ты хоць наплюй!
Качаннем ёй капусным звацца,
Між тым, як знаеш, пане-браце.
Не дурань, сам сабе мяркуй.

[Кос-Арал
1849]

---



* * *

Мы людзі гордыя й дурныя,
Прад намі ўсе шляхі глухія!
А хвалімся, што гэта мы
І над зямлёю і вадою,
І ад палацаў да турмы
Усе цары—а над сабою
Аж проста ка́ты—вось цары,
І на прастоле, і ў няволі,
І гэта ўсё па добрай волі,
Па волі розуму гарыць,
Як той маяк у сінім моры,
Ці... у жыццёвым.—Гэта-ж так
У нас у касцяной каморы
Гарыць разумны той маяк,
А мы алівы наліваем
Ды безразважліва спяваем—
Ці пры выгодзе, ці ў напасць.

Арлы, арлы вы з сізым крыллем,
Пакуль вас беды не накрылі,
Хоць невялічкія на час!
А там пад лаваю ў шыночку
Схаваецеся ў халадочку;
Агонь нябесны той пагас,
І ў касцяную ўжо каморку
Палезлі свінні са знадворку,
Нібы у лужу, дый сапуць,
І добра робяць, што куюць
На рукі добрыя кайданы,
Ды чаркі ў рукі не даюць
Альбо нажа, а то-б зарання
Перапіліся-бы як след,
А потым з жалю зарыдалі
Ды бацьку-маці праклялі
І тых, да крыжу, што трымалі.
А потым нож... і пацякла
Свіная кроў, нібы смала,
З пячонак вашых парасячых.
А потым?..

[Кос-Арал
1849(?)]

* * *

І залатое, й дарагое
Зусім мне, знайце, не шкада
Маёй-жа долі маладое.
А часам вострая нуда
Душу агорне, аж заплачу.
Ды больш яшчэ, калі пабачу,
Як хлопчык у сяле адзін,
Бы адарваўся ад галін,
Пад тынам чахнучы ў дакуцы
Сядзіць у зрэб'і у калючым.
І мне здаецца, гэта я,
Што маладосць сядзіць мая.
І мне здаецца, што ніколі
Не будзе хлопчык бачыць волі,
Яе святой. Што між бяды
Дарэмна, марна пралятуць
Яго найлепшыя гады,
Што ён не будзе знаць, дзе дзецца
На гэтым белым, вольным свеце,
І ў наймы доля павядзе,
А каб не плакаў у бядзе,
Каб толькі прытуліўся дзе,
У маскалі хтось адвядзе...

[Кос-Арал
1849]



* * *

. . . . . . . . . .
Мы разам некалі раслі,
Кахаліся яшчэ малыя,
А нашы маці дарагія
Казалі, вырастуць калі,
Пажэнім іх. Ды не ўгадалі.
Старыя рана паўміралі,
Пуцінай рознай мы пайшлі,
Ды не сышліся ўжо ніколі.
Мяне па волі і няволі
Насіла ўсюды. Прывяло
На старасці зусім дадому.
Вясёлае даўней сяло
Чамусьці мне цяпер старому
Здалося цёмным і нямым,
Такім, як я цяпер, старым.
І бачу я,—ў сяле убогім
(Мне так здавалася) нічога
Не вырасла і не згніло,
Таксама ўсё, як і было:
І яр, і поле, і таполі,
І над крыніцаю вярба
Нагнулася, нібы журба
Далёка ў цяжкае няволі.
Ставок, бліз грэбля, і вятрак
З-за гаю крыллямі махае
І дуб зялёны, бы казак
Пад горку вышаў дый гуляе
А на гары я пазнаю
Садок свой цёмны, а ў садочку
Ляжаць сабе у халадочку
Мае старыя, бы ў раю.
Крыжы дубовыя схіліла,
Дажджамі надпісы пазмыла...
Не словы, не дажджом аднак
Гладзюсенька Сатурн сцірае...
Хай са святымі спачываюць
Мае старыя...—Дзе яна
Жыве Аксаначка?—пытаю
У брата ціха я.—Якая?—
— Была малою, кучаравай,
Гуляла з намі. Ці згадаў,
Чаго-ж ты, брат, засмуткаваў?—
— Ды не, я так. Павандравала
Даўно Аксаначка ў паход
За маскалямі, дый прапала.
Вярнулася, была, праз год,
Дый з байструком малым, ў клапотах
Пастрыжанай. Было ўначы,
Сядзіць зязюляю пад плотам,
Кукуе, плача і крычыць,
Або ціхонечка спявае,
Ды быццам косы расплятае,
А потым некуды пайшла,
Ніхто не знае, дзе прыстала,
Бо адурнела, занядбала.
А што за дзеўчына была,
Ды проста краля! І не ўбога,
Ды толькі долі бог не даў... —
А можа й даў, ды хтось украў,
І абдурыў святога бога.

[Кос-Арал
1849]

---

* * *

Гатова! Парус мы напялі,
Пасунулі па сіняй хвалі
Між парасляў у Сыр-Дар'ю
Байдару ды баркас.
Бывай, убогі Кос-Арале
Нуду заклятую маю
Змог два гады ты разганяць.
І дзякую. Ты-ж сам хвалі,
Што людзі тут цябе знайшлі
І зналі як прыстасаваць.
Бывай-жа, дружа! Ні хвальбы,
Ні ганьбы нават не сплятаю
Тваёй пустэльні; я не знаю,
Ў другім краю мо' й нагадаю
Пра час даўнейшае журбы!

[Кос-Арал
1849]

---





Мы восенню падобны троху
Хоць кропельку бываем богу,—
Звычайна, што не ўсе, а так
Хто-небудзь з нас.
Круты байрак,
Нібы цыган чарнюшчы, голы,
Забіты ў пушчы, альбо спіць.
А па даліне, па раздоллю
Са стэпу перакаціполе
Рудым ягнятачкам бяжыць
Да рэчачкі папіць з прыветам.
А рэчачка яго забрала
Ды ў Дняпро і пагайдала.
Дняпро-ж у мора; на край свету
Быліну мора пакаціла
Дый кінула на чужыне.

І табе так шкода стане
Дробнае быліны.
Пойдзеш сабе засмучоны
Гаем па даліне.
Гай шапоча, гнуцца лозы
Ў яру пры дарозе,
Думы сэрца спавіваюць,
І капаюць слёзы.
І хочацца спавядацца,
Сэрца распавіці,
І хочацца... Божа мілы!
Як хочацца жыці,
І любіці тваю праўду.
І ўвесь свет абняці!

Добра табе, дружа-братка,
Што ёсць ў цябе хатка.
Добра табе, як у хаце
Ёсць з кім размаўляці.
Гаварыць дзіця не ўмее,
І яно ўгадае
Твае думы вясёлыя...
Сам бог размаўляе
Непарочнымі губамі.

А табе, мой адзінокі,
Мой дружа адзіны,
Гора табе на чужыне,
Як у дамавіне.
Хто з табою загаворыць,
Прывітае, гляне?..
Навакол цябе сышлася
Трупам бездыханным
Памарнелая пустыня,
Кінутая богам.

[Кос-Арал
1849]



Лічу ў няволі дні і ночы,
І лік забываю.
О мой божа, гэтак цяжка
Тыя дні мінаюць.
А гады плывуць за імі,
Плывуць сабе сціхам,
Забіраюць за сабою
І дабро і ліха!
Болей нам не варачаюць
Ніколі нічога!
І не прасі, бо загіне
Малітва за богам.

І чацверты год мінае
Ціханька, паволі,
Чацвертую пачынаю
Кніжачку ў няволі
Запаўняці,—запаўняю
Слязмі ды крывёю
Маё гора на чужыне,
Бо гора такое
Не раскажацца нікому
Ніколі, ніколі,
Нідзе на свеце! Няма слоў
Ў далёкай няволі!
Няма і слоў, няма і слёз,
Няма тут нічога.
Няма нават кругом цябе
Вялікага бога!
Няма на што паглядзеці,
З кім пагаварыці,
Жыць не хочацца на свеце,
А сам мусіш жыці,
Мушу, што з жыцця такога?
Не губіць-бы душу?
Не варт яна таго жалю...
Вось чаму я мушу
Жыць на свеце, валачыці
Ў няволі кайданы!

Мо'яшчэ я падзіўлюся
На маю Украйну...
Мо' яшчэ я падзялюся
Словамі-слязамі
З дубровамі зялёнымі!
З цёмнымі лугамі!
Бо ў мяне няма і роду
На ўсёй Украіне,
Ды усё-ж не тыя людзі,
Што на той чужыне!
Гуляў-бы я па-над Дняпром
Па вясёлых сёлах,
Ды спяваў-бы свае думы
Ціха, невясёла.
Дай дажыці, падзівіцца,
О божа мой мілы!
На зялёныя прасторы
І тыя магілы!
А не дасі, данясі ты
На маю краіну
Мае слёзы; бо я, божа!
За яе я гіну!
Можа мне тут на чужыне
Лягчэй ляжаць будзе,
Як часамі на Украіне
Ўспамінаці будуць!
Данясі-ж, мой божа мілы!
Або хоць надзею
Пашлі ў душу.. бо нічога
Згадаць не сумею
Убогаю галавою,
Сэрца аж займае,
Як падумаю, што можа
Мяне пахаваюць
На чужыне,—й гэты думы
Са мною схаваюць!
І мяне на Украіне
Ніхто не згадае!
А можа ціха за гадамі
Яны пісаныя слязамі
І калі-небудзь далятуць
На Украіну... і падуць,
Як быццам росы над зямлёю,
Яны на сэрца маладое
Слязамі ціханька падуць!
І паківае галавою,
І будзе плакаці са мною,
І можа, госпадзі, мяне
Ў сваёй малітве памяне!

Няхай як будзе, так і будзе,
Брысці, а мо' пераплываць,
Ці мо' распятаму сканаць!
А я ўсё-ж так, ціхутка буду
Ў лісточкі белыя пісаць.

[Орэнбург
1850]

---

* * *

Лічу ў няволі дні і ночы,
І лік забываю.
О мой божа, гэтак цяжка
Тыя дні мінаюць.
А гады плывуць за імі
Плывуць сабе сціхам,
Забіраюць за сабою
І дабро і ліха,
Забіраюць, не вяртаюць
Ніколі нічога,
І не прасі, бо загіне
Малітва за богам.

Паміж багнішчаў, балатамі
Сярод бур'янаў, за гадамі
Аж тры гады, як ноч, прайшлі,
Забралі многа, што знайшлі,
З маёй панурае каморы,
І ў мора ўпотай адняслі
І ўпотай праглынула мора
Не золата, не серабро,
Мае гады, маё дабро,
Маю нуду забралі хвалі,
Тыя нябачныя скрыжалі,
Нябачным пісаны пяром.
Няхай гнілымі балатамі
Цякуць сабе між бур'янамі
Гады нявольныя. А я!
Такая запаведзь мая!
Спачну я трошку, пагуляю,
У стэп я выйду пагуляць,
Згадаю што і заспяваю,
Ды зноў узорамі пісаць
Вазьмуся ў кніжцы. Пачынаю.

[Орэнбург
1850]

*) Перароблена ў 1858 годзе.



* * *

Шляхамі рознымі пайшлі
Без слёз і без размовы.
Ці сыйдземся-ж ужо нанова?
Ці заспяваем мы калі?
А можа й так... Ды дзе? якімі?
І заспяваем потым як?
Не тут, і пэўне не такімі!
І заспяваем мы не так!
І тут нявесела спявалі,
Бо й тут нявесела было.
Ды ўсё-ж такі жыццё ішло,
Прынамсі разам смуткавалі,
Згадаўшы той вясёлы край,
Дняпро той дужы, крутагоры,
І маладое тое гора!..
І малады той грэшны рай!

[Орэнбург
1850]

---

* * *

Не малілася за сына.
Паклоны не клала
Мая маці; а так сабе
Мяне спавівала,
Спяваючы:—Няхай расце
Ды здаровы будзе!—
І вырас я, дзякуй богу,
Ды не вышаў ў людзі,
Лепш было-б не нарадзіці,
Альбо утапіці,
Як я меў-бы у няволі
Госпада гнявіці.

А я так мала, небагата
Прасіў у бога. Толькі хату,
Адну хаціначку ў гаю,
Ды дзве таполі разам з ёю,
Ды нешчаслівую маю,
Маю Аксаначку; каб з ёю
Удвох глядзець адтуль з гары
На Днепр шырокі, на яры,
Вакол на залатое поле,
Ды на высокія магілы;
Глядзець, і думаць, і гадаць:
Калі-ж то іх панасыпалі?
Каго там людзі пахавалі?
І ўдвох ціхутка заспяваць,
Ды тую песню аб старым,
Аб гетмане ваяку тым,
Што ляхі на агні спяклі.
А потым-бы з гары сышлі;
Па-над Дняпром у цёмным гаю
Гулялі-б, покуль не змяркае,
Пакуль свет божы не засне,
Пакуль з вячэрняю зарою
Не ўзыйдзе месяц над гарою,
Туман на дол не адхіне.
Мы-б там з малітвай паглядзелі,
І размаўляючы-б пайшлі
Вячэраць у сваю хаціну.

Даеш ты, божа наш адзіны,
Сады панам ў тваім раю,
Даеш высокія палаты.
Панам-жа хцівым і пузатым
На рай твой, госпадзі, пляваць,
І нам яны не хочуць даць
На свет глядзець з убогай хаты.

Я толькі хатачку ў тым раю
Прасіў, і сёння упрашаю,
Каб хоць памерці на Дняпры
Хоць на малюсенькай гары.

[Орэнбург
1850]

---



# ПЯТРУСЬ

ПАЭМА

Былі на хутары паны,
Жыў з паняй пан, і небагаты.
І дочачка у іх расла,
Ужо, што кветка расцвіла;
І генерал яе пасватаў,
Бо страх прыгожая была.
А генерал быў страх багаты.
Вось долю божухна паслаў
На ўбогі хутар. Упрасілі
Цара нябеснага. Ўзялі,
Найлепш адзелі, як маглі,
Ды ў нядзелю й павянчалі
І генеральшаю назвалі,
І цугам ў Кіеў павязлі.

На хутары у пастушках
Байстручанё свіней пасло,
Пятрусем звалі. У пасаг
Яно за паннаю пайшло
У генеральскае сяло
Свіней-жа пасвіць на палях.

За балам бал у генерала,
За генеральшаю нямала
Паноў хадзіла й панічоў,
А генеральша уначы
Ціхутка плакаць сабе стала.
— За што скарала мяне маці.
Завяне марна у палацах
Краса і маладосць мая.—
— Ты, душка, плачаш?—Гэта я?
Не, я не плачу...—Знаеш, Маня,
У горадзе цяпер армяне,
Купі хоць шалік, не гаруй.—
— Навошта мне патрэбны шалі.—
— Не задавай-жа сэрцу жалю!
Купі, галубка! Не смуткуй
Майго ты сэрца! А вясною
Ў Парыж паедзем мы з табою,
Або паедзем у сяло,
Як хочаш, сэрца.—
Ціха, ціха
Зіма мінала, поўзла ліха
Ды ў самым сэрцы і лягло
У генеральшы маладое.
Паехалі ў сяло вясною;
Банкеты там, аж загуло,
А генеральша плача, плача
А генерал таго не бачыць,
А ўсё ўжо бачыла сяло.

Прайсціся са двара з нуды
Раз замаркотнеўшы пайшла,
Ды аж на поле і зайшла,
Ды бачыць, што пасе ягняты
Хлапчук у зрэбным лахмане.
— О гора, горанька ў мяне!
Што мне рабіць на свеце, людзі?
То ты Пятрусь?—А як-жа, я.—
— Хадзем са мной і жыць мы будзем,
Як там на хутары калісь
Жылі, жылі.—Ды аж прысела,
Вачэй не зводзячы, глядзела
На Петруся! Адным-адна
І вырастала, і гадала,
І за старога генерала
Аддалі сілай, прадалі!
І разам грошы прапілі...
І цяжка, цяжка зарыдала.
— Хадзем-жа, сэрца, пагуляць!
Хадзем, Пятрусь, у сад, ў палаты.—
— А хто-ж тут будзе даглядаць,
Хто папасе мае ягняты?—
— Няхай хто хоча!—Й павяла
Яго ў палаты. А ў палатах
Адзенне добрае дала,
А потым ў школу аддала.
І люба ёй, хай весялее,
Пакуль надзея сэрца грэе,
Што з зерня вырасце з таго:
Ці вугаль чорны, ці пшаніца,
Бо мы не знаем, што тварыцца
У сэрцы маладым яго.
Ды нам не скажа. Як-бы знала
Матуля горачка тваё,
Ці аддала-б за генерала
Дзіця адзінае сваё?
Не аддала-б... Між тым не знаю...
Бо маткі розныя бываюць.

Мінаюць дні сабе паволі,
Пятрусь у школу ды са школы
Вучыцца ходзіць і расце.
Сама нібы аж маладзее,
І генерал той весялее,
Што генеральша аж цвіце,
Што справу добрую зрабілі.

На волю Пётру адпусцілі.
Зімою ў Кіеў адвязлі
І там у школу аддалі,
І там нямала павучылі.
Вярнуўся з Кіева Пятрусь
Цяпер Пятром і панічом,
І кучаравы па плячо,
І высыпаўся чорны вус,
Яшчэ... ды гэта не ўцячэ,
Раскажам часам мы калісь,
Што Пётру снілася нанова.
А генеральшы чорнабровай
Што снілася цяпер? Дык мы
Пра гэта і раскажам.

Перад святымі абразамі
Гарыць лампадка уначы.
Паклоны доўгія б'ючы,
Рыдала, білася... Цяжкую
Слязу агністую ліла,
Яна прасіла прасвятую,
Каб тая літаснай была,
Каб адурнець хоць не дала—
А багародзіца й не чуе,
Святой малітва не дайшла:
І генеральша звар'явала,
Яна нябога пакахала
Свайго Пятра. Як цяжка ёй!
Душы нягрэшнай, маладой!
Ды што-ж рабіць? Бо сіл не мела,
Яна ў хвіліну звар'яцела.
Ды як-жа ёй адной святыя
Гады правесці маладыя?
Ім не вярнуцца. Хоч не хоч,
А ліха, кажуць, пераскоч,
А то задушыць. Генеральша
Не пераскочыла, бо ёй
Хацелася так маладой
На свеце жыць... Густая каша,
Ды каша, бачыце, не наша,
А наш нясолены кулеш.
Як знаеш, так яго і еш.

— Пятруська! Дружа мой адзіны!
Маё ты сэрца! Мой ты сыну!
Ратуй мяне, ратуй! ратуй!
О маці божая! Раскуй
Маю душу ты!—І рыдала,
І бацьку й маці праклінала,
І ўсё на свеце. А Пятро,
Яе каханая дзяціна,
Гуляў сабе зусім нявінна
Ды ў садзе арыю парой
Мурлыкаў ціха. І больш нічога
Пятрусь не бачыў. А нябога
Сама не знае, што рабіць?
І што зрабіці ёй з сабою?
Альбо схавацца пад вадою,
Альбо прынамсі хоць разбіць
Аб сценку галаву . . . .
— Паеду ў Кіеў, памалюся.
Малітва можа адштурхне
Спакусу чорта... Мой Пятрусю!
Малітва не паможа мне,
Ў дняпровых хвалях утаплюся!—

Маліце бога вы, дзяўчаты,
Маліце бога вы заўзята,

Каб маці вас не аддала
За генерала, за палаты
І вас вось так не прадала.
Кахайце, дзетачкі, вясною...
На свеце ёсць каго кахаць
І без карысці. Маладое,
Ды беспарочнае, святое
У хаце будзе панаваць
Каханне чыстае. І будзе
Святы спакой вас берагчы
І ў дамавіне. Што-ж то будзе
З прэвасхадзіцельнай? Што ты
Цяпер рабіць будзеш з сабою,
З сваёю божаю красою?
Хто будзе берагчы спакой,
Пятро што ўкраў. Не вернеш мусіць?
Хіба архістратыг? Дый той
Не зберажэ цяпер. Баюся,
Баюся вымавіць цяпер
Тваё наступнае...

У Кіеў ездзіла, пасціла,
Аж у Пачаеве была,
Цудоўная не памагла,
Не памагла святая сіла.
У слёзах бога ты маліла
Ды і пакінула. Жыла
Гадзюка ў яе сэрцы лютым,
Прывезла й трошачкі атруты.

Не ела тры дні, не піла
Пасля той прошчы. І тры ночы
Не спала; гаслі смуткам вочы,
Пасмяглі вусны; і ўначы
Смяецца, стогне, то крычыць.
Аж тыдзень так яна нудзіла,
Пасля атруты развяла,
І генерала напаіла
І спаць сабраўшыся лягла.
—Цяпер старога пахаваю,
А маладога прывітаю,
Ды буду жыць сабе ды жыць,
Пятруську-сэрцайка любіць.—
Падумала, ці то сказала:
Хацела спаць, але не спала.
Святла чакала. Дачакаць
Святла таго не мела сілы.

І зазванілі ранкам рана
Па генералавай душы;
Казалі нешта там пагана,
Да генерала ідучы
На развітанне. Аж гудзе,
Як адусюль народ ідзе,
Ды шэпчуць, што атрута вінна,
Што суддзяў хутка прывязуць,
І разам змоўклі на хвіліну
Прыехалі; нажы бяруць
І генерала разразаюць,
Знайшлі атруту ў жываце;
Натоўп гудзіць і прысягае.
І прысягнуў. Пытае суд:
— Цяпер скажыце, хрысціяне,
Хто атруціў яго?—Гудуць,
Як звон павольны.—Пані! Пані!—
Так загудзела ґрамада.

Тады на ганак выступае
І да грамады прамаўляе
Пятрусь. І кажа:—Я зрабіў,
Я генерала атруціў,
А вы не знаеце нічога!—
Забралі Пётру маладога,
Павезлі ў горад ў ланцугах.

Яго нядоўга мардавалі
Ў турме, ў судзе, а ў добры час
Ў кайданы добра закавалі,
Перагалілі пра запас,
Перахрысціўся, так прыбраны,
І павалок Пятрусь кайданы
Аж у Сібір. . . . . . . .

[Орэнбург
1850]



* * *

Мне вось здаецца, я не знаю,
Што людзі ў нас не паміраюць,
А пералезе ды жыве
Ў свінню, ці ў што яшчэ й жыве,
Купаецца сабе у лужы,
Як перш купаўся у грахах.
І праўда так. Гарую дужа
Аб тых гаротных бедняках,
Яны забытыя ад бога!
Дык што мне гаварыць замнога!
А дзе яны??. Няўжо ў хлявах
Гадуе хам сабе на сала?
А можа й так? Дабра нямала
Яны рабілі на зямлі,
І рэкі слёз іх пацяклі,
А кроў мара́мі. Людзі знаюць,
Каго гадуюць, даглядаюць.
І што-ж вы скажаце: за славу
Шмат налілі мароў крывавых,
Мо' за сябе? Ды не, за нас!
За нас няшчасных свет палілі!
Пакуль у хлеў не засадзілі.
Як-бы не гэта, пэўне-б пас
Свінар у гурце. Лёс пракляты!
А слава дзе?? На языках!
Дзе ваша золата, палаты?
Дзе ўлада ваша? У скляпах,
Што ка́ты вапнілі рукамі,
Такія-ж ка́ты, як і вы,
Звярамі лютымі жылі,
А ў свінні перайшлі!. . . . .
Дзе-ж ты?

Вялікамучанік святы,
Прарок ты божы? Ты між намі,
Ты ўсюдыісны, заўжды з намі
Лунаеш ангелам святым.
Ты, любы дружа, загаворыш
Ціхутка-ціха... пра любоў,
Пра нешчаслівую, пра гора;
Альбо пра бога, ды пра мора,
Пра ліха, пра людскую кроў,
Што ка́ты вылілі гада́мі.
Заплачаш цяжка перад намі,
І мы заплачам... Бо жыве
Душа паэтава святая,
У словах чыстай глыбіні.
І мы чытаем, ажываем
І чуем бога ў вышыні.

Дык дзякуй, дружа мой убогі!
Ты, знаю, долю падзяліў
Сваю адзіную... Прад богам
Багата, браце, зарабіў!
Ты мне прыслаў сюды ў няволю
Паэта нашага... На волю
Ты сам мне дзверы адчыніў!
Дык дзякуй, дружа! Прачытаю
Сабе хоць троху... аджыву...
Надзею ў сэрцы прывітаю,
Ціхутка-ціха заспяваю,
І бога богам назаву.

[Орэнбург
1850]

---

* * *

Як-бы вы знаді, панічы,
Дзе людзі плачуць жывучы,
Дык вы-б элегій не стваралі,
Багоў дарма не выхвалялі,
На нашы слёзы плюючы.
За што, не знаю, называюць
Хаціну ў гаю ціхім раем.
Я ў хаце мучыўся калісь,
У першы раз даўно цяклі
Мае там слёзы! Я не знаю,
Ці ёсць такое ў бога зло,
Што ў той хаціне не жыло?
А хату раем называюць!

Не называю яе раем,
Тую хацінанку у гаю
Над чыстым ставам край сяла.
Мяне там маці спавіла,
І спавіваючы спявала,
Сваю нуду пералівала
Сваёй дзяціне... У гаю,
У той хаціне, у раю
Я бачыў пекла... Там няволя,
Работа цяжкая, ніколі
І памаліцца не даюць
А маці добрую маю,
Там маладую,—у магілу

Ґалеча й праца палажыла.
Там бацька плачачы з дзяцьмі
(З нас кожны быў малы і голы),
Не вытрымаў ліхое долі,
Памёр на паншчыне!.. А мы
Паразыйшліся між людзьмі,
Як мышаняты. Я да школы
Ваду насіці шкалярам.
Браты на паншчыну хадзілі,
Пакуль ілбы ім пагалілі!
А сёстры! сёстры! Гора вам,
Мае галубкі маладыя!
Чаго на свеце жывяце?
Вы ў наймах выраслі чужыя,
У наймах косы пабялеюць,
У наймах, сёстры, й памрыце!

Мне вельмі страшна, як згадаю
Хаціну тую, горкі час,
Такія справы, божа наш,
Мы творым тут у нашым раі,
На праведнай тваёй зямлі!
Мы ў раі пекла развялі,
Другога у цябе чакаем,
З братамі ціха мы жывём,
Палі братамі мы аром,
І іх слязамі паліваем.
А можа й гэта... не, не знаю,
А так здаецца... сам ты ёсць...
(Бо без тваёй-жа, божа, волі
Ніхто з нас не нудзіўся-б голы)
А можа ты і сам з нябёс
Смяешся, бацечка, над намі,
Ды можа раішся з панамі
Як правіць светам! Глянь-жа ты,
Вунь гай зялёны, вунь кусты,
А вунь з-за гаю выглядае
Ставок, як быццам палатно,
А вербы проста над стаўком
Ціхусенька сабе купаюць
Свае галіны... Праўда, рай?
А падзівіся, ды спытай!
Як у раю такім жывецца!
Там кожны славіць і пяе
Табе адзінаму святому
За справы дзіўныя твае!
У тым і рэч. Хвалы нікому,
А кожны слёзы, кроў ліе,—
Хула ўсяму! Не, не! Нічога
Няма святога на зямлі...
І мне здаецца, што й самога
Цябе ўжо людзі праклялі!

[Орэнбург
1850]

---

* * *

Бывае, ў няволі часамі згадаю
Сваё пражытое... Шукаю, шукаю,
Каб чым пахваліцца, што я такі жыў,
Што я такі бога калісьці хваліў!
Шукаю... О божа, я гэтак жадаю
Успомніць што-небудзь! Ды вось прыгадаў
Такую ўжо погань, што ўраз задрамаў,
Не ўспомніўшы бога!.. І сон усплывае...
Свіннёю заснуўшы, звычайна, такі
І сон прывярзецца... нібы ля магілы
Пасу я ягняты, яшчэ я малы,
Дзіўлюся, магільны курган расступіўся,
З магілы выходзіць як-быццам казак,
Ужо сівавусы сабе небарак,
Ды йдзе да мяне... Ад спуду скруціўся,
Як быццам шчанюк я, пад плотам, малы,
Так я напужаўся. Вось мяне бярэ
Як быццам на рукі, ды нясе ў магілу.
Чорная магіла больш глыбінь раскрыла,
Дзіўлюся, ў магіле усе казакі:
Там хто без ґаловы, а хто без рукі,
А хто па калені і ногі патраціў;
Ляжаць сабе хлопцы, як-бы ў цёплай хаце.
— Дзівіся, хлапчына, глядзі казакоў
(Быццам мне гавораць). На ўсёй Украіне
Магілы як горы. Дзівіся, хлапчына:
Магілы ўсе тыя—падобны такой,
Напоўнены нашым трупам чыстым даўна,
Напоўнены туга. Вось дзе воля спіць!
Лягла яна разам, лягла яна слаўна
З намі, казакамі! Бачыш, як ляжыць—
Як быццам спавіта!.. Тут пан не бывае,
Усе мы аднолькава воляй жылі!
Усе мы за волю ў магілу прышлі.
Усе мы і ўстанем,—ды бог яго знае,
Калі гэта будзе, дзівіся-ж дзяціна!
Ды добра дзівіся, а я раскажу,
За што Украіна наша стала гінуць,
За што і я між імі ў магіле ляжу.
Ты-ж людзям раскажаш, як вырасцеш, сыне,
Слухай-жа дзяціна.—А пасля ягняты
Я прысніў у жыце, наглядчык бяжыць,

Ды б'е мяне добра і быццам, пракляты,
Ён світку здзірае... Дагэтуль баліць,
Як сон той прыпомню. А як прыгадаю
Калі казака я, дык добра не знаю,
Ці гэта напраўду, ці гэта вось так—
Здалося што-небудзь. А мне той казак
Расказываў вось што. . . . .

— Не знаю, як цяпер ляхі жывуць
З сваімі вольнымі братамі?..
Калісьці браталіся з намі!
Пакуль той трэці Сігізмонд
З праклятымі яго ксяндзамі
Не раз'яднаді нас... Вось так
Бяда пранеслася над намі!

На славу бога і яго
Прачыстай мацеры святое
Прышлі к нам ляхі, ды з вайною!
І месцы божыя кругом
Ксяндзы праклятыя зглумілі!
І загарэўся навакол
Крывёй зямлі казацкай дол,
І за магілаю магіла,
Як быццам горы параслі,
Сынок, на нашае зямлі.

Я жыў на хутары, з...*)
Стары, нядужы быў. Паслаў
Гармату, коней гадаваных,
Вазы два стрэльб наладаваных,
Пшана, пшаніцу, што прыдбаў,
Я ўсю маёмасць сам аддаў
Маёй Украіне аддана...
І трох сыноў сваіх. Няхай,
Я думаў грэшны перад богам,
Няхай хоць частка, хоць нямнога
За праўду пойдзе, за наш край,
За царкву, за людзей змагацца,
А я маліцца буду ў хаце,
Бо ўжо няздужаў, сыне, ўстаць,
Рукі на ворага падняць!

Са мною, слухай, засталіся
Слуга Даніла мой, ды я,
Ды Прося дочачка мая!
Яна што толькі вырастала,
Бы кветка, толькі расцвітала,
Нібы чарэшанька! За грэх,
За грэх цяжкі, відаць вялікі
Не даў-жа мне святы ўладыка
Вачэй парадаваць старых
Маім дзіцяткам...
Не хадзілі
Ксяндзы па сёлах, а вазілі
На людзях іх з сяла ў сяло,
Такое вось у нас было!
Праз ноч праклятыя звяругі
Прышлі на хутар, шмат найшло.
Драгуны з імі, чэлядзь, слугі
Праклятых... Хай згараць яны!
Дай мне, мой божа любы, мілы!
На свет твой выглянуць з магілы—
Спяку ўсю шляхту на агні!
Яны, яны не бойся, сыне,
Яны, ксяндзы, маю дзяціну
З сабою ў хату завялі,
Ды там замкнуліся, я бачыў...
А чэлядзь п'яная палегла
У клуні на саломе спаць.
Драгуны такжа. Мы з Данілам
Саломы ў сені наняслі,
А клуню проста запалілі...
Больш ім праклятым не устаць!
Дзяцей казацкіх мардаваць.
Усе да аднаго згарэлі!
І Прося бедная мая
Згарэла з га́дамі! А я...
Крыж на пажарышчы з Данілам
Паставілі, хрыста прасілі,
Заплакалі... Дый пайшлі,
На коней сеўшы, да абозу,
Сыноў ўсіх трох маіх знайшлі,
Ды ў добры час і палеглі
Вось тут мы разам! . . . .
. . . . . . . . . . . . .

А як у бітвах паміралі,
За што галовы мы складалі—
Ў магіле гэтай? Будзем жыць,
Пачуеш часам ты, нябожа,
Бо слава здорава крычыць
За нашы голавы... А можа,
І пра магілы, і пра нас,
Са старцамі услед па сёлах
Шмат дум праўдзівых, невясёлых
Між люду ходзіць . . . .

[Орэнбург
1850]

*) Далей у рукапісу закрэслена паўтара радка.



* * *

І станам гнуткім і красою,
Такою чыстай, маладою
Старыя вочы весялю.
Глядзець часамі я люблю,
І дзіўна!.. Бы перад святою,
Табе малітвы свае шлю.
І шкода мне старому стане,
Што будзе з божаю красой,
А дзе падзенешся ты з ёй?
Хто бліз цябе у свеце стане
Святым заступнікам тваім?
Хто бараніць цябе сумее
Ад зла людскога ў час ліхі?
Хто сэрца чыстае сагрэе
Агнём кахання? Хто такі?
Ты сірата, няма нікога
Ў цябе апроч святога бога.
Маліся, сэрцайка! З табой
Я памалюся. Штось прарочыць
І мне ўжо заглядае ў вочы,
Малітвы не шапчу сваёй,
І ўжо не цешуся табой.
І я прысніў, што ты ўжо маці,
Не ў аксаміце, не ў палацах
Дзіця галоднае крычыць...
І вянеш ты, а час ляціць,
Бярэ ўсё добрае з сабою,
Ужо надзеі адплылі,
Ты-ж засталася на зямлі,
Адной-аднюсенькай; з табою
Адзінае дабро было—
Тваё дзіця... Пакуль расло,
Пакуль не вырасла і з часам
Узнялася... Ты засталася
Старой, нядужаю. Людзей
Ты непрыязных упрашаеш,
Жабрачкай горкай узнімаеш
Каля зачыненых дзвярэй
Старыя рукі.

Вось так часамі я табою,
Табою, сэрца, маладою
Старыя вочы весялю.
Глядзець я часта так люблю
На стан твой гнуткі. І старанна
Ціхутка бога я малю,
Маліся-ж ты яму аддана,
Яшчэ, бач, з неба не сыйшла
Твая і доля, і нядоля.

[Орэнбург
1850]

---

* * *

Агні гараць, музыка грае,
Музыка плача, завывае;
Алмазам добрым, дарагім
Палаюць вочы маладыя;
А вочы ясныя такія,
Надзея ў іх і люба ім,
Вачам нягрэшным, маладым.
І ўсе рагочуць і спяваюць,
І ўсе танцуюць. Толькі я
Нібы пракляты пазіраю
І ціха плачу, плачу я.
Чаго-ж я плачу? Мабыць шкода,
Што без прыгоды, як нягода,
Ты маладосць прайшла мая.

[Орэнбург
1850]

---

* * *

Ці то нядоля, ці няволя,
Ці то гады так летучы
Душу разбілі? Ці ніколі
Не жыў я з ёю, жывучы
З людзьмі ў брудзе, апаскудзіў
Душу я чыстую?.. А людзі!
(Смяюцца людзі, завучы)
Яе прыгожай, маладою
І непарочнаю, святою,
І больш яшчэ... Праклён на вас,
Зладзеі-ворагі. Укралі,
У багну погані схавалі
Мой чысты, дарагі алмаз.
Маю душу калісь святую!
Ды рагатаць. Не хрысціяне!
Ці не між вамі-ж я паганы,
Забруднеў так, што й не пазнаць,
Ці быў я чыстым калі-небудзь.
Бо вы мяне з святога неба
Сабе забралі—і пісаць
Благія вершы навучылі.
Цяжкі вы камень палажылі
Сярод дарогі... і разбілі
Аб камень гэты сэрца мне.
Было яно малым, убогім,
Ды сэрцам праведным раней!
Цяпер іду я без дарогі,
Без шляху бітага... А вы!
Вам дзіўна, што не так ступаю,
Што вас і долю праклінаю,
І плачу цяжка, і як вы...
Я ад душы ўсё уцякаю,
Сваёй-жа грэшнае душы!

[Орэнбург
1850]

---

* * *

На чорта лысага я трачу
Паперу, дні свае нашчэнт,
А часам я яшчэ й заплачу
Ды аж занадта. Не на свет
І спраў ягоных не глядзеўшы,
А так, бы часам захмялеўшы
Рыдае дзед сівенькі той
Самотнай, круглай сіратой.

[Орэнбург
1850]

---

* * *

І сёння сніцца: пад гарою
Паміж вярбамі над вадою
Хацінка белая. Сядзіць
Нібы сівенькі дзед, глядзіць,
Малога ўнучка забаўляе,
Яго курчавага гайдае
Малога, слаўнага свайго.
І сёння сніцца: што пры хаце
Вясёлая смяецца маці,
Цалуе дзеда і дзіця,

Аж тройчы весела цалуе,
Бярэ на рукі і гадуе,
І спаць нясе. А дзед сядзіць
І усміхаецца і сціха
Прамовіць ён:—Дзе тое ліха?
Журбота, ворагі усе?—

Перахрысціўшыся чытае
Стары ціхутка ойча-наш.
Скрозь вербы сонейка так ззяе
І ціха гасне. Дзень пагас
І ўсё спачыла. Дзед у хаце
Спакойна лёг адпачываці.

[Орэнбург
1850]

---

* * *

Мой божа мілы, зноўку ліха!..
Было так люба, гэтак ціха;
Мы узняліся раскаваць
Сваім нявольнікам кайданы...
Аж трах!.. І зноўку пацякла
Кроў бедных! Шмат цароў вянчаных,
Нібы сабакі за маслак,
Грызуцца зноў.

[Новапятроўскі форт
1853(?)]

---

## МАСКАЛЁВА КРЫНІЦА

ПАЭМА

*Я. Кухарэнку на памяць 7 Мая 1857 года*

Не на Ўкраіне, а далёка,
Аж за Уралам, за высокім,
Аж за Елекам жыў Варнак.
Ён мне расказываў вось гак
Пра маскалёвую крыніцу.
А я сумуючы спісаў
Ды рыфму ціханька дадаў,
І невялічкую, як быццам,
(Звычайна скраў яе) і склаў
Табе паэму на ўспаміны,
Мой дружа шчыры, мой адзіны!

I

Пасля вялікае зімы,
За Кацярынаю царыцай,
Маскаль і выкапаў крыніцу;
А як ён выкапаў, дык мы
Пра гэта й скажам у прыгодзе,
А вы пішыце, бо не шкодзіць
Такую рэч і запісаць.
Не казка-ж гэта, а быліца,
Або бывальшчына, сказаць.
Пішыце так: была крыніца,



«МАСКАЛЁВА КРЫНІЦА»

Не, не крыніца, а сяло,—
Пішыце—колісьці было
Паміж садамі пры даліне,
І гэта ў нас на Украіне
Стаяла божае сяло.
У тым сяле ўдава жыла,
Дачка ў той удавы расла.
І сын малалетак.
Добра мецi дзетак
Багатаму. Хваліць бога
У раскошы! А убогай удаве
Гора многа, бо залілі за скуру сала,
Ледзьве не прапала.
Думала пайсці маліцца
Ў манастыр, ці утапіцца,
Ды шкода дробных дзетак стала—
Як кожнай маці, што й казаць!
А можа і чакаўся зяць,
Бо ўжо Катруся падрастала
(Дачку Катрусяй маці звала).
Ці ёй-жа ў дзеўках векаваць?
Няма-ж ніякае заганы.
Хіба, што можа сірата?..
А прыгажосць, а пекната!
Мой божа мілы! Як аддана
Яна працуе, як старанна.
А сэрца! Вось і сірата,
Дзівіўся кожны, як прыкмеціць,
Было як гляне толькі з клеці,
Як тая кветачка з расы,
Як тое сонейка з-за хмары,—
Увесь застыну, нежывы
Стаю бывала. Ані кара,
Ні кайданы, мукі,
Ні гады, мой сыне,
Тае сілы не стамілі...
Вось так і загіну!
Так і згіну. Бо глядзі-ж ты,
Смерці я чакаю,
А рыдаю, бы дзяціна,
Як я нагадаю
Кацярыну. Слухай, сыне,
Мой дружа адзіны!
Слухай добра ды запісвай,
Ды на Украіне,
Калі бог цябе направіць,
Ты раскажаш, сыне,
Што нячыстага ты бачыў
Сваімі вачыма.

II

Дык, бачыш, дзеўчына вось так
Расла сабе. І працавіты
(Сіротам ўсім несамавіта)
У наймах вырас сірата,
Як быццам бацькава дзяціна.
Дык вось той самы сіраціна
У наймах біўся, гараваў,
Крыху і грошы назбіраў.
Адзенне справіў, жупаніну,
Ды за ўласны свой мазоль
Купіў садочак і хаціну;
Падзякаваў за хлеб і соль
І за навуку добрым людзям,
Ды да дачкі ўдавы пайшоў
Наўпрост за ручнікамі!
Не таргаваўся са сватамі,
Як гэта ёсць з багатырамі;
Не таргаваўся й бацька-поп
(На дзіва людзям ды на цуда):
За тры капы звянчаў у будзень,
Без пышнаты усё было.
Вось тут-жа, голубе мой сізы,
Вось тут і ліханька прышло!

III

Ужо амаль пасля пакроваў
Вяртаўся з Дону я, ды зноў
(Бо я ўжо двойчы пасылаў
Да дзеўчыны за ручнікамі)
Паслаць і ў трэці меркаваў
Ды з чумакамі, ды з валамі,
Якраз ў нядзелю на вяселле
Да дочкі ўдовінай дапяў.
Прапала! Ўсё дабро прапала!
Нічога у мяне не стала.
Прапаў і я; ды не ў шынку,
А на к а б ы л е. На вяку
Ўсе людзі бачаць ліха, сыне,
Але такога, мой адзіны,
Такога лютага ніхто,
Ніхто і здалеку не бачыў,
Як я хітрушчы. А тым часам,
Прасохлі вочы ва ўдавы.
Як быццам ў бога за дзвярыма
У зяця ды ў сына
Старэнькая спачывае,
А на Кацярыну,
На дачку сваю маліну,
Толькі паглядае.
А я ў шынку з п'яніцамі—
Душу прапіваю!
Дый прапіў. Прадаў я душу
І цела на згубу,
Цела ка́ту, сваю-ж душу!..
О божа мой любы!
Хацелася-б жыць на свеце,
Ды трэба вучыцца,
Яшчэ змалку навучыцца,
Як-жа жыць умеці.
А то будуць біць і дужа!..
Не знаю, мой дружа.
Ці то чорт бяды настроіў?
Ці я занядужыў?

Ці мяне ўжо злая доля
Прывяла да злога,
Бо дагэтуль я не знаю,
Не знаю нічога.
Знаю толькі, што цвярозы...
Бо ўсе ужо віны,
Ні мяды, ні акавіты
Не піліся, сыне.
Вось так яно й зрабілася.
Памёр бацька й маці,
І чужыя пахавалі...
А я, што ў праклянцці
Той Іуда; адрынуты
І людзьмі і богам,
Туляюся, хаваюся,
Дайшоў да такога,
Што я ўночы падкраўшыся
Максімаву хату
(Бо яго Максімам звалі,
Ўдовінага зяця)
Запаліў. Згарэла хатка.
Я з душой праклятай
Не згарэў, а жыць застаўся,
Мой дружа, мой братка!
Не згарэла, засталася
Душа й сёння тлее,
І калі яна сатлее,
Калі адпачыне?
Святы знае.

## IV

З пераляку
Змерла Кацярына.
А Максім на пажарышча
Ды на папялішча
Паглядзеў. О дай ты рады!
Толькі вецер свішча,
Вые дзіка ў коміне.
Што рабіць на свеце?
І што цяпер яму пачаці?
Падумаўшы, перахрысціўся,
Ды зноў пайшоў у найміты
Галодны, злыдняў гадаваці.
І засталася не сама
Ўдава, а з сынам. І жаніці
Яго хацела восенню.
Аж трах! Ад матушкі царыцы,
Ды проста з самае сталіцы,
Прышоў указ ілбы галіць.
У першы раз такі указ
Прышоў з Маскоўшчыны да нас.
Бо на Ўкраіне ў нас бывала
У казакі ахвотна йшлі,
І ў пікінеры вербавалі
Па добрай волі. У сяло
Сышла грамада на параду,
Каго галіць у маскалі.
Пагудзелі грамадою,
Ды ўдавы той сына
Парашылі разам сходам,
Забілі ў калоду
Ды павезлі да прыёму.
Вось як робяць людзі
Тут на свеце! Што за праўда
У людзей, мой сыне.
Так і сёння я думаю
Ў нас на Украіне,
Ды другое і не будзе
Ў нявольніках-людзях.

## V.

Цераз год ото-ж вялікай
Зіма прываліла.
Да зялёнае нядзелі
Ў байраках бялелі
Снягі белыя; тады-ж вось
І Ачакаў бралі
Маскалі. А Запарожжа
Першы раз знішчалі.
Разбрылося таварыства.
Што-ж гэта за людзі
Былі тыя запарожцы—
Не было й не будзе
Людзей гэткіх.
Пад Ачакаў
Пагналі й Максіма.
Там-жа яго й скалечылі,
Ды на Украіну
Павярнулі з адстаўкаю:
Бачыш, праву ногу
Ці то левую падбілі...
А што мне з такога
Было тады. Зноўку лютым
Гадам упілася
Змяя ў сэрца, ўкруг якога
Тройчы абвілася,
Як той Ірад. Што тут робіць?
Не дам сабе рады.
А Максіму хоць крывому
Нічога не вадзіць;
Кандыбае на мыліцы
І тугі не мае.
А ў нядзеленьку святую
Мундзір надзявае,
І медаль, і крыж прычэпіць,
Запляце касіцу,
Ды мукой яшчэ пасыпле.
Мне й цяпер дзівіцца,
Нашто тыя маскалі так
Косы заплятали,
Як дзяўчаты, ды святую
Так муку псавалі?

На пацеху, я думаю,
Так сабе нібыта!
І было як генерал той
Максім санавіта
Прыбярэцца у нядзелю
Дый пакандыбае
У храм божы. На кліpaсе
Стане ды спявае
За дзяком услед, ды возьме,
Ды йшчэ прачытае
Апостала сярод цэpквы.
Выўчыўся чытаці
Ў маскалях. Дасціпны быў
Той Максіме, браце.
Клапатлівы, працавіты
Ды ціхі нябога
І ласкавы... Было табе
Не кране нічога,
Не зачэпіць, а ні справай,
Ніякім там словам,
— Ды і шчасце і няшчасце
Ўсё,—кажа,—ад бога,
Ўсемагутнага, святога.
А больш ні ад кога.
Добры быў Максім на свеце,
Як святы жыў, сыне,
А я!.. а я!.. Не вымаўлю.
Мая ты дзяціна!
Забіў яго. Пачакай-жа,
Трохі адпачыну.
Ды тады ўжо.

VI

Дык ты кажаш,
Што бачыў крыніцу
Маскалёву, што й дагэтуль
Бяруць з яе воду,
І крыж, кажаш, каля шляху
І цяпер гасподні
Стаіць сабе на раздоллі?
А не расказалі
Табе людзі там нічога?..
Бо ўжо паўміралі
Тыя людзі, мае сведкі,
Праведныя людзі!
А я й сёння караюся
І карацца буду
На тым свеце.
Вось паслухай.
Да чаго даводзіць
Шатан гэты душу нашу:
Як не схамянецца,
Ды да бога не вярнецца,
Ды так і ўвап'ецца
Кіпцюрамі ў наша сэрца.
Вось слухай-жа, сыне,
Пра Максіма праведнага...
Было не спачыне
Ён ніколі. А ў нядзелю,
Ці ў другое свята,
Бярэ святы псалтыр ў рукі
Ды ідзе чытаці
У садочак. У садочку
Ды у халадочку
Кацярыну пахавалі.
Там-жа у садочку
За ўпакой душы яе
Псалтыр прачытае;
Потым сабе ціхусенька,
Ціха заспявае
Са святымі; ды заплача.
А потым спамяне
Аб здароўі цёшчу з сынам
І вясёлы стане.
—Ўсё ад бога,—сабе скажа,—
Век дажыці трэба.—
Вось які ён муж праведны
Жыў маліўшы неба.
А у будзень, дык ён табе
Не сядзіць у хаце,
Усё ходзіць па надвор'ю,
—Трэба рабатаці,—
Было скажа па-маскоўску;
Бо лежачы ў хаце
Сам апухнеш.—Ды ўзяў неяк
Рыдлёўку ён, браце,
Ды пайшоў сабе у поле
Крыніцу капаці.
—Няхай,—кажа,—з часам людзі
Будуць ваду піці,
За душу маю часамі
Госпада маліці.—

Вышаў ў поле, ў бок ад шляху,
Ды у яр спусціўся,
Ды і вырыў пры даліне
Добрую крыніцу.
(Не сам адзін; талакою
Яму памагаці
Людзі добрыя хадзілі
Крыніцу капаці).
І вылажыў зрубам добрым,
І над шляхам ў полі
Высачэзны крыж паставіў...
Са ўсяго раздолля
Шырокага было відна.
Зрабіў так нябога,
Каб пазналі, што крыніца
Ёсць каля дарогі.
Каб заходзілі з крыніцы
Людзі ваду піці
Ды за таго, хто выкапаў,
Богу памаліцца.

VII

А цяпер ужо, як бачыш,
Дайшло да такога,
Што я страціць намер маю
Максіма святога.
Вось дык справа! А завошта?
За тое, што Каін
Брата чыстага прад богам
Загубіў у раі.

Ці было гэта ў нядзелю,
Ці ў якое свята?
Слухай, сыне, навучае
Як шатан пракляты.
— Хадзем,—кажу,—Уласавіч,
На тваю крыніцу
Падзівіцца.—Добра,—кажа,—
Пойдзем мы напіцца
Вады з яе ледзяное.—
Той пайшлі парою,
І вядзёрка, і вяроўкі
Панеслі з сабою.
Вось прыходзім да крыніцы;
Я перш падзівіўся,
Ці глыбока.—Уласавіч,
Будзь ласкаў,—нагніся
Вады дастаць: я не ўмею.—
Ён і нахіліўся,
Апускаючы вядзерца,
А я... я за ногі
Схапіў яго, ды укінуў
Максіма святога
У крыніцу... Вось што грэшны
Я зрабіў, мой сыне!
Не здаралася такога
Век на Украіне.
І не здарыцца ніколі
На ўсім свеце, браце!
Усе людзі, а я адзін,
Я шатан пракляты!

VIII

Цераз тыдзень там дасталі
Максіма з крыніцы
Ды ў лагчыне пахавалі.
Ладную капліцу
Паставілі грамадою.
А яго крыніцу
Маскалёваю назвалі.

Вось табе й быліна
Аб той крыніцы маскалёвай.
Страшная быліна!

А я пайшоў у гайдамакі,
Ў Сібір аж доля завяла
(Бо тут Сібір калісь была),
І прападаю, як сабака,
Як той Іуда! Папрасі
Ты бога за мяне, мой сыне,
На той славутнай Украіне,
На той вясёлай старане,—
Ці не лягчэй тут стане мне?

Новапятроўскае
ўмацаванне
1857. Мая 16.

---

# НЕАФІТЫ

**ПАЭМА**

*Сия глаголет господь: сохраните суд и сотворите правду, приближи бо ся спасение мое прийти, и милость моя откроется.*
*Ісаія, глава 56, ст. 1.*

***М. С. ШЧЭПКІНУ***

***На памяць 24 Снежня 1857***

Мой друг, абраннік муз і грацый!
Цябе чакаю, ціха плачу
І думу смутную маю
Тваёй душы перадаю.

Прывітай-жа ты зычліва
Маю сіраціну,
Наш вялікі цудадзею,
Дружа мой адзіны.
Прывітаеш: убогая,
Горкая, з табою
Пераплыве яна Лету
І агнём-слязою

Упадзе ў свой час на зямлю
І прытчаю стане
Распінацелям народным,
Ка́там і тыранам.

---

Даўно ўжо я сяджу ў няволі,
Нібы той злодзей пад замком,
На шлях гляджу я ды на поле,
Ды на варону над крыжом
На могілках, і больш нічога
З турмы не згледзіш; дзякуй богу
І за гэта. Ды жыве
І богу моліцца і мрэ
Хрышчоны люд.
А крыж высокі
Як вартавы і трохі збоку
Там на тых могілках стаіць.
Відаць багаты тут ляжыць.
І намалёвана: распяты
За нас сын божы на крыжы.
І дзякуй сіратам багатым,
Што крыж паставілі. А я...
Такая долечка мая.
Сяджу сабе ды пазіраю
На гэты крыж з свае турмы...
Гляджу, малітвы пасылаю.
І гора, горачка маё,
Як выгадованы дзяцёнак,
Заціхне трохі. І турма
Нібы пашырыцца. Спявае
І плача сэрца, ажывае,
І ў цябе, божа, і ў святых
Ды праведных тваіх пытае:
Што ён зрабіў ім, той святы,
Той Назарэй, той сын адзіны
Богам абранае Марыі,
Што ён зрабіў ім? І за што
Яго, святога, мардавалі,
У путы кавалі
І галаву яго чэсную
Цернем увянчалі?
І вывелі з злодзеямі
На Галгофу-гору
І павесілі між імі.
За што? Не гаворыць
Ні сам сівы верхатворац,
Ні яго святыя—
Памочнікі, паборнікі,
Кастраты нямыя.

---

Благаславенная ў жэнах,
Святая праведная маці
Святога сына на зямлі,
Не дай мне марна прападаці
І дні мае ў няволі траціць.
Балесных радасць! Ты пашлі,
Пашлі і мне святое слова,
Спрадвечнай праўды голас новы!
І слова розумам святым
Ты ў сэрцы ажыві маім!
І раскажу я людзям гора,
Як тая маці рэкі, мора
Слёзы крывавыя ліла
Так, як і ты, і прыняла
Ў жывую душу свет нявідны
Сына распятага пастыдна.
Ты, маці бога на зямлі,
Ты слёзы матчыны да краю,
Да кроплі выліла. Рыдаю,
Малю рыдаючы: пашлі,
Падай душы убогай сілу,
Каб агнявіста гаварыла,
Каб слова полымем гуло,
Каб людзям сэрцы растапіла
І па Ўкраіне паплыло,
І на Ўкраіне каб свяціла,
Як тое божае кадзіла,
Кадзіла ісціны. Амін.

---

І

Не ў нашым краю, богу мілым,
А ў рымскіх ідальскіх краях
Не за гетманамі й царамі,
Бяззака́нь гэтая тварылась.
Ці то за Дэцыем-царом?
Ці за Неронам-ўладаром?
Сказаць напэўна не здалею.
Няхай за Неранам!
Расеі
Тады й на свеце не было,
Як у Італіі расло
Дзяўчо малое. І красою,
Святою, чыстаю красою,
Як тая лілія, цвіло.
Уцеху мела з яе маці,
Аж маладзела ды дзяўчаці
Людзей шукала, і знайшла.
Хвалу аддаўшы Гіменею
У тым вясёлым гінекею,
Яго чужому адвяла.
І неўзабаве стала маці
З тае прыгожае дзяўчаці:
Дзіцёнка-сына прывяла.
Малілася сваім пенатам,
І ў Капітолі прынясла
Афяр нямала. Упрашала
Капіталійскі той сінкліт,
Каб першачка яе віталі
Святыя ідалы. Гарыць
І дзень і ноч у яе хаце
Святы агонь. І рада маці,
Алкідам сын яе расце,

Расце... Аж падаюць гетэры
І перад вобразам Венеры
Лампаду паляць.

II

Тады ўжо ўсходзіла зара
Над Віфлеемам. Праўды слова,
Святое праўды і любові
Зара ўсясветная ўзышла
І мір і радасць прынясла
На землю людзям. Фарысеі
І ўся мярзота Іудзеі
Заварушылася, раўла,
Як тая гадзіна ў балоце,
І сына божага ва плоці
На той Галгофе распяла
Паміж зладзеямі. І спалі,
Упіўшыся крывёю каты,
Тваёй крывёю. А ты
Паўстаў з труны. І слова ўстала,
І слова праўды паняслі
Па ўсёй нявольніцкай зямлі
Твае апосталы святыя.

III

Тады-ж якраз яе Алкід,
А з ім гетэры маладыя
Ды п'яны дзед—казліны від—
Над самым Апіевым шляхам
У гаі слаўна разляглiся
Ды яшчэ лепей напіліся,
Хвалу прыносячы Прыапу.
Аж зірк! Ідзе святы Пятро
Ды, ў Рым ідучы з божым словам,
Звярнуў у гай—пад яго сховам
З дарогі адпачыць.—Мір вам!—
Сказаў утомлены апостал
І оргію благаславіў
Ды словам ціхім і лагодным
Ім звеставаў, як блізкім родным,
Любоў і праўду і дабро,
Дабро найлепшае на свеце—
То браталюбства. І той сыты
І п'яны, голы як ёсць фаун
І сын Алкід твой і гетэры
Пападалі ўсе да зямлі
Перад Пятром, і павялі
К сабе у тэрмы на вячэру
Таго апостала...

IV

І ў тэрмах оргія. Зіхцяць
Палацы ў пурпуровых шатах.
Амфоры курацца. Дзяўчаты
Траха не голыя стаяць
Перад Кіпрыдаю, і ў лад
Спяваюць гімн. Тут угатован
Вясёлы баль. І пaляглі
На ложах госці. Рогат. Гоман.
Гетэры госця прывялі
Сівабародага. І словы
З вуснаў апостала святога,
Як рэчка срэбра, пацяклі.
І сціхла оргія. А жрыца
Кіпрыды, оргіі царыца,
Панікла радасным чалом
Перад апосталам. І ўстала,
І ўсе за ёю паўставалі
І за апосталам пайшлі
У катакомбы. І адзіны
Твой сын Алкід пайшоў за імі
І за апосталам святым,
За тым настаўнікам сваім.
А ты вясёлай вышла з хаты—
Ці не ідзе к сваім пенатам
Алкід твой з гаю... Не, няма!
І ўжо не будзе! Ты сама
Памолішся сваім святыням.
Вячэраць сядзеш, ды без сына,
І не вячэраць, а рыдаць,
Рыдаць і долю праклінаць,
І век зжываць адной. І гора!
Памрэш адна ў глухой цішы,
Як у праказе!

V

На крыжы
Пятра, апостала святога,
Распялі долу галавой,
А неафіты ў Сіракузы
Адведзены ў кайданах. Твой
Алкід, твая дзяціна,
Твая адзіная радзіна,
Любоў адзіная твая,
Гніе ў няволі, у кайданах.
А ты, гаротная, не знаеш,
Дзе ён канае, прападае.
Ідзеш шукаць яго ў Сібір,
Ці як там... Скіфію... І ты...
І ці адна ты? Божжа матка!
І заступі нас і укрый.
Няма сям'і і няма хаткі,
Няма ні брата, ні сястры,
Каб з горам цяжкім не хадзілі,
Не катаваліся ў турме,
Або ў далёкай старане,
Ў брытанскіх, гальскіх легіёнах,
Не мардаваліся... Нероне,
Нероне люты! Божы суд,
Праўдзівы суд, неспадзяваны
Цябе асудзіць. Прыплывуць
І прыляцяць у славе-цвеце

Святыя мучанікі, дзеці
Волі святой. Каля адра,
Каля смяротнага ў кайданах
Падыйдуць і табе даруюць:
Яны браты і хрысціяне,
А ты сабака! людаед!
Сшалелы дэспат!

VI

Аж кішыць
Нявольнікаў у Сіракузах
Па лёхах, турмах. А Медуза
Ў шынку п'янюсенькая спіць.
Вось-вось прахопіцца... і потам,
І кроўю вашаю, дэспоты,
Пахмелле справіць.
Скрозь шукала
Сыночка маці, не знайшла...
І ў Сіракузы паплыла.
Ды там яго ўжо ў кайданах
Знайшла, пакутная, ў турме.
Не дапусцілі паглядзець,
І мусіла яна сядзець
Каля астрога і чакаць,
Як бога з неба выглядаць
Свайго сына: аж покі то
Яго ў кайданах павядуць
Брук падмятаць.
А ў Рыме свята,
І немалое. Сціск народу,
Са ўсёга царства ваяводы,
Прэтарыяне і сенат,
Жрацы і дзіктары стаяць
Ля Капітолія. І хорам
Спяваюць гімн і кураць дым
З кадзіл і амфар. З усім зборам
Ідзе сам кесар. Перад ім
З бронзы адлітую статую
Самога кесара нясуць.

VII

Напэўна выдумалі свята
Патрыцыі-арыстакраты
І мудры кесараў сенат.
Яны-ж бо кесара ўслаўлялі
На ўсе лады, аж прыкра стала
Самім ім дурня выслаўляць,
Ды заадно, каб даказаць,
Яны на радзе й прысудзілі,
Каб проста кесара назваць
Самым Юпітэрам ды годзе.
І напісалі ваяводам
З канца ў канец: моў, так і так,
Што кесар—бог. Што больш ад бога!
І тым майстрам далі каваць
Статую кесара. Да тога
Так Note bene дадалі,
Што бронзавы той кесар будзе
Караць і мілаваць. І людзі
Нібы ў той вырай паплылі
У Рым па міласць. Праплыла
І тая з Сіракуз нябога
Прасіць і кесара і бога.
І ці адна яна? Мой божа!
Прышло іх тысячы ў слязах,
Прышлі здалёку.
Гора з вамі!
Каго прасіць, маліць прышлі?
Каму вы слёзы прыняслі?
Каму вы прыняслі з слязамі
Сваю надзею? Гора з вамі,
Рабы нязрачыя! Каго,
Каго вы просіце, дурныя,
Рабы, нявольнікі сляпыя?
Ці-ж кат памілуе каго?
Маліцеся богу аднаму,
Маліцеся праўдзе адной.
І на зямлі больш а ні кому
Не пакланяйцеся. Брахнёй
Гучаць—поп, цар...

VIII

Перад Неронам,
Перад Юпітэрам новым,
Паклоны білі сенаторы
І ўсе патрыцыі, і ўчора
Лілася божжа благадаць;
Каму ці чынам, ці грашамі,
Каму ў арэнду Палестыну
І байструкам кусок, каму
Зрабілі ласку самі даць
Сваю наложніцу за жонку,
Хоць падтаптаную. Нічога,
Абы з-пад цара. У другога
Сястру зрабілі ласку ўзяць
У свой гарэм. І то нічога—
На тое бог ён, мы-ж пад бога
Сябе павінны падкладаць,
Не толькі сёстраў...
Пратарыяне папрасілі,
Пратарыяням даў указ:
Рабіце тое, што рабілі,
А мы памілуема вас.
І вы, плебеі, грэчкасеі,
І вы маліліся; ды вас
Ніхто не мілуе. Не ўмеюць
Дарыць вам міласці хоць раз.

IX

Ужо на трэці дзень пусцілі
Маліцца і за хрысціян.
І ты прыходзіла, маліла,

İ міласэрны той балван
Загад даў везці з Сіракузаў
У Рым закутых хрысціян.
 İ рада ты, ты ажыла,
 İдалу нанова
Памалілася. Той ідал,
Юпітэр той новы,
Вось пабач, якое свята
Будзе задаваці
Ў Калізеі. А тым часам
İдзе сустракаці
Свайго сына, ды не дужа
Радуйся, нябога,
Бо ты новага не знаеш
Ласкавага бога.
А пакуль што з мацярамі
Алкідава маці
Пайшла сыну на спатканне,
Святых прывітаці
На беразе. İ ты пайшла,
Траха не спяваеш
Ды кесара-Юпітэра
Хваліш-выслаўляеш.
— Вось Юпітэр дык Юпітэр:
İ назваць не шкода
Юпітэрам. Я-ж дурная,
Дурная-ж урода,
У Афіны Юпітэра
Упрашаць хадзіла!—
Ды ціхенька зноў кесара,
Як бога, маліла.
İ пайшла па-над балотам,
На Тыбр паглядае,
А на Тыбру з па-за гаю
Байдак выплывае,
Ці галера. На галеры
Вязуць твайго сына
З неафітамі ў кайданах.
Твой родны хлапчына
Да галеры прыкаваны—
Не неафіт новы,
А апостал вялікага
Хрыстовага слова.
Вось ён хто такі. Ці чуеш,
Спявае у путах
Твой мучанік:

— Псалом новы богу духу
İ новую славу
Заспяваем усе разам
Сэрцам чыстым, правым,
У псалтырах і тымпані
Бога ўсе уславім.
Бог карае няпраўдзівых,
Памагае правым.
Прэпадобныя бо ў славе
İ на ціхіх ложах
Радуюцца, славасловяць,
Хваляць імя божжа.
İ мячы ў святых руках іх
Праўдзе служыць будуць
Для адпомсты злым народам,
Для навукі людзям.
Акуюць цароў праглівых
У кайданы-путы
İ аковамі іх, слынных,
Ручнымі акруцяць.
İ асудзяць няправедных
Судом сваім правым
İ вавекі будзе слава,
Прэпадобным слава.—

X

А ты на беразе стаяла,
Нібы панурая скала,
Не слухала і не рыдала,
А алілуя падала
За мацярамі хрысціянам.
Як звоны, загулі кайданы
На неафітах. А твой сын,
Адзіны твой, апостал новы,
Перахрысціўся, ўзгаласіў:

— Маліцеся, браты! Прасіце
За ка́та лютага. Яго
Ў сваіх малітвах памяніце.
Перад гардыняю-ж яго
Не кланяйцеся, не маліце—
Малітва госпаду. А ён
Няхай лютуе на зямлі,
Няхай прарока пабівае,
Няхай усіх нас распінае;
Ужо бо зачаліся ўнукі,
İ будуць сільныя іх рукі,
Ды не забойцы ўнукі тыя—
Хрыстовы воіны святыя!
İ без нажа і без агню
Стратэгі божыя паўстануць.
İ цьмы і тысячы паганых
Перад святымі пабягуць.
Маліцеся, браты.—
 Малілісь,
Маліліся перад крыжом
У цяжкіх путах неафіты.
Малілісь радасна. Хвала,
Хвала вам, душы маладыя,
Хвала вам, рыцары святыя,
Ва векі вечныя хвала.

XI

İ ў Рым галера прыплыла.
Мінае тыдзень. П'яны кесар,
Узвёўшы сам сябе ў Зевеса,
Задаў Зевесу юбілей.

Балюе Рым. Перад кумірам
Вязуць вазамі ладан, міро,
Гуртамі гоняць хрысціян
У Калізей. Як у разніцы
Кроў пацякла. Балюе Рым.
І гладзіятар, і патрыцый—
Абодва п'яныя. Кроў, дым
Іх упаіў. Руіну славы
Рым прапівае. Трызну правіць
Па Сціпіёнах. Лютуй! лютуй,
Старызна гнусны, і балюй
Ты па гарэмах. Там, з-за мора,
Святыя выплываюць зоры.
Не громам праведным, святым
Цябе заб'юць—нажом тупым
Цябе зарэжуць, як сабаку,
Заб'юць абухам.

XII

Другі дзень
Раве арэна. На арэне
Лідзійскі залаты пясок
Пакрыўся пурпурам чырвоным,
З крывёй змяшаўшыся людской.
А сіракузскіх назарэяў
Яшчэ не відна ў Калізеі.
На трэці толькі дзень закутых
Іх стража з голымі мячамі
Гуртом на бойню прывяла.
Арэна зверам зараўла.
А сын твой горда на арэну,
Псалом спяваючы, ўзыйшоў.
І п'яны кесар, як шалёны,
Стаў рагатаць. І леапард
На сцэну ўскочыў раз'яроны,
Ступіў, зірнуў... І палілася
Святая кроў. Па Калізею
Грымучым шумам пранясласся
І сціхла бура. Дзе-ж была?
Дзе ты схавалася, нябога?
Чаму на кесара святога
Не кінулася? Не магла,
Бо варта пільна сцерагла
Зевеса гэтага. За ім,
Тваім Юпітэрам святым,
І браму зараз зачынілі.
І засталася ты адна,
Адна-адненькая у двары.
І што ты зробіш?—Гора! Гора!
О гора лютае маё!
Мая ты доля! Без яго
Што мне рабіць? І да каго
Я прыхілюся?..—І нябога
Вакол зірнула, і аб мур,
Аб мур старою галавою
Ударылася, трупам пала
Пад самай брамай...

XIII

З відовішча надвячоркам
У тэрмі схаваўся
Святы кесар з ліктарамі.
Калізей застаўся
Без кесара і без рымлян,
І быццам заплакаў
Адзінокі. І гарою
На полі чарнее
Калізей той сярод Рыму.
Ціха, ціха вее
Свежы вецер з-за Альбана
Над знямелым Рымам.
А над чорным Калізеем,
Быццам-бы з-за дыму,
Плыве месяц круглаліцы,
І свет першатворны
Адпачыў на лоне ночы.
Толькі мы, Адаме,
Твае дзеці бяспутныя,
Не адпачываем
Аж да самай дамавіны
У праспаным раю.
І грыземся, як сабакі,
З-за косткі смярдзячай,
І самога зневажаем,
Праойча лядачы.

XIV

Трохі адпачыла
Стара маці-недабітка.
Жывучую сілу
Сіла ночы ажывіла.
Ўстала, пахадзіла
Каля брамы замкнёнае,
Ды штосьці шаптала.
Ці не кесара святога
Моўчкі праклінала?
Можа і так. Ціхусенька
Каля брамы стала,
Паслухала і са смехам
Нешта прашаптала,
Слова нейкае. І ціха
Каля брамы села
І журыцца. Неўзабаве
Браму расчынілі
І на вазах, на калясніцах
З той калізейскае разніцы
Святыя вывезлі цяла
І павязлі на Цібр. Цяламі
Святых забітых гадавалі
Для таго-ж царскага стала
У Тыбры рыбу. Ўстала маці,
Вакол зірнула і ўзялася
За голаў бітую рукамі,
І ціха, моўчкі за вазамі



Марою чорнаю пайшла.
І не адзін скіф шэравокі,
Што целы вёз,—апошні раб,—
Падумаў тут: сястра Марока
Прышла аж з пекла праўдзіць
У пекла-ж рымлян. Паскідалі
У ваду трупы дый назад
З вазамі скіфы павярталі.
І засталася ты адна
На беразе. І ты глядзела,
Як круг за кругам анямела
Ішоў, знікаючы над ім,
Над сынам праведным тваім.
Глядзела ты, пакуль не стала
І следу іх сярод вады.
І усміхнулася тады
І цяжка, страшна зарыдала,
І першы раз ты ўзнесла рукі
Таму, хто выбавіў ад мукі
Цябе—распяты сын Марыі,
І словы ты яго жывыя
Ў жывую душу прыняла.
І ты ў палац і ў дом убогі
Жывога ісцінага бога
Са словам праўды панясла.

1857. 8 Снежня.
Ніжні Ноўгарад



# ЮРАДЗІВЫ

У дні фельдфебеля-цара
Капрал Гаўрылавіч Бязрукі
Ды унцер п'яны Доўгарукі
Украйнай правілі. Дабра
Яны нямала натварылі,
Нямала люду агалілі,
Служыўшы ў царскіх унцерах,
А надта стрыжаны Гаўрылыч
Удвох з ефрэйтарам малым
Ды жвавым, на бяду ліхім,
Людзей вось так дамуштравалі,
Што нат' фельдфебеля здзіўлялі
І маршыроўкаю, і ўсім,
І «добрачынна прэбывалі
Заўжды к ефрэйтарам сваім».
А мы глядзелі і маўчалі
Ды моўчкі чухалі чубы.
Нямыя, подлыя рабы,
Падножкі царскія, лакеі
Капрала п'янага! Не вам,
Не вам, у вышытай ліўрэі
Даносчыкі і фарысеі,
За праўду, за святую стаць
І за свабоду. Распінаць,
А не любіць пазналі брата!
О род нікчэмны, род пракляты,
Калі ты выдахнеш? Калі
Мы дачакаем Вашынгтона
Ды з новым, правільным законам?
А дачакаемся калісь!

Не сотні вас, а вас мільёны
Палян, дулебаў і драўлян
Гаўрылыч гнуў во время оно;
А вас, маіх святых кіян,
І вашых прыгажунь кіянак
Аддаў сваім прафосам п'яным
У наймічкі сатрап-капрал.
Вам-жа ўсёроўна. А між вамі
Знайшоўся-ж нейкі вось праява,
Якісь дурны арыгінал,
Што ў морду заляпіў капралу—
Ды 'шчэ ў царкве. І ўсё прапала,
Як на сабаку.
Тады, дурныя, й вам было-б
На злыдня выйсці з рагачамі,
А вы спужаліся...*)
Так вось, так!
Знайшоўся ўсё-ж адзін казак,
Са свінапасаў родам быў,
Ён царства ўсё ашаламіў:
Сатрапу ў морду заляпіў.
А вы, дурныя, гэтым часам,
Пакуль хварэе той капрал,
Вы абвясцілі юрадзівым
Святога рыцара! Жахлівы
Фельдфебель ваш, Сарданапал
Паслаў на катаргу святога,
А да пабітага старога
Сатрапа «назаўжды» ён стаў
Прыхільным вельмі.
Больш нічога
Не выкраіў, і вось драму
Глухімі, цёмнымі радамі
На сметнік вынеслі. А я...
О зорка ясная мая!

*) Радкі 12—14 у аўтографе закрэслены.

Вядзеш мяне з турмы, з няволі,
Якраз на сметнічак Міколы,
І свеціш, і гарыш над ім
Агнём нябачным і святым,
Ды жыватворным, а з-пад гною
Слупом ўстае перада мною
Ў бязбожных справах уладар...
Ты творца зла, бязбожны цар,
Ты праўду закапаў глыбока!
Што натварыў ты на зямлі!
А ты, ўсёвідзячае вока!
Ці ты заўважыла звысоку,
Як сотнямі ў кайданах гналі
Ў Сібір нявольнікаў святых,
Як мардавалі, распіналі
І вешалі?! А ты не знала?
І ты ўзіралася на іх
І не аслепла?! Вока, вока!
Не дужа бачыш ты глыбока!
Ты спіш ў кіеце, а цары...
Ды чорт іх, тых цароў паганых!
Няхай здаюцца ім кайданы,
А я памчуся на Сібір,
Аж за Байкал; загляну ў горы,
Ў вярцепы цёмныя і ў норы
Без дна глыбокія, і вас,
Барацьбіты святое волі,
Ад цемры, чаду і з няволі
Царам, людзям я на паказ,
На свет вас выведу надалей
Радамі доўгімі ў кайданах...

[Ніжні Ноўгарад
1857]

## ДОЛЯ

Не хітравала ты са мною,
Ты другам, братам і сястрою
Была заўсёды. Ты ўзяла
Мяне маленькага за рукі,
І ў школу хлопца адвяла
Да п'янага дзяка ў навукі.
— Вучыся, сэрцайка, каб знаў,
З нас будуць людзі!—ты сказала.
А я й паслухаў, я чытаў,
І выўчыўся. А ты збрахала.
Што з нас за людзі? Ды дарма!
Не хітравалі мы з табою!
Мы проста йшлі: у нас няма
Няпраўды зерня за сабою.
Хадзем-жа, доленька мая!
Мой дружа бедны і ласкавы!
Хадзем-жа далей, далей слава,
А слава—запаведзь мая.

[1858. 9 Лютага.
Ніжні Ноўгарад]

## МУЗА

А ты, прачыстая, святая,
Сястра ты, Феба маладая!
Мяне ты ў свой падол ўзяла
І ўдаль, у поле аднясла,
І на магіле сярод поля,
Як тую волю на раздоллі,
Туманам сівым спавіла.
І калыхала, і спявала,
Тварыла чары ты... І я...
О чараўнічанька мая!
І мне ты ўсюды памагала,
Мяне ты ўсюды даглядала.
У стэпу, бязлюдным стэпу,
Далёка ў няволі,
Зіхацела, расцвітала,
Як кветачка ў полі!
Ды з казармы, той нячыстай
Чыстаю, святою
Пташачкаю вылецела,
І панада мною
Паляцела, заспявала
Ты, золатакрылай...
Як жывучаю вадою
Душу акрапіла.
І я жыву, і нада мною
З сваёю божаю красою
Гарыш ты, зоранька мая,
Мая дараднічка святая!
Мая ты доля маладая!
Не пакідай мяне. Ўначы
І ўдзень, і ўвечары, і рана
Лунай за мною і вучы,
Вучы няскладнымі губамі
Сказаці праўду. Памажы
Малітву мне тварыць да краю.
А як памру, мая святая!
Мая ты мама! Палажы
Свайго ты сына ў дамавіну,
І хоць адзіную слязіну
З воч неўміручых пакажы.

[1858. 9 Лютага.
Ніжні Ноўгарад]

## СЛАВА

А ты, задрыпанка, шынкарка,
Гандлярская душа!
Дзе забавілася ў ка́та
З промнямі сваімі?
У Версалі над зладзеем
Ты пышнееш вельмі,
Ці з кім іншым загуляла,
З нуды ды з пахмелля?
Прыгарніся лепш ка мне ты,
Лепей вып'ем з ліха;
Абдымемся, прыгарнемся,
Ды люба ды ціха
Пацалуемся, падурым,
Ды і пабяромся,
Мая краля прыгажуня.
Гэтак давялося—
За табой я ўсе спяшаю;
Ты хоць форсы знала
І з п'янымі кесарамі
Па шынках гуляла.
У Севастопалі з Міколам
Бавілася болей.
Мяне гэта не кранае;
Дай мне, мая доля!
На сябе дай наглядзецца!
К сэрцу прыгарнуцца,
Пад крылом тваім, каханка,
Ў халадку заснуці.

1858 [9 Лютага].
Ніжні Ноўгарад

---

## СОН

На паншчыне пшаніцу жала,
Стамілася; ды не спачыць
Пайшла ў снапы, пакандыбала
Івана сына накарміць.
Яно спавітае крычала
У халадочку пад снапом.
І накарміла, пагайдала,
Папесціла; і нібы сном
Над сынам сеўшы задрамала,
І сніцца ёй той сын Іван
Такі прыгожы і багаты,
Ужо сасватаны, жанаты
На вольнай быццам, бо і сам
Ужо не панскі, а на волі;
І на сваім вясёлым полі
Удвох сабе пшаніцу жнуць,
А дзетачкі абед нясуць,
Дый усміхнулася нябога.
Кругом глядзіць—няма нічога.
На Йвася глянула, ўзяла
Яго ціхутка, спавіла.
Стаіць аконам. Жаць ёй многа,
І копы дажынаць пайшла.

13 Ліпеня 1858.
[С.-Пецербург]

---

* * *

Я не нездужаю, няўрокам,
А штось такое бачыць вока,
Чакае сэрца штось. Баліць,
Баліць, і плача і не спіць,
Нібы без догляду дзяціна.
Ліхое, цяжкае гадзіны
Чакаеш ты? Ды не чакай
Тае жаданае ты волі—
Яна заснула: цар Мікола
Яе прыспаў. Каб разбудзіць

Слабую волю, трэба разам,
Абух грамадай гартаваць,
Сякеру навастрыць адразу,
Дый брацца волю падымаць.
А то праспіць сабе нябога
Да суду страшнага ад бога!
А панства будзе калыхаць,
Палацы, цэркві муравацъ,
І п'яніцу цара ліхога
Ды візанційства услаўляць,
А болей, мусіць, і нічога.

1858. 22 Лістапада.
[С.-Пецербург].

---

## НАСЛЕДАВАННЕ 11 ПСАЛМУ

Мой божа мілы, гэтак мала
Святых людзей на свеце стала.
Адзін на аднаго куюць
Кайданы ў сэрцы. Тут-жа самі
Найсаладковымі губамі
Цалуюцца і не прыждуць,
Ці хутка брата ў дамавіне
З гасцей на цвінтар панясуць?
А ты, о божа наш адзіны,
Ты можаш вуснаў зло стрымаць,
Язык замнога гаварлівы,
Што нам казаў: мы не здарма!
І узвялічым мы надзіва
І розум наш, і наш язык...
Ды дзе той пан, што нам закажа
І думаць так, і гаварыць?
— Ускрэсну я!—той пан вам скажа,—
Ускрэсну сёння! Дзеля іх,
Людзей закованых маіх,
Убогіх, бедных... Узвялічу
Малых вось тых рабоў нямых!
І я на варце каля іх
Пастаўлю слова. Ляжа ніцам,
Нібы стаптаная трава,
І думка ў вашых галавах.—
Як срэбра кутае, цвярдое,
І сем разоў пералітое
Агнём у горне,—словы вось
Твае, о божа наш, такія.
Раскінь-жа іх, твае святыя,
Па ўсёй зямлі. І цудам скрозь
Тваім паверацъ ўсе на свеце
Твае малыя ў горы дзеці!

1859. 15 Лютага.
[С.-Пецербург]

---

## МАРКУ ВАЎЧКУ

*На памяць 24 Студзеня 1859*

Недаўна я па-за Уралам
Блукаў і бога упрашаў,
Каб наша праўда не прапала,
Каб наша слова не ўмірала;
І выпрасіў. Нам бог паслаў
Цябе, сумленнага прарока,
Ты выкрывальнік наш глыбокі
Супроць багатых. Свеце мой!
Мая ты зоранька святая!
Мая ты сіла маладая!
Сагрэй мяне і супакой,
І сэрца ажыві ад болю,
Прыкрый-жа беднае ад зволі
Галоднае. І ажыву,
І думу вольную на волю
Я з дамавіны пазаву.
І думу вольную... О доля!
Прарочa наш! Мая ты доня!
Тваёю думу назаву.

1859. Лютага 17.
С. П. Б.

---

## ІСАІЯ, ГЛАВА 35

(НАСЛЕДАВАННЕ)

Радуйся, ніва непалітая!
Радуйся, зямля, не спавітая
Квятчастым збожжам! Распусці
Ты краскі-ружы, працвіці!
І працвіцеш, пазелянееш,
Як Іарданавы святыя
Зялёны луг і берагі!
Гонар Кармілава, і слава
Ліванава, а не лукавым
Цябе укрые дарагім
Золататканым, хітрашытым,
Дабром ды воляю падбітым,
Святым амофарам сваім.
І людзі цёмныя усюды
Пабачаць божаскія цуды.

І спачынуць вязняў рукі,
Стомленыя здаўна,
І калені адпачынуць,
Скутыя ў кайданы.
Радуйся, хто чысты духам,
Не пужайся дзіва,
Судзіць бог і вызваляе
Доўгацерпялівых
Вас, убогіх. Ён-жа знае,
Катаў пакарае!

Тады як на зямлю святая,
Наш божа, праўда прыляціць,
Хоць на гадзіначку спачыць,
Сляпыя ўбачаць, а крывыя
Як сарна з гаю паімчацца.
Нямыя стануць гаварыць;
Як воды, слова забурліць,
Пустэльні у сухмень спавіты
Цалебнаю вадой абмыты,
Прачнуцца ўсе; і пацякуць
Вясёла рэкі, а азёры
Вакол гаямі абрастуць,
Вясёлым птаствам ажывуць.

Ажывуць стэпы, азёры,
І ўжо не старыя,
А вольныя, шырокія
Скрозь шляхі святыя
Прасцелюцца; і не знойдуць
Тых шляхоў ўладыкі,
А рабы тымі шляхамі
Без гвалту і крыку
Пасыходзяцца дакупы
У жыцці вясёлым
І пустэльнай запануюць
Вясёлыя сёлы.

25 Сакавіка 1859.
[С.-Пецербург]

---

## N. N.

Цябе лілеяй бачу тою,
Што ў Іардане працвіла,
Ў сябе сабрала, пранясла
Святое слова над зямлёю.
Нібы як ты, днястровы цвеце...
Не! не! Крый божа! Разапнуць,
Ў Сібір ў кайданах павядуць.
І што цябе ў жыцці сустрэціць...
Не вымаўлю...
Вясёлы рай
Пашлі ёй, божа наш, падай!
Падай ёй долю ў гэтым свеце,
І больш нічога не давай.
Ды не бяры яе вясною
Ў свой рай нябесны, не бяры,
А дай тваёю ты красою
Ёй наглядзецца на зямлю.

19 Красавіка 1859.
[С.-Пецербург]

## ФЁДАРУ ІВАНАВІЧУ ЧАРНЕНКУ

*На памяць 22 Верасня 1859 г.*

Ой на горах рамон цвіце,
Далінаю казак ідзе,
І ў журбы ён пытаецца,
Дзе той долі гуляецца?

Ці па карчмах дзе з панамі?
Ці то ў стэпах з чумакамі?
Ці то ў полі на раздоллі
З ветрам веецца па волі?

Не там, не там, дружа-браце,
У дзяўчыны ў чужой хаце,
Ў ручніку яна, ў хусціне
Захавана ў новай скрыні.

Лыхвін.
7 Чэрвеня [1859]

* * *

Ой маю я вочкі, родная маці,
Некага-ж, матухна, ды аглядаці,
Некага, сэрцайка, ды аглядаці!

Ой маю я ручкі, родная маці,
Некага-ж, матухна, ды абнімаці,
Некага, сэрцайка, мне абнімаці!

Ой маю я ножкі, родная маці,
Ды не з кім, матухна, мне паскакаці,
Ды не з кім, сэрцайка, мне паскакаці!

10 Чэрвеня [1859].
Пырацін.

## СЯСТРЫ

Праходзячы па ўбогіх сёлах
Панаддняпроўскіх невясёлых,
Я думаў,—дзе спыніцца мне?
І дзе падзецца мне на свеце?
І потым бачу у ва сне,
Што дрэўцы ў садзе ў белым цвеце,
І на узгорачку стаіць,
Як быццам дзеўчына, хаціна.
Дняпро шырокі разгарнуўся!
Аж ззяе бацька ды гарыць!
Гляджу: у цёмненькім садочку,
Пад вішанькай у халадочку
Мая адзіная сястра!
Многапакутніца святая!
Нібы ў раю адпачывае,
Ды з-за шырокага Дняпра
Мяне гаротная чакае.
І ёй здаецца—вынырае
З-за хвалі човен той, плыве...
І ў хвалі потым і знікае.
— Мой брацітка! Мая ты доля!—
І мы прачнуліся. А ты...
На паншчыне, а я ў няволі!..
Вось так нам давялося йсці
Яшчэ ад малку колкай нівай!
Сястра, маліся! Будзем жывы,
Дык бог паможа перайсці.

20 Ліпеня [1859].
Чэркасы



* * *

Калісь, дурною галавою,
Я думаў: горанька са мною!
Як давядзецца ў свеце жыць?
Людзей і госпада хваліць?
Няўжо калодаю гнілою
Валяцца, старыцца і гніць,
Памерці й следу не пакінуць
На абрабованай зямлі...

О гора! Думы ўсе адны!
Дзе ў свеце дзенуся—не знаю.
Штодзень пілаты распінаюць,
Марозяць, шкварацць на агні.

21 Ліпеня [1859]
Чэркасы

---

* * *

Калі-б ты, Багдане п'яны,
Цяпер на Пераяслаў глянуў!
На замчышча каб паглядзеў!
Упіўся-б! моцна-б захмялеў!
Ты шматпраслаўлены казачы
Разумны бацька! І няйначай
Ты-б пахмяліўся ў карчме дзе,
Ці знік-бы ў мутнае вадзе,
Ў свінячай багне.

Амін табе, вялікім мужам,
Ты слаўным быў, ды не, не дужа...
Каб ты на свет наш не глядзеў,
Або ў калысцы захмялеў...
Дык не купаў-бы я у лужы
Цябе славутнага. Амін.

18 Жніўня [1859].
У Пераяславе

---

* * *

Ва Іудзеі ва дні оны,
У часе Ірада цара,
Вакол Сіона й на Сіоне
Паскуднічалі легіёны
Раманскія. А ў цара,
У Ірада таго самога
І на парозе і за парогам
Стаялі ліктары. А цар...
Самаўладарны валадар!
Лізаў у ліктара халяву,
Каб на выдаткі на ўсе
Хоць поўдзінарыя пазычыў;

А той кішэняю трасе,
Вымае грошы і не лічыць,
Як быццам старцу ён дае.
І п'яны Ірад зноўку п'е!
Дык вось не ў самым Назарэце,
А у якімсьці там вярцепе,
Марыя сына прывяла,
І ў Віфліем з малым пайшла...
Бяжыць паштар ад Віфліема.
— Паслухай, цар, расказ ты мой!
Гірса і кукаль з лебядой
Расце ў пшаніцы. Гэта племя
Давідава у нас ўзышло!

Сячы, пакуль не узрасло!—
— Дык што-ж!—прамовіў Ірад п'яны,—
Па царству ўсім пазасякаць
Малых дзяцей; бо род паганы
Не дасць як след дацараваць.—
Паштар быў п'яны, гаварылі.
Аддаў сенату ён указ,
Каб толькі ў Віфліеме білі
Малых дзяцей.
Ратуй ты нас,
Дзіцёнак праведны, вялікі,
Ад п'янага цара-ўладыкі!
Табе з ратункамі прышла
Ад горшага святая маці.
Ды дзе-ж нам тую маці ўзяці?
Мы сэрцам голым дагала!
Рабы з какардаю на лобе!
Лакеі ў залатой аздобе...
Анучы, смецце з памяла
Яго вялікасці. Дый годзе!

24 Кастрычніка [1859].
С.-Пецербург

---

## МАРЫЯ

***Радуйся, ты бо обновила еси зачатыя студно.***
***Акаф. П.Б. богор. 1 кос. 10.***

Надзеі, мыслі ўсе мае
Я на цябе, мой светлы раю,
На міласэрдзе, на тваё,
Усё спадзеванне маё
На цябе, маці, пакладаю.
Святая сіла ўсіх святых!
Найначысцейшая, святая!
Малюся, плачу і рыдаю.
Зірні, прачыстая, на іх,
На тых акрадзеных, сляпых
Нявольнікаў. Падай ім сілу
Твайго мучаніка сына,
Каб крыж-кайданы даняслі
Да саменькага канца-краю.
Праслаўленая! Я ўзываю,
Царыца неба і зямлі.
Пачуй іх стогны і пашлі
Канец шчаслівы, прасвятая!
А я, нязлоблівы, спяю,
Як працвітуць сядзібы, сёлы,
Псалмом і ціхім і вясёлым
Святую долечку тваю.
А зараз плач і болесць, слёзы
Душы убогае,—убогі.
Сваю я лепту падаю.

У Ёсіфа, у цесляра,
Ці бондара таго святога
Марыя ў наймічках расла,
Расла сабе і вырастала,
І на пары Марыя стала...
І кветкай-ружай расцвіла
У беднай і чужой хаціне,
У ціхім і святым раю.
Цясляр на наймічку сваю,
Нібы на родную дзяціну,
Бывала струг, цяслу пакіне
Дый пазірае. І час міне
А ён і вокам не змігне
І думае:—Ані радзіны,
Ані хаціначкі няма,
Адна-адненькая!.. Хіба...
Ці смерць мая ўжо за плячыма?..—
Марыя-ж стане каля тыну
Ды воўну белую прадзе
На той бурнус яму, на новы,
Або на бераг павядзе
Казу з казляткам такім кволым
Папасвіць там і папаіць,
Хоць і далёка. А любіла-ж
Яна той ціхі божы стаў,
Шырокую Тыверыяду,
І рада, аж смяецца, рада,
Што Ёсіф, седзячы, маўчаў
І не пярэчыў, не спыняў
На стаў ісці. Ідзе, смяецца,
А ён сядзіць ды ўсё сядзіць,
За струг, бядага, не бярэцца...
Каза нап'ецца ды пасецца,
А дзеўчына сабе стаіць
З сваімі думкамі пад гаем
І смутна, сумна пазірае
На той шырокі, божы стаў
Ды прагаворыць:—Тыверыяда!

Цару шырокі азярам!
Скажы ты мне, мая парада,
Якая доля выйдзе нам
З старым Іосіфам? О доля!—
І хіліцца, нібы таполя
Ад ветру хіліцца ў яру.
— Яму я родным дзіцем стану,
Плячмі маімі маладымі
Яго старыя падапру!—
І зрокам абвяла паляну,
Аж іскры сыпнулі з вачэй,
А з маладых яе плячэй
Хітон палатаны дадолу
Паволі ссунуўся. Ніколі
Такое божае красы
Ніхто не ўбачыць. Злая-ж доля
Калючым цернем правяла
І нібы кпіла над красою!
О долечка!—Па-над вадою
Хадою ціхаю пайшла.
Лапух край берага знайшла,
Лапух сарвала і накрыла,
Нібы тым брылікам, сваю
Галоўку смугленькую тую,
Сваю галаваньку святую!
І ў цёмным знікла дзесь гаю.

О свеце вечны наш, нягаслы!
О ты, прачыстая у жэнах!
Пахучы квет, палёў краса!
Дзе, у якіх гаях, ярах,
Прытулках блізкіх ці далёкіх
Ты захавалася ад спёкі
Агняспаляючай тае,
Што сэрца без агню растопіць
І без вады праўве, затопіць
Святыя думанькі твае?
Дзе ты схаваешся? Нідзе!
Агонь запаў ужо—і годзе!
Запалымнееў ужо. І шкода,
Дарэмна сіла прападзе,
Да сэрца дойдзе, да касці
Агонь той люты, негасімы
І, недабітая, за сынам
Ты будзеш змушана прайсці
Агонь пякельны. І прарочыць,
Табе ўжо зазірае ў вочы
Прышласць твая. Ты не глядзі!
Твой сум прарочы адвядзі,
На галаву ўзлажы вяночак
З чырвоных макаў, віаргінь
Ды бестурботна адпачынь
Пад яварам у халадочку,
Пакуль што будзе.

Пад вечар, нібы зорка тая,
З вянком Марыя вышла з гаю.
А перад ёй Фавор-гара,
Як-бы з золата-серабра,
У небе высіцца і ззяе,
Аж вочы слепіць. Падняла
На той Фавор свае святыя
Вочкі лагодная Марыя
З усмешкай ціхай. Заняла
Казу з казлятачкам з-пад гаю
І заспявала:

— І Раю! раю!
Цёмны гаю!
Ці я маладая,
Мілы божа,
Ў тваім раю
Ці я пагуляю,
Нагуляюся?—

Дый змоўкла
І азірнулася наўкола,
На рукі казлянё ўзяла
І весяленькая пайшла
На хутар бондараў убогі.
Ідучы казлянё-нябогу,
Нібы малое на руках,
Яна пагушквала, гайдала,
Да ўлоння ціха прытуляла
І цалавала. Казлянё,
Як быццам тое кацянё,
Ляжала ціха, не крычала,
На ўлонні песцілася ўдала.
І мілі дзве з тым казлянём
Яна амаль не танцавала.
І не ўтамілася. Стары
Глядзеў, сумуючы пад тынам,
І ўжо даўно сваю дзяціну
Здалёку згледзіў, прывітаў
І запытаўся:—Дзе ты ў бога
Забавілася так, нябога?
Хадзем у кушчу, адпачынь
Ды за вячэру сядзем разам
З вясёлым госцем маладым.
Хадзем-жа, дочухна. —Які?
Які то госць?—А з Назарэта
Зайшоў да нас падначаваць.
Ён кажа: божжа благадаць
На старую Елізавету
Учора раненька зыйшла,
Учора, кажа, прывяла
Дзяцёнка-сына. А Захары
Стары назваў яго Іанам.
Дык бачыш што!—А госць разуты,
Умыты з кушчы выступаў
У белым чысценькім хітоне,
Як намалёваны ён ззяў
І велічна стаў на парозе
І, пакланіўшыся, вітаў

Марыю ціха. Ей, нябозе,
Аж дзіўна стала. Госць стаяў
І сапраўды, нібы заззяў.
Марыя на яго зірнула
І боязнь нейкую адчула
І прыгарнулася ад страху
Да Есіфа свайго старога.
А потым госця маладога
Прасіла, нібы павяла
Вачамі ў кушчу. Прынясла
Вады чысцюсенькай з крыніцы
Ды малако і сыр казліцы
Ім на вячэру падала.
Сама-ж не ела, не піла,
Ў куточку ціхенька стаяла
Ды ўсё маўкліва пазірала
І слухала, як малады,
Дзівосны госць той гаварыў,
І словы гутаркі жывыя
У душу падалі Марыі,
І ў сэрцы стыла і пякло!

— У Іудзеі не было,—
Прамовіў госць,—таго ніколі,
Што зараз станецца. Раббі!
Звястун вялікае глаголы
Засее праўду на зямлі!
І вырастуць і пажнямо
І ў жытніцы мы зберамо
Святыя зерні. Я Месію
Іду людзям апавясціць.—
І памалілася Марыя
Перад апосталам.

Гарыць
Агеньчык ціха у жарніцы.
А Есіф праведны сядзіць
Ды думае. Ужо зарніцы
На небе ясным узышлі.
Марыя ўстала і пайшла
З гляком па воду да крыніцы.
І госць за ёю і ў ярочку
Дагнаў Марыю...
Халадочкам
Да ўсходу сонца правяла
Аж да самае Тыверыяды
Святога весніка. І рада,
Радзюсенька сабе прышла
Дадому.
Жджэ яго Марыя.
А вусны, шчокі маладыя
Відочна блекнуць. Вочы ёй
Туманам засціць.—Ты не той,
Не той цяпер, Марыя, стала,
Наш цвет, аздоблены красой!—
Прамовіў Есіф.—Дзіва стала
З табою, дочухна мая!
Марыя, трэба нам звянчацца,
А то...—Не вымавіў—заб'юць,
На вуліцы,—затым схавацца
Ў сваім аазісе.—І ў пуць
Марыя ўбогі скарб збірала
Ды цяжка плакала, рыдала.

І вось яны сабе ідуць,
Забраўшы скарб увесь на плечы.
Між скарбу конаўка. Сказаць,
Можна было-б яе прадаць
Ды хустку ёй купіць дарэчы,
Дый за павенчанне аддаць.

О старча праведны, багаты!
Не ад Сіона благадаць:
Яна з твае убогай хаты
Нам узвясцілася. Калі-б
Прачыстай ёй не даў ты руку,
Рабамі беднымі былі-б,
Дагэтуль мерлі-бы. О мука!
О цяжкая душы нуда!
Не вас, гаротных, мне шкада,
Сляпыя, бедныя душою,
А тых, што бачаць над сабою
Сякеру, молат, і куюць
Кайданы новыя. Заб'юць
Зарэжуць вас, душаубіўцы,
Ды з той крывавае крыніцы
Сабак напояць.

А дзе той
Лукавы госць яе нядаўны?
Хоць-бы прышоў, даў вестку ёй
Ды глянуў-бы на шлюб праслаўны,
На шлюб акрадзены. Не чуць
Ані яго, ані месіі.
А людзі ждуць чагось і ждуць,
Чагось няпэўнага. Марыя!
Не маеш долі ты. Чаго,
Чаго чакаць табе ад бога
І ад людзей яго? Нічога,
Як ад апостала таго.
Не, не чакай. Цясляр убогі
Цябе, вянчаную, вядзе
Ў сваю жабрачую хаціну.
Маліся, дзякуй, што не кінуў,
Цябе ў дарозе не прагнаў
А то-б цаглінаю забілі,—
Як-бы цябе ён ні хаваў.
У Ерусаліме гаварылі
Паціху людзі, што сцялі
У горадзе Тыверыядзе,
Ці то кагосьці распялі,
Што чуткі сеяў аб месіі.
— Яго,—падумала Марыя
І весяленькая пайшла

У Назарэт. І ён святлее,
Што наймічка яго нясла
Пад сэрцам праведную душу
Распятага за волю мужа.

Вось так яны ўдваіх ідуць.
Прышлі дадому і жывуць
Павенчаныя без турботы.
Цясляр за новаю работай—
Калыску ладзіць, а яна
Сядзіць сабе каля акна,
Глядзіць у поле ўсё, ды шые
Кашульку тую з палатна—
Каму яшчэ?
— Гаспадар дома?—
З двара пачулася.—Указ
Ад кесара, яго самога,
Каб вы сягоння, ў гэты-ж час
Для перапісу ў горад,
У горад Віфліем ішлі.—
І знік, замоўк той грозны голас,
І ціша стала, як была.

Марыя цеста замясіла,
Каб хоць праснак спячы. Спякла
І ў торбу моўчкі палажыла
Ды са старым сваім пайшла
У Віфліем.—Святая сіла!
Выбаў мяне, мой божа мілы.—
Толькі й сказала. Зноў ідуць
І цяжкі сум нясуць абое.
Убогія, яны з сабою
Казу з казлятачкам вядуць,
Бо дома не на кага кінуць,
А можа бог дасць і радзіны,
Дык вось і будзе малако
Той беднай мацеры. Скаціна
Ідзе і жывіцца радком.
Ідуць вось гэтак бацька, матка.
І між сабой яны украдкам
Гамоняць ціха.—Сімеон
Протапрасвіцер,—Ёсіф мовіў,—
Прарочае такое слова
Сказаў мне, што святы закон
І Аўраама і Майсея
Адновяць мужы і асеі.
І ён яшчэ угледзіць сам
Месію, што прыходзіць к нам!—
Ці чуеш ты, мая Марыя?
Месія прыдзе!—Ён прышоў,
І мы ўжо бачылі Месію!—
Яна азвалася.
Знайшоў
Праснак зачэрствелы, убогі,
І кажа Ёсіф:—З'еш, нябога,
Пакуль што будзе там яно.
Да Віфліема не блізенька;
І я спачыну заадно.—
І селі на шляху згадненька
Палуднаваць. Вось так сядзяць,
А сонца яснае хуценька
Да долу коціцца. Глядзяць—
Схавалася. Сцямнела ў полі.
І дзіва дзіўнае! Ніколі
Ніхто не бачыў, не чуваў
Такога дзіва. Задрыжаў
Святы цясляр. Мятла з усходу
Над Віфліемам—знак народу—
Шырокай пасмаю зыйшла
І дзіўным блескам заіграла.
Марыя з шляху не ўставала—
Марыя сына прывяла,
Адзіную тую дзяціну,
Што нам збавенне прынясла
І, найсвяцейшая, нявіннай
За грэх наш кары прыняла.
Непадалёку, ўскрай дарогі,
Авечак гналі пастухі
І іх пабачылі. Нябогу,
Матку з дзіцёнкам узялі,
Ў сваю пячору прынясліі
І грамадой усёй убогай
Эмануіл імя далі.

Да ўсходу сонца, рана-рана,
У Віфліеме на майдане
Зышоўся люд і шапаціць,
Што пэўна штосьці з людзьмі будзе
У Іудзеі. Гаманіць
І моўкне люд.—О людзі! людзі!—
Хтось з пастухоў бяжыць, крычыць.
— Прароцтва ўжо Іерэмія,
Ісаія збылось, збылось!
У нас, у пастыраў, Месія
Радзіўся ўчора.—Загуло
У Віфліеме на Майдане.
Месія! Ісус! Асанна!
І люд расходзіўся.
І ўраз
З Ерусаліма пад той час
Прыслаў загад цар-Ірад люты.
І штось нябачана,—нячута
На свеце сталася тады.

Яшчэ ў пялёнках дзеткі спалі,
Купель ім грэлі мацяры,
Намарна грэлі! Не купалі
Маленькіх дзетачак сваіх!
Нажы салдаты спаласкалі
Ў дзіцячай праведнай крыві!
Дык вось яно што ў свеце сталась!
Глядзіце-ж вы, о мацяры!
Што робяць Ірады-цары!

Марыя нават не хавала
Свайго дзіцёнка. Хвала вам
Убогім людзям, пастухам,
Што прывіталі, захавалі
І нам збавіцеля ўпаслі
Ад Ірада. Пашкадавалі
І накармілі і далі
Кажух і світку на дарогу,
І, небаракі дадалі
Асліцу дойную. Нябогу
З яе дзіцём вы, як маглі,
І даглядалі і вялі
Слядамі ўночы патайнымі
На шлях Мемфійскі. А мятла,
Мятла агністая гарэла,
Як тое сонца, і глядзела
На іх асліцу, што нясла
Ў Егіпет добрую Марыю
І нараджонага Месію.

Калі-б на свеце дзе хоць раз
Царыца села на асліцу,
То слава йшла-б і пра царыцу
І пра вялікую асліцу
Па свеце ўсюды. Гэта-ж нясла
Жывога ісціннага бога.
Цябе-ж, бядачку, копт убогі
Хацеў у Ёсіфа купіць,
Ды здохла ты. Мабыць дарога
Такі пашкодзіла табе?

У Ніле скупанае спіць
Ў пялёнках долі пад вярбою
Дзіцятачка, а між лазою
З лазы калысачку пляце
Ды плача праведная маці,
Калыску тую плетучы.
Знайшоў і Ёсіф зноў работу—
Будуе хатку ён з чароту,
Каб мець прытулак уначы.
З-за Нілу сфінксы, як сычы,
Страшнымі мёртвымі вачымі
Глядзяць на гэта. А за імі
На спаленым пяску стаяць
Па шнуру піраміды ў рад,
Як тая варта фараонаў.
І фараонам даюць знаць,
Што праўда божага закону
Ужо ўзыходзіць на зямлі,
Каб асцярожнымі былі.

Марыя нанялася прасці
У копта воўну, а стары
Авец узяўся стадка пасвіць,
Каб зноў казу сабе нажыць
На малако малому сыну.
Мінае год. Каля хаціны
Паветкі ціхія куты,
Дзе бондар праведны святы
Ніякіх помыслаў не мае,
Барыла й бочкі набівае,
Ды штось мурмукае. А ты?
Не плачаш ты і не спяваеш,
Гадаеш, думаеш, гадаеш,
Як навучыць, як навясці
На троп святы святога сына
І як ад ліха упасці,
Ад бур жыццёвых адвясці?

Зноў год мінуў. Каля хаціны
Каза пасецца, а хлапчына
З малым вясёлым казянём
У сенцах бавіцца. А маці
Сядзіць на прызбе або ў хаце
Ды воўну тонкую прадзе,
Аж вось і сам стары ідзе
З кіёчкам ціха каля тыну:
На торг у горад ён хадзіў
І сыну пернічак купіў,
А ёй прасценькую хусціну;
Сабе-ж нясе на хадакі
Тавар раменны. Сапачынуў
І кажа:—Дочка, не бядуй.
Выпадак з Ірадам такі—
Чагось наеўся ён і, чуй,—
Цяпер хаўтуры адсвяткуй—
Так мне казалі старыкі.
Дык пойдзем-жа мы ў той свой гай
У свой маленькі ціхі рай,
Хадзем дадоманьку, рыбчына.—
— Хадзем,—сказала. І пайшла
На Ніл памыць кашулькі сыну,
Каб у дарогу ўзяць. Паслася
Каза з казляткам каля тыну.
А Ёсіф сына забаўляў,
На прызбе сеўшы, покі маці
Збірала скарб той свой малы.
Кашулькі мыла. Пасля ў хаце
Наладзіў добра пасталы
Сабе ў дарогу. І... пайшлі
Да ўсходу сонца, па тарбіне
На плечы ўзяўшы, а хлапчыну
Яны ў калысачцы няслі.

Сяк-так прышлі яны дадому.
Бадай не выпала нікому
Такое ўгледзець. Благадаць—
Гаёчак ціхі сярод поля,
Адна-адзіная іх доля,
Вось той гаёчак—і не знаць,
Дзе ён меў радасць, і хаціна,—
Усё разбурана. Ў руіне
Прышлося бедным пачываць.
У яр Марыя да крыніцы
Хуценька кінулася. Там

Калісьці з ёю ясналіцы
Сустрэўся госць святы. Бур'ян,
Будзяк калючы з крапівою
Каля крыніцы параслі.
Марыя! Горачка з табою.
Маліся, сэрцайка, малі!
Акуй сваю святую сілу,
Доўгацярплівасцю акуй,
Слязмі крывавымі гартуй.
Чуць не ўтапілася нябога
У той крыніцы. Гора нам
Было-б выбаўленым рабам!
Ці вышла-б што з таго малога
Без мацеры? І мы-б не зналі
Дагэтуль праўды на зямлі,
Святое волі... Адагнала
Цяжкія думкі, зарыдала,
Ды цяжка, горка. Пацяклі
На дол сыры святыя слёзы
Дый высахлі, а ёй, нябозе,
Палегчала.
Елізавета,
Ўдава старая з Назарэта,
З малым сынком сваім жыла,
З сынком Івасем і была
Раднёю ім. Марыя рана
Сыночка любага старанна
Адзела, естачкі дала
І за святым сваім пайшла
У Назарэт той да ўдавіцы,
Каб дзе хоць наймічкай прасіцца.

Дзіця маленькае расло,
З Івасем удваіх гуляла.
Тым часам трохі падрасло.
Вось раз яны сабе гулялі
Удвух на вуліцы. Знайшлі
Дзве палачкі і прынеслі
Дадому мацярам на дровы.
Дзеткі звычайныя. Ідуць
І весяленькі і здаровы,
Аж люба глянуць, як ідуць.
І вось яно малое ўзяла
Другую палачку ў Івася,—
Івась гульнёю дзесь заняўся,—
Зрабіла крыжык ды нясло
Дамоў старэйшым паказаці,
Што й ён умее майстраваці.
Марыя ў сенічках здалёк
Дзяцей заўважыла і ўмлела,
Як на той крыжык паглядзела.
— Што ты зрабіў? што, мой сынок?
То чалавек ліхі знарок
Цябе навучыў, мой любы сын,
Зрабіць вось гэта... Кінь-жа, кінь.—
А ён, маленькі і нявінны,
Глядзіць і шыбенічку кінуў
Ды зарыдаў, і пацяклі
У першы раз святыя слёзы
На ўлонне матцы. Ёй, нябозе,
Нібы палегчала. Ўзяла,
У халадочак завяла
У садзік свой. Пацалавала
Ды коржыкам пачаставала,
Свяжуткім коржыкам. Яно-ж
Папесцілася, пагуляла
Ды спатанькі сабе лягло
У роднай маткі на каленях.
І спіць сабе, бы ў райскім ценю,
Пазбыўшы горачка таго.
І на адзінага свайго
Глядзіць матуля, глядзіць, плача
Ціхутка-ціха: анёл спіць,
Хоць-бы-ж яго не абудзіць,
Ды не дагледзела—няйнача
Слязы расінка, як агонь,
Упала на яго. Яно
І абудзілася. І слёзы
Марыя выцерла, смяецца,
Каб ён не бачыў. Ды, нябозе,
Ёй не ўдалося ашукаць
Малога сына. Ён зірнуў
І заплакаў.
Зарабіла,
Ці то пазычыла ўдава
Капеек колькі на буквар.
Сама-б вучыла, ды не знала-ж
Яна пісьма таго. Ўзяла
Ды ў школу хлопца адвяла
Да іасеяў. Даглядала-ж
Яго сама. Сама вучыла
Дабру і розуму. Івась
Яму пад пару быў якраз,
Удвух сабе хадзілі ў школу,
Разам вучыліся. Ніколі
Не пагуляе ён з дзяцьмі
І не пабегае ні-ні.
Адзін-аднюсенькі бывала
Засядзе ён у бур'яне
Ды клёпку чэша. Памагала
Дзіця бацькам у працы іх.
Па сёмым нейк ужо гадочку—
Малы ўжо добра майстраваў—
Адпачываючы ў куточку,
Стары на сына пазіраў.
Які то майстар з яго будзе?
Якія выйдуць з яго людзі?
Ды ўзяўшы вёдзер, міс вянок,
І бацька з маткай і сынок—
Ну, як было расстацца з ім?—
На торг пайшлі ў Ерусалім.
Хоць і далёка, дык прадаці
Дарожай можна. Бацька й маці
Сядзяць сабе ды прадаюць
Дабро сваё. А дзе-ж хлапчына?

Прапаў ён дзесь. Шукае сына
Ды плача маці—не чуваць
Яе сынка. У сінагогу
Зайшла маліць добрага бога,
Каб сын знайшоўся. Аж глядзіць—
Між рабінаў яе хлапчына,
Яе дзіцёнак той сядзіць
І навучае ён, нявінны,
Як трэба жыць, людзей любіць,
За праўду стаць, за праўду згінуць—
Без праўды гора.—Гора вам,
Настаўнікі архіерэі!—
Дзівіліся тут фарысеі
І кніжнікі яго славам.
А радасць мацеры Марыі
Не скажаш словамі. Месію,
Самога бога на зямлі
Яна ўжо бачыць.
Прадалі,
Хвалу прынеслі ў храме богу
І весяленькія ў дарогу
Дадому рушылі ўначы
Ды халадочкам.
Падрасталі,
Вучыліся разам, растучы
І гонар матчын падымалі
Святыя дзеткі іх. Са школы
Цярновым шляхам яны йшлі
Абодва. Божыя глаголы,
Святую праўду на зямлі
Яны сказалі. Распялі
За волю іх, святую волю!

Іван пайшоў у ціш пустыні,
А твой між люду. А за ім,
За сынам праведным сваім,
І ты пайшла. У той хаціне
Чужой пакінула яго
Святога Ёсіфа свайго.
Пайшла ў вандроўку па-пад тынню,
Аж покі-покі не дайшла
Аж да Галгофы.
Бо за сынам
Святая маці ўслед ішла.
І цяжкі крыж яго ўзяла
І чула, бачыла ды млела
І моўчкі радасцю гарэла,
На сына гледзячы. А ён,
Бывала, сядзе на Ілёне,
Каб адпачыць. Ерусалім
Красуе горда перад ім,
І ззяе ў залатым вісоне
Ізраільскі архіерэй!
Раманскі залаты плебей!
Гадзіна, дзве міне, не ўстане,
На матку на сваю не гляне,
Ды аж заплача, гледзячы
На іудзейскую сталіцу.
І яна плача, ідучы
У яр па воду да крыніцы,
Ціхусенька, і прынясе
Вады чысцюткай, і абмые
Стамлёныя ступні святыя,
І дасць напіцца, і страсе,
Садзьме той прах з яго хітона,
Зашые дзірачку нанова,
Пад смокву пойдзе і сядзіць
З трывогаю—о ўсесвятая!—
Што сын балесным спачывае.
Аж вось дзятва сюды бяжыць
З-пад горада—яго любілі
Малыя дзетачкі. Слядком
За ім па вуліцах хадзілі.
А іншы раз на Элеон *)
Да яго бегалі малыя.
Вось і прыбеглі.—О святыя,
Вы найбязгрэшныя!—сказаў,
Як згледзеў дзетак, прывітаў,
Цалуе іх, благаслаўляе,
Гуляе з імі, як маленькі.
Надзеў бурнус і, весяленькі,
З сваімі дзеткамі пайшоў
У Ерусалім сказаць сурова
Лукавым, грэшным праўды слова.
За тыя словы распялі...
Як распінаць яго вялі,
На скрыжаванні ты стаяла
З малымі дзецьмі. Мужыкі,
Яго браты, вучанікі
Усе ад страху паўцякалі.
— Няхай ідзе! Няхай ідзе!
Вось так і ён вас павядзе.—
Сказала дзецям і упала
На зямлю трупам.
Распялі
Тваю адзінаю дзяціну
Ты-ж, адпачыўшы дзесь пад тынам,
У Назарэт адна пайшла.
Тваю сваячку пахавалі
Ў чужой пазычанай труне
Чужыя людзі. А Іана
Яе зарэзалі ў турме.
І Ёсіфа твайго не стала,
І ты адненькай гаравала,
Адна, як палец, бо такі
Твой лёс палатаны, нябога.
Браты яго, вучанікі
Няцвёрдыя, з душой убогай—
Яны на мукі не даліся,
Схаваліся і распаўзліся.
І ты іх мусіла збіраць.
І вось яны неяк сыйшліся
З табою ўночы сумаваць.

*) У рукапісу Іліон.



І ты, вялікая ў жэнах,
Іх панылаhoudt і іх страх
Развеяла, як пацяруху,
Сваім святым натхнёным духам.
Той дух святы свой унясла
У душы іхнія. Хвала
І пахвала табе, Марыя!
Мужы узнесліся святыя,
Далёка ў свет яны пайшлі
З імем святога твайго сына,
Тваё балеснае дзяціны,
Любоў і праўду панеслі
Па свеце ўсім. А ты пад тынам,
Сумуючы, у бур'яне
Памерла з голаду. Амін.

А потым папы цябе ўзнеслі,
Адзелі ў пурпар і вянчалі,
Нібы царыцу. Распялі
Цябе, як сына. Аплявалі
Твой воблік чысты і святы,
Растлілі добрую... А ты?..
А ты як золата ў гарніле,
Ў людской душы сябе ўзнавіла,
Ў душы нявольніцкай, малой
Ў душы балеснай і жывой.

[1] Лістапада 1859.
С.-Пецербург]

## НАСЛЕДАВАННЕ ЭДУАРДУ САВЕ

Пасаджу каля хаціны
Жонцы на ўспаміны
І ябланьку, і грушаньку,
На ўспамін адзіны!

Бог дасць вырастуць. І жонка
Пад дрэвамі тымі
Сядзе сабе ў халадочку
З дзеткамі малымі.

А я буду грушы рваці,
Дзеткам падаваці...
Ды з жоначкай адзінаю
Ціха размаўляці.

— Тады, сэрца, як браліся,
Тут дрэвы садзіў я...
Я шчаслівы!—І я, дружа,
З табою шчаслівa!—

19 Лістапада [1859].
С.-Пецербург

## НАСЛЕДАВАННЕ ІЕЗЕКІІЛЮ

ГЛАВА 19

Заплач, прароча, сыне божы!
І аб князях, і аб вяльможах,
І аб царах. Нашто, скажы,
Маці-сука ваша заўзята
Са львамі бралася, шчаняты?
І здабывала вас, ліхіх?
І множыла ваш род праклятый?
А потым з вас, шчанят зубатых,
Ільвішчы сталіся! Людзей!
Нязлосных праведных дзяцей,
Жрыцё, як гады!.. Бы каршун
Хапае на двары курча,

Клюе, ірве яго. А людзі...
Хоць бачаць людзі, ды маўчаць.
Дык вось львічонка дзікім, лютым
Падпільнавалі, ды ўзялі,
Ды закаваўшы добра ў путы
Ў Егіпет людзі адвялі—
На катаргу. А злая маці!
Спусціла зноўку вар'явацца
Другога лютага звяра.
Ды ўжо такога ўладара,
Што ўсё на свеце пажырала.
Зямля гудзела і дрыжала
Ад рову львінага твайго.
Закулі людзі і таго,
Яго надзейна зацуглілі,
І ў Вавілоне пасадзілі
Ў турме глыбокай. Каб не чуць
Было на свеце болей рыку
Самаўладарнага ўладыкі,
Цара пражэрнага...
Мінуць,
Ужо з часамі і мінаюць
Беспраўя дні, часіны зла.
А львы таго яшчэ не знаюць,
Растуць сабе, нібы лаза
Дзе на лугу. Надзею маюць
На корань свой, ужо гнілы,
Ужо чарвівы, і малы
Ды худасочны. Вецер з поля
Паломіць вас ён, малады,
І ваша злое сваяволле
Само скупаецца тады
Ў сваёй крыві. Плач вялікі
Замест львінага ўжо рыку
Пачуюць людзі. І той плач
Нікчэмны, доўгі і паганы
Паміж людзьмі паданнем стане,
Самаўладарны, гэты плач!

Снежня 6 [1859
С. Пецербург]

---

## ОСІІ. ГЛАВА XIV

НАСЛЕДАВАННЕ

Загінеш, згінеш, Украіна,
Не стане знаку на зямлі!
Ты-ж ганарылася калісь
Ў дабры, раскошы! Украіна!
Мой любы краю непавінны!
За што цябе гасподзь скараў,
Карае цяжка? За Багдана,
Ды за скажонага Пятра,
Ды за паноў вось тых паганых
Дашчэнту нішчыць... Пакараў,
Заб'е нябачна. І праўдзіва!
Бо доўга ён доўгацярплівы
Ўглядаўся моўчкі на тваю,
Грахоўную тваю утробу,
І мовіў злосна:—Загублю
Тваю красу, тваю аздобу,
Сама ты разапнешся. Ў злобе
Сыны твае цябе заб'юць,
Што падраслі, а злопачатым
У чрэве згінуць, прападуць,
Як неданоскі кураняты!..
Пашлю шмат матчынага плачу
Па гарадах і па палях,
Хай бачыць ў погані зямля,
Што я ўладар і я ўсё бачу.—
Ускрэсні, мама! І вярніся
Ў святліцу-хату, адпачынь,
Сябе занадта ты стаміла,
Грахі сыноўі несучы.
Спачыўшы, сумная, скажы
І дзецям хітрым дай параду,
Што ўсім загінуць ім ліхім,
Што бессумленне іх і здрада,
І крывадушша—ўсё агнём,
Крывавым, полымным мячом
Нарэзаны ў людзей на душах,
І ка́ра прыдзе неўсыпушчай,
Што не ратуе і добры цар,
Іх сціплы, п'яны гаспадар.
Не дасць ім піць, не дасць ім есці,

Каня, каб без сядла вам сесці
Ды уцякаць; не уцячы
І не схавацца; бо усюды
Вас знойдзе праўда-помста, людзі-ж
Вас будуць добра сцерагчы,
Спаймаюць і судзіць не будуць,
Ў кайданы моцна закуюць
Ў сяло на паказ прывядуць
І на крыжы вось там без ката
І без цара вас, вар'яватых,
Парвуць, скрамсаюць, разапнуць.
І вашаю крывёй, сабакі,
Сабак напояць...

І дадай,
Такое слова ім дадай,
Ім проста выскажы; зрабілі,
Рукамі бруднымі стварылі
Сваю надзею; усяляк
Цара хваліўшы: бог, надзея
І ён накорміць і сагрэе
Ўдаву, сіротак; не, не так!
Скажы ім вось што: брэшуць богі,
Ды ідалы ў чужых чартогах,
Скажы, што праўда аджыве,
Прамчыць, пакліча, пазаве
Не даўняе, старое слова
Збуцвелае, а словам новым
Над светам крыкам пранясе,
І людзі збавяцца усе
Ад ласкі царскае...

25 Снежня 1859 г.
[С.-Пецербург]

---

* * *

Дзяўчыначка чорнаброўка
Несла з склепу піва.
А я глянуў, падзівіўся...
Ды аж пахіліўся...
Каму яна піва носіць?
Чаму босай ходзіць?..
Божа моцны! Твая сіла
Ды табе-ж і шкодзіць.

[15 Снежня 1860.
С. П. Б.]

---

* * *

Ой дуброва—цёмны гаю!
Цябе апранае
На год тройчы... Багатага
Сабе бацьку маеш.
Раз накрые цябе пышна
Зялёным пакровам,—
Аж сам вельмі заглядае
На сваю дуброву...
Наглядзіцца на дачушку
Ён на маладую,
Возьме яе дый агорне
Ў рызу залатую.
І прыберыць бялюткаю
Сукняй дарагою,—
Дый спаць ляжа, стаміўшыся
Турботай такою.

15 Снежня 1860.
С. П. Б.

---

## НАСЛЕДАВАННЕ СЕРБСКАМУ

Як наехалі сваты,
Малады за імі:
І пайшлі, і сталі ў хаце
З бацькам размаўляці;
А я ў яго, маладога,
Таго чорнаброўца,
Бяру каня, дый нічога—
Вяду да крыніцы.
Конік стомлены, знябыты,
Капыты разбіты,
Вышыванае сядзельца
Сапсута, раскрыта.

— Скажы, конік, да каго так
Шпарка вы скакалі?—
— Ды да нейкай чорнаброўкі
Усю ноч імчалі.—
— Ці ты-ж, коню, будзеш піці
З нашае крыніцы?
— А ці будзе чорнаброўка
Хутка маладзіцай?—

4 Мая 1860.
С.П.Б.

---

## МАЛІТВА

Царам, сусветным шынкарам,
І дукаты, і таляры,
І кайданы для рук пайшлі.

Рабочым галавам, рукам,
На абрабованай зямлі
Сваю ты сілу-моц пашлі!

А мне-ж, мой божа, на зямлі
Падай любоў, для сэрца рай!
І больш нічога не давай!

24 Мая [1]860. С.П.Б.

Цароў, крывавых шынкароў,
У кайданы як след закуй,
У склеп глыбокі замуруй.

---

Працоўным людзям, божа мой,
На іх абкрадзенай зямлі
Сваю ты сілу-моц пашлі.

---

А чыстых сэрцам—каля іх
Пастаў ты ангелаў сваіх,
Каб чыстату іх бераглі.

---

А мне, о божа мой, падай
Любіці праўду на зямлі
І друга шчырага пашлі!

25 Мая [1860. С.П.Б.]

Злопачынальнікаў спыні,
У ланцугі ты лепш не куй,
У склеп глыбокі не муруй.

---

Дабростваруючым рукам
І пакажы, і памажы,
Святую сілу-моц пашлі.

---

А чыстых сэрцам?—Каля іх
Пастаў ты ангелаў сваіх
І чыстату іх зберажы.

---

А ўсіх нас разам на зямлі
Адзінай думкаю з'яднай
І браталюбства нам пашлі.

27 Мая [1860. С.П.Б.]

Ненаедным вачам,
Царам, земным багам,
І плугі й караблі,
І ўсе скарбы зямлі
І хваленыя псалмы—
Тым драбнюткім багам.

---

Працавітым плячам,
Працавітым рукам
Пералогі араць,



Сеяць, што ім чакаць,
Што засеяна жаць
Працавітым рукам.

---

Добрым сэрцам малым,
Ціхалюбцам-святым,
Творца неба й зямлі!
Многа веку для іх
Тут на свеце; на тым...
Рай нябесны пашлі.

---

Ўсё на свеце—не нам,
Ўсё багам, тым царам!
І плугі й караблі,
І ўсе скарбы зямлі,
Мае родныя!.. Нам—
Нам любоў між людзьмі.

31 Мая [1860]. С.П.Б.

---

* * *

На думкі мне ў той час з'явіўся
Пампілій Нума, рымскі цар.
Спакойны, ціхі валадар,
Законы пішучы, стаміўся.
Ён вышаў крышку пагуляць
І адпачыць. Адпачываўшы
Дадумаць як-бы так скаваць
Ланцуг на рымлян. І узяўшы
Пруточак гнуткае лазы,
Абручык ён пачаў плясці
На шыю быццам. Потым гляне.
У халадочку пад платанам
Дзяўчо расквечанае спіць...
Дрыадам нечага рабіць
Перад вялікаю красою,
Перад багіняю такою!
Сама Егорыя ў гаю,
Пракляўшы доленьку сваю,
Павесілася. Мудры-ж Нума
На прыгажосць, што не знайсці,
Глядзіць, гадуе моўчкі думу:
Які-б ланцуг яшчэ сплясці?

28 Мая [1860].
С.-Пецербург

---

## ПЛАЧ ЯРАСЛАЎНЫ

Ў Пуціўлі градзе ранкам рана
Спявае-плача Яраслаўна,
Нібы зязюленька куе,
І слоўмі жалю дадае.
— Палячу,—кажа,—зігзіцаю,
Ды той-жа чайкай-удавіцаю,
Ды па-над Донам палячу,
Рукаў бабровы абмачу
Ў рацэ Каяле. І на целе
Князёвым, белым памарнелым
Абмыю кроў я, абатру
Глыбокія, цяжкія раны...

Галосіць-плача Яраслаўна
Ў Пуціўлі рана на валу:
— Вятрыла-вецер мой адзіны!
Крылаты, лёгкі гаспадзіне!
Нашто на крыллях, на сваіх,
На любых воінаў маіх
На князя сэрца, ашалелы

Ты ханскія кідаеш стрэлы?
Не мала неба і зямлі,
І мора сіняга. На моры
Гайдай насады-караблі.
А ты, найлюты... Гора! Гора!
Ты весялосць маю украў,
Ды сярод стэпу раскідаў.

Сумуе, стогне, плача рана
Ў Пуціўлі градзе Яраслаўна.
І кажа:—Дужы і стары,
Дняпро шырокі, не малы!
Прабіў высокія ты скалы,
Ў зямлю імкнуўшы палаўчанаў,
Насіў-жа ты на байдаках
На палаўчан, на Кабяка
Дружыну тую Светаслаўлю!..
О мой Славуцічу найслаўны!
Майго ты князя прынясі,
Каб я пасцель вясёла слала,
У мора слёз не пасылала,—
Бо слёзмі мора не даліць.

І плача, плача Яраслаўна
Ў Пуціўлі на валу, на браме.
Святое сонейка ўзышло.
І кажа:—Сонца прасвятое
Ты радасць для зямлі дало
І людзям, і зямлі, цяжкое
Маёй нуды не развяло.
Святы, агністы гаспадзіне!
Спаліў ты стэпы і лугі,
Спаліў і князя і дружыну,
Спалі й мяне ты найхутчэй!
Ці не свяці ты і не грэй...
Загінуў любы... Я загіну!

4 Чэрвеня [1860].
С.П.Б.

З надсвітання да вечару,
А з вечару да досвіта
Ляціць страла калёная,
Бражджыць шабля аб шаломы,
Трашчаць пікі гартаваны
Ў стэпу, ў незнаёмым полі
Пасярод зямлі Палавецкае.
А зямля скрозь капытамі
Паарана, парытая;
Касцьмі зямля засеена,
А крывёю палітая.
І журба-туга на тым полі
Сышла для Рускае зямлі.

Што гамоніць вось там, гудзе
Наддосвіткам? То павяртае
Той Ігар войска на прыгоду
Таму буй-туру Всеваладу.

Біліся дзень,
І другі біліся,
Ды каля поўдню ўжо на трэці
Паніклі Ігаравы сцягі.
Браты на беразе Каялы
Там разыйшліся, бо не стала
Крыві-віна!.. Дапіравалі
Русічы храбрыя той пір,
Сватоў упаілі,
А самі палеглі там
За землю Рускую. З напасці
Трава заплакала журбой;
Паніклі дрэвы галавой...
Дадолу гнуліся ў няшчасці!

6 Ліпеня [1860.
С.-Пецербург]

Ў Пуціўлі градзе ранкам рана
Сумуе, плача Яраслаўна:
— Палячу,—кажа,—зязюляю,
Па-над Дунаем палячу!
Рукаў бабровы абмачу
Ў рацэ Каяле... І абмыю
На князевым дзябёлым целе
Кроў ссохлую яго... Сатру
Глыбокія на любым, родным раны.—

І плача, плача Яраслаўна
Ў Пуціўлі горадзе.
І кажа:
— Вятрыла-вецер, гаспадзіне!
Нашто ты вееш і нясеш
На лёгкіх ты, на сваіх крыллях
Ханскія стрэлы?

14 Верасня [1860.
С.-Пецербург]



* * *

Памёр муж велі ў власяніцы.
Не плачце, сіраты, ўдавіцы!
А ты, Аскочэнскі, заплач
Уранні ты ў журботны час.
І Хамякоў Русі адданы
Ў Маскву, айчыну закаханы,
Па змагару спадніц заплач!

І ўся, о! Русская Беседа!
Адзіным голасам паведай
Свае грахі.
І плач! І плач!

17 Чэрвеня [1860.
С.-Пецербург]

---

## ГІМН МАНАШАК

Грымні, гром, над гэтым домам,
Па-над божым, дзе пампром мы,
Цябе-ж, божа, зневажаем,
Зневажаючы спяваем
Алілуя!

Каб не ты, дык мы-б любілі,
Кахаліся-б ды дружылі,
Ды дзетачак гадавалі,
Навучалі-б ды спявалі
Алілуя!

Абдурыў ты нас няшчасных,
Мы-ж, абкрадзены дачасна,
Самі цябе абдурылі
І прарэзліва забылі
Алілуя!

Ты ў манашкі пастрыгаеш,
Маладзіцы мы, ты знаеш...
То танцуем, то спяваем,
Спяваючы прымаўляем
Алілуя!

20 Чэрвеня [1860.
С.-Пецербург]

---

* * *

Над Дняпроўскаю вадою
Стаіць явар між лазою,
Між лазою з ялінаю,
З чырвонаю калінаю.

Дняпро бераг рые-рые,
Ды явараў корань мые.
Стаіць стары, пахіліўся,
Як казак той зажурыўся,

Што без долі, без радзіны,
І без жонкі ён, адзіны,
І без жонкі, без надзеі
Ў адзіноце пасівее!

Явар кажа: пахілюся,
У Дняпры вады нап'юся.
Казак кажа: пагуляю,
Ды дзяўчыну пашукаю.

А каліна з ялінаю,
Ды гнуткаю лазінаю,
Як дзяўчаткі тыя з гаю
Павыходзіўшы спяваюць;

Паўбіраныя выходзяць
З добрай доляю у згодзе.
Думкі сумнае не маюць,
Гнуцца-ўюцца ды спяваюць.

24 Чэрвеня [1860.
С.-Пецербург]



* * *

Праслі мы разам, узраслі;
Гуляць, смяяцца перасталі,
Як быццам, хто куды, пайшлі!..
Сыйшліся ўдвох, да шлюбу сталі;
І ціха, радасна прышлі
З душою, сэрцам непавінным,
Ажно да самай дамавіны...
А між людзьмі-ж яны жылі!

Падай-жа й нам, вялікі божа!
Вось так цвісці, вось так расці,
Пабрацца гэтак і ісці,
Без лаянкі ў цяжкой дарозе,
На той свет ціхі перайсці,
Не з плачам, енкам, не з літанием,
Са згодай вечнага кахання
На той свет ціхі нам прыйсці.

25 Чэрвеня [1860
С.-Пецербург]

* * *

Свеце ясны! свеце ціхі!
Свеце вольны, неспавіты!
За што-ж цябе, свеце-браце,
Ў сваёй добрай, цёплай хаце
Закулі, замуравалі
(Прасвятога ашукалі),
Баграніцамі закрылі
І распяццямі дабілі?

Не дабілі! Схамяніся!
Ды над намі засвяціся,
Засвяціся!.. Будзем, браце,
З баграніц анучы драці,
З кадзіл люлькі прыпаляці,
Я ў л е н н ы м і печ паліці,
А крапідлам будзем, браце,
Ў новай хаце вымятаці!

27 Чэрвеня [1860.
С.-Пецербург]

## ЛУКЕРІ

*На памяць 5 Жніўня 1860 г.*

Мая ты любая! Мой дружа!
Няма нам веры без крыжоў,
Няма нам веры без папоў,
Рабам, нявольнікам нядужым!
Заснулі, што свіння у лужы,
Ў сваёй няволі!! Мой ты дружа,
Грудзей ніколі не жагнай,
Малітве воч не уздымай
Ніколі ў свеце. Збрэшуць людзі,
І візанційскі Саваоф
Абдурыць! Не абдурыць бог,—
Караць і мілаваць не будзе:
Мы не рабы яго—мы людзі!
Пра гэта, любая, ты знай!
Душу ты-ж вольную, святую,
Руку, мой дружа, дарагую
Ты мне аддай! Дык перайсці
І ён пасобіць лужу тую,
Пасобіць ліха абыйсці,
І не узняцца ліху болей
У хаце ціхай і вясёлай.

5 Жніўня [1860].
Стрэльна

## Н. Я. МАКАРАВУ

***На памяць 14 Верасня***

Барвінак цвіў і зелянеў,
Слаўся, расцілаўся;
Ды марозік на світанні
Ў садочак украўся.

Патаптаў жывыя краскі,
Пабіў... Памарозіў...
Шкода таго барвіначку,
І марозу шкода!

14 Верасня [1860.
С.-Пецербург]

* * *

І Архімед, і Галілей
Віна й не бачылі. Алей
Манахі ў чэрава загналі.
А вы прадцечамі усталі
Па цэлым свеце, вы пайшлі
І крошку хлеба узялі
Царам убогім. Будзе біта
Царамі сеянае жыта!
А людзі вырастуць. Памруць
І незачатыя цараты...
І на абноўленай зямлі
Не будзе гáда, супастата,
А будзе сын, і будзе маці,
І будуць людзі на зямлі.

24 Верасня [1860.
С.-Пецербург]

## Л.

Пастаўлю хату і пакоік,
Садок-раёчак насаджу.
Я пасяджу і пахаджу
Ў сваім прытулку у спакоі,
У цішыні прылягу сам,
Ў садочку буду спачываці.
І дзеткі мне прысняцца там,
Вясёлая прысніцца маці,
І сон сасніцца мне парой
Здавён-даўнейшы!.. Можа й ты!..
Не, я не буду спачываці,
Бо й ты прыснішся! І ў пакой,
Раёчак мой ціхутка ціха
Увойдзеш ты, наробіш ліха...
Запаліш рай спакойны мой.

27 Верасня [1860.
С.-Пецербург]



* * *

Не наракаю я на бога,
Не наракаю ні на кога,
Я сам сябе, дурны, дуру.
Яшчэ й спяваючы. Ару
Я свой аблог—благую ніву!
Ды сею слова. І ўрадліва
Жніво там будзе. І дуру!
Сябе тут я, сябе самога,
А болей, ведама, нікога?

Арыся-ж ты, мая ніва,
Долам і гарою!
Засявайся, мая ніва,
Воляй удалою,
Арыся-ж ты, разгарніся,
Полем пасцяліся!
Ды засейся добрым жытам,
Доляю палійся!
Разгарніся навакол ты,
Ніва-дзесяціна!
Ды не словамі пасейся,
А розумам, ніва!
Выйдуць людзі жыта жаці..
Вясёлае жніва!..
Разгарніся-ж, уздыміся-ж,
Бедная ты ніва!!!

Ці не дуру сябе нанова
Сваім узлётным добрым словам?
Дуру! Бо лепей абдурыць
Сябе ізноў, сябе самога,
Чым з ворагам па-праўдзе жыць,
І дарма наракаць на бога!

5 Кастрычніка [1860.
С.-Пецербург]

---

## САУЛ

У неразбуджаным Кітаі,
Ў Егіпце, цёмным, тут у нас,
І па-над Індам і Евфратам
Сваіх ягнятак і цялятак
Чабан на полі вольным пас.
Нібы ў раю ён пражывае,
Жыве і клопату не мае,
Пасе, і доіць, і стрыжэ
Сваю жывёлу ды спявае...
Аж на бяду цара нясе
З законам, з катамі, князямі,
Мячом і цёмнымі рабамі
Уночы падпаўзлі, забралі
Атары з поля, з пастухамі,
З іх невялічкімі шатрамі,
І ўсё дабро, дзяцей малых,
Сясцёр, жанок, усё забралі,
Пагвалтавалі, паглумілі.
Пасля знямслаўленых, без сілы,
Пакутных сэрцамі паслалі
На працу-катаргу. Міналі
За днямі дні. Рабы маўчалі,
Цары лупіліся, раслі
І Вавілоны муравалі.
А магі, бонзы і жрацы
(Як тут свяшчэнныя айцы)
Так жываты разгадавалі,
Як кабаны царам на сала
Ды на каўбасы. І цары
Сабе усюды збудавалі
Кумірні, цэрквы, алтары.
Рабы галовы там схілялі.
Яўрэям ў зайздрасць тады стала,
Што й невялічкага цара
І з кізяка хоць алтара
У іх няма. І папрасілі
Яны старога Самуіла,
Каб ён дзе хоча, там і ўзяў,
А даў-бы ім, стары, цара.
Дык вось той мудры празарлівец,
Памеркаваўшы, ўзяў алей,
Ды ўзяў ад коз і ад свіней
Таго Саула здаравілу,
І ім памазаў на цара.
Саул, не б у д у ч ы д у р н ы м,
Сабраў гарэм сабе нямалы,
Царыць пачаў над людам тым.
Дзівіліся ды паглядалі

На навабранца чабаны
Ды гаварылі,—што й яны
Зусім не дурні.— Бач якога
Сабе мы выпрасілі ў бога
Цара ўладарыць!—А Саул
Бярэ і горад, і аул,
Бярэ дзяўчыну і казліцу,
Будуе з кедру ён святліцы,
Прастол ён з золата куе,
І ласкі многа аддае
Сваім усепадданым, голым.
Ды у парфіры даўгаполай
Па храму ўсё хадзіў, глядзеў,
Пакуль аж, лобам нешырокі,
Сярод гарэму адзінокі,
Саул зусім не адурнеў.

Сышлася неўзабаве рада:
—Паслухай, слаўная грамада!
Што нам рабіць? Наш мудры цар,
Наш самаўладца-валадар,
Узяў ды адурнеў. Панове!
Ці нам лякарствам пасабіць?
Ці лепш узяцца ды зрабіць
Цара здаровага?—Па ўмове,
Па мудрым слове ўсе пайшлі
Засмуткаваўшы.
А ў кедровай
Святліцы новай цар не спіць,
Не есць, не п'е, усё маўчыць.
Парфіру ён з плячэй здымае
Ды на анучы шкуматае,
Нібы сам лапці ён пляце,
Аборы ладзіць, абувае
Ды ў кедравых, прыгожых сцен,
Асёл, дзе бацькаў ён пытае;
Ды возьме скіпетр і заграе,
Як на жалейцы.
Чабаны,
Веніямінавы ўнучаты,
Прынеслі і цяля яшчэ,
Каб ім дазволілі спяваці
У сенях царскіх. Зараўла
Пузатая і загула
Калматая радня Саула,
І гусляра 'шчэ прывяла,
Аднекуль чабана Давіда.
—І выйдзе цар Саул, і выйдзе,—
Чабан спявае,—на вайну...—
Саул ачухаўся, дый ну,
Як той маскаль, у бацьку, ў маці
Ён па радні сваёй калматай
І ўдоўж, і ўпоперак хрысціць.
А гусляра таго Давіда
Ледзь не забіў. А каб ён знаў,
Якое ліха з яго выйдзе,
З таго хітрушчага Давіда,
То як звяра-б ён разарваў,
Каб век больш не узняўся звер,
Не рваў зубамі. А цяпер
Сахой, плугамі не абворым
Благое нівы: прарасла
Калючым цернем. Гора! Гора!
Драбнеюць людзі на зямлі,
Растуць і высяцца цары!

13 Кастрычніка [1860.
С.-Пецербург]

---

* * *

Дні маладосці прамінулі,
І ад надзей усіх падзьмулі
Вятры халодныя. Зіма!
Адзін сядзі ў халоднай хаце—
Няма з кім ціха размаўляці,
Ані парадзіцца. Няма
Анікагусенькі.—Няма!
Сядзі-ж адзін, пакуль надзея
Абдурыць дурня, абсмяе...
Марозам вочы закуе,
А думы гордыя развее,
Нібы сняжынку па стэпу!
Сядзі-ж адзін сабе ў кутку.
І не чакай-жа вясны-долі!
Яна не ўзыйдзе ўжо ніколі
Садочак твой пазеляніць,
Тваю надзею абнавіць!
І думу вольную на волю
Не прыдзе выпусціць... І знай—
Што больш нічога не чакай!

18 Кастрычніка [1860.
С.-Пецербург]



* * *

Ктытароўна-Неміроўна
Мярэжыць хусціну,
Ды калыша маскоўчыка,
Маленькага сына.

Ктытароўна-Неміроўна
Людзьмі пагарджала...
Маскаля, ды прайдзісвета
Потайкам вітала!

Ктытароўна-Неміроўна...
Пачэснага роду...
Выглядае прайдзісвета
Юнкера з паходу.

19 Кастрычніка [1860.
С.-Пецербург]

* * *

Хаця ляжачага й не б'юць,
Ды і прылегчы не даюць
Няшчаснаму. Цябе-ж, о Сука!!
І самі мы, і нашы ўнукі,
На свет ўвесь людзі праклянуць!
Не праклянуць, а толькі плюнуць
На тых аддоеных шчанят,
Што ты шчаніла. Мука! Мука!
О смутак мой, мая журба!
Ці ты мінеш калі? Ці псамі
Цары з міністрамі-рабамі
Цябе такую зацкуюць!
Не зацкуюць. А людзі ціха
Без жаднага ліхога ліха
Цара да ка́та павядуць.

20 Кастрычніка [1860.
С.-Пецербург]

* * *

І тут, і ўсюды—скрозь пагана.
Душа, прачнулася ты рана,
Напрала мала, дый лягла
Адпачываць сабе паволі.
А воля душу сцерагла.
— Устань ты,—кажа.—Плач аб долі!
На сонца хмары наплылі,
Няма і праўды на зямлі!
І тая воля абдурыла
Душу малую. Сонца йдзе
І за сабою дзень вядзе,
І тыя ўжо хрыбетнай сілы,
Ужо хістаюцца цары...
І будзе праўда на зямлі.

30 Кастрычніка [1860.
С.-Пецербург]



* * *

О людзі! людзі-небаракі!
Нашто здаліся вам цары?
Нашто здаліся вам псары?
Бо вы ўсё-ж людзі, не сабакі!

Слізгота ноччу і туман,
І снег, і холад. І Нева
Кудысьці несла ціхатой
Малую крыгу дзесь пад мостам.
А я, таксама уначы,
Іду ды кашляю йдучы,
Гляджу: няйначай як ягняты,
Ідуць абдзёртыя дзяўчаты,
А дзед (няшчасны інвалід)
За імі гнецца, кандыбае,
Бы ў хлеў, чужую заганяе
Жывёлу ён. А дзе-ж той свет!?
Дзе тая праўда!? Гора! Гора!
Неўзгадаваных, босых, голых
Іх шлюць (последний долг отдать.)
Да матак гоняць іх, дзяўчат
Байстручанят, нібы атару.
Ці будзе суд! Ці будзе кара!
Царам, царатам на зямлі?
Ці будзе праўда між людзьмі?
Павінна быць, бо сонца ў стане
Зямлю у погані спаліць.

3 Лістапада [1860.
С.-Пецербург]

---

* * *

Калі-б з кім сесці, хлеба з'есці,
Прамовіць слова, дык яно-б
Хоць і як-небудзь тут на свеце,
А неяк-бы жыццё ішло.
Ды не! Няма з кім! Свет шырокі,
Людзей нямала на зямлі...
А давядзецца адзінокім
Ў халоднай хаце крывабокай
Або пад плотам паміраць.
Або... Не! Трэба ажаніцца,
Хоць-бы ўжо з чортавай сястрой!
Бо адурнееш сіратой
Адзін адным. Пшаніца-ж, жыта
На добры сеяны загон,
Пажнуць-жа людзі. Скажуць:—Ён
Як быццам недзе там забіты
У незнаёмай старане...—
О гора, горачка ў мяне!

4 Лістапада [1860.
С.-Пецербург]

---

* * *

І дзень ідзе, і ноч ідзе.
І галаву схапіўшы ў рукі,
Здзіўляешся, чаму не йдзе
Апостал праўды і навукі!

5 Лістапада [1860.
С.-Пецербург]

---



* * *

Цячэ вада з-пад явара
Логам на даліну.
Ганарыцца над вадою
Чырвона каліна.
Ганарыцца каліначка,
Явар маладзее,
А вакол іх вербалозы
Й лозы зелянеюць.

---

Цячэ вада ды з-за гаю
Блізка пад гарою.
Качанятачкі хлюпочуць
Паміж асакою.
А качачка выплывае
З качурам за імі,
Ловіць траўку, размаўляе
З дзеткамі сваімі.

---

Цячэ вада ў агародзе,
Вада ставам стала.
Прышла дзеўка ваду браці,
Брала, заспявала.
Вышлі з хаты бацька й маці
Ў садок пагуляці,
Параіцца, а каго-б ім
Сваім зяцям зваці?

7 Лістапада [1860.
С.-Пецербург]

---

* * *

Аднойчы я іду ўначы
Па-над Нявою. Ды йдучы
Мяркую сам сабе з сабою:
— Як-бы то, думаю... як-бы
Не пахіліліся рабы,
Дык не стаяла-б над Нявою
Палацаў тых паганых шмат!
Была-б сястра, і быў-бы брат!
А то... няма цяпер нічога...
Ні бога нават, ні поўбога...
Царуе шмат псароў, псарат.
Мы даглядаем род сабачы,
Хартоў гадуем мы ды плачам.—
Дык вось, як бачыце, ўначы,
Па-над Нявою ідучы,
Я добра думаў. І не бачу,
Што насупроць, як быццам з ямы,
Вачыма лупае кацё:
Нібы два ліхтары тараць
Каля апостальскае брамы.—
Я схамянуўся й паглядаў,
Перахрысціўся, тройчы плюнуў,
Дый зноўку думаць я пачаў
Пра тое-ж ўсё, што й раней думаў.

13 Лістапада [1860.
С.-Пецербург]

---

* * *

Бывалі войны й вайсковыя сваркі:
Галагані, і Кіселі, і Качубеі-Нагаі,
Было дабра таго нямала.
Мінула ўсё, ды не прапала,—
Яшчэ ёсць шашалі: грызуць,
Жаруць кару старога дуба...
А ад карэння ціха, люба
Угору парасткі растуць.
І вырастуць са ўсіх старон;
І без сякеры загудзе,

Казак бязверхі упадзе,
Парве парфіру, струшчыць трон,
І вашага куміра ён
Задушыць, шашалі. Дзядзькі
І нянькі краю вы чужога!
Не стане ідала святога,
І вас не стане—быльнякі
Ды крапіва—а больш нічога
Не вырасце над вашым трупам.
І стане купаю на купе
Смярдзючы гной—ды пакрысе
Ўсё гэта вецер разнясе,
А мы памолімася богу,
Мы бедныя, ў жыцці убогім...

26 Лістапада [1860.
С.-Пецербург]

---

## Н. Т.

Кума, пакутная без краю!
Ты неразумная! дурная!
Ў раі вясёлым узрасла,
Ружовым цветам адцвіла,
І раю добрага не знала,
Не бачыла, бо не жадала
Ты паглядзець на божы дзень,
На ясны дзень жыццё імкнучы!
Сляпой была ты, невідучай,
Спакойнай сэрцам; спала дзень,
І спала ноч, як больш не трэба,
А навакол усё расло
І расцвітала, і на неба
Хвалу стварыцелю нясло.
А ты, кума, ўсё спала, спала,
Ды з гонарам ты паглядала,
Чакала доўга жаніха,
Усё цнатліваю хадзіла,
Ды страх баялася граха,
Спакусы цяжкае. А сіла
Сатурнава ідзе ды йдзе,
І трэх твой праведны пляце,
Ў сівыя косы заплятае.
А ты нібы не заўважаеш:
Чакаеш, молішся ды спіш,
Ды мацер божую гнявіш
Сваёй спакойнасцю лукавай.
Прачніся, сэрца абудзі,
Ды навакол ты паглядзі,
І на дзявоцкую плюнь славу,
Ды шчырым сэрцам нелукавым
Хоць раз, а кумка, саблудзі.

2 Снежня [1860.
С.-Пецербург]

---

* * *

Сышліся, сэрцы паядналі,
Памаладзелі, падраслі;
Гаёк, садочак развялі
Вакол хаціны. Красавалі
Мы, што князі. Дзяцей гайдалі;
Яны-ж раслі, ды вырасталі...
Дзяўчатак маскалі укралі,
А хлопцаў ў маскалі забралі.
А мы як хто куды пайшлі,
Нібы жыцця і не ядналі.

5 Снежня [1860.
С.-Пецербург]

---

## Н. Т.

Кума мая і я
У Петраполіскім лабірынце
Блукалі мы—і цьма і цьма...
«Хадзем, кума, у піраміду—
Запалім светач».—І зайшлі,
 Алей і міро прыняслі,
 І акуратны жрэц Ізіды,
Чарнявы кавалер устаў,
Далонь ён сціпленька узняў,
І хор услед таму лакею,
Ці то жрацу:—Ва Іудэі
Бысць цар Саул.—А потым
Раўнуў з Бартнянскага:—Журбота!
Журба мая! Журба без меры!..

[1860.
С.-Пецербург]

* * *

Ці не пакінуць нам, нябога,
Суседка, дружа мой убогі,
Нам гэты вершы вершаваць,
Ды лепш узяцца ладаваць
Вазы ў далёкую дарогу?—
Дый будзе з нас!—Хадзем-жа спаць,
Мы паспяшаем спачываць...
Свае мы сілы падтапталі,
І досыць розуму сабралі,—
Дый будзе з нас!—Хадзем-жа спаць,
Хадзем-жа ў х а т у спачываць...
Вясёла ў хаце той, каб знала!..

 Ой не пойдзем мы, не пойдзем,
 Рана, дружа, рана;
 Ды пабродзім, мы паходзім—
 На с в е т г э т ы глянем!
 Паглядзім-жа, мая доля...
 Глянь, які шырокі,
 І шырокі, ды вясёлы,
 Ясны, ды глыбокі...
 Дай паходзім, мая зорка!
 Узыйдзем на горку—
 Адпачнем там... А тым часам
 Твае сёстры-зоркі.
 Адвечныя, па-над небам
 Паплывуць, заззяюць...
 Пачакай, мая сястрыца,
 Жоначка святая!
 Ды вуснамі бязгрэшнымі
 Памолімся богу,
 Ды і пойдзем ціхусенька
 Ў дальнюю дарогу...
 Над той Летай бяздоннаю,
 Мутнаю такою,
 Блаславі мяне ты, дружа,
 Славаю святою!..

Ці тое, ці другое сёння,
Давай да Эскулапа йдзем.
У падарунак пабрыдзем—
Ці не абдурыць ён Харона
І Парку-пралку?.. І тады,
Пакуль мудрыў-бы дзед гады,
Мы-б эпапею ўдвох з табою
Пісалі, луналі-б над зямлёю—
Ды ўсё-б гекзаметры плялі,
Ды на гару мы-б адняслі
Мышам на снеданне... А потым
Спявалі-б прозу—ды па нотах,
А не як-небудзь...
 Дружа мой
З душой вялікаю, святой!
Пакуль агонь не агарнуў,
Хадзем-жа лепей да Харона—
 Цераз Лету бяздонную,
 Мутную такую
 Пераплывем, перанясем
 І славу святую—
 Адвечную—маладую...
 Альбо—цур ёй, дружа!
 Без яе мо' абыйдуся—
 Ды як буду дужым,
 Дык над самым Флегетонам,
Альбо над Сціксам, у раю,
Як быццам над Дняпром шырокім,
Ў гаю—прадвечным тым гаю,
Пастаўлю хатачку,—садочак
Крутом хаціны насаджу:
І прыдзеш ты у халадочак,
Цябе, як кралю, пасаджу:
Дняпро, Украйну, прыгадаем,
Шмат сёл вясёлых у гаях,
Магілы-горы у стэпах—
Ды і вясёла заспяваем...

14—? Лютага 1861.
[С.-Пецербург]

## *ЗАЎВАГІ*

Каб зрабіць пераклады твораў вялікага украінскага пісьменніка цалкам даступнымі чытачам, незнаёмым, магчыма, з некаторымі словамі, гістарычнымі імёнамі і геаграфічнымі назвамі,—рэдакцыя палічыла патрэбным даць да іх некаторыя тлумачэнні. Аднак, каб не загружаць тэкста рознымі заўвагамі, мы вынеслі іх у канец кнігі, размясціўшы ў алфавітным парадку і абмежаваўшыся самымі кароткімі тлумачэннямі таго ці іншага слова.

Заўвагі да таго ці іншага месца ў творы або да таго ці іншага слова, зробленыя самім Шэўчэнкам, мы бралі ў кавычкі і заўсёды зазначалі аб гэтым або памячалі ініцыяламі «Т. Ш.».

Рэдакцыя

### А

Аарон—біблейскі прарок.

Авіньён—горад у Францыі; служыў некаторы час месцам прабывання пап; з 1394 года там сядзеў папа Бенедыкт XIII.

Агаранская зямля—магаметанская, турэцкая зямля.

Алах—магаметанская назва бога.

Алілуя—славахваленне богу.

Альбана—горад непадалёку ад Рыма.

Альта—рэчка, якая ўпадае ў Трубайлу (прыток Дняпра).

Аляксей—рускі цар Аляксей Міхайлавіч.

Амофар—часціна архірэйскага адзення.

Амфорда—рымская пасудзіна з двума вушкамі для віна, вады і інш.

Анафан—прарок часоў Давіда; ён дакараў Давіда за смерць Гурыя; у знак каяння Давід напісаў псалом «Памілуй мяне, божа».

Антыпа́пы—тры па́пы, якія былі ў адзін час і адзін другога не прызнавалі.

Апалон—у старажытных грэкаў бог сонца і ўсіх мастацтваў; у яго было дзевяць сясцёр-Муз, кожная з якіх ведала асобным мастацтвам (спевамі, танцамі, паэзіяй і т. д.).

Апіеў шлях—вядомая каменная дарога, праведзеная ў 312 г. да н. э. з Рыму ў Капую.

Апостал—1) так называліся вучні хрыста; 2) рэлігійная кніга праваслаўных.

Апостальская браама—брама Петрапаўлаўскай крэпасці.

Арал (па-кіргізску—Тангіз-Арал)—«Аральскае мора».—Т. Ш.

Архімед—вялікі грэчаскі вучоны (287—212 г. да н. э); устанавіў многа фізічных і матэматычных законаў.

Архістратыг—вышэйшы военачальнік; назва, якую даюць хрысціяне архангелу Міхаілу і Гаўрыілу як галоўным ваяводам нябесных сіл.

Арэна—сярэдзіна цырка, дзе змагаліся гладыятары.

Аскочэнскі Віктар—прафесар Кіеўскай духоўнай акадэміі, выдавец часопіса «Домашняя беседа», у якім выступаў супроць прагрэсіўных грамадскіх плыняў.

Аспід—ядавітая змяя.

Атыла—вялікі заваёўнік, кароль гунаў, у 400 гадах прышоў з Азіі ў Еўропу і заснаваў за Дунаем сваё царства.

Аўтадафэ—іспанскае слова, якое абазначала пакаранне смерцю на кастры.

Афіны—сталіца Грэцыі.

Ачакаў—крэпасць на беразе Чорнага мора.

### Б

Багаслоў—той, хто скончыў вышэйшы «багаслоўскі» клас Кіеўскай акадэміі.

Багдан—гл. Хмяльніцкі Багдан.

Баграніца—царскае адзенне пурпуравага колеру.

Багун Іван—палкоўнік вінніцкі. «Палкоўнік Багун патапіў ляхаў у Інгуле. Зіновій-Багдан выразаў 40 з чымсьці тысяч ляхаў над Россю ў Карсуні. Тарас Трасіла выразаў ляхаў над Альтаю, і тая ноч, у якую гэта здарылася, завецца Тарасава або крывавая (Бантыш-Каменскі).—» Т. Ш.—Заўвага Шэўчэнкі да «Гайдамакаў».

Базыляны—манахі ордэна св. Васілія.

Байдак—лодка, барка.

Байрак—лясок, гай.

Бальмен—сябра Шэўчэнкі, афіцэр; загнаны на Каўказ, ён там загінуў у баю з чаркесамі.

Баравіцкае поле—поле каля сяла Баравіцы на Кіеўшчыне.

Бартнянскі—кампазітар.

Барысполь—мястэчка непадалёку ад Кіева.

Басфор—пратока, якая злучае Чорнае мора з Мрамарным.

Батурын—мясцовасць на Чарнігаўшчыне. Пасля Чыгірына Батурын быў сталіцаю гетманаў.

Бахчысарай—даўнейшая сталіца Крымскага царства.

Бацька Максім—Максім Залязняк (гл. Залязняк).

Баша—ад турэцкага слова «баша-паша», што азначае вайсковага начальніка.

Бендары—горад у Бесарабіі над ракой Днястром.

Берастэчка—мястэчка на Валыншчыне. Пад Берастэчкам у 1651 г. польскі кароль Ян Казімір атрымаў перамогу над войскам Багдана Хмяльніцкага.

«Благоденствие»—добрабыт, шчаслівае жыццё. Ужываючы з ірoніяй гэта слова ў вершы «Тры леты», Шэўчэнка выказвае думку, што і новы год нічога не прынясе апрача новых царскіх загадаў.

«Блажэны муж»—шчаслівы чалавек (царкоўнаславянскае).

Бонзы—кітайскія ды японскія жрацы.

Борзна—мясцовасць на Чарнігаўшчыне; у Борзне нарадзіўся Сямён Палей.

Брацтва—у паэме «Сляпы» Шэўчэнка пад гэтым словам разумее Кіеўскую акадэмію, якая змяшчалася ў Кіеўскім брацкім манастыры; у іншых творах—казацкую грамаду ў Сечы.

Броварскі лес—лес каля сяла Бровары, што на Чарнігаўшчыне.

Бровары—сяло на Чарнігаўшчыне, 30 кіламетраў ад Кіева.

Бруты—адзін рымлянін Брут забіў цара Тарквінія, пасля чаго Рым стаў рэспублікаю; другі Брут праз некалькі стагоддзяў забіў Цэзара, які хацеў стаць царом.

Будзішча—«Сяло Будзішча недалёка ад Каралёўкі; у яры возера і над возерам лес невялікі,—завецца Гупалаўшчынай затое, што там Залязняк збіваў ляхаў з дрэва. Лёхі, дзе быў захаваны шляхецкі скарб, і дагэтуль відаць ды толькі ўжо зруйнаваны».—Т. Ш.

Будзяк—чартапалох.

Була—папская грамата.

Бунчук—конскі хвост на палцы, адзнака гетманскай улады.

Бурнус—верхняе цёплае адзенне.

Бязрукі—кіеўскі генерал Дмітрый Гаўрылавіч Бібікаў; у яго не было рукі.

Бяліца—манашка, якая яшчэ не пастрыжана і ходзіць у белым, у адрозненне ад пастрыжаных манашак, якія ходзяць у чорным—чарніцы.

## В

Вавілон—сталіца старадаўняга Вавілонскага царства ў Азіі, сады якога славіліся на ўвесь свет.

Валошчына—Румынія.

Валькірыі—Неўміручыя дзеўчыны дзіўнай красы, багіні вайны ў старажытных германцаў.

Вараніца, варан оўка—гарэлка, звараная з мёдам.

Варнак—кляймованы катаржнік, які ўцёк з катаргі.

Ватага—1) шайка; 2) рыбацкі зімоўнік, дзе размяшчалася экспедыцыя лейтэнанта Бутакова, у якой быў і Шэўчэнка.

Ватыкан—папская рэзідэнцыя ў Рыме.

Ваўчок Марк—псеўдонім украінскай пісьменніцы М. Маркевіч.

Вашынгтон—першы прэзідэнт ЗША, які быў выбраны пасля таго, як Паўночная Амерыка вызвалілася ад Англіі.

Венера—багіня красы і кахання.

Венцаносец—манарх, цар.

Верад—гнойны нарыў.

Версаль—горад у Францыі, некалі рэзідэнцыя французскіх каралёў (непадалёку ад Парыжа).

Вертаград—фруктовы сад, вінаграднік.

Бечаслаў—чэшскі кароль.

Візантыйства—сімвал самаўладства і праваслаўя.

Візантыя—старая назва горада Цараграда, цяперашняга Стамбула.

Вілея, Вілля—рака, прыток Нёмана.

«Вільшана, або Ольшана—мястэчка Кіеўскай губерні, Звянігародскага павета; паміж Звянігародкаю і Вільшанаю, па старым шляху—Баравікоў хутар і карчма, дзе нібыта Ярэма Байструк, а после Галайда, быў у яўрэя ў наймітах».—Т. Ш.

Віфліем—горад у Палестыне.

Віфліемская капліца—так называлі капліцу, дзе на чэшскай мове прапаведаваў Ян Гус.

Вісон—дарагая мануфактура ў старажытнасці.

Владзімір—вялікі князь кіеўскі, з імем якога звязана хрышчэнне Русі.

Волах—«за гайдамакамі хадзіў кабзар; яго называлі сляпым Волахам (дзед расказваў)».—Заўвага Шэўчэнкі.

Волхв—варажбіт, знахар.

Вострая брама—гарадская брама ў Вільні з вобразам багародзіцы. Праходзячы гэту браму, абавязкова трэба было здымаць шапку.

«Вторая»—руская царыца Екацярына II; яна знішчыла Запарожскую Сеч і ўстанавіла на Украіне прыгоннае права.

Выблая магіла—высокі курган каля Пераяслава.

Вышгарад—сяло на Кіеўшчыне.

Вялікі Луг—вялікая нізіна на левым баку Дняпра, зарослая трысцём.

## Г

Гайдамакі—удзельнікі украінскага народнага паўстання 1768 г., узнятага супроць польскага панавання запарожцам Залезняком, і вядомага пад імем Каліеўшчыны. Не выцерпеўшы страшнага памешчыцкага гнёту польскіх паноў і нялюдскага здзеку, які чынілі канфедэраты, народ паўстаў і захапіў рад гарадоў. Паўстанне было задушана палякамі толькі з дапамогаю рускіх войск, прысланых Екацярынай.

Галаваты Антон—вайсковы пісар у Сечы. У 1794 г., пасля таго як Сеч па загаду Екацярыны была зруйнавана, частка запарожцаў асела на Кубані, і Галаваты быў кашавым атаманам Чарнаморскага войска.

Галата—прадмесце Цараграда (Стамбула); яго

ў час аднаго з сваіх паходаў спаліў быў Сагайдачны.

Галгофа—гара ў Ерусаліме, дзе быццам-бы быў распяты Ісус Хрыстос, адгэтуль галгофа—сімвал пакуты.

Галера—невялікае рачное судно без мачты і з пляскатым дном.

Галілей (1564—1641)—вялікі італьянскі вучоны, першы выказаў і абараняў думку, што зямля круціцца.

Галія—даўнейшая Францыя.

Гамалія—асоба, відаць, не гістарычная, таму што гісторыя не знае такога казацкага атамана, што ішоў-бы паходам на Цараград.

Ганка (1795—1861)—чэшскі паэт і вучоны.

Гарадзішча—мястэчка на Кіеўшчыне.

Гардзіенка—запарожскі кашавы атаман; разам з Мазепам быў супроць Пятра I; пасля паражэння пад Палтавай падаўся да крымскага хана.

Гарэм—асобыя пакоі, дзе ў туркаў жывуць іхныя жонкі.

Гатычны—пабудаваны ў стылі готыкі, асаблівасці якой у тым, што ўсе асноўныя формы будынка лёгкія, тонкія, падоўжаныя і востраканечныя.

Герольды—вестуны, якія абвяшчалі каралеўскія загады або паведамлялі пра выдатныя падзеі ў царскай сям'і.

Гетэра—публічная жанчына ў старажытных грэкаў.

Г. З.—мяркуюць, што гэта ці хто-небудзь з сям'і Забелаў на Чарнігаўшчыне ці хто-небудзь з сям'і Закрэўскіх на Палтаўшчыне.

Гіменей—міфалагічны бог весялосці і шлюбу ў старажытных грэкаў.

Гінекей—тая палавіна хаты ў старажытных грэкаў, дзе жылі жанчыны.

Глухаў—гетманская сталіца левабярэжнай Украіны пасля зруйнавання Батурына; знаходзіцца на Чарнігаўшчыне.

Гейзаметр—своеасаблівы размер верша.

Гетман—начальнік казацкага войска і вярхоўны кіраўнік.

Гетманёнак Юрка—сын Багдана Хмяльніцкага; быў гетманам на Украіне з 1659 да 1662 г.

Гетманшчына—Шэўчэнка ўжывае гэта слова ў некалькіх сэнсах: 1) у сэнсе краіны (часткі Украіны), якая падпарадкавалася гетману; 2) у сэнсе дзяржаўнага ладу, на чале якога стаяў гетман; 3) у сэнсе часу, калі кіравалі Украінай гетманы.

Гішпаны—іспанцы.

Гонта Іван—сотнік дваровых казакаў Патоцкага ў Умані. У час гайдамацкага паўстання перайшоў на бок паўстанцаў. Пасля прыдушэння паўстання з яго знялі дваццаць палос скуры і чвартавалі. У «Гайдамаках» ёсць заўвага Шэўчэнкі, што «ў Умані Гонта забіў дзяцей сваіх за тое, што іх маці-каталічка памагла езуітам перавесці іх у каталікі. Младановіч, таварыш сыноў Гонты, бачыў у званіцы, як яны памерлі, і як вучняў базыльянскай школы патапіў Гонта ў крыніцы. Ён багата напісаў аб Гайдамаччыне, але друкаванага няма нічога».

І другая: «Здрадаю ўзялі ляхі Гонту і страшна замучылі. Прывезлі яго ў кайданах у польскі лагер непадалёку ад Балты з адрэзаным языком і праваю рукою; Браніцкі, польскі генерал, так загадаў зрабіць, каб ён чаго-небудзь не сказаў на яго. Пасля каты раздзелі яго, як маці нарадзіла, і пасадзілі на гарачыя палосы жалеза; пасля знялі дваццаць паскаў з спіны скуры. Гонта павёў вачыма і страшна глянуў на Браніцкага; той махнуў рукою, і расцялі Гонту на чатыры часці, развезлі цела і папрыбівалі на скрыжаваннях дарог. Залязняк, пачуўшы, што так страшна ляхі замучылі Гонту, заплакаў, занядужаў і памёр; яго гайдамакі пахавалі ў стэпе над Днястром і разышліся».

Грабінка Яўген Паўлавіч (1812—1848)—украінскі пісьменнік.

«Грае сіне мора»—назва песні.

Грацыі—міфалагічныя багіні красы ў даўнейшых рымлян.

Рыгаровіч В. І. (1786—1865)—сакратар «Академии Художеств» у Пецербургу; разам з Жукоўскім дапамагаў Шэўчэнку вызваліцца з прыгону.

Грыцу—назва песні «Ой не хадзі, Грыцу».

Гурый, Гурыя—ізраільскі военачальнік пры цару Давіду.

Гупалаўшчына—гл. заўвагу да слова «Будзішча».

Гус Ян (1369—1415)—вядомы соцыяльны і рэлігійны чэшскі рэфарматар, змагар супроць папства, вышэйшага духавенства і немцаў, якія складалі вярхі тагачаснага грамадства ў Чэхіі; быў спалены ў 1415 г. як «ерэтык».

## Д

Давыдава месца—Ерусалім, у якім Давыд заснаваў сваю сталіцу.

Давыд—другі цар ізраільскі (з 1055 па 1015 г. да н. э.).

Дамаска—сабля з дамаскай сталі, славутай на ўвесь свет. (Дамаск—горад у Азіі).

Дантэ (1265—1321)—вялікі італьянскі паэт, які ў сваёй «Божественной комедии» паказаў, як у пекле пакутуюць розныя злачынцы.

Дарашэнка Пётр—гетман Украіны з 1665 па 1676 г.

Дарданелы—марская прытока, што злучае Мрамарнае мора з Міжземным.

Дар'я—рэчка Сыр-Дар'я; упадае ў Аральскае мора.

«Дзванковая—назва крыніцы, недалёка ад манастыра».—Т. Ш.

Доўгарукі—начальнік жандармерыі ў Кіеве, князь Доўгарукі.

Драўляне—славянскае племя.

Дрыяды—багіні дрэў у старажытных грэкаў.

Дукаты, дукачы—залатыя грошы.

Дулебы—славянскае племя.

Дыяна—багіня месяца, лесу і палявання ў ста-

ражытных грэкаў; Шэўчэнка ўжывае гэта слова ў сэнсе «месяц».

Дэцый (249—251)—рымскі імператар, які праследаваў хрысціян.

Д'юкі—тытул радавітых людзей, накшталт слова «князь».

## Е

Егерыя—імя німфы, якая нібыта, паводле легенды, лунала над рымскім імператарам Пампіліем Нума, калі ён тварыў свае законы.

Езуіты—члены рымска-каталіцкага манашскага ордэна, самыя заядлыя прапаведнікі каталіцтва на Украіне і ў Беларусі. На гэтай падставе ў «Гайдамаках» Шэўчэнка робіць заўвагу, што быццам-бы «да уніі казакі з ляхамі мірыліся, і калі-б не езуіты, дык можа-б і не рэзаліся. Езуіт Пасевін, легат (пасол) папскі, першы пачаў унію на Украіне». Гэтую думку ён праводзіць і ў вершы «Ляхам».

Екацярына—руская царыца Екацерына II (з 1762 па 1796 г.).

«Елек—патойбочная невялічкая рэчка Уральская; упадае ў Урал паміж Орэнбургам і Уральскам».—Т. Ш.

Ермон—горад у Егіпце.

Ерусалім—галоўны горад старажытнай Палестыны.

Евфрат—рака ў Месапатаміі.

## Ж

Жоўтыя воды—рэчка і мясцовасць на Украіне, дзе Хмяльніцкі разбіў палякаў у 1648 г.

Жукоўскі, Васілій Андрэевіч (1783—1852 г.)—вядомы рускі паэт, які дапамог Шэўчэнку вызваліць з прыгону.

Жупан—верхняе мужчынскае адзенне.

«Жыві мыслеце»—«мыслеце»—славянская назва літары «м»; гэты выраз азначае: «жывая навука».

Жыжка Ян (1360—1424)—правадыр табарытаў, крайне-левага крыла гусістаў (гл. «Гус», «Табарава»).

## З

Закрэт—мясцовасць у Вільні.

Залаты—чырвонец. У «Гайдамаках» да гэтага слова ёсць такая заўвага Шэўчэнкі: «Чырвонец, што даў Залязняк хлопцу, і дагэтуль ёсць у сына таго хлопца, якому быў дадзены; я сам яго бачыў».

Залязняк Максім—кіраўнік гайдамакаў у час Каліеўшчыны. Заняўшы Умань, абвясціў сябе гетманам. Пасля прыдушэння паўстання аб'яднанымі сіламі польскага караля Сігізмунда і Екацярыны II быў сасланы ў Сібір на катаргу.

Запарожжа, Запарожская Сеч—так называлася казацкая грамада, якая заснавалася на цяжкадаступных астравах за дняпроўскімі парогамі.

Зеўс—галоўны бог у старажытных грэкаў.

Зіновій—другое імя Багдана Хмяльніцкага.

## І

„Jazdą narodowa (кавалерыя нарадова)—так называліся польскія драгуны, іх тады было ў Умані 3000 і ўсе былі пабіты гайдамакамі».—Т. Ш.

Іардан—рака ў Палестыне.

Ігрышча—забава, вечарынка.

Іезекііль—біблейскі прарок, які, паводле бібліі, стаіць сярод поля, поўнага касцей, і звяртаецца да іх з «словам гасподнім».

Ізіда—егіпецкая багіня зямлі.

Ізраіль—пад гэтым словам разумеецца ўвесь народ яўрэйскі як патомкі Іакава-Ізраіля.

Іква—рэчка на Валыншчыне.

Інгул—прыток Буга, што ўпадае ў Чорнае мора.

Інд—рака ў Індыі.

Інтрадукцыя—уступ, уводзіны.

Ірад—цар іудэйскі, вызначаўся страшнай лютасцю, умярцвіў сваю жонку і сына і выразаў усіх грудных дзяцей у Віфліеме.

Іржавец—сяло на Палтаўшчыне.

Іудэя—паўднёвая частка Палестыны; па паданню атрымала сваю назву ад іудзінага калена, якому яна дасталася пры раздзеле Зямлі Абетаванай пасля заваявання яе Ісусам Навінам.

Іакаў—малодшы сын патрыярха Ісака. Ён хітрасцю дамогся ад старога сляпога бацькі на першародства і стаў роданачальнікам народа ізраільскага.

## К

Кавыль—стэпавая трава.

Казачкоўскі А. О.—сябра Шэўчэнкі, доктар у духоўнай семінарыі ў Пераяславе.

«Казланогі п'яны дзед»—Фаўн, бог палёў і лясоў у рымлян.

Казлоў—горад на Чорным моры, цяперашняя Еўпаторыя.

Каін—імя старэйшага сына Адама і Евы; ад зайздрасці забіў свайго брата Авеля. Слова стала сімвалам забойцы.

Кайзак—так Шэўчэнка называе кіргізаў.

Каліеўшчына—так называюць паўстанне гайдамакаў (гл. «Гайдамакі»).

Калізей—велізарны цырк у Рыме; там мучылі часта хрысціян у час праследавання іх.

Кампанейцы—нанятае гетманскае коннае войска.

Канашэвіч (1614—1622)—Пятро Канашэвіч-Сагайдачны, гетман Украіны.

Канеў—горад на Кіеўшчыне.

Канецпольскі—польскі магнат, адзін з трох начальнікаў польскага войска, накіраванага супроць Багдана Хмяльніцкага.

Канклаў—збор самых старшых пасля папы асоб каталіцкага духавенства (кардыналаў).

Канстанца—горад на беразе Бадэнскага возера; тут у 1414—1418 г. засядаў каталіцкі духоўны сабор, на якім Гус быў асуджаны на смерць на кастры.

Канфедэраты—удзельнікі і прыхільнікі канфедэрацыі (гл. гэта слова). Так званыя Барскія канфедэраты, разагнаныя рускім войскам, разбрыліся па Украіне і няшчадна катавалі і рабавалі насельніцтва. Шэўчэнка да «Гайдамакаў» зрабіў наступную заўвагу: «Пра канфедэратаў так расказваюць людзі, якія іх бачылі, і не дзіва, бо гэта была ўсё шляхта Z honorom (з гонарам) без дысцыпліны; рабіць не хочацца, а есці трэба».

Канфедэрацыя—так называлі ў Польшчы надзвычайныя нарады прадстаўнікоў урада, магнатаў і шляхты. Нарады мелі поўную ўладу і адрозніваліся ад соймаў тым, што пры вырашэнні пытанняў пратэст адной ці некалькіх асоб не меў ніякага значэння,—пастановы прымаліся большасцю галасоў. У «Гайдамаках» Шэўчэнка мае на ўвазе Барскую канфедэрацыю, якая адбылася ў 1768 г. у г. Бары і якая пад сцягам «абароны польскай веры» выступіла ў абарону сваіх шляхецкіх прывілей супроць ураўнавання ў гэтых правах праваслаўных. У заўвазе да гэтага слова Шэўчэнка называе наступныя друкаваныя крыніцы, якімі ён карыстаўся: «Энциклопедический лексикон, том 5: Барская конфедерация» і „Historja Polskiego", g. s. Bandtke, том 1».

Капа́—пэўны лік прадметаў, а іменна—шэсцьдзесят; капа грошай—прыблізна 25 кап.

Капітолій—цэнтр старажытнага Рыма, дзе быў храм вышэйшага рымскага бога Юпітэра

«Кара-бутак—невялічкая рэчка».—Т. Ш.

«Каралёўка»—сяло Звенігародскага павета». Заўвага Тараса Шэўчэнкі.

Карамзін (1765—1826)—вядомы рускі пісьменнік і гісторык.

Карбаванец—рубель (украінскае).

Карбаўнічы—ляснік, які карбуе (адзначае, кляймуе) лес.

Карміл—гара ў Палестыне.

Кастамараў Н. І. (1817—1885)—вядомы гісторык Украіны і сябра Тараса Шэўчэнкі.

Катакомбы—пячоры, дзе хаваліся хрысціяне ў час малітвы.

Катляроўскі Іван Пятровіч (1769—1838)—вядомы украінскі паэт, аўтар «Энеіды», «Наталкі-Палтаўкі» і інш. твораў, пачынальнік новай украінскай літаратуры.

Кашавы—кашавы атаман, самы старшы атаман у Запарожжы.

Квітка-Аснаўяненка Г. Ф. (1778—1843)—вядомы украінскі пісьменнік, з якім перапісваўся Шэўчэнка.

Келля—асобны пакой для кожнага манаха ў манастыры.

Кесар—уладар, манарх (тытул рымскіх імператараў).

Кіпрыда—багіня кахання.

Кірык—п'яніца з народнага падання.

Кірыла—Кірыла Разумоўскі, апошні гетман украінскі (ад 1750 да 1764 г.).

Кірэя—даўгі футровы мужчынскі плашч.

Кітайка—чырвоны шоўк, які прывозілі з Кітая; адгэтуль пайшла і назва.

Кіяне—кіеўляне.

Кляйноты—адзнака гетманскай улады: бунчук, булава, харугва і літаўры.

Коклесы—рымлянін Гарацый Коклес праславіўся тым, што адзін абараняў у Рыме мост ад варожага войска.

Колар Ян (1793—1852)—вядомы чэшскі паэт, які заклікаў славян да еднасці.

Кома—знак прыпынку.

Копты—патомкі старадаўніх егіпцян.

Корсунь—мястэчка на Кіеўшчыне.

Корф—начальнік вышэйшай паліцэйскай установы.

Кош—тэрмін, які азначаў граматаду запарожскіх казакаў; думаюць, што кош у адрозненне ад сечы (казацкага войска) азначаў умацаваны лагер гэтага войска, яго рэзідэнцыю.

Крам—скарочанае ад «крамніна».

Краўчанка-Налівайка Павел—гл. Налівайка.

Краўчына—так называлася войска Налівайкі (гл. Налівайка).

Ктытар—царкоўны стараста. У «Гайдамаках» гутарка ідзе пра ктытара Данілу Кушнера, якога замучылі канфедэраты не ў Вільшане, як гаворыць Шэўчэнка, а ў Млееве. Другую памылку Шэўчэнка папраўляе сам такою заўвагай: «Анахранізм—ктытара ляхі замучылі не зімою, а летам».

Ктытароўна—дачка ктытара.

Куліш П. (1819—1897)—украінскі пісьменнік.

Кумірня—невялікая паганская малельня з ідаламі.

Курэнны атаман—атаман, начальнік курэня. (Запарожская Сеч дзялілася на палкі і на курэні).

Кухарэнка Якаў Герасімавіч—наказны атаман чорнаморскага войска, украінскі пісьменнік, таварыш Тараса Шэўчэнкі.

## Л

Л.—думаюць, што верш пад гэтай літарай прысвечан Лікеры.

Лабада Іван—запарожскі гетман; але Шэўчэнка памыліўся: імя Лабады было не Іван, а Грыгорый, Грыцка.

Лада—імя славянскай багіні весялосці і шлюбу, у якую на думку некаторых вучоных-славяністаў, верылі старажытныя славяне.

Ладага—Ладажскае возера; у час Пятра І казакаў паслалі туды капаць канал; работа была там надзвычай цяжкая.

Лантух—вялікі мех.

«Лебядзін—дзявочы манастыр паміж Чыгірынам і Звенігародкай».—Т. Ш.

Лель—імя паганскага бога, у якога, па думцы не-

каторых вучоных-славяністаў, верылі старажытныя славяне.

**Лета**—паводле поглядаў старажытных грэкаў рэчка ў падземным царстве, напіўшыся вады з якой, памершыя забываліся пра ўсё мінулае; вось чаму Лета стала сімвалам забыцця.

**Лёх**—падзямелле; «Вялікім лёхам» прызывалі лёх Багдана Хмяльніцкага ў Суботаве, дзе нібыта было захована многа рознага дабра.

**Ліван**—гара ў Палестыне.

**Лікерыя**—прыгонная дзяўчына, з якою Шэўчэнка меў пажаніцца, але вяселле чамусьці разладзілася.

**Ліктары**—пачэсная варта вышэйшых урадаўцаў у Рыме.

**Ліман**—балотнае салёнае возера. У вершы «Іван Падкова» пад гэтым словам разумеецца шырокае балотнае вусце Дняпра.

**Літанне**—каталіцкі царкоўны малебен.

**Ліўрэя**—адзенне слуг.

«**Лысянка**—мястэчка Звенігародскага павета над рэчкаю Гнілы Тыкіч. Тут сышліся Гонта з Залезняком і зруйнавалі старасвецкі будынак, Багданам нібыта будованы».—Т. Ш.

**Любск**—замак над ракой Віленяй.

**Ляйстровы казак**—рэестравы казак, запісаны ў казацкія рэестры (спісы).

## М

**Магі**—персідскія і халдзейскія жрацы—чараўнікі.

**Мазепа**—гетман Украіны (з 1687—1708 г.); у час вайны Пятра I з шведамі здрадзіў Расіі і перайшоў на бок шведскага караля Карла XII.

**Макавей**—свята ў праваслаўных (1 жніўня ст. стылю).

**Макараў Н. Я.**—украінскі памешчык; у яго брата была прыгоннаю дзяўчына Лікерыя, з якою хацеў пажаніцца Шэўчэнка.

**Мамалыга**—страва з кукурузнай мукі.

**Манастыршчына**—сяло на правым беразе Дняпра, насупраць Пераяслава; некалі на тым месцы быў Трахцяміраўскі казацкі манастыр.

**Маніста**—каралі, пацеркі.

**Маркевіч Н.**—пісьменнік, які пісаў рускай мовай на украінскія тэмы.

**Мартос П. І.**—палтаўскі пан; у 1840 г. ён за свой кошт надрукаваў першае выданне «Кабзара» Т. Шэўчэнкі.

«**Матроша**»—гл. заўвагу да слова «Параша».

**Маяк**—прылада для сігналізацыі, якую запарожцы рабілі так: бралі смаляныя бочкі, ставілі іх на высокіх слупах і запальвалі, каб падаць сігнал, што набліжаецца вораг.

**Медзвядзёўка**—мястэчка паміж Чыгірынам і Звенігародкаю. У «Гайдамаках» да гэтага слова Шэўчэнка зрабіў такую заўвагу: «Трэція пеўні»—сігнал. Расказваюць, Залязняк есаул, не прычакаўшы трэціх пеўняў, запаліў Медзвядзёўку, мястэчка паміж Чыгірынам і Звенігародкаю».

**Межыгор'е**—мясцовасць непадалёку ад Кіева.

**Межыгорскі Спас**—манастыр, куды старыя казакі ішлі часта перад смерцю ў манахі.

**Мемфіс**—мясцовасць у старажытным Егіпце.

**Механоша**—чалавек, які носіць жабраку торбы ды збірае падаянні.

**Міро**—пахучая смала, якая ўжывалася хрысціянскай царквой пры абрадах.

**Млееў**—сяло на Кіеўшчыне.

«**Морак**—скіфскі Плутон (бог падземнага царства)».—Т. Ш.

**Мотрын ці Матронін манастыр**—манастыр, што знаходзіўся ў лесе каля Чыгірына; прыкідваючыся манахамі, там запарожцы падрыхтоўвалі гайдамацкае паўстанне.

**Музы**—багіні мастацтваў у старажытнай Грэцыі.

**Мурзы**—татарскія вайсковыя старшыны.

«**Мучытель**»—гутарка ідзе аб Іване Грозным.

**Мядуза**—грэчаская багіня надта страшнага выгляду; ад яе погляду людзі камянелі.

## Н

**Назарэі**—так называлі іудэі першых хрысціян.

**Наказны гетман**—упаўнаважаны гетмана, які вёў усе справы, калі гетман быў у паходзе, або наадварот—кіраваў войскам на вайне, калі гетман заставаўся ў сваёй рэзідэнцыі (гл. «Гетман»).

**Налівайка**—правадыр казацкіх паўстанняў супроць польскіх паноў у канцы XVI ст.; атрады яго дзейнічалі і на Беларусі; у 1596 г. быў пакараны на смерць. У «Гайдамаках» Шэўчэнка дае такую заўвагу: «Паўла Налівайку жывога спалілі ў Варшаве; Івана Остраніцу і трыццаць старшын казацкіх пасля страшнай мукі расчвартавалі і развезлі іх целы па ўсёй Украіне. Зіновій-Багдан і сын яго Цімафей былі пахаваны ў Суботаве каля Чыгірына; Чарнецкі, каронны гетман, не ўзяўшы Чыгірына, ад злосці спаліў іх мёртвых (Георгій Каніскі)».

**Неафіт**—грэчаскае слова, што азначае чалавека, які абярнуўся ў новую веру.

**Нечас**—Грыцком Нечасам запарожцы празвалі князя Грыгорыя Пацёмкіна.

«**Непакрытая каса**—гл. слова «пакрытка».

„**Nie pozwalam**“ — не дазваляю; выгук, якім кожны дэпутат польскага сейма мог сарваць тую ці іншую пастанову сейма, таму што паводле тагачаснага польскага закона пастанова магла быць прынята *толькі* аднагалосна.

«**Не позна ю**»—не пазнаў яе (стара-славянскае).

**Нерон** (54—68 г. н. э.)—рымскі імператар, надзвычайна люты і жорсткі. У вершы «Халодны яр» Шэўчэнка параўноўвае з ім цара Нікалая I.

**Т.**—Надзея Тарноўская, кума Шэўчэнкі.

**Нума Пампілій**—рымскі цар, з імем якога грэчаскія і рымскія гісторыяграфы звязвалі правядзенне праававых і рэлігійных рэформ.

## О

Оглаў—мястэчка на Чарнігаўшчыне.

Ода—урачысты верш, у якім усхваляецца якая-небудзь падзея ці герой.

«Оны»—стара-славянскае: той, той самы.

Орда—татарскае войска, якое часта рабіла напады на славянскія землі.

Оргія—банкет у гонар бога Вакха або Венеры, з п'янствам і распустаю.

Орэля—прыток Дняпра; над гэтай рэчкай Пётр I узвадзіў акопы, дзе працавалі казакі.

«Остраўное—Орэнбургскай губерні»—Т. Ш.

Остраніцын—адзін з казацкіх кіраўнікоў у барацьбе супроць польскага панавання ў XVII ст.

«Отыдзе ў воласці свая»—адышоў у свае воласці (стара-славянскі выраз, узяты з летапісу).

## П

Пáгада—індыйскі храм.

Падкова Іван—казак, хадзіў з запарожцамі ў Малдавію, каб захапіць там уладу, але быў разбіты і пакараны на смерць у Львове. Шэўчэнка ў гэтым творы некалькі адступае ад гістарычнай праўды.

Падол—нізінная часціна Кіева.

Пакровы—свята ў праваслаўных (1 кастрычніка ст. стылю); царква ў Сечы ў гонар гэтага свята.

Пакрытка—дзяўчына, якая нарадзіла дзіцё без шлюбу. Паходзіць гэта украінскае слова ад звычаю пакрываць маладую шлюбным уборам замужняй жанчыны.

Палій Сямён—казацкі палкоўнік, сын простага казака; прымаў значны ўдзел у падзеях гісторыі Украіны ў канцы XVII і ў пачатку XVIII ст., змагаўся супроць польскага панавання; па даносу Мазепы быў высланы Пятром I у Сібір; пасля здрады Мазепы быў вернуты назад; прымаў удзел у палтаўскай бітве на баку рускага войска.

Палуботак—наказны гетман Украіны, пасля Мазепы. Пры Пятры I Палуботак быў высланы з казакамі капаць канавы і расчышчаць месца на балоце для пабудовы Пецербурга. Памёр Палуботак у Петрапаўлаўскай крэпасці.

«Палынуць»—паляцець (украінскае).

Паляне—славянскае племя.

Памазанік—цар; паходзіць ад звычаю мазаць цароў «святым» алеем пры ўступленні іх на трон.

Пампілій Нума—(гл. Нума Пампілій).

Панятоўскі—апошні польскі кароль (1764—1795), пры ім Польшча была падзелена паміж Прусіяй, Аўстрыяй і Расіяй.

«Параша»—гэтым словам, відаць, Шэўчэнка хоча сказаць, што яму радзілі пісаць пра жыццё «Параш» і «Матрош» з вышэйшых колаў рускага грамадства.

Паркі-пракі—міфалагічныя істоты, якія пяхтуць нітку людскога жыцця; калі-ж яны гэту нітку пераразаюць—чалавек памірае.

Парнас—гара ў Грэцыі, дзе, як верылі грэкі, жыў Апалон з музамі.

Парфіра—багатае царскае адзенне.

Пастолы—своеасаблівы абутак, раменныя лапці.

Патоцкі—польскі магнат.

Патрыцыі—арыстакратыя ў даўнім Рыме.

Паўдзінарый—рымская дробная манета.

Паўлюга, ці Паўлюк—казак, які ў 1637 г. узняў супроць палякаў паўстанне і за гэта быў пакараны на смерць.

Пац—адзін з кіраўнікоў канфедэрацыі.

Пачаеў—мясцовасць на Валыншчыне; там была некалі Пачаеўская лаўра (манастыр).

Пенаты—багі дамашняга шчасця ў даўнейшых рымлян.

Пераяслаў—горад на Палтаўшчыне, быў цэнтрам паўстання пад кіраўніцтвам Остраніцына.

«Первый»—рускі цар Пётр I; пры ім Украіна была далучана да Расіі.

Петраполіскі лабірынт—горад Пецербург (Петраполіс—Пецербург).

Пііты—паэты.

Пікінёры—войска з доўгімі пікамі.

Пілат—рымскі намеснік, кіраўнік Іудэі, які, паводле евангелля, аддаў на смерць Хрыста.

Піліпаўка—гэтым словам называўся хрысціянскі пост перад калядамі, які пачынаўся, паводле старога стылю, 15 лістапада і канчаўся 24 снежня. Наогул-жа гэта слова азначае час паміж 28 лістапада і 6 студзеня.

Пірамідьі—помнікі на магілах егіпецкіх цароў фараонаў.

Плебеі—простыя, нерадавітыя людзі ў Рыме.

«Потя» народ—парэзаў народ (стара-славянскае, узята з летапісу).

«Поя» княжну—узяў княжну сабе за жонку (стара-славянскае, узята з летапісу).

Правялебны—прападобны, варты хвалы.

«Пражанец»—прагнаў яе (стара-славянскае, узята з летапісу).

Праметэй—герой грэчаскай міфалогіі. Паводле гэтага міфа (легенды), калі людзі яшчэ не ведалі агню, ён украў яго з неба і даў людзям. За гэта бог Зеўс загадаў яго прыкаваць на Каўказе да скалы, дзе арол дзень і ноч дзяўбаў яго сэрца.

Пратарыяны—гвардзія рымскіх імператараў.

Прафосы—асобы, якія па заканадаўству Пятра I выконвалі ў войску паліцэйскія абавязкі.

Прачыстая—праваслаўнае свята, 8 верасня ст. стылю.

Протапрасвітэр—першасвяшчэннік.

Прыап—бог пладавітасці.

Прылуцкі палкоўнік—Іван Нос, які здрадзіў казакам і здаў царскаму войску Батурын.

Прышча—апавяданне, у якім з дапамогаю параўнанняў і прыкладаў выказваецца якая-небудзь павучальная думка.

Прыткі—невялікі лясок.

Прэлат—чын вышэйшага каталіцкага духавенства.

Псалом—рэлігійная песня ў старажытных яўрэяў з сумным, пераважна, настроем.

**Псалтыр**—царкоўная кніга, якая складаецца з 150 псалмаў ці песень.

**Пугач**—пад гэтым словам у паэме «Кацярына» разумеецца старая песня «Ой сеў пугач на магіле», а ў «Маскалёвай крыніцы»—Емельян Пугачоў, правадыр сялянскага паўстання ў 1773 г.

**Пулаўскі**—адзін з кіраўнікоў канфедэрацыі.

**Пятроўка**—пост перад праваслаўным святам Пятра і Паўла, якое бывае летам 24 чэрвеня ст. стылю.

**Пятроўская** П. С.—маці мастака Пятроўскага, блізкага сябра Тараса Шэўчэнкі.

## Р

**Равві**—яўрэйскае слова: настаўнік.

**Рагвалод**—першы князь полацкі (X стагоддзе).

**Рагнеда**—дачка Полацкага князя Рагвалода.

**Радзівіл**—польскі магнат.

**Рамадан**—князь Рамаданаўскі, начальнік маскоўскага войска, якое ішло з гетманам Самайловічам супроць Дарашэнкі.

**Рамаданаў шлях**—шлях з Палтаўшчыны на Маскву, які нібыта праклаў князь Рамаданаўскі.

**Раманскія легіёны**—рымскія легіёны.

«**Растлі ю**»—згвалтаваў яе (стара-славянскі выраз, узяты з летапісу).

**Растоўскі**, ці «**сьяты Растоўскі**», як яго называе Шэўчэнка,—Дзімітрый Туптала, што быў тады епіскапам у Растове.

**Ржавіца**—гл. «Іржавец».

**Ромен**, або **Ромны**—горад на Палтаўшчыне, дзе адбываліся суровыя кары над прыхільнікамі Мазепы.

**Рось**—рака.

«**Русская беседа**»—славянафільскі часопіс, які выходзіў у Маскве з 1856 па 1860 г.

**Рыбалка**—птушка, якая ловіць рыбу.

## С

**Сабескі Ян**—польскі кароль (1674—1696).

**Сава Антоній**—польскі пісьменнік Эдуард Жалігоўскі, высланы быў у Орскую крэпасць, дзе з ім Шэўчэнка і пазнаёміўся.

**Сакля**—чаркеская хата.

**Сакрат** (469—399 г. да н. э.)—вялікі грэчаскі філосаф, быў асуджаны за бязбожжа на смерць і, не чакаючы кары, сам выпіў кубак цыкуты.

**Самайловіч**—украінскі гетман, сын папа, чаму Шэўчэнка і называе яго паповічам.

**Сарацын**—так даўней называлі арабаў-магаметан. Каб адваяваць ад іх Палестыну, у Еўропе арганізоўвалі так званыя «крыжовыя паходы».

**Сарданапал**—асірыйскі цар, спаліў сябе на кастры з жонкамі і рабамі, калі пабачыў, што не можа прыдушыць узнятага супроць яго паўстання.

**Сатрап**—у старажытнай Персіі так называлі кіраўнікоў правінцый; яны, мала залежачы ад цэнтра, рабілі ў сваіх правінцыях, што хацелі. Слова «сатрап» стала сімвалам лютых і самапраўных чыноўнікаў.

**Сатурн**—бог часу ў старажытных рымлян.

**Свянцоны**—«свянцоны» нож; так называўся таму, што нажы крапілі «святою» вадой (гл. V раздзел «Гайдамакаў», да якога Шэўчэнка зрабіў заўвагу: «Так пра чыгірынскае свята расказваюць старыя людзі»).

**Сейм**—прыток ракі Дэясны.

**Сена**—рака, на якой стаіць Парыж. Шэўчэнка згадвае яе ў «Гайдамаках» у сувязі з «Тарасавай ноччу» (боем над ракой Альтай) таму, што на Сене ў Парыжы ў ноч пад Варфаламея (з 23 па 24 жніўня 1572 г.) французскія каталікі ўчынілі разню над пратэстантамі (гл. «Тарасава ноч»).

**Сеч**—гл. «Запарожжа» і «Кош».

**Сігізмонд**—Сігізмунд III (1618—1632), кароль польскі, патураў уніятам і езуітам у змаганні з праваслаўнай царквою.

**Сікер**—хмялёвы напітак.

**Сінкліт**—збор вышэйшых духоўных асоб.

**Сінопа, Сіноп**—турэцкі горад на ўзбярэжжы Чорнага мора.

**Сіон**—гара ў Ерусаліме.

**Сіракузы**—мясцовасць на востраве Сіцылія, куды рымскі ўрад засылаў людзей на катаргу.

**Скіпетр**—адзнака царскай улады.

**Скіфія**—землі ля Чорнага мора, куды рымскія імператары высылалі людзей на кару.

«**Сковорода**»—вершы навучальнага і рэлігійнага зместу.

**Скутары**—горад у Турцыі, на Басфоры, насупраць Стамбула, прадмесцем якога ён лічыцца.

**Смаляншчына**—мясцовасць на Чарнігаўшчыне.

**Смоква**—фігавае дрэва.

**Сосніца**—горад на Чарнігаўшчыне.

**Спасаўка**—час паміж 1 і 15 жніўня старога стылю.

**Стратэг**—начальнік войска ў Рыме.

**Стыкс**—паводле веры старадаўніх грэкаў рэчка ў падземным царстве.

**Суботаў**—сяло на Кіеўшчыне, там быў замак Хмяльніцкага, зруйнаваны ў 1830 г.

**Сула**—прыток Дняпра.

**Султан**—кутас на галаўным уборы вайсковых.

**Сурма** (музычны інструмент)—труба, горн.

**Сфінкс**—егіпецкі сімвал мудрасці: галава жаночая, а цела львінае. Статуі сфінксаў стаялі перад егіпецкімі храмамі.

**Сцыпіоны**—вядомыя рымскія палкаводцы.

**Сцяпан**—Стэфан Баторый, кароль польскі (1576—1586).

**Схізматы**—так рымска-каталіцкае духавенства называла тых, якія не прызнавалі адзінства царкоўнай улады, г. зн. папы, і не прымалі уніі. Пры гэтым слове ёсць заўвага Шэўчэнкі: «Не уніятаў ляхі называлі схізматамі».

**Схімнік**—манах, які прыняў схіму, г. зн. даў зарок вельмі суровага жыцця і надзеў асаблівае манашскае адзенне.

«**Сынгіч-агач**—адно дрэва».—Т. Ш.

## Т

**Т а б а р а в а**, або **Т а б а р**—мясцовасць у Чэхіі, дзе быў умацаваны лагер крайніх гусістаў, чаму іх і называлі табарытамі. Табарыты змагаліся супроць каралеўскай улады, нямецкага панавання і каталіцкага распуснага духавенства. На чале табарытаў стаяў Ян Жыжка.

**Т а б о л**—рэчка ў Сібіры.

**Т а л ы**—пясчаныя выдзьмы, зарослыя лазой (слова кіргізскае).

**Т а м е р л а н**—татарскі хан Залатой Арды.

**Т а н г і з-А р а л**—«Аральскае мора».—Т. Ш. (назва кіргізская).

**Т а р а н ь**—рыба, тараны. У «Гайдамаках» гэта слова ўжыта ў пераносным сэнсе, і Шэўчэнка дае такое тлумачэнне: «Гэта значыць вазы з нажамі. Гайдамакі верылі, што гэта быў гасцінец шчодрай пані царыцы Кацярыны II».

**Т а р а с**—гл. Трасіла Тарас.

**Т а р а с а в а н о ч**—так называюць бой 1630 г. на рэчцы Альце пад Пераяславам, дзе казацкі гетман Тарас Трасіла разбіў польскае войска гетмана Канецпольскага. У «Гайдамаках» ёсць такая Шэўчэнкава заўвага: «Тарасава і Варфаламеева ноч—адна другой варты на сорам Рымскай тыары».

**„Te deum“**—цябе, бога, хвалім; словы каталіцкай малітвы.

**«Т м а, м н а з н а ю, а о к с і ю»**—«тма», «мна»—склады з царкоўна-славянскага буквара; оксія—знак націску над літараю.

**Т р а п е з у н д**—турэцкі горад у Малой Азіі.

**Т р а с і л а Т а р а с**—запарожскі гетман з 1628 г., узняў супроць палякаў паўстанне і ў 1630 г. разбіў пад Пераяславам польскае войска Канецпольскага.

**Т р а х ц е м і р а ў**—мясцовасць на правым беразе Дняпра; у час казаччыны там быў казацкі манастыр і шпіталь для калек.

**Т р о я**—мясцовасць у Малой Азіі. У старадаўнія часы грэкі зруйнавалі Трою, і траянец Эней вымушан быў з сваім войскам доўга вандраваць, пакуль не прыбыў да берагоў Італіі, дзе заснаваў новую—Рымскую дзяржаву. Гэтыя прыгоды апісаны ў паэме рымскага паэта Віргілія «Энеіда», якую Катлярэўскі і «пераліцаваў на украінскую мову».

**Т р у б а д у р ы**—сярэдневяковыя вандроўныя паэты ў Францыі.

**Т р у б а й л а**—прыток Дняпра.

**Т ы а р а**—папская шапка, падобная на тры кароны, складзеныя адна поверх другой.

**Т і б р**—рака, на якой стаіць Рым.

**Т і к і ч**—рака.

**Т ы м п а н ы**—музычны інструмент, накшталт цымбалаў.

**Т ы р с а**—кавыль-трава.

**Т э н д а р**—невялікі востраў на Чорным моры.

## У

**У л у с о**—татарскае сяло.

**У м а н ь**—горад на Украіне.

**У н і я**—злучэнне, зліццё праваслаўнага і каталіцкага веравызнання ў адно шляхам узаемных уступак. Палякі мелі на мэце праз унію паланізаваць Украіну і Беларусь.

**У п р у г**—(мера ворыва), палоса.

## Ф

**Ф а в а р**—гара ў Галілеі.

**Ф а р а о н**—так называліся егіпецкія цары.

**Ф а р ы с е і**—секта ў старажытных яўрэяў, якая дбала толькі аб знешняй набожнасці.

**Ф а й д а**—доўгая цыганская пуга.

**Ф е б**—бог сонца і паэзіі.

**Ф л е г а т о н**—паводле веры старадаўніх грэкаў—рэчка ў падземным царстве.

## Х

**Х а л о д н ы я р**—назва, пэўна, яру каля Мотрынага манастыра пад Чыгірынам.

**Х а м я к о ў**—рускі паэт, супрацоўнік славянафільскага выдання «Русская беседа».

**Х а р о н**—паводле веры старажытных грэкаў Харон перавозіць душы памёршых цераз падземную раку.

**Х в а с т о ў**—мястэчка на Кіеўшчыне.

**Х в а с т о ў с к і п а л к о ў н і к**—Сямён Палій (гл. «Палій»).

**Х в а с т о ў ш ч ы н а**—мясцовасць на Кіеўшчыне.

**Х і м е р н ы**—дзівакаваты.

**Х і т о н**—грэчаскае слова: доўгая сарочка, падперазаная поясам.

**Х м я л ь н і ц к і Б а г д а н**—украінскі гетман (1648—1657 г.); з поспехам змагаўся супроць польскага панавання на Украіне.

**Х о р ц і ц а**—востраў на Дняпры, дзе была самая старая Запарожская Сеч.

## Ц

**Ц а р а г р а д**—горад, які цяпер называецца Стамбул.

**Ц і м о ш**—сын Багдана Хмяльніцкага, якога апошні ажаніў з дачкою малдаўскага ваяводы Лупула.

**Ц і т л а**—знак скарачэння ў царкоўна-славянскіх кнігах.

**Ц я с м і н**—рэчка, на якой стаяў Чыгірын—сталіца гетманаў.

## Ч

**Ч а б а н**—пастух.

**Ч а л ы С а в а**—персанаж народнай песні, у якой спяваецца як Чалы здрадзіў гайдамакам, перайшоўшы да паноў-палякаў, і быў пакараны рукою сваіх ранейшых таварышоў.

Чаркасы—горад на Дняпры.

Чарненка Ф. І.—інжынер у Пецербургу, з якім сустракаўся Шэўчэнка.

Чарнец—літаральна: манах. У «Гамаліі» Шэўчэнка ўжывае гэта слова з вялікай літары і разумее пад ім гетмана Сагайдачнага, які часта хадзіў на турак і спаліў Галату. Шэўчэнка, пэўна, думаў, што і Сагайдачны, як гэта часта рабілі казакі, стаў перад смерцю манахам, але гэтага ў сапраўднасці не было. У «Ерэтыку» пад гэтым словам Шэўчэнка разумее рымскага папу Івана XXIII.

Чарнецкі—кіеўскі польскі ваявода, каронны гетман польскі.

Чарніца—манашка, якая пастрыжана і ходзіць у чорным, у адрозненне ад непастрыжанай манашкі, якая ходзіць у белым—бяліца.

Чорны шлях—«Чорны шлях ішоў ад Дняпра паміж вусцямі рэчак Сакораўкі і Насачоўкі і бег цераз стэпы запарожскія, цераз ваяводства Кіеўскае, Падольскае і Валынскае—на Чырвоную Русь да Львова. Чорным названы таму, што па ім татары хадзілі ў Польшчу і сваімі табунамі выбівалі траву».—Т. Ш.

Чумакі—украінскія возьнікі, якія ездзілі на валах да Чорнага і Азоўскага мора па соль і рыбу, развозілі іх па кірмашах і дастаўлялі іншыя тавары.

Чурэк—хлеб (на чаркескай мове).

Чута—лес каля старой Сечы на востраве Хорціца.

Чыгірын—горад на Кіеўшчыне; сталіца гетманаў ад Багдана Хмяльніцкага да Дарашэнкі.

Чэлядзь—слугі.

Чэнчыо Беатрыча—дачка рымскага вяльможы, што нібыта забіла свайго бацьку, які хацеў яе згвалціць.

Чэчэль—палкоўнік батурынскага гарнізона ў час гетманавання Мазепы.

## Ш

Шафарык—чэшскі вучоны, прафесар Пражскага універсітэта, вядомы сваімі працамі аб мінулым славян.

Швачка Нікіта—адзін з гайдамацкіх кіраўнікоў у час Каліеўшчыны 1768 г.; меў сваю рэзідэнцыю ў Хвастове.

Швед-прыблуда—шведскі кароль Карл XII; у саюзе з гетманам Мазепам ён ваяваў супроць Пятра І.

Штэрнберг В. І.—таварыш і блізкі сябра Шэўчэнкі, таленавіты мастак, які браў сюжэты для сваіх карцін з украінскага быту і прыроды.

Шчэпкін М. С. (1788—1863)—вялікі рускі актор, сябра Шэўчэнкі.

Шэляг—даўнейшая дробная манета.

## Э

Эдамляне—жыхары Эдома, краіны на поўдзень ад Палестыны; народ, які часта нападаў на граніцы іудэйскага царства.

Элеон—гара ў Палестыне, непадалёку ад Ерусаліма.

Эней—герой паэмы Віргілія «Энеіда» (гл. заўвагу да слова «Троя»).

Эсеі—яўрэйская секта, што прапаведавала роўнасць і любасць між людзей.

Эскулап—бог лекаў у старажытных грэкаў і рымлян.

## Я

Янычары—адборнае турэцкае войска, якое набіралася з палонных хрысціян, выхаваных у духу іслама.

«Ярапалча—сяло каля Масквы».—Т. Ш.

Ярчук—сабака з ваўчынымі зубамі.

Ярэма—гл. «Вільшана».

Ярэменка—казак; упамінаючы яго ў «Вялікім лёху», Шэўчэнка робіць такую заўвагу: «Казака Ярэменкі клуня стаіць на тым месцы, дзе стаялі палацы Хмяльніцкага».

Ясы—горад у Румыніі, калішняя сталіца Малдавіі. Шэўчэнка ўпамінае пра іх у сувязі з тым, што Багдан Хмяльніцкі ажаніў свайго сына Цімошу з дачкою малдаўскага ваяводы Лупула.

«Яўленыя»—пад гэтым словам Шэўчэнка разумее так званыя «цудатворныя вобразы», якія нібыта з'яўляліся людзям ад самога бога.

# ЗМЕСТ

Рэдактары: *М. Досін*
*В. Неміра*
Тэхн. рэдактар *Карпіновіч*
Карэктар *І. Сакалоўскі.*

Здана ў друкарню 20|XII-38 г. Падпісана да друку 11|II-39 г. Абём 38 друкаваных аркушаў. Папера 60X92|8. Тыраж 10000 экз. Зак. № 4531
Уп. Галоўліта БССР № 2416.

Менск, друкарня імя Сталіна

## Памылкі друку

| Стар. | Калонка | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|---|
| 50 | 1 | 15 зверху. | Jarda narodowa | Jazda narodowa |
| 67 | 1 | 27 знізу | И возвратился | И возвратилася |
| 95 | 1 | 24 „ | буды | булы |
| 142 | 1 | 12 „ | ведненькой | бедненькой |

Зак. № 4531.

